# МІКОЛА ВАДАНОСАЎ

---

*Выбраныя творы ў двух тамах*

*том* 2

**Аповесці**
**Апавяданні**
**Гумар**

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1983

# АДЗІНАЙ МАЦІ СЫНЫ

Аповесць

Кацярына Кваткоўская жыла на вуліцы Зялёнай. Яе хатка пад жалезным, даволі дзіравым дахам нікольki не рознілася ад іншых, гэткіх жа старых, з падслепаватымі вокнамі, з аднолькавымі дварамі, гародчыкамі, з маліннікам ля платоў і кустамі агрэсту за сценамі. Хатка як хатка, на два пакоі, даволі чыстая і ўтульная. Кацярына ледзьве памятае, калі пасяліліся яны тут. Было ёй тады, напэўна, гадоў пяць ці шэсць. А цяпер — сорак. Ёй сорак, а сыну, Стэфану, пайшоў сёмы, хутка ўжо і школьнік. А ад Стэфана старэйшага, Кацярынінага мужа, ані вестачкі...

Сядзіць Кацярына на лаўцы пад рабінаю, што расце непадалёк ад ганка, і ўспамінае, як выпраўляла ў школу першага сына, таксама названага ў гонар бацькі Стэфанам. Вельмі падабалася гэтае імя Кацярыне. Ды і падобныя былі сыны на бацьку, гэткія ж белагаловыя, кучаравыя, гэткія ж непаседлівыя.

Цяжкі тады быў час, неспакойны. І чамусьці так ужо здараецца, што калі людзям цяжка жыць, то спасцігае іх рознае ліхалецце. Унадзіўся на Зялёную вуліцу страшны тыфус, шмат людзей звёў у магілу. І не стала тады яе, Кацярынінага, першынца. У адзін дзень з суседкай, сяброўкай дзяцінства, чарнявай Аксінняй, у якой тады памерла дачка, пахавала Кацярына сваю радасць і ўцеху і думала, што ўжо ніколі не будзе ў яе жыцці радасці. Ды нездарма кажуць, што лепшы лекар душэўных ран — час. Самыя, здавалася б, цяжкія раны гоіць. Глядзіць Кацярына на свайго другога сына, і ён уяўляецца ёй першым...

Новы клопат лёг на сэрца Кацярыне, новыя турботы азмрочваюць яе бледнаваты твар, на якім прыкметна кладуцца барозны-зморшчыкі. «Ці надоўга павезлі ў Маскву

Стэфана? Ці хутка прыедзе дамоў?» — няспынна думаецца Кацярыне. Яна здагадваецца, што ўсе гэтыя непрыемнасці праз Андрэя Змачынскага, былога Стэфанавага сябра. Гэта ён, Андрэй, помсціць ім за ўсе свае няўдачы ў разгульным жыцці, помсціць ад зайздрасці. Ён і малы быў звераватым, а вырас — стаў сапраўдным бандытам, звязаўся з розным вулічным брудам. Недалёка яблык ад яблыні адкаціўся.

Багаты і фанабэрысты быў яго бацька-растаўшчык, любіў паздзекавацца з беднага люду. А багацце тое, як высветлілася, чужое, нарабаванае. Выслалі злачынцу. Дык і сын не захацеў па-людску жыць, пайшоў бацькавай дарогай. Потым Стэфана падгаворваў у памочнікі, але той адрэзаў:

— Жабрачыць пайду, але з табой, Андрэй,— ніколі!

Не здаваўся Андрэй Змачынскі, пачаў пагражаць:

— Помні — калі што са мною здарыцца, то і ты сядзеш побач, як міленькі!

Бандыцкую шайку, што называецца, накрылі. І Андрэй зрабіў так, што нейкім чынам ублытаў Стэфанава імя. Вось і вывезлі Стэфана на следства. А сам Змачынскі недзе знік, выкруціўся з пасткі...

Сумна стала ў Кацярынінай хаце.

Раніцой яна бегла на сваю фабрыку, дзе працавала ўжо майстрам кандытарскага цэха, а вечарамі сядзела з сынам, і ён, гэты малы, нібы адчуваў душою бяду, стараўся як мага дагадзіць маці, не назаляць ёй. Разумеў і слухаў яе з паўслова, ні на што ніколі не скардзіўся.

Спагадлівая суседка Аксіння суцяшала, як магла:

— Не могуць такога чалавека доўга трымаць ні за што. Правераць усё і пусцяць. От убачыш, галубіца. Настаўнікі цяпер у вялікай пашане. Хто ж без іх людцоў на свет выведзе?

У гутарку ўмешваўся сын:

— Я выведу... Я ўжо ўмею чытаць і пісаць...

Аксіння ківала галавою:

— Дзіця яно і ёсць дзіця. Яму і клопату мала...

...Кацярына ўзняла галаву і паглядзела на сына. Той прынёс аднекуль маленькую бярозку, узяў сваю рыдлёвачку з чырвоным цаўём і пачаў ля плота капаць ямку.

— Мама,— сказаў ён, жмурачыся ад сонца,— я пасаджу дрэўца, няхай вырасце вялікае-вялікае, як наша рабіна. Тата казаў, што кожны чалавек павінен пасадзіць дрэўца...

— Пасадзі, сынку...

І раптам нехта гукнуў з вуліцы:

— Кацярына Адамаўна, вам ліст!

Гэта прыйшла паштарка. Кацярына ўстала і хуценька падалася насустрач ёй. Заўважыла, што тая весела ўсміхнулася, акрыяла душою, абнадзеілася. І не памылілася.

— Ліст ад мужа,— лагодна сказала паштарка, падаючы сіні канверт.

Кацярына схапіла пісьмо і нават забылася сказаць дзякуй. Забегла ў хату і толькі тады апамяталася. Зноў выбегла на двор, але паштаркі ўжо не было. А ў хаце, цяжка апусціўшыся на крэсла, не магла адважыцца разарваць гэты сіні канверт. Асцярожна, каб не папсаваць ліста, адарвала танюсенькі беражок, дастала аркуш паперы, спісаны буйным, размашыстым почыркам, захвалявалася яшчэ больш. Першыя радкі прабегла хутка, няўважліва, а гэтыя прачытала некалькі разоў: «Кацярына! Як добра, што ёсць на свеце разумныя людзі. За мной не знайшлі ніякай віны. Ды і адкуль ёй быць, калі ўсё жыццё сваё я быў сумленным чалавекам працы, які і застануся назаўсёды... Андрэй наплёў розных баек пра майго замежнага дзядзьку, а той — стары камуніст, доўга сядзеў у турме за падпольную дзейнасць. Цяпер працуе на адказнай пасадзе ўсё ў той жа, навекі нашай Вільні. Дарэмна недабітак Змачынскі паклёпнічаў на мяне. Шайку яго ўсю пералавілі, а сам ён недзе збег за мяжу... Хутка буду дома! Цалую вас, любыя. Стэфан».

Кацярына прыціснула ліст да грудзей і прыжмурыла вочы. Ці то ад вялікай радасці, ці то ад набалелага за гэтыя дні чакання — слёзы самі пасыпаліся з воч.

«Стэфан будзе дома... Ёсць на свеце справядлівасць, ёсць добрыя людзі... А ёсць і нягоднікі...»

— Сынуля! — радасна сказала яна.— Хутка наш татка прыедзе дадому...

— Ты мне ўжо гаварыла гэта не раз,— недаверліва адказаў малы, абгортваючы зямлю вакол пасаджанага дрэўца.

— Але ж цяпер ён нам пра гэта сам напісаў! — паказала яна ліст. Сын паглядзеў на ліст, потым на маці, уздыхнуў.

— Калі сам напісаў, то цяпер прыедзе,— сказаў разважліва і пайшоў да сваёй бярозкі.

У небе збіраліся хмары, крыху прыпарвала. Недзе далёка грымела.

І калі загрымела зусім блізка, над горадам, Кацярына зірнула на неба. Зірнула і здзівілася: з-за чорнай хмары выляталі бліскучыя самалёцікі. Яны былі, як цацачныя, маленькія, серабрыстыя. І ляцелі неяк разам, быццам падалі на зямлю. Нават гулу матораў не было чуваць.

— Глядзі, Стэфан, колькі самалёцікаў!

І тут пачуўся грозны гул. Самалёты ўзляталі ўгору. Ад іх аддзяліліся чорныя кропачкі і пачалі падаць на зямлю. Разам з гулам даносіўся тонкі пагрозлівы віскат.

Кацярына не пачула выбуху, яна адчула, як гарачынёй і пяском шуганула ў твар. Выбуховая хваля змяла яе з лаўкі і адкінула да ганка.

* * *

Ачуняла Кацярына гадзіны праз дзве, ужо ў сваёй хаце. Яе туды прынеслі суседзі. У пакоі пахла лекамі.

— Дзякуй богу, аджыла,— ціха, нібы знадворку, данёсся да яе слыху Аксіннін голас.

Кацярына павярнулася, агледзелася.

— Сын! Дзе сын?! — былі яе першыя словы. Яна ўбачыла, як Аксіння прыклала да воч белую хусцінку і заплакала ўголас. Сілы зноў пакінулі Кацярыну...

Сын ляжаў на сваім ложку, за шафай. Надзвычай бледны, нерухомы. Кацярына моўчкі падышла да яго, паглядзела на тварык і паслухала грудзі. Ёй спярша здалося, што там, пад кашуляй, роўна тухкае сэрца, што суседзі сказалі няпраўду. Потым зразумела — то кроў тухкала ў скронях.

І калі стала ясна, што сын мёртвы, усярэдзіне ўсё захаладала, анямела. Яна села побач з ложкам, яго малым ложкам, ля якога сядзела не адну ноч, калі сын хварэў, і не магла ўжо крануцца з месца. Невыразны шум у галаве, які чуўся нейкі час, раптам сціх. Наступіла глухата, небыццё. І дарэмна Аксіння гаварыла Кацярыне, што гора прыйшло не толькі ў яе хату, што яно не мінула і яе, Аксінню, якая засталася наогул без хаты. Кацярына, здавалася, не разумела слоў. Яна глядзела на суседку і не бачыла яе, слухала і не чула.

Так было доўга. Кацярына нават не плакала, калі выносілі з хаты дамавіну. Пасівелыя за ноч валасы зблыталіся на галаве, а Кацярына і не думала іх расчэсваць. Цяжка было паверыць, што гора можа за суткі зрабіць чалавека непазнавальным. З прыгожага, поўнага сілы і

здароўя, ператварыць у старога, хворага. Такой стала Кацярына Квяткоўская. Яна не піла, не ела.

— Каценька, галубіца, глыні ты хоць малака! — прасіла Аксіння, сама счарнелая ад гора, але ўсё дарэмна. Нібы скамянела Кацярына, здавалася, не сэрца ў яе, а камень, вусны сцяліся.

Толькі на трэці дзень ажыла яе душа, пацяплела, і пацяклі гарачыя слёзы. Кацярына плакала наўзрыд. Яе не суцяшалі — няхай выплачацца...

У горы людзі дабрэюць. Не засталася Кацярына адна. Яе канцавая хатка многім тады на Зялёнай вуліцы стала роднай, жаданай, бо не вельмі многа хат уцалела ад бамбёжкі. Людзі дзяліліся з Кацярынай і сваім горам, і кавалкам хлеба. Ды пакрысе разыходзіліся. Хто знаходзіў сваякоў, а хто падаваўся ў вёску, бліжэй да хлеба. Знайшоўся і Аксіннін муж і забраў яе з сабою да сястры. Яна, зусім старая, жыла адна недзе непадалёку ад горада, але ў такой глухой мясціне, што, як казаў яе муж, немцы туды са сваёй тэхнікай ніколі не дабяруцца.

Упершыню задумалася Кацярына — як жыць далей? Вельмі нязвычна быць адной, нічога не рабіць, толькі думаць, як бы гэта надалей расцягнуць свае невялічкія прыпасы круп і мукі. Ды надышоў такі час, калі засталіся лічаныя жменькі. Трэба было нешта рабіць.

У горад Кацярына выйшла, калі ўжо асыпалася лісце ў старым парку насупраць яе фабрыкі. Цяпер ад той фабрыкі засталіся груды цэглы і жалеза. Кацярыне здалося, што горад вымер, хоць там нешта рабілася, кудысьці беглі людзі, працавалі нейкія ўстановы.

Кацярына пасядзела на ўцалелай лаўцы ў парку і толькі ўстала, каб ісці далей, як ледзь не ўскрыкнула. Мабыць таму, што адняўся голас, усё цела сцяла здранцвенне: непадалёк ад таго месца, дзе яна так спакойна адпачывала, на тоўстых ліпавых суках віселі тры счарнелыя чалавекі...

Не памятаючы больш нічога, Кацярына і сама не ведае, як апынулася на Зялёнай вуліцы. Яна адчула толькі такую зморанасць, што кожны крок ёй даваўся вельмі цяжка. Быццам ішла не па зямлі, а па смале. Зайшла ў хату і адразу звалілася на ложак. Гэтае жудаснае відовішча потым тры дні не давала Кацярыне спакою. А на чацвёрты яна зноў выйшла ў горад, бо ў хаце ўжо не было чаго пакласці на зуб.

Працу сабе яна знайшла даволі хутка і, вядома, не

па спецыяльнасці. Трэба было цэлы доўгі дзень то прыбіраць брудны падвал, то выносіць за вароты ў скрыню, збітую з дошак, рознае смецце, то абіраць бульбу. За гэта яна атрымлівала некалькі нямецкіх акупацыйных марак і кацялок нейкай бруднай поліўкі, якая патыхала прэллю.

Калі паступова Кацярына прыгледзелася да свайго жыцця, да жыцця гэткіх, як і яна, абяздоленых людзей, то зразумела, што так доўга працягвацца не можа. Людзі, якія згубілі не толькі сваіх родных, блізкіх, а і волю, павінны нешта рабіць, прымаць нейкія захады, каб зноў здабыць сабе волю і спакойнае жыццё. Ранейшага шчасця не вернеш, але жывому трэба жыць. І ўжо смерць яе адзінага сына не здавалася Кацярыне самай вялікай і самай страшнай бядою на свеце. Яна ведала — гэта бяда народная...

Прыйшоўшы з працы дамоў, Кацярына заўсёды старалася чым-небудзь заняцца, каб не пакутаваць ад бясконцых думак. А які цяпер дома занятак? Яе хатка зусім апусцела. Усё, што можна было прамяняць на жменю мукі ці кавалачак сала, Кацярына вынесла на базар. Засталіся толькі ложак і шафа, у якой, побач з яе сукенкамі, вісела некалькі Стэфанавых касцюмаў і паліто.

Іх Кацярына не прадасць ніколі.

Вечары восенню доўгія, нудныя, як год. Электрычнае святло замяніла газоўка. Кацярына, можна сказаць, тым і грэлася, пры тым святле рабіла ўсё ў хаце. Іншы раз нават спрабавала чытаць, але прачытанае зусім не трымалася ў галаве.

Спярша ёй адной было страшна, асабліва начамі. Яе ўцалелая хатка, як прывід сярод развалін, была вельмі прыкметная на гэтай вуліцы, гэтай вялікай дарозе бежанцаў у вёску. Дзень і ноч па ёй ішлі людзі. Днём — проста, адкрыта, а ноччу — па аднаму, крадком, бо з сямі гадзін вечара наступала каменданцкая гадзіна. Стралялі без папярэджання.

Але было і другое. Усё часцей і часцей з вуснаў гараджан злятала забароненае слова «партызан». Пра іх Кацярына даведалася значна пазней, а цяпер яна жыла адна са сваімі пакутлівымі думкамі: а што далей? Жыла і тайнай надзеяй на тое, што, можа, і яе Стэфан калі-небудзь прыйдзе па гэтай дарозе са свету, як прыходзілі іншыя. Засынала позна, уставала рана. Трэба было бегчы (аніякага транспарту не было і ў паміне) на працу, абіраць бульбу ды выносіць смецце. Гэтая праца ратавала

яе ад голаду, ад пакутлівай адзіноты. Так было заўсёды, кожны дзень.

Ды аднойчы...

Прыйшоўшы з працы, Кацярына ўбачыла, як фашысты зганялі людзей да бярозавага гаю. У людзей былі пілы і сякеры. Сотні маладых стройных бяроз ляглі ў той вечар. А назаўтра ад гаю не засталося і следу. Беластволыя бярозкі сталі слупамі. Іх закопвалі ў зямлю, непадалёк адну ад адной, у два рады. А потым прыбівалі да іх іржавы калючы дрот, прыбівалі накрыж, нацягвалі густа, як струны. Струны смерці. На месцы зялёнага гаю людзі рабілі вялізны загон, але не для жывёлы, а для такіх жа, як і яны, людзей.

І калі ён быў пабудаваны, з кулямётнымі вежамі, з доўгімі дашчанымі баракамі, у загон пагналі палонных, худых і аброслых, змардаваных савецкіх салдат. Яны былі ў пілотках без чырвоных зорак, у дзіравых, абгарэлых шынялях. Былі там, сярод сталых людзей, зусім яшчэ дзеці, са здзіўленымі, цікаўнымі вачыма, паслухмяныя, як авечкі, і гэткія ж палахлівыя.

Кацярына глядзела праз акно, як гналі палонных, і болем сціскалася яе сэрца. Яна ўлаўлівала кожны гук, кожны стрэл і крык няшчасных, якіх каталі і на дарозе, і ў лагеры.

Лагер быў за яе любімым зялёным лугам, якраз насупраць вокан. Непрыступны канцэнтрацыйны лагер, з якога проста немагчыма ўцячы, уратавацца. Палонныя туды прыбывалі штодня. Ёй здавалася, што ўвесь наш фронт, усе нашы салдаты трапілі ў гэтую пастку. Яны ішлі па вуліцы і глядзелі на яе вокны. Сотні галодных вачэй. Тысячы родных сэрцаў. Сыноў і братоў, бацькоў і таварышаў. Калісьці дужыя, моцныя, цяпер яны былі паслухмяныя і бездапаможныя. А Кацярына была адна, з хворай душою і надарваным сэрцам. Адна пасівелая заўчасна жанчына. І яна, гэтая жанчына, вырашыла, пакуль сама на волі, хоць чым-небудзь ім памагчы...

Такім чынам, першы раз у жыцці Кацярыне Квяткоўскай давялося ўкрасці. Гэта здарылася пад вечар, калі яна закрывала, як заўсёды, скляпенне, у якім за дашчанымі засекамі ляжалі груды бульбы. Кацярына ўкінула некалькі халодных брудных бульбін проста за пазуху, пад кашулю, падпяразаную аборынай. Сукенка вісела на ёй, як на коліку. Цяпер стала аблягаць ямчэй. Хаця б не заўважылі на прахадной! Як ішла па дварэ да будкі, здава-

лася ёй, што тая бульба нясцерпна пячэ цела, што ўсе навокал бачаць тую бульбу, асуджаюць Кацярыну, якая так легкадумна адважылася на вельмі страшны, рызыкоўны крок.

Ды абышлося.

Ужо раніцою, калі Кацярына зноў убачыла калону ў сівых шынялях, яна раскідала спечаную ў грубцы бульбу на дарозе, паставіла тры бляшанкі ад кансерваў з вадою. І потым, схаваўшыся за папяровымі фіранкамі, са слязамі радасці назірала за тым, як удала падбіралі палонныя тую ваду і бульбу. Падняць што-небудзь з зямлі таксама трэба ўмець.

— Ешце, сыночкі родныя, ешце на здароўе... Я заўтра зноў прынясу вам,— шаптала Кацярына. Цяпер для яе не было большага шчасця, як рабіць гэтую невялікую паслугу людзям. Жыццё набывала нейкі сэнс. І патрабавала смеласці, рашучасці. Хіба гэта не смеласць — вынесці за вароты бульбу? За такое злачынства фашысты могуць звезці ў Нямеччыну, могуць і застрэліць. Фашысты здольны на ўсё.

Ды аднойчы здарылася такое, што прымусіла Кацярыну моцна задумацца. Было гэта пад вечар у нядзелю. Яна выйшла на двор, каб зняць сваю адзежу, што сушылася на плоце, як пачула да болю знаёмае: грук, грук, грук... То ішла новая калона нашых салдат. Кацярына затрымалася на хвіліну, паглядзела праз адчыненую фортку на вуліцу. Паўз самы плот ішоў з аўтаматам на грудзях высокі, немалады ўжо немец з фюрэраўскімі вусікамі пад носам. І раптам іх позіркі сустрэліся. На нейкае імгненне. Але Кацярына адчула, што на яе зірнулі звычайныя чалавечыя вочы. Нават крыху сумныя. Яны, здавалася, шукалі спагады. І прадчуванне не ашукала яе. У той жа момант яна ўбачыла, як гэты салдат з аўтаматам штурхнуў кагосьці ў фортку і зачыніў яе, штосьці гучна прамовіўшы, быццам лаяў Кацярыну...

На яе двары апынуўся малады стройны мужчына ў падраным танкісцкім ватніку, без шапкі. Цёмныя валасы на яго галаве звісалі касмылямі. «Афіцэр!» — падумала Кацярына і хуценька адчыніла сенцы.

— Хавайцеся! — крыкнула яна.

— Чакайце,— зморана махнуў той рукою.— Няхай пройдуць. Калі гэта правакацыя, то дастанецца і вам. Чакайце...

Калона прайшла, грукат заціх. Кацярына зірнула на вуліцу.

— Нікога няма.

— Вось цяпер зайду. Цяпер мне ўсё ясна...

— Што здарылася з тым фашыстам?

— Думаю — ён не фашыст. Але пасля... Мяне завуць Іванам,— танкіст працягнуў дужую жылістую руку.— А як вас, маці?

— Кацярына...

Тое, што пачула Кацярына ад палоннага Івана, ніяк не ўкладвалася ў яе паняцце. Да гэтага часу яна лічыла кожнага варожага салдата фашыстам, чалавекам-зверам, вылюдкам. А гэты немец быў нейкім дзіўным выключэннем. Спярша, як расказаў Іван, пры ім немец ціхенька лаяў свайго фюрэра. Потым назваў яго, палоннага, таварышам, нешта гаварыў пра Тэльмана. Даваў зразумець, што яго, Івана, абавязкова расстраляюць. І вось цяпер даў магчымасць уцячы з палону.

— Хто ён на самай справе? — спытала Кацярына, падаючы на стол гарачую капусту з бульбай. Дзеля такога госця яна гатова была адмовіцца ад вячэры.

— Хто б ён ні быў, але ён чалавек,— адказаў Іван.— Тэльмана ж успамінаў нездарма. Камуністы тым і моцныя, што ва ўсім свеце ў іх ёсць адна зразумелая мова — Інтэрнацыянал.

Іван доўга не затрымаўся. Скінуў сваю непатрэбную цяпер форму, адзеў нешта старое са Стэфанавага запасу і падаўся ў ноч, як гаварыў, шукаць страчаную зброю і волю.

* * *

Неяк Кацярына прачнулася на досвітку, выйшла на двор і ўбачыла, як немаладая жанчына вяла пад руку салдата.

— Сыночка знайшла! — пахвалілася шчаслівая маці.

— А як жа вы яго ўзялі? — не зразумела Кацярына.

— Дзесятачка ў мяне была, залатая. Выменяла...

Вось яно як! Значыць, за грошы ці за якія іншыя рэчы можна выратаваць ад смерці чалавека. Гэтая думка не давала ёй спакою ні днём, ні ноччу. У Кацярыны царскіх пяцёрак не было, але быў на доўгім ланцужку стары сярэбраны гадзіннік з меладычным звонам. І былі сякія-такія падарункі ад Стэфана.

У адзін марозны ясны дзень Кацярына адважылася пайсці да лагера і паглядзець — а можа, і яна ўбачыць каго знаёмага. У душы хавала трывожную думку, што тым знаёмым раптам акажацца яе Стэфан. Ці мала чаго бывае ў жыцці? На ўсякі выпадак захапіла яшчэ крыху печанай бульбы і лусту хлеба.

Чым бліжэй падыходзіла яна да лагера, тым трывожней грукала ў грудзях сэрца. Яе любімы бярозавы гай! Яго не было і ў паміне. Слупы і дрот. І вежы па кутках з кулямётамі ў акенцах. І цёмна-шэры натоўп за дротам. Вось што ўбачыла Кацярына цяпер. Ёй стала нядобра, закружылася галава. Яна спынілася, пастаяла. «Не-е! Калі б і быў тут хто са знаёмых, наўрад ці пазнаеш цяпер у гэтым загоне»,— падумала Кацярына.

І раптам да яе слыху данёсся чыйсьці трывожны, прыглушаны голас, які прымусіў спыніцца і насцярожыцца, усхваляваў да глыбіні душы.

— Уставай, Стэфан...— пачула Кацярына.— Калі яны ўбачаць — заб'юць. Уставай.

Так гаварыў камусьці чарнабровы мужчына. Той, да каго адносіліся гэтыя словы, ляжаў на мёрзлай зямлі, скурчыўшыся ў сваім дзіравым шынялі. Астатнія палонныя, грукаючы рыдлёўкамі, капалі нешырокія траншэі пад фундаменты баракаў.

— Чуеш, уставай... Сюды ідуць!

Палонны ледзь падняўся. З выгляду яму было гадоў васемнаццаць. Белыя кучаравыя валасы на галаве ў многіх мясцінах пацямнелі ад запечанай крыві. Вялікія блакітныя вочы, поўныя невыказнага смутку, абыякавасці, раптам зірнулі на Кацярыну. Яна схапілася за грудзі, ступіла крок назад. «Стэфан... Мой першы сын, што памёр у дваццаць шостым годзе, быў бы ўжо такім, як ён. Божа мой, да чаго падобны! Як мой сын...» Кацярыне цяжка было дыхаць, ад жалю разрываліся грудзі. А палонны ўсё глядзіць і глядзіць на яе.

— Стэ-эфа-ан! Стэфане, сынку мой! — не ў сілах больш стрымацца, закрычала Кацярына, падбегла і схапілася за калючы дрот рукамі. Яна не чула болю, не бачыла аховы, якая бегла сюды. Яна тузала калючы дрот, да крыві разрываючы рукі, і ўсё крычала:

— Стэфа-ане-е-е! Сынку мо-ой!

І той, каго Кацярына клікала сынам, знайшоў сілы падысці да дроту з другога боку.

— Мама... Добрая мама,— шапталі яго перасохлыя

вусны. І па твары каціліся слёзы, горкія чалавечыя слёзы...

Стаялі ў нямым здзіўленні палонныя, падтрымліваючы хворага хлопца. Яны расступіліся толькі тады, калі падбег ахоўнік.

— Ты есть матка? Мутэр? — пачула Кацярына. З гэтага боку дроту ля яе стаяў той высокі немец з аўтаматам, з фюрэраўскімі вусікамі. Тыя ж вочы, цёплыя, даверлівыя. Яны надалі смеласці.

— Так... Ён — мой сын. Стэфан...— Кацярына дастала з кішэні гадзіннік на доўгім ланцужку і працягнула яго ахоўніку.— Пусціце яго дамоў, сыночка. Пусціце...

Гэта былі пакутлівыя хвіліны. Кацярыну павялі да прахадной і пачалі дапытваць. Колькі год, калі з дому, як прозвішча. Яна ж, нібы не разумеючы, цвярдзіла адно:

— Сын ён мне і прозвішча ў яго маё. Стэфанам завуць, паночку...

«Паночку» трымаў у руках яе гадзіннік і ўхмыляўся. І раптам, зусім ужо нечакана, сказаў:

— Ідзь, матка...— І піхнуў у спіну палоннага.— Шнель! Спэхам. Фарштэйн... Спэхам.

Кацярына адчула ў сваіх руках гадзіннік, моцна спіснула яго і шпарка пайшла наперадзе, ведучы за руку свайго знойдзенага, хоць чужога, але такога роднага сына.

Такім вось чынам усынавіла Кацярына маладога артылерыста Каліну Стэфана. Хлопец ледзь трымаўся на нагах — да таго быў знявечаны і худы. Яго білі за тое, што не мог працаваць, што не пакараўся фашыстам, што быў самы малады, што меў добрыя блакітныя вочы, а яны глядзелі на ворагаў з нянавісцю.

Кацярына паслала яму свой ложак, змяніла споднее адзенне і пяшчотна сказала, гладзячы кучаравыя валасы:

— Цяпер ты будзеш Стэфан Квяткоўскі. Запомні... Стэфан Квяткоўскі. Гэта можа спатрэбіцца, хоць я пастараюся, каб пра цябе ніхто не ведаў наогул.

— Добра, маці... Цяпер я — Стэфан Квяткоўскі.

Ён ляжаў за шырокай шафай. Кацярына сама перасунула шафу бліжэй да грубкі, каб схаваць ложак ад чужога вока. Так, ёй здавалася, будзе лепш.

— Цяпер скажы, хто ты і адкуль,— спытала Кацярына, калі пасля добрага кубка гарачага чаю хворы ўпершыню за доўгі час усміхнуўся.

— Ведаеце раку Заходняя Дзвіна? — прыўзняўся ён на ложку. Твар задумлівы, амаль суровы.

— Ведаю, на Віцебшчыне.

— Дык вось... Я з яе берагоў. З вёскі, якая так і называецца — Пабярэжжа. Вучыўся да вайны ў тэхнікуме. Пайшоў у армію добраахвотна. Крыху паваяваў. Вось і ўсё...

Кацярына падумала. Не вельмі задаволіла яе гэтае паведамленне артылерыста.

— Выходзіць, твае бацькі таксама... тут, па гэты бок фронту? — асцярожна спытала яна. Адказ Стэфана Каліны меў для яе істотнае значэнне. Што, калі хлопец захоча прабрацца дамоў, а яна зноў застанецца адна?

— Выходзіць,— уздыхнуў Стэфан.— Маці з сястрой то пэўна. Бацька адступіў з нашымі часцямі. Ён — танкіст. Не думаю, што і яго напаткаў гэткі ж лёс, як і мяне. Нам не было куды адступаць. Мы былі ў акружэнні...

— Няўжо нельга было прабрацца да сваіх з боем? — зноў, яшчэ больш асцярожна, спытала Кацярына. Адказ на гэтае пытанне вырашаў яе страшную думку: ці самі палонныя вінаваты ў сваім няшчасці, як гаварылі тады многія на іх вуліцы?

Стэфан Каліна сеў на ложку, падумаў. Яго добрыя вочы пасуровелі, вусны моцна сцяліся. Нарэшце ён сказаў:

— Нават маленькая і разбітая група байцоў здольна прайсці любыя перашкоды, калі...— Стэфан памаўчаў і пасля ўжо дадаў: — Калі гэтая група ўзброена да зубоў! А што маглі зрабіць мы без гармат і мінамётаў, без гранат і хлеба, з дзесяткам патронаў на байца? Мы ішлі супраць брані і агню, але захлынуліся...

— У вас не было ні танкаў, ні артылерыі?

— У нас не было нават кулямётаў. Яны маўчалі, бо патроны скончыліся. Бой быў цяжкі, а дапамога не прыйшла. Потым па двое, па трое пачалі прабірацца з акружэння, але трапілі ў пастку...

Каліна цяжка ўздыхнуў і змоўк.

Кацярына не пыталася больш ні аб чым. Яна сядзела ля ложка і гладзіла яго кучаравыя валасы. Для яе ён быў сынам. Тым, першым, які памёр так нечакана. А можа, і другім. А можа, абодвума разам. Галоўнае — яна цяпер не адна. Ёсць з кім пагаварыць, з кім параіцца. І яму добра з названай маці, яна ж выратавала яго ад немінучай смерці. Як калісьці, у дзяцінстве, выратавала ад смерці маленькую птушачку...

Гэта было даўно, яшчэ калі яны толькі пасяліліся тут,

на ўскраіне вялікага горада. Тады Каця была ціхай, хударлявай дзяўчынкай. Яе вялікія, крыху сумныя вочы зусім па-даросламу глядзелі на свет.

За хатай пачынаўся луг, вось гэты луг. Быццам сатканы з розных колераў жывы дыван. Ён адразу паклікаў малую да сябе, даў ёй мноства цікавых забаў.

У той дзень Каця, змораная і шчаслівая, ужо збралася дамоў, як заўважыла над галавой маленькую шэрую птушачку, якая чамусьці кінулася ёй пад ногі ў высокую траву. «Што гэта з ёю? — падумала Каця.— Ці не хворая якая?»

Птушка была не хворая. Высока над лугам кружыў вялізны каршун. Каця здагадалася, што драпежнік хацеў схапіць бездапаможнае птушанё, і прыкрыла яго сваёй хусткай.

— Не дам крыўдзіць малую! — крыкнула яна ўгору, быццам каршун мог зразумець яе словы. І яшчэ сказала птушаняці: — Не бойся мяне, я цябе не пакрыўджу...

З тае пары Каця ўжо ведала, што не ўсё ў прыродзе так лагодна і хораша, як здаецца. Яна шкадавала кожнага матыля, кожнага жука і коніка, якіх так багата было на лузе...

Цяпер за гэтым лугам пакутуюць не птушкі і не матылі, а людзі. Аднаго яна выратавала. А астатнія? Як выпусціць іх на волю? Гэтыя пытанні непакоілі Кацярыну штодня. «Паправіцца Стэфан — параюся з ім!» — вырашыла яна. А пакуль даглядала, як магла. У хаце прыбавілася клопату, а на працы — хвалявання. Раней яна не лічыла хвілін, жыла абыякава, як у нейкім тумане. Цяпер яе нехта чакаў. Яна яму патрэбна як сапраўдная маці, і ён ёй патрэбен як сын.

* * *

І вось аднойчы, калі Кацярына прыйшла дадому, Стэфан Каліна спытаў:

— Якія чуткі ходзяць у горадзе? Ці далёка фронт?

Яна сама нічога не ведала, бо чутак ніякіх не было. А тое, што гаварылі фашысты, для Кацярыны нічога не значыла. Яна проста не верыла ім. Яны даўно паўтараюць, як тыя папугаі, што Маскве «капут». А неяк, ідучы з адной работніцай праз кухню (яны заносілі туды бульбу), Кацярына ясна пачула голас Масквы, знаёмы

голас дыктара. Ён данёсся з-за дзвярэй шэфа, тоўстага немца. Толькі два словы: «Говорит Москва...» І ўсё. І ручку прыёмніка пакруцілі далей, на другую хвалю. Але гэтага было дастаткова. Тады Кацярына прынесла самыя лепшыя звесткі: Масква жыве!

Што яна магла адказаць цяпер? Ці далёка фронт, ці стаіць Масква? А як жа інакш? Масква на тое і Масква.

— Адно ведаю, Стэфане, што Маскву яны не ўзялі,— упэўнена прамовіла Кацярына,— і наўрад ці калі возьмуць.

Потым і самой цікава было дазнацца што-небудзь пра фронт, прынесці дамоў больш пэўныя звесткі. І хоць рабочыя складаў і гаража былі людзьмі незнаёмымі, Кацярына іншы раз пытала ў таго-сяго з усмешкай:

— Ну, як там, на фронце? Масква капут? Не чулі? Хутка будзе капут?

Спярша ёй нічога не адказвалі. Людзі хмурыліся і моўчкі паціскалі плячыма.

Аднойчы, выносячы смецце, яна прыпынілася каля вусатага чалавека ў чорным камбінезоне, з бруднымі ад мазуты рукамі. Ён выціраў іх жмутом нейкіх нітак. Спынілася не выпадкова. Той вусаты, бывала, сам спрабаваў раней загаварыць з Кацярынай. Але тады яе нічога не цікавіла.

— Як на фронце? — пытанне быццам здзівіла вусатага.— А хто яго ведае. Усяк бывае: і наперад, і назад... Адным словам, пад Масквой бадай ці будзе больш наперад.

Потым яны сустракаліся ўсё часцей і часцей. А неяк раз вусаты запрасіў Кацярыну ў гараж. Там было змрочна, холадна. Кацярына разгледзела грузавікі, некалькі матацыклаў і легкавых машын. А сярод іх — адна надзвычайная. То была доўгая чорная машына. Яна блішчала сваім лакам, ад якога чамусьці халадзела душа. Адчыніўшы дзверцы гэтай машыны, механік шчоўкнуў выключальнікам, пакруціў ручку.

— Слухай...

Спярша Кацярына так спалохалася, што не магла нічога разабраць. Голас дыктара чуўся нібыта з-пад зямлі. І ў тым голасе Кацярына зноў пазнала Маскву.

— Гэта вам дазваляецца? — паказала яна на прыёмнік. Механік усміхнуўся:

— Так, як і вам. Калі зловяць — капут!

— Дык навошта ж вы ўключылі?

— Для вас.

У вусатага механіка такі лагодны твар, што яна затоена праслухала ўсю перадачу — навіны з франтоў.

— Вам прывітанне ад Паходні,— урэшце сказаў вусаты механік.

Кацярына не скранулася з месца, не падала выгляду, што ведае гэтага чалавека.

— Нешта я яго не помню,— абыякава адказала яна.

— А ён вас до-обра памятае!

На тым і разышліся.

Калі Кацярына ішла дамоў, то адчула, што ў гаражы працуюць свае людзі, цікавыя і смелыя. Дома яна расказала Стэфану ўсё, з асаблівай радасцю паведаміла:

— Б'юць ворага. І пад Масквой, і пад Ленінградам, і на ўсіх франтах. А ў беларускіх лясах збіраюцца партызанскія атрады. Цяпер ужо ёсць малыя групы, яны аб'ядноўваюцца. Сама чула, уласнымі вушамі...

Лепш бы Кацярына не гаварыла гэтых слоў!

— Партызаны? Вось пра што я думаў усе гэтыя дні! — усхапіўся з ложка Стэфан.— Нездарма, відаць, думаў! Партызаны... Як здарава! Партызаны...

Ён больш не клаўся. Ён, праўда, яшчэ крыху кульгаў, але раны на плячах і на галаве зажылі.

— Ты ж хворы! Табе яшчэ трэба ляжаць...— Кацярына ўзяла Стэфана за руку.— Паслухай мяне, сынку...

— Не, маці, я ўжо не хворы. І, урэшце, не век жа мне сядзець вось так, чакаць, пакуль нехта будзе біць ворага. Я — камсамолец! Мой святы абавязак, мая прысяга...

Кацярына ўсё зразумела. Стэфан пойдзе ад яе, як пайшоў той першы танкіст, як пайшоў бы родны сын. Што ж, яму, сапраўды, трэба ісці. Не хавацца ж да канца вайны. Гэта было б звычайным дэзерцірствам для салдата. У ваенны час, калі ўся краіна паднялася на абарону, ёй дораг кожны баец. Стэфан — баец, ён павінен выканаць свой абавязак да канца. Павінен ісці. Але не так хутка, не адразу. У яго зусім мала сілы, ён можа заўчасна загінуць. І галоўнае — Кацярына прывыкла да таго, што ў яе ёсць сын. Патрэбен нейкі час, каб адвыкнуць ад самой думкі. І страшна зноў застацца адной...

— Яшчэ з тыдзень пабудзь, Стэфан. Вайна не хутка скончыцца. Акрэпні,— прасіла яго Кацярына.

— А калі за гэты час фашысты пранюхаюць, што я не ваш сын, і схопяць? Як вы думаеце, гэта будзе лепш?

— Гэта будзе самае горшае.

— Вось і я так думаю. Чым хутчэй выберуся з горада, тым лепш і для вас, і для мяне.

— Няхай тое хутчэй будзе заўтра.

— Яно будзе сёння. Вас, маці, я ніколі не забуду. Як стане цяжка — дам звестачку. Жывы буду — наведаюся. А як вайну скончым — у госці ездзіць буду! Адным словам, вы мне будзеце сапраўднай маці на ўсё жыццё.

Стэфан хадзіў па пакоі і гаварыў. А Кацярына ўсё прыглядалася, усё меркавала — ці можна ўжо яго адпусціць, ці здолее ён узяць зброю ў рукі.

Хлопец увачавідкі расправіў плечы. Высокі, статны, з моцнымі жылістымі рукамі, з суровым мужным тварам, ён выглядаў цяпер сапраўдным байцом.

— Што ж, сёння дык сёння.— Кацярына адчыніла шафу і выбрала Стэфану не зусім новы, але яшчэ ладны мужнін касцюм.— Гэта будзе лепш, чым вайсковае... Вазьмі, Стэфан, надзявайся. У мяне недзе і паліто было...

Сама пайшла ў сенцы і, пакуль Стэфан пераапранаўся, сабрала яму ў дарогу, што было: некалькі бульбін, цыбуліну, тонкую, аж свіціцца, лустачку чорнага хлеба...

Цямнела хутка. На вежах лагера запалілі пражэктары. Яны ледзьве прабіваліся праз ледзяную імжу, цьмяна асвятляючы баракі, слупы.

Ільдзінкі біліся ў шыбы, шоргалі, нібы просячыся ў хату. Недзе на двары вецер ляпаў адарванай дошкай.

— Памаўчым перад дарогай,— сказаў Стэфан, сядаючы да стала. У касцюме ён быў прыгажэйшы. Паліто трымаў на каленях.

Кацярына паклала на стол перад ім той невялічкі клуначак у белай паркалёвай хусцінцы, сама села на другое крэсла, падперла кулаком твар і задумалася. А можа, не задумалася, а проста так, без аніякіх думак, уставілася ў адну кропку і скамянела? Так яно, відаць, і было, бо калі Стэфан устаў, адзеў паліто і ціха сказаў, што яму час ужо ісці, Кацярына нібы ачнулася. Схапіла яго за руку, прыціснула да свайго твару і праз слёзы чулліва загаварыла:

— Ідзі, сынку... Няхай цябе добра прымуць там, у лесе, няхай дарога табе будзе шчаслівая.

— Я не пайду дарогай,— паспрабаваў пажартаваць ён.— Пайду лугам, хмызам аж да хвойніку.

— А як жа інакш! Дарогі ты не трымайся...

Стэфан абняў Кацярыну і пацалаваў у лоб.

— Бывай, матуля. Жывы буду — за ўсё...

Ён не дагаварыў, бо, відаць, і яму было цяжка пакідаць яе адну. Парывіста падышоў да дзвярэй, адчыніў іх і выйшаў.

А яна засталася.

Хвіліну стаяла нерухома, потым выбегла на двор і заўважыла за садком далёкую постаць. Памахала хусцінай.

— Шчаслівай дарогі, сынку. Шчаслівай дарогі, Стэфане...

Вецер біў ёй у твар, калмаціў валасы. І адарваная дошка ляпала па шчыце хаты. І сыпаў ледзяны дождж. І цьмяна свяцілі далёкія пражэктары. Было холадна, а Кацярыне ўсё не хацелася кратацца з месца.

Толькі ў хаце адчула, як працяў яе холад. Рукі і ногі аж здубянелі, і яна дарэмна старалася іх адагрэць ля ледзь цёплай грубкі. Святла так і не запальвала. «Навошта яно, адной добра і без святла. Ён, сынку, у ноч пайшоў, немаведама куды, у сцюжу, а я ж у хаце... Мне і так добра...»

Думкі блыталіся, і спакваля саграючыся, Кацярына адчула, як млявасць разлілася па ўсім целе. Яна імкнулася ўявіць, дзе цяпер Стэфан Каліна, як ён пераначуе ў такую непагадзь, куды скіруе далей.

Прылегла, не распранаючыся, на ложак, накрылася сваім цяжкім зімовым паліто і задумалася. А як добра сагрэлася, пачула — нехта пастукаў у дзверы і ціха паклікаў:

— Кацярына-а...

Яна хацела ўстаць, ды не магла. А чужы, незнаёмы голас з-за дзвярэй зноў:

— Ці пусціш у хату, Кацярына?

— Ідзі! — крыкнула яна і расплюшчыла вочы.

Нідзе нікога не было. Па-ранейшаму дробнымі крупамі біў у шыбы вецер ды ляпала дошка.

«Хто ж мяне клікаў? Жывы ці мёртвы? Кажуць, што чалавека іншы раз кліча смерць. Ёй не трэба адказваць, а я азвалася...»

Да самай раніцы ўжо так і не заснула Кацярына.

Калі пачало світаць, яна ўстала і нагрэла сабе вады, заваранай яшчэ раней сушанымі чарніцамі. Гэтыя чарніцы ляжалі ў яе другі год без ніякай карысці, а цяпер вось спатрэбіліся. Яны добра замянялі чай.

«Чаму я не дала Стэфану крыху чарніц?» — падумала Кацярына, саграючыся гарачым духмяным варывам. Потым яна шмат чаго знаходзіла дома і ўсё шкадавала, што не аддала Стэфану. Цёплыя шкарпэткі, выпадкова зной-

дзеныя на гарышчы, складная відэлец-лыжка, запальнічка, насоўка — усё, што магло б спатрэбіцца чалавеку ў дарозе. Усё гэта яна сабрала і схавала асобна. «А можа, загляне калі!» — спадзявалася яна.

* * *

Вусаты механік зноў некалькі разоў перадаваў прывітанне ад Паходні, але Кацярына так і не адказала яму нічога. Рабіла толькі выгляд, быццам імкнецца ўспомніць таго чалавека.

А яна ж ведае яго добра, ведае даўно, яшчэ з трыццатых гадоў. І помніцца ўсё так, быццам было ўчора...

...Муж тады працаваў далёка. Каб быў у хаце жывы чалавек, Кацярына ўзяла сабе на кватэру дзяўчыну, рабочую з цэха. Надзея (так звалі дзяўчыну) была гады на два маладзейшая за Кацярыну, але з замужжам ёй не шанцавала. А ўсё віною таму быў развясёлы характар, легкадумна-жартаўлівы, просты, нават залішне адкрыты.

З Надзеяй Кацярына іншы раз у свабодны вечар хадзіла ў тэатр. Яна палюбіла яго, як свой цэх, як кнігі. Ёй падабалася тая ўрачыстасць, што панавала ўсюды — ад фае да сцэны. З тагачаснага невялічкага рэпертуару Кацярына выбрала для сваіх вечароў «Пінскую шляхту» і «Паўлінку». Іншы раз ставілася камедыя «Савецкі чорт» ці «Каваль-ваявода». Кацярына хадзіла глядзець іх выключна паважаючы сяброўку. Затое на оперу «Русалка» яна заўсёды ішла адна, каб самой, на поўную сілу адчуць талент артыстаў Ждановай і Гаева, каб ніхто не перашкодзіў ёй ціха паплакаць у фінале оперы.

І вось аднойчы, калі яна выходзіла з тэатра, здарылася бяда.

Быў позні восеньскі вечар. З тэатра выходзілі апошнія гледачы. Выйшла і Кацярына. У цемені яна зачапілася за абрубак нейкай жалезнай трубкі, і тая загрукацела па мёрзлай зямлі. Кацярына нахілілася і падняла трубку. «Трэба адкінуць, а то яшчэ нехта зачэпіцца»,— падумала яна і ўбачыла, як на невялічкай пляцоўцы, далей ад ліхтароў, трое невядомых людзей накінуліся на маладога хлопца з дзяўчынай. Ціха, без енку, тыя адразу зваліліся на зямлю. Іх білі нажамі. Гэта было страшнае відовішча...

Апамятаўшыся ад першага здранцвення, Кацярына што было сілы крыкнула:

— Рату-у-уйце-е! Памажы-ы-ыце-е-е!

І тады з'явіўся ён, мужчына ў чорным плашчы і капелюшы, прысадзісты і спрытны. Ён адразу збіў з ног двух бандытаў, схапіў за рукі трэцяга. Бачыла Кацярына, як адзін з тых, што ляжаў на зямлі, паціху ўзняўся і замахнуўся на чалавека ў капелюшы нажом. І тады, сама не памятаючы, як гэта здарылася, Кацярына ўзняла цяжкі абрубак жалезнай трубкі. Удар быў не дужа моцны, але гэты ўчынак надаў смеласці яшчэ двум выпадковым сведкам гэтай бойкі.

І не ўгледзела Кацярына, калі гэта чалавек у капелюшы апынуўся на зямлі. Ён ляжаў і цяжка стагнаў. А бандытаў ужо скруцілі трое дужых міліцыянераў.

— У яго зламана нага,— сказаў хтосьці.— Трэба неадкладна ў бальніцу...

«У каго гэта зламана нага?» — не зразумела Кацярына. Потым убачыла — у таго першага, якога выратавала ад вялікай бяды.

— Нагу падлечаць,— зноў сказаў нехта.— Каб не гэта вось кабеціна, то быў бы і трэці на тым свеце...

— Адважная жанчына!

Усе паказвалі на Кацярыну. А яна саромелася і адказвала:

— Гэта я ад страху. Чалавека б забілі...

Чалавека ў плашчы панеслі па вузкіх сцяжынках да бальніцы, якая была непадалёк ад тэатра. Бандытаў павезлі ў чорнай машыне з кратамі. Толькі двое нерухомых засталіся на зямлі, як нямыя сведкі страшнага злачынства.

Кацярына памагла санітаркам занесці хворага ў палату.

Пасля спытала:

— Як жа прозвішча гэтага, у чорным плашчы?

— Паходня,— адказалі ёй.— Міхась Паходня.

А пасля ўсю ноч не магла заснуць: усё ёй здавалася, што памрэ Паходня, не дажыве да раніцы. А так хацелася, каб ён жыў, той адважны, сапраўды геройскі чалавек!

Раніцою сабралася наведаць хворага. Надзея, якой усё расказала Кацярына, і сама загарэлася жаданнем паглядзець на такога героя.

— За чужое жыццё ды рызыкаваць сваім! Гэта ўжо залішне. Пра такіх людзей я чытала толькі ў кнігах...

— А ты схадзі, паглядзі на жывога героя...

— А што! І пайду...

Калі дзве даволі статныя асобы ў белых халатах, з пакункамі ў руках зайшлі ў прасторны пакой, то ўсе хворыя ўвачавідкі павесялелі. Многія ўзняліся з ложкаў і з цікаўнасцю пазіралі на незнаёмак — адну беленькую, а другую чарнявую.

— Ці не дакторачкі вы будзеце? — спытаў адзін хворы.

— А што вас турбуе? — у сваю чаргу спытала Надзея.

— Ой, мілыя дакторачкі! Скажыце, каму трэба, каб мне больш не давалі гэтага аўса, я ж не конь! — узмаліўся адзін аброслы чорны мужчына, паказваючы на некранутую талерку з аўсяным супам.— Дальбог, скора вушы выцягнуцца...

— Што дактары прыпісваюць, тое трэба і спажываць,— узняўшы на яго вочы, строга адказала за Надзею Кацярына.

А Надзея нібы папрасіла прабачэння.

— Мы не дакторачкі,— сказала яна.— Мы проста наведвальнікі...

Тут ужо, што называецца, загула палата.

— Ці не да мяне? — узняў нехта з ложка галаву.— Трэці дзень чакаю, анікагусенькі.

— А я не ведаю да каго,— шырока ўсміхаючыся і жмурачы пры гэтым вочы, адказала Надзея.

— То сядай тут, будзеш мая!

Кацярына паволі, з застыглым бледным тварам, поўная затоенага неспакою, прайшла ў канец палаты і спынілася ля ложка, дзе на прывязанай бірцы было напісана: «Паходня Міхась Пятровіч, 1897 г.»

Ён ляжаў на спіне і не міргаючы глядзеў у столь. Высокі лоб быў нахмураны. Здавалася, чалавек нібы намагаўся нешта вельмі важнае ўспомніць. У яго быў мужны, даволі прыемны смуглявы твар, чорныя, падстрыжаныя цяпер пад машынку валасы і пабялелыя ад болю вусны.

— Міхась Пятровіч,— ціха паклікала Кацярына і стаіла дыханне, чакаючы, ці адгукнецца ён.

Хворы паволі перавёў позірк на яе. Лёгкі цень задавальнення прабег па твары. Лоб перастаў хмурыцца. Тое, што хацеў успомніць чалавек, здавалася, цяпер знайшлося. Ён паказаў рукой на белую табурэтку, што стаяла побач з тумбачкай, і сказаў:

— Сядзьце...

— Я не адна, з сяброўкай.

— Як вас завуць?

— Кацярына.

— Харошае імя,— у роздуме адказаў Паходня.— А мне чамусьці здавалася, што вас завуць Валяй. Моцная...

Яна не ведала, чым уцешыць чалавека, якому ўчора зрабілі аперацыю. Цяжка ўздыхнула і, азіраючыся на палату ў пошуках Надзеі, прамовіла:

— Мы прыйшлі адведаць вас. Я так хвалявалася... Вам вельмі балюча, ведаю, але вы даруйце...

— Як вы прыйшлі, адразу палягчэла.

Такі яўна жартаўлівы адказ зусім збянтэжыў Кацярыну. Яна паклала пакунак на тумбачку і паказала рукой на сяброўку, якая, пагаварыўшы ўжо напэўна не з адным хворым, падышла нарэшце і да іх:

— Мая сяброўка Надзея.

У Надзеі пакунка ўжо не было.

Расчырванелая, яна спынілася ля ложка Паходні, вінавата сказала:

— Я трохі затрымалася... Калі ж да вас тут і праўда, мусіць, вельмі рэдка ходзяць.

— Надзя! — дакорліва зірнула на яе Кацярына.

Тая нічога не зразумела:

— А што?

— У гэтай палаце ўсе вельмі цяжка хворыя, а ты...

Міхась Пятровіч крышачку ўзняў галаву.

— Яна, ваша Надзя, добры лекар! Чуеце, як гамоняць? Было так ціха, як у трупярні...

Надзея ўсміхнулася і прастадушна адказала:

— Кацярына мне па сакрэту паведаміла, што вы сапраўдны герой! Адзін супраць трох...

— Бач ты! — нібыта здзівіўся Паходня.— Па сакрэту? А я вам без усялякіх сакрэтаў скажу, што герой — яна,— Міхась Пятровіч паказаў вачыма на Кацярыну.— Не трапіўся б такі памочнік, то не было б і мяне... — Памаўчаўшы, дадаў:— А так хоць і з адной нагой, а ўсё ж жывы чалавек...

Вось яно як! Значыць, Паходня застаўся без нагі, а яны не заўважаюць гэтага і гавораць пра нейкае глупства, яшчэ ўсміхаюцца! Недаравальная абыякавасць...

Надзея — гэта добра бачыла Кацярына — адразу сумелася, збялела. Чалавек без нагі — гэта было жахліва. Сяк-так яшчэ пагутарылі крыху, развіталіся і пайшлі. І ні пра што не гаварылі ў дарозе.

Потым усё часцей і часцей хадзілі яны з Надзеяй да Паходні. Аж да таго часу, пакуль ён не выпісаўся. А паз-

ней, калі дадому вярнуўся муж, Кацярына наведвала Паходню з ім. Потым, паступова, сувязь згубілася. Неяк Надзея сказала, што Міхась Паходня працуе на якімсьці заводзе, але яна забылася, на якім іменна...

...І вось вусаты механік перадае прывітанні ад Паходні. Значыць, ён застаўся ў горадзе. І ведае пра яе. І прывітанні шле нездарма, відаць, хоча наладзіць з ёю сувязь. А Кацярыне чамусьці боязна.

«Трэба будзе бліжэй пазнаёміцца з механікам, дазнацца, што ён за чалавек»,— падумала Кацярына зноў, як і заўсёды, хаваючы ў запазуху бульбу. Існі дадому так, без гасцінца сынам за дротам яна ўжо не магла.

«Трэба будзе зноў падысці да лагера і — хто мяне пазнае? — выбраць сабе другога сына. Самага слабага. Дужэйшыя, яны і самі як-небудзь выжывуць, а слабыя загінуць...»

Гэта была не раптоўная думка. Кацярына ўжо даўно збіралася паўтарыць сваю першую спробу, але, па шчырасці кажучы, крыху баялася. І непакоілі думкі: ці не тазмянілася там, у лагеры, ахова, ці сустрэне яшчэ яна таго высокага немца. Калі прыйшло канчатковае рашэнне ісці, яна ўжо ні аб чым не думала, не хвалявалася. Абавязак памагаць людзям у бядзе быў вышэй за ўсё.

І калі Кацярына, як некалькі тыдняў назад, зноў стаяла ля калючага дроту і глядзела на палонных, ёй здалося, што няўмольны час спыніўся назаўсёды, што яна гадамі стаіць ля гэтага дроту і глядзіць на пакуты людзей і ніколі-ніколі не будзе таму канца.

Нават знаёмы немец з аўтаматам, што няспынна ходзіць ля калючага дроту, усміхаецца ёй і паказвае на нейкага палоннага.

— Зын? — пытае ён у Кацярыны.

Кацярына не гаворыць. Яна моўчкі згаджаецца і ідзе да прахадной. «Божа, памажы яму, гэтаму добраму чалавеку»,— шэпчуць яе вусны. Кацярына ўсведамляе, што просіць у бога помачы за двух — за палоннага і таго, што яго ахоўвае.

Зноў, як і некалі, чуецца спачувальны голас:

— Матка... Зын...

Выводзяць салдата без шыняля. Шынель спатрэбіцца другому. Кацярына моўчкі накідае на худыя плечы палоннага сваю цёплую шэрую хустку і вядзе праз заснежаны луг дамоў новага сына. І поіць яго гарачым чаем, частуе печанай бульбай...

* * *

Потым яе знаёмы немец недзе прапаў. Стала вельмі цяжка і небяспечна прабірацца да лагера. Цяпер ужо трэба было даваць сапраўдны выкуп. Спярша не стала гадзінніка. Потым яе залатога шлюбнага пярсцёнка. Потым трапілася выменяць на базары кавалак сала. Потым пайшлі ўсе тыя рэчы, якія Кацярына берагла да апошняга. І калі ўжо зусім нічога не засталося, у лагеры, на яе шчасце, з'явіўся добры чэх. Праўда, ён дзейнічаў не так адкрыта, як немец, але ўсё ж Кацярына радавалася.

За зіму яна вывела з канцлагера пятнаццаць смяротнікаў, самых слабых палонных савецкіх салдат, сяк-так агорала іх і праводзіла з хаты ў ноч. І кожнаму махала хусцінкай, кожнаму ціха гаварыла:

— Шчаслівай дарогі, сынку...

Мінула першая цяжкая зіма. Надышоў май. Доўга, ой, як доўга праляжаў за шафай шаснаццаты сын, чарнабровы юнак, украінец Пятро Хвыля. Часам Кацярыне здавалася, што хлопец не акрыяе. Яна садзілася ля ложка і, сцяўшы вусны, круціла галавой: бачыла, як гарыць ён ад ран, як цяжка яму.

— Баюся я за цябе, Пятро, памрэш яшчэ,— папраўляючы падушку, гаварыла яна.

— Ні, матко. Хто ж цэ памірае другі раз! — бадзёра адказваў ён і ціхім прыемным голасам спяваў:

Ой, лыханько й нэ Петру-усь,
Біло лычко, чорный ус!

Дзівілася Кацярына: колькі сілы было ў таго хворага, знявечанага чалавека.

А было ж...

Ён нават не дайшоў да лагера. Яго Кацярына знайшла ў снезе, ля канавы.

Вечарэла, калі яна выйшла расчысціць ад снегу дарожку да веснічак. Снег быў сыпучы, як пясок, мароз абпальваў шчокі. «Заўтра ж раніцой у сваіх чаравіках не выберуся,— думала Кацярына, адкідаючы рыдлёўкай з дарожкі снег.— Трэба ачысціць аж да вуліцы».

Давяла дарожку да вуліцы, спынілася. І слухае, як з лагера даносяцца стрэлы. «Чорная сотня прыехала, аруднуе,— падумала яна.— Сёння новенькіх прыгналі, муштруюць, бедных, катуюць, праклятыя!»

Кацярына ведала, што часта лагер наведвалі эсэсаў-

цы-карнікі ў чорных мундзірах. Іх так і называлі — чорная сотня. У такія дні да лагера не падыходзь, застрэляць без папярэджання.

І раптам, як з-пад зямлі, данёсся ціхі стогн. Спярша Кацярына падумала, што гэта ёй здалося. А зірнула туды, адкуль чуўся стогн, і заўважыла цёмную пляму на снезе. Падбегла да яе і спынілася ў трывозе: пляма была чырвоная. А побач, у канаве, ляжаў чалавек. Нахілілася Кацярына над ім, прыслухалася: жывы! Сяк-так перацягнула ў хату, агледзела раны. Аж тры. Разбіта куляй левае плячо, прабіты навылет правы бок, кроў цячэ і з шыі. Рукі і ногі хоць і цэлыя, але, як пруты, здубянелі ад марозу. Што ж рабіць з гэткім? Кацярына адчувала, што без доктара ёй не абысціся, а клікаць доктара небяспечна. Ды нешта ж трэба прыдумаць...

Хворы прыгрэўся, застагнаў мацней. І кроў не ўнімаецца. Завінулася Кацярына, сама прамыла раны, расцерла на паперцы некалькі таблетак стрэптацыду, прысыпала іх. Старымі, перамытымі бінтамі перавязала, як магла.

Бінтоў не хапіла, дык парвала чыстую паркалёвую сукенку...

Да поўначы ратавала Кацярына жыццё салдату, з лыжачкі паіла цёплым чаем. І ўсё непакоілася: выжыве ці не?

Раніцою яму стала крыху лепш, і Кацярына пайшла на працу. На двары падумала: «А што, калі параіцца, папрасіць дапамогі механіка? Чалавек ён, відаць, свой, можа, што і параіць...»

Набрала кош лупін са смеццем і падышла да гаража. Моцна кашлянула, каб яе пачулі. І неўзабаве, усміхаючыся ў пышныя вусы, выйшаў той, каго чакала. У сваім чорным камбінезоне.

— А-а, дзень добры! — пачаў выціраць рукі нейкай анучынай.

— Добры дзень,— стрымана адказала Кацярына, не пазіраючы на яго.

— Нешта даўненька мы не сустракаліся. І Паходня хвалюецца — ці ўсё ў вас ладна дома?

— Ці гэта абавязкова часта сустракацца? — ухілілася ад гаворкі пра дом Кацярына.

— А чаму ж? Я, прызнацца, засумаваў.

І тон, і размова ёй не спадабаліся. Кацярына ўжо хацела пайсці, нават кош падняла, але ён сам узяў той кош з рук, паставіў на месца і цішэй спытаў:

— Якая новая бяда ў вас, Кацярына Адамаўна?

Яна ўскінула галаву. Здзіўлена, насцярожана спытала:

— Вы ведаеце, як мяне завуць?

— Ага. Нават прозвішча. Больш таго — нават ваш дамашні адрас.

— Адкуль?

— Ад добрых людзей, з якімі вы, чамусьці, не жадаеце сустракацца,— зноў перайшоў на вясёлы тон механік.— Дык якая здарылася бяда? Бачу, што вам патрэбна мая помач.

— Патрэбна,— кіўнула Кацярына і першы раз прызналася: — У мяне дома ляжыць чалавек. Цяжка паранены, можа памерці...

— Які чалавек? — узняў чорныя бровы механік.— Сваяк ці чужы вам?

— Ці ж гэта мае значэнне?

— Мае.

— Сын,— адразу, не задумваючыся, адказала Кацярына.

— Сын? Тады трэба, каб усё ладна было... — Ён задумаўся на хвіліну, дастаў цыгарэту, прыкурыў з запальнічкі і дадаў: — Вось што, даражэнькая... Сёння пасля работы мы падыдзем да вас з доктарам.

— З доктарам... Ці варта? — занепакоена зірнула на механіка, як бы прыкідваючы, якога доктара ён мае на ўвазе.

— Таму доктару плаціць не будзем! — як бы ўлавіўшы яе думку, адказаў механік.— Ніякага ўліку хворых ён не вядзе... Сюды ідуць! — раптам сказаў ён і схіліўся над кошыкам. Падняў яго і перадаў Кацярыне.— Насіць трэба вось так! Як кавалера, пад руку...

— Дзякую.

За сваёй спіною Кацярына пачула смех і чужую гаворку: механік размаўляў з немцамі на іх мове.

«Усё ведае, з імі размаўляе. А што, калі ён іхні агент? Што, калі і Паходня трапіў у іхнія рукі? Сёння трэба бегчы дамоў як мага хутчэй! Гімнасцёрку, шынель — усё спалю!»

У абед схавала свой хлеб для хворага. Сама з'ела нейкі чорны суп, дзе было крыху бульбін. Ад голаду аж вадзіла ў бакі. Кацярына схуднела так, што калі б сустрэўся хто знаёмы, то, напэўна, не пазнаў бы. Вочы глыбока запалі, твар выцягнуўся, нос пабольшаў.

Бегла дамоў, як магла, але спазнілася: на двары быў

механік і яшчэ адзін мужчына ў старэнькім зімовым паліто, з рудым, збітым у лямец, каўняром, у рудай футравай шапцы. У руках ён трымаў партфель.

Кацярына зачыніла за сабой фортку, спынілася.

— Чакаем вас, гаспадынька,— механік паказаў на вялікі замок, што вісеў на дзвярах.

Яна павалі прайшла да ганка, азірнулася і дастала з кішэні ключ.

У хату ўвайшлі адразу ўсе трое.

— А дзе ж ваш сын? — азіраючыся, хрыпла спытаў доктар. Ён быў стары і цяжка дыхаў.

— Там.

— Ага, чую!

За шафай зняможана стагнаў хворы. Доктар і механік адсунулі шафу, каб было відней, і адразу, не распранаючыся, узяліся за справу. Доктар дастаў з партфеля нейкія шкляначкі і пакеты, механік адкрыў чорную скрыначку з хірургічнымі інструментамі.

— Кузьміч, папрасіце ў гаспадыні чыстай вады,— пачула Кацярына хрыплы голас і хуценька прынесла поўнае вядро вады, паставіла на ўслон. Схадзіла ў сенцы і паставіла побач з ложкам парожні таз.

— Мыла трэба? — спытала яна, пазіраючы, як доктар бессардэчна зрывае бінты.

— Калі ёсць натуральнае, не эрзац...

Яна прынесла мыла, стараючыся запомніць пачутае слова: Кузьміч. Так завуць механіка. Больш Кацярына пакуль што нічога не ведала пра гэтага чалавека. Ды і не вельмі старалася дазнацца. Ужо тое, што доктар быў не «афіцыйны», супакойвала.

«Значыць, Кузьміч чалавек не з простых, калі ўзяўся памагаць савецкаму байцу! А тое, што ведае нямецкую мову — не дзіва. Я і сама ўжо шмат слоў помню...» — думала Кацярына, чакаючы, пакуль доктар нанова перавяжа раны. Другі раз глядзець на пакуты і кроў яна не адважылася. Дужа ўрэзалася ў памяць гэтая жахлівая ноч.

Нарэшце шафу паставілі на месца. Доктар памыў рукі і, пакруціўшы галавою, ціха сказаў:

— Добра, што стралялі з пісталета ва ўпор. Парахавыя абпалы захавалі раны ад заражэння...

— Значыць, ён будзе жыць? — нецярпліва спытала Кацярына, схапіўшы доктара за руку.— Скажыце мне ўсю праўду! Ён будзе жыць, не памрэ?

— Думаю, што так. Усё залежыць ад дагляду. Пра

ўсё, што здарыцца, гаварыце Кузьмічу. А я хутка зноў надыду. Вось гэтыя парашочкі будзеце даваць тры разы ў дзень.

Пакуль доктар адлічваў парашкі, Кузьміч, адвёўшы Кацярыну ад хворага і паказваючы на яго, спытаў:

— Які ён па ліку, ваш сын?

— Першы,— адчуваючы, як раптам затухкала сэрца, адказала Кацярына.

— Не можа быць! З адным вашым сынам я ўжо сустракаўся. Яго завуць Стэфан. Стэфан Каліна...

— Дзе ён? Жывы? — адразу спытала Кацярына, склаўшы на грудзях рукі.

— Вось бачыце, як вас лёгка злавіць! — паківаў тоўстым пальцам Кузьміч.— У наш час трэба ўмець трымаць язык за зубамі нават і тады, калі іх выб'юць на допыце... Дык які гэта будзе сынок?

— Шаснаццаты.

— Гэта бліжэй да ісціны! Вось вам крышку грошай, лячыце сына, каб усё ладна было. Але ж і не забывайцеся на сябе. У нейкіх сорак з гакам выглядаць бабуляй вельмі сумна...

— Вы, аказваецца, і гады мае палічылі.

— А як жа! Я ж таксама ўдовы чалавек.

— У мяне ёсць муж.

— Ведаю. Пасля рэабілітацыі яму не давялося прыехаць дамоў. Пэўна, недзе на фронце затрымаўся...

— Ён ужо быў рэабілітаваны? Гэтага не ведаю нават я, добры ты чалавек.

— Я ўсё ведаю.

— Дык скажыце хоць, дзе цяпер Стэфан Каліна?

— У надзейным месцы. Жывы і здаровы.

— У горадзе?

— Не. Ён у лесе, непадалёк ад горада. Як на машыне, то гадзіна язды. Вось адны добрыя людзі і завезлі туды крышку зброі для такіх, як Стэфан. Шмат іх там...

Сёе-тое стала ясна.

Непадалёк ад горада збіраецца партызанскі атрад. Кузьміч ведае аб гэтым. «Ён працуе на партызанаў, на ўсіх, хто змагаецца з ворагам. Ад Стэфана ён дазнаўся пра мяне. Значыць, яму можна ўсё даверыць...»

— Як сын выжыве, вы... памажыце яму знайсці Стэфана Каліну. Яны павінны быць разам.

— Не абяцаю. Калі сустрэну аднаго добрага чалавека, то перадам вашу просьбу.

«Яспа, ён яшчэ баіцца мяне! Недарма казаў: «Вось бачыце, як вас лёгка злавіць!» Думае, што магу прагаварыцца, што ворагі змогуць выведаць у мяне яго сакрэты...»

Кацярына больш нічога не пыталася. Узяла грошы і схавала іх пад матрацам.

На развітанне сказала:

— Дзякую. Калі што спатрэбіцца вам зрабіць, буду вельмі рада памагчы.

— Гэта ўжо гаворка! Я чакаў яе, Кацярына Адамаўна... — Механік узяў худую Кацярыніну руку і прыклаў да сваіх вуснаў.— Будзьце асцярожны з людзьмі, давярайце, ды не кожнаму. Нават тым, хто вам назаве мяне альбо Паходню... Цяпер такі час, што нават не ведаеш, хто свой, а хто чужы...

— Я разумею... але ж вы, не ведаючы мяне...

— Першы раз паслухаць радыё можа арганізаваць і правакатар,— улавіў яе думку механік.— Запомніце! Бывайце, Кацярына. А цяпер скажыце — ці можна ад вашага імя перадаць Міхасю Паходню прывітанне?

— Калі ласка! І раскажыце яму ўсё...

— Раскажу. Абы ўсё ладна было.

Так і развіталіся.

* * *

На шосты дзень пасля наведвання Кузьміча і доктара Пятро загаварыў. Які той быў голас! Яго можна было пачуць, толькі нізка схіліўшыся над хворым.

— Мэнэ савуць Пятро,— сіпла сказаў ён.— Пятро Хвыля, с Чарнігаўшчыны, сусід ваш...

— Што з табою было?

— Утікав я, матко... Мэнэ спаймалы, паставылы да канавы пэрэд калонай... Як цэ я попав сюды?

Кацярына расказала. Ён слухаў і сціскаў кулакі.

— Я ім відпомшчу за цэ! Яны мэне шчэ вспомняць...

Пятро гаварыў на зразумелай мове, хоць беларускіх слоў у яго гаворцы траплялася не дужа багата.

Праляжаў ён да вясны. Як і першы палонны Стэфан Каліна, Хвыля прасіў Кацярыну, каб яна расказала яму ўсё, што чула ад людзей пра фронт.

Звесткі былі не суцяшальныя. На франтах ішлі цяжкія баі. І яна не ўтойвала ад Пятра нічога, гаварыла яму заўсёды толькі шчырую праўду.

За гэты час Кацярына стала сваім чалавекам у гара-

жы. Яна ведала, што там сабраліся сапраўдныя патрыёты сваёй радзімы. Інжынеры і тэхнікі, яны працавалі тут нездарма: у вялікай яме для рамонту машын, за цаглянай сцяной быў схаваны невялічкі друкавальны станок, наборныя скрынкі, поўныя літар, чыстая папера. Сапраўдная падпольная друкарня пад носам у фашыстаў. Гэта было рызыкоўна, але і надзейна: ворагу і ў галаву не магло прыйсці, што тут, на іх двары, які так строга ахоўваецца, можа быць нешта падобнае.

Неяк раз Кузьміч сказаў:

— Хопіць табе, Кацярына, парожнія кашы насіць, трэба працаваць з нагрузкай.

— Яны ж не парожнія!

— Горкага чытала?

Яна спачатку не зразумела намёку.

— Сёе-тое чытала. А што?

— А тое, што ты носіш смецце за ва-ро-ты,— умысля падкрэсліў Кузьміч апошняе слова.— Вартавыя цябе ведаюць добра. А галоўнае — прадукцыя будзе схавана ў надзейным месцы. Тую скрыню за варотамі ачышчае наш чалавек...

— Цяпер мне ўсё ясна,— усміхнулася Кацярына.

— Дзякуй і за гэта...

Больш ні слова не гаворачы, ён занёс кош у гараж, дастаў з-пад нейкай рудай скрынкі пакет і, адсыпаўшы крыху смецця, схаваў пакет на дне каша.

— Цяпер нясі,— сказаў ціха.— Пакладзі ўсё ў правым куце скрыні, акуратна засып і прыйдзі яшчэ раз...

Так Кацярына выканала першае заданне. Потым яна часта насіла тыя пакеты па незнаёмых адрасах, зусім незнаёмым людзям.

І вось падняўся яе шаснаццаты сын...

Стаяў цёплы і ціхі адвячорак. Прыйшоўшы з працы, Кацярына згатавала полудзень і толькі паставіла дзве талеркі на стол, як у хату ўвайшлі трое: Кузьміч, доктар і нейкі зусім сівы дзядок у акулярах, з вострай казлінай бародкай. Сукаваты кіёк, акуратна зачэсаныя валасы, добра адпрасаваная белая кашуля пад чорным гальштукам, чыстыя, да бляску, чаравікі — усё сведчыла аб тым, што чалавек ён інтэлігентны. Убачыўшы на стале талеркі, ён весела, неяк зухавата ўсклікнуў:

— Вось гэта парадачак! Госці на парог — гаспадыня за пірог! Дзень добры ў хату і куму і свату!

Кузьміч падвёў яго да Кацярыны і сказаў:

— Знаёмцеся, прафесар... Кацярына Адамаўна, думаю, вас палюбіць.

— Не вярэдзьце мае старыя раны, Кузьміч! — бліснуў вачыма на механіка з-пад густых, надзіва чорных броваў прафесар.— Ужо другі год пайшоў, як мяне перасталі любіць не толькі жанчыны, але і яшчэ нехта!

Увесь час, пакуль Кацярына рыхтавала на стол прынесеныя доктарам хлеб, кансервы і селядцы, гэты стары прафесар гаварыў бясконца, гаварыў цікава, не прамінуўшы звярнуцца і да яе шаснаццатага сына.

— Спраў на сто рук, дарагі ўнук! — чулася строгае.— Абы сіла ды здароўе. Ды ўпэўненасць у кожнай справе. Без гэтага помач ад нас невялікая...

Кацярына ўлучыла момант і спытала ў Кузьміча:

— Ці не той гэта чалавек, які можа паказаць Пятру дарогу ў лес, да брацікаў?

— Не! — пакруціў той галавою.— Дарогу ў лес больш за ўсіх ведае Паходня.

— Бач ты! — узрадавалася Кацярына.— Гэта ён, значыць, выведзе Пятра з горада?

Пятро, які акурат падышоў да іх і пачуў тую гаворку, запярэчыў:

— А чому цэ абавязкова ў ліс? Шмат жа, ось о змагарів і тут...

Кацярына замахала на яго рукамі:

— І не кажы! Ты вельмі прыкметны, Пятро! Нават у гаворцы. Выйдзеш з хаты, скажаш слова — цябе адразу і заўважаць. Ды і дакументаў аніякіх. Твая дарога толькі ў лес...

— А мне здаецца, што малады чалавек гаворыць праўду,— заступіўся за Пятра доктар.— Жыццё ў лесе вельмі суровае, а ў майго пацыента яшчэ хрыпіць у грудзях. Ды і то сказаць — мы, Кацярына Адамаўна, добра паслужылі яму. Цяпер няхай ён нам паслужыць.

— Вельмі нават правільна! — ухваліў і прафесар.

«Дык вось чаму ён гаварыў Пятру, што ў горадзе спраў на сто рук»,— падумалася Кацярыне.

— У лесе ад нас чакаюць усё большай і большай помачы! — працягваў прафесар.— А якая, скажам, з мяне помач, старога? Хіба толькі новы рэцэпт з якой-небудзь кіслатой прыдумаць, га? Каб, скажам, у фашыстаў самі гранаты рваліся за рамнём? Няблага? А трэба ж даставаць зброю, медыкаменты. Трэба і парсючка падкласці куды-небудзь...

— А як жа яму тут жыць, у горадзе? — занепакоілася Кацярына.— Без дакументаў, без занятку...

— Які тут горад? — зірнуўшы за акно, зноў пачаў прафесар.— Хатка ў полі. Прыкметная і непрыкметная. І гаспадынька надзейная. Не дужа да яе прычэпяцца нават ворагі.

Кацярына бачыла — прафесар нездарма так сказаў. Штосьці ж ды мае ён на ўвазе.

У гаворку ўмяшаўся Кузьміч:

— Скажыце, тут які-небудзь падвал ёсць?

— Ёсць,— адказала Кацярына.— Але не ў маёй хаце. У суседзяў быў склеп. Унь там,— паказала на акно,— за плотам. Бачыце падмурак ды абгарэлыя сцены? Калісьці там быў цэлы склад розных він ды гарэлкі. З жалезнай крышкай, замкамі. Былая манаполька старой Нохаміхі...

— То павінна быць надзейна і ладна! — падхапіў Кузьміч, ходзячы па хаце і тручы рукі.— Аднак давайце падсілкуемся...

Елі моўчкі, не спяшаючыся, быццам нехаця. І пакінулі на стале амаль палову ўсяго, што было. Кацярына разумела, што пакінулі не таму, што пад'елі, пакінулі ёй. І яшчэ Пятру.

Пасля ўсе выйшлі паглядзець скляпенне. А вярнуліся, пачалі з радасцю дзяліцца ўражаннямі.

— Не майстэрня, а сапраўдны цэх! Уваход замаскіраваны добра, хто не ведае пра тое скляпенне, ніколі не здагадаецца! — гаварыў прафесар.— Ахову забяспечым. Астатняе за вамі, Кузьміч. Друкарню трэба ратаваць. Вы гатовы?

— Як заўсёды?

— То добра. Заўтра пачнём працаваць...

Цямнела, а госці не ішлі. Яны аб чымсьці доўга раіліся, спрачаліся. Быў з імі і Пятро Хвыля. Кацярына дзяжурыла на двары. «Яны ж не пройдуць у горад!» — непакоілася яна, пазіраючы на чырвонае неба, туды, дзе схавалася за ўзгоркам сонца, дзе ўспыхнулі на вежах пражэктары. Яшчэ непакоіла і тое, што хаціна яе, як сірата, стаіць пры самай дарозе, на віду. І зусім недалёка адгэтуль, у ранейшай школе, размясцілася паліцыя. Вынюхаюць, сабакі-здраднікі, будзе бяда...

Аднак не ведала Кацярына: усё ўлічылі партызаны. І тое, што хата на віду, і тое, што паліцэйскія ніколі да Квяткоўскай не зойдуць. Дзякуючы аднаму чалавеку, Ка-

цярыну лічаць прыхільніцай новай улады, як жонку рэпрэсіраванага.

Не ведала Кацярына, што прафесар і сам мае нейкае дачыненне да новых улад.

Раніцою, ужо за сталом, Пятро сказаў:

— От сёння папрацувалы! Папомняць мэнэ фашысці...

— У вас ёсць зброя? — асцярожна спытала Кацярына.

— Шчэ яка! О цэ арсенал, маты!

І ўсё. Больш ніякай гаворкі. Паснедаўшы, Пятро крадком падаўся ў свой «арсенал», як назваў ён суседскі падвал, сказаў, што не выйдзе да начы і што раніцой зноў пойдзе на працу, што яго, Пятра, не павінен бачыць ніводзін чалавек да таго часу, пакуль яму не прынясуць неабходныя дакументы.

Калі Кацярына, акуратна засыпаўшы яго сляды нейкім парашком, які для гэтай мэты пакінуў доктар, выйшла на вуліцу, ёй насустрач, з горада, зноў, чаго ўжо даўно не было, гналі палонных. Але гэта ўжо ішлі не тыя палонныя, якіх сустракала яна раней, у вайсковай форме, з гарачымі позіркамі, адважныя і энергічныя. Цяпер калона ішла да таго ціха, павольна, што, здавалася, у кожнага да ног прывязана нешта цяжкое, але нябачнае. Вопратка ў іх была цывільная, з грубай шэрай тканіны. Палонных, відаць, пераганялі з іншага лагера.

— Шнэль! Шнэль! — бясконца чулася з усіх бакоў. Нямецкія салдаты ў сівых мундзірах, з аўтаматамі напагатове падганялі няшчасных не толькі прыкладамі ды крыкам. Часта чуліся стрэлы. Людзі падалі і не ўздымаліся...

Збочыўшы з дарогі, Кацярына бачыла, як аднаго, зусім слабага і худога палоннага, які часам адставаў ад сваіх таварышаў, канваір біў прыкладам па галаве. Палонны зваліўся на дарогу.

— Шнэ-эль!!! — азвярэла закрычаў на яго фашыст, нацэльваючыся з аўтамата.— Айн... Цвай...

Да трох ён не далічыў. Забыўшыся на небяспеку, на страх, на тое, што трэба спяшацца на працу, што за плотам працуе «арсенал», Кацярына падбегла да канваіра і са слязамі на вачах крыкнула:

— Сто-ой! Не страляй... ніхт шысан... Гэта мой сын... Майн! Аддай майго сына...

Яна шчыра глядзела на салдата ў варожай форме і не бачыла тых добрых, спагадлівых вачэй, якія сустрэла першы раз. То былі калючыя, поўныя звярынай злосці вочы вылюдка.

— Вас? Вас? — нічога не зразумеў фашыст. Наступіў адной нагою на палоннага і тыцнуў яму ў грудзі аўтаматам.— Сын? Вас іст дас — сын? Ду іст мутэр? Гут!

Канваір адышоўся, і Кацярына падумала, што ён пакіне палоннага. З надзеяй і хваляваннем яна зрабіла крок да канваіра.

— Дзякую, паночку... — і да палоннага: — Трымайся, даражэнькі, трымайся...

Яна яшчэ не верыла ў цуд. І цуду не было. Рэзкі, як выбух, стрэл з аўтамата вырашыў усё: палонны глуха ўскрыкнуў, ускінуў рукі ўгору і заціх.

Кацярына стаяла зводдаль і не магла крануцца з месца. Ёй здавалася, што стрэлілі ёй проста ў грудзі...

А за спіной смяяліся фашысты. Ім было весела. Яны пацяшаліся з людскога гора. Яны проста пажартавалі. І пайшлі...

— Дарма... Вам адпомсцяць мае жывыя сыны. За ўсё. І за гэтага,— шапталі яе гарачыя, да крыві закусаныя вусны.

Кацярына схадзіла дамоў, узяла рыдлёўку ў сенцах і пахавала палоннага паўзбоч, на чужым агародзе.

На працу Кацярына спазнілася, і яе нават не пусцілі за вароты, сказаўшы, што яна звольнена.

«Як жа мне жыць далей? — ідучы назад, з трывогай падумала Кацярына.— Даведаюцца, што без працы, пашлюць у Германію... І сваіх падвяла. Там жа Кузьміч...»

Бяда ішла за бядою неадступна ўвесь дзень.

Толькі Кацярына мінула мост і скіравала на сваю вуліцу, як нос у нос сустрэлася з жанчынай у чорнай аксамітнай сукенцы, якая ледзь даставала да калень, з белай сумачкай у левай руцэ. Кацярына пазнала яе і адвярнулася.

Яна хацела прайсці далей, але тая таксама пазнала Кацярыну.

— А-а! — усклікнула яна на ўсю вуліцу.— Вот дзе цябе спаткала! Даўжок за мною, памятаеш? Грошыкі мне пры бальшавіках давала, багатая была... Я казала — яшчэ не ўсё ваша, яшчэ і наша будзе! Прыйшло яно, наша свята! Счарне-ела? Пасіве-ела? Яшчэ не тое трапіцца, калі прыйдзе Андрэй Змачынскі са сваімі хлопцамі...

Кацярына не ішла — бегла па вуліцы.

І ўслед за ёй неслася лаянка, брыдкія абразлівыя словы.

Што за дзень, што за час, у які яна выйшла з хаты!

Хоць бяры ды жывой кладзіся ў магілу. А лаянка ўслед:

— Не ўцячэш, не схаваешся! Даўжок будзе аддадзены, усё прыпомніцца...

«Трэба ж было мне пайсці другім бокам вуліцы,— думала Кацярына.— Заўсёды ішла тым бокам, а сёння ж сабіла пайсці гэтым...» Прычын няўдалага дня было многа.

А дома непакоіла адно: «Значыць, той Андрэй Змачынскі таксама недзе тут. Ён можа прыйсці. І не адзін, а з такімі, як і сам, бадзягамі-здраднікамі. Пад пагрозай Петрусёў арсенал і яго жыццё. І жыццё Кузьміча, і доктара, і прафесара — усіх добрых людзей. Трэба будзе папярэдзіць Пятра, а ён перадасць астатнім... І трэба ж было сустрэцца з гэтай пачварай Адэляй...»

* * *

Кацярына пачала прыпамінаць...

Андрэй Змачынскі, які ўцёк за мяжу, ведаў Стэфана Квяткоўскага яшчэ з дзяцінства. Яны часта сустракаліся. Але пасля таго як Стэфан ажаніўся з беднай дзяўчынай, якая, па словах Андрэя, была здатна толькі на служанку, Змачынскі доўга не паказваў носа. І вось аднойчы ўсё ж зайшоў. Не адзін, а з хударлявай дзяўчынай, чорнай, як цыганка. Стэфан іх пачаставаў. Пасля параіў Змачынскаму:

— Пайшоў бы ты, Андрэй, куды трэба, прызнаўся, што сын былога растаўшчыка і банкіра, сказаў бы, што з мінулым усё скончана і ты пачынаеш новае жыццё. Мяне ж вось не турбуюць, хоць і я сын не бедняка... Дакументы ж трэба.

Змачынскі толькі ўсміхнуўся ў чорныя вусы. Ён іграў на гітары і бясконца паўтараў адно і тое ж:

Жизнь ко мне была вечно изменчива,
На земле счастья-доли мне нет.
Вся душа с юных лет искалечена.
Ах, зачем я родился на свет!

Кацярыне было непрыемна слухаць гэтыя песні. Яны быццам бы прыйшлі з таго свету. Быццам іх спяваў не жывы чалавек, а мярцвяк...

Калі госці пайшлі, яна сказала Стэфану:

— Каб я іх у маёй хаце больш ніколі не бачыла!

— Пастараюся,— згадзіўся ён.— Ад такіх тыпаў дабра не чакай. Але, ведаеш... Андрэй пагражаў мне, калі што якое...

— Чым пагражаў?

— Даносам... Ён ведае нешта такое, чаго не ведаю нават я. Так, урэшце, ён гаварыў.

— А ты і напалохаўся?

— Хто яго ведае...

«Тыпы» з'явіліся зноў. І ніхто іх не выгнаў: ні Стэфан, ні Кацярына. Мужнін страх перадаўся і ёй. І ўсё ж то быў апошні раз...

Добра выпіўшы, Андрэй пачаў нахабнічаць.

— Ты, Святая Інеса! — падышоў ён да Кацярыны.— Не круці носам. Я магу зрабіць цябе ўдавою. Хочаш? — Кацярына маўчала, і ён працягваў: — Зраблю ўдавою, як — цьфу!

Андрэй плюнуў проста на падлогу.

Кацярына не магла перанесці такой абразы. Яна адчыніла дзверы і, задыхаючыся ад абурэння, сказала:

— Прашу, паганыя паны, за дзверы!

Адэля, чорная цыганка, засмяялася. А Змачынскі паківаў на Кацярыну пальцам.

— Не дужа рызыкуй, Клеапатра! Твой Стэфан не дужа далёка ад нас адкаціўся...

Стэфан якраз уваходзіў у хату. Ён яшчэ нічога не ведаў і дабрадушна сказаў:

— Не чапіся да Каці, стары лавелас!

— О, лавелас! А таму я лавелас, што да дзевак дужа лас! — нахабна засмяяўся той і абняў Кацярыну.

Гэта было задужа. Стэфан збялеў. Схапіў Андрэя і выштурхнуў за дзверы.

— Прашу, паненка, за сваім хахалем! Шагам марш! — што было сілы крыкнуў ён.

Адэля выйшла з кватэры горда, незалежна. Толькі бліснула чорнымі вачыма на абаіх і сказала:

— Вам гэта дарам не пройдзе! Запомніце. І не раз...

Потым Стэфана выклікалі на допыт. Праз дзень — яшчэ раз...

Кацярына ўвесь час думае, што і забралі Стэфана праз тую Адэлю і Змачынскага, якія ведаў, што ў Вільні жыве Стэфанаў дзядзька...

«Грошыкі мне давала!» — нагадала Кацярына Адэліны словы. Успомніла і той, другі выпадак...

Неяк пасля таго як арыштавалі Стэфана, Кацярына пайшла адпачыць у свой зялёны гай. Там яны калісьці пазнаёміліся са Стэфанам, там яны гулялі пасля вяселля...

Цяпер здавалася, што ў гэты бярозавы гай прыехаў

увесь горад. Быў май. Былі маёўкі. Адны, сеўшы вакол разасланых на траве абрусаў, пілі гарэлку; другія, больш маладзейшыя, пабраўшыся за рукі, хадзілі па дарожках з песнямі; трэція, сабраўшыся ў кружок ля гарманіста, заўзята прыбівалі да зямлі зялёную муражыну.

Толькі Кацярына была адна. І не заўважыла, як апынулася ў канцы гаю, ля хвойнічка, таго незабыўнага, адзінага ў свеце. Ён значна падрос з таго часу, калі яны тут «заблудзіліся» са Стэфанам. І гэты напамін, і майскі дзень, і ап'яняючы пах жывіцы ўсхвалявалі, закружылі галаву.

Кацярына апусцілася на траву побач з рагатай, пахіленай хвойкай, на тым самым месцы, дзе сядзелі яны тады са Стэфанам. Аж паглядзела на траву — ці змятая? Трава расла роўная. У зялёным грудку цімафееўкі стаяла белая красачка, а па ёй поўзаў вялізны касматы чмель. Ён быў вельмі прыгожы, быццам знарок размаляваны дзесяткамі фарбаў, з тоўстымі, рудымі ад пылку ножкамі. А крыллі зусім маленькія. Кацярыне дзіўна было, што такія маленькія крыллі здольны несці гэткага тоўстага чмяля. Яна сарвала травінку і дакранулася ёю да аксамітнай спінкі. Чмель узляцеў адразу, памчаўся над зямлёю і знік з вачэй...

Кацярына ўстала і аж зжахнулася: за хвойкай стаяла немаладая п'яная жанчына ў старым злінялым жакеце, у пакамечаным старым і брудным капялюшыку, у дзіравых чаравіках. Штосьці знаёмае Кацярыне было ў цыганскім позірку насмешлівых чорных воч, у тоўстых, чырвоных ад фарбы вуснах.

— Што, не пазнаеш сваіх? — усміхнулася жанчына і нядобра падміргнула Кацярыне.— Можа, на чарачку адшкадуеш, га? Сэрца гарыць...

— Адэля?! — адразу ўскрыкнула Кацярына, адчуваючы, як мярцвеюць ногі.— Я проста... задумалася, прабач, даражэнькая.

Жаласць да гэтай апустошанай жабрачкі заглушыла старую крыўду. Кацярына глядзела на Адэлю з болем у душы.

— Задумалася... — Адэля дастала з кішэні жакета папяросу і закурыла, пускаючы сінявы дымок угору. — Не пазнала — і ўсё. Факт, а не рэклама. Пасля таго як коннулі майго Андрэя, я прыкметна змянілася. Бо, любая, пайшла на свой хлеб. Ты ведаеш, што такое свой хлеб, калі нічога не ўмееш рабіць, апрача таго, што нам дадзена ад прыроды? Ой ты, гора, маё гора, гора маё горка-е! —

Адэля закашлялася, схапіўшыся левай рукою за худыя, высахлыя грудзі.— Ты ж таксама адна, га?

— Адна... пакуль.

— Не пакуль, дзеўка! Назаўсёды. Бо лепшага хлопца, як Стэфан, табе не знайсці. Факт, а не рэклама.

— Стэфан яшчэ вернецца,— няўпэўнена адказала Кацярына, усё яшчэ не ў сілах пагадзіцца з думкай, што перад ёю жывая Адэля, тая незалежная, фанабэрыстая паненка.

— Не вернецца, галубка, бо яго ўжо няма ў жывых. Я была аж за Масквою, куды яго павезлі. Да-а-лё-ёка гэта. А ён не вытрымаў, бядак, памёр. Сухоты ў яго былі...

— Хлусіш! — Кацярына схапіла Адэлю за жакет, трасянула.— Хлусіш ты ўсё гэта!

— А чаго б гэта мне хлусіць? — не збянтэжылася тая. І яшчэ пусціла дым проста Кацярыне ў вочы.

Кацярына адхіснулася ад яе, гэтай жанчыны, нібы яна была сама смерць.

— Ты гаварыла з ім? — ледзь стрымліваючыся, каб не заплакаць, спытала яна.

— Бачыла. А гаварыць — дзе там! Не хацеў ён са мною гаварыць. А я пры чым? Андрэй усё нарабіў. Факт... Усё цябе Стэфан клікаў, казалі...

— Помніў... Стэфанчык мой, абяцаў вярнуцца, ды звялі цябе праклятыя ў магілу! — Кацярына непрыязна зірнула на Адэлю.— Вы звялі яго ў магілу! Вы! Пры мне ён чалавекам быў...

— Ён пры табе станавіўся быдлам, мужыком! — нібы ўзрадавалася Адэля, што давяла Кацярыну да слёз.— Памажы, казаў, Кацярыне, як памру. А чым памагчы? Мы цяпер на роўных. І ў мяне, і ў цябе адно багацце... Дык на чарачку адшкадуеш?

Адэля здзекліва, нахабна засмяялася.

«Божа! — падумала між тым Кацярына, пазіраючы на Адэлю.— Што ад яе засталося, як збілі тую пыху? Нічога святога. Яна і тады не была чалавекам. Паненка з багатай сям'і, распуста... Не трэба ёй верыць!»

— Мне памагаць не трэба,— супакоіўшыся, у роздуме сказала Кацярына.— Я ж працую, нам з сынам хопіць.

Яна ўсунула ў дрыготкую руку Адэлі скамечаную паперку і засаромелася.

— Прабач, я пайду...

Адэля зірнула на паперку, надзьмулася:

— Ідзі сабе, дабрадзейка!..

— Як ты апусцілася, Адэля! — з жалем сказала Кацярына.

— І ты апусцішся.

— Ніколі!

— Не бажыся, сучка! — аж пазелянела тая.— Гэта цяпер ты разумная стала, а тады — хто была?

— Чалавекам была...

— Нашай служанкай, каб хацелі, стала б!

Адэля за дабро яўна плаціла злом. І Кацярына не паддалася ёй. Сама пайшла ў наступ:

— Позна, паны, прачнуліся!

— Мы не спалі...

— Вы аджывалі сваё, а мы нараджаліся. Самі сабе рублі зарабляем. Эт, што ты разумееш...

Кацярына махнула рукой, павярнулася і пайшла. Шпарка, без аглядкі.

— Яшчэ не ўсё ваша! Яшчэ і наша будзе! — надрывалася ўслед ёй Адэля, але для Кацярыны гэтыя словы ўжо абсалютна нічога не значылі. Яна адчувала сваю праўду, сваю перавагу над тымі, каго раней лічыла панамі.

Рана ці позна, але такі разрыў павінен быў здарыцца.

Чым раней — тым лепш.

Было ясна даўно, што Кацярыне з Адэляй не па дарозе...

* * *

«Адэля ведае, што я ў горадзе,— трывожна падумала Кацярына.— Яна можа прыйсці ў любую хвіліну, бо добра ведае, дзе я жыву...»

Яна ўвесь час пазірала на сонца, чакаючы, калі яно спусціцца за ўзгорак. А яно, як на злосць, нібы застыла на адным месцы. Пятро прыйдзе не хутка...

Ды раптам заўважыла на двары механіка Кузьміча, абрадавалася. А за Кузьмічом — доктар і прафесар! Аж выбегла ім насустрач.

— Вось добра, што вы сёння прыйшлі! — сказала Кацярына, праводзячы гасцей у хату.

— Ведаем, калі трэба,— сказаў на парозе прафесар і неяк сумнавата паглядзеў на Кацярыну.

У хаце, сеўшы да стала, яны нейкі час маўчалі. Кацярына заўважыла, як пацямнелі іх твары. «Ведаюць ці не, што я засталася без працы?» — мільгнула думка.

— Та-ак, братцы славяне,— пачаў Кузьміч.— Хоць

яно і тут не дужа надзейна, але, думаю, што часова можна перавесці яго сюды... Тут пакуль усё ж ціха.

«Якое там ціха! — падумала Кацярына.— Як раскажу, што сёння са мной здарылася, дык тады і самі ці прыйдзеце болей...»

Яна нарэзала на талерку хлеб, што прынёс доктар. У яго тоўстым партфелі заўсёды нешта было — то хлеб, то сала, а то проста цыбуля і соль. Сёння ж ён апрача хлеба дастаў нейкую тоўстую і падсушаную рыбіну. Кацярына выкраіла порцыю і Пятру. І ўжо хацела пачаць гаворку пра свае беды, але расказваць нічога не давялося.

Парэзаўшы свой кавалак на дробныя порцыі, Кузьміч ціха загаварыў да Кацярыны:

— Не ўсё, Кацярына Адамаўна, блага, што здаецца на першы погляд. Не ўсе няўдачы прыносяць расчараванне і гора. Тое, што сёння вас звольнілі, а я вазіў аднаго пана далёка ад горада — наша з вамі шчасце...

— Як гэта? — не зразумела Кацярына.

— Сёння ў абедзенны час у афіцэрскай сталоўцы ўзарвалася бомба. Дванаццаць, як яны кажуць, тод, капут... Каля трыццаці паранена. Усіх, хто меў хоць малейшае дачыненне да кухні, арыштавалі і павезлі ў гестапа...

— І з падвала?

— І з падвала.

— Іх адпусцяць назад?

— Не. Пад узмоцненай аховай іх павезлі ў лагер смерці. Новы штат падбіраюць гестапаўцы. Трох нашых мужчын, што працуюць цяпер там, дзе былі вы, не пускаюць нават за вароты. Добра яшчэ, што мы своечасова перабазіравалі сваю друкарню...

— Што ж мне рабіць? — у роздуме спытала Кацярына, успамінаючы гэты цяжкі дзень.

— Нічога! — падхапіў прафесар.— Адпачываць. Схадзіце разок на базар, купіце сёе-тое і адпачывайце сабе. Потым згатуеце нашым хлопцам сякі-такі абед — і зноў адпачывайце. Пабудзьце крышку нашай матуляй...

— А хто ж вам будзе лістоўкі насіць?

— Вы...

— А калі ж?

— Між спраў. Друкарня ж на месцы...

— У падвале?

— Адкуль я ведаю?

— Я даўно хацела сказаць...

— Каб друкарню перанеслі сюды?

— Не.
— А мы перанеслі!
Госці павесялелі. Гаварылі ўсё адкрыта, нічога не хаваючы ад Кацярыны. Яна зразумела, што, можа, з сённяшняга дня стала паўнапраўным членам той сям'і, якая звязала сваё жыццё і свой лёс з барацьбою. Гэта была яе мара, яе шчасце.
— Я сёння выпадкова сустрэлася з адной вельмі небяспечнай жанчынай. Яна ведае, дзе я жыву,— нарэшце прызналася Кацярына. Яе выслухалі ўважліва. Прафесар хадзіў па хаце і ўсё нешта думаў, іншы раз спыняўся насупраць Кацярыны і гаварыў:
— Старая знаёмая. А за што яна пагражала? За непрыязнасць? Не так страшна. Разбяромся з вашай знаёмай...
— У яе ёсць нехта, што працуе, відаць, у фашыстаў. Я пэўна не ведаю, але здагадваюся,— выказала меркаванне Кацярына.
— Як яго прозвішча? — моршчыў лоб прафесар.
— Андрэй Змачынскі...
— Ах, вось як!
Кузьміч і доктар моўчкі слухалі гэтую, відаць, непрыемную для ўсіх гаворку.
— Змачынскі чалавек небяспечны, але не дужа страшны,— нарэшце выказаў думку прафесар.— Паліцэйскі сабака! Хто большую костку кіне, таму і паслужыць. Трэба будзе, Кузьміч, зацікавіцца табе ім.
Кузьміч у знак згоды кіўнуў галавой.
— Думаю, што наш план гэтая жанчына не парушыць,— сказаў ён.— Падселім Кацярыне кватарантаў — і справе канец. Абы ўсё ладна было.
— Каго? — пацікавілася яна.
Кузьміч весела ўсміхнуўся:
— Я сам з задавальненнем перабяруся сюды. І Міхась Пятровіч пойдзе. Больш яму няма куды...
— Паходня? — захвалявалася Кацярына.— Ой, як жа я яго прыму ў такую хату? — Яна азірнулася, агледзела падлогу, сцены.
— Хата — дай бог! — ухваліў прафесар.— Мне самому тут падабаецца. А Паходня будзе рад бясконца.
Кацярына разумела, што прафесар з'яўляецца старшым. Кожнае яго слова, кожная прапанова ўспрымаюцца як загад.

— Нарэшце-ткі я сустрэнуся з Міхасём! — сказала Кацярына, адчуваючы, як цяплом налілося сэрца.— Гэта ж столькі год не бачыліся. Толькі каб не здарылася чаго. За сябе я не баюся, а вось за вас... За вашу справу...

— Можаце не хваляваццa! — супакоіў яе прафесар.— У нас вялікія сувязі.

Кузьміч падміргнуў Кацярыне і падкруціў вусы.

— Прафесар ведае, што гаворыць,— сказаў ён, і Кацярына адчула, што гэта праўда, што яна павінна ведаць тую праўду, ведаць і маўчаць. «Дзе ж ён працуе? Ці не ў фашыстаў?» — здагадвалася яна.

Доктар усміхнуўся:

— Дарваўся да ўлады! Глядзі, каб пасля не давялося дзе трэба тлумачэнні пісаць!

— Нічога. Абы прыйшла перамога. А тлумачэнні дадуць за мяне яе вось сыны...

— Але ж вы, здаецца, сябравалі з гаўптманам фон Кляцам? — не здаваўся доктар.

— Гэта той фон Кляц, якога вы, Кузьміч, пасля і кляцнулі,— усміхнуўся прафесар, цярэбячы рэдзенькую сваю бараду.— Гэта ж трэба! Майго лепшага сябра...

— Цяпер у вас новы гаўптман.

— Новы,— кіўнуў прафесар.— І хлопец нішто сабе. Раіцца, слухае мяне. Адным словам, добры кандыдат у нябожчыкі...

Прафесар засмяяўся і зноў прысеў да стала.

Калі крыху падсілкаваліся, было вырашана сёння ноччу не працаваць, а разысціся па аднаму.

Заўтра да Кацярыны прыйдзе жыць Паходня. Праз дзень-два — Кузьміч.

Прафесар абяцаў зрабіць усім адпаведныя прыпіскі. І высветліць, што за асоба Адэля.

Калі пайшоў апошнім Кузьміч, Кацярына села да стала і задумалася. Яна думала аб тым, як заўтра сустрэне Міхася Паходню і пра што яны будуць гаварыць. Яшчэ думалася рознае: яскрава ўсплывала ў памяці смерць невядомага салдата, сустрэча з Адэляй. Больш за ўсё непакоіла іменна гэтая сустрэча. Што ганарлівая Адэля будзе помсціць — гэта факт. Нездарма ж калісьці гаварыла, што Кацярына папомніць яе, папомніць не раз...

Ніяк не магла зразумець гаспадыня канцавой хаткі, чаму падпольшчыкі замест таго, каб пазбягаць сустрэчы на яе кватэры нават удзень, дамовіліся перайсці сюды жыць. «Ці яны сапраўды вельмі давераныя ў фашыстаў

людзі, ці іх так многа, што нічога не баяцца? Гэта, мусіць, нейкае маленькае звяно, якое звязана з больш магутнай сілай. Адным словам, смелыя і моцныя людзі...»

* * *

Раніцой, як толькі Кацярына зноў схавала Пятра ў склепе, прыйшоў Паходня. Ён паставіў на зямлю чорны чамадан, сеў на камень ля парога і, дастаўшы тугі капшук, пачаў круціць цыгарку.

Кацярына ўбачыла Міхася, пазнала адразу. Падышла моўчкі, зірнула на знаёмы твар, на зусім пасівелыя скроні і ціха сказала:

— Ну, здароў, Міхась...

Як цяжка ёй стрымлівацца і гаварыць спакойна! Колькі мінула часу, колькі было пражыта! Ды якога часу! Здавалася, прайшло стагоддзе пасля іх апошняй сустрэчы. Кацярына стрымала хваляванне, пачакала.

Міхась ускінуў галаву, і на Кацярыну, як некалі, зірнулі гарачыя карыя вочы. Яны адны ніколькі не пастарэлі, ніколькі не змяніліся, хоць пад імі заляглі глыбокія маршчыны.

— Добрай раніцы, Адамаўна,— адказаў Паходня і ўстаў. Аж рыпнула драўляная нага.— Ці не прымеш да сябе на кватэру інваліда?

Цяпер Кацярына не стрымалася. Кінулася тварам на цвёрдыя грудзі, і яе плечы затрэсліся. Яна плакала бязгучна, быццам саромелася сваіх слёз, свайго гора.

Паходня ўзяў яе за плечы, загаварыў:

— Ты, Кацярына, ніколі не плач, бо слёзы заўсёды, гэна во, дрэнны памочнік. Разумееш? Так вось...

Яна падняла галаву, адказала:

— А я і не плачу... Даўно ўсё выплакала, адна душа плача. А сэрца скамянела, мусіць, навечна...

— Вось жа няпраўда! Добрае ў цябе, гэна во, сэрца, Адамаўна, чулае. Шмат чаго я ўжо ведаю пра цябе. Так вось.

Потым яны пілі чай і гаварылі, гаварылі, знаёмячы адно аднаго са сваім жыццём, сваімі справамі.

— Як ты жывеш цяпер? Чым? — спытала Кацярына.

— Чаравікі шыю — тым бядак і жыў.

— Ты ўсё гэткі ж, не змяніўся. Жартуючы, доўга пражывеш.

— Да самай смерці!

— Што яшчэ рабіў?

— Памагаў аднаму старому. Ездзіў у вёску, мяняў, гэна во, розныя рэчы на сала ды на хлеб. Ведаеш прафесара?

— Але. Чаму яго называюць прафесарам?

— Бо ён сапраўдны прафесар-хімік. Да вайны ўжо быў вядомым, а цяпер для нас проста знаходка. Нават не ведаю, што б мы без яго і рабілі. Шмат куды мае доступ. А яго міны проста цуда!

Кацярына асцярожна спытала:

— З мінамі мае справу і Кузьміч?

— Іншы раз і ён... Калі ў машыне выязджае асабліва высокі начальнік.

Кацярына наліла Міхасю яшчэ адну шклянку чаю, падсунула дробны кавалачак цукру.

— А я думала — яны толькі тым і займаюцца, што друкуюць пракламацыі.

— І гэта не горш дзейнічае, як міны,— адкусваючы цукар, сказаў Міхась і з усмешкай зірнуў на Кацярыну.

Яна змяніла гаворку, пачала пра жыццёвае.

— Чаму ты ні разу не прыйшоў сюды, не наведаў мяне?

— Ты ж не хацела прызнавацца. Ды мне, уласна, забаронена было выходзіць са сваёй майстэрні наогул. Кожную хвіліну маглі зайсці свае людзі, ад якіх многае залежыць у нашай справе. Цяпер майстэрня ліквідавана, а я, як бачыш, прыйшоў да цябе надоўга.

— Працаваць становіцца ўсё горш,— зразумела яго Кацярына.— Што ж, разам яно будзе весялей і надзейней. А то я адна тут зусім адзічэла.

— Калі ж гэта собіла табе быць адной? Столькі, гэна во, сыноў вывела ў людзі! Ганарыся! Цяпер вось і я разам з тваім Пятром буду крыху варушыцца. Абы ціха...

— Што вы будзеце рабіць?

Паходня ўзняў на Кацярыну адкрыты, даверлівы позірк, але сказаў не ўсё, што ведаў:

— Усё, што загадаюць. У свой час дазнаешся. Думаю, ты яшчэ таксама не ведаеш, дзе ўсе твае сыны і хто з імі іншы раз сустракаецца.

— Дык раскажы!

— Яны ўсе разам, у адным атрадзе... Помпіш, калісьці ў цябе на кватэры была адна цікавая дзяўчына. Ты з ёю прыходзіла да мяне ў бальніцу...

— Надзея? — аж пасвятлела Кацярына.

— Яна. Цяпер працуе ў нямецкай аптэцы, дастае медыкаменты і перадае нам.

— Ой, малайчына!

— І мая жонка... Так вось, Кацярына,— адсунуў шклянку з чаем Паходня.— Нас злучыла вайна. У яе быў муж... Яго павесілі ў першыя дні вайны...

Паходню цяжка было гаварыць пра гэта. Ён стукнуў кулаком па калену і ўстаў. Загрукаў дзеравяшкай па падлозе. Кацярына больш ні аб чым не пыталася. Яна толькі хацела сустрэцца з яго жонкай. А як? Можа, яна калі прыйдзе сюды?

— І мусіць, да канца вайны нам ужо не бачыцца,— як бы ўлавіўшы яе думку, сказаў Паходня. Ён зноў сеў, пачаў круціць цыгарку.

— Надзея, помню, была не з адважных,— ціха сказала Кацярына.— Усяго баялася...

— Была. Цяпер пасмялела. Я вас неяк пазнаёмлю. Праўда, без майго ўдзелу, за ёй не павінны сачыць.

— За табой сочаць?

— А як жа! Першы спекулянт у горадзе...— І раптам змяніў гаворку: — Ну, а твайго... так нідзе і не чуваць?

Яна пакруціла галавою:

— Перад самай вайной пісаў, што хутка будзе дома. Я ўжо і чакала. Аж няма...

— Значыць, недзе на фронце...

Кацярына пільна паглядзела на Міхася, нібы жадаючы ўпэўніцца ў праўдзівасці яго слоў. Аб тым, што яе Стэфан дзесьці на фронце, яна часцяком нагадвала. А тут пра гэта гаворыць блізкі чалавек! Калі на фронце, то добра. Вось толькі б не трапіў у палон. І каб куля яго не кранула...

— Калі б на фронце,— сказала яна.

— Жывы будзе — вернецца!

— Вернецца,— паківала галавой Кацярына і паволі пайшла ў другі пакойчык, дзе пакуль ніхто не жыў. Пачала рыхтаваць яшчэ адну пасцель, прыбіраць у хаце. А Міхась курыў і маўчаў, думаючы аб чымсьці сваім.

І вось, тручы акно, Кацярына раптам убачыла, як непадалёк ад яе хаты спынілася машына і на двор зайшлі двое: тоўсты вусаты мужчына ў паліцэйскай форме з адзнакамі капітана і жанчына ва ўсім светлым, ружовым.

— Сюды ідуць! — ціха сказала Кацярына і, як была з анучынай у руках, хуценька падалася да дзвярэй.

Ей не хацелася, каб у яе хаце цяпер убачылі Міхася.

Хто яго ведае, з якімі намерамі ідуць сюды гэтыя людзі? Калі прыехалі на машыне, то ўжо ясна, што не свае.

Выйшаўшы на ганак, Кацярына сумелася і разгубілася: то былі Андрэй Змачынскі і Адэля. Яна хоць і апранула ўсё дабротнае, чужое, але гэткая ж, як і была, худая, аж сіняя. Змачынскі быў тоўсты, нахмураны, як ноч.

— Вы не скажаце нам, спадарачка,— пачала крыўляцца Адэля.— Ці не тут жыве Стэфан Квяткоўскі. Былы сын былога вялікага мастака, уладара зямлі гэтай...

— Стэфан Квяткоўскі цяпер тут не жыве,— спакойна адказала Кацярына, выкручваючы анучыну.— Наколькі я памятаю, вы самі калісьці гаварылі мне, што Стэфан...

— Памёр? — перабіла яе Адэля і засмяялася.— Я пажартавала. Я проста яго не бачыла. Скажы ты, што трэба, Андрэй,— звярнулася яна да Змачынскага.

Той прыстукнуў абцасамі, ускінуў руку.

— Хайль! Сказаць, што трэба? Ёй, гэтай замучанай? — усміхнуўся тоўсты паліцай.— Ці паможа яна нам, вялікім і магутным уладарам бацькаўшчыны?

— Але ж так трэба...

— Праўда,— згадзіўся Змачынскі і звярнуўся да Кацярыны: — Дык дзе ж ваш муж?

— Майго Стэфана арыштавалі і выслалі яшчэ да вайны. І вам гэта вядома,— строга адказала яна, цяжка ўздыхнуўшы. На вочы набеглі няпрошаныя слёзы. Яны цяпер былі якраз дарэчы.

— Вядома? — нібыта здзівіўся Змачынскі.— Што Стэфана арыштавалі бальшавікі, што яго выслалі? Гэтага я не чуў. Дык вось, Кацярына... Так, здаецца? Як нам паведамілі, вы нідзе не працуеце і сустракаецеся з невядомымі людзьмі...

— Гэта вам нехта нагаварыў па злосці,— ухмыльнулася Кацярына, выціраючы рукою вочы.— Я чакаю, што мой Стэфан яшчэ прыйдзе. І хутка. Як жа я магу сустракацца з другімі? Гэтага ніколі не здарыцца, панове, я застануся вернай Стэфану да канца сваіх дзён...

Змачынскі прыжмурыўся на Кацярыну, нібы імкнучыся ўбачыць яе думкі. Няўжо яна не зразумела намёка? Не пра звычайных жа мужчын гаварыў ён, а пра падазроных. Значыць, варожых для фашыстаў, непажаданых.

Кацярыне страшна было маўчанне, і яна зноў сказала.

— Не маладая ўжо я... Сына пахавала...

Паліцай быў пераможаны.

— Вайна заўсёды жорсткая... І нездарма Стэфан

пакахаў гэтую жанчыну! — сказаў ён Адэлі.— Такую б вернасць ды табе, Адэль!

Яна фыркнула:

— Не шкодзіла б і табе быць больш верным свайму фюрэру! Ты ж на службе, не захапляйся былой прыгажосцю...

Кацярыне было непрыемна стаяць вось так, слухаць сваіх ворагаў, але што зробіш. Яна нечакана для сябе здагадалася, што няпрошаныя госці нешта хітруюць. Гэтыя танныя кампліменты сказаны Андрэем з нейкім разлікам.

«Мусіць, хочуць нешта выпытаць, калі пасля запалохвання перайшлі да заахвочвання! Усё шантаж, выдумка. Ніякіх падазрэнняў у іх няма!» — вырашыла ў думках Кацярына.

— Прыгажосць, Адэлька, не купляюць...

— Але прадаюць! Ты гэта добра ведаеш...

— Стэфан з ёю не быў няшчасны. Хутчэй, наадварот. Праўда, Клеапатра? — звярнуўся Андрэй да Кацярыны.

— Няпраўда! — непрыязна адказала яна.— Я з ім не была няшчаснаю, а вось без яго... самі бачыце. І даруйце, што не магу запрасіць у хату. Частаваць няма чым, ды і галава нешта разбалелася, не захварэць бы... Тыф у нас тут кругом.

Змачынскі як бы адхіснуўся ад яе. Зірнуў на Адэлю і зноў загаварыў:

— Мы прыехалі сюды невыпадкова. Хочам памагчы. Калі сяння вы не пажадаеце паехаць з намі, то, можа, у другі раз згадзіцеся, гм?

Кацярына зірнула абыякава, хоць занепакоілася адразу.

— Куды паехаць? — спытала яна.

— На адно невялічкае спатканне непадалёк ад горада... О, не хвалюйцеся, нічога страшнага. У нас там надзейныя людзі! А цяпер падумайце і адкажаце нам праз пару дзён... — Змачынскі пакорпаўся ў кішэні і падаў ёй некалькі марак.— Вось, калі ласка, задатак...

Яна ўзяла грошы і падзякавала.

— Спатрэбяцца... Мяне звольнілі з работы,— сказала абодвум.— Пакуль куды ўладкуюся...

— На працу? — спытаў Змачынскі.— Я гэта магу ўладзіць хоць сяння! Але вам трэба не абы працу.

— Андрэй! — зірнула па яго Адэля.— Не забывайся...

— Я ўсё помню! Яна ж жонка рэпрэсіраванага каму-

ністамі. Яна паможа нам! Будзьце гатовы. І заўсёды — дома. Праз некалькі дзён мы да вас заедзем...

Госці пайшлі.

«Жонка рэпрэсіраванага камуністамі... Сяння... Сybота... Зноў выпаўзлі з цёмных кутkoў розныя прайдзісветы. Адэля баіцца Змачынскага, не абразіла...» — павольі ідучы ў хату, з палёгкай думала Кацярына.

Міхась сядзеў на тым жа месцы, ля стала. Убачыўшы Кацярыну, падняўся насустрач і ціха, лагодна сказаў:

— Колькі ты атрымала задатку, жонка рэпрэсіраванага камуністамі?

— Вось.

Кацярына кінула на стол скамечаныя паперкі.

— Малавата. Але сувязь з гэтымі можна скарыстаць.

— Фашысты праклятыя.

— Гэта праўда. Ды толькі іншы раз і яны, бывае, памагаюць. Адным словам, будзем чакаць добрай парады ад старэйшых. А цяпер — я павінен трапіць у наш арсенал.

Кацярына пайшла падзяжурыць, а Міхась непрыкметна прабраўся ў гародчык, пакорпаўся там дзеля прылікy, агледзеўся і пайшоў за сцяну дома.

«Ні разу не быў, а ўсё ведае, што і як і куды пайсці. А можа, быў? Можа, прыходзіў раней?» — вяртаючыся ў хату, падумала Кацярына.

* * *

Вечарам, як хмара, нахлынула трывога.

Адкуль яна ўзялася? Ці ад таго, што Кацярынін асабняк часта пачалі наведваць розныя людзі, у тым ліку і ворагі? Ці ад таго, што непадалёк ад яе хаты працуюць двое самых дарагіх людзей, а па дарозе часта праязджаюць у лагер і з лагера варожыя салдаты? Ці, можа, таму трывожна на душы, што, здалося ёй, хтосьці прабраўся на двор...

Кацярына прыслухалася. Ціха, нідзе нікога не чутно. Толькі дзесьці далёка за лугам прагучаў адзінокі стрэл.

«Чаму ж не даюць ніякага задання мне? Няўжо не давяраюць з-за гэтых паліцаяў? Але ж я і так шмат чаго ведаю... Відаць, у суседнім падвале апрача друкарні ёсць і зброя. Змачынскі казаў — сустракаюся з падазронымі людзьмі. Значыць, за маёй хатай цяпер будуць назіраць. Няўжо гэтага не ведаюць прафесар і яго таварышы?»

Шмат розных пытанняў вярцелася ў Кацярынінай га-

лаве, але адказаць на іх не было каму. Яна крыху здагадвалася, што яе не пасылалі нікуды не таму, што не давяралі, а таму, каб захаваць у сакрэце гэты куточак, дзе збіраюцца і працуюць партызаны. І толькі таму не крыўдзілася.

Па вокнах, як бліскавіца, разанула святло фар. Недзе далёка пачуліся стрэлы. Гулі самалёты. Вайна была ўсюды: у небе, на фронце, у лясах, за сцяной хаты, у кожным кутку. Таму і трывожна Кацярыне. Трывожна, як ніколі. І страшна, што яна, Кацярына, раптам нібыта адышла ад гэтай вайны, якая, мусіць, ніколі не скончыцца.

У сенцах раптам Міхасёў голас:

— Запомні і перадай дакладна... У дзве гадзіны...

А каму гаварыліся гэтыя словы, што трэба было перадаць, яна не пачула. І адразу стала неяк надзвычай ціха. Нават не ўлавіла гукаў крокаў, хоць здагадалася — пайшлі з сянец. Міхась і яшчэ нехта.

Услухалася і адчула, што нехта бухае за хатай па тугой муражыне. Кацярына зірнула ў акно. На лузе цямнела далёкая постаць. Другая, больш прыкметная, кралася паўз плот. Чым больш углядалася ў яе Кацярына, тым мацней пачынала бухаць сэрца. «Няўжо? Няўжо гэта яна? Ці хто з Міхасёвых знаёмых?» Кацярына да болю ў вачах напружыла зрок. Памылкі не было. Ля плота стаяла Адэля і пазірала на суседскі двор, туды, дзе арсенал, дзе куецца зброя...

Дык вось адкуль тая невядомая трывога! «Калі Адэля бачыла, як Міхась пайшоў у падвал, то ўсё прапала. Відаць, яна тут не адна...»

Кацярына асцярожна, каб не рыпнулі, адчыніла дзверы і выйшла ў сенцы. Адсюль, з сянец, можна праз шчыліны ў дошках назіраць за дваром, за гародчыкам.

Чорны цень ля плота стаяў нерухома. Нідзе ні гуку. Значыць, Міхась ужо ў склепе. Адэля глядзіць туды. Значыць, яна яго бачыла. Цяпер не ведае, дзе знік чалавек. І хоча знайсці яго сляды...

Ясна было адно: за ўсім, што робіцца ў хаце і на двары наладжана слежка. Кацярына ўяўляла, якая пагроза навісла над усімі, хто хоць раз наведаў яе.

Вось цень паволі пасунуўся ўздоўж плота. Вось ён ужо за плотам. Што рабіць? Толькі стаяць і назіраць — карысці мала. «Знойдзе ўваход у мур ці не?» — з трывогай падумала Кацярына. І не ўстаяла на месцы. Працягнула правую руку і ўзяла рыдлёўку, якой нядаўна засыпала

магілу невядомага салдата. Стаілася. Цень вужам выпаўз на вуліцу. Кацярына вырашыла пайсці следам, каб дазнацца, хто яшчэ прыходзіў сюды з Адэляй.

Ноч была цёмная і цёплая. З горада цягнула нечым гарэлым. Кацярына ледзь стрымлівалася, каб хоць выпадкова не кашлянуць, бо за Адэляй угнацца было цяжка.

Сціскаючы ў руках рыдлёўку, яна тулілася больш да прысад, да платоў.

І калі паабапал пацягнуўся высокі плот, за якім чарнелі хаты, спынілася за дрэвам. Якраз на дарозе, крыху далей ад яе, нехта стаяў. Да яго і падышла Адэля.

— Ну што, пікетчыца-разведчыца? Што чула-бачыла? — пачуўся хрыплы незнаёмы голас.

— Шмат чаго, дурань ты гэткі! — непрыязна адказала Адэля.— Тая гадзюка, як я і думала, хавае партызан. Факт, а не рэклама, дурань...

— Дзе?

— На суседнім двары.

— Садзіся хутчэй, паедзем да Змачынскага і накрыем цёпленькіх...

Толькі цяпер Кацярына заўважыла ля самага плота чорную доўгую машыну.

«Усё прапала! Трэба хуценька бегчы назад і перадаць Міхасю і Пятру, што іх высачылі ворагі, што Адэля — паліцэйскі агент...»

Падыходзячы да сваёй хаты, Кацярына пачула за спіною гул машыны. «Ці не вярнуліся тыя?» — мільганула думка. Аж пахаладзела ў грудзях. Што было сілы пусцілася яна на двор, зачыніла фортку, ускочыла ў сенцы, засунула завалу і стаілася.

Машына праехала міма.

Кацярына зайшла ў хату і прыпала да акна. Яна ўбачыла, што па дарозе пайшлі не адна, а дзве машыны, што за малой руха́ўся грузавік з салдатамі.

Не трацячы ні хвіліны, Кацярына зноў выбегла на двор, прабралася за плот, узышла на пагарэлішча. Адкінуўшы старыя дошкі, яна адчыніла крышку ўвахода ў падвал і гукнула:

— Міхась! Пятро-о...

Адказу не было. Тады яна пагукала мацней — зноў цішыня. Намацаўшы нагой першую сходачку, Кацярына ступіла на яе і паволі, вобмацкам пачала спускацца.

У падвале было цёмна і ціха. Праход быў завалены нейкімі скрынкамі і жалезам. Пахла фарбай і серай.

— Міхась, Пятро,— зноў паклікала Кацярына. Ёй стала ясна, што ў склепе нікога няма. Прасоўвацца далей небяспечна. Кацярына ведала, што тут не толькі друкаваліся пракламацыі. І яна вярнулася назад.

Калі ішла ў хату, бачыла, як машыны скіравалі на дарогу ў лагер. Крыху супакоілася. Пятро і Міхась не ў арсенале — значыць, і яны нешта ведаюць. Паслала ложак і, не распранаючыся, лягла. Лягла і паглядзела на вокны. І яны раптам асвяціліся далёкай і яркай успышкай. А неўзабаве два моцныя выбухі так скаланулі хату, што аж зазвінелі шыбы. Затухкалі за зялёным лугам кулямёты, заенчылі аўтаматы. І зноў — трэці выбух.

Кацярына падбегла да акна і ўбачыла далёкі прамень пражэктара. Хутка згас і ён. Толькі трапяткое полымя віднелася ў начной цемрадзі, быццам далёкая і яркая зорка.

«Няўжо? Няўжо Міхась і Пятро там? І партызаны? І той, што пайшоў да іх на сувязь? Калі яму было паспець? А можа, партызаны выйшлі ў хвойнік за лагерам і чакалі каманды? Што ж яны зробяць з такой вялікай аховай, з паўнюткай машынай салдат? І чаму хавалі ад мяне, што рыхтуецца напад на лагер?»

Пытанні, пытанні, пытанні...

А над лагерам адна за адною разрываюць цемру чырвоныя ракеты, трашчаць стрэлы і выбухі. Там разгарэўся сапраўдны начны бой...

Па вуліцы зноў прагулі машыны. Адна, другая, трэцяя — іх не злічыць. Спяшалася падмога.

Машыны пайшлі, і сціх бой. Толькі зрэдку ўзляціць угору і рассыплецца зоркамі чырвоная ракета.

Час пацягнуўся марудна. І невядома, колькі было гадзін, калі машыны ішлі назад. Пэўна, шмат, бо на ўсходзе ўжо святлела неба, а за акном ачнуўся і дзынкнуў у шыбу майскі жук. Галава ацяжэла, і Кацярына заснула цяжкім трывожным сном...

Прачнулася яна ад грукату ў дзверы сянец. Усхапілася, зірнула ў акно і знямела ад страху: на двары было поўна немцаў і паліцаяў. «Усё! Гэта канец... Ну, Кацярына, мацуйся! Ты нічога і нікога не ведаеш... Умей трымаць язык за зубамі нават і тады, калі іх выб'юць табе на допыце»,— сказала сабе Кацярына. Накінула на плечы хустку і выйшла ў сенцы.

Відаць, яна мела страшны выгляд, бо двое салдат, што

барабанілі прыкладамі ў сенцы, пры яе з'яўленні адразу падаліся назад, як перад зданню.

— Вам каго трэба? — здзіўляючыся сваёй вытрымцы, спакойна спытала Кацярына і прыкрыла далоняю рот, нібы пазяхнула. Зрабіла такі выгляд, што незадаволена нечаканымі гасцямі, якія патрывожылі яе.

— Партызан! — гыркнуў высокі афіцэр-эсэсавец, штурхнуў яе ў грудзі і прайшоў у сенцы. За ім падаліся салдаты.

Неўзабаве ўсе выйшлі, і афіцэр нешта пагрозліва сказаў салдатам. Тыя ўзялі Кацярыну за рукі, чакаючы новага загаду.

— Пусціце яе! — раптам пачула яна чыйсьці голас і азірнулася. Воддаль, сярод немцаў стаяў Андрэй Змачынскі. Ён падышоў да эсэсаўца і штосьці сказаў яму па-нямецку. Затым растлумачыў Кацярыне:

— Я паведаміў ім, што твайго Стэфана арыштавалі бальшавікі. І яшчэ тое, што калісьці сябравала са мною і нябожчыцай Адэляй...

— Нябожчыцай?! — прыціснула да грудзей рукі Кацярына.

— Ага... Машына, у якой яна ехала сёння ноччу да мяне, трапіла на міну.

— Як шкада...

— Не так яе, як маю машыну...

Змачынскі зноў звярнуўся да фашыстаў, пачаў ім штосьці хутка-хутка гаварыць. Кацярына падумала: «Значыць, Адэля не справілася данесці... Яны нічога не ведаюць пра падпольшчыкаў!»

Яна ўлавіла знаёмае:

— Іх вэрдэ ірэ бітэ міт фэргнюген эрфюллен! [1]

Гэта сказаў Змачынскі. Яму адказаў афіцэр:

— Вір хабэн ніхтс дагеген [2].

Потым гаварылі яшчэ нешта. Эсэсавец уважліва выслухаў начальніка паліцыі, абыякава зірнуў на Кацярыну, нешта адказаў і пайшоў у машыну.

Неўзабаве немцы паехалі з двара.

— Ведаеш што... — Змачынскі стаў насупраць Кацярыны і паклаў руку на кабуру пісталета.— Мне загадалі цябе арыштаваць. Адразу ж...

— За што?

---

[1] — Я з задавальненнем выканаю вашу просьбу!
[2] — Мы не супраць.

— Вось гэтага я не ведаю. Толькі я папрасіў, каб цябе пакінулі дома.

— Дзякую.

— Але ж не для таго, каб ты нічога для нас не рабіла.

— А-а, задатак...

— Вось іменна.

— А што мне рабіць?

— Замяніць нам Адэлю.

— Як гэта?

— Як прыйдзецца. Даносіць на кожнага падазронага чалавека, хадзіць у разведку, выконваць любое заданне паліцыі і гестапа. У нас добра плоцяць...

— Я ж ніколі гэтай справай не займалася. Ці адужаю?

— Паможам...

— Што ж, я згодна,— не разумеючы нават сэнсу сваіх слоў, механічна адказала Кацярына. Яе думкі былі заняты адным: «Адэлі больш няма... Якое гэта шчасце, што няма чалавека. За ёй, відаць, сачылі нашы...»

— Тады прыйдзеш заўтра проста ў мой кабінет,— ухмыльнуўся Змачынскі і працягнуў нейкую паперку.— Тут адрас. А пакуль нам не да цябе...

Двор апусцеў.

Кацярына села на лаўку пад рабінай і толькі тады адчула, што ў яе зусім не засталося сіл, што ў галаве стаіць звон, а душу быццам пячэ гарачае вуголле. Што ад яе хочуць гэтыя фашысты і іх паслугачы? Не Стэфан, здагадалася Кацярына, выратаваў яе ад арышту, а нейкі хітры план Змачынскага.

* * *

Чым даўжэй цягнулася вайна, тым больш страт неслі на франтах фашысты, тым цяжэй было ім вербаваць сабе на службу розных адшчапенцаў. Невялікая колькасць эміграцкіх паслугачоў выступіла заадно з фашыстамі, спадзеючыся з іх дапамогай дарвацца да ўлады. Цяпер, адчуваючы, што фашысты іх не ўратуюць, гэтыя антынародныя дзеячы пачалі ўсё часцей азірацца на Захад, шукаючы сабе новае прыстанішча на ўсякі выпадак. Яны ведалі — Гітлер губляе сваю былую сілу з кожным днём. Ім было ўсё роўна — Германія ці Англія, Канада ці Амерыка. Яны заўсёды гатовы былі здрадзіць любому гаспадару, які церпіць паражэнне. Галоўнае для іх не на-

род, не яго воля і свабода. Яны гатовы былі служыць нават самому д'яблу, толькі б ён гарантаваў ім жыццё і бяспеку, толькі б карміў са свайго стала. І хоць з кожным днём іх стол няўхільна бяднеў, яны, гэтыя фашысцкія паслугачы, вынюхвалі падпольшчыкаў з адданасцю сабакі, як сваіх патэнцыяльных праціўнікаў, складалі вялізныя спісы «ненадзейных», удзельнічалі ў арыштах і пагромах, узначальвалі карныя экспедыцыі...

Пасля не зусім удалага налёту партызан на лагер ваеннапалонных шмат якія падпольшчыкі вымушаны былі пайсці ў лясы. Бездакорныя аўсвайсы, якія даставаў прафесар, не ў сілах былі гарантаваць бяспеку ўсім. Але ж і ў горадзе патрэбны свае, надзейныя людзі...

І вось двое ўцекачоў па загаду свайго непасрэднага начальніка вярталіся ў горад. Яны ехалі ў новенькіх драбінках, засцеленых свежым зялёным сенам, весела падганялі малога касматага коніка і смалілі самасад. Адзін з іх быў малады, чарнабровы хлопец, а другі — пасівелы, дужы мужчына з мыліцай на каленях.

У горад вярталіся Пятро Хвыля і Міхась Паходня. Немаладая жанчына, што сядзела ззаду, не зважаючы на цеплыню, была ў старым кажуху і шэрай цёплай хустцы. Гэта — гаспадыня коніка і драбінак.

Ля самага горада іх спынілі двое паліцэйскіх.

— Хто? Адкуль едзіце? — узяў каня за аброць рослы руды паліцай, бліскаючы залатым зубам.

— Дамоў едзем! — весела адказаў Паходня.— Чаравічкі збылі, шпэк і яйкі набылі,— і наўмысна ўсунуў руку ў сена.

— Што хаваеш? Ну, злазь далой! — загадаў усё той жа руды.

— Куды ж мне, калеку,— паспрабаваў быў узмаліцца Міхась Паходня, але яго і слухаць не хацелі. У момант усе трое стаялі на зямлі. Вазок перапаролі. Кавалкі вяндліны, сала, вянок цыбулі, кошык з яйкамі і пляшку самагонкі — усё паклалі на траву.

— Аўсвайсы! — падазрона зірнуў на «шпікулянтаў» другі паліцай. Праверылі аўсвайсы. Аддалі. Усё ў парадку.

Руды скасавурыўся на пляшку.

— Гэта не дазволена! — і ўзяў у рукі. Панюхаў, глынуў слінкі.— Рэквізуем...

— А я і не ведаў,— махнуў рукою Міхась.

Заадно з гарэлкай паліцаі ўзялі кавалак сала. Пятро быў памкнуўся адабраць сала, але Паходня спыніў яго:

— Не руш, Неця... Ім жа таксама есці хочацца, не дужа смачна кормяць і не доўга будуць...

— Пагавары яшчэ тута! Без цябе ўсё добра ведаем,— пагразіў руды і да старой: — А ты, бабулька, дуй назад, а то зыркне твой конік. Ну, жыва!

— Га-а? — азвалася старая, скрывіўшы галаву.

— Яна зусім глухая,— сказаў Міхась і на самае вуха ёй крыкнуў:— Гані дамоў, цётка Вера, дзякую! Як-небудзь цяпер дашкандыбаю...

Бабка спрытна ўзабралася на драбіны і сцебанула каня ляйчынамі па круглых баках:

— Нэ-э-э!

Той нібы толькі гэтага і чакаў, ускінуў малую галаву і з месца рвануў трухам. Толькі пыл закурэў на дарозе...

Калі паліцаі пайшлі сваёй дарогай, па нейкай сцяжынцы, што вяла да адзінага трохпавярховага будынка сярод поля, Пятро сабраў рэшткі з зямлі ў торбу, ускінуў сабе на плечы і ціха сказаў:

— Што б він спух, такі кавалак цапнуў!

— Нічога, сынку, пражывём і з гэтым,— усміхнуўся Паходня, лоўка падхапіў кошычак з яйкамі і пакрочыў наперадзе.

— Нам жа шчэ трэба маты памагчы...

— І маці паможам. Вось толькі ці сустрэнем яе зноў. Прафесар перадаў, што яе часта выклікаюць у паліцэйскі ўчастак, правяраюць — ці можна завербаваць сабе на службу. Яна ўжо ім паслужыць!

— Шкада маты. І арсенал...

— Арсенал яшчэ не раскрыты...

Ішлі-кандыбалі, ціха гутарылі між сабой, быццам бацька з сынам. А зайшлі на гарадскую вуліцу, змяшаліся з жыхарамі, зніклі ў іх мітуслівым віры, як саломінка ў стозе.

Спаткалася Кацярына з Міхасём ужо на другі дзень. Яна, як звычайна, выйшла раніцою на базар, захапіўшы з сабою ўсё той жа стары гадзіннік, пачак швейных іголак і яшчэ нейкую дробязь. І, як звычайна, у яе сёе-тое куплялі. Толькі не гадзіннік. І грошы былі. І звесткі атрымлівала. Першай было: «Правал! Яўка на яе кватэры закрыта. За ёй будуць сачыць, падашлюць правакатара. Яго трэба выдаць паліцыі...»

Затым Кацярына падышла да ўмоўленага месца і заўважыла Міхася Паходню. Ён сядзеў проста на зямлі, а

перад ім на рудай паперы ляжаў ладны кавалак вяндліны.

«Жывы! Дзякуй богу!» — было першай думкай.

— Колькі просіце за гэта? — паказала на вяндліну і ўсміхнулася Кацярына.

— Мяняю, гаспадынька. Пакаштуйце — смаката!

Кацярына нахілілася, быццам разглядаючы вяндліну, а сама ціха спытала:

— Пятро жывы?

— Ага... Добрае мяса! Вэнджанае!

Паўзбоч праходзілі людзі, і таму даводзілася размаўляць так, каб ніхто нічога не зразумеў.

— Дзе ён?

— Са мною. Мы жывём на Усходняй вуліцы...

Падышлі новыя пакупнікі. Кацярына хуценька ўзяла вяндліну ў рукі, узважыла.

— Кіло будзе?

— Больш! — запярэчыў Міхась.

— Вось за гэта колькі дадзіце? — і працягнула Паходню свой гадзіннік.

Той адразу кінуў гадзіннік сабе ў кішэню і дастаў з торбы яшчэ кавалак сала, дзесятак яек.

— Столькі будзе дос?

— Трошкі надбаў.

Ён паклаў яшчэ сала.

— Досыць! — І калі нікога паблізу не было, аддаў гадзіннік назад.— Запомні! Гэтую цацку больш не паказвай. Ні заўтра, ні паслязаўтра.

— Добра... Што яшчэ чуваць?

— З лагера ўсё ж сотні тры ўцякло.

— А яшчэ...

— Кузьмічовы хлопцы знішчылі гадзюку Адэлю. Дужа яна прынюхвалася да цябе.

— Дык гэта Кузьміч! А Змачынскі казаў — наехалі на міну. Сёння мне трэба ісці да яго,— спахмурнела Кацярына.

— А ты не хвалюйся! Ідзі дадому. Ты ім не патрэбна. Пад рознымі прапановамі да цябе будуць прыязджаць розныя здраднікі-прахвосты. Яўка раскрыта не зусім. У іх няма доказаў, бо няма Адэлі.

Паходня засмяяўся, але смех той быў зусім не вясёлы. Кацярыне здалося, што і твар яго зблажэў, стаў сіні, нібы ў мерцвяка. Яна ішла ад яго, а на душы было трывожна. Фашысты маглі арыштаваць яе кожную хвіліну. Але яны пакуль не робяць гэтага. Яны думаюць злавіць у яе на

кватэры партызан-падпольшчыкаў. Нешта ж яны ды ведаюць...

Як сказаў Паходня, так і здарылася. Ля варот стаяла нямецкая машына. Прыехаў сам Змачынскі. Ён нейкім чынам адчыніў дзверы, забраўся за стол і піў там гарэлку. На белай паперы валяліся кавалачкі ружовай кілбасы і рыбы.

Калі Кацярына зайшла за парог, паспеўшы схаваць свой пакунак у сенцах, паліцай адразу падняўся і сказаў:

— Нешта ты дужа асмялела, што пакідаеш хату адчыненай! А я прыехаў выпадкова...

— То сядайце і рабіце сваю справу,— пасцярожана адказала Кацярына.

— Хіба ты забылася, як мяне завуць?

— Не. Вас завуць Андрэй.

— Ха! Малайчына! — Ён выйшаў з-за стала і наблізіўся да Кацярыны, дыхнуў у твар перагарам.— Я сяння зусім свабодны ад службовых абавязкаў. Мы можам быць больш шчырымі...

— У чым? — крыху адступіла Кацярына. Ёй стала страшна. Яна ж зусім адна з гэтым здраднікам і бандытам, у яе так мала сілы.

— Ва ўсім! Вось, напрыклад, скажы, даражэнькая, дзе тут сустракаюцца партызаны? Адэля заўсёды мне гаварыла, што тут недзе павінна быць явачная кватэра...

— Няўжо вы думаеце — у мяне?

— Бачу, што не-е! Але справа не ў гэтым. Спачатку вось што трэба. Падпішы, і ўсё,— ён дастаў з кішэні і падаў Кацярыне складзеную папалам паперыну.

Кацярына прачытала напісанае па-беларуску, спытала:

— Што гэта там яшчэ на нямецкай мове?

— Тое ж самае.

— Але ж я не жадаю больш нікуды ехаць, а жыць дома,— паціснула яна плячыма.— Я зусім старая, а тыя вашы надзейныя людзі, мусіць, самі партызаны, бо нічога яны не ведаюць... Я не жадаю з імі сустракацца.

— Хіба гэта мае значэнне, што ты жадаеш, а што не жадаеш? — Усміхаючыся, Змачынскі так сціснуў ёй руку вышэй локця, што Кацярына аж ускрыкнула. Яна зразумела, што адмаўляцца не мае ніякага сэнсу, яе прымусяць падпісацца сілай. Яна заўважыла на двары яшчэ двух паліцэйскіх.

— Добра... Давайце, падпішу. Ад вас не адчэпішся...

— Так будзе лепш.

— Не думаю...— Кацярына падпісала паперку і, вяртаючы яе, дадала: — Колькі дзён вы даеце мне на зборы?

— Дні два-тры... Гэтага будзе дастаткова, каб сабрацца пажыць крыху далей ад горада,— зноў сядаючы да стала і наліваючы сабе з пляскатай бутэлькі, сказаў Змачынскі.— Ты павінна быць крышку больш актыўнаю, працаваць, як Адэля, чорт бы цябе ўзяў! Ясна? І калі хоць раз ашукаеш, то...

— Ведаю,— ціха перабіла Кацярына.— Ад вас дабра не чакай. Абы самі не чапалі...

А позна ўвечары, калі крыху адлягло на сэрцы і Кацярына ўжо клалася спаць, хтосьці пастукаў у акно.

— Адчыніце, калі ласка,— пачуўся глухі мужчынскі голас.

— Хто там? — адзеючыся, хуценька спытала Кацярына.

— Свае. Іду ў горад шукаць працу.

— Дык і ідзі.

— Цяпер жа нельга. Камендանцкая гадзіна. Ды мне хоць бы на падлозе пераспаць...

— Дакументы ў вас якія ёсць?

— Якія цяпер, кабетка, дакументы...

Яна ведала, што гэта — правакатар. Па ўмове яна павінна пусціць яго ў хату, збегаць да першага паліцэйскага паста і данесці на прышэльца. Якая брудная справа! Падумала пра паперку, пра Міхася. «Дзеля іх трэба рабіць усё, памагаць сваім людзям, а ворага звесці ў зман...» — падумала Кацярына. Хуценька завязала хустку, ускінула на плечы летняе паліто, падышла да акна і сказала:

— Ідзіце ў сенцы і па драбінах лезьце на гарышча. Там ёсць салома і коўдра. У хату я вас не пушчу... Спакойнай ночы.

Калі дошкі на столі зарыпелі, Кацярына хуценька вылезла ў акно, перабегла гародчык і — на вуліцу. У хуткім часе ўжо дакладвала патрулю:

— У маёй хаце нейкі невядомы чалавек. Ідзе з вёскі ў горад, можа, які партызан...

Двое паліцаяў і адзін немец, пакуль яна гаварыла, асвятлялі твар ліхтарыкамі.

— Дзе жывеш? — спытаў паліцай.

— На самым канцы вуліцы.

— Пайшлі.

Незнаёмага арыштавалі.

«Змачынскі будзе рады, а мне, хоць і ведаю ўсё, аж брыдка, быццам і праўда чалавека прадала ворагу...» — з такімі думкамі Кацярына і заснула.

* * *

Удзень зусім нечакана прышкандыбаў Паходня. Ён быў вельмі стомлены, нейкі звялы, непазнавальны. Адно вочы яго, па-ранейшаму прыгожыя, арлінbegыя, глядзелі зухавата.

Іншым разам Кацярына кінулася б яму насустрач, акрыяла душою, а цяпер чамусьці ў яе не было ніякай радасці, ніякага парыву пачуццяў. «Няўжо так счарсцвела душа, няўжо ніколі не адыдзе?» — чакаючы Міхася на лаўцы, падумала Кацярына.

Пасунулася, дала яму месца.

— Садзіся і расказвай, што новага.

— А ў цябе? — Ён з-пад ілба зірнуў на яе бледны твар, у глыбокія сінія вочы.

Што магла адказаць Кацярына? Што ў яе новага? І яна адказала так сабе, загадкава:

— Ад ліха ціха і дабра не чуваць.

— А ў мяне сёе-тое ёсць...— Міхась палез у кішэню, дастаў капшук, паперу і пачаў круціць цыгарку.

— Можа, з'еў бы што? — зірнула на цыгарку Кацярына. Яна помніла, як Стэфан, калі дужа хацеў есці, часта курыў і даводзіў, што гэта вельмі памагае.

— А ты не пытайся. Прынясі, і ўсё...

Яна пайшла, прынесла хлеб і сала. Міхась узяў пачастунак, паклаў побач на лаўку. Загаварыў жартам:

— Частуеш госця яго салам!

— А чым жа яшчэ? — Яна села побач, па другі бок ад пачастунка, зірнула сумна: — Не смалі, а еш...

Паходня глыбока зацягнуўся цыгаркай і, выпускаючы дым, нібы ім давячыся, вымавіў цяжка:

— Наш механік... дарагі Кузьміч...

— Што?!

— Падарваўся на міне.

Кацярына хапілася за грудзі, вочы адразу наліліся слязьмі.

— Божа... Кузьміч...

Яна не магла гаварыць, нібыта застыла на месцы. Нават не кранецца, не міргне вокам. Вусны аж пабялелі. Яны былі нібы нежывыя. А Паходня гаварыў:

— Такая ўжо наша прафесія: падрыўнік памыляецца

толькі раз у жыцці. Падрыхтаваў машыну нейкаму генералу, а прыйшоў начальнік паліцыі і прывёў з сабою прафесара. Яны селі ў машыну. Наш прафесар гучна сказаў: «Куды мы паедзем?» «Куды павязу!» — груба адказаў паліцэйскі сабака. Кузьміч, відаць, вырашыў зняць міну, а яна ўзарвалася. І ўсё...

Крыху адлягло на сэрцы, і Кацярына ціха спытала:

— А прафесар?

— Ён астаўся жывы. Загінуў толькі вусаты паліцай, капітан, той, што аплакваў Адэлю.

— Змачынскі?!

— Ага...

— Гэта добра, што Змачынскі... Але Кузьміч! Я больш яго ніколі не ўбачу. Ніколі...

— Ніколі, Кацярына,— паківаў галавою Міхась, зноў зацягнуўся цыгаркай. І курыў, дыміў, душачыся даўкімі каўткамі дыму.

— А дзе Пятро? — зноў спытала Кацярына.

— Яшчэ пакуль у горадзе. Ён адпомсціў за Кузьміча. Учора днём падарваў грузавік з салдатамі. Сёння яго апошняя дыверсія тут, за плотам. Ах, Пятро, Пятро! Не паслухаўся нас, сам вырашыў...

— Што ён будзе ўзрываць? — насцярожылася яна.

— Арсенал.

— Навошта?

—Там захавана шмат узрыўчаткі. Дык вось, каб яна дарма не прапала, ён вырашыў скарыстаць, пусціць у работу. Вынесці — позна, бо за тваёй хатай сочаць.

— Дык няхай ляжыць. Навошта дарма глуміць дабро?

— Не дарма,— ціха сказаў Паходня.— Пятроў план наколькі неабдуманы, настолькі і смелы. Ён хоча сабраць як мага больш фашыстаў, спусціцца ў падвал і... узарваць усё. А сам выйдзе праз запасны ход, які мы раней пракапалі. Аж да кустоў...

— А што рабіць нам?

— Пакуль нікога няма, трэба падавацца да сваіх, у лес...

— У лес?

— А куды ж? Абы ўсё ладна было...

На душы крыху адлягло.

— Я больш ніколі не застануся адна,— у задуменні сказала Кацярына.— Мне хочацца, каб і прафесар, і доктар, і Надзея — усе, усе! — пайшлі ў лес, узялі ў рукі зброю.

— Не ведаю, ці вырвецца на волю наш прафесар. Доктар — таксама. Вельмі ўсё складана атрымалася... Праўда, выбух ля гаража зняў з прафесара падазрэнне. Фашысты лічаць, што і яго хацелі падарваць, як здрадніка...

— Усе працуюць, адна я нічога асаблівага не зрабіла...

— Ты вярнула ў строй цэлы ўзвод байцоў! — загарэўся Паходня.— Гэта вялікая справа, Кацярына. Адсюль узяў пачатак першы налёт на лагер — і гэта частка твайго подзвігу...

— Мала...

— Для цябе спраў хопіць і там, у лесе.

Потым яны пачалі збірацца. Узялі самае неабходнае і каштоўнае. У восем гадзін пайшла Кацярына. Яна павінна была спыніцца ў вёсцы Калінаўцы на начлег.

Туды прыедзе і Міхась. Па яго павінны прыслаць фурманку. Іх там сустрэнуць сувязныя, адвязуць у атрад.

Так сказаў Паходня.

Ён стаяў ля хаты, у маліннiку, і махаў рукою. Кацярына часта азіралася і ўсё гэта бачыла. Ёй чамусьці здавалася, што Міхась развітваецца з ёй назаўсёды. Кепку ён не надзеў. Стаяў, абапершыся на мыліцу, і не кратаўся з месца. Сэрца ў Кацярыны сціснулася ад жалю да яго, што не можа ісці разам, а застаецца чакаць фурманку. Ці прыйдзе яна, тая фурманка?

На ўзгорку зноў азірнулася. Паходня быў на тым жа месцы. Кацярына пастаяла крыху, паглядзела, а потым пайшла так павольна, што, здавалася, выйшла на прагулку. Ісці было цяжка, маркотна. Яна ўпершыню ў жыцці пакідала свой дом, сваё гняздо. Але чым далей адыходзіла Кацярына, тым лягчэй была хада. Ёй ужо здавалася, што яна жыла да гэтага часу нібы прыкаваная да сваёй хаты цяжкімі ланцугамі, а цяпер парвала тыя ланцугі і ляціць на волю, як птушка з роднага гнязда. Яе хатай цяпер будзе цэлы свет! Усе сыны яе ў лесе, як арлы на волі...

Ёй раптам так захацелася да сваіх сыноў, што яна прыбавіла кроку. Прыемна было ўдыхаць густое паветра, настоенае маладым смалістым сасняком, разагрэтым за дзень сонцам. Яна ўпершыню за доўгі час вайны пачула сапраўдны спеў, убачыла на чырвонай лясной красцы, як калісьці, дзіўнага паласатага чмяля, адчула пад нагамі траву. І ўсяму радавалася: сонцу, паветру, птушкам, краскам, траве.

Калі пачало заходзіць сонца, Кацярына адышлася ўжо

даволі далёка ад горада. Цяпер ёй нічога не пагражала, бо дарога павяла высокім стройным борам. Думалася шмат. Цешыла сустрэча з сынамі, асабліва з тым, першым, Стэфанам. Яна ведала гэтую прычыну, чаму ён ёй асабліва дараг. Але непакоіла і неадступная думка пра апошняга сына — Пятра Хвылю. Сэрцам адчувала, што на рызыкоўную справу пайшоў ён, што хітры і бязлітасны вораг зробіць усё магчымае, каб злавіць адважнага партызана. І тады, ведала Кацярына, Міхась Паходня не пакіне яго ў бядзе аднаго, паможа хлопцу. А як паможа? А сам пасля куды ўцячэ на адной назе?

Спынялася, прыслухвалася — ці едзе хто ўслед? Але апрача пошуму лесу нічога не было чуваць.

І тут прыйшла новая думка — ці прыедзе Міхась нагул? Ці не задумаў ён штосьці і не сказаў ёй, Кацярыне?

Лес пачаў гусцець, перайшоў у непралазны хмызняк. І за гэтым гушчаром-хмызам адразу адкрылася невялічкая вёсачка, хат на дзесяць. Кацярына стала, падумала куды ісці. Угледзела невялічкую хаціну ля ручая, накіравалася туды.

Было ўжо даволі позна, але яшчэ відна. Высокае сіняе неба, на якім ружавелі пярэстыя воблакі, увачавідкі цямнела, нібы апускалася ніжэй. Кацярына падышла да хаціны і пастукала ў дзверы. Яны адразу адчыніліся, і высокая чарнявая жанчына спытала:

— Вы да каго, галубіца?

— Я...— Кацярына глянула на жанчыну і ўжо не магла вымавіць ні слова.— Я да цябе, Аксіння! Да цябе! — нарэшце хапіла сілы сказаць.

Тая наблізілася, нейкі момант глядзела моўчкі на Кацярыну, потым паклала ёй на плячо руку і залілася слязьмі.

— Ка-ця! Кацечка ты мая-аа, любанькая! Бацюхны-ы... Хадзем хутчэй у хату-у, Кацечка, галубіца родненькая-а...

* * *

Калі Кацярына знікла ў хмызняку, Міхась Паходня з палёгкай уздыхнуў.

— Няма, значыць, яшчэ засады... Як гэта добра! Хоць раз ды пашанцавала табе, Кацярынка,— ціха сказаў ён.— Цяпер-то ўжо ніхто не пярэйме...

Потым зайшоў за хату, выкапаў у маліннiку заверчаны ў цырату нямецкі ручны кулямёт і дзве скрынкі з лен-

тамі, засеў там жа, у маліnніку, ля самага вугла, і пачаў бачакаць. Яму моцна хацелася курыць, але ён цярпеў. Баяўся нават крануцца, каб заўчасна не выкрыць сваёй засады. Кацярына наказвала яму, каб бярог Пятра, як сваё дзіця, і ён збераджэ яго, што б там ні здарылася! У яго ж, Міхася Паходні, так і не было свайго сына. З першай жонкай пражыў, дарэмна чакаў, а Надзея сказала, што да канца вайны нават няма чаго і думаць звязваць сабе рукі...

«Дзе яна цяпер, Надзея? Ці ў сваёй гаспадыні што робіць, ці ў паходзе, як і я, па сваіх справах, медыцынскіх?»

Вечарэла вельмі марудна. І добра, што з захаду насунуліся чорныя хмары, закрылі сонца. Калі на двары пашарэла, Міхась угледзеў, як да суседняй разваленай будыніны павольна набліжаўся Пятро. Упарты, настойлівы Пятро Хвыля. Гэта ён прыдумаў сабе такую пастку, гэта ён прыслаў Міхасю запіску, што ўзарве «арсенал» з музыкай. «Эх, молада-зелена! — уздыхнуў Міхась.— Спадзяешся на патаемны ход, усё адзін думаеш зрабіць, ні мяне, ні прафесара не спытаў. А мы ж не кінем цябе аднаго, дружа...»

Тут і здарылася тое, чаго так баяўся Паходня: як толькі Пятро наблізіўся да сцяны, яму наперарэз выбеглі двое салдат у зялёных мундзірах, з аўтаматамі на грудзях.

— Хальт! — пачуў Міхась іх галасы і навёў свой кулямёт. Але Пятро адкрыў агонь першы. Два глухія пісталетныя стрэлы — і ён зноў адзін. І зноў, як з-пад зямлі, выраслі аўтаматчыкі, няйначай хочуць хлопца жыўцом узяць...

— Ну, гады, трымайцеся! Перахітрыць уздумалі... Не выйдзе!

Сякануў кулямёт, і фашысты заляглі. І не відаць Пятра. Толькі голас яго аднекуль:

— Дзякую, бацька! Адыходзь!..

А неўзабаве адусюль: з гародаў, з-за дрэў, з-за плота, з вуліцы кінуліся да падвала дзесяткі паліцэйскіх і салдат. І зноў пад шалёнай віхурай агню адкаціліся назад. Але ненадоўга. Ужо раўлі на дарозе машыны, праразаючы фарамі вячэрні змрок. З іх на хаду саскоквалі фашысты-эсэсаўцы. Міхасю была добра знаёма іх паганая шэрая форма. І ён ужо нічога не жадаў на свеце — толькі б біць па ненавісных мундзірах, нішчыць ворагаў да аднаго. І ён біў, адцягваючы галоўную ўвагу на сябе, каб даць магчымасць Пятру выканаць свой план і непрыкметна выйсці да хмызнячка, за вішні. Там для яго збавенне...

Ды не даў вораг магчымасці расстраляць усе патроны. Падкраўся ён, хітры і люты, і з-за вугла кінуў гранату.

Змоўк Міхасёў кулямёт. І назаўсёды заціхла мужнае сэрца партызана. Не давялося яму ўбачыць, як дзесяткі фашыстаў забеглі на падмурак, не давялося пачуць магутнага выбуху, ад якога ўсё навокал узляцела ўгору: падмурак, падвал, зямля і сцены. Маліннік за Кацярынінай хатай стаў яго магілай...

Не чуў выбуху нават і Пятро. Калі поўз праз вузкі праход у вішняк, было глуха, быццам хто вушы заткнуў ватай. У канцы прахода выпхнуў сухую вішаньку, высунуў галаву. Пачуў страляніну, агледзеўся. Вужам праслізнуў у вішняк, запоўз за першы кусцік, другі, узняўся на ногі. Прабег так, сагнуўшыся, каб куст закрываў яго ад ворагаў. Вось ужо і апошні кусцік мінуў. Апынуўся на лузе, дзе цямнелі роўныя, даволі высокія копы. І раптам спатыкнуўся на нешта, зваліўся на зямлю. Хацеў падняцца, але чыесьці дужыя рукі ўжо трымалі яго. Пачулася чужая, да неверагоднасці ціхая і далёкая гаворка. Хтосьці аглушыў Пятра ўдарам па галаве...

Потым ужо, як звязанага садзілі ў машыну, побач з шафёрам, пасвятлела ў галаве. Зразумеў Пятро Хвыля, што натрапіў на варожую засаду, што і машыну палічыў капою сена...

Машына паволі развярнулася і рушыла. Але не хутка. Луг быў няроўны, увесь на купінах. Потым трапілася дарожка. Шафёр прыбавіў газу. Святло фараў ужо выхоплівала далёкія збудаванні, калі ў Пятра за спіною глуха прагучаў стрэл. І адразу ж пачулася кароткая каманда:

— Цурык! Шнель! [1]

Шафёр неяк дзіка азірнуўся, ледзь чутна вымавіў:

— Яво-оль [2].

Машына зноў звярнула з дарогі, загойдала па лузе. Былі яшчэ нейкія каманды, пасля якіх згаслі фары і машына скіравала правей, да хвойніка. І ўрэшце Пятро пачуў да болю знаёмы голас:

— Гэты шафёр — цудоўны хлопец! Ён ніколечкі не фашыст...

— Прафесар! — само вырвалася з грудзей.

— Ціха, ціха,— адказаў той, разразаючы нажом вяроў-

---

[1] — Назад! Хутчэй!
[2] — Слухаю.

кі, якімі быў звязаны Пятро.— Вось, трымай на выпадак. Мы яшчэ не зусім на волі, дружа...

Пятро адчуў у сваёй руцэ халодную рукаятку пісталета і моцна сціснуў яе.

Праз машыну мільгалі першыя сасёнкі. Яна раптам звалілася левым бокам у яміну і заглухла.

— Усё! Пабеглі! — скамандаваў прафесар, і яны выйшлі з машыны, не прыкрыўшы дзверцаў. Нешта хуценька загаварыў шафёр, і прафесар некалькі разоў паўтарыў «гут-гут».

— Няхай машыну сцеражэ мой апошні начальнік,— у голасе прафесара адчувалася радасць.— Курт з намі не прападзе.

І яны ўтрох пабеглі ў гушчар хвойніка.

Недзе ззаду адрывіста бумкнуў мінамёт. І амаль у тую ж хвіліну далёка злева прагучаў рэзкі выбух. Затым — другі, трэці. Міны кладаліся ўсё далей і далей.

— Шукай ветру ў полі! — падаў голас прафесар.

Пятро, які бег апошнім (хоць Курт і цудоўны хлопец), ніяк не мог зразумець, адкуль узяўся прафесар і якога гаўптмана ён застрэліў. «Спытаю пасля»,— падумаў ён, адчуваючы, што хвойнік змяніўся гулкім, спакойным борам...

* * *

Амаль усю ноч прагаварыла Кацярына са сваёй былой суседкай Аксінняй, якая таксама жыла адна. Яе муж з самага пачатку вайны ў партызанскім атрадзе. Хатка ў Калінаўцы была яго сястры, якая даўно памерла. Так вось і жыла тут Аксіння, і цяпер ужо яе хатка стала добрым прытулкам для ўсіх, хто б'е ворага.

Раніцою Кацярына зноў чакала і не магла дачакацца Паходні.

Сядзелі яны з Аксінняй на ганку, пазіралі на лясную дарогу і гаварылі, гаварылі. Ужо недзе каля паўдня ўбачылі, як з лесу выйшлі двое. Але то былі партызанскія разведчыкі. Калі яны наблізіліся, Кацярына ўпершыню ўбачыла сваіх узброеных людзей. У аднаго з іх на шапцы была чырвоная істужка, на грудзях аўтамат, за поясам дзве гранаты-лімонкі. Гэта было так непрывычна, што здавалася сном. Стрымліваючы хваляванне, яна паволі падышла насустрач партызанам. І чым бліжэй падыходзіла, тым большым было хваляванне. «Што гэта? Няўжо? Няўжо

ён, мой Стэфан?» — думала Кацярына, узіраючыся на статнага хлопца з аўтаматам. А ён сарваў з галавы шапку, правёў рукою па кучаравых белых валасах і, як малое дзіця, пабег насустрач, раскінуўшы для абдымкаў рукі.

— Маці! Матуля мая! — пачула Кацярына і сама кінулася да партызана.

— Стэфан! Стэфане, любы... Прыйшла я да вас, Стэфан, да ўсіх, родныя мае...

— Матуля...

Яна плакала. Ад нахлынуўшых пачуццяў, ад перажытага, ад шчасця сустрэчы. І калі высахлі слёзы, сказала:

— Чакала тут яшчэ аднаго. Нешта няма...

Другі сувязны-разведчык, што прыйшоў са Стэфанам, сурова паглядзеў на Кацярыну, спахмурнеў.

— Загінуў Міхась Паходня, Кацярына Адамаўна,— не скрываючы праўды, сказаў ён.— Ратуючы другіх, загінуў...

— Каго? — трывожныя думкі зноў астудзілі душу.

— Пятра Хвылю... Дома яны ўжо. І прафесар, і немец адзін з імі,— сказаў Стэфан Каліна.— Адчуў стары, што скончылася яго служба ў фашыстаў, а тут нявыкрутка. Узялі яго на заданне, пасадзілі капітана — хітрую птушку! Але наш прафесар абхітрыў яго. І ў лес...

Кацярына слухала яго і не заўважала, не адчувала гарачых слёз на сваім схуднелым твары. Якія цудоўныя людзі загінулі! Кузьміч, Міхась Паходня... І што за лёс выпаў ёй, Кацярыне, перажыць іх, кожнага адшкадаваць, аплакаць. Кожны праз яе сэрца прайшоў.

І застанецца ў ім назаўсёды...

— А цяпер нам трэба дадому, да бацькі! — асцярожна паклаў ёй на плячо руку Стэфан.— Тут, у лесе, нас чакае фурманка.

Кацярына развіталася з Аксінняй, моцна абняла яе і як сястру пацалавала.

— Глядзі ж... Скончыцца гэтая віхура — зноў разам будзем, у суседстве...

Яна не дагаварыла, махнула рукой і паволі пайшла за партызанамі.

Ехалі доўга. Калі нарэшце спыніліся ля вялікага грознага лесу, цені ад дрэў сталі доўгія, змрочныя. Потым ішлі па кладках да самай выспы, да зямлянак, удала замаскіраваных пад густымі ялінамі.

А на невялічкай палянцы перад зямлянкамі партызаны станавіліся ў строй. Вось сюды, да строю, Стэфан Каліна і падвёў Кацярыну Квяткоўскую.

— Вось ты і дома, матуля,— ціха сказаў ён.— Усе мы рады цябе бачыць. Усе...

Зірнула яна на байцоў і пазнала іх. То былі яе выратаваныя палонныя, яе сыны. Стэфан Каліна стаў у галаве строю. А ў самым канцы, прыціснуўшы рукі да грудзей, не зводзіў з яе шчаслівых воч Пятро Хвыля.

Моўчкі стаяла Кацярына перад сваімі сынамі, моўчкі стаяў перад ёю баявы партызанскі ўзвод. Маўчалі баявыя камандзіры...

Зрабіўшы некалькі крокаў наперад, Кацярына распасцерла рукі і ледзь чутна прамовіла:

— Абнімаю... Усіх вас абнімаю, мае дарагія сынкі...

І пакацілася чутка па зямлі беларускай, што сівая маці водзіць начамі ў бой сваіх адважных і смелых сыноў. І не было фашыстам ратунку там, дзе з'яўлялася з імі старая. Сталі ворагі баяцца той адважнай сівой жанчыны, бо ведалі, што ні куля яе не бярэ, ні граната, што яна, як здань, можа прайсці праз полымя пажараў і стальную браню машын.

Адкуль яна ўзялася, тая чутка, ніхто не ведаў, нават сама Кацярына. Магчыма, гэта была легенда пра якую іншую жанчыну, бо Кацярына ўдзельнічала толькі ў адным баі, калі выйшаў на бітву [illegible] ворагам увесь атрад. Разбіты фашысцкі гарнізон гарэў, а сярод агню і страляніны многія жыхары мястэчка бачылі яе, сівую жанчыну з аўтаматам.

Тады Кацярына, было, усклікнула:

— Наперад, сыны мае! Біце погань фашысцкую...

То быў адзін толькі бой. А легенда жыве. І доўга яшчэ будзе жыць. З пакалення ў пакаленне яе перададуць людзі...

Увесь астатні час Кацярына жыла пры шпіталі, памагала доктару лячыць хворых, таму доктару, які выратаваў ад смерці Пятра Хвылю. Часам яны садзіліся ў вольны час за партызанскі стол і ўспаміналі мінулае, ад даваеннага часу да апошніх дзён. Успаміналі цяжкія дні падполля, мужнага Міхася Паходню, Кузьміча.

Іншы раз Кацярыне здавалася, што на гэтым жыццё і спынілася, самыя вялікія перажыванні засталіся ззаду. А потым раптоўна ўспыхвала душа, набягалі хваляванні і трывогі. «Што яшчэ будзе? Што?» — пыталася ў сябе

Кацярына і не магла знайсці адказу. Адказ прыйшоў сам...

Чацвёрты год грымела вайна.

Спачатку недзе далёка і глуха, як далёкае вывяржэнне вулкана, гула зямля. Потым той гул наблізіўся.

— Нашы войскі пад Лепелем! — хадзілі ў лагеры чуткі.

Ішло з усходу вялікае вызваленне. Фронт накаціўся так нечакана, як некалі ў сорак першым адышоў на ўсход. Ноччу недзе жудасна праспявалі «кацюшы», а раніцой разведчыкі прынеслі шчаслівую вестку:

— Нашы прыйшлі!

Разам са сваімі сынамі Кацярына святкавала свята Перамогі. Спачатку — на плошчы ў родным горадзе, а потым — за сваім старым дубовым сталом, на ўскраіне, дзе канчаўся горад і пачынаўся вялікі зялёны луг...

Сыноў было шаснаццаць.

Перад тым як разляцецца ў розных напрамках, яны сабраліся ў Кацярынінай хаце. Яна, як надзіва, захавалася. Відаць, таму, што ў ёй быў пасля паліцэйскі пост. Безумоўна, ніякіх пажыткаў пасля такіх гаспадароў не засталося, а вось стол і некалькі сваіх, даваенных крэслаў уцалела. Не было ні лыжкі, ні шклянкі. Збіраючы на стол, Кацярына загадала сваім сынам развязаць паходныя торбы. Чаго толькі не было на тым стале! Медныя конаўкі, бляшанкі з-пад кансерваў, тоўстыя фарфоравыя кубкі, нават драўляны коўшык. І было што выпіць, чым закусіць. Не было толькі ўсіх, каго б хацела бачыць Кацярына...

Першы падняў сваю чарку для тосту Стэфан Каліна, высокі прыгожы хлопец з ільнянымі кучаравымі валасамі.

— Дарагія браты мае,— сказаў ён, прыклаўшы правую руку да грудзей.— Я хачу...

Што ён хацеў, ніхто так і не даведаўся, бо ў гэты момант шырока адчыніліся дзверы і на парозе, засланіўшы сабою праём, вырас шыракаплечы мужчына ў вайсковым. Афіцэрскія пагоны капітана, запылены мундзір і рэчавы мяшок за плячыма. Грук! — гулка стукнула па падлозе драўляная нага.

— Дзень добры ў хату, таварышы! — сказаў капітан і зняў шапку, агаліўшы галаву з белымі кучаравымі, як і ў Стэфана Каліны, валасамі.

— Дзень добры! — дружна прывіталіся хлопцы.— Просім, таварыш капітан, да грамады...

Капітан нават не зварухнуўся. Ён глядзеў на Каця-

рыну шчаслівымі, радаснымі вачыма, поўнымі невыказнага хвалявання.

— Жы-вая,— ледзь чутна прамовіў ён.

Кацярына дрыготкімі рукамі паставіла на стол свой кубак і паволі падышла да капітана. Нейкі момант яна глядзела на яго твар, на пагоны, на калодачкі ўрадавых узнагарод. Потым працягнула абедзве рукі і зняможана ўскрыкнула:

— Стэ-фан!!!

І кінулася яму на грудзі.

Ён моцна абняў Кацярыну за плечы і стаяў так, моўчкі, ледзь стрымліваючы нахлынуўшыя слёзы.

А за сталом, устаўшы са сваіх месц, застылі ў нямым здзіўленні шаснаццаць Кацярыніных сыноў...

1969

# ПАД ЧУЖЫМ ПАРОЛЕМ

Аповесць

## ЗОСЯ

Яна з'явілася ў лагеры на майскае свята. Прыйшла і адразу стала сваёй, жаданай.

Абаяльная, русавалосая, з вясёлымі, крыху гарэзлівымі вачамі, Зося авалодала сэрцамі многіх бывалых байцоў. Асабліва ўпадабаў яе радыст Алесь, хлопец непастаяннага характару і лёгкіх паводзін.

— Адкуль ты такая ўзялася? — часта пыталі ў Зосі хлопцы, і яна, ускінуўшы акуратную галоўку з туга заплеценымі косамі, нараспеў адказвала:

— Я не таткіна, я не мамчына, я на вуліцы расла, мяне курыца знясла...

А колькі новых партызанскіх песень прынесла з сабою гэтая неўгамонніца! Асабліва падабалася ўсім адна, самая задуменная і сумная песня пра бабулю, якая, страціўшы свайго дзеда і дачку, падалася з сынамі ў партызаны. Часта Зося спявала і лірычную песню пра зорку свайго шчасця.

> ...Зо-орка, мая зо-ора-ачка,
> Вы-ыблісні з-за хмар,
> Ра-аскажу ўсю го-орыч я
> Ды-ы дзяво-очых ма-ар...

Голас у Зосі быў мяккі, лагодны. Адным словам, разам з дзяўчынай у лагеры пасялілася ціхая радасць. Людзі ўвачавідкі пачалі мяняцца. Суровыя падрыўнікі падабрэлі, усе неяк адразу настроіліся на лірычны лад. Нават такі нелюдзімы чалавек, як капітан Крайко, высокі, з даволі сумным тварам, і той часцей пачаў усміхацца і мармытаць сабе пад нос аднаму яму вядомую песню.

Што ж датычыцца штабных радыстаў, Алеся і Кастуся, то яны напачатку проста разгубіліся. Справа ў тым, што яны мелі сваё ціхае, захаванае ў сэрцах каханне. Іх

кумірам была медыцынская сястра Зіна, дзяўчына непрыкметная і сарамлівая. Хлопцы называлі яе Зорачкай. У яе была вельмі пышная, з залацістым адценнем каса, у якую Зіна заўсёды ўплятала што-небудзь яркае. Навошта ж было цяпер з'явіцца другой, прыгажэйшай, хоць у нечым і падобнай да Зіны, Зоські? Алесь адразу катэгарычна заявіў:

— Ведаеш, Кастусь, у мяне ўсярэдзіне як бы нешта зрушылася. Пакідаю Зіну табе на вечныя часы, каб да гэтай, новенькай, нават не падступаўся. Ясна? Цалуйся цяпер са сваёй сінявокай Зорачкай.

Вочы ў Зіны і сапраўды былі надзвычай сінія, глыбокія, як вячэрнія зоры на ясным небе.

— Ясна,— сказаў Кастусь.— Толькі прашу, дарагі Алесь, ад сваіх слоў потым не адмаўляцца.

— А чаму?

— Ды таму, што не тваім носам пшанічку дзяўбці...

— Гэта яшчэ паглядзім.

Зося ж да ўсіх заляцанняў была абыякавая. Родам яна з-пад Брэста. Як сама расказвала, жыла з маці і братамі. Бацька яе памёр яшчэ ў трыццаць дзевятым. Два старэйшыя браты адступілі з часцямі на ўсход. І калі, нарэшце, маці перабралася да сястры ў горад, яна, Зося, вырашыла падацца ў які-небудзь атрад. Як казала, хоць бульбу абіраць, абы якую карысць прыносіць нашым. Сустрэлася ў дарозе з падрыўнікамі, якія і прывялі дзяўчыну ў лагер...

Ва ўсёй гэтай кароткай і такой звычайнай гісторыі капітан Крайко чамусьці ўгледзеў невялічкую недакладнасць. І тады ж адразу задаў пытанне:

— Вось вы кажаце, з-пад Брэста... Партызан там, як вядома, няма. Дык адкуль жа, дазвольце, вы ведаеце столькі навейшых песень, якія толькі ў лясах і пяюць цяпер?

І глядзеў на дзяўчыну немігаючымі вачамі, чакаў, што яна на гэта скажа. А яна ніколечкі не разгубілася.

— Прыроджанае чуццё,— сказала яна са смехам.— Талент, калі хочаце... Дзе што хоць раз пачую, то ўжо на ўсё жыццё запамінаю. Даходзілі і да нас вашы песні, народ прыносіў...

На тым і скончылася размова.

Зося, прызнаная ўсімі ўпрыгожаннем лагера, сапраўды вяла кухонную гаспадарку, прыдзірліва адносілася да старога кухара, павяла там такую чысціню, што проста люба было цяпер і сталавацца.

Знаёмства яе з Зінай адбылося адразу ж, і трэба ска-

заць, што ў нечым дзяўчаты так сышліся, што сталі неразлучнымі сяброўкамі.

Гэта вельмі спадабалася Кастусю, які яшчэ больш душою пацягнуўся да сваёй Зіны-Зорачкі. Праўда, яго крыху насцярожылі паводзіны новенькай. Неяк адвячоркам, убачыўшы дзяўчат ля шпіталя, Кастусь ціха паклікаў:

— Зорачка!..

Дзяўчаты азірнуліся, як па камандзе. І Кастусю здалося, што на нейкае імгненне Зосіны вочы па-асабліваму ўспыхнулі, у іх адбіўся нейкі спалох.

— Як вы сказалі? — спытала яна.

— Зорачка... Гэта Алесь так Зіну ахрысціў, калі яшчэ разам у школу хадзілі. З адной вёскі яны...

— А-а...

Зося весела засмяялася, ад чаго яе малы кірпаты носік яшчэ больш задраўся ўгору. Вельмі ж яна прыгожая, калі вось так смяецца.

— Давайце і я таксама буду Зорачкай,— загаварыла яна пасля. І тут жа ціха заспявала сваю любімую песню пра шчаслівую зорку дзявочага шчасця...

У сваёй зямлянцы Кастусь расказаў пра выпадак Алесю. Той як сядзеў спіною да таварыша, нават не зварухнуўся.

— Вазьмі на стале запіску, прачытай,— сказаў ён суха.

Кастусь угледзеў на невялічкім століку побач з рацыяй запіску, падышоў, узяў у рукі.

Гэта было данясенне нашага разведчыка з-пад Барысава, якога заслалі ў варожы лагер яшчэ ў пачатку вайны.

«У злучэнне Кавальчука паслана разведчыца з заданнем перадачы дадзеных для дубліравання партызанскіх кастроў у часы прыёму грузаў з самалёта. Мае асобае заданне выйсці на сувязь з дыверсантамі, якіх плануюць паслаць у атрады ў час блакады...— прачытаў Кастусь.— Пароль выхаду на сувязь — Зорка. Аперацыя мае кодавую назву «Сувязь», гэта значыць, захоп або знішчэнне радыстаў...»

Нейкі час ён маўчаў, пільна ўглядаючыся ў няроўныя радкі, напісаныя нейкім вадзяністым чарнілам.

— Ты думаеш, што Зіна...

— Зося,— коратка адказаў Алесь і ўстаў.— Іменна Зося. Толькі што тут быў капітан Крайко. Ён гаварыў, каб мы трымалі вуха востра, каб павялічылі пільнасць і гэтак далей. Нарэшце сказаў, што магчымая «Зорка» — Зося.

— Магчымая? Я пайду і раскажу, як яна рэагуе на гэтае слова! То ж яе, мабыць, пароль...

І Кастусь тут жа выскачыў з зямлянкі. А калі вярнуўся, то Алесь не пазнаў яго твару.

— Што з табою? — узрушана спытаў ён.

— Зося... Толькі што атруцілася.

— Як?!

— Звычайна... У яе была ампула з ядам.

— Крайко выкрыў?

— Не... Яе тут пазнаў адзін сувязны з суседняй брыгады. Убачыў і кажа: «Дзень добры, пані Зося!» А яна збялела і ў адказ: «Усюды ты на маёй дарозе, брыдота!» І хрумснула ампулу. Аказваецца, гэта дачка аднаго былога польскага турэмшчыка і ката заходнебеларускіх камуністаў...

— Хутка ж яна здалася,— расчаравана вымавіў Алесь.

— Крайко памог... Перад гэтым ён назваў яе Зоркай і дадаў, што фашысты памыляюцца, калі разлічваюць на дурняў, маўляў, дарэмна яны сваіх курсантаў прымушаюць развучваць партызанскія песні...

— Што ж, дзякуй богу, што ўсё так гладка абышлося,— цяжка ўздыхнуў Алесь.

І хлопцы пачалі рыхтавацца да чарговага сеанса сувязі з Вялікай зямлёй...

## АКРЫВАЎЛЕНЫ СЛЕД

Сонца паволі, нібы нехаця, падымалася над лесам. Чырвонае, быццам набрынялае крывёю, яно, здавалася, дрыжала, плавілася. Першыя праменні заблыталіся ў верхавінах старых асін, пазалацілі іх бліскучае, шырокае лісце. І адразу пасвятлелі хмурыя шаты тоўстых елак. Заспявала, загаманіла лясная птушыная драбната. Лес ціха шумеў, абуджаны сонцам, птушкамі.

Недзе ў гушчары нягучна пераклікаліся зязюлі. Здавалася, што ўсюды на зямлі, як у гэтым лесе, пануюць цішыня і спакой. Якая падманлівая цішыня! Які нетрывалы спакой!

Колькі ўжо год Кастусь не бачыў іншага пейзажу, а вось сёння ён быў для яго нейкі нібы новы — і ўрачысты і як быццам сумны. Штосьці трывожнае адчувалася ў лясным спакоі, невядомае. Можа таму, што шмат думалася ноччу. Думалася пра Зосю. Жыў чалавек на свеце, пай-

шоў не па той дарозе, заблытаўся, і не стала яго. Колькі б той чалавек мог зрабіць карыснага людзям! Вораг ён Кастусю, а вось шкада, дужа малады ён пайшоў з жыцця, той няшчасны чалавек...

За гады партызанскага жыцця Кастусь звыкся з вечнай небяспекай, звыкся з лесам. Яму амаль перастаў сніцца горад з яго ўтульнымі вуліцамі і шырокімі плошчамі, горад, у якім ён, Кастусь, пражыў усё сваё невялікае жыццё...

Якое-ж яно было?

Спярша, калі яшчэ не хадзіў у школу, штодня гуляў з такімі ж, як сам, пэцкалямі ў вялізным агульным садзе, які раздзялілі між сабою небагатыя жыхары Столкінага двара. Столкін — гэта былы ўладар дзесятка драўляных дамоў, растаўшчык і гандляр, адзінокі і сквапны. Свае збудаванні ён здаваў у арэнду гарадской беднаце за вялікую плату. Кастусь тады ніяк не мог зразумець — навошта аднаму чалавеку столькі дамоў, як ён здолеў іх пабудаваць? Маламу думалася, што Столкін — чалавек незвычайнай сілы і ўмення. І ніяк не мог уцяміць, чаму яны, чатыры душы сям'і, жывуць у адным, не вельмі ўтульным пакоі і нікому не цесна. Толькі падчас галаднавата было ў тыя далёкія гады...

Пазней, калі ўжо добра ведаў, адкуль у Столкіна ўзяліся дамы, калі сам пачынаў чытаць кнігі і спяваў з таварышамі «ад веку мы спалі, і нас разбудзілі», калі замест аднаго пакойчыка яны атрымалі два, жыццё пайшло лепшае. З'явіліся першыя клопаты: школа, нескладаныя, але такія цяжкія тады ўрокі, лагодныя словы маці кожную раніцу: «Уставай, сынку, у школу пара!»

Галоўным жа заняткам зімою было катанне з крутой гары, што збягала проста ад варот да самай ракі. На той гары шумлівая дзятва гартавалася, мужнела.

Улетку заўсёды прыязджалі з вёскі сваякі і забіралі Кастуся на ўсё лета гусапасам.

Калі якое лета гусі зводзіліся, дык ён ганяў па лесе вавёрак, спорваў птушыныя гнёзды, а то цэлымі днямі глядзеў у празрыстую ваду невялікай рэчкі, што бегла ў раку Бярозу.

У той ручаіне вадзілася розная рыба, і было яе procьма. Гэта самы цудоўны занятак — лавіць рыбу! З валасні конскага хваста Кастусь віў вуду, чапляў кручок, куплены ў праезджага каравачніка за старое рыззё, і на чарвяка лавіў тоўстых і крыху ляных плотак.

А то, бывала, мацаў у ледзяных норах ракаў і ментузоў.

Здаралася, паляваў з васцямі і на зеленаватага, юркага шчупака...

Потым — тэхнікум. Бывай, вёска! Кастусь ніяк не мог звыкнуцца з думкай, што яму заўсёды прыйдзецца жыць у шумлівым горадзе. Ды звыкся і з думкаю і з горадам. Ужо быў на трэцім курсе, як пачалася вайна...

Дзесяць дзён амаль без прывалаў ішоў і ехаў Кастусь на ўсход. І апынуўся ў Маскве. Потым — школа радыстаў, тры трэніровачныя скачкі з парашутам — і вось ён трэці год у лесе...

Кастусь стаяў ля сваёй зямлянкі і згадваў, колькі пражыве на свеце. Ён верыў зязюлям. Верыў, што пражыве доўга, што змен у жыцці будзе шмат.

Непадалёку ад яго ў густым ельнічку ледзь віднелася штабная зямлянка. Там стаяў з карабінам вартавы. Ён адначасова ахоўваў і іхнюю зямлянку, радыстаў.

Кастусь хацеў падысці да вартавога пагутарыць, як раптам дубовыя дзверы зямлянкі адчыніліся і з-за іх паказалася калматая галава з заспанымі вачамі. Гэта прачнуўся Алесь.

— Зорачка яшчэ не прыходзіла? — жмурачы, як кот, вочы, Алесь гучна пацягнуў таўставатым носам паветра і пачухаў патыліцу.

Такое пытанне ён задаваў свайму сябру кожную раніцу, як заведзены.

— Ты ж адмовіўся ад яе назаўсёды,— абыякава адказаў Кастусь, папраўляючы на папрузе пісталет. Цёмная гімнасцёрка роўнымі складкамі аблягала яго танклявую постаць. І сам ён, чарнявы, рухавы, з жывымі карымі вачамі здаваўся не лясным салдатам, а франтам. Да бляску начышчаныя боты, адпрасаваныя па студэнцкаму метаду звычайныя чорныя штаны, заўсёды белы падкаўнерык, акуратна зачэсаны,— Кастусь быў такім штодня.

— Слухай, Кастусь,— зноў пачаў Алесь.— Зося — гэта мая памылка. Так што лічы — нічога не было, усё застанецца па-ранейшаму.

— Не выйдзе.

— Пажывём — убачым. А цяпер, дружа, скажы, ці праўда, што ўчора доктар Свістуненка, аглядаючы аднаго забітага фашыста, сказаў так: «Першая рана — смяротэльная. Затое дзве другія, на шчасце, лёгкія». Як ты думаеш, ён не памыліўся пры аглядзе, ворага дапытаюць?

— Дактары, бывае, памыляюцца,— адказаў Кастусь, ведаючы, што гэта чарговы Алесеў жарт.

— Так яно і будзе! — паківаў галавою Алесь і схаваўся за дзвярамі.— Як Зіна прыйдзе — грукні! — пачуўся адтуль яго глухі голас.

— Грукну, што не ўстанеш...

Кастусь ухмыльнуўся.

Ён ведаў, што хоць Зіна, іх Зорачка, яшчэ даваенная сяброўка Алеся, але ходзіць яна сюды па іншай прычыне. Вядома, не толькі дзеля таго, каб паслухаць зводку ды жарты, якіх у Алеся на ўсякі выпадак прыпасена багата. Вось жа знойдзе ён час наведаць які-небудзь атрад! А народ там баявы, вясёлы. Ёсць такія аматары-апавядальнікі, што бакі надарвеш, слухаючы іх. Як шкада, што палкоўнік Кавальчук, камандзір злучэння, не дазваляў Кастусю пакідаць зямлянку ні днём ні ноччу! І калі б у хлопца спыталі, якая самая паганая служба, ён адказаў бы — у радыста-шыфравальшчыка. Хоць спраў тут і не дужа многа. Ёсць радыёграмы ў Маскву — перададуць за некалькі хвілін. Няма — толькі наладзяць сувязь у пэўны час і адпачываюць сабе на месцы, у лагеры. Самае далёкае, куды Кастусю дазволена хадзіць, гэта на паляну, побліз лагера.

Тая паляна была цяпер яму самым мілым кутком на свеце: там ён часта, употай ад Алеся, сустракаўся з медсястрой Зінай.

Адным словам, хлопцы-радысты — самі сабе начальнікі. Падпарадкоўваліся яны выключна камандзіру злучэння палкоўніку Кавальчуку, якога проста называлі Паўлам Антонавічам. Таго рэдка калі можна было знайсці ў лагеры: усё гойсаў па брыгадах. Спраў хапала і днём і ноччу. Бывала, вяртаўся пад раніцу, а гадзіны праз тры, ледзь перадыхнуўшы, зноў садзіўся ў сядло...

Паколькі штаб злучэння знаходзіўся пры невялічкім атрадзе з простай назвай «Баец», то аб жыцці і дзейнасці ўсяго злучэння радысты меркавалі па радыёграмах і рэдкіх гутарках з палкоўнікам. Часта новыя звесткі прыносіла хлопцам і Зіна. Яны чакалі яе кожную раніцу, чакалі з невыказнай радасцю і хваляваннем: ці прыйдзе сягоння, чым новым парадуе, на каго лагодней гляне?

Кастусь быў старшым радыстам: усе сакрэтныя шыфры знаходзіліся ў яго. А з такімі дакуменцікамі, вядома, не разгуляешся, бо за іх адказваеш галавой. Каб пазбавіць злучэнне сувязі з Вялікай зямлёй, ворагу не патрэбны

арміі. Дастаткова паслаць з асобым заданнем вось такую дзяўчыну, як Зося. Добра яшчэ, што ў яе было зусім іншае заданне. За радыстамі, вядома, вораг заўсёды сочыць асабліва заўзята, але з радыстаў не зводзілі вачэй і нашы разведчыкі. Між тымі і другімі ішла свая вайна, нябачная звычайнаму байцу. Гэты нябачны фронт знаходзіўся ўсюды і нідзе. Яго цяжка было заўважыць нават спрактыкаванаму воку.

Як стала вядома з апошніх радыёграм, вораг паўсюдна ўзмацніў дыверсіі. Сотні дыверсантаў з розных школ і курсаў, як павукі, разбегліся па ўсёй партызанскай сетцы.

Хто яны, тыя людзі? Як іх адрозніць ад сваіх? Вось жа знайшла сабе прытулак Зорка, уцёрлася ў давер. А цяпер жа кожны дзень у партызанскія рады ўліваюцца ўсё новыя і новыя людзі. Адны ідуць з канцлагераў і палону, другія, «адслужыўшы» ворагу сваё, нарэшце перайшлі да тых, каму сапраўды служылі — да партызан. Трэція, хоць і запознена, браліся за зброю таму, што вайна хутка скончыцца, а яны, бачыце, заўсёды былі патрыётамі сваёй радзімы, толькі ніяк не выпадала пакінуць сваё гняздо. Розныя людзі ішлі да партызан. Іх было шмат. Грузіны, армяне, латышы і літоўцы, беларусы і ўкраінцы, людзі розных нацый і ўзросту, раскіданыя па зямлі вайной, кожны ў меру сваіх сіл і здольнасцей праглі адпомсціць ворагу за пакуты родных і блізкіх, за свае ўласныя пакуты.

І як сярод іх знайсці ворагаў? Яны ж ніякіх спецыяльных адзнак не маюць...

Чакаючы, пакуль Алесь апранецца і выйдзе з зямлянкі, Кастусь яшчэ разы два лічыў кукаванне зязюль.

Але той так і не выйшаў.

Алесь быў ласы на сон. Ён любіў паўтараць: каб чалавек смачна не паеў ды ўволю не паспаў, то навошта і жыць яму, навошта неба капціць.

Кастусю ніяк не ўдавалася высветліць, якому сцвярджэнню з гэтых дзвюх сваіх «жыццёвых канцэпцый» Алесь аддаваў перавагу. Непаваротлівы і ляны, ён мог цэлы дзень праваляцца на мурагу ў цяні, парушаючы гэты свой адпачынак паходам на кухню, дзе спагадлівы кухар-вусач заўсёды меў для яго добры пачастунак, ад якога Алесь пух, як на дражджах. Ён быў дужы хлопец, рослы. Валасы ў яго па галаве раслі такія, што нават не скажаш, якога яны колеру. Ні салома і ні лён. Як ні зачэша іх бядак — усё адно рассыплюцца. Алесь казаў, што яго валасы пасварыліся з маленства і прымірыцца не жа-

даюць. Да жартаў ён быў вялікі ахвотнік і ведаў іх незлічонае мноства. І яшчэ адна зайздросная рыса падабалася Кастусю ў таварышу — смелы быў, як чорт. Толькі неяк дзіўна смелы, па-звярынаму. Перш спалохаецца, а пасля, як той воўк, пачне цікавіцца — а хто ж яго напалохаў і чаму? А ці нельга таго палохальшчыка ды за рогі ўзяць?

Алесь — вясковы хлопец. Ён гаварыў, што як толькі помніць сябе, помніць і начлежныя ночы. Даводзілася часта аднаму вадзіць каня на начлег. Усякіх, казаў, страхаў было. І ні разу ён не прамінаў, каб дазнацца прычыну тых страхаў. А іх — яўных і ўяўных — хапала тады.

Лес, дзе знаходзіўся штаб, сам па сабе невялікі, але надзвычай густы: між высокіх асін і ялін суцэльнай шчэцю рос малады ельнік. З гэтага лесу праз балотца можна выйсці ў Баркоўскую пушчу, якая цягнецца на дзесяткі кіламетраў. Там і цяпер знаходзіцца старая база злучэння. Гэта — зямлянкі, сякі-такі запас жыта, статак кароў ды частка галоўнага багацця — боепрыпасы...

Спыніўшыся на лічбе пяцьдзесят — гэта, паводле зязюль, яшчэ столькі год Кастусю жыць! — ён азірнуўся: да іх ішла Зіна. Прыязджаючы ў шпіталь за медыкаментамі, яна яшчэ ні разу не прамінула радыстаў. Заадно брала ў іх ранішнюю зводку і ехала назад у брыгаду.

«Нешта ж сёння раней звычайнага»,— падумаў Кастусь і непрыкметна грукнуў у дзверы зямлянкі.

Зіна ішла паволі, неяк зусім не сваёй хадою: крок у яе заўсёды бадзёры, хоць і дробны. А тут — ледзьве перастаўляе ногі, ідзе нібы нехаця.

У адной руцэ яна трымала злінялую квяцістую хустку, а ў другой — сваю санітарную сумку. І сіні жакет, і стракатая сукенка, і наглянцаваныя нейкім тлушчам боты — усё, як і на Кастусю, было на ёй акуратна, да ладу.

«Якая яна медсястра! Гора адно — дзяўчынка... Ці ж здолее такая вынесці, калі спатрэбіцца, з бою партызана? Ёй бы ў шпіталі працаваць»,— падумалася Кастусю. Яшчэ ён падумаў, што для іх яна была не проста медсястрою, а крышачку болей, чым роднай сястрою...

— Дзень добры, радысцікі! — падышоўшы, прывіталася Зіна і неяк асабліва ўважліва паглядзела на Кастуся.— Алесь, відаць, яшчэ спіць?

— Як заўсёды, спіць, Зіна.

Кастусь узяў яе за руку і лёгенька, аберуч, пацiснуў ружовую цёплую далонь.

— Цішэй ты, баліць...

— Бачу, сумуеш ты нешта. Ці не па той выпадковай сяброўцы, га?

— Не сумую, Косця, а проста вар'яцею. Усё так нечакана атрымалася...

— Выкінь яе з галавы.

Кастусь яшчэ хацеў нешта сказаць, але не паспеў.

— Прывітанне, маё каханне! — расчыніўшы з грукатам дзверы, раптам выгукнуў Алесь, на хаду зачэсваючы пяцярнёй непаслухмяныя валасы.

— З нашэ́го коха́ння пэўна ніц не бэ́ндзе! — прадэкламавала Зіна і ўсміхнулася яму, але ўсмешка хутка сышла з яе твару.— Хопіць табе, Алесь, пра адно і тое ж кожны дзень. Каханне, каханне,— дадала яна.— Вы ведаеце, што зноў пачынаецца вялікая блакада? Як і ў мінулым годзе. А можа, і яшчэ горшая, страшнейшая...

Хлопцы не адказалі.

Яны яшчэ нічога не ведалі. Яны яшчэ не забыліся жахаў і голаду леташняй блакады, якая пачалася ў гэткі ж час, калі сыходзіў квяцісты май і набліжалася лета. І вось — зноў. Не хацелася верыць, што зноў паўторыцца старое.

— Пойдзем на нашу паляну, пагаворым,— прапанаваў Кастусь, бачачы, што Зіне не вельмі стаіцца на месцы.

— Пойдзем! — адразу згадзілася яна.— Магчыма, хлопцы, мы яе больш не ўбачым...

Ад гэтых слоў і выразу Зінінага твару Алесь адразу спахмурнеў: хоць яна і сказала «хлопцы», але за руку ўзяла аднаго Кастуся. Хацеў, як звычайна, падкалоць яе жартам, але нешта ўсе жарты вылецелі з галавы.

Пасля, калі ўтраіх яны зноў былі на сваёй паляне, Алесь недаверліва спытаў:

— Адкуль ты ўзяла, што будзе блакада?

— Узяла...

— Палкоўнік у брыгады паехаў і нічога нам не сказаў. Калі б што якое наспявала, то мы ўведалі б.

— Але ж не ўведалі.

— Нешта ты апошнім часам вельмі дасведчанай стала, Зорачка! З чаго б гэта?

— Прашу больш не называць мяне так... Чуеце? Гэта датычыць і цябе, Кастусь...

— Слухаем...— адказаў той.— Але ж скажы Алесю — адкуль табе стала вядома пра блакаду?

Яна нібыта задумалася.

— Адкуль узяла? Сама бачыла... Фашысты перапраўіліся на гэты бок Бароўкі,— строга адказала Зіна, зрываючы ружовыя смолкі і сінія званочкі.

— Вось табе, танцор, і вечарынка! — усклікнуў Алесь.— Адразу? А дзе была брыгада Смольскага? Яна ж, як мне помніцца, там займала рубяжы.

— Відаць, адышлі, не спытаўшы твайго дазволу,— непрыязна ўставіў Кастусь. Ён ведаў, што разам з блакадай надоўга губляе сваю каханую. Зноў яна будзе ў паходах і баях, далёка ад іх, а ён, захаваны далей ад грукатні, зажыве, як барсук у нары, пакуль яго не выпаруць, пакуль усе не пойдуць на прарыў блакады...

Зіна перакінула сваю адзіную тоўстую касу наперад і, уплятаючы ў яе званочкі, на хаду прамовіла:

— А мяне перавялі ў штабны шпіталь. Цяпер заўсёды буду з вамі, радысцікі!

Гэта быў як бы адказ яму, Кастусю, але чамусьці ажывіўся адзін толькі Алесь.

— Праўда? — заблішчэлі яго вочы.— Ну, тады, Зіна, нам нішто не страшна!

Кастусь і Зіна, як згаварыўшыся, пераглянуліся.

Алесь заўважыў гэта. Ён не падаў выгляду, што зразумеў нарэшце сваю ролю і месца. Ён умеў, калі трэба, хаваць свае думкі і пачуцці.

У гэты час да іх слыху данёсся аддалены гул самалётаў. Дзесьці ўпалі першыя бомбы, разносячы па лесе глухія грымоты выбухаў.

Растрывожаны лес насцярожана зашумеў. І ўжо не чуваць было птушыных галасоў, нават сонца, здавалася, пачало свяціць горш, яно нібыта пацямнела.

— Вось яно і пачалося,— прамовіў Кастусь, мнучы нагамі ружовыя смолкі. Ён не заўважаў іх. Родная, даўно знаёмая паляна раптам змяніла сваё аблічча, стала чужою, няўтульнаю. Гэта напэўна таму, што яе хутка прыйдзецца пакінуць. А з ёю — і ўсё лепшае, перажытае тут.

Раптам Кастусь спыніўся, падняў руку ўгору.

— Стойце, браткі, нехта стогне,— ціха сказаў ён і насцярожыўся.

Усе трое прыслухаліся.

— А вось, глядзіце, акрываўлены след! — дадаў Алесь, прыпадаючы да зямлі.

Усе ўбачылі прымятую траву, на якой гарэлі чырвоныя кроплі крыві. Яна была яшчэ зусім свежая...

## НАПЯРЭДАДНІ ПАХОДУ

У лагер пачалі прыходзіць трывожныя весткі. А за імі — грымоты. Самалёты бамбілі лес бясконца. Хоць зямлянкі добра хаваліся ў густой зяляніне, але заставацца ў лагеры было небяспечна. Усіх людзей вывелі на абарончыя рубяжы. У лагеры знаходзіліся толькі дзяжурныя ды сувязныя з брыгад.

Неўзабаве сюды прыехаў на сваім каштанавым жарабку палкоўнік Кавальчук. За ім следам з'явіўся і ад'ютант Ілья. Ён адразу павёў коней на канюшню, што была ў якой сотні метраў ад лагера.

Палкоўнік зайшоў у сваю зямлянку, спыніўся ля маленькага акна і расчыніў яго парывістым, нецярплівым рухам, расшпіліў гузікі светла-зялёнага кіцеля. Душна.

У акенца відаць маленькія елачкі. Яны значна падраслі з таго часу, як пабудавалі тут для палкоўніка зямлянку. Яна тады здавалася прасторнай і светлай. Цяпер жа ў ёй няўтульна і цесна. Гэта, мабыць, таму, што за апошнія суткі палкоўнік аб'ездзіў цэлы свет.

Кавальчуку робіцца страшна, ахоплівае трывога. Ён у апошні час чамусьці не любіць адзіноты. Часта ўспамінаецца жонка, дачка Валя. Ужо два гады, як ён знайшоў іх і на самалёце накіраваў за лінію фронту, а вось вестак няма ніякіх. Жывуць, вядома. А як жывуць? Ды ці мала іншых пытанняў у жывога чалавека аб родным, жаданым?

А пакуль — адзінота. Сумная, трывожная адзінота, хоць ён, палкоўнік, кіруе тысячамі людзей. Вось чаму і страшна. Адзін памылковы загад, няўдала распрацаваны план аперацыі можа скончыцца для партызан катастрофай.

Кавальчук перакананы, што калі чалавек адзін, ён нават думаць можа памылкова.

З выгляду палкоўнік быў даволі прыгожы. Высокі, зграбны, з дабрадушным маладым тварам, з пышнымі чарнявымі валасамі, якія заўсёды былі акуратна выкладзены, хоць расчоскі ў руках палкоўніка ніхто ніколі не бачыў. У яго былі лагодныя васільковыя вочы і раздвоены падбародак, строгі профіль і гучны, сакавіты бас. Сапраўдны камандзір! Але ўсе, хто нават ведаў, што палкоўніку Кавальчуку мінуў сорак трэці год, гаварылі — малады. На выгляд яму больш трыццаці і не дасі. Маршчынкі на твары і пад вачамі зусім непрыкметныя, яны нават неабходны, без іх ён быў бы сапраўды яшчэ хлопцам! Кажуць —

яго жыццё было добрае. Якое там добрае, калі яшчэ ў дзевятнаццатым годзе чалавека ставілі да сцяны з завязанымі вачамі...

Але на тым барацьба не скончылася. Пазней — поўдзень. Там хаваліся банды басмачоў і розных лазутчыкаў. Туды і накіравалі вопытнага байца Кавальчука. Адтуль трапіў у шпіталь. Прыехаў дахаты, дык і тут спакою не было: кулацкая куля прабіла плячо. Цяпер зноў пачалося...

...У зямлянку груkнулі. Гэта Віктар Гарун, начальнік штаба злучэння. Палкоўнік павесялеў, павярнуўся яму насустрач, ступіў два крокі.

— З якімі навінамі? — спытаў, стараючыся сам здагадацца, якія навіны прывёз начштаба.

Гарун поўны таямнічай урачыстасці. Апрача кароткага прывітання, ён не гаворыць пакуль нічога. Вочы — невыказная радасць. Свецяцца, як фасфарычныя. Ён, безумоўна, прывёз з сабою новы настрой, новыя думкі.

У яго заўсёды навіны свежыя, добрыя, як сам, бадзёрыя.

Палкоўнік згарае ад нецярпення, але больш нічога не пытае. Няхай той пачне сам.

— Цяжка,— нарэшце вымаўляе Гарун, кладучы на стол дарожны плашч, аператыўны планшэт і свой неразлучны маўзер у драўлянай кабуры. Гэтым словам ён здзіўляе палкоўніка.

— Што — цяжка?

— Націскаюць, гады, з усіх бакоў. Паўзуць, што тыя мурашкі. Сціжма...

Палкоўнік ведае, што начштаба ездзіў у брыгаду Смольскага, каб разам выпрацаваць план абароны, памагчы брыгадзе затрымацца на новых рубяжах.

У зямлянцы можна гаварыць усё, ніхто не пачуе. Дык чаму ж Віктар не гаворыць галоўнага? Няўжо брыгада зноў адышла, не прыняўшы бою?

Апрача нараў і маленькага століка тут ёсць дзве самаробныя табурэткі. Селі.

— Значыць, націскаюць? — не хаваючы ўсмешкі, спытаў палкоўнік і дастаў з кішэні тугі капшук з махоркай.— Закуры і раскажы ўсё як след. А то нешта ў цябе сёння непрычэсаныя думкі.

Віктар спрытна скруціў самакрутку і, пусціўшы сіні дым, звычайна, нібы гаворка ішла аб надвор'і, сказаў:

— Рубеж на Бароўцы мы адбілі яшчэ ноччу...

Дык вось што значыць тая таямнічая ўрачыстасць! Колькі ўжо год ваюць яны разам, а ніяк не зразумее палкоўнік Віктара да канца. Што ў яго за натура? А ні радасці ніколі асаблівай, калі бываюць шчаслівыя хвіліны, ні гора, калі і надарыцца, не заўважыш на яго замкнутым, засяроджаным твары. Усё гэта адбіваецца толькі ў вачах.

Віктар прайшоўся па зямлянцы, зноў паглыбіўшыся ў свае вечныя думкі.

Ніжэй сярэдняга росту, дужы, круглатвары, патрабавальны і акуратны ў справах — вось што мог бы сказаць пра яго кожны партызан. А ці ведалі партызаны, што Віктар Гарун, начштаба, гэты, на першы погляд, прыроджаны ваяка, піша вершы? Не, гэтага ніхто не ведаў, бо цяпер вершы — не галоўнае ў жыцці Гаруна. Галоўнае цяпер — абавязкі начштаба, планы, раз'езды, маршы, загады і планкарта з чырвоным алоўкам у планшэце — яго аператыўная сіла.

— Штаб і ўсю нашу гаспадарку трэба тэрмінова выводзіць у пушчу,— больш не распытваючы аб справах на рачным рубяжы, сказаў Кавальчук.— І ў першую чаргу трэба паклапаціцца пра забеспячэнне атрадаў гаручым. Помні, Віктар.

Не боепрыпасамі, не патронамі, а гаручым. Так заўсёды гаварыў палкоўнік.

— Запасы, уласна кажучы, не дужа вялікія,— адказаў Гарун, спыняючыся каля століка.— Два-тры ўдары, хаця б сабе такія, як на рацэ, і ...пшык!

— Гэта бяда — не бяда. Радысты ж у нас ёсць. Як прыйдзем на старыя базы, дадзім тэлеграму. Аэрадром у нас добры. Няхай раскашэліцца наш Беларускі Штаб партызанскага руху. Дарэчы, цяпер гэтага дабра нам не лімітуюць...

Начштаба глядзеў у расчыненае акенца на зялёную шчэць ельнічка і ўспамінаў ранейшыя гады, калі кожны патрон прыходзілася браць на ўлік. Успамінаў і леташнюю блакаду. Тады вораг ішоў са значна меншымі сіламі. Было меней тэхнікі. Цяпер жа, як данесла разведка, рухаюцца не толькі карнікі ды розныя паліцаі, а рэгулярныя часці пры поўным аснашчэнні, з танкамі, артылерыяй і авіяцыяй. Цяпер у пушчы не адседзішся, заняўшы кругавую абарону, бо вораг скрышыць, спаліць усё такою сілаю. А ў пушчы ж знойдуць прытулак тысячы жыхароў навакольных вёсак. Пушча — іх апошняя надзея на выратаванне, на жыццё. І надзею гэтую трэба здзейсніць...

«Збяромся з камбрыгамі і разам параімся, што рабіць. Ці ўяўляе сабе палкоўнік тую пагрозу, якая навісла не толькі над нашым злучэннем? Сорак тысяч варожых штыкоў — гэта сіла. Фашысты нездарма рушылі такой арміяй...»

— Будзем, значыць, адыходзіць у Баркоўскую пушчу? — Віктар дапытліва зірнуў на Кавальчука, як бы ацэньваючы яго вартасць на вока.— Усім злучэннем?

— Усім... Вядома, Баркоўскай пушчай нам не абысціся,— як бы ўлавіўшы думку начштаба, адказаў палкоўнік.— Зону трэба будзе пашырыць. Вось толькі не ведаю, куды потым выйсці. Ёсць два варыянты. Падкажа, думаецца, абстаноўка...

«Значыць, ведае, што будзе цяжка! Значыць, знойдзем выйсце!» — радасна падумаў Віктар і сказаў:

— На гэта вопыт ёсць!

— Вядома. Але ўсё трэба рыхтаваць загадзя. Планаваць запасныя базы, каб у выпадку чаго пад рукою заўсёды быў матэрыял для нашых гарачых цахоў...

— Гаручае?

— Вядома... Асабліва трэба будзе запрасіць паболей гранат. Яны — наша галоўная артылерыя. Кішэнная, як кажуць.

— Гранаты — гэта рэч,— у роздуме сказаў начштаба і накіраваўся да дзвярэй.— Пайду гляну, хто з брыгад што прыслаў. Сувязныя цяпер у хадзе...

— Пайду і я папярэджу радыстаў, каб нікуды не адлучаліся і дбайна рыхтаваліся да паходу. Ад іх цяпер многае залежыць, нават наша жыццё.

Услед за Віктарам выйшаў і Кавальчук.

## ДВА ПРЫШЭЛЬЦЫ

Папрасіць «гаручага» не давялося. І не таму, што дужа націскаў вораг, а таму, што так склаліся абставіны, якіх ніколі наперад не прадугледзіш.

У гэты дзень разведчыкі прывялі невядомага чалавека. Ён паведаміў, што больш за месяц ідзе з палону. З самай Германіі. Куды ён ішоў? Проста — на ўсход. Шукаў сваіх. Да гэтага сваіх не сустракаў? Сустракаў. Але пэўна не ведаў — партызаны ці паліцаі. Ды і, сказаць па праўдзе, баяўся: ці павераць яму, што не правакатар які? Сустрэўся ж ён з невядомымі людзьмі ноччу, а яны, тыя

людзі, абстралялі, ледзь уцёк. Чаму ў яго ёсць зброя? А як жа ў вайну ды без зброі? Стукнуў на дарозе фашыста. Той рамантаваў матацыкл, грукаў так, што не пачуў крокаў. Дакументаў ніякіх. Якія ж там дакументы, калі на руцэ добра відаць наколка нумара: ён са смяротнікаў Асвенціма. З дзесяці ўцекачоў выжыў і выратаваўся адзін...

Малады высокі бландзін з загарэлым худым тварам, яснавокі і змардаваны, прасіў адно:

— Дайце мне кулямёт! Я ўсю вайну марыў адплаціць фашысцкаму зверу за скалечанае жыццё... Я — добры кулямётчык!

Кулямёта яму не далі.

Капітан Крайко на тое і пастаўлены на чале асобага аддзела, каб правяраць прышэльцаў. Яму чамусьці не спадабаліся словы «фашысцкаму зверу». Гэта ўжо, калі хочаце, не шчыра. Так людзі не гавораць, так толькі пішуць у газетах. Мала таго, што капітан не паверыў чалавеку, дык ён яшчэ прыставіў да прышэльца свайго работніка. «Ясна — шпік! Ці яшчэ горш — дыверсант, той, каго павінна была сустракаць Зорка!»

Быў у гэты дзень і незвычайны выпадак...

Сярод невялічкай паляны з адзінай кучаравай бярозкай на старым абымшэлым пні сядзеў чалавек, апрануты ў лётны камбінезон, без шапкі. Цёмныя, з прыкметнай пацярухай сівізны зблытаныя валасы былі абпалены ля счарнелага вуха, камбінезон забруджаны і падраны. Немалады, з непаголеным шэрым тварам, шыракаплечы, дужы на выгляд, чалавек адпачываў. Пад густымі навіслымі бровамі блішчэлі галодныя вочы. Ён час ад часу стагнаў, схіляў набок галаву і правай рукой дакранаўся да левага пляча. Там была рана...

Па пушчы пракаціўся гул далёкага выбуху, дзесьці пачуўся глухі рокат матораў.

Чалавек таропка ўстаў, зірнуў на сонца і пайшоў проста на гэты гул. Ён ішоў даволі шпарка, злёгку прыкульгваючы на левую нагу.

Неўзабаве лес парадзеў.

Чалавек спыніўся. Ён, відаць, зусім не чакаў, што апынецца на краі лесу. Заўважыўшы наперадзе прасвет, ён крута павярнуўся, падаўся ў лясны гушчар.

Глухая цішыня, якой поўніўся лес, памалу вярнула спакой. Чалавек абапёрся правым плячом на дрэва і пачаў

аддыхвацца. Агледзеў наваколле, паправіў адзенне, дастаў з-пад камбінезона невялічкі скрутак у рудой паперыне. Зірнуўшы праз густое веццe на сонца, зноў пасігаў рашучымі буйнымі крокамі, нібы прыняўшы якое важнае рашэнне.

Гэта было цяжкае і небяспечнае падарожжа. І на душы — неспакой. Дзікім загнаным зверам туляўся ён па глухіх кутках, дзе можна было ўнікнуць непажаданых сустрэч.

Па выхадзе з пушчы, перад балотам, чалавек зноў зрабіў прывал. Ён сеў проста на зямлю, прыхіліўшыся плячамі да бялюткага бярозавага камля. Згледзеў струхнелы пень, парослы мохам, і адразу забегалі, замітусіліся вочы. Устаў і, падышоўшы да пня, зноў азірнуўся. Нідзе нікога. Чалавек хуценька адламаў кавалак пня, усунуў у дупло скрутак, прыладзіў адламаны кавалак і абклаў шчыліну мохам.

Потым перабраўся цераз балота і ўвайшоў у лес. Заўважыў вытаптаныя сцежкі, узрадаваўся. Выбраў адну, шырэйшую, і пайшоў па ёй. Пайшоў, мнучы ботамі мурожную траву. І капала на сляды чырвоная кроў з яго пляча...

Сонца ўжо добра свяціла і грэла, калі чалавек апынуўся на вялікай паляне, нібы спецыяльна абстаўленай дубамі. Далей ісці ён, відаць, ужо не мог, ледзьве трымаўся на нагах. І ў гэтым была свая горкая праўда: ён змарыўся, спаквапя сцякаў крывёю...

Заўважыўшы на паляне траіх, чалавек захваляваўся, ступіў яшчэ некалькі крокаў, зваліўся і моцна застагнаў...

Вось гэты стогн і пачулі радысты.

...Кастусь першы падбег да чалавека, нахіліўся над ім і ціха спытаў:

— Што з вамі? Хто вы?

Пачуў у адказ:

— А вы... хто?

— Мы — свае,— запэўніў Кастусь чалавека, заўважыўшы пад камбінезонам гімнасцёрку з пагонамі, на якіх віднеліся пацямнелыя ад дыму і агню зорачкі.— Зірніце на нас... Свае-е... Таварыш капітан...

— О-о-ой,— застагнаў чалавек і адплюшчыў вочы. Яны былі да ўсяго абыякавыя, тыя чорныя вочы. Памкнуўся падняцца, упёрся ў зямлю рукамі, але галава пацягнула назад, да зямлі. Не ўзняць яе чалавеку, у якога, відаць, і дух ледзьве трымаецца, да таго знявечаны.

Падышоў Алесь. Ён аж прыкленчыў ля незнаёмага, загаварыў хутка, расчулена:

— Ляжыце, ляжыце, не турбуйцеся, мы вам паможам. Усё будзе найлепшым чынам...— Дастаў хусцінку, выцер капітану твар.— Не бойцеся, мы свае, партызаны.

— Вам цяжка, таварыш? — спытала Зіна, якая нейкі час разгублена назірала за хворым і радыстамі.

— Пі-іць,— пачулася ў адказ.

Алесь падаў Зіне каманду:

— Прынясі вады! І насілкі захапі ў шпіталі!

Кастусь пачуў, што сказаў Алесь. Пайшоў за Зінай следам, толькі пагразіўшы Алесю кулаком. Той недаўменна пасцісnуў плячамі — не зразумеў. За кустом Кастусь дастаў свой пісталет і паказаў Алесю. Потым паказаў на чалавека.

— Яго аднаго пакідаць нельга! — сказаў Зіне.— Недагадлівы Алесь, як мне здаецца, задужа расчулены. Яшчэ хто яго ведае, што гэта за чалавек...

Зіна нахмурылася:

— Ты, Кастусь, у кожным бачыш толькі ворага... Аставайся, я адна прынясу насілкі.

І пабегла хутка, без аглядкі.

Кастусь вярнуўся да Алеся, стаяў у нерашучасці і пільна глядзеў на незнаёмага капітана, як бы згадваючы: свой ён ці чужы? Потым, адважыўшыся, імкліва нахіліўся над чалавекам і выцягнуў з кішэні камбінезона пісталет.

Той павярнуў галаву, і здалося Кастусю, што ўсміхнуўся, выскаліў жоўтыя зубы.

— Баіцеся, што я... Давяраю, рабіце, што хочаце, толькі дайце пі-іць,— прастагнаў лётчык і зноў заплюшчыў вочы.

Кастусю стала ніякавата.

— Пісталет ТТ, наш,— сказаў ён, кладучы зброю ўсё ж у сваю кішэню. Такая ўжо натура. А можа, і тут адыгралі ролю тыя перасцярогі, з якімі Кастуся накіроўвалі ў варожы тыл працаваць радыстам.

Алесь дык проста развёў рукамі:

— Вось яшчэ выдумаў! Хіба не бачыш, хто перад табою? Лётчык ён, наш, савецкі, збіты лётчык... І чаму гэта нешта доўга Зіны няма?

Зіна прыйшла не адна. З ёю з'явіўся на паляне ўстрывожаны капітан Крайко. Кастусь зірнуў на іх, задаволена падумаў:

«Хоць зазлавала была Зіна, але пасля згадзілася, што

без капітана тут не абысціся. Разумная асцярожнасць ніколі не перашкода. Нездарма кажуць, што беражонага і сам пан бог беражэ...»

Несці лётчыка ў шпіталь было цяжка, але хлопцы ні разу не адпачылі: спяшаліся, каб хутчэй даставіць хворага дактарам. Капітан спрабаваў загаварыць з лётчыкам, але той нібыта задрамаў, ціха стогнучы, і Крайко пайшоў.

Зіна моўчкі ішла следам за ўсімі. Твар яе быў хмуры. Ні то яна злавалася на Кастуся за недавер да людзей, ні то на капітана за допыт хворага чалавека, якому, можа, і жыць засталося нядоўга.

Алесь усё ж падкалоў таварыша:

— Каб ты бачыла, Зіна, як Кастусь бязлітасна абяззброіў таварыша, то, напэўна, не паверыла б сваім вачам. Ён наляцеў на гэтага няшчаснага, як тыгр...

Хворы хоць і ўчуў гэта, але не сказаў ні слова. Ён толькі стараўся запомніць, як завуць хлопцаў, імкнуўся здагадацца, хто такі гэты капітан.

Замаўчаў і Кастусь. Ён ведаў, дзеля чаго сказаны тыя калючыя словы. Наіўны Алесь! Ён і не ведаў, што яго нястрыманы язык заўсёды працуе супраць яго...

Хворага перадалі доктару Свістуненку, якога ўсе называлі Айбалітам. Немалады, лысы, у акулярах, як сапраўдны Айбаліт, ён адразу ж узяўся выходжваць лётчыка.

Пасля таго як прамылі і перавязалі раны, хворы слабым голасам папрасіў есці. Хоць яго накармілі, як госця, але не дужа сытна: з галадухі любая цвёрдая страва можа пашкодзіць. Ды хворы адмовіўся не толькі ад мяса, але і ад хлеба. Ён з ахвотай з'еў крыху рэдкага супу.

Пасля ўжо спытаў:

— А хто гэта, скажыце, калі ласка, знайшоў мяне ў лесе непрытомнага і прынёс сюды? Такія, ведаеце, спрытныя хлопцы, нават абяззброілі...

— Гэта ж нашы радысты! — не без гонару адказала Зіна і ціха-ціха заспявала песню, якую вывучыла ад той непуцёвай Зосі, песню пра шчаслівую зорку свайго кахання. Яна наогул вельмі ўважліва і клапатліва аднеслася да гэтага знявечанага вайной чалавека, які прыляцеў адтуль, з Вялікай зямлі. Ён, напэўна, раскажа шмат цікавага...

Лётчык прыўзняўся на нарах.

— Радысты... Малайцы хлопцы, дзякуй ім, даражэнькія. А за тое, што абяззброілі, я не крыўдую. Пільнасць

не перашкодзіць у любым выпадку. І за гэта малайцы, даражэнькія... А вы, калі няцяжка, праспявайце яшчэ пра зорку... Вельмі харошая песня...

Зноў лёг і паціху застагнаў, пакуль не заснуў.

Капітан Крайко наведаў шпіталь толькі на другі дзень. Рослы, чырванатвары, з густымі белымі бровамі над светлымі вачамі, ён быў энергічны і, відаць, фізічна моцны. Нават голас яго звінеў металам.

У шпіталі былі якраз толькі хворыя, і гэта радавала капітана. Ён не любіў рабіць допыты пры пабочных людзях. Хворыя ж не дужа цікаўныя, не вельмі прыслухоўваюцца. У іх свая бяда, ім не да чужых спраў.

Сеўшы на край нараў, капітан уважліва паглядзеў лётчыку ў твар. Твар быў спакойны, крыху нахмураны, крыху сумны. Вядома ж, чалавек гарэў у самалёце. Ляжыць і ўспамінае перажытае. Яму цяжка. Дык ці варта турбаваць чалавека, ці варта напамінаць яму аб той жахлівай ночы, калі яго машына яркай znічкай ляцела на зямлю?

І ўсё ж пагаварыць трэба ў любым выпадку. Крыху заікаючыся, капітан асцярожна спытаў:

— В-вам цяжка?

— Было значна цяжэй, даражэнькі,— нібы чакаючы такога пытання, адразу адказаў той і ў сваю чаргу дапытліва паглядзеў на капітана.

О, колькі дакору і скрухі было ў тым жалезным позірку!

«Натура — крэмень! — вырашыў у думках капітан, і цікавасць яго ўзрасла.— З такой натурай можна быць не толькі лётчыкам, а кім хочаш. Можна...»

— З-значыць, вы лётчык?

— Хіба не відаць?

— Прабачце, мне трэба ведаць прозвішча, каб паведаміць за фронт, што вы ў нас. Там, напэўна, ужо лічаць, што вы або загінулі, або трапілі да фрыцаў у палон. А гэта, як ведаеце, яшчэ горш...

— Безумоўна, даражэнькі...

Хоць чалавек быў ветлівы і далікатны, але па ўсяму відаць, што яго апанавала абыякавасць. Зразумела: ён згубіў машыну, баявых сяброў. Вайна выбіла яго, як кажуць, з франтавых дарог і прывяла да партызан. Ён сам ледзь астаўся жывы...

— Дык вы не жадаеце, каб мы паведамілі за фронт? — дастаючы аловак і паперу, зноў напомніў капітан.— У вас

там няма родных, сям'і? Хто ў вас там ёсць? Можа, вам няма каму пісаць? Каму перадаць звесткі?..

— О, добра, перадайце! — нібы спахапіўся хворы.— Я — Барсукоў... Барсукоў Валянцін Паўлавіч, капітан. Там знойдуць усіх маіх... Калі ласка, даражэнькі.

Лётчык працягнуў абпаленую кніжачку з цёмнай фатаграфіяй. Затое прозвішча было відаць добра, нібы толькі напісанае. І Крайко занатаваў, што трэба.

А пасля спытаў:

— Дзе вас збілі?

— Пад Маладзечна.

— І да нас нідзе не сустракалі партызан?

— Я хаваўся па глухіх кутках, пазбягаў выпадковых сустрэч на дарогах...

— Усе глухія куткі поўняцца партызанамі.

— Але ж у Баркоўскай пушчы іх не было.

«Ён прайшоў па Баркоўскай пушчы! Адкуль жа ведае назву? Такі знясілены, паранены, а прайшоў... Сапраўдны волат, а не чалавек...»

— Раней, бывала, я вазіў вам парашуты ў гэтую пушчу. Аж па дзесяць грузаў скідаў,— перабіў капітанавы думкі лётчык.

— Хто яшчэ з экіпажа застаўся?

— Не ведаю. Здаецца, выратаваўся толькі я...

— Ці памятаеце нумар сваёй машыны?

Лётчык усміхнуўся, сеў.

— Гэта ўсё роўна, калі б вы спыталі — ці памятаю я свайго бацьку або маці...

— Прабачце, але...

— Без ніякіх «але», даражэнькі! — перапыніў капітана паранены.— Ведаю, што так трэба. Запісвайце: самалёт «ЛІ-2», нумар 2148. Дзявятка. Гэта наш палкавы нумар, унутраны. Што цікавіць вас яшчэ, капітан?

— Дзякую.

— Цяпер я ведаю, хто вы. Я раней думаў, што разведчыкі так адкрыта не працуюць.

— Нам няма чаго хавацца адзін ад аднаго.

— Хіба і так не відаць, хто я?

— Вось я і кажу, што відаць.

Цяжка дыхаючы, лётчык зморана лёг на падушку. Капітан Крайко адчуў сябе ніякавата.

— Чалавеку давярай, ды правярай... А што датычыцца разведчыка, то ў нашым становішчы кожны чалавек павінен быць ім. Улік, самі ведаеце, які тут, кожны дзень

навенькія...— адказаў капітан Крайко нібы ў апраўданне, а сам падумаў: «Вось чорт! Непрабіваемы! Не памагае нават мая старая прафесія следчага...»

Лётчык зноў зірнуў на капітана і прымірэнча сказаў:

— У вас ёсць радысты. Калі ласка, перадайце за лінію фронту вестачку маёй жонцы Галіне, сынам Пятру і Васілю, што я жывы, хоць не зусім здаровы...

— П-парадак ёсць парадак. Перадам! — запэўніў Крайко.— Бачыце, для вас жа стараюся. Вы трапілі ў такі час, калі, гаворачы шчыра, на нас ідзе страшная навала фашыстаў. Насоўваецца блакада, а гэта не жартачкі.

Ён пакінуў Барсукова, пажадаўшы яму хуткага выздараўлення. І паабяцаў, што з першым самалётам накіруе яго за лінію фронту. Гэта будзе хутка, дні праз тры.

«Мусіць, не ўдасца накіраваць: блакада... Дзе самалёт сядзе?» — падумаў лётчык, не на жарт пакрыўдзіўшыся на капітана за непатрэбны допыт.

## ПЕРШЫ НАПАД

Мінула некалькі дзён.

Як ні стрымлівалі партызаны варожы наступ, як ні змянялі сваю лінію абароны, наносячы нечаканыя ўдары і з флангаў і з тылу, аднак сілы былі далёка не роўныя, і давялося нарэшце адступіць.

Радысты працавалі апошні раз перад паходам у сваёй учарнелай ад курадыму зямлянцы з патрэсканай цаглянай печкай. У падслепаватае акенца выходзіла антэна. На століку стаяла планшэтная радыёстанцыя «Белка», ляжалі паперыны з шыфроўкамі. Працы было шмат. Алесь перадаваў радыёграму, а тым часам Кастусь шыфраваў новую.

Пачытаў тэкст апошняй радыёграмы, усміхнуўся:

— Вось бачыш, Алесь, не толькі я недаверлівы ды асцярожны! Капітан намаляваў лётчыка, як мастак, апрача прозвішча ўсе прыкметы дае. Просіць пацвярджэння, што іменна гэта і ёсць Барсукоў...

— Дык на тое ён і капітан, каб правяраць! Ён і нам не зусім давярае,— не перастаючы выстукваць свае лічбы, адказаў Алесь.— Яму здаецца, што ўсе шпікі прыходзяць толькі сюды. Пасля той Зоські да Зіны прыглядаецца. Бачу я! Вось чаму і лётчыка...

Хлопец недагаварыў: нечакана зусім блізка секанулі аўтаматы, пачуліся вінтовачныя стрэлы, каманды.

— Што гэта? — насцярожана спытаў Алесь і, узняўшыся з-за стала, зірнуў у акенца, засланіўшы яго сваімі грудзьмі.

Кастусь пачуў, як дзынкнула шкло, убачыў, як Алесь нешта ліхаманкава выкідваў з зямлянкі.

— Лажыся! — раптам крыкнуў ён і так штурхнуў Кастуся, што той мігам апынуўся на падлозе.

Побач зваліўся і Алесь, папоўз за печку.

— Раз... два... тры...— пачаў лічыць ён. І тут за акном грымнуў моцны выбух.

Кастусь узняў галаву, ціха спытаў:

— Што гэта?

— Бяжым! — адразу ўсхапіўся Алесь, вымаючы пісталет.— Ён яшчэ блізка! Хутчэй!..

— Хто — блізка? Што здарылася? — нічога не разумеючы, зноў спытаў Кастусь.— Скажаш ты нарэшце мне ці не?

— Той, што кінуў гранату проста на мае грудзі...

Бегчы ім нікуды не давялося:. з зямлянак са зброяй напагатове выкульваліся патрывожаныя людзі. Капітан, палкоўнік, начштаба — усе, хто быў у лагеры, абступілі зямлянку радыстаў, на якую яшчэ асядаў узняты выбухам пыл.

— Х-хлопцы, ш-што тут у вас? — першы з парога спытаў капітан, заікаючыся больш звычайнага.

— А чорт яго ведае! — дабрадушна ўсміхнуўся Алесь.— Нам у акно нехта шпурнуў гранату ды папаў у мяне. Дык я — назад!

Пры апошніх Алесевых словах капітан ціха свіснуў і прапусціў наперад палкоўніка, які таксама зайшоў у зямлянку.

Праз акенца наваліла многа пылу і дыму. Алесь сеў за пахілены стол, дзьмухнуў на радыёстанцыю.

— Усё, браткі! — ледзь не плачучы, выгукнуў ён.— Аджыла сваё, асколкамі яе пасекла. І як я не схапіў тады, дурань гэтакі! Такая «Белачка» была...

— Рацыя? — ціха, збянтэжана спытаў Кастусь.

— А што ж яшчэ? Папаўся б мне той даўганогі д'ябал, ахвяра Асвенціма, я б яму...

Усё гэта здарылася так нечакана, што здавалася неверагодным.

І толькі шчаслівы выпадак выратаваў радыстаў ад яшчэ большай бяды.

Кавальчук сказаў капітану:

— Табе не здаецца, што аперацыя «Хваля» ў дзеянні? Відаць, Шпак-Сікорскі трапіў іменна да нас, а не да суседзяў, як дакладвала разведгрупа. Гэта вельмі небяспечны дыверсант, няўлоўны. Глядзі, капітан...

Крайко пацініснуў плячамі.

— Здаецца, няблага гляджу... Лётчык ледзь ходзіць, а той, нумараваны, дык у атрадзе, далёка адгэтуль, за ім сочыць надзейны чалавек. Мусіць, ты абазнаўся, Алесь.

— Я ніколі не памыляюся, капітан,— катэгарычна адказаў радыст.— Іменна — то быў нумараваны...

Выйшлі з зямлянкі ўсе, стаялі, курылі. І людзі і лес насцярожана сцішыліся, знямелі. Ды недзе далёка гэтую цішыню зноў парушыла рэзкая аўтаматная чарга. За ёю — залпы некалькіх аўтаматаў зліліся ў адзін суцэльны працяглы гул.

— Вось, відаць, і дагналі ўцекача,— ажывіўся капітан.— Ад тых маіх хлопцаў яшчэ ніхто ніколі не ўцякаў.

— Адно ўжо гэта пахвальна,— у задуменні сказаў палкоўнік і да Алеся: — Але ж і спрытны ты! Гэта ж трэба — выкінуць гранату.

— А што, яе ў запазуху класці?

— Сумна было б вам, каб не кемлівасць ды такія грудзі, як у гэтага хлопца! — пахваліў Алеся і капітан Крайко.— Спрытны. Пастарэе — гэткім не будзе... Вось пабачыш.

— Буду! — усміхнуўся радыст.

— Такога, браце, на жаль, не бывае,— Кавальчук паказаў на свае сівыя скроні.

— А ведаеце, Павел Антонавіч, выпадак, як аднаго чалавека ды пытаў другі чалавек? — адказаў на гэта Алесь.

— Аб чым пытаў? — пацікавіўся і Крайко.

— «Што ты,— кажа,— Сымон, робіш, што ў цябе на твае гады такі малады твар?» — «Нічога не раблю ўсё жыццё»,— адказаў знаёмаму Сымон. Дык вось і я... Нават граната не бярэ!

— Ну і жартаўнік! Сто год пражывеш — не састарэеш...

Палкоўнік ступіў некалькі крокаў, азірнуўся на хлопцаў, паківаў пальцам.

— Адчулі, што трэба вуха трымаць востра? Так вось...

Калі яны засталіся адны, Кастусь спытаў:

— Што нам цяпер рабіць? Мы ж не ўсе шыфроўкі перадалі.

— А другая рацыя нашто?

— Да яе ж другія батарэі... Цэлы новенькі камплект, шкада...

— Усё табе шкада. Яшчэ вышлюць...

Пачуўшы гаворку, вярнуўся капітан.

— За батарэямі таксама трэба глядзець як след. Аперацыя «Хваля», дарагія, як вы самі ўпэўніліся, больш за ўсё тычыцца іменна вас, радыстаў. Ведайце, што ад пільнасці залежыць не толькі ваша жыццё...

— А пільнасць больш за ўсё, капітан, залежыць ад вас,— не зусім тактоўна адказаў Алесь.— Дык вось і разблытвайце гэтую нітачку — хто шпурнуў гранату, а хто яшчэ застаўся, каб прадоўжыць тую аперацыю.

Хіба капітан не ведаў, што вораг ходзіць недзе тут? Ён ужо колькі дзён як атрымаў папярэджанне, абдумваў гэтае пытанне, а вось недагледзеў... Пакуль вядома толькі адно, што ў аперацыі «Хваля» ўдзельнічае шэсць дыверсантаў. Дзе і калі яны з'явяцца? Адзін азваўся тут. Правільней — двое. Першая — атруцілася. Другога калі не забілі, то ўжо злавілі, хутка прывядуць. Тады можна будзе дапытаць, сёе-тое высветліць. Галоўнае — знайсці б канец таго клубочка...

Капітан ішоў ад радыстаў і адчуваў, што яго работай незадаволены не толькі палкоўнік, а і гэтыя хлопцы. І праўда на іх баку. Ці варта было ставіць аднаго дзяжурнага на дзве зямлянкі? А што, калі б тая граната адыграла сваю паганую ролю. Апрача таго, што з яго, капітана, спагналі б поўнай мерай, застацца без сувязі, калі пагражае небяспека блакады, значыць — мець вялікія страты ці нават загінуць.

Усё гэта разумеў капітан Крайко. І ён вырашыў узмацніць ахову радыстаў, не выпускаць з поля зроку лётчыка. Былі ў яго яшчэ такія-сякія меркаванні, як лепш дазнацца, вораг лётчык ці не, але аб гэтым ён пакуль што нікому не прагаварыўся. Гэта яго ўласная тайна...

## ДАРОГА ПАД БОМБАМІ

У паход збіраліся нядоўга.

Перш-наперш пачалі эвакуацыю шпіталя. Хворых было нямнога. Усе ішлі самі. За шпіталем рухаўся штаб з радыстамі і камендацкі ўзвод...

А ўслед, нібы падганяючы партызанаў, недзе ад ракі грымела. Нібы там узрывалі каменне. Глухое водгулле кацілася па гушчары, танула ў ім.

Усё гэта так знаёма хлопцам, што ім здавалася, быццам яшчэ не скончана леташняя блакада. Гэткія ж зборы, лясныя дарогі пад бомбамі, сцяжыны, балоты, прывалы. І сон і абед — таксама пад бомбамі. Усё паўтараецца штодня...

Калі адышліся даволі далёка, Кастусь прыбавіў хады і дагнаў Зіну. Яна была ў сваім нязменным сінім жакеце і стракатай сукенцы. Толькі боты так не гарэлі, як заўсёды: на іх ляжаў пыл гэтых нялёгкіх дарог. Валасы былі заплецены ў адну тоўстую тугую касу. Унізе тая каса падвязана белай стужкаю ад парашутнага шоўку.

«Зусім яшчэ дзяўчынка...» — міжволі падумаў Кастусь, і па сэрцы прабегла хваля ўмілення. Зіна сапраўды выглядала дзяўчынкай. Толькі надзвычай упэўнены крок і моцныя загарэлыя ногі рабілі яе хаду паважнай, сталай.

Параўняўшыся з ёю, Кастусь зірнуў на самотны твар і ціха спытаў:

— Аб чым ты думаеш, Зіна?

Убачыў толькі, як на нейкі момант успыхнулі ў яе вачах іскаркі-зорачкі і адразу згаслі.

— Думаю, Косця... Што прымусіла гэтага чалавека кінуць гранату? Якая сіла? Вайну ж фашысты прайгралі, на што ён спадзяецца?

— Мала ёсць на свеце ўсялякага зброду?..

— Ах, лепш бы мне пайсці ў атрад! Крайко забараніў прыходзіць да вас...

— Вар'ят! Я з ім пагавару...

— А я, дарагія мае, абавязкова выклічу яго на дуэль і не прамахнуся! — раптам пачуўся ззаду Алесеў голас. Усё ж дагнаў, хоць соп, як вол у ярме.

— Мне шкада цябе, Алесь,— ні то ў жарт, ні то сур'ёзна адказаў Кастусь.— Крайко страляе, як сам д'ябал! На ляту ў муху трапляе. Улічы.

— Вось гэта дру-ужба! Бач — шкадуе... Тады, мілы Кастусь, паднясі трохі гэтую торбу. Тут, апрача анодных батарэй, дальбог, нічога няма.

— Дык нясі сам.

— Але ж тых батарэй — пуд! І мае кволыя плечы аж занямелі, а ногі перастаюць слухацца.

— Шануючы друга, не панясу.

— Чаму — шануючы?

— Такому, як ты, любая трэніроўка пойдзе толькі на карысць, мілейшы!

— Дзякую за параду, дарагі мой друг! Ты намякаеш, што я занадта тоўсты?

— А хіба ты тоўсты?

— Ммм...

Зіна засмяялася, хоць такія сяброўскія размовы чула не ўпершыню. І як заўсёды, нягледзячы на Алесева красамоўства, Кастусь заганяў яго ў тупік. Алесь крыўдзіўся. Потым яны мірыліся і пачыналі ўсё спачатку. Часам справа даходзіла да спрэчак. Між імі вялася таямнічая вайна супернікаў. Яны адчувалі, што з цягам часу такія спрэчкі могуць перарасці ў больш сур'ёзныя сутыкненні, і ўсяляк імкнуліся загладзіць папрокі і кпіны жартам.

Да большага ніколі не даходзіла...

Неўзабаве пачалося балота, парослае чэзлымі бярозкамі ды лазняком. Хадзіць па такім балоце не так ужо і страшна. Трэба толькі мець моцныя ногі, каб выцягваць іх з тванкага моху, пад якім заўсёды трымаецца халодная гразь, быццам там бягуць тысячы маленькіх крынічак.

Алесь хутка выбіўся з сіл. Выбраў сабе высокую купіну і зморана сеў на яе, адвальваючыся на спіну.

Кастусь жа мог зваліцца ад знямогі, але не падаць выгляду, цягнуць, як той вол.

Вось і цяпер. Алесь выцер са шчок рукавом чорнай гімнасцёркі пот і сказаў:

— Братцы, я гатоў...

— Пайшлі, пайшлі! Хутка востраў,— падхапіў яго пад руку Кастусь, але падняць не здолеў, сам асеў побач.

Затое варта было Зіне дакрануцца да іхніх рук сваімі, як хлопцы адразу — дзе ўзялася і сіла! — падняліся на ногі, як па камандзе. Асабліва пастараўся Алесь. Ён ірвануў наперад, не раўнуючы, нібы той лось...

Над балотам вісеў лёгкі туман-дымок. Сонца не было. Яно адчувалася за белай дымкай, што вісела ўгары, закрываючы сабою неба. На захадзе яна цямнела, утвараючы чорную хмару. З кожнай хвілінай хмара набліжалася.

Калі дабраліся да першага вострава — так партызаны называлі сухія грудкі сярод балота, парослыя магутным ельнікам, асінамі ды алешнікам,— Алесь здаўся зусім. Сеў на першае паваленае дрэва і, здзіўляючыся надзвычайнай вытрымцы Кастуся і Зіны, сказаў:

— Рэжце мяне ці вешайце: далей я ні кроку! Вось, мае дарагія-каханыя, і ўся казань.

Кастусь зняў з плячэй сумку з радыёстанцыяй, паклаў

ля дрэва на сухое і, нібыта згаджаючыся толькі дзеля Алеся, прымірэнча адказаў:

— Лады... На гэты раз, як пакутніку, даруем табе грахі. Даруем, Зіна?

Яна разумела, што і Кастусь падбіўся не на жарты, што і яму цяжка цяпер падняцца, але адказала:

— А ўсе ж, чуеце, падаліся ў гушчар. Не адстаць бы да прывалу...

— Табе лацвей! Твае медыкаменты ў абозе паехалі,— не стрываў, зазлаваў Алесь.

Кастусь не любіў, калі пры ім так нетактоўна адносіліся да Зіны, устаў, кпліва прамовіў:

— Трэба будзе папрасіць палкоўніка, каб і цябе здаў у абоз, як нестраявога.

Зіна засмяялася і, умасціўшыся побач з Алесем на парослую мохам калоду, прызналася:

— Я ж і сама ледзь стаю на нагах. Дык і мяне — у абоз? — і ўзняла на Кастуся вочы.

— Значыць, я дужэйшы за ўсіх! — адказаў Кастусь і так апусціўся на дрэва, што гнілякі аж трэснулі пад ім.

Так сядзелі яны ўтраіх, маўчалі спярша, назіраючы за цёмным небасхілам, слухаючы сумны шэпт гэтага змрочнага лесу, які заўсёды дае надзейны прытулак.

Неўзабаве ў гушчары пацямнела так, быццам надышоў вечар, але дажджу яшчэ не было. Ды праз хвіліну адна-другая буйныя кроплі прарваліся на зямлю праз густыя галіны. І раптам зашумеў, засвістаў у верхавінах вецер.

Зіна ўсхапілася першая, гукнула:

— Хутчэй плашч-палатку!

Утраіх імгненна змайстравалі нешта накшталт будана, нацягнулі Алесеву плашч-палатку. І адразу, нібы ён толькі гэтага і чакаў, лінуў моцны дождж, з гулам, з грымотамі, якія, вядома, былі куды як прыемней за тыя, што сыпаліся з яснага неба, што ссякалі галіны і валілі цэлыя дрэвы.

Траім у будане было цесна, і Кастусь, дастаўшы з рэчавага мяшка сваю плашч-палатку, вылез і стаў пад елкаю. Пад суседнім дрэвам ён заўважыў трох аўтаматчыкаў з каменданцкага ўзвода.

«Ахова... Нарабіла тая аперацыя «Хваля» капітану клопатаў»,— падумаў радыст і спытаў:

— Хлопцы, не чулі — можа, дзе каго злавілі там?

— Злавіць — не злавілі, а кокнуць — кокнулі,— пачулася ў адказ.

— Каго? — хоць ужо і ведаў, зноў спытаў Кастусь.

— Ды худога... Ахвяру Асвенціма, што быў у атрадзе брыгады Смольскага.

— І як жа гэта ўпусцілі яго?

— Прыкінуўся, што спіць, а хлопец з аховы і даў зевака. А ён — гранату ў зубы ды цягу... Ну і кокнулі.

— А бег жа, халера, што той заяц! Сіні пінжачок аж мільгаў між дрэў. Калі б не кулі, то дудкі яго злавіў бы ў такім гушчары,— пачуўся і другі голас.

Кастусь слухаў партызан ды думаў: «У кніжках гэтыя шпіёны бываюць вельмі хітрыя і лоўкія. Чаму ў жыцці ўсё прасцей і ясней? Ніякіх табе таямнічых сплячэнняў, ад якіх сам чорт галаву зломіць. Узяць бы Зосю. Пазналі яе — і крышка. А вось гэты, якога кокнулі. Дурань-дурнем. Сярод белага дня надумаўся кідаць гранату і ўцякаць. Толькі вар'ят мог адважыцца на такое...»

Тады Кастусь яшчэ не ведаў, што гэты «дурань» выканаў сваё заданне на «выдатна», што ён дзеля таго і быў пасланы, каб адцягнуць увагу на сябе, прытупіць пільнасць разведчыкаў, завесці іх у зман...

Кастусь перайшоў да аўтаматчыкаў: з імі будзе весялей. Ды і закурыць разам неяк ахвотней.

А ў будане спачатку прыслухоўваліся да гаворкі, а пасля Алесь падсеў бліжэй да Зіны. Зірнуў па-зладзейску ў вочы і, як калісьці, падміргнуў Зіне:

— Помніш, як мы з табою вось гэтак пад лодкаю ў дождж сядзелі? Ды ці раз...

— Помню.

— Я тады малы быў і дурны, бо не ведаў, што ты вырасцеш такая прыгожая, Зіна...

— Ніякая я не прыгожая.

Алесь прыжмурыў адно вока, нібы прыцэліўся.

— Ой, прыгожая, пярун бы цябе спаліў! Цяпер бы нам дваім пад тую лодку, а?

— А хіба мы не ўдваіх?

— І праўда! Кастусь, канечне, кемлівы! — і паклаў руку дзяўчыне на плячо.— Як думаеш, мая Зорачка, чаму ён пакінуў нас?

Яна адказала з дакорам:

— Ты ж не здагадаўся тое ж самае зрабіць першы. Баязлівец ты і, прабач, трошкі хвалько...

— Я?! — Алесь блізка дыхнуў ёй у твар.— Ты кажаш, што я — баязлівец?

— А чаму ж не...

Нечакана схапіўшы Зіну за плечы, Алесь прыпаў да яе пульхных вуснаў, як касец у спякотны дзень да крыніцы. Не адарвацца яму, не ўтаймаваць смагу...

Суха ляснула далоня па шчацэ.

Зіна выскачыла з будана і пад дажджом пабегла ў гушчар шукаць сваіх людзей. Яна злавалася на сябе за тое, што лішне разгаварылася там з Алесем...

Алесь, праўда, таксама апамятаўся, але позна. Асеў. Звінела ўвушшу і цяжка дыхалася парнай вільгаццю. І было ніякавата, нават сорамна.

А дождж усё ляпаў і ляпаў па нацягнутай плашч-палатцы, нібы па блясе.

Калі ён нарэшце супыніўся, у будан прасунулася Кастусёва галава. Разгублена зірнуўшы кругом і не ўбачыўшы Зіны, суха спытаў:

— А дзе ж яна?

Алесь адвярнуўся, працадзіў праз зубы:

— Адкуль я ведаю, дзе яна... Ідзі, шукай ветру ў полі. Вярціхвостка...

— Зноў лезеш да яе?

— Толькі хацеў захінуць ад дажджу, абняў адной рукою, а яна падумала...

— Што падумала?

— Што хачу цалаваць яе.

— Левую шчаку, відаць, дажджом насекла, што аж гарыць? — сарваўшы плашч-палатку, злосна спытаў Кастусь.

Алесь падняўся.

— Я ўсё ж такі пацалаваў яе! Табе назло. Зайздросці цяпер, хоць воўкам вый, хоць трэсні ад зайздрасці! Пацалаваў — і ўся казань.

— Вось я табе зараз дам казань!

— А я — табе. І да чаго гэта прывядзе? Не зліняюць жа яе вусны... Калі і пажартаваў.

Гаворцы канец.

Моўчкі склалі мокрую плашч-палатку, сабралі рэчы, моўчкі рушылі далей. У кожнага ў грудзях яшчэ бушавала бура, але яны рабілі выгляд, што больш не злуюцца адзін на аднаго.

Да чаго ж любае сонца пасля дажджу!

Яркае, быццам вымытае, яно слепіць, куды ні глядзі. Здаецца, няма ценю. Лісце і трава высахлі ўвачавідкі. Толькі балота стала больш гразкае, глыбей правальваюцца ногі, цяжэй іх выцягваць...

Ды балота хутка мінавалі.

Узлессе Баркоўскай пушчы пасля такога паходу здалося садам. Да таго прыемна ісці па цвёрдай зямлі, па тугіх ігліцах, па зарослых мохам дарогах, што і змора не бярэ.

Сосны і бярозы добра хавалі людзей ад паветраных драпежнікаў, двухфюзеляжных «фоке-вульфаў», якія, здавалася, улаўлівалі нават нязначныя гукі, заўважалі малейшы рух.

Ды не абышлося без іх і на гэты раз...

Толькі кухары расклалі невялічкае цяпельца пад самымі тоўстымі ялінамі, як аднекуль, быццам яны таго і чакалі, вынырнулі тыя праклятыя «рамы» і, страляючы з кулямётаў, прамчаліся над самымі верхавінамі дрэў.

— Можна падумаць, што ім нехта перадае каардынаты нашых прывалаў па радыё! — абурыўся Алесь, пераходзячы пад больш галінастую бярозу.

Некалькі рэзкіх выбухаў суха грымнулі ў суцэльным гуле кулямётаў і матораў. Кідалі міны. Кідалі абы-куды, без разбору і мэты — абы нарабіць вэрхалу! І ў адказ, з зямлі, дружна, залпамі, ударылі супрацьтанкавыя стрэльбы, кулямёты. Адным словам, грукату было дастаткова. У пушчы можна і з самалётамі паспрачацца.

— Пагляджу, хто гэта страляе! — не стрываў Алесь. Узваліў свой рэчавы мяшок на плечы і, прадзіраючыся між бярозак, падышоў да тоўстай сасны.

Воддаль ад яе ўзарвалася міна. Другая — зусім блізка, і Алесь залёг. Ён пашкадаваў, што адышоўся ад сябра далёка. Пры такіх абставінах усякае можа здарыцца, тады і помачы сабе не дачакаешся.

Лежачы, Алесь усё ж не зводзіў вачэй з неба, дзе, як дзівосныя вялізарныя драпежнікі, насіліся варожыя самалёты. Яны пятлялі, пікіравалі, сеючы вакол міны і кулі. І міны і кулі разрываліся ў паветры, не даляцеўшы да зямлі. Кожная галінка была ім перашкодай, а галінак тут процьма, сонца і то ледзь прабіваецца да зямлі.

І раптам, зусім неспадзявана, вялізны цень ненавіснай машыны, пакідаючы за сабой чорны хвост дыму, шаснуў па верхавінах дрэў і пачаў гулка крышыць іх. Недзе зусім блізка шуганула полымя, дзьмухнула ў твар пругкае гарачае паветра. Магутны выбух скалануў зямлю, аглушыў:

Г-га-ааа!

І над лесам навісла вялізарная чорная хмара.

«Збілі! Збілі!» — радасна загрукала Алесева сэрца. Прабегшы метраў сто, ён, баючыся новых выбухаў, зноў

залёг між мяккіх купін з «зязюльчыным ільпом» і пазіраў, як дагарала варожая машына. Высока, амаль роўна з лесам, узняўшы абвугленае крыло з чорным крыжам, яна паступова асядала, нікла...

«Будзе каманда ў паход»,— падумаў Алесь і заўважыў маленькую шэрую птушачку, што сядзела ў гушчыні дрэўца і, скрывіўшы чубатую галоўку, цікавым чорным вочкам глядзела на яго.

— Ну, вось і збілі гада! — сказаў радыст, звяртаючыся да птушачкі.— Чаго гэта ты так на мяне глядзіш? Што я вялікі ды баюся? А таму, даражэнькая, баюся, што і мне, каб аддаць канцы, трэба не болей, як табе, малой. Вось такога кавалачка хопіць, з ногаць. Ясна? Так яно, мілае стварэнне...

Птушка паляцела, а радыст, азірнуўшыся вакол сябе, раптам хуценька падняўся і пабег назад, да сасны. Усю яго істоту пранізала гарачая хваля. Гэта быў зусім іншы, яшчэ нязведаны страх, ад якога ажно пацямнела ў вачах, і Алесь цёр іх кулаком, нібы яны пакрыліся туманам. Спатыкаўся і бег з адною думкаю: батарэі!

Вось тая сасна, ад якой ён спярша пабег. Абышоў вакол раз, другі, уважліва прыглядаючыся да зямлі, але рэчавага мяшка з батарэямі нідзе не было відаць...

Пасля першага спалоху прыйшла развага. Алесь быў упэўнены, што батарэі знойдуцца, яны недзе тут, і таму зусім перастаў хвалявацца.

«Напэўна, яны ля купін, дзе я першы раз залёг. Не паглядзеў добра і пабег сюды, як дурань»,— падумаў ён і ўжо цяпер паволі пайшоў назад, аглядаючы дол.

У небе больш не было самалётаў, а да збітай машыны адусюль збіраліся партызаны. Там было тлумна.

Толькі Алеся ўжо нічога не цікавіла. Пасля часовай душэўнай раўнавагі зноў пачала ўзрастаць трывога, бо і ля купін рэчавага мяшка не было...

Вяртаючыся зноў да сасны, Алесь ўзяў трохі лявей. Адтуль, ад сасны да купін,— з другога боку, правей. З кожным новым заходам хваляванне яго нарастала. Ён ужо ліхаманкава абмацваў рукамі кожны кусцік, кожную яліну на ўсім шляху ад сасны да купін. Супакойваючы сябе, Алесь дзесяткі разоў паўтараў адно і тое ж: «Знойдзецца, знойдзецца... Ведаю, што знойдзецца». Гэтыя словы пераішлі самі сабою ў своеасаблівую песню, якую спяваюць іншы раз малыя дзеці...

Рэчавы мяшок знік, нібы праваліўся скрозь зямлю, нібы

яго зусім не было ў Алеся. Здавалася, усё гэта адбываецца ў цяжкім непрабудным сне. Трывога ўжо нарастала, як навальніца: раптам моцна пацямпела ў лесе. Не ў лесе — на душы.

Алесю ўявілася, як ён будзе тлумачыць аб страце палкоўніку, а той загадае капітану арыштаваць яго, Алеся, як ворага. А пасля... Што ж будзе пасля? Без сувязі, без харчоў, без боепрыпасаў, акружаныя ў Баркоўскай пушчы,— ці пераможаць партызаны? Цяжка ім давядзецца. І ўсё праз яго, недарэку Алеся, які не збярог батарэй...

Яму было крыўдна да слёз. І ўрэшце не хацелася верыць, што батарэі згублены назаўсёды. Яму ўсё яшчэ здавалася, што яны вось-вось знойдуцца, і ён пачынаў шукаць іх, поўзаючы ўжо ў новых месцах, дзе нават і не быў. Потым лаяўся, цёр вочы і зноў пачынаў пошукі...

— Але-есь, дзе ты знік, адгукніся-аа! — раптам пачуў ён Кастусёў голас і ўздрыгануўся, быццам яго злавілі за нейкай злачыннай справай. А потым узрадаваўся, як малое дзіця, якое нечакана заблудзілася.

— Я ту-ут, Кастусь! Ідзі хутчэй сюды! Бяда...— крыкнуў у адказ і сеў на зямлю.

Нават здзівіўся — чаму гэта раней не паклікаў Кастуся: удвух яны даўно знайшлі б тыя праклятыя батарэі.

Кастусь ледзь пазнаў сябра. Валасы раскудлачаныя, кашуля і штаны брудныя, на твары — цёмныя плямы, а вочы аж чырвоныя. Адразу закралася трывога.

— Што з табою, Алесь? — з затоеным хваляваннем усклікнуў Кастусь.— Ты не паранены?

Алесь адмоўна пакруціў галавою:

— Горш... Я... згубіў батарэі. Не магу знайсці!

— Што?! Што ты гаворыш? Апомніся, дурань! Дзе ты быў са сваімі батарэямі?

— Нідзе... Вось ля той сасны і тут, больш нідзе. А калі апамятаўся, то нічога не знайшоў... Не ведаю, братачка, што і падумаць, быццам насланнё нейкае, д'ябальская праява, не іначай...

— А дзе клаў мяшок?

— Не помню... Як самалёт збілі, я пабег ад сасны. Браў мяшок ці не — нічога не памятаю. Быццам у сне ўсё адбылося, зацямненне нейкае.

— Дзе шукаў?

— Усё наўкола аблазіў, рукамі абмацаў. Кожную купіну, кожны кусцік... І нічога.

— Давай удвух.

Пачалі шукаць удвух.

Ды Алесь ужо ведаў, што колькі б яны ні поўзалі — нічога не знойдуць. «Што будзе?.. Што будзе?..» — безуважна думаў ён, абыякава аглядаючы кусты, траву.

Яму прыгадаўся выпадак. Даўні, з дзяцінства.

...Амаль гэткі ж быў лес. Заходзіла сонца. Басанож, шчаслівы, ён шыбаваў па пыльнай дарозе. Пыл у каляінах быў цёплы, як прысак. Алесь шлёпаў па ім, і ён разлятаўся з-пад ног цяжкім срэбрам. Спяшаўся хлопчык як толькі ставала сілы. Трэба было ў час прынесці бацьку ў кузню судзіную на два сялы машынку для стрыжкі. Кожную суботу ён пасля працы галіў малых ды прыхарошваў хлопцаў-вечарыннікаў.

І раптам пад самымі нагамі прашмыгнула рудая вавёрка. Чорт яе ванёс! Нават не памятаў Алесь, як улёг за ёй. Метраў сто прапятляў лесам, і калі звярына чырвоным агнём шуганула на дрэва, пачаў шпурляць у яе вялізнымі яловымі шышкамі. З аднаго дрэва перагнаў на другое, з другога — на трэцяе. І толькі тады, калі рудая нарэшце знікла, Алесь успомніў пра машынку. Дзе ён яе клаў, пад якім дрэвам? Пад першым, пятым ці дзесятым? Дрэў у лесе тысячы, і ўсе між сабою падобныя, як адно...

Дацямна шукаў.

А як добра сцямнела, тайком прабраўся, нібы той злодзей, гумнамі ў свой хлеў, зашыўся ў духмянае сена, што ляжала на жардзінах гарышча, ды і заснуў. Спалася трывожна. А раніцою зноў непрыкметна выслізнуў за вёску і пабег у лес шукаць тую машынку...

Толькі на трэці дзень знайшлі Алеся.

Ён, галодны і зморавы дарэмнымі пошукамі, моцна спаў пад арэхавым кустом. Ад радасці, што знайшоўся, даравалі яму тады...

...Цяпер жа было згублена самае дарагое, што мелі партызаны на сваім узбраенні — радыёсувязь! Цяпер не ўцячэш і не схаваешся, як было калісьці...

Гаспадарчы і камендацкі ўзводы рыхтаваліся ў паход. Але як толькі Кастусь расказаў аб страце і звярнуўся за дапамогай,— усе былі накіраваны па пошукі. Пайшла з імі і група са шпіталя, якую ўзначаліў лётчык.

— Што ж гэта вы, такія спрытныя хлопцы ды так падкачалі? — з дакорам спытаў ён у радыстаў.— Ай-я-яй, як нядобра! Можна сказаць, згубілі сваю зброю, даражэнькія...

Кастусь ледзь стрымаўся, каб не сказаць лётчыку, што

гэта не яго справа і няма чаго ўмешвацца. Няхай падзякуе, што ён тут госць. І наогул чалавек ён непрыемны, гэтае далікатнае «даражэнькія» ўжо рэжа вушы.

Рана на плячы ў Барсукова зажывала, і ў шпіталі ён ужо дапамагаў па гаспадарцы. Ён умеў расказваць розныя гісторыі з паветраных баёў і начных налётаў на варожыя войскі, далёкія гарады. Памалу ўсе ў шпіталі прывыклі да яго: чалавек ён калі і не герой, то, ва ўсякім выпадку, адважны, ён жа ніколі не ведаў страху.

Асабліва, надзіва, пасябравала з лётчыкам Зіна. І хоць той называў яе дачкою, Кастусь усё роўна неўзлюбіў гэтага чалавека. Можа, прычынай таму быў нейкі дзіўны позірк, якім Барсукоў часта палохаў радыста. Востры, калючы, поўны схаванай нянавісці.

— Гэта табе здаецца! — іншы раз гаварыла Зіна.— Ён добры чалавек...

Цяпер жа Кастусь падумаў, што варожасць у іх з лётчыкам не толькі праз Зіну...

І на гэты раз пошукі аказаліся дарэмныя: батарэй нідзе не знайшлі. Партызанам нічога не заставалася, як рушыць у паход без батарэй, бо адпомсціць за збіты самалёт сюды, як пасля выявілася, ляцела цэлая эскадрылля цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў.

А праз колькі хвілін зусім блізка, амаль за плячамі партызан, страшэнным громам скаланулася зямля. І гуло там яшчэ добрых дзесяць хвілін.

## ВОРАГ СЯРОД СВАІХ

Вечар надыходзіў нейкі надзвычай ласкавы, ружовы. Нават дрэвы сцішыліся, застылі, нібы перад навальніцай. На небе ж не было ні хмурынкі. І не чутно стрэлаў.

Здавалася, што ніякай блакады не будзе. Пяшчотна, зусім мірна драмаў векавы лес. Ды толькі на душы радыстаў была цёмная ноч, іх гняла бездапаможнасць.

Кастусь пазіраў на ручны гадзіннік і хваляваўся. А што з таго? Хутка сеанс, а працаваць з Масквою няма чым. Ісці ў стары лагер і шукаць пакінутыя батарэі не было ніякага сэнсу: калі адыходзілі, Алесь злучыў аголеныя канцы дроцікаў, зрабіў кароткае замыканне, як і патрабавалася ў такіх выпадках.

Такім чынам, на сёння радысты засталіся без сувязі. А ці на сёння толькі? Калі вораг замкнуў кальцо і зносіны

з суседнім злучэннем спынены, то яны, радысты, наогул нікому не патрэбны, як тыя пакінутыя батарэі...

Цямнела, калі нарэшце прыйшлі ва ўрочышча Старына. Гэта зусім недалёка ад старых баз з утульнымі зямлянкамі, з мяккімі мурожнымі сцежкамі. Але і тут вельмі хараша. Побач з вялізнай палянай цячэ нешырокая рэчка з празрыстай, як сляза, вадой. Колькі ментузоў і ракаў цягаў тут залетась Кастусь! Яны вельмі любяць адлежвацца днём пад альховым карчэўем. Цяпер хлопца і кіем не загоніш у раку. Пасля таго як замест ментуза ён выцягнуў чорную падкалодную гадзюку, Кастусь ні разу не засунуў руку ў нару. Яны з Алесем і на вуду тут налоўлівалі столькі рознай рыбы, што ўдваіх не з'ядалі. А колькі чорных і чырвоных парэчак расце на тваністых берагах гэтай невядомай рэчкі!

Урочышча Старына... Адсюль недалёка і да лагера. Недалёка, а не даскочыш, бо наперадзе яшчэ кладкі праз непраходнае балота. Кіламетры два трэба ісці па высокіх кладках, з аднаго паваленага дрэва на другое...

Зрабілі апошні прывал. Трэба было падумаць аб начлезе. Тут ужо ўсюды чуўся грукат: партызаны ладкаваліся нанач на ўскраіне паляны, дзе раней стаяла хатка лесніка.

Радысты сядзелі каля сваёй адзінай радыёстанцыі пад разгалістым клёнам і маўчалі. Ім нічога не хацелася рабіць, нават адганяць ненажэрных, надакучлівых камароў, якія хмаркамі насіліся ў вячэрнім змроку.

— Трэба параіцца з палкоўнікам, ён жа яшчэ нічога не ведае. Можа, што-небудзь падкажа... Ці — пазычыць дзе тых батарэй, га? З першым самалётам усё вышлюць,— гаварыў нібыта сам сабе Кастусь.— Толькі б перадаць дадзеныя пляцоўкі і сігналы. Адну радыёграму, толькі адну...

Алесь маўчаў. Яго апанавала нейкая абыякавасць да ўсяго. Калі весела — ён самы вясёлы. Калі ж якое гора — ён самы сумны, бяздзейны. Думаць і прымаць якія захады ў такіх выпадках трэба было толькі Кастусю.

Хлопцы перажывалі самыя цяжкія хвіліны, самую вялікую сваю няўдачу. А тут прыехаў аднекуль ад'ютант палкоўніка Кавальчука Ілья і якраз прывёз радыёграму з новымі каардынатамі пляцоўкі для прыёму грузаў.

— Сувязі няма,— халодна адказаў яму Кастусь.— Мы згубілі батарэі. Так вось і перадай палкоўніку, дарагі Ільюша.

— І ўся казань,— апатычна дадаў Алесь.

Не трацячы часу, ад'ютант паехаў назад.

А трывога бясконца нарастала. Цяпер аб усім дазнаецца палкоўнік. Ён адразу ж прыедзе і вырашыць лёс пакутнікаў радыстаў. Толькі якая ад гэтага карысць?

Сапраўды так і здарылася. Пад раніцу ў лагеры з'явіўся не толькі палкоўнік Кавальчук. З ім прыехаў і капітан Крайко. Абодва ўзрушаныя, злосныя, з пачырванелымі ад недасыпання вачамі, яны спярша распыталі хлопцаў аб усіх падрабязнасцях. Кавальчук слухаў, і твар яго паступова змрачнеў. Нарэшце ён сказаў:

— Што ж мне цяпер з вамі рабіць? Судзіць вас мала! Штрафной у нас няма... За згубленыя батарэі можна прыцягнуць да адказнасці, як за згубленую зброю...

Капітан Крайко, які ўвесь час стаяў побач з застылым выцягнутым тварам, перапыніў палкоўніка.

— Павел Антонавіч,— неяк звычайна звярнуўся ён.— Батарэі не згублены...

— Дзе ж яны ў такім выпадку?

— У-украдзены.

Кавальчук аж адхіснуўся.

— І ты так спакойна гаворыш гэта?

— А што мне — крычаць? — у сваю чаргу адказаў капітан.— Досыць таго, што гэта факт.

— Тым горш для цябе, капітан! — з дакорам і злосцю кінуў Кавальчук.— Ты ж абяцаў узмацніць ахову радыстаў. Дзе яна, твая ахова?

— Узмацнілі... А як Алесю собіла, што ён апынуўся недзе ў баку, ведама толькі яму аднаму. Не ўпільнавалі... Дзе ён сам? Няхай раскажа...

Алеся не бачылі, бо ён адышоўся далей, схаваўся, як толькі скончыўся іх допыт.

— Але ж дыверсант забіты! Хто мог такое зрабіць? — нясмела спытаў Кастусь.

— Каб жа я гэта пэўна ведаў! Ёсць толькі падазрэнне...— Раптам Крайко звёў бровы і звярнуўся да палкоўніка: — Дазвольце арыштаваць лётчыка!

— Глупства, капітан... Мы не маем права. Разведчыкі ўстанавілі, што пад Маладзечна сапраўды была збіта машына з апазнавальнымі знакамі, якія ўказаў нам Барсукоў.

— Але ж пацверджання Масквы ў нас няма.

— Дык навошта ж ты займаеш месца пры штабе?! Дзе твой вопыт следчага?

— На вялікі жаль, мой вопыт следчага недастатковы

для такой важнай справы, як разведка. У гэтым я прызнаюся, таварыш палкоўнік...

Выходзіла так, што ва ўсім быў вінаваты капітан. Такога павароту спраў хлопцы не чакалі. І таму, усё гэта чуючы, неўзаметку падышоў і Алесь. Яны слухалі, як спрачаліся палкоўнік з капітанам, і між сабой пераміргваліся: усё ў парадку, маўляў, навальніца можа прайсці міма.

Так яно і было.

Алеся палкоўнік абвінавачваў толькі ў недастатковай пільнасці. Аб тым, што батарэі ўкрадзены, ён, палкоўнік, таксама перакананы. Значыць, той вораг недзе між партызан. Свайго злодзея ў сваёй хаце ўпільнаваць цяжка. За гэта ўжо цалкам адказвае капітан. Дык няхай ён і выпраўляе сваю памылку...

Ніколі яшчэ Кавальчук не гаварыў так афіцыйна і катэгарычна. З людзьмі ён заўсёды быў уважлівы, нават добры, а тут — злосць. Але ні адна рысачка на твары не змянілася, змяніўся толькі тон голасу, і гэта капітан Крайко адразу ўлавіў. Ён адчуў сваю віну, хоць яшчэ і сам не цвёрда верыў у тое, што ворага зловіць хутка. Калі тут, пры штабе, ёсць чалавек, які працуе на ворага,— бяда. Хто ён? Знайсці аднаго сярод сотні людзей — усё роўна, што знайсці іголку ў стозе сена. Ёсць, праўда, падазрэнне на лётчыка, але дужа ён акуратны ды руплівы, заўсёды выказвае толькі правільныя думкі, страшна ненавідзіць фашыстаў. Падазрона ўсё гэта, бо адчуваецца фальш. А вось людзей у капітана мала. Ды і якія гэта людзі! Не спецыяльна падрыхтаваныя разведчыкі. Проста камсамольцы, здатныя, разумныя, шчырыя. Іх трэба яшчэ вунь як вучыць, а на гэта няма ні часу, ні навыкаў у самога капітана... Не вяньчыць жа гэтых радыстаў. Самі ўзброеныя, не зломкі. І пра аперацыю «Хваля» чулі першыя, людзей усіх, што пры штабе, ведаюць...

«Лётчыка ўсё ж трэба праверыць больш крута»,— вырашыў капітан Крайко, хоць мала надзеі было і на той сакрэт, аб якім апроч яго ведаў у лагеры яшчэ адзін чалавек.

Услед за палкоўнікам ён накіраваўся ў шпіталь.

Застаўшыся адны, радысты спярша маўчалі, а потым спахапіліся, загаварылі.

— Казаў я табе не адыходзіцца! — першы пачаў Кастусь.

— Калі ж вельмі цікава было, як самалёт збілі...

— Што цяпер будзеш рабіць, цікаўны?

— Кавальчук нам нічога не сказаў... Я ведаю, што мы не дужа вінаватыя. Значыцца, трэба перш-наперш добра выспацца, за цэлыя суткі.

— На тваім месцы я не заснуў бы наогул, або — назаўсёды.

— Дык вось і паспрабуй спярша сам.

Сказаўшы гэта, Алесь скруціўся каля бярозкі, накрыў галаву ад камароў пінжаком і неўзабаве ціхенька захроп...

## ПАСТКА

Брыгады займалі абарону на подступах да Баркоўскай пушчы. На дарогах рабілі завалы, капалі рвы, ставілі міны. Чуўся звон піл і грукат сякер. На больш адкрытых мясцінах, куды могуць прарвацца танкі, ставілі вялізныя круглыя дыскі супрацьтанкавых мін.

Усюды капалі акопы.

У пушчу цягнуліся цэлыя абозы. Сюды ехалі і ішлі жыхары навакольных вёсак, сюды зганялі жывёлу, везлі і неслі хатнія пажыткі. Адным словам, рух быў, як у першыя гады вайны, калі ва ўсіх напрамках сноўдалі бежанцы.

Палкоўнік Кавальчук і двое партызан-праваднікоў ехалі ўвесь час трухам, падганяючы змораных коней. Трэба было самому праверыць рубяжы, упэўніцца, дзе і як давядзецца стрымліваць ворага. Ад недасыпання ў палкоўніка балела галава, абцяжэлі векі, але ён і не думаў пра адпачынак. Ён заўсёды імкнуўся ўсё пабачыць на свае вочы, упэўніцца, што кругом парадак. Тады можна будзе і адпачыць.

Было людна на ўсіх лясных дарогах, туд-сюд бегалі сувязныя, ішлі разведгрупы, перабіраліся з рубяжа на рубеж атрады і злучэнні аўтаматчыкаў, стралкоў пэтэраўцаў, кулямётчыкаў.

Дзеці і жанчыны, сустракаючы партызан, праводзілі іх журботнымі вачамі. «Ці стрымаеце вы ворага, як летась? Ці хутка ўжо канец нашаму гору?» Вось што можна было прачытаць у іх самотных позірках. Законныя, хвалюючыя пытанні! Вельмі ўжо многа пакут перанеслі знясіленыя вайной людзі, многа нацярпеліся голаду і страху. Дык няўжо не ўсё да астатку зведана, не ўсё ліхалецце мінула?

Так думаў і палкоўнік, гледзячы на змучаны люд.

Дзесьці збоку, у гушчары, нясмела спяваў малады пеўнік. Яго сіплы, нібыта прастуджаны голас зрываўся і зноў гучаў сярод ляснога шуму. Гэта было так нязвыкла і дзіўна, што многія пачалі жартаваць з няўдалага спевака.

Пад'ехалі да Сухога канала.

Ля спаленага моста палкоўніка сустрэў начштаба Віктар. Як заўсёды энергічны, бадзёры, ён узяў Лысага за аброць і паляпаў рукой па тугой выгнутай шыі, пакуль палкоўнік злазіў з сядла. Затым прывязаў жарабка да бярозкі і, паціснуўшы палкоўніку руку, загаварыў адразу аб справе:

— Вось што я думаю, Павел Антонавіч... Ці не прабіцца нам адной брыгадай праз кальцо? Га? Ды па тыле крыху пагрукаць, каб не дужа храбрыліся фашысты...

— А свой фронт мы часам не аслабім? — з хітраватай усмешкай спытаў Кавальчук і пачаў аглядаць канал, дзе ўсюды партызаны рыхтаваліся да бою.

— Фронт у нас застанецца моцны! Сам ведаеш — дванаццаць гармат і сорак мінамётаў толькі на канале — ладны аркестр. На гэтую абарону вораг асабліва настойліва будзе насядаць... А мы і дадзім па зубах як трэба! Сыпанём гурочкамі...

— Не забывайся, Віктар, што сувязі ў нас пакуль што няма, не дужа сыпанеш... Пяць дзён баёў — і гаручага не застанецца ні каліва. Пра харчы я ўжо маўчу, як небудзь пераб'ёмся, не першы раз.

— Мне здаецца, Кастусь што-небудзь прыдумае. Ён не будзе сядзець склаўшы рукі...— Віктар убачыў, што Кавальчук ледзь трымаецца на нагах. Рэзка змяніў гутарку: — Ведаеш, Павел... Пакуль я займуся тут абаронай, з'ездзі ў лагер. Гадзіны тры-чатыры табе і паспаць не шкодзіць. А пра выхад брыгады ў варожы тыл мы пасля памяркуем. Гэта ж не тое, што на шпацыр выйсці,— сказаў Віктар і скупа ўсміхнуўся.

Палкоўнік прыжмурыўся на яго, пакруціў галавою.

— Ты, Віктар, як заўсёды, гаворыш ісціну! Еду, дружа, еду адпачываць. Перадасі Смольскаму, што Сухі канал — апошні рубеж. Трымаць яго. Далей дарогі няма, трэба, каб усе людзі ўладкаваліся. Мясціны тут знаёмыя, кожны жыхар мае на ўвазе свой куточак. Няхай пабудуюць зямлянкі, замаскіруюцца.

— Слухаю!

Палкоўнік адразу паехаў.

Лысы, зморany за дзень, ціха плёўся па лясной даро-

зе. У палкоўніка павекі пачалі зліпацца. Не сkaў, а мроілася...

...Сад увесь у квецені, белыя ад пялёсткаў сцежкі. Па адной такой сцежцы, у светлай сукенцы, з распушчанымі косамі, са шчаслівай усмешкай на льсняных вуснах, ідзе насустрач Надзя. Вясёлыя вочы аж гараць, ззяюць...

— Паўлік! Як я цябе люблю, дарагі мой! Гэта наша вясна, Паўлік...

— Наша...

Недзе ў падстрэшшы хлява крумкалі галубы. Яны заўсёды, зімой і летам, восенню і вясной, здавалася, гаманілі толькі пра каханне. Вечна маладыя птахі! Колькі мараў навявалі яны тады Паўлу Кавальчуку, маладому хлопцу, які гадзінамі, бывала, стаяў у чаканні і слухаў іх лагодную, ціхую размову, зразумелую і людзям.

Даўно гэта было. І нядоўга цягнулася шчасце, бо Радзіма паклікала камуніста туды, дзе цяжэй.

А цяжка было ўсюды.

Кулакі рыхтаваліся даць бой калектывізацыі...

...Рэхам прагулі па лесе выбухі, і развеяліся марымроі. І прапала тое далёкае, роднае і хвалюючае. І ён, Павел Антонавіч, зноў вярнуўся да суровай рэчаіснасці.

У лагер прыехаў, калі ўжо сонца пераваліла за поўдня.

Нікуды не заходзячы, палкоўнік дабраўся да зямлянкі, адчыніў цяжкія дзверы.

Зямлянка была напалена. Ужо нават ніколечкі не патыхала цвіллю. Ён скінуў амуніцыю і хутка заснуў цяжкім, трывожным сном.

Хлопцы адразу дазналіся, што прыехаў палкоўнік. Перш-наперш падчапурыліся, выйшлі з зямлянкі і селі на лаўку пад елкай. Яны даўней часта сядзелі на гэтай лаўцы. З год таму назад штаб выйшаў з Баркоўскай пушчы ў вёску, бліжэй да дарог. З таго часу лаўка стала зялёнай. Яна зарасла нейкім аксамітным машком, маленькім, ледзь прыкметным, але такім яркім, свежым.

Лагер тут вялікі, не тое што за балотам. Штабны шпіталь, як прасторная сялянская хата, зямлянкі доўгія, з нарамі ў два рады. І месца тут сухое. Проста ад зямлянак, ад ельнічку пачынаўся прыгожы кляновы гай. Добра было б там размясціць лагер, але зімой той гай не хаваў бы так, як летам: лісце не іголкі, з надыходам восені злятае...

Хлопцы не ведалі, што рабіць.

— Пойдзем да палкоўніка! — настойваў Алесь.— Я не магу так больш. Трэба ж нешта рабіць.

— Чакай, няхай адпачне, сам прыйдзе,— адказваў Кастусь і ўсё пазіраў на штабную зямлянку.

Ён не ведаў, што Кавальчук спіць. Адно разумеў: самім ісці да палкоўніка не варта, толькі нашкодзіш той задуме, якая вось ужо колькі часу не дае яму, Кастусю, спакою. Трэба падпільнаваць момант, падпільнаваць і выкарыстаць.

Міма зямлянкі прайшла Зіна. Зірнула толькі ў іх бок — і ні слова. Ды Кастусь прыкмеціў, што яна паклікала яго, паклікала аднымі вачамі, зусім непрыкметна. А можа, сэрцам адчуў, што паклікала, можа, здалося?

Ён раптам устаў з лаўкі, паправіў гімнасцёрку.

— Глядзі тут, а я... пайду кляновага лісця назграбаю на подсціл,— сказаў ён Алесю.

Таму было ўсё роўна.

Кастусь узяў сваю плашч-палатку і праз момант падаўся следам за Зінай, крыху воддаль ад яе.

Дагнаў Зіну за апошняй зямлянкай. Крочыў услед па сцяжыне і слухаў, як яна напаўголасу чытала:

...Дым ад вёсак узняўся да хмар,—
Пачарнелі разгневана хмары!
Прыйдзе час — людзі згасяць пажар,
А чужынцы згараць у пажары!

Росы вымыюць край дарагі,
Сонца далі кране пазалотай...
А мы ўспомнім лясы, мурагі
І туманы твае над балотам...

Што Зіна чытала верш, Кастусь нікольκі не здзівіўся: яна заўсёды любіла вершы, ведала іх шмат. Хлопца здзівіла іншае: чаму гэта раптам дзяўчына сышла са сцежкі і накіравалася ў кляновы гушчар.

Кастусь параўняўся з ёю, узяў за руку.

— Ты добра чытала, Зіна.

— Таму, што Віктар добра напісаў,— не павярнуўшы галавы, адказала яна. Кастусь адчуваў, як дрыжэла яе рука, і яшчэ больш здзівіўся. Чаго яна хвалюецца? Чаму чытае вершы і чагосьці баіцца? Тут штосьці ненатуральнае...

— Адкуль ты ўзяла, што гэта напісаў іменна Віктар? Ён дарыць табе свае вершы? — насцярожана спытаў Кастусь, імкнучыся зразумець дзявочае хваляванне.

— Не дарыць. Узяла вось адкуль.

Зіна дастала з кішэні жакета рудую паперыну, разгарнула яе і паказала Кастусю.

— Што гэта?

— Газета. З яго вершамі... Я так люблю яго вершы! — захапілася.— Яны такія ж светлыя, аптымістычныя, як і ён сам.

— Вось яно што-о! — не без рэўнасці вымавіў радыст і, памаўчаўшы, з зайздрасцю дадаў: — Эх, Зіна, каб я мог складаць вершы, то не такіх бы табе напісаў! Усю душу ўклаў бы ў іх...

— Ой, дык навошта ж так бессардэчна ціснеш руку? — дабрадушна зірнула на яго Зіна.

Ён адразу ж збянтэжана выпусціў яе руку і вінавата адказаў:

— Гэта ад шчырасці, Зіна! Не адчуў, дальбог, само яно так атрымалася.

Размаўляючы, яны нават і не прыкмецілі, як апынуліся далёка ад лагера, ужо ў нейкім бярэзніку з ляшчыннікам.

— Як тут хораша! — нарэшце агледзеўшыся, сказала Зіна і паказала рукою наперад.— Я так люблю бярозавыя гайкі! Ты помніш наш першы бярозавы гай, Косця?

— Помню, Зіна...

Прабеглі, спыніліся.

І раптам... Не, не здалося! Зіна спалохана азірнулася і паглядзела на Кастуся з нейкім невыказным хваляваннем і жалем, як ніколі не глядзела да гэтага часу. Ён думаў, што вочы яе проста сінія, а цяпер ясна ўбачыў маленькія залацістыя кропелькі абапал зрэнкаў, бы вяснушкі.

— Ой, Косця, я нешта баюся...

— Чаго баішся? — недаўменна спытаў Кастусь і ўзяў яе пад локаць.— Гавары, чаго клікала?

— А ты здагадаўся, што клікала?

— Здагадаўся.

— Ведаеш, Кастусь... Не, не скажу, нельга табе гаварыць, не дазволена. Усё можаш сапсаваць...

— Зіна... Зіначка! Чаму ты недагаварваеш?

Ён абняў яе за плечы, і яна даверліва паклала галаву радысту на грудзі.

«Эх, і дурны ж я! Мы так даўно кахаем адно аднаго, а хаваемся, як дзеці. Больш ніколі не будзем хавацца. Вось вазьму і скажу. Моцна, на ўвесь лес!»

А вымавіў ледзь чутна:

— Я люблю цябе, Зіна...— і асцярожна, нібы баючыся, што дзяўчына адвернецца ад яго, пацягнуўся вуснамі да яе ружовай ад хвалявання шчакі.

— Што?! — Яна нібы спалохалася гэтых слоў, закрыла яму рот рукою, ціха дадала: — Не трэба гэтага. Я пайду, заўважаць яшчэ, немаведама што падумаюць. Няёмка...

— Тут ніхто не заўважыць.

— Ты думаеш?

— Думаю...

Смеласць надыходзіла раптоўна. Ён яшчэ мацней абняў Зіну, сказаў больш гучна:

— І няхай бачаць! Каго нам баяцца? Мы ж не дзеці, Зіна! Зіначка мая любая...

— Пусці, Кастусь, не трэба...— і азірнулася.

Ён адчуў у яе голасе трывогу, адчуў, як дрыжаць яе рукі, усё цела, адпусціў.

— Што з табою сёння робіцца? Што цябе так хвалюе і палохае? Скажы мне ўсё, Зіна...

— Не, Косця.

— У цябе такі бледны твар...

— Памаўчы.

Зноў прыпала да яго грудзей, быццам яны расставаліся назаўсёды. Ды Зіна так і думала. Яе летуценная натура ў адно імгненне перабрала ўсё, што было дагэтуль. Як у самым пачатку вайны засталася без маці. Як яе самую ледзь не вывезлі ў нямеччыну, але партызаны, дзякуй ім, выручылі. Як стала партызанкай, як прыйшло каханне... А ці надоўга? Яму ж пагражае такая небяспека! Вораг прабраўся да партызан, хоча забіць яго, адзінага, хто цяпер так дораг, так патрэбен ёй, Зіне. Хто ён, той вораг? О, каб Зіна ведала! Яна б знішчыла яго, не пашкадаваўшы дзеля гэтага нават свайго жыцця. Яна б перагрызла яму горла...

Так думалася.

А не сказала ні слова. Толькі глянула на яго шчыра, аддана, абвіла Кастусёву шыю сваімі рукамі і моцна пацалавала. Сама. І адразу слёзы набеглі на вочы, не схаваць іх ад Кастуся, не стрымаць. Навошта яны цяпер, слёзы?..

Сабралася з сілаю, цвёрда сказала:

— Пабудзь тут, Кастусь, трохі... Нікуды не ідзі, чуеш? Так трэба. Мацуйся... Я так баюся за цябе ў гэтую хвілі-

начку, але ты ведай, што нічога страшнага сёння не будзе... Ведай!

І пайшла, нават ні разу не азірнулася.

Не яна сказала — вецер прашаптаў між дрэў. Загойдалася вецце, і сонца зірнула з-за хмарыны. Убачыла разгубленага хлопца, засаромелася, знікла.

Нібыта пацямнела навокал. Адзінота. Зіны і след прапаў, быццам і не было яе, быццам усё гэта яму прыснілася. «Нічога страшнага сёння не будзе. Ведай...» Чаму яна так сказала? Чаму прасіла быць тут, нікуды не ісці?

Кастусь сеў пад бярозу на мяккую, як падушка, рудую купіну, задумаўся.

Вецер гушкануў голле, прабег нізам. Ціхенька зашамацела леташняе сухое лісце. Думкі вярнулі яго ў даўняе мінулае...

Некалі, як вучыўся ў тэхнікуме, вось так хвалявала яго другая дзяўчына. Хвалявала не толькі пры спатканнях. Нават ад успамінаў аб ёй сэрцу было цесна ў грудзях, нават лекцыі, якія ён моцна любіў, страцілі для яго цікавасць.

Зіна ніколькі не падобна на тую, што ўжо сціраў з памяці час, а хвалюе яшчэ больш. І рады быў, што нарэшце прызналіся ў каханні. У каханні? А колькі іх бывае ў чалавека за жыццё? Адно, два, тры?.. Невядома... Што, калі Кастусь згубіць і гэтае? Няўжо зноў прыйдзе новае?

Думкі, думкі, думкі... Аж трашчыць галава. Не пазбавіцца ад іх, не ўцячы.

І лягчэй на сэрцы, што прызналіся ў каханні, і адначасова цяжэй. Адразу з'явілася новае хваляванне: не згубіць бы гэтае шчасце, зберагчы. А як зберажэш, калі гэта ад цябе не залежыць: вайна яшчэ не скончана...

Кастусь хацеў падняцца, каб нарэшце пайсці назбіраць кляновага лісця, ды глянуў перад сабою — зжахнуўся. Аж у вачах пацямнела ад нечаканасці. Не больш як за чатыры, пяць крокаў ад яго, шырока расставіўшы ногі ў новых ялавых ботах, у новай вайсковай гімнасцёрцы, падпяразаны шырокім рэменем з вялікай латуннай спражкай, як здань, стаяў... лётчык! У правай руцэ ён трымаў нямецкі пісталет парабелум, які быў прыхаваны ў старым пні. Жорсткая ўсмешка застыла на яго шэрым, да непрыемнасці нахабным твары...

— Што за жарты? — халадзеючы, яшчэ здолеў усміхнуцца Кастусь.— Вы што гэта, палохаеце?

— Добры дзень, шчаслівчык! Зяцёк! Да маёй дочань-

кі сватаешся, да Зорачкі? Вось і сасватаем...— ціхім голасам загаварыў «лётчык».— Нарэшце мы з табою адны, дзякуючы тваёй Зіначцы, а нашай Зорачцы. Цяпер вось і пагаворым ад душы, без непатрэбных сведак...

У яго тоне Кастусь улавіў нешта страшнае, не падобнае на жарт, і ад гэтага думкі яго, ліхаманкава зблытаныя спачатку, пачалі набываць стройнасць, паслядоўнасць.

— Што табе трэба? — стрымліваючы хваляванне, спакойна спытаў радыст. А ў гэты час думалася: «Што рабіць? Як папярэдзіць сваіх, палкоўніка, Алеся? А Зіна? Няўжо капітан нешта заўважыў у яе паводзінах, што забараніў прыходзіць да нас? Няўжо яна па загаду «лётчыка» заманіла мяне ў гэтую пастку? А што тады значаць словы «нічога страшнага сёння не будзе»? І што такое Зорачка? Нешта ж помніцца...»

Ды раптам загад:

— Што трэба? Ісці са мною і не задаваць больш ніякіх ідыёцкіх пытанняў... Ну! — і «лётчык» узняў пісталет.— Рукі! Хутка, зяцёк!

Кастусь устаў.

Ён ведаў, што страляць дыверсант — у гэтым Кастусь ужо ніколькі не сумняваўся — будзе толькі ў крайнім выпадку. Але ж і ён, Кастусь, першы стрэліць не паспее: кабура з пісталетам, як па тое ліха, з'ехала аж на спіну, не дужа выхапіш...

— Рухайся!

— Я не ведаю куды.

— Ідзі проста на сонца і не разважай, а то атрымаеш кулю ў спіну. Будзеш разумны — застанешся жывы. Я ведаю, што шыфры заўсёды пры табе. А рацыю мы знойдзем надзейную...

«Шыфры! — толькі цяпер здагадаўся аб усім Кастусь.— Няўжо фашысты маюць намер прымусіць мяне працаваць на іх? Даваць фальшывыя данясенні? Наіўныя дурні! Каб і прымусілі, то на гэты выпадак у радыста ёсць спецыяльны сродак. Варта зашыфраваць забароненымі лічбамі адну кропачку, як там зразумеюць, што радыст у палоне...»

Кастусь паволі крочыў між дрэў, маланкава абдумваючы сваё незайздроснае становішча. У такі ранні час партызан у лесе не стрэнеш. Крычаць небяспечна і бескарысна: пісталет сваім смяротным чорным вокам глядзіць проста ў спіну. Націсне — і ўсё. Што ж застаецца? Можа, паспрабаваць бегчы? Ці — выхапіць пісталет з кабуры?

Бегчы і на хаду выхапіць зброю. Няхай вораг нават і стрэліць першы. Ёсць надзея, што ён можа прамахнуцца...

З рашучым намерам падыходзіў Кастусь да тоўстага дуба, што стаяў наперадзе, якраз на шляху...

## ДАМОЎЛЕНАСЦЬ

Што ж было да гэтага выпадку?

Зіна вельмі любіла слухаць апавяданні «лётчыка» пра паветраныя баі. Яна захаплялася яго смеласцю і адвагай. І часта, бывала, застаўшыся ўдваіх, яна пыталася:

— І шмат вы самалётаў збілі?

Той адказваў абыякава, нібы збіваў ён не самалёты, а якіх птушак. І пры гэтым задаволена жмурыў вочы.

— Нямала... Усіх не ўспомню, любая-даражэнькая.

— А скажыце, тых лётчыкаў, варожых, вам было не шкода? У іх жа таксама ёсць жонкі, дзеці. Іх жа таксама дома чакаюць,— цішэў яе голас.

«Лётчык» смяяўся:

— Які з цябе народны мсціўца? Сапраўдная сястра міласэрная,— і яго калючыя вочы лагаднелі. Потым зноў гаслі: — Ворагу ў нашым сэрцы не павінна быць ніякай літасці! За пакуты, за разбуранае шчасце, за ўсё, што ён прынёс, мы павінны толькі помсціць. Ненавідзець і помсціць!

— Людзі ёсць людзі,— з уздыхам гаварыла Зіна і ішла ад «лётчыка» па сваіх справах, напяваючы песеньку пра зорачку шчасця. А ён заўсёды крыху праводзіў яе. Потым блукаў па лесе вакол лагера, усё сочачы за ёй, падпільноўваючы, каб зноў пагаварыць, паслухаць яе песню...

Перад заходам сонца лес заўсёды сціхаў. Доўгія цені кладліся на зямлю, і «лётчык» ішоў па гэтых ценях на захад, потым вяртаўся назад, садзіўся на які пянёк і курыў. Па ўсяму было відаць, што ён сумаваў. А калі чалавек сумуе, хіба не прыйдзеш да яго, не падзеліш з ім яго адзіноту?

І ў той першы вечар, калі прыйшлі на старыя базы, «лётчык» выпадкова сустрэў Зіну на сцежцы зусім адну. Захінуўшы галаву хусткаю, яна шпарка сігала між дрэў, неяк нібыта спалохана азіраючыся па баках.

«Куды яна так спяшаецца?» — зацікавіўся «лётчык» і непрыкметна падаўся за дзяўчынай, перабягаючы ад дрэва да дрэва.

Яму давялося хавацца яшчэ больш асцярожна, бо дзяўчына часцей пачала азірацца, спынялася, прыслухоўвалася да наваколля.

Вось яна падкралася да тоўстай раздвоенай елкі, пастаяла каля яе, нібы ў роздуме, і раптам хуценька ўсунула руку ў невялічкае дупло між ствaлaмі...

І ўжо зусім паволі пайшла назад, напяваючы ўсё адну і тую ж песеньку. Калі траплялiся ў кустах кветкі, яна зрывала іх, акуратна складвала ў букет.

«Лётчык» зусім схаваўся, стаіўся.

Потым, калі Зіна адышлася даволі далёка, перабег да раздвоенай елкі і зірнуў між ствaлaмі, але нічога не зразумеў. Ён убачыў толькі сівы мох. Рассунуў яго, і ўсё стала ясна: там было дупло! Прасунуў руку, і сэрца яго радасна захвалявалася, у руцэ апынулася маленькая паперка. Барсукоў разгарнуў яе і ўбачыў, што гэта шыфроўка, адны лічбы. Толькі ўнізе стаялі словы: «Прышліце прыправу». На адвароце алоўкам нанесен план абароны пушчы. Гэта Барсукову адразу спадабалася, і ён шчасліва ўсміхнуўся.

— Вось яно што-о-о! — ціха ўсклікнуў ён і, спісаўшы ўсё як ёсць, паклаў паперку назад. Акуратна, як і было, закрыў адтуліну мохам.

«Заўтра яна будзе ў маіх руках! Заўтра... Гэта, відаць, і ёсць тая Зорка, пра якую гаварыў Кеніц. Пароль — Зорка, пазнаць — па песні, адказаць: «Дзень добры, Зорачка!»

Калі прыйшоў у лагер, Зіна з доктарам Свістуненкам рабіла агляд хворых.

— Вам, Барсукоў, яшчэ шкодна так многа хадзіць,— афіцыйна сказаў доктар, з-пад акуляраў пазіраючы на «лётчыка».— Вы парушаеце рэжым.

Той махнуў рукою:

— У мяне цудоўнае самаадчуванне, даражэнькі доктар! Гэтыя прагулкі надаюць бадзёрасць. Іншы раз, дазвольце заўважыць, яны памагаюць больш, чым лекі. Ды і з людзьмі бліжэй пазнаёмішся, вельмі цікавымі людзьмі... Не толькі я прагульваюся адзін...

Гаворачы гэта, «лётчык» увесь час назіраў за Зінай, за яе тварам. У яе ж быў проста заклапочаны выгляд. Ніякага хвалявання, ніякіх змен.

«Лоўкая птушачка! Хоць бы табе што... Ну, даражэнькая, дам я табе заўтра страху. Злаўлю птушачку ў сіло, будзе мая... Ды яшчэ такая прыгожая...»

Увечары, калі зноў засталіся ля шпіталя адны, «лётчык» запрасіў яе на лаўку. Калі селі, спытаў:

— Зіна, дык што ў вас з тым кучаравым радыстам? Любіце яго, цыгана фанабэрыстага? Глядзіце проста ў вочы, не хавайцеся ад мяне, Зорачка!

Яна рэзка ўскінула галаву.

— Ай, навошта вам гэта?

Ён узяў яе за руку, прыціснуў да сваіх грудзей.

— Я так прывык да вас, а пра каханне ж не гавораць, любая-даражэнькая. Яно само відаць...

— У вас ёсць жонка.

«Лётчык» засмяяўся, выхапіў руку. Яму хацелася адразу ж сказаць ёй, хто яна, але было боязна: а раптам там ды памылка, раптам гэта не тая. Нешта ж яна марудзіць, не адказвае на пароль...

— Вы не ведаеце,— глуха вымавіў ён.— Жонка ёсць, але... я не вярнуся да яе. Мне яшчэ ў часць пісалі, што яна паводзіла сябе непрыстойна. Там у яе ажыло старое каханне... Адным словам, вы не маленькая, павінны здагадацца, што маё пачуццё да жонкі памерла...

— Кастусю я не буду такой жонкай, як ваша,— адвяла позірк Зіна. Потым усхапілася, пабегла.

«Ты заўтра будзеш поўзаць ля маіх ног!» — задаволена думаў «лётчык».

І назаўтра ён увесь дзень сачыў за Зінай, за кожным яе крокам.

Калі ж, накінуўшы на голаў хустку, яна зноў падалася ад зямлянак у лес, ён пайшоў следам, зноў краўся па пятах, як рысь, каб злавіць сваю здабычу тады, калі яна менш за ўсё чакае нападу.

«Ага! Зноў ідзе туды, па адказ... Няўжо яшчэ тут ёсць нашы людзі?»

Вось і раздвоеная елка.

Зіна спынілася, азірнулася. У адно імгненне апусціла руку ў дупло.

— Стой, Зорка, ні з месца! — крыкнуў «лётчык», дастаўшы з кабуры пісталет.

Зіна ўздрыганулася, збялела. Маленькая скручаная паперка вывалілася з яе рукі на зямлю. Зіна няўмела наступіла на яе нагою.

— Ой, напалохалі,— уздыхнула яна, убачыўшы «лётчыка».

— Што вы тут шукалі?

— Птушачкі... Тут былі птушачкі, паляцелі.

— Птушачкі? — насмешліва паўтарыў за ёю.— Палясцелі, кажаш, тыя птушачкі?

— Ага...

— А гэта таксама птушачкі? — Барсукоў штурхнуў Зіну плечуком, схапіў за руку. Сагнуўся і падняў паперку, не выпускаючы Зіну з рук.— Што тут? Ці не прыправа, га? Прыправа, мусіць, для катлоў, Зорачка? Так цябе завуць? Адкуль у цябе такое прыгожае імя? — не даваў ёй апамятацца «лётчык».— Дзень добры, Зорачка...

— Гэта не маё, я нічога не ведаю! — Зіна ўзняла на «лётчыка» здзіўленыя вочы.

«Мусіць, не наша... Нешта не рэагуе на адказ. А можа, не давярае яшчэ?» — падумаў Барсукоў.

— Не ведаеш? А гэта ты ведаеш? Вось твой шыфр, твой план абароны пушчы...

Зіна маўчала. Яна адразу абмякла. Толькі чуваць было, як цяжка дыхаюць яе грудзі.

— Я... не вінавата! Мне перадалі, і я не ведала — што і для каго,— раптам яна закрыла вочы рукою, заплакала.— Мне казалі, што гэта для нашых... Я не ведаю, што ў гэтай паперцы.

— Тут парашочак для катлоў, каб атруціць нас усіх! — Барсукоў абхапіў Зіну дужымі рукамі і, пазіраючы зверху ўніз, цішэй дадаў: — Вось што, дзетка... Ты вельмі прыгожая, каб паміраць цяпер. Мне шкада цябе, і яшчэ... я такі ж, як і ўсе, слабы чалавек, хоць і старэйшы намнога. Чуеш? Цябе можна ўратаваць, калі сама пажадаеш гэтага і будзеш разумнай...

«Лётчык» сціснуў яе грудзі так, што Зіне цяжка стала дыхаць. І прыпаў вуснамі да яе вуснаў, да болю.

«Вось і прапала я! Божа, што ж гэта такое?» — з трывогай падумала Зіна. І тут убачыла, як між сосен паказаліся партызаны, з аўтаматамі.

Гэта было збаўленне...

— Ціха, сюды ідуць,— шапнула яна «лётчыку».— Пасля...

Партызаны былі з камендацкага ўзвода. Яны прывіталіся і прайшлі міма, ды адзін раптам вярнуўся.

— Вось гэта клопаты! — памахаў ён на Зіну пальцам.— Наша Зіначка любіць так дагледзець хворага, каб той адразу быў здароў. А радыстам, выпадкам, нічога не гаварыць, га?

— Як сабе хочаш,— адказала з усмешкай Зіна. І ўжо не адстала ад яго да самага лагера.

Непадалёк ад шпіталя, зноў застаўшыся адны, спыніліся.

— Як усё нядобра атрымалася! — закрыла рукамі вочы Зіна.

— Не хвалюйся... Цяпер ты зробіш тое, што я папрашу,— раптам «лётчык» перайшоў на «ты».— Я ведаю — Зорка — твой пароль. Гэтак?

Яна нібыта ўзрадавалася:

— Дык вы — Шпак?

— Ці-іха...

— Божа, а я думала...

— Да твайго пароля ў мяне адказ: «Дзень добры, Зорачка». Чаму не верыла?

— Баялася...

— Вось што... Заўтра ўранні я павінен адзін на адзін пагутарыць з тваім жаніхом. Ясна?

— Ясна...

— Ты замані яго далей ад лагера і пакінь нас удвух. А што датычыць нашых адносін, то... я сапраўды пакахаў цябе, Зіна. І ніякай жонкі ў мяне няма.

— Усё?

— Пакуль усё. Калі што спатрэбіцца, скажу. Згода?

— Згода.

— Вось бачыш, як нам цяпер лёгка згаварыцца!

Яны развіталіся, быццам нічога не здарылася.

## ПЕРШАЯ РАЗВЯЗКА

Рашэнне было прынята.

Ледзь апынуўшыся за дубам, Кастусь адразу скочыў убок і пачуў за плячамі стрэл. Следам за стрэлам голас:

— Рукі ўгору!

Кастусь прысеў, крутнуўся, выхапіў пісталет, але страляць не давялося: з-за дрэў разам з узрушаным, расчырванелым капітанам Крайко выбеглі яго нязменныя памочнікі, маладыя хлопцы з аўтаматамі.

«Лётчык» застыў на месцы. Ён моцна сціскаў у руцэ зброю, збялелымі вуснамі нешта шаптаў, але страляць ніяк не мог.

— Кінь! Кінь г-гуляць гэтай цацкай, капітан Барсукоў! Яна ўсё роўна не страляе. Там, прабач, як ты кажаш, даражэнькі, халастыя патроны. Прыём не новы, але надзейны...

«Лётчык» кінуў пісталет на зямлю, абыякава, нават з усмешкай, адказаў:

— А я і не збіраюся страляць. Мы жартуем... У нас свае рахункі з радыстам.

— Рукі ўгору! — зноў загадаў капітан.

— Калі гэта вам патрэбна — калі ласка! — «Лётчык» падняў рукі, спахмурнеў.— Толькі вы дарэмна стараецеся. Не па тым следзе пайшлі, капітан. А я вось на сапраўдны след напаў! Хутчэй шукайце Зіну, пакуль яна не ўцякла. Яе пароль — Зорка. Я ўсё ведаю...

«Лётчык» здзівіўся, што ўсе пры гэтым засмяяліся. Усе, апрача Кастуся. Потым і ён зразумеў — Зіна дзейнічала пад чужым паролем. І той пароль належаў, бясспрэчна, Зосі, той першай дыверсантцы, якая дэбютавала вельмі няўдала...

Шукаць Зіну не трэба было, бо яна сама выйшла з-за дрэў. Твар яе па-ранейшаму быў бледны, а вочы ўсміхаліся. Раптам яны пацямнелі, нахмурыліся.

— Цяпер то ты, гадзюка, сапраўды не вернешся да сваёй жонкі! — прамовіла Зіна і падышла да Кастуся, які разгублена глядзеў на яе.— Бачыш, я казала, што нічога страшнага...

— Як?! — не здаваўся дыверсант.— А план абароны пушчы, а шыфроўка, а атрута? — Ён разняў кулак, дзе была паперка з парашком — звычайнай дробнай соллю,— і дадаў: — Я хацеў выследзіць усё да канца...

— А папаўся сам! З'еш тую атруту... Ха-ха-ха! Маладзец, Зіна, перахітрылі мы з табой яго,— задаволена сказаў Крайко і звярнуўся да Кастуся: — Ты нам таксама нямала памог. Прабач, што такімі сродкамі. Усё атрымалася натуральна. Інакш стрэлянага воўка не зловіш! Гэта быў вельмі хітры вораг. Не адразу на нашу падсадную качачку клюнуў! А які з'явіўся ў лагер? Ледзь не жывы труп...

Кастусь ужо крыху апрытомнеў, чырвань заліла твар.

— Ды я ж, каб ведаў, куляй пачаставаў бы...

— Ого! Думаеш, ён разгубіўся б? А калі б гэты «лётчык» раней управіўся ды па кацялку табе?

— Было б значна горш! — чамусьці рассмяялася Зіна.

Ворага абшукалі, павялі. Ля штабной зямлянкі іх ужо чакаў палкоўнік. Ён адпачыў і меў добры, бадзёры выгляд.

Капітан выйшаў наперад, казырнуў:

— Таварыш палкоўнік, дазвольце далажыць!

— Дакладвай! — відаць, аб усім ужо здагадаўшыся, усміхнуўся ў адказ Кавальчук.

— Дыверсант злоўлены! Як і падазраваў, ім аказаўся «лётчык». Прозвішча капітана Барсукова, савецкага лётчыка, які загінуў пад Маладзечна, было скарыстана...

— Навіна прыемная! — перапыніў капітана палкоўнік і да дыверсанта: — Толькі не для цябе, пан Шпак-Сікорскі... Бачыш, ніякая маскіроўка не памагла, Язэп Францавіч... Так, здаецца, велічаюць вашу светласць?

Дыверсант уздрыгануўся. Яго вусны пасінелі, твар пабіла на плямы.

— Ну і прыдумалі ж абвінавачанне! — ціха сказаў ён, з-пад ілба пазіраючы на палкоўніка, а мацней дадаў: — Я ніякі не Шпак! Вы памыляецеся. Усё гэтае недаразуменне з-за медсястры і радыста. Рэўнасць вочы засланіла.

— Старэеш, пан Шпак! — паківаў галавою капітан Крайко.— Мы даўно чулі пра твае вынаходніцтвы. А тут — уліп...

— У-у, чортаў госць! — Кастусь падсунуў дыверсанту пад нос кулак.— Бандзюга пракляты. Сам я цябе расстраляю, як сабаку. Кавалер знайшоўся...

— Дапытаць! — загадаў капітану палкоўнік і, паклікаўшы радыста, пайшоў з ім у сваю зямлянку.

Кастусь даўно хацеў параіцца з палкоўнікам, але ніяк не выпадала. Таму цяпер ён абрадаваўся выпадку. Чакаў пытання, якое непакоіла радыстаў усе гэтыя дні.

— Сядай,— калі яны апынуліся ў зямлянцы, сказаў Кавальчук.— Нам трэба ўсё вырашыць...

Кастусь сеў на край нараў, засланых тоўстай саматканай коўдрай, і пачаў уважліва назіраць за палкоўнікам. А той спыніўся ля акна, пазіраў туды і, здавалася, не ведаў, як пачаць гаворку. Потым, скідаючы кіцель, спакваля сказаў:

— Што ж, дружа, будзем рабіць далей? Сувязь патрэбна, сам ведаеш, як жыццё, як паветра. Без яе я сляпы і глухі. Спрабаваў паслаць групу да суседзяў — не прайшлі...

Палкоўнік сеў да століка, пачаў круціць цыгарку.

— Я разумею, нашы батарэі знішчаны Шпакам,— пачаў Кастусь.— Цяпер з ім пакончана...

Кавальчук перапыніў яго:

— Нам ад гэтага не лягчэй.

— У мяне ёсць нейкая думачка...

— Якая?

— Вораг, скажам, таксама мае радыёстанцыі...

— Безумоўна.

— Значыць, і ў яго ёсць батарэі. Іх трэба як-небудзь «пазычыць» хоць на адзін сеанс, каб перадаць каардынаты пляцоўкі.

— Якім жа чынам, дазволь даведацца?

— А вось гэтага, Павел Антонавіч, на жаль, я не ведаю. Стратэг з мяне слабы, а камандзір, самі ведаеце, ніякі: з адным Алесем не спраўляюся.

Палкоўнік яго зразумеў.

Прыжмурыўшы вочы, ён хвіліну падумаў і, ні то адказваючы Кастусю, ні то пытаючыся ў яго і разважаючы, сказаў:

— Здабыць батарэі можна толькі ў баі... Радыёстанцыі, як вядома, знаходзяцца пры якім-небудзь штабе...— І раптам ажыў, павесялеў: — Чакай, чакай! Сёння Віктар пасылае разведгрупу, якая павінна прашчупаць ахову вёскі Мсціж. Там нейкі штабік ёсць. Трэба заадно паспрабаваць шчасця, удар узмацніць! Ідзі, Кастусь, пакуль маўчы ды дыш. Бог дасць, нам сёння і другі раз пашанцуе. Ты гэта здорава прыдумаў!

Падбадзёраны і акрылёны выйшаў Кастусь са штабной зямлянкі. Хацеў проста бегчы да Алеся, парадаваць яго, але заўважыў у ельнічку Зіну, завагаўся: дужа карцела падысці да яе, пагаварыць. Пачакаў, пакуль яна павесіла на нацягненую вяроўку ўсе бінты, паволі пакіраваў туды, нібы наўзбоч.

Зіна заўважыла яго, акліканула.

Кастусь прыкмеціў, што крыху змяніўся яе твар, ён пабялеў, выцягнуўся. Дзяўчына відавочна пасталела.

— Прабач, Косця,— загаварыла адразу сцішана,— я і сама яшчэ не магу ачомацца. Не злуйся, што ўсяго не сказала тады. Мне так загадаў капітан Крайко. Для цябе ж... Яго людзі сачылі за намі кожную хвіліначку...

— А я і не злуюся! — весела адказаў Кастусь, кладучы ёй руку на плячо.— Я проста, Зіна, рад за цябе, што ты такая вытрыманая. Каб ты ведала! Гэта ж трэба такога хітрага звера ды перахітрыла! Сапраўдная разведчыца! Ды пад чужым паролем...

— Праўда? — узняла яна галаву, чырвань набегла на твар.— А я ж нявытрыманая, я так хвалявалася! Ой, Косця, як хвалявалася! Плакала.

— Дурненькая.

— Ага... Я і цяпер яшчэ пад чужым паролем павінна

дзейнічаць. Гэта на выпадак, калі новага дыверсанта закінуць да нас ворагі...

— Малайчына! Я цябе вельмі, вельмі, вельмі...— зашаптаў ён на вуха.— Бачыш? — павярнуў Зіну тварам да зямлянак.— Алесю зайздросна, але цяпер яму не да нас. Ён усё глядзіць на Крайкову зямлянку, дзе сядзіць тая паганая птушка Шпак, якога ты памагла злавіць. Хоча кінуць туды гранату...

— Дзівак! Гэты Шпак, можа, яшчэ каго выдасць.

— Як міленькі!

Зіна ўздыхнула, адняла сваю шчаку ад Кастусёвай, загаварыла сурова:

— Хто б мог падумаць, што ён зусім не лётчык: так яскрава, праўдзіва расказваў пра жыццё лётчыкаў, пра начныя палёты... Капітан усё прасіў мяне аставацца з ім у шпіталі ўдваіх, сачыць, спяваць тую дурацкую песню, часта глядзець угору і пра зоркі гаварыць. Я злавалася на капітана за такое, як мне здавалася, глупства. Бо нічога не ведала. А цяпер так рада, так рада... Шпак падумаў, што гэта я — Зорка, яго памочніца. Мы ж адказу на пароль не ведалі...— Яна ўсміхнулася і дадала: — Такі вопытны Шпак, а ўліп!

— Ён, Зіна, як ты пайшла, адразу напаў на мяне там...

— Я гэта ведала, мыназіралі за вамі...

Кастусь яшчэ жыў гэтым ранішнім перапалохам. Кулакі самі па сабе сціскаліся, твар хмурнеў. Зіна зірнула на яго, захвалявалася зноў.

— Давай не будзем больш гаварыць пра яго. Я сама так верыла! Дачка, дачка... А ўчора... Брыдкі чалавек.

— Ён пакрыўдзіў цябе?

— Так я і дазволю, каб мяне крыўдзілі! — Зіна пачырванела, схавала вочы за доўгімі вейкамі.— Ой, Кастусь, праўда ж дурная я зусім! Як пень... Ну, маўчы, маўчы ты. Мне страшна ўспамінаць гэтыя апошнія дні...

Зіна неяк абмякла ўся, амаль павісла ў яго на плячы.

— Я Алесю пра наша каханне расказаў, дык ён аж уздыбіўся,— каб змяніць гутарку, схлусіў Кастусь.— Кажа, што ў вашай вёсцы ўсе хлопцы пакляліся не аддаваць цябе ў чужыя рукі. Гэта праўда, Зіна?

— Хай ён не хлусіць! — яна махнула рукой, а ў вачах — зорачкі! — У нашай вёсцы, вунь, сапраўды прыгожых дзяўчат не пералічыш. Алесь сам заўсёды мінаў мяне...

— Тады я не буду нікога баяцца,— усміхнуўся Кастусь, моцна пацІснуў Зіне руку, і яны разышліся.

Толькі цяпер, застаўшыся адзін, Кастусь адчуў, што ён бясконца змораны, галодны, ледзь трымаецца на нагах. Ад шпіталя пайшоў проста ў сваю зямлянку.

На халоднай пячурцы стаяў салдацкі кацялок, накрыты лустай хлеба. Кастусь падняў хлеб, панюхаў жытнюю зацірку. Потым дастаў з паліцы над комінам лыжку і памяшаў у кацялку.

— Бал-лан-да,— працадзіў Алесь.

— Але ж пахне здорам!

Алесь, седзячы ў куце на нарах, назіраў за таварышам. Ён яшчэ ні пра што не ведаў, бо другі дзень не адыходзіўся ад зямлянкі, ні з кім не сустракаўся, не гаварыў. Свет для яго звузіўся. Гумар прапаў. Старая звычка добра паесці на нейкі час знікла. Прапаў нават і сон.

— Гэта згатавалі для штаба,— нарэшце падаў голас.— Што ж будзе далей?

— А нічога! Прыляцяць самалёты, скінуць нам з неба ўсё, што трэба... Слухай! Слухай і запамінай!

Кастусь расказаў Алесю ўсё па парадку. Пра Зіну, пра тое, як яна выконвала ролю дыверсанткі, пра сустрэчу ў лесе, пра Шпака. Потым — пра гаворку ў зямлянцы палкоўніка.

Алесь спярша маўчаў: не даваў веры. Потым высунуўся з зямлянкі, убачыў вартавога з аўтаматам, узрушаных людзей, якія нешта гаварылі пра дыверсанта, ажыў:

— Праўда! Кастусь! Дык я ж зусім не вінаваты!

— Трохі...

— Трохі — згодзен!

Павесялеўшы, Алесь накінуўся на страву з такім апетытам, што калі б Кастусь не праявіў уласную ініцыятыву, то застаўся б галодны...

## УЦЁКІ

А Шпак (усе з гэтага часу так называлі дыверсанта), седзячы ў зямлянцы, думаў: «Толькі б не расстралялі да начы! Толькі б не расстралялі...» Ён вырашыў маўчаць, ні ў чым не прызнавацца. Няхай яго дапытваюць колькі хочуць, няхай накіруюць за фронт. Лепш самае дальняе падарожжа, чым самая блізкая смерць. Допытаў ён не баяўся, а смерці баяўся заўсёды. І калі сам забіваў, калі

здраджваў, калі служыў у паліцыі. І калі ішоў сюды, на гэтае апошняе заданне.

Служыў у паліцыі...

Гэтага амаль ніхто не ведае, бо тады Шпак насіў «прапаршчыцкія» вусікі і доўгія валасы, па каўнер, як у Махно. Тады ён любіў чапляць на нос вялізныя акуляры з цёмнымі шкельцамі. Цёмныя акуляры, як яму здавалася, рабілі яго больш страшным, усемагутным. І што добра — ніхто не мог пазнаць Шпака нават на яго радзіме, у Загацці. Радні там у яго ніякай не засталося, аднагодкі былі ў партызанах, але яшчэ траплялiся знаёмыя жанчыны. Ён ведаў, чые мужы былі камуністамі, а чые — партызанамі. І ён прыставаў да гэтых кабецін, пагражаў. Яму плявалі ў твар, а ён здзекаваўся, гвалтаваў, бо ў яго была зброя. І пасля падбрэхваў на няшчасных удоў. Фашысты гэтага толькі і чакалі. Маючы свае планы на знішчэнне беларусаў, яны не сталі разбірацца ў падрабязнасцях, а спалілі ўсю вёску разам з людзьмі. Мала хто тады ўратаваўся...

А што было яшчэ раней?

Раней Шпака называлі не інакш, як «пан аконам». Ён насіў рыпучыя, на бяросце, боты з бліскучымі халявамі. З рук не выпускаў кароткі скураны бізун. Шпак любіў ляпаць тым бізуном па халявах ботаў. І любіў пры гэтым гаварыць:

— Я вас, псякрэў!

Пану Круціцкаму ён служыў аддана, як сабака. Круціцкім служылі ўсе Сікорскія: прадзед, дзед, бацька, браты. З кожным новым пакаленнем яны атрымлівалі вышэйшыя пасады. Калі прадзед быў звычайным конюхам, то Язэп стаў аконамам, самым блізкім чалавекам у пана. Яшчэ нябожчык бацька гаварыў Язэпу: «Служы верна, але дзе можна — уварві! Будзеш багаты — сам панам станеш».

І аконам захацеў стаць панам.

Перш за ўсё трэба было ачысціць дарогу ў маёнтак ад малога белагаловага паніча.

Аднойчы, як было не раз, паніч Вячэслаў Круціцкі пайшоў на ўласнае возера купацца. Язэп тады непадалёк, як звычайна, лавіў сеткай карасёў пану на абед. Але незвычайным было другое. Толькі паніч скочыў са сваёй вышкі ў возера, як адразу пайшоў на дно. Плывец ён быў выдатны, і таму ніхто не ведаў, што здарылася.

Касцы на лузе ўзнялі лямант. Язэп, як згледзеў гэта,

кінуўся на дапамогу. Нырнуў раз — не знайшоў малога: дужа глыбокую зрабілі копанку для нырцоў. Нырнуў другі, прабыў пад вадою яшчэ больш — зноў няма.

Аж сам ужо змогся, але за трэцім разам, на шчасце, выцягнуў паніча з рассечанай галавою...

І ўжо ніхто не даў рады: ні пан аконам, ні пан лекар. Забраў малога, як казалі кабеты, пан Езус. Пасля ўжо выцягнулі з тае яміны плуг з вострым нарогам, аб які і разбіўся малы.

А потым, не перанёсшы гора, цяжка захварэла і згасла пані. Гэта было ўжо напярэдадні верасня 1939 года...

Да сямейнага няшчасця дабавілася новае: паноў прагналі.

Такім чынам Шпак эмігрыраваў у Прусію.

Калі пачалася вайна і фашысцкія орды рынуліся на ўсход, паднялі галовы былыя ўладары. Дачуліся — зноў ім маёнткі вернуць. Ды раптам ні з таго ні з сяго пан Круціцкі «атруціўся». Шпака схапілі, дапыталі, але не пакаралі: дужа некалі было фашыстам разбірацца з такімі дробязямі.

Яму проста пашанцавала: новыя ўлады ўзялі Шпака пад нагляд.

А праз нейкі час, ачышчаны ад грахоў удзелам у расстрэле групы польскіх яўрэяў, Шпак пайшоў служыць фашыстам. Спачатку быў звычайным правакатарам, а потым — паліцаем. Выслужыўся на пагромах — узялі яго ў «навуку». За кароткі тэрмін зрабілі выдатным дыверсантам.

...Апоўдні яго не допытвалі. Яго дапыталі пазней. І ён не гаварыў, хто яго паслаў, не адказваў на пытанне — дзе схаваў батарэі, не выказваў саўдзельнікаў.

— Мяне ніхто не пасылаў, я — лётчык! — упарта цвярдзіў Шпак, напружваючы жылістую шыю.— Я нікога не ведаю... З-за дзяўчыны ўсё гэта здарылася...

— А прагаварыўся ж, што Зорка — пароль. Адкуль ведаў? — тут жа лавіў яго Крайко.

— Мне так падумалася...

— Брэшаш! Мы злавілі тваю Зорку! — крычаў капітан Крайко.— Скажаш, чортава твая душа, пра ўсё. Я не буду з табой няньчыцца. Дзень-два патрымаю — ды да сасны!

Сякая-такая практыка была ў капітана, хоць ён і не быў прафесійным разведчыкам. Ён меў надзвычай моцную памяць, быў назіральны, валодаў той спецыфічнай

інтуіцыяй, якая памагала яму ў рабоце больш, чым практычны аналіз. А вось дапытваць ён не ўмеў.

Вопытны дыверсант, улавіўшы словы «дзень-два патрымаю», загадзя ведаў, што ў яго наперадзе не адна ноч. Прызнацца ніколі не позна. А ноч — год. Хто ведае, што можа здарыцца на вайне за ноч...

Пасля допыту капітан зрабіў сваю другую памылку: ён зноў замкнуў дыверсанта ў зямлянцы і прыставіў вартавога, які, як вядома, топчацца заўсёды каля дзвярэй.

Дыверсант агледзеўся. Нідзе ні адтуліны. Маленькае акенца забіта тоўстымі дошкамі. Шпак бачыў — дзве шырокія сталёвыя ленты ўздоўж і дзве ўпоперак, накшталт кратаў, ляглі на дошкі.

«Наіўныя людзі! Лягчэй за ўсё ўцякаць з зямлянак...»

Шпак падняў руку ўгору, дакрануўся да тоўстых пахіленых плашак — і закалацілася сэрца: шчыліна! Адламаў ад адной плашкі трэску, тонкую і сухую, як костка, схаваў за халяву бота. Нібы гэта быў нож, той выратавальны нож, які так неабходны ў крытычную хвіліну.

Доўга ляжаў на голых нарах і адлічваў час. Гэта быў пакутлівы занятак.

Мінула, здавалася, вечнасць, калі за дзвярамі пачуліся галасы — змянялася варта.

«Дванаццаць гадзін!» — адзначыў Шпак, услухоўваючыся ў начныя гукі. А гукаў было шмат. Вось ён улавіў далёкія выбухі. Ведаў, што гэта фашысцкія батарэі абстрэльвалі астравы.

Потым проста над лагерам праляцелі самалёты, бомбы кідалі зусім блізка, а Шпак маліў бога, каб хоць адна трапіла побач з зямлянкай, у самага вартавога. Ды самалёты паляцелі, а зямлянка засталася. І застаўся страх, боязь за жыццё.

«Час пачынаць самому!» — вырашыў дыверсант і вобмацкам прасунуў трэску ў адтуліну між няроўных плашак, на якія накідана зямля. Мох быў сухі, зляжалы, выкалупваўся цяжка, сантыметр за сантыметрам. І вось першыя пясчынкі пасыпаліся на жэрдкі параў. Іх нямнога, з напарстак, але як абнадзеілі яны Шпака!

Ціха сеецца пясок. І не трэба ўжо шоргаць у адтуліне трэскай. Варта крыху крануць плашку плячом, як адразу лягчэе яна: з круглага верху сыплецца сухая зямля і цячэ, як вада. І ні шуму, ні грукату. А бясконцы абстрэл пушчы так добра глушыць гэты ледзь чутны шоргат.

Прыемны шоргат!

Страляйце, гарматы!

Сюды, у Баркоўскую пушчу, можна выпаліць снарады многіх складаў, нават не параніўшы ні аднаго чалавека.

Страляйце, гарматы!

Біць па лесе — усё роўна, што сцёбаць пугай па вадзе: гук ёсць, а следу ніякага.

А тут — след!

Улучыўшы момант, Шпак асцярожна падняў плашку, зірнуў у цемнату. Ён убачыў зорнае неба, чорныя цені дрэў і не стрымаўся, усунуў у дзірку галаву. Адразу за галавой паказаліся яго рукі, шыя, плечы,— і толькі мільгануўся яго цень! Мільгануўся і знік, растаў...

Ельнік, бярэзнік, ручаіна — шукай ветру ў полі!

— Стой, страляць буду!

Як запазніўся гэты вокліч!

Сekануў аўтамат — толькі голле пасыпалася, толькі пошчак па лесе. За плячамі — тупат. За плячамі — смерць. Не дагоняць людзі, не зловіць смерць!

Пушча вядомая і сховы знаёмыя, а сілы ў нагах яшчэ хопіць, яны вынесуць з бяды. Ім не ў першы раз такая работа...

Чапляюцца за вопратку галіны, а здаецца, што гэта вострыя кіпцюры хапаюць за твар, хочуць спыніць чалавека. Неразумныя галіны! Ці ж стрымаць вам, кволым, вецер? Чалавек не бяжыць — снарадам ляціць. Чалавек дужа баіцца той смерці...

«Так-так-так!» — азваўся недзе кулямёт.

Толькі пад раніцу вярнуўся ў лагер падняты па трывозе камендандцкі ўзвод: уцекача не злавілі.

## НАЧНЫ БОЙ

Алесь лічыў, што ў жыцці яму ніколі не шанцавала, што ўсе людскія няшчасці і нягоды дасталіся выключна на яго долю. Няшчасці і нядолі былі дробязнымі: то ён «правальваў» экзамен і два гады не мог паступіць у тэхнікум, то, паступіўшы нарэшце, выяўляў, што спецыяльнасць, дзеля якой ён аддае свае лепшыя гады, не яго прызванне.

І шукаў сабе Алесь тое прызванне ў газетных аб'явах, кідаўся з курсаў на курсы, аж пакуль не трапіўся на вочы заклік: «Усе на самалёты!»

Толькі лётчыка з яго таксама не атрымалася: дактары

знайшлі нейкую хваробу сэрца, і аэраклуб для яго закрыўся назаўсёды. Затое праз той аэраклуб Алесь і стаў радыстам. Тут, як ён лічыў, яму першы раз выпала шчасце: гэтую працу ён любіў, нават меў да яе, хоць і невялікае, прызванне.

Прыехаў аднойчы ў адпачынак дамоў і дамогся, каб у іхнім калгасе быў свой радыёвузел. Сам узяўся за справу. Не адзін тыдзень аддаў, а вузел наладзіў. Рэдка тады дзе было радыё ў вёсках, а спецыялістаў яшчэ менш. І таму Алесь сышоў, як ён казаў, за інжынера, ганарыўся гэтым. Любая кабеціна ў вёсцы палічыла б за гонар, каб ён да яе дачкі пасватаўся, а вось Зіна чамусьці не дужа хілілася да яго. Ды не бедаваў Алесь: былі там і другія дзяўчаты!

Паехаў у Маскву давучвацца, а тут — вайна, як снег на галаву, радысты вельмі патрэбны былі.

І здарылася такое, што яны з Зінай зноў сустрэліся!

«Гэта мая другая ўдача ў жыцці»,— вырашыў тады ў думках Алесь. Потым пазнаёміў з дзяўчынай Кастуся — на сваю бяду. Цяпер зноў няўдачы, яшчэ горшыя, адна за адною зваліліся на беднага хлопца...

Навіну, што Зіну накіравалі ў атрад, які сёння ноччу пойдзе ў бой, Алесь прынёс як бы задаволены: няхай пакруціцца Кастусь, няхай пахвалюецца.

— Чаму яе, а не каго другога? — адразу зачырванеўся той, моцна засоп.

— Адкуль я ведаю? Крайко настояў...

Пасля Кастусь даведаўся: у шпіталі раненых нямнога, і Свістуненка спраўляецца адзін. А калі возьмуць Мсціж, то там можа аказацца і Шпак. Хто ж, апроч Зіны, яго пазнае? Не ісці ж дзеля гэтага палкоўніку ці капітану...

Бачыў Алесь, як Кастусь правёў Зіну за лагер, і заныла хлапечае сэрца. Хацеў пайсці разам, ды гонар не пусціў. Няхай адзін правядзе, далёка не адыдзецца, не дазволена.

Але Кастусь паклікаў:

— Але-есь, хадзі з намі!

— Я ўжо не Алесь, а Вася... І наогул — трэці лішні,— адказаў з ноткамі жарту. Чуў, як там, за зямлянкамі, засмяяліся, падумаў: «А ці шчаслівыя яны? І ці можа быць цяпер шчасце наогул? Вось праводзіць каханую не дамоў, не ў кіно, а ў бой, з якога можна і не вярнуцца. Вядома ж, што гэта нялёгка. Дык чаго ж я радуюся? Чаго?..»

Кастусю сапраўды было цяжка.

Хацеў сказаць многае, прыгалубіць, падбадзёрыць, а вымавіў толькі, як той камандзір:

— На, вазьмі на шчасце, у баі спатрэбіцца,— і працягнуў гранату-лімонку.

Але позірк сказаў больш. Позірк, здавалася Зіне, прасіў, маліў: «Глядзі ж, будзь асцярожная. Я кахаю цябе, буду чакаць нецярпліва, буду хвалявацца за цябе...»

І ад гэтага Кастусёвага позірку моцна, да болю, сціснулася Зініна сэрца.

Зіна нічога не адказала. Схавала лімонку ў кішэню санітарнай сумкі і развіталася, звычайна, па-сяброўску паціснуўшы Кастусю руку. Адышлася, падняла ўгору хусцінку і памахала ёю.

Адразу агарнуў сум, хоць ведала, што расстаюцца ненадоўга, на адну толькі ноч. І сярод гэтай ночы, поўнай трывог і неспакою, будуць суладна біцца два гарачыя сэрцы...

Па дарозе трапілася фурманка, і Зіна прыехала ў атрад апоўдні. Людзі адпачывалі. Густы малады бярэзнік, якім парос адхон яра, добра ўкрываў гэты часовы партызанскі лагер.

Камандзіра атрада яна знайшла непадалёку ад дарогі, каля тоўстага дубовага пня, на якім была раскладзена карта двухвёрстка. Засяроджаны і сумны, камандзір глядзеў на адну кропачку, дзе было напісана «Мсціж». Гэта — вёска ля шашы, варожы гарнізон. Яго сёння трэба ўзяць з боем, узяць хоць на паўгадзіны, хоць на дзесяць хвілін...

Прывітаўшыся, Зіна далажыла, што прыйшла ў атрад па загаду камандзіра злучэння.

— Вось і добра! — ветліва кіўнуў густачубай галавою камандзір атрада і ўстаў. Ён высокі, загарэлы, у лёгкай чорнай тужурцы. Зіна ведала, што яго завуць Валодзя. І атрад так называўся: «атрад Валодзі». А як прозвішча гэтага камандзіра, яна ні разу ні ад каго і не чула. Адчувала, што камандзір крыху ўсхваляваны, яму, відаць, не да яе. І не стала больш ні аб чым распытваць, пайшла шукаць сваіх санітараў, з якімі давядзецца быць побач.

Партызаны дбайна рыхтаваліся да гэтай складанай аперацыі: правяралі і чысцілі аўтаматы, рупіліся захапіць усё неабходнае да бою і не ўзяць нічога лішняга, каб было лягчэй у паходзе, у атацы.

Каля самага ўскраю лесу, пры выхадзе з пушчы, бы-

ла добрая дарога. На ёй акапаліся фашысты. Гэта ўжо вядома. А колькі іх там у вёсцы? Дзе асноўныя агнявыя кропкі, доты? Разведчыкаў яшчэ не было. Вось чаму камандзір і хваляваўся...

З мінулай блакады партызанам вядома, што галоўную сілу вораг трымае ў лясных абаронных пунктах, а вёскі ахоўваліся менш, туды не так доўга і падмацаванне падкінуць.

Як там, ля Мсціжа, цяпер? Вось над якім пытаннем ламаў галаву камандзір Валодзя...

Увечары, так і не дачакаўшыся разведчыкаў, атрад зняўся з прывалу ў яры і рушыў у паход.

Зіна не першы раз ішла на такую аперацыю, але чамусьці, як ніколі раней, хвалявалася. Ці не перадаўся ёй настрой камандзіра, трывога партызан, што чакалі разведчыкаў? Яна сачыла за імі, лавіла іх позіркі, кожнае слова. Так было доўга, бо рухаліся вельмі асцярожна, за дазорамі...

І вось на адным прывале Валодзя павесялеў: вярнуліся нарэшце разведчыкі. Змучаныя, брудныя, але шчаслівыя, яны паведамілі, што ля вёскі на шашы выстаўлены толькі групавыя дазоры, а штаб ахоўвае ўзвод аўтаматчыкаў. Значыць, лінія абароны яшчэ не ўмацавана, вораг спадзяецца прасунуцца глыбей у лес, да другой дарогі.

Ішлі асцярожна і доўга — галіна пад нагамі не трэсне. Рухаліся, як цені, сотні — бы адзін чалавек.

Над лесам, недзе ў верхавінах, пачуўся дружны шум. Гэта нечакана сыпануў спорны дождж. Да зямлі ён яшчэ не прабіўся праз густое вецце і шугаў толькі ўгары. Але ніхто не шкадаваў, што змокне. У дождж лягчэй падысці непрыкметна. Ды і ноч больш цёмная, непраглядная.

І вось нарэшце па шарэнгах подыхам ветру прабегла чаканая каманда: «Да бою!» Партызаны мігам перастроіліся групамі, рушылі з лесу...

Зіна адчувала сябе больш упэўнена з дужымі санітарамі, ніколечкі не баялася, але чамусьці было вельмі млосна, проста не хапала паветра. Чорны партызанскі бушлат прамок на ёй да ніткі, і цяпер не павярнуцца ў такой вопратцы. Яна расшпіліла гузікі, крыху адпусціла рэмень.

«Ён вунь у зямлянцы, можа, спіць ужо»,— не без зайздрасці падумала пра Кастуся, услухоўваючыся ў наваколле. А навокал было ціха, быццам нічога і не рыхтуец-

ца, быццам хутка не выбухне ў гэтай цішыні такі знаёмы гул і грукат бою. Толькі шоргат ног здаваўся ветрам, што прабягае па спелым жыце.

Зіну знайшоў Валодзя, шапнуў бадзёрае:

— Зараз пераб'ём фашысту сон, маленькі перапалох устроім, а то разлёгся тут у нас, як дома. Ты ж глядзі, Зіна, не забягай наперад... А калі каго незнаёмага зловім — пакажам. Я тут не першы раз, амаль усіх ведаю...

І пайшоў.

Недзе на дарозе гучна зараўла машына. Магчыма, яна там стаяла і, крануўшыся з месца, наблізілася. Зіна пачала ўглядацца і прыкмеціла яе, чорную машыну, падобную на бранявік. Яе браніраваныя барты раптам рассыпалі зорачкі. Гэта на бартах ударылі кулямёты. Партызаны рвануліся наперад, нібы то ім была каманда. Цяпер хоць не чуваць тупату. А зусім блізка, лявей ад сяла, ачнуліся фашысты. Яны бязладна пачалі страляць з аўтаматаў. І загалёкалі ля мноства кастроў, загаманілі.

Вораг усё рабіў дзеля таго, каб паказаць, што ён не спіць у шапку. Правей, на Домжарыцкім узгорку, батарэя за батарэяй, білі па балоце. Яны заўсёды, кожны дзень, пачыналі абстрэл роўна а дванаццатай гадзіне.

Побач з Зінай нехта прашаптаў:

— Хутка пачнецца...

Нехта падпоўз ужо да самай дарогі.

І раптам, як стрэл над вухам,— выбух! Умоўны сігнал да атакі. Адразу шугануў агонь, быццам каменная гара абрушылася людзям на галовы. Цеплынёй ударыла ў твары. Партызаны рванулліся наперад, за дарогу. І стрэлы, і выбухі, і шматгалосае «ўра» — усё злілося ў суцэльны гул...

Чарнеюць наперадзе хаты, хлявы. Адтуль б'е вораг. Ужо трашчаць платы за дарогай. Партызаны, не спыняючыся, бягуць у вёску, залягаюць у градах, у бульбянішчы.

Зіна бегла апошняй, за санітарамі. Ніяк не паспявала за імі, але баялася і адстаць. І таму бегла, выбіваючыся з апошніх сіл. Яна заўважыла, як злева на дарозе нехта ўзарваў тую машыну, з борта якой сыпаліся іскры.

Бранявік быў высокі. Ён павольна споўз у адхон, зваліўся набок. Як падбіты звер, яшчэ разы два гыркнуў перад смерцю і змоўк.

Зіне няма калі ўглядацца, яна перабегла цераз дарогу і там заўважыла першага параненага. Схілілася над ім,

спачатку разгубілася, а потым хуценька пачала шукаць рану...

За вёскай там-сям успыхваюць і нясуцца сюды чырвоныя пацеркі, адна за адною. Яны не страшныя: гэта патрулі з другой лініі абароны б'юць трасіруючымі кулямі, паказваюць напрамак, адкуль наступаюць партызаны.

Але і варожых патрулёў, здаецца, паменшала. А партызанскія кулямёты і аўтаматы сякуць несупынна, і грымiць кішэнная артылерыя.

Зіна ўглядалася ў цемру. Страшнавата. Нейкім чынам яна засталася зусім адна, са сваім параненым байцом. Ды вось нехта ідзе...

Прынеслі на насілках другога параненага. Яна зрабіла перавязку і таму. Санітары паклалі абодвух на насілкі, паднялі і зніклі ў тумане, нібы іх тут і не было.

Зіна ўжо хацела рушыць далей, як пачула — ляпнула паблізу жалеза, скрыганула. Азірнулася і бачыць: у абернутым браневіку паволі адчыніўся люк і тры сагнутыя постаці ўзніклі ля канавы, зусім недалёка. Не пазнала, хутчэй адчула — вораг! Страх адняў ногі, звязаў рукі. А побліз са сваіх — нікога. Не памятала, як спаўзла ў канаву, падумала: «Трэба гранатай...» Дастала з кішэні гранату, тую, што даў ёй Кастусь. Нібы пачула яго спакойны голас: «На, вазьмі, Зіна, у баі можа спатрэбіцца». Выцягнула кальцо і шпурнула з-за пляча насустрач постацям. Выбух аж аглушыў, і стала крыху смялей: граната выручыла...

А калі высунула з канавы галаву, то ўбачыла, што чорны і страшны вораг зусім побач, ідзе проста на яе, насоўваецца, як здань. Выхапіла з кабуры пісталет і, не цэлячыся, стрэліла тры разы запар. Трапіла ці не? Вораг залёг, і адразу побач секанула па дзірване чарга з аўтамата. Камякамі ўзляцела зямля. Значыць, яна не трапіла, вораг жывы.

Зіна ўткнулася тварам у адхон, зноў чакаючы абстрэлу, але яго не было. Толькі над галавой трэснула нешта, быццам хто дошку зламаў. Усхапілася, скочыла ўбок і тут пачула:

— Гэта я, Зіна...

Глянула — Валодзя, камандзір. Стаіць на поўны рост, як які волат. Цёплая хваля радасці разлілася па ўсім целе, і яно як ажыло нанова.

— Дык гэта былі вы?

— Не, быў фашыст...

— Ой, як вы мяне выратавалі! — вымавіла Зіна.— У мяне ўжо не было ніякай сілы.

— У баі галоўнае — выручка...— Камандзір пачакаў, пакуль дзяўчына клала ў кабуру пісталет.

— Усё роўна страляць з яго нельга, гразі набілася,— сказала ў апраўданне.

— А навошта страляць? У нас ужо ўсё зроблена! З тваёй дапамогай, Зіна,— весела адказаў Валодзя.— Апрача языка захапілі і батарэі для радыёстанцыі... Трафеяў процьма. Немцы думаюць, што прарыў блакады, кінуліся ўмацоўваць другую лінію сваёй абароны, а штаб кінулі.

Зіна радавалася не менш за камандзіра. Яна думала яшчэ, што калі б не Кастусёва граната, то ці сустрэліся б яны зноў?

Прайшла да таго месца, адкуль у яе стралялі, і ўбачыла двух забітых фашыстаў. Так, гэта зрабіла яе граната.

Трэцяга знішчыў камандзір...

## НА ДРУГІ ДЗЕНЬ

Адбегшыся даволі далёка, Шпак залез пад густую елку, лапкі якой сцаліся па зямлі, і стаіўся, прыслухаўся.

Навокал было ціха: дзякаваць богу, не дагналі! Ды і нялёгка злавіць тут чалавека, які пушчу ведае, як свае пяць пальцаў. Яму дарога адна, а партызанам — сто. Ой, як доўга пятляў Шпак па самых глухіх мясцінах! Яму і цяпер здаецца, што яшчэ чуе галасы, чуе стрэлы, чуе, як лязгаюць за плячамі затворы карабінаў.

Не сядзелася нават пад густой елкай, хоць лапкі яе і надзейна ўкрывалі дыверсанта.

Вылез, агледзеўся. Яго палохала цемра. Здавалася, што з усіх бакоў насоўваюцца на яго нейкія калматыя страшыдлы. Кожны куст, кожнае дрэва падступаліся жывымі істотамі, як некалі ў дзяцінстве з казак, якія даводзілася чуць. Смеласць раптам знікла. Застаўся толькі страх, звычайны страх чалавека за сваё жыццё. Ці ўцёк ён ад смерці? Перш здавалася, што ўцёк. Нават на душы паспакайнела, а цяпер — зноў ноч. Змрок і ў вачах, і на душы. Куды ён пойдзе? Каму ён патрэбен?

Шпак ясна ўсведамляў, што загубіла яго не Зіна, як думалася спярша. Усё гэта не выпадковасці. Яна штодня выконвала канкрэтнае заданне капітана Крайко. Значыць, рана ці позна капітан усё роўна выкрыў бы яго, бо падазраваў з таго першага дня, калі ён, Шпак, сапраўды аб-

палены, з балючай ранай прыйшоў да партызан. Дыверсант быў ашарашаны: яму гаварылі яшчэ перад адпраўкай на заданне, што «сваіх» у лесе поўна, трэба толькі іх знайсці, звязацца і дзейнічаць супольна.

Гаўптштурмфюрэр Кеніц асабіста паведаміў Шпаку, што ў злучэнні Кавальчука ёсць адна дзяўчына. Трэба яе знайсці. Фашыст не ведаў, што тую дзяўчыну разведчыкі расшыфравалі адразу і карыстаюцца яе паролем. Не ведаў гэтага і Шпак. Цяпер ён зразумеў сваю галоўную памылку: асабіста не праверыў Зіну, даверыўся інтуіцыі, а яна і падвяла. «Сапраўды, старэю»,— падумалася нявесела. За што ён так пакутаваў? За што перанёс цяжкія раны? За што загінуў яго памочнік, былы правакатар і фашысцкі халуй, з якім Шпак праходзіў кароткатэрміновыя курсы дыверсантаў у Барысаве?

У таго было заданне адцягнуць галоўную ўвагу партызанскай разведкі на сябе, «нашумець», як гаварылася між дыверсантаў, зрабіць пры выпадку любую дыверсію і ўцячы або... загінуць. Той — смяротнік, бо меў тэрмін, у які павінен быў выканаць заданне. Шпаку ж заданне больш складанае: паступова ўвайсці ў давер, абавязкова захапіць радыста з дакументацыяй. У крайнім выпадку — знішчыць. Той смяротнік быў не галоўны выканаўца аперацыі «Хваля» ў злучэнні Кавальчука. Ён сваю ролю выканаў на «выдатна»: адвёў увагу.

«А ты, Шпак?»

Думкі, думкі, думкі...

Ад іх нідзе не схавацца, ад іх не ўцячы. Апанавала злосць. Яму хацелася некага знішчыць, некаму адпомсціць. Каму? Усім, хто стаіць на яго шляху да шчасця. Яно хоць і невялікае, але заманлівае. Быць гаспадаром маёнтка яму марылася раней. А цяпер, калі, здавалася, гэты час прыйшоў, Шпаку ўжо не да маёнтка. Жыццё — вось што галоўнае. Выратаваць бы сваё жыццё...

Ці не гуляюць з ім фашысты ў дзіцячую гульню: хочаш панам быць — калі ласка! Толькі спярша паслужы. А служба гэтая, як цяжкая хвароба: ці выжывеш, ці памрэш, бо лекаў ад яе няма. Як павернецца лёс. А лёсам, вядома, кіруюць іншыя, больш моцныя, тыя, што стаяць над ім, Шпакам...

— Паглядзім! Я яшчэ вярнуся,— скрыгатнуў ён зубамі.— За ўсе няўдачы адпомшчу.

Шпак-Сікорскі любіў помсціць за няўдачы, хоць тыя помсты шкодзілі больш яму.

Як быў малады, пакахаў ён ціхую ды набожную Анелю, дачку млынара. Але тая нават і глядзець не хацела ў яго бок: дрэнная слава хадзіла пра Сікорскіх на многія вёрсты наўкол.

Ды не суняўся юны кавалер, не зміры́ўся з лёсам, а замысліў нядобрае да каханай.

Былі ў яго «лясныя сябры» — кантрабандысты. Часта ён праводзіў іх да самай граніцы і паказваў, куды лепш прайсці. Часта начаваў з імі ў старой зямлянцы сярод пушчы. Тая зямлянка была што святліца. Сам пан Круціцкі, калі ў часе палявання находзіла непагадзь, адпачываў у ёй. Не зямлянка, а цэлы пакой, абабіты ўсярэдзіне паркалем...

Па ўзлессі пушчы ішла дарога ў Новую Гуту. Там быў касцёл. І вось аднойчы, калі Анеля, як звычайна, вярталася дамоў адна, некалькі дужых рук схапілі яе, завязалі вочы, заткнулі анучаю рот...

Чакаў Шпак, як крумкач, сваю здабычу, седзячы ў зямлянцы, ухмыляўся: лоўка прыдумаў! Прыцягнуць яму сюды Анелю, а ён ужо ведае, што зрабіць, каб яна назаўсёды стала ягонай. Хто ж асмеліцца ісці супраць волі Сікорскага-малодшага! А пасля, зняважаная, каму будзе патрэбна Анеля?

Змірыцца са сваім лёсам, скарыцца...

Добрую плату даў Шпак сваім «лясным сябрам». А да ўсяго прывёз гарнец гарэлкі і вэнджанае сцягно на закуску.

Толькі не дачакаўся Шпак Анелі.

І «сяброў» сваіх больш не бачыў. Яны падаліся некуды далей, у бок Карпатаў... Анелю ж знайшлі ў лесе мёртваю. Там, дзе балявалі п'яныя бяздомнікі, у іхнім логаве, у часовых буданах. Аднаму лесу вядома, што вытваралі бандыты над беднай дзяўчынай, якія здзекі давялося ёй вынесці...

Не стала сінявокай прыгажуні, не стала кахання, ды не забалела хлапечае сэрца, а яшчэ больш азвярэла, новай ахвяры захацелася. Той ахвярай стала спачатку панская пакаёўка, затым — паніч і пані. Лоўка звёў ён панскі род! А колькі крыўды было сялянам ад ганарлівага і хцівага пана аконама. Ні адна чалавечая душа не пазбегла дотыку валасатых рук пана Сікорскага...

...Паправі́ўшы на сабе вопратку, Шпак рушыў далей, час ад часу спыняючыся і прыслухоўваючыся. Сюды было трапіць нялёгка, а назад яшчэ цяжэй. Адзінае для яго зба-

венне — схавацца па час дзе-небудзь у ціхім месцы, перачакаць ліхалецце. Але дзе цяпер тое ціхае месца? І чаго чакаць? Куды б ты ні з'явіўся, людзі пачнуць дазнавацца: а хто ты, адкуль? І зараз жа паведамяць партызанам. Гэта Шпак разумеў.

І ён канчаткова вырашыў вярнуцца да сваіх новых гаспадароў, расказаць, як загінуў яго памочнік, як цяжка выканаць заданне, далажыць, што Зорка ці служыць партызанам, ці яна ўжо не тая, каго паслалі.

«А калі не павераць? Павесяць жа, даражэнькія! Вось ты і адпеў сваё, Шпак, адсвістаў. З немцамі жарты кепскія, любы ты мой васпане...»

Што б там ні было, а назад ходу няма. А тут ёсць маленькая надзея на вышэйшую літасць. І ён схапіўся за гэтую надзею, як тапелец, які можа ўхапіцца нават за вострую брытву. Проста хацелася верыць, што над ім злітуюцца.

Прынамсі, трапіць да фашыстаў не так ужо і цяжка. Трэба толькі знайсці месца, дзе няма партызан. А такіх мясцін колькі хочаш, тут не фронт. Выйшаў з пушчы, хусцінку ў рукі, а рукі ўгору — вось і ўвесь страх.

Агледзеўся: усё тут знаёмае, не раз бываў з панам, калі палявалі цецерукоў. Бор, нізінка, балотца...

Толькі вось бяда: бывае, трапіш на якога фашысцкага баязліўца — застрэліць і з паднятымі рукамі, не аблізнецца. Нават блізка не падпусціць, падумае — правакацыя. Або проста так, для пацехі, лупцане з аўтамата, і тады даказвай яму, што ты свой. Здаралася і такое.

Шпак яшчэ помніць, як у час адной карнай экспедыцыі шарэнгі фашыстаў адкрылі агонь па паліцаях, якія хадзілі ў вёску на разведку і вярталіся назад. І скасілі іх да аднаго. І ніякага табе ні суда, ні следства. Толькі адны свежыя магілы...

Сонца яшчэ не ўзнялося над лесам, як ля невялічкай рэчкі, што ўпадала ў Бароўку, Шпак заўважыў тых, да каго вялі неслухмяныя ногі. Было млоснавата. І ў нагах, і на сэрцы.

Зводдаль мундзіры здаваліся шэрыя, зялёныя, рудыя. Войска было шматкаляровае, а значыць і зборнае: паліцаі, уласаўцы, вайскоўцы.

Шпак залёг ля невялічкага кусціка і пачаў назіраць. Куды ж лепш падацца? Устанеш і не зробіш кроку. Толькі рэха па лесе ад кулямёта. А кулямёт стаяў якраз наперадзе, на ўзвышшы. Лявей, каля плямістай машыны, на-

гледзеў скопішча зялёных мундзіраў, падумаў: «Вось на іх і пайду. Кагалам яны смялейшыя...»

Дастаў з кішэні хусцінку і прывязаў яе на сухі дубец, што так дарэчы трапіўся пад рукі. Спачатку высока ўзняў гэты «сцяг» здрадніка, стаіў дыханне: што будзе? А потым і сам падняўся, ступіў крок, насцярожана спыніўся.

Каля машыны ўбачылі, бо адразу некалькі галоў павярнуліся ў яго бок, пачуўся гоман, спрэчкі. Сэрца ажыло: не страляюць!

Шпак нібыта падцягнуўся ўвесь, напружыўся і бадзёра рушыў наперад, на хаду ацэньваючы паводзіны фашыстаў. Яны не хапаліся за зброю і не залягалі. Значыць, паверылі, што перабежчык — свой чалавек.

Калі ж Шпак наблізіўся, да яго адразу падбеглі трое рослых салдат з аўтаматамі напагатове, загалёкалі, торкаючы жалезам у грудзі:

— Партызан... Партызан...

— Ваш я, паны... Ваш! — усміхнуўся Шпак.— Мне патрэбен гаўптштурмфюрэр Кеніц і групэнфюрэр Кайнер...

Шпак разважыў, што Кеніца могуць і не ведаць, а генерала ведаў кожны салдат. І не памыліўся.

— О, ён хоча трапіць да Кайнера! — крыкнуў хтосьці з фашыстаў, і Шпак падаўся да яго.

— Вядзі мяне да Кайнера, я — аперацыя «Хваля»! — пасмялеўшы ўжо, загадаў ён на нямецкай мове.

Гэта было на другі дзень пасля ўцёкаў Шпака з партызанскага лагера...

## СУВЯЗЬ ЁСЦЬ

Калі раніцою ў зямлянку радыстаў партызаны прынеслі анодныя і накальныя батарэі для рацыі, Алесь, што называецца, ажыў. За сняданкам нават пажартаваў: жыццё наладзілася.

Налілі яму з Кастусём, як звычайна, кацялок заціркі на дваіх, далі дзве танюсенькія лустачкі хлеба і два кавалачкі сухога, як костка, мяса. Алесь з'еў сваю порцыю так хутка, што нават сам не прыкмеціў — калі. Ён паклаў лыжку і сказаў:

— Ну і становішча, хай яго! Як у таго Пятра па вяселлі.

— Што ж гэта за становішча было ў Пятра па вяселлі? — пацікавіўся Кастусь, адчуваючы, што Алесь паклаў

лыжку не так сабе, з'еўшы палову заціркі, нешта вымудрагеліць.

— А такое... Сядзіць Пятрок за сталом ды думае: «Вось ліха! Вазьму я сабе яшчэ кавалак — скажуць: бач, абжора, есць і есць. Не вазьму — зноў скажуць: бач, абжора, як напхаўся, не лезе больш...»

У «сталоўцы» засмяяліся, а Кастусь сказаў:

— Разумею... Табе ніхто нічога не скажа, калі яшчэ крыху пасярбаеш заціркі і возьмеш вось гэты кавалачак хлеба,— і адламаў ад свайго палову, паклаў перад Алесем.

— Даюць — бяры, а б'юць — бяжы,— сам сабе прамовіў Алесь, і пачастунак знік. Жуючы, сказаў: — Скончыцца вайна, дык аддам, што пазычыў.

— А калі не скончыцца? — жартам спытаў Кастусь.

— Калі не скончыцца, то сам ведаеш, на тым свеце вугельчыкамі...

А пасля снедання давялося пахвалявацца.

З вялікай надзеяй Кастусь сабраў патрэбны камплект трафейных батарэй, разгарнуў радыёстанцыю, закінуў на елку антэну і пачаў выклікаць Маскву.

Якраз к пачатку сеанса надышоў палкоўнік Кавальчук. Прывітаўся і сеў на адрэзаны дубовы кругляк, які замяняў радыстам крэсла. Знешне спакойны, палкоўнік хваляваўся не меней за Кастуся: як на здабытых у цяжкім баі батарэях будзе працаваць партызанская радыёстанцыя, ці пачуе Масква?

Вось Кастусь скончыў выстукваць ключом пазыўныя і перайшоў на прыём. Ад хвалявання твар яго крыху пабялеў, рукі нервова дрыжалі.

Алесь, які да гэтага часу сядзеў моўчкі, пазіраючы выключна на шкалу напружання, ціха, з хваляваннем, вымавіў:

— Падае... Глядзі, Кастусь, напружанне падае! Батарэі старыя...

Пры гэтых словах палкоўнік хуценька ўстаў і сам зірнуў на тую праклятую шкалу, стрэлка якой не хацела трымацца каля патрэбнай чырвонай рыскі, а паступова спаўзала ўніз...

Ды раптам Кастусёў твар прасвятлеў, вочы радасна заззялі.

— Чуе! — гучна, дзелавіта сказаў радыст.— Напружанне падала да аптымальнай нормы. Цяпер больш не будзе падаць...

У гэтым голасе адчувалася ўпэўненасць.

— Вашы радыёграмы, таварыш палкоўнік! — звярнуўся да Кавальчука Алесь. Ды толькі палкоўнік, як надзіва, абыякава адказаў:

— Каардынаты пляцоўкі сёння даваць не будзем. Абстаноўка рэзка змянілася, невядома яшчэ, дзе заначуем. А вось наступнай раніцай і перададзім...

Не паспеў Кастусь дамовіцца з Масквой, як над лесам каршуном праплыў легкакрылы карэкціроўшчык. Ён зрабіў разварот і ўжо ішоў проста на зямлянку радыстаў.

Кастусь выключыў станцыю.

— Разведчык,— ціха, нібы там, на самалёце, маглі яго пачуць, сказаў Кастусь.— Не дадуць працаваць, адразу запеленгавалі...

— А ты не зважай! Уключай, і ўсё,— махнуў рукою палкоўнік.

Але загаду Кастусь не выканаў: рацыя і сапраўды была запеленгавана. Праз якую хвіліну цёмнай хмарай закрылі сонца самалёты. Ад гулу іх матораў дрыжала зямля. Шуганууўшы на вялікай хуткасці над пушчай, яны гэтак жа нечакана зніклі, як і з'явіліся. Было ясна, што самалёты падняліся не для бамбардзіроўкі наогул. Яны дзяжурылі ў паветры і чакалі каманды ад карэкціроўшчыка. Але той, выклікаўшы самалёт, згубіў пеленг, не давёў пошук да канца. Значыць, правільна зрабіў Кастусь! Вось і цяпер кружыць гэты «матыль», шукаючы згубленую мішэнь. Кружыць далёка ад лагера...

Хвіліну ў зямлянцы маўчалі.

Палкоўнік Кавальчук закурыў, з ухмылкай зірнуў на Кастуся.

— Ну і чуццё! — не стрымаўся ён.— Яшчэ трошкі — і ад нашай базы не асталося б і знаку... Дамо радыёграму ў наступны сеанс, па раскладу. А цяпер зберажы гэтае напружанне,— паказаў ён на батарэі.— Нялёгка яно дасталося...

— Але ж карэкціроўшчык кружыць цэлы дзень,— нясмела ўставіў Алесь.

— Ворага трэба заўсёды перахітрыць! Выбраць такі момант, каб радыёграму перадаць хутка і дакладна,— адказаў Кавальчук.— Зразумела?

— Але ж... Радыёграма будзе перададзена, калі спатрэбіцца,— запэўніў яго Кастусь.— Без ніякіх ускладненняў.

Калі палкоўнік выйшаў, Алесь спытаў:

— Цікава, як гэта ты перахітрыш унь таго? — і тыцнуў угору пальцам.

— Калі сказаў, то зраблю.

— Мала што сказаў...

— Не мала. Перш чым што-небудзь гаварыць, я думаю, Алесь, і ў гэтым, як мне здаецца, мы з табой крыху адрозніваемся...

Алесь нічога не адказаў, бо ў лагер прыехалі сувязныя, і ён паспяшаў да іх пачуць свежыя навіны.

А калі вярнуўся, то прынёс трывожныя весткі. На Сухім канале абарона прарвана. З боку шашы, ад вёсак Рэм і Макаўе фашысты паглыбіліся ў пушчу. Там ідуць цяжкія баі. Было ясна, што пускаць ворага далей нельга. Тут знайшлі прытулак тысячы і тысячы жыхароў навакolля. Што з імі будзе? Адкінуць варожую армію — цяжка, не хопіць сіл, як не хопіць сіл і стрымаць такі шырокі фронт.

Хлопцы чакалі новых рашэнняў палкоўніка і штаба, новых паходаў. І не памыліліся. У гэты ж вечар палкоўнік прыняў смелае рашэнне зблытаць варожыя планы: ноччу ж сцягнуць брыгады на базу, раздаць рэшткі харчоў і боепрыпасаў, падысці да адрэзку шашы Баркі — Новае сяло і паспрабаваць прарвацца. За шашой шырокае, як мора, Домжарыцкае балота, дрыгвяністае, з густымі і вялікімі астравамі. Туды і выйсці ўсім злучэннем, пакінуўшы для аховы жыхароў невялікія групы аўтаматчыкаў...

З мінулага вопыту палкоўнік ведаў, што фашысты асабліва баяцца прарываў. Яны абавязкова здымуць блакаду Баркоўскай пушчы, каб ахапіць жалезным кальцом балота. Для гэтага ім спатрэбіцца не менш тыдня. За гэты час партызаны адпачнуць. Жыхары будуць выратаваны...

На нарадзе камбрыгаў усе аднадушна адобрылі і прынялі гэты план. Каманда ў паход была дадзена.

## ВЯРТАННЕ

Нейкае нядобрае прадчуванне гняло дыверсанта ўсю дарогу, калі ён ішоў у Новае сяло, дзе цяпер знаходзілася галоўная стаўка фашысцкага камандавання з усімі адпаведнымі штабамі і службамі.

«Генерал Кайнер стары і хворы. Калі пад добры настрой — ён можа толькі махнуць рукой. А калі засіпіць, як гадзюка,— чытай малітву! Гестапавец Keніц — служака. Гатоў да паўсмерці збіць, але пакіне жывым. Каб на другі

раз было аб што кулакі пачасаць. Але ўсё ж спачатку трэба зайсці да Кеніца, субардынацыя...»

Так думаў дыверсант.

Ды не так здарылася, як думалася...

Шпака прывялі да генерала. Той якраз адпачываў у адным з пакояў школы.

Школа — гэта прасторная цагляная будыніна на два паверхі. Яе парог яшчэ не пераступаў ніводзін вучань, бо яна была скончана перад самай вайной. З храма навукі будыніна ператварылася ў засценак катаванняў і гвалту.

Вось і цяпер, ідучы па вуліцы апусцелага сяла, Шпак здалёк пачуў здушаны жаночы крык. А непадалёку ад школы ён убачыў на тоўстых суках ліпы двух павешаных дзядоў, якіх фашысты палічылі партызанамі і цяпер цешыліся сваёй перамогай. Усё гэта адразу зразумеў Шпак, і ўсё гэта цяпер студзіла ў яго жылах кроў, хоць ён і нямала аціраўся ля фашыстаў, можна сказаць, сам такім стаў.

«Тук, тук, тук»,— заадно з кованымі ботамі тухкала сэрца дыверсанта. Гранітны вестыбюль аж грымеў у яго вушах — да чаго страшны гэты грукат уласных ботаў!

Генерал быў на першым паверсе, бо на другі ён не мог падняцца з-за ўдушша.

Высокі, крыху згорблены, ён стаяў ля акна, заклаўшы худыя жылістыя рукі за спіну. Калі яму далажылі, што прывялі Шпака, ён узяў свой бамбукавы кій, ляніва павярнуўся, падышоў да дыверсанта і доўга моўчкі глядзеў яму ў твар застылым абыякавым позіркам.

— Бог мой! — нарэшце вымавіў ён сіпла.— Гэта наш тытулаваны майстра па ператварэнню жывых душ у мёртвыя? Ды ён ужо сам амаль труп! Жывы труп...

«Жартуе ён ці кпіць? Вясёлы ці разгневаны?»

Гледзячы на генерала, Шпак ніяк не мог улавіць яго настрою. На ўсякі выпадак сказаў:

— Нават у самага лепшага майстра, пан генерал, могуць быць выпадковыя няўдачы. Пракляты пароль «Дзень добры, Зорка» мяне моцна падвёў...

Гэта ўжо быў намёк і яму, генералу, які не дасягнуў поспехаў сваёй блакадай, а страты панёс значныя. Кайнер насупіўся, прайшоў да стала і сеў. Адразу заплюшчыў вочы, нібыта яму было брыдка глядзець на Шпака.

— Дакладвай, што там здарылася,— безуважна загадаў генерал, не ўзнімаючы галавы.

Шпак расказаў усё. Як памочнік шпурнуў гранату ў

зямлянку радыстаў, а тыя чамусьці засталіся жывыя. Як выкраў батарэі, і ў партызанаў вось ужо колькі часу няма сувязі. Як яго злавілі, а ён уцёк...

Калі Шпак скончыў, генерал націснуў на стале чорную кнопку. З'явіўся дзяжурны.

— Гаўптштурмфюрэра Кеніца! — загадаў генерал і зноў, як здавалася, заснуў за сталом, бо вельмі ўжо санлівыя былі яго вочы, вельмі нізка звісала галава, быццам стары не спаў цэлы тыдзень.

Неўзабаве прыйшоў Кеніц, малады таўсташчокі гестапавец. Ён выцягнуўся перад санлівым генералам і шчоўкнуў абцасамі, а Шпаку здалося, што стрэліў. Вельмі гулкі пакой. Кожны гук аддаецца, як у бочцы.

Генерал устаў, прайшоўся па пакоі, тупаючы трыма нагамі: бамбукавы кій грукаў паміж крокамі. Шэры генеральскі твар неяк раптоўна пачырванеў, вочы наліліся чырванню, калі ён зірнуў на дыверсанта. Зірнуў і плюнуў яму проста ў твар...

Цяпер Шпак чакаў платы за свой вялікі страх, за перажытыя пакуты. Ён нават не ўяўляў, што генерал гэтак раптоўна раззлуецца. За што злавацца? Сувязі ж партызаны не маюць. Ён сам ледзь вынес ногі...

Пратупаўшы яшчэ разы са два вакол Шпака, генерал спыніўся ля капітана Кеніца.

— Вось, мілейшы, твой герой, дзівіся! — амаль закрычаў Кайнер, торкаючы Шпаку ў спіну бамбукавым кіем.— Ён пашкадаваў радыстаў! Ты, капітан, не знайшоў лепшага дыверсанта на такое адказнае заданне? Тады мне давядзецца шукаць лепшага капітана! Так справа не пойдзе.

Кеніц яшчэ больш выпрастаўся і маўчаў. Калі старшы начальнік гаворыць, перабіваць яго ні ў якім разе нельга, хоць і не дужа яго баішся. Небяспечна. За гэта можна пазбавіцца пасады, чарговага павышэння па службе і ўзнагароды. У старога генерала былі моцныя сувязі ў вярхах.

Шпаку ж было ўсё роўна. У вайсковай справе ён разумеў мала. А жыць хацелася. Узняўшы галаву, узмаліўся:

— Пан генерал, я выкраў батарэі...

— Маўча-а-аць! — гыркнуў генерал. Яго твар і шыя пасінелі ад натугі і злосці.— Што гэта, капітан, за жывёліна! Каму патрэбны такія дыверсанты?! Бачыце, яму наш пароль не спадабаўся, яму трэба яшчэ паролі выбіраць асобыя...

Тут трэба нешта адказаць. Капітан яшчэ раз стукнуў абцасамі і залпам выпаліў:

— Усё зробім. Пакуль партызаны сядзяць без сувязі, мы знішчым радыстаў любымі сродкамі! У нас ёсць магчымасць знішчыць нават увесь штаб...

— Але ж гэты асёл выкраў батарэі, якія сёння ноччу нам каштавалі крыві лепшых афіцэраў штаба адной нашай групы,— генерал нібыта ўсміхнуўся.— Разумееш, капітан, партызаны чамусьці не хочуць сядзець без сувязі! Яны лігаральна знішчылі наш невялікі штаб і захапілі батарэі! — пырскаючы слінай, адказаў генерал Кайнер.

— У мяне ёсць план размяшчэння асноўнай базы штаба злучэння,— нясмела ўставіў Шпак.— Я раскажу пра становішча ў атрадах і брыгадах...

— Становішча нас не цікавіць! — павярнуўшыся да дыверсанта, развёў рукі генерал.— Нас цікавіць заданне. Канкрэтнае і катэгарычнае. Выканаць!..

Капітан Кеніц пры гэтым выцягнуўся, як смык.

— Выканаем! — адным духам выгукнуў ён, ускінуўшы руку ўгору.

Шпак трымаў у запасе самае галоўнае. Ён спадзяваўся, што яно, тое галоўнае, выратуе яго ў любых абставінах. Цяпер жа, калі генерал крыху памякчэў, дыверсант таямніча паведаміў:

— Пан генерал... Ваша Зорка закацілася...

— Што-о?! — зароў доўгі жылісты чалавек.— Што ты, смурод, сказаў?

Шпак збялеў. Замест жартаўлівага адцення атрымалася двухсэнсоўнасць. І навошта яму было так неасцярожна жартаваць? З кім? Хіба яны зразумеюць, што з-за гэтай «Зоркі» ён ледзь не паплаціўся жыццём?

— Я сказаў, што наша і ваша... так сказаць, «Зорка»... Ну, разумееце, больш ваша...— блытана пачаў Шпак і з мальбою зірнуў на капітана.

— Зорка — гэта разведчыца, якая павінна была перадаваць сігналы пасадачных пляцовак для дубляжу,— растлумачыў гестапавец.

— Ну і што яна? — нібы зацікавіўся генерал, намагаючыся нешта ўспомніць.

— Яна здрадзіла,— за Шпака адказаў Кеніц.— Гэта я ўлавіў адразу.

— Здрадзіла?! Павесіць! — запырскаў слінай генерал.

— Не зусім так,— удакладніў дыверсант.— Мне здаецца, што нашу Зорку павесілі адразу, як яна туды з'яві-

лася. А за яе працуе партызанка. Яна прадала мяне... па вашай рэкамендацыі... Ледзь не павесілі. У іх там свой капітан, хітры, як ліс...

Гэта ўжо было сказана задужа смела, але акалічнасць змякчала віну дыверсанта.

Раптам генерал ступіў крок да Шпака, стаў перад ім, шырока расставіўшы ногі, быццам намерваўся нанесці страшэнны ўдар.

— Тры дні тэрміну...— прагугнявіў ён.— Калі за тры дні радысты не будуць знішчаны, мы самі ж павесім цябе на першай асіне. Гаўптштурмфюрэр, праінструктуйце вашага пратэжэ,— пагардліва дадаў ён, звяртаючыся да капітана.— Мне патрэбен адпачынак. Ідзіце... І пеленгуйце, чорт вас вазьмі! У час сеанса самалёты будуць падняты ў паветра і па першаму сігналу пеленгатара-карэкціроўшчыка накрыюць базу...

Маўклівымі і панурымі выйшлі з пакоя Шпак і Кеніц. У калідоры Кеніц што сілы стукнуў Шпаку ў патыліцу кулаком. Шпак паляцеў потырч, застагнаў.

— А-а! Паганая свіння! Я навучу цябе, праінструктую! — прыглушаным голасам прамовіў капітан.— Уставай!

«Гэта і ёсць плата за ўвесь мой страх! Дзякаваць богу, цяпер-то ўжо не павесяць!» — падумаў Шпак, устаючы з падлогі. З носа цякла кроў, але ён усміхнуўся.

— Вось гэта кулак! Ай ды капітан... Я выканаю. Я зраблю ўсё. Усё, што трэба...— выціраючы кулаком кроў, запэўніў Шпак.— Толькі «лётчыкам» не трэба больш паказвацца. Трэба пад выглядам каго-небудзь іншага. Мужычка, скажам. Прыдуркаватага мужычка, га?

Стойкасць і бясстрашша дыверсанта падзейнічалі больш, чым пахвальба. Капітан нібыта пашкадаваў Шпака.

— У цябе ёсць час — тры дні,— сказаў ён, калі яны нарэшце апынуліся ў новым пакоі.

Амаль суткі Шпак праседзеў у тым пакоі. Тут ён і даведаўся, што партызаны разбілі штаб у Мсціжы, захапілі і знішчылі радыёстанцыю, а батарэі забралі. Значыць, па сутнасці, ён, Шпак, нічога не зрабіў. А ці зробіць што? Гестапаўцы з ім не лічацца, б'юць, зневажаюць. Куды ж табе кінуцца, падбіты ды недабіты Шпак? Яны моцна трымаюць цябе ў сваіх кіпцюрах, бо ведаюць: куды б ты ні хадзіў, што б ні рабіў — прыйдзеш да іх. Здрадніку адна дарожка...

Пад раніцу другога дня Шпак перайшоў рэчку ля Новага сяла. Заданне было катэгарычнае: праз двое сутак радыстаў знішчыць любымі сродкамі, на трэція суткі яго будуць лічыць здраднікам. Вось гэта сітуацыя! Двойчы здраднік. Такога Шпак яшчэ нават і не чуў. Удасца ўцячы ад партызанаў на трэці дзень — значыць, ратунак, а не ўдасца...

«За што ж гінуць? — думаў дыверсант на ўзлессі.— За той гнілы панскі маёнтак? Ды і навошта мёртваму багацце?»

Але доўга разважаць Шпак не мог. Страх падганяў яго наперад. Паправіўшы на папрузе гранаты, Шпак сціснуў халодную рукаятку аўтамата і падаўся ў гушчар.

## ПРАРЫЎ

Радысты падрыхтаваліся да паходу хутка. Кастусь узяў, як звычайна, сумку з радыёстанцыяй, а Алесю даў несці трафейныя батарэі, якія былі крыху меншыя, лягчэйшыя за згубленыя.

— Вось,— сказаў ён сябру,— зноў будзеш несці. Калі цяпер хоць на хвіліну кінеш, то...

— Цяпер мне хоць галаву здымі, не кіну! — адказаў той.— Цяпер я — не я... Як тыя двое.

— Якія двое?

Алесь, нібы нехаця, адказаў:

— Сустрэліся аднойчы двое незнаёмых. Вось адзін і кажа другому: «Прабачце, ці гэта я вас у нядзелю спаткаў у Вільні?» — «Не,— кажа другі,— як на свеце жыву, не быў у Вільні».— «Цікава! — зноў першы.— Я таксама там ніколі не быў... Гэта сустрэліся там, напэўна, дзве іншыя асобы...»

— Глядзі ж, асоба! — ухмыльнуўся Кастусь.— Дыверсант яшчэ на волі.

— Аб гэтым не варта забываць і табе... Менш ву-унь з той па кустах бадзяйся.

— З кім?

Тут Кастусь заўважыў Зіну. Яна чакала іх ля нагружанай шпітальнымі рэчамі фурманкі.

Вось фурманка крапулася, хлопцы рушылі ў паход.

— Шырэй крок, гвардыя! — усклікнула Зіна, і радысты пусціліся ледзь не навыперадкі.

Чорны берэт, скасабочаны на левае вуха, сумка цераз плячо, туга падперазаны бушлат, пісталет збоку, а выгля-

дае Зіна зусім дзяўчынкай. Толькі позірк пасталеў, ён стаў больш насцярожаны і пільны: немалую адказнасць нясе і Зіна, гэтая новаспечаная разведчыца, якая дзейнічае пад чужым паролем...

Кастусь усміхнуўся такому яе выгляду. Падышоў, абедвума... руч паціснуў яе малую далонь.

— Рад бачыць цябе вясёлай пасля бою! Думаю, падарунак не спатрэбіўся?

Зіна моўчкі паказала яму санітарную сумку, кішэньку, дзе яна клала гранату. Цяпер яе там не было.

— Шчаслівы чалавек! Хоць бы расказала нам, як фашыстаў знішчала! — пажартаваў Алесь і пайшоў побач з Зінай. Яна была яму толькі па плячо. Зразумела. Грукнула кулаком у дужыя грудзі, дакорліва паківала галавою.

— Не турбуйся, Алесь, вайна скончыцца — падрасту. Вось на такіх абцасах шпацыраваць буду,— паказала.— А то і на вышэйшых...

Яны ішлі і размаўлялі.

А пасля, калі Алесь змарыўся і зрабілі невялічкі прывал, Зіна расказала аб начным паходзе, аб цяжкіх хвілінах бою. Яна не хавала ад хлопцаў свайго перажытага страху, і яны жыва ўявілі той жудасны малюнак паядынку кволай дзяўчыны з фашысцкімі грамілами.

— І каб не твая граната, Кастусь...— сказала яна нарэшце і змоўкла, цяжка ўздыхнула. І ўсім было ясна, што б магло здарыцца.

— Мы цяпер будзем заўсёды разам з табою ісці, Зіна,— у задуменні прамовіў Алесь.— Будзем берагчы. Калі хто адзін з нас і загіне, то другі...

— Балбатун! — перабіла яго Зіна.— Ніхто не загіне. Ужо нядоўга тут фашыстам быць, нездарма яны так лютуюць, бо, няйначай, пагібель чуюць...

— Вось іменна! — падхапіў яе словы Алесь.— Вайна скончыцца. А без цябе мне ў нашу вёску дарогі няма. Галаву скруцяць, калі дазнаюцца, што былі разам ды не збярог...

Кастусь ішоў наперадзе, слухаў іхнюю размову і думаў сваё: «Бадай ці вернецца Зіна ў сваю вёску... Нікуды яе не пушчу, заўсёды са мною будзе, калі выжывем. Фашысты і праўда ўзяліся за нашы душы не на жарт. І за тое, што я яшчэ жывы, павінен аддзякаваць перш за ўсё Зіне...»

Неўзабаве зноў зрабілі прывал.

Зіна пайшла да сваіх, пакінуўшы радыстаў з іх даўняй

спрэчкай: як будуць жыць пасля вайны людзі. Пазнаўшы шмат гора, перажыўшы нястачу, страх, пажары і смерці, людзі яшчэ больш згуртуюцца, зблізяцца. Яны будуць больш чыстыя душою, будуць шанаваць цішыню ў свеце, як самае дарагое, яны не дазволяць азмрочваць чыстую сінь неба. Так гаварыў Кастусь. Алесь жа даводзіў, што вайна зрабіла людзей суровымі, жорсткімі.

— А разруха, а тысячы сірот! — гаварыў Алесь, махаючы кулакамі ў паветры, быццам некаму пагражаючы.— Якая ўжо тут чысціня душы, шчасце...

— Чым больш цяжкасцей у чалавека, тым больш душа яго цягнецца да светлага, лірычнага. Такі, браце, відаць, закон чалавечага быція... Хіба не суровыя ваенныя гады нарадзілі тысячы лагодных песень, няхай іншы раз і наіўных, але чыстых, сардэчных.

І Кастусь ціха-ціха заспяваў:

Бьется в тесной печурке огонь,
На поленьях смола, как слеза...
И поет мне в землянке гармонь
Про улыбку твою и глаза...

Алесь задумаўся, слухаючы, як сумуе па каханай голас героя, як ён, герой, хоча, каб пачула яго сум каханая... Ці ж і яго душа не рвецца ў свет летуценных мар і надзей? Ці ж не хочацца і яму, Алесю, светлага, чыстага чалавечага шчасця?

Але думкі бяруць другі кірунак:

— Сціснуць зубы і працаваць — вось як павінен жыць пасля вайны чалавек. Працаваць, покуль не загояцца раны. І ў зямлі, і ў людзей. Потым можна цягнуцца і да лірыкі.

Кастусь змаўкае. Ён адчувае, што па сутнасці ў іх няма разыходжанняў у думках. Проста — Алесь перажыў больш. Ён страціў на вайне брата, адважнага танкіста Міколу. Фашысты звезлі ў Германію сястру...

Міналі сцежкі, дарогі, паляны.

На выхадзе з пушчы была вялікая, роўная паляна, якую абапал абступалі магутныя дубы. Такіх палян вакол пушчы многа, а гэта асаблівая. То — урочышча Старына. Калісьці тут стаяла адзінокая хата лесніка. Цяпер ад яе застаўся толькі цагляны падмурак. Сюды, на паляну, і збіраліся атрады і брыгады злучэння палкоўніка Кавальчука.

А як добра сцямнела — загула зямля ад тупату тысячаў ног. Партызаны рушылі на прарыў блакады.

Алесь не адставаў ад Кастуся ні на крок, стараўся. Бедаваў толькі, што ідуць у самым цэнтры калоны і ці давядзецца ўбачыць сапраўдны бой, ці давядзецца сустрэцца сам-насам з ворагам.

Далёка наперадзе кароткімі перабежкамі пасоўваліся штурмавыя групы, а з флангаў ахіналі дзве моцныя брыгады. Тыл прыкрывала трэцяя брыгада. А шашу, што аддзяляе пушчу ад балота, перабегчы нядоўга...

Апошні прывал перад боем зрабілі роўна а дванаццатай гадзіне ночы, а ноч, на шчасце, выдалася не цёмная, але і не дужа відная. Сярпок-месячык ледзь праглядаўся праз тонкае прасціраддла хмар. Адсюль відаць хмызняк перад дарогай, у якім стаіліся, замерлі штурмавыя групы. Чуваць, як равуць на выбоінах машыны. Недзе зблізу б'юць гарматы. Снарады ляцяць цераз галовы і рвуцца далёка ў бары. Ірвуцца рэзка, з гулам. Не змаўкаюць і «зязюлі», варожыя аўтаматчыкі, замаскіраваныя на дрэвах. Гэта добра, што навокал стаіць такі тлум.

Вушы прывыклі да страляніны. Яе іншы раз нібы не чуеш, як не чуеш цікання гадзінніка ў хаце.

Але вось нечакана сярод гэтага аднастайнага шуму грымнуў магутны залп ручных гранат. Гэта на шашы. Туды ўжо ўпрыцісk падпаўзлі партызанскія штурмавікі. Магутнае водгулле хваляй пракацілася па лесе. За гулам нават не чуваць уласных стрэлаў.

Хлопцы стралялі ўсё больш угору, бо і наперадзе, і з бакоў — усюды свае. Вось тут і адкукавалі «зязюлі», змоўклі, як па камандзе, бо, вядома ж, апроч радыстаў угору смалілі сотні партызан, грымелі ўсе тылы.

Алесь выскачыў на шашу, крутнуўся, каб разгледзецца, ды нехта штурхнуў яго ў плечы. Кульнуўся раз, другі і апынуўся ў канаве.

— Не лаві варон, радыст, бяжы!

«І тут за наміназіраюць... Як за дзецьмí!» — з крыўдай падумаў Алесь, устаючы і азіраючыся на таго, хто гаварыў. Ясна — аўтаматчык з камендацкага...

Для радыстаў бой быў скончаны: шаша пройдзена. Страляніна засталася ззаду. Алесь штурхнуў Кастуся ў бок.

— Хоць бы аднаго жывога фашыста сустрэць! А то вайна скончыцца, а лік не адкрыты. Сорамна будзе людзям прызнацца. Спытаюць у вёсцы — колькі ты, Алесь, фашыстаў кокнуў? Што адкажаш? Лыпай вачамі ды чырваней...

Кастусь пацісну плячамі. Ён несупынна бег наперад,

усё шукаючы вачамі Зіну. Заўважыў каля параненых, супакоіўся, спыніўся. І тады адказаў Алесю так:

— Не ўсякі генерал, Алесь, фашыста забіў, але без генерала і салдат не ваяка. Лічы сябе генералам!

— Мудрэц! — Алесь ляпнуў таварыша па плячы.

— А можна і так... Угору ты страляў?

— Страляў...

— Дык вось і памяркуй... На дрэвах сядзелі фашысты. І аднаго з іх ты прыкончыў. Выпадкова, скажам, але насмерць...

— Яшчэ большы мудрэц. Угаварыў!..

Калі пачало світаць, над астравамі Домжарыцкага балота з'явіліся варожыя эскадрыллі. Яны бамбілі наўгад. А з узгоркаў, ад вёскі, шалёна ўдарыла артылерыя.

Значыць, вораг клюнуў на хітрасць Кавальчука, паверыў, што ўсе партызаны «ўцяклі» з Баркоўскай пушчы. Чакай цяпер блакады балота. А гэта ўжо не страшна, калі ёсць сувязь з Масквой, калі ў пушчы засталася моцная ахова мірных жыхароў, да якіх напэўна, ужо не сунуцца фашысты...

— Вось дык трапілі! — весела гаварыў Алесь, грызучы сухі кавалачак хлеба.— З агню ды ў полымя. Думаю, што яшчэ не ўсё, яшчэ дастанецца нам на арэхі...

## СМЕЛАЕ РАШЭННЕ

План Кавальчука здзейсніўся!

Разведчыкі адусюль паведамлялі, што фашысты здымаюць блакаду Баркоўскай пушчы і паспешліва абкружаюць балота, у першую чаргу пераразаючы дарогі.

Пакуль яны разгорнуцца са сваёй тэхнікай, партызаны адпачнуць, а там можна будзе або такім жа чынам перабрацца назад, або выйсці куды хочаш. Весці адкрытыя баі няма сэнсу: страціш дарэмна сілы, а іх трэба берагчы для разумных і карысных аперацый. Баі яшчэ будуць. Палкоўнік Кавальчук збярэ свой баявы штаб — усіх камандзіраў брыгад і атрадаў,— і яны супольна што-небудзь прыдумаюць. Сядзець у балоце доўга не давядзецца.

«Вось цяпер і трэба даць у Маскву радыёграму, каб падкінулі гаручае і харчы»,— падумаў Кавальчук і адразу пайшоў да радыстаў.

Яны адпачывалі ў цяні маладой елачкі.

Алесь першы заўважыў палкоўніка, ціха сказаў:

— Павел Антонавіч ідзе. Відаць, з радыёграмай...

Кастусь адразу падняўся з зямлі, правёў пальцамі пад рэменем, абцягваючы гімнасцёрку на сваёй тонкай, да немагчымага схуднелай паставе. За ім падняўся і Алесь, зірнуў на гадзіннік.

— І ведае ж, што неўзабаве сеанс з Масквой...

Палкоўнік падышоў, прывітаўся, а пасля спытаў:

— Ну, як вы тут уладкаваліся? Не дужа цяжка было ў баі, нічога не разгубілі?

— Бой мы толькі чулі, а не бачылі,— у тон яму адказаў Кастусь.— А згубілі надзею фрыца забіць, хоць аднаго...

Палкоўнік засмяяўся.

— Прызнацца, я таксама, як і вы! — цішэй адказаў ён.— Затое штурмавікі папрацавалі на славу. Ды яшчэ тылу давялося сустрэцца, як і думалася, з «тыграмі». Пакуль шаснаццаць гэтых звяруг не запалілі — не маглі прабіцца.

— Вось гэта была работка! — у захапленні сказаў Алесь.— Паляванне на «тыграў».

— Нічога, не шкадуйце, бо яшчэ самае цікавае наперадзе. Кожнаму воіну — свой абавязак... Вось, перадайце лепш так, каб усё было ціха. Каардынаты новай пляцоўкі, сігналы старыя...

Кавальчук напісаў на невялічкай паперцы радыёграму і перадаў Кастусю.

— Думаю, хлопцы, што нашу першую дыслакацыю не запеленгуюць фашысты, га? Ты, Кастусь, абяцаў нешта прыдумаць. Дык вось і прыдумай. На востраве тысячы людзей...

— Ясна, Павел Антонавіч! — адказаў Кастусь.

Кавальчук хітравата прыжмурыўся на яго, потым з усмешкай сказаў:

— Не — «Ясна, Павел Антонавіч», а — «Слухаю, таварыш палкоўнік!» Прывыкайце да дысцыпліны. Хутка і вы пагоны начэпіце, таварышы малодшыя лейтэнанты!

Кавальчук пайшоў.

— Прыдумаеш тут,— уздыхнуў Алесь, схіліўшы галаву набок, як гусь.— Чуеш, гудзе...

Прыслухаўся і Кастусь.

Над балотам чуўся знаёмы гул «матыля». Здавалася, што недзе далёка працуе трактар. Але варта толькі націснуць на ключ, паслаць у эфір сігнал, як чорны цень абрыдлага «матыля» адразу з'явіцца над востравам. За карэкці-

роўшчыкам прыляцяць і бамбавозы. А Кастусь яшчэ нічога не прыдумаў...

Ён спярша сеў ля сваёй радыёстанцыі і дастаў шыфр. Зашыфраваўшы радыёграму, Кастусь адразу спаліў тэкст, што напісаў палкоўнік. Цяпер на паперцы былі толькі лічбы. Потым уключыў радыёстанцыю на прыём. Асноўная хваля, на якой павінен быў працаваць радыст, глушылася. Была яшчэ запасная. Вораг яе не ведаў. Трэба было пачынаць сувязь на запаснай, дамовіцца аб новых хвалях і перадаць радыёграму хутка, не зважаючы ні на што, бо могуць «сесці» батарэі і тады — бяда. Значыць, трэба адысціся куды-небудзь далей з вострава, бо тут адпачываюць тысячы людзей. Трэба знайсці новы востраў — гэта адзінае выйсце для радыстаў, бо без высокіх хвой антэну не ўзнімеш угору, Масква не пачуе...

— Што будзеш рабіць? — абудзіў Кастуся Алесеў голас.

— Яшчэ не ведаю.

— Застаецца дваццаць хвілін...

— Нічога, на працягу гадзіны будуць слухаць.

«Калі сказаць Алесю, што пайду адзін, то не адчэпіцца, а браць з сабою нельга: навошта абодвум рызыкаваць жыццём? Ды наўрад ці згодзіцца палкоўнік, каб мы ішлі з вострава. Пайду лепш адзін. Непрыкметна. І гэтак жа непрыкметна вярнуся...»

Так думаў Кастусь, збіраючы ўсё неабходнае для сувязі: антэну, батарэі, рацыю. Ён упэўніўся ў правільнасці сваёй задумы, калі пачуў, што гул аднакрылага самалёта набліжаецца.

Выбраўшы зручны момант, Кастусь сказаў:

— Пайду спярша параюся з Паўлам Антонавічам... Ды трэба яшчэ дашыфраваць, каб разам з батарэямі нам скінулі новую радыёстанцыю...

— Дык навошта сумку бярэш?

— Сумка павінна быць заўсёды пры мне.

— Ясна, не давяраеш...

— Як бачыш. Дык ты чакай, калі што якое прыдумаем — абавязкова скажу.

— Скажы абавязкова, пачакаю...— з крыўдай у голасе адказаў Алесь.

Кастусь пайшоў.

Ля штабнога будана азірнуўся і, нікога не ўбачыўшы, шаснуў у густы ельнік.

Непрыкметна выйшаўшы за востраў, ён з паўгадзіны

блукаў сярод чэзлых бярозак, па калені правальваючыся ў топкую твань. Ды нарэшце ўзышоў на цвёрдае — натрапіў на востраў. Гэта быў даволі вялікі грудок, парослы густым чарналессем, у асноўным елкамі, асінамі і тоўстымі алешынамі, сярод якіх было безліч зусім сухіх, без лісця і галін. Яны бронзавымі слупамі высіліся між цёмнай зеляніны.

«Кіламетры з два, мусіць, адышоўся»,— падумаў радыст. Выбраў пад елкай высокую купіну, хутка разгарнуў рацыю, закінуў на елку антэну, нацягнуў супрацьвагу і пачаў працаваць, услухоўваючыся ў манатонны гул самалёта.

«Няўжо я не перасілю свайго страху?» — стараючыся не заўважаць карэкціроўшчыка, які адразу з'явіўся над востравам, падумаў Кастусь. Ён міжволі ўзняў галаву і ўбачыў, як самалёт імклівым ценем праплыў над самымі вяршалінамі, потым развярнуўся і зноў, ужо з другога боку, праляцеў проста над ім. Значыць, станцыя засечана дакладна...

Шчыльна прыціскаючы рукамі навушнікі, Кастусь на момант заплюшчыў вочы, услухаўся. Масква яго чула. Трэба адказваць. Адняў ад навушнікаў рукі і зноў перайшоў на перадачу. Азірнуўся — нідзе нікога. З кім бы падзяліцца радасцю? Трыццаць пяцізначных груп радыст першага класа перадасць за якую хвіліну.

Кастусь паклаў чорненькі тэлеграфны ключ «жабку» сабе на калена і хутка дамовіўся аб запаснай хвалі. Гэта — на выпадак. Потым пачаў перадаваць радыёграму...

Амаль у тую ж хвіліну фашысты пачалі абстрэл вострава з гармат. Некалькі снарадаў разарвалася зусім блізка, але Кастусь нават не азірнуўся: ён ведаў, што цяпер ад яго вытрымкі залежыць вельмі многае...

## ПА СЛЯДАХ ТАВАРЫША

«Мудрэц... Да палкоўніка раіцца. Шукай дурняў!» — падумаў Алесь і крадком пайшоў за таварышам. Ён убачыў, як Кастусь сігануў за штабны будан. Спярша хацеў пайсці следам, але затрымаўся ў дарозе: яго аклікнула Зіна.

Падбегла і з хваляваннем у голасе прагаварыла:

— Куды ты ідзеш?

— Па сваіх справах...

— Чакай... А дзе Кастусь?

— Пайшоў па сваіх справах...

— Ты не балабонь. Сёння мы з капітанам яшчэ аднаго з атрутай злавілі, каля кухні аціраўся, на той пароль адгукнуўся. Такі, ведаеш, труслівы ды дурны, што нават не верыцца, каб такога ды пасылалі. Палкоўнік перадаў, каб асцерагаліся...

— Асцеражомся,— відаць, нават не слухаючы Зіны, абыякава адказаў Алесь, пазіраючы праз яе плячо туды, дзе ўжо знік з вачэй Кастусь.

— Ну, тады я пабегла да сваіх параненых, бо мая місія, відаць, скончана...

— Якая місія?

— Разведчыцы. Калі Шпак дабярэцца да фашыстаў, то ўжо раскажа, як папаўся. Аднак яшчэ вось бадзяюцца старыя ваўкі-адзіночкі. Відаць, Зоська не малым агентам была...

У Алеся не хапіла цярпення.

— А мяне гэта менш за ўсё цікавіць! — згубіўшы ўсякую надзею зноў убачыць Кастуся, непрыязна адказаў ён і махнуў рукою.— Так што, выбачай, рэзідэнтка...

Зіна не чакала такога адказу, збянтэжылася. Але, калі ўбачыла, што Алесь подбегам накіраваўся ў бок балота, здагадалася, што ў хлопца сапраўды ёсць нейкі клопат. Хуценька заспяшалася да капітана Крайко...

Мінуўшы невялічкі раўчук, што выцякаў проста з вострава і віўся між балота, Алесь спыніўся. «Вось жа нанёс чорт гэтую дзеўку! Быцам спецыяльна,— зазлаваў ён.— Куды ж пайшоў мой слаўны рыцар? Калі ў балота, то дзе антэну нацягне? Нідзе ніводнага людскага дрэва, усе нейкія мізэрныя, два метры ад зямлі, а трэба ж не менш дзесяці...»

Абыходзячы востраў наўкруг, Алесь злаваў усё больш. Ён ужо і сапраўды гатоў быў даць веры, што Зіну наўмысна падаслаў Кастусь, каб затрымаць яго.

Раптам Алесю прыйшла шчаслівая думка. Выбраў адну высокую елку на самым краі вострава і пачаў карабкацца да тоўстых сукоў. Потым хутка, як па драбіне, залез на самую верхавіну, агледзеўся. І адразу ўбачыў Кастуся, які прабіраўся па балоце да новага вострава. Ён то з'яўляўся між дробных бярозак і хвоек, то зноў хаваўся за імі...

Не злез, а проста скаціўся Алесь з елкі — так шпарка перабіраў ён рукамі і нагамі. Зірнуў па звычцы на сонца і праз момант ужо цёпкаў па балоце, задаволены тым, што

на гэты раз Кастусь яго не перахітрыў. Алесь абавязкова насцігне яго ў гэтай пагоні.

Па сутнасці, нічога хітрага ў тым не было, што Кастусь выбраў для працы другі востраў. Пра тое ж не раз думаў і Алесь. І цяпер яму было крыху сорамна, што ён першы не выказаў Кастусю такую прапанову, што проста збаяўся пайсці на рызыку. Фактычна гэта азначала выклікаць агонь на сябе. Інакш не назавеш. Самалёт пеленгуе дакладна з розніцай у адлегласці дзесяць — дваццаць метраў.

І было крыху крыўдна, што Кастусь не паклікаў з сабою, а ўцёк адзін, нічога нікому не сказаўшы. Ён пайшоў на рызыку — гэта праўда. Праўда і тое, што калі б палкоўнік дазнаўся, то за такое свавольства па галаве не пагладзіў бы. Але ж двум было б весялей і смялей...

Хутка ісці па балоце вельмі цяжка. Пераскакваючы з купіны на купіну, Алесь усё глядзеў, каб не збіцца, каб сонца ўвесь час было справа. І кожны раз, калі ён уздымаў вочы, сонца сляпіла яго. Перад вачамі доўга плылі жоўтыя кругі. Ды і не дзіва: ён галодны, ён вельмі знясілеў. Пасля такой ночы, амаль не адпачыўшы, не паспаўшы, як той затраўлены воўк, які ты хадок па балоце! А ў роце аж смажыць, язык аж пячэ, быццам лізнуў гарачую патэльню.

Алесь нахіліўся і сарваў некалькі буйных, як арэхі, ружовабокіх журавін. Толькі цяпер ён заўважыў, колькі іх на балоце! Імі, як пацеркамі, усланы ўсе купіны, імі прашыт аксамітна-зялёны мох.

Ад карлікавых бярозак і хвоек на зямлю клаўся рабы цень. Дзіўна, але факт: на балоце дрэвы вялікія не растуць. Яны хоць і старыя, але заўсёды маленькія.

А сонца проста сляпіла.

Раптам жоўтыя кругі ўваччу зніклі, і тады ад рабога ценю аж павяло ў бакі. Алесь прыпаў спіною да дрэўца і зажмурыўся. Ды не адпачывалася, бо вельмі выразна чуўся гул разведчыка. Алесь напружыўся і зноў рушыў у сваю бясконцую пагоню. Яму здавалася, што гэтай дарозе не будзе канца, што нарэшце сілы зусім пакінуць яго. «Няўжо гэта страх аднімае ў мяне ногі?» — зноў спыніўшыся, падумаў радыст. Нейкае нязвыклае пачуццё страху перад гэтым надакучлівым тарахценнем варожага самалёта, які кожную хвіліну можа стаць эскадрылляй або цэлым авіяпалком, скавала яго волю, адвагу. З кім біцца? Іншая справа, калі перад табой жывы варожы салдат. А вось самалёты...

Набягалі спакуслівыя думкі: яго ніхто не пасылаў сю-

ды, ён можа ў любы час вярнуцца. І ўсё стане звычайным, простым, і ніхто яго не папракне...

Ступіўшы яшчэ колькі крокаў, Алесь раптам убачыў востраў. Было такое ўражанне, быццам радыст вынырнуў з вады і ўбачыў выратавальны бераг. Зусім блізка. Ён адкрываўся за вербалоззем.

На ўскраі вострава, побач з калматай елкаю, Алесь зусім неспадзявана ўбачыў нейкага чалавека. У звычайным, даволі паношаным адзенні, у старых кірзавых ботах, з аўтаматам цераз плячо, той чалавек чамусьці раптам схаваўся за яліны і як бы пачаў за кімсьці назіраць, сачыць. Што гэта быў не Кастусь, Алесь пазнаў адразу. Дык хто ж тады? Няўжо Кастусь узяў сабе ахову з камендацкага ўзвода? І чаму гэта ўдарыла артылерыя?

Пацішу прабіраючыся наперад, Алесь не зводзіў вачэй з незнаёмца. А той ужо зусім схаваўся між галін, і толькі чорны аўтамат віднеўся здалёк. Аўтамат быў нацэлены ўгору, на высокае дрэва, голлі якога моцна хісталіся.

Над галавой з бясконцым гулам ляцелі снарады і страшэнным громам узрываліся на востраве. Хвалюючая здагадка разанула Алесева сэрца. Дастаўшы з кабуры пісталет, ён перабежкамі, ад дрэва да дрэва, пачаў набліжацца да высокага дрэва на ўскраі вострава...

## ПАЯДЫНАК

Зноў, як і некалькі дзён назад, блукаў Шпак па цёмных лясных нетрах, хаваючыся ад усяго жывога. Перш яму здавалася, што справы яго пайшлі на лад: капітан Кеніц урэшце змяніў гнеў на міласць. Ён паказаў Шпаку нейкую зеленаватую паперку і, смакуючы кожнае слова, сказаў:

— Вось, гер Сікорскі, наша сапраўдная плата!

Шпак дрыжачымі рукамі ўзяў паперку і прачытаў: «Уся нерухомая і рухомая маёмасць, як і землі ў межах да 1939 года, што раней належалі вотчыне Круціцкага, замацоўваецца на вечнае карыстанне і перадаецца пад уладу Сікорскаму Юзэфу Францавічу, як адзінаму нашчадку фальварка...»

Што за несусвеціца! Чаму ён не падумаў тады, раней, што фашысты плацілі яму тым, чаго самі не мелі? Дзе што, тая рухомая і нерухомая маёмасць? Усе будынкі спалены, людзі ў партызанах, а зямля... Яна — не залатая

табакерка, у кішэню не пакладзеш, у новую эміграцыю з сабою не возьмеш...

Але ён так толькі падумаў.

Уголас Шпак сардэчна дзякаваў гаўптштурмфюрэру за вялікую міласць да яго, Шпакавай, асобы.

Ён пастараўся хутчэй пазбавіцца ад неўраўнаважанага капітана, які так хутка мяняе свае адносіны да дыверсантаў...

Шпак рады быў даведацца, што злучэнне Кавальчука вырвалася з Баркоўскай пушчы і перайшло ў Домжарыцкія балоты. Там лягчэй унікнуць сустрэч з людзьмі.

Так яно і здарылася.

Дыверсант пратэпаў добры дзесятак кіламетраў і нідзе нікога не сустрэў. Пад раніцу ён узбіўся на пусты востраў і да світання прасядзеў пад ялінай, услухоўваючыся ў далёкі гул кананады. Страляніна была куды мацнейшая, чым тая, што чуецца штодня. Шпак адчуваў — коціцца назад фашысцкі фронт, коціцца нястрымна. Дык няўжо ж цяпер, нічога не ведаючы пэўнага, гінуць яму тут, у гэтым праклятым балоце? І што рабіць яму далей, як трымацца? Выконваць заданне ці не? Прабрацца ў партызанскі штаб злучэння ён і не думаў. Лягчэй было б знішчыць радыстаў у час якога-небудзь паходу. А для гэтага трэба ўсё разведаць, ноччу непрыкметна далучыцца да калоны і выканаць заданне.

А як разведаць? Яго ж цяпер пазнае не толькі капітан Крайко, а кожны партызан з камендацкага ўзвода, медсястра Зіна, партызаны, што былі ў шпіталі. Радысты, напэўна, ахоўваюцца вельмі дбайна, да іх проста не падступішся.

Развіднела.

Шпак дастаў з кішэні маленькае круглае люстэрка і зірнуў на свой аброслы шэры твар. «Як жа я за апошні час пастарэў!» — міжволі падумалася яму. Мізэрным і брудным здалося і заданне, калі ён і выканае яго. Фронт няспынна насоўваецца. Шпаку іншы раз прыходзілі бязглуздыя думкі ў галаву, што калі б ён, пакуль не позна, пайшоў да капітана Крайко і расказаў яму ўсё, што ведае, што перажыў, пакаяўся, то, мажліва, яму і даравалі б. Або судзілі як бандыта, выслалі, нарэшце...

Але заўсёды, калі ён так думаў, у памяці ўсплывалі жудасныя малюнкі яго мінулага, за ім вечна цягнуліся яго крывавыя сляды. Асабліва тыя, апошнія...

— Грамадзянка Астахава, выходзь!

Ён не ведаў, што ў сувязной партызанкі была дачка, хударлявая чарняўка.

— Не пушчу маму! Дзядзечка, не чапайце яе!..

Вялікія прыгожыя вочы. Яны глядзелі на Шпака з жахам, мальбою, і яму раптам стала страшна. І ён выстраліў проста ў вочы. Позірк іх не згас у яго памяці да сённяшняга дня. Ён усюды бачыць іх, як свой прысуд...

...Шпак пацёр здранцвелую нагу. «Не, вяртанне немагчыма, застаецца адно»,— падумаў дыверсант і, каб разагнаць гэтыя хмурныя думкі, зірнуў угору.

Сонца ўзнялося ўжо даволі высока, а ён нават не сагрэўся. Вылез з-пад елкі і падставіў твар пад цёплыя сонечныя праменні. Прыемна было адпачываць вось так, пыхкаць папяросай, ні аб чым не думаючы. Ціха, утульна, нават камары не дужа дакучаюць. Яны, як і совы, баяцца сонца, трымаюцца днём у гушчары, пад елкамі, у траве.

Над востравам праляцеў самалёт. «Разведчык! Ён падкажа мне, дзе партызаны»,— зірнуўшы на самалёт, падумаў Шпак і пачаў уважліва сачыць за разведчыкам — куды ён паляціць, які возьме кірунак.

Але разведчык нікуды не паляцеў, а развярнуўся і пачаў кружыць над востравам. Шпак адразу загасіў папяросу і, як асцярожны драпежнік, натапырыў вушы...

Гарматных стрэлаў ён не чуў, глушылі магутныя выбухі снарадаў, што разрываліся на востраве. «Разведчык падаў каманду! Значыць, ён тут нешта засек... Што?» — занепакоіўся Шпак і стаў прабірацца краем вострава.

Артылерыя ўзмацніла агонь, і дыверсанту часта даводзілася залягаць між купін. Аб тым, што партызанаў тут не было, ён упэўніўся яшчэ раней. І гэтая ўпэўненасць наводзіла яго цяпер на думку, што або разведчык памылкова перадаў гэтыя каардынаты артылерыі, або... «Няўжо такое можа здарыцца? Няўжо тут, на бязлюдным востраве, працуюць радысты?» — радасная здагадка працяла дыверсанта. І тут пачуўся магутны гул дзесяткаў цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў...

А Кастусь перадаваў радыёграму.

Снарады ўзрываліся побач, але радысту было не да страху: спяшаўся. «Аказваецца, можна працаваць і пад агнём, калі ведаеш, што гэта нікому не шкодзіць, апроч цябе... Алесь праўду казаў, што страх мае самае кароткае жыццё — імгненне».

Ён заўсёды, калі працаваў, аб чым-небудзь ды думаў. Рука сама беспамылкова перадавала лічбы. І цяпер хлопец стараўся не звяртаць увагі на выбухі, ад якіх аж уздрыгваў увесь востраў. Вось перададзена і апошняя група лічбаў...

Не чуў, калі з'явіліся самалёты. Яны раптам закрылі сваімі ценямі гэты груд і скінулі бомбы. Здавалася, усё навокал узнялося ўгору і асела...

Кастусь трасянуў галавою і агледзеўся. Жывы! Заставалася атрымаць з Масквы квітанцыю на радыёграму. Як выбуховай хваляй ці асколкам сарвала з дрэва антэну. Адразу падумалася: можна і без квітанцыі, не той час... Але ж і не кідаць тут антэну, запасной няма. А ладны канец яе целяпаўся высока на дрэве.

Не доўга думаючы, Кастусь дацягнуўся да ніжніх сукоў елкі і, спрытна, як калісьці на турніку, падцягнуўшыся на руках, ухапіўся за вышэйшыя сукі — і палез! Падымацца цяжка і небяспечна, але трэба. Да крыві абдзёр твар і рукі, але ці да гэтага цяпер!

А тут зноў праляцелі самалёты, і над Кастусёвай галавой пачуўся тонкі посвіст бомб. Замёр на месцы, моцна прыціснуўшыся да дрэва, чакаючы выбухаў. Потым успомніў — калі чуцен свіст, значыць бомбы ўпадуць далей. І з новай сілай пачаў узбірацца ўгору, не зважаючы ні на што...

Вось і абрэзак антэны. Яе перасекла асколкам на самым версе. Схапіўшыся адной рукой за тонкі ў верхавіне ствол, Кастусь асцярожна адкінуўся і другой рукою злавіў антэну, пачаў здымаць, каб пасля на зямлі злучыць.

І тут быццам хто павярнуў яго галаву да сухой алешыны, што стаяла між дзвюх ялін. Глянуў на яе і ледзь не паляцеў старчма галавой уніз: ля алешыны, з аўтаматам напагатове, стаяў дыверсант Шпак! Але ні шэры твар бандыта, ні нацэлены аўтамат так не ўразілі Кастуся, як вочы. Яны глядзелі на радыста з цікавасцю і нейкай хваравітай зайздрасцю, здзіўленнем. І ніякіх рухаў, быццам то быў не чалавек, а нейкая здань.

— Хто тут?! — вырвалася само сабою.

У вачах пацямнела, нібы раптам насунуўся вечар. І нікога. Елкі, асіны, алешыны ды рабінка ўнізе ані шалахнуцца. Ці гэта здалося, ці ўявілася ад страху?

«Няйначай, здалося», — механічна адчэпліваючы антэну, падумаў Кастусь і тут пачуў, што зноў ляцяць варожыя самалёты, заўважыў, як з першых жа машын па-

сыпаліся дробныя бомбы. Заплюшчыў вочы і зноў прыпаў да дрэва.

І трашчалі старыя алешыны, крышыліся ад магутных выбухаў, свісталі асколкі, ссякаючы безліч галінак з дрэў.

Калі ж Кастусь крануўся, каб з абрыўкам антэны злезці далоў, пачуў страшнае:

— Стой, ні з месца! Цяпер-то я вазьму цябе жывым...

Зірнуў і зноў убачыў ранейшы прывід: на тым жа самым месцы стаяў Шпак. Толькі цяпер ён, як вар'ят, выскаляў рудыя зубы. Кастусь так разгубіўся, што на нейкі момант у яго адняліся ногі і рукі, гарачая хваля апякла ўсё нутро. Ён літаральна скаціўся з елкі, але ўжо нічога не паспеў зрабіць, бо ў той жа момант недзе збоку суха трэснуў стрэл, а за ім дзесяткі выбухаў зноў страсянулі востраў ад краю да краю...

Кастусь толькі згледзеў, як крутануліся і зямля, і лес, як усё навокал зялёна-шэрай коўдрай праплыло перад вачамі і навалілася на яго...

## ТРЫВОГА

У кожнага свой фронт. У Кавальчука ён рэальны, бачны, а ў Крайко — нябачны. Гэта, вядома, горш. Бывае, б'еш у адным кірунку, у лоб, а вораг, як выяўляецца, прытаіўся ў цябе з тылу. Гэтага не разумее Кавальчук. Вось, скажам, дыверсант уцёк. А чаму? Бо палкоўнік не даў яму, капітану, дастаткова людзей для аховы. Досыць, сказаў, аднаго вартавога ля дзвярэй, якія і так на замку. А што атрымалася? Ноч, яна вельмі каварная штука. Аднаго хіліць на сон, а другога падымае на смяротны бой за сваё жыццё, надае яму сілы і смеласці...

Крайко яшчэ памятае, як летась праз палкоўніка ледзь не трапілі яшчэ ў большую бяду. Цяпер такога ваяку трэба слухаць, а рабіць па-свойму, па-разведчыцку...

Так разважаў капітан Крайко, лежачы на вільготным, пахучым лісці.

Падымалася сонца. Абзываліся птушкі. Драмалася пасля начнога бою і паходу. Не хацелася ўставаць, і таму міжволі ўсплывалі ўспаміны леташняй блакады.

...Гэтаксама сядзелі яны тады ў балоце. Аднойчы пад вечар дзесьці ля шашы, у тым месцы, дзе мінулай ноччу партызаны прарывалі блакаду, раптам разгарэўся невялікі бой.

Хто б то мог быць? Капітану добра вядома — сёння ні адна група не ішла ў разведку боем, дзейнічалі толькі слухавыя дазоры, бо партызаны адпачывалі. Заставалася адно — магчыма, якая-небудзь група, што была на заданні, прарывалася да сваіх. Тады блакада пачалася раптоўна, і многія аператыўныя і падрыўныя групы засталіся далёка ад сваіх баз, у розных раёнах.

«Трэба хутчэй даведацца, у чым справа»,— падумаў тады Крайко. Але бой быў такі кароткі, што ў капітана мільганула сумненне — ці бой гэта? Можа, проста фашысты захацелі пастраляць. Ці які звер іх напудзіў. Вось толькі нашы гранаты там узрываліся, эфкі. Ад нямецкіх зусім не такі гук, яны ўзрываюцца, як хлапушкі, глуха...

Адкаціліся рэхам апошнія стрэлы, і над балотам стала ціха.

Убачыўшы ля штабнога будана начштаба Віктара, Крайко падышоў да яго.

— Чуў, эфкі грукалі?

— Па ўсім відаць, нехта прабіўся да нас,— сказаў Гарун катэгарычна.— Трэба выслаць тваіх хлопцаў на сустрэчу.

Гэта яшчэ больш пераканала капітана ў тым, аб чым адразу не падумалася: а што, калі вораг?

— Калі так, то не толькі маіх... Трэба ўзяць хаця б узвод,— адказаў на гэтую прапанову капітан.

— Людзі ж адпачываюць.

— А мае — не людзі?

— Твае не ішлі на прарыў у штурмавых групах.

Палкоўнік, падышоўшы, падтрымаў Віктара:

— Хто ж сюды прарвецца, акрамя нашых?

— Могуць і пад выглядам нашых...

Крайко дамогся свайго: узяў у паход цэлы ўзвод і сам павёў яго да шашы.

Адзінаццаць гадзін. Цямнее. Хутка пачнецца абстрэл, трэба спяшацца.

І людзі адчувалі гэта, ішлі шпарка, наколькі можна было ісці шпарка па балоце.

На ўсякі выпадак далёка наперадзе і абапал ішлі па аднаму разведчыкі: а раптам тут правакацыя ці засада? Так нядоўга трапіць і ў пастку.

Крайко, што называецца, дзейнічаў заўсёды напэўна, ён не любіў працаваць прыблізна, абы-як. Паколькі балота абкружана, патрэбна максімальная дакладнасць. У такі час могуць з'явіцца розныя людзі: свае і чужыя.

Неўзабаве групу спыніў галоўны дазорны. Ён далажыў, што двое невядомых партызан нясуць трэцяга на самаробных насілках. І хоць гэтае данясенне крыху збіла насцярожанасць, група ўсё ж прыняла баявы парадак.

Праз нейкі час між хмызняку з'явіліся ледзь прыкметныя сілуэты. Вось яны бліжэй і бліжэй. Разгублены Крайко сам выйшаў ім насустрач усяго з двума аўтаматчыкамі.

Убачыў — сапраўды партызаны. Іх было двое. Трэцяга, цяжка параненага, неслі на двух бушлатах, у рукавы якіх прасунуты бярозавыя жэрдкі. Людзі з групы абкружылі невядомых, хтосьці падхапіў насілкі.

Адзін з тых двух, што неслі, нахіліўся і ціха паклікаў, крыху картавячы:

— Пейця... Ну, як ты сябе адчуваеш? Ці жыў?

Адказу не было.

Тады партызан прыпаў вухам да яго грудзей, паслухаў, дакрануўся да твару далоняй.

— Жывы? — нецярпліва спытаў другі.

— Халодны,— ледзь чутна выдыхнуў партызан і зняў з галавы шапку.

У глыбокім маўчанні стаялі ўсе партызаны. І ў тым маўчанні было штосьці непрыемнае. Ніхто не ведаў яго, таго партызана, што ён за чалавек, адкуль, якія ў яго баявыя справы, ніхто не шкадаваў яго, хоць па ўсяму відаць, што ён быў свой, той няшчасны чалавек. Навошта толькі нагнаў суму на жывых людзей, навошта ўстрывожыў душы?

— Панеслі,— сказаў хтосьці.— Трэба хоць пахаваць па-людску, на сухім...

І праз гадзіну пахавалі.

Потым двое расказалі, як яны прызямліліся ноччу ў пушчы на парашутах, як шукалі сваю другую групу, з якой павінны былі перабрацца ў Літву, ды дазналіся, што ўсе партызаны выйшлі ў балота. Вырашылі сюды прабіцца і яны. Падпаўзлі да самай дарогі, улучылі момант, перабеглі, але... бой невялікі быў, у якім іх трэці таварыш і загінуў...

— Ужо на гэтым баку дарогі? — спытаў капітан Крайко.

— Вядома,— быў адказ.

Між тым Крайко разважаў: «Разведгрупа, дэсантнікі... Цікава, што яны маюць у рэчавых мяшках?»

— Значыць, нядаўна з Масквы? Так, так... У вас, пра-

бачце, чаго-небудзь нашанскага закурыць не знойдзецца? А то мы сапраўднай махоркі ўжо з тыдзень не нюхалі,— з вясёлымі ноткамі ў голасе спытаў капітан.

— Закурыць? Колькі хочаце. Маскоўскі «Казбек», «Беламор», а ёсць і махорка, эх, махорачка, як у песні пяецца. Што жадаеце, тым і пачастуем...

У дваіх было ўсё: цукар, кансервы, нават некалькі плітак шакаладу. На ўзбраенні былі новенькія ППШ, гранаты, пісталеты ТТ. Вопратка — партызанская форма: чорныя бушлаты, кірзавыя боты, чорныя гімнасцёркі, штаны. На першы погляд ніякіх падстаў для падазрэння не было, але капітан, як заўсёды новенькім, асаблівай веры ім не даваў: вельмі ўжо яны насцярожаныя нейкія, палахлівыя, залішне ўважлівыя, быццам трапілі сюды з якой іншай планеты. Іх чамусьці вельмі цікавілі справы на фронце і зусім не хвалявала блакада, не турбавала тое, што ў брыгадах настаў голад. Яны, як надзіва, больш за ўсё баяліся налётаў. Варта было з'явіцца двум-тром варожым самалётам, як новенькія не знаходзілі месца, адбягаліся далей ад лагера, залягалі ля самага тоўстага дрэва.

— Акрамя няруснага паходжання, пакуль што ніякіх доказаў няма,— дакладваў пазней капітан палкоўніку.— Аднак рэкамендую і прашу — пакуль не атрымаем пацверджання з Масквы, дваіх арыштаваць.

— Як! Арыштоўваць людзей без падстаў? — здзівіўся палкоўнік.— Толькі таму, што табе так хочацца? Не, капітан, гэтага я не дазволю, забараняю...

Але капітан не выканаў загаду палкоўніка і новенькіх раззброіў і арыштаваў.

Назаўтра звязаліся з Масквой, з Цэнтральным Штабам. Адказ атрымалі адразу: трое дэсантнікаў-аператыўнікаў — свае людзі, але сувязі з імі чамусьці няма...

Злосны і ўзрушаны, капітан вырашыў праверыць затрыманых сам. Свае ці чужыя? Гэтае пытанне гняло яго, не давала спакою. Таму і з радыстамі ён быў афіцыйна строгі, калі даваў новую радыёграму ў аператыўны аддзел Штаба.

Алесь стаяў перад ім, як салдат перад генералам.

— Перадаць, і адказ сёння! — катэгарычна заявіў капітан.

Алесь узяў радыёграму, зірнуў на яе, прыжмурыў адно вока і нечакана весела заспяваў:

— Ой, казала ж мэні маты та й приказувала!..

— Што так весела? — з дакорам кінуў Крайко.

А той зноў сваё:

— А чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець? — і зірнуў на капітана.— Калі я ў бало-о-оце жы-ву, як мядзведзь... Мяркую, таварыш капітан, што адказ Штаба ад нас не залежыць...

— Не дужа весяліся...

Капітан хацеў пайсці, але радыст затрымаў яго. Дужа ж не любіў Алесь афіцыйнага тону і загадаў. Загадаць яму мог толькі палкоўнік, непасрэдны начальнік, а тут капітан...

— Ці праўду, таварыш капітан, кажуць, што сёння ад'ютант быў п'яны і спрачаўся з палкоўнікам?

— Калі ад'ютант спрачаўся з палкоўнікам, дык гэта яшчэ не доказ, што ён быў п'яны,— запярэчыў капітан.

— Так. Але ж калі ад'ютант спрачаўся з палкоўнікам, то ніякага палкоўніка побач не было...

Кастусь ціха засмяяўся: спрытна дапамог Крайко расказаць Алесю новы жарт.

— У цябе ўсё? — звёўшы белыя бровы, спытаў капітан.

— Яшчэ пра шафёра... Прыйшоў шафёр у краму дый кажа: «Дайце мне чаравікі».— «Ваш нумар?» — пытаецца прадавец. «88—96»,— выпаліў шафёр. Вось што значыць прафесійная прывычка...

— Вось я далажу палкоўніку, які ў яго балбатун па рацыі...

— Знаходка для шпіёна! — падхапіў з усмешкай Алесь.— Не ўсякім дакладам дарвешся да ўлады...

Пасля гэтага капітану нічога не заставалася, як пайсці. А пасля Алесю ўсё ж дасталося ад палкоўніка...

Непрыязнасць да капітана ў Алеся з'явілася яшчэ пры знаёмстве. Тады капітан часта заходзіў да радыстаў у зямлянку, прасіў уключыць прыёмнік і настроіцца на Маскву. Потым пакрысе і пачаў загадваць, то гэта зрабі, то тое. Не спадабалася хлопцу, і ён дамогся, каб у зямлянку радыстаў, апрача палкоўніка, ніхто не заходзіў.

Гэта, у сваю чаргу, абразіла капітана. Яны сустракаліся ў лагеры і не размаўлялі, нават пастунова перасталі вітацца. Іх адносіны яшчэ больш пагоршыліся пасля таго як капітан дамогся праз палкоўніка, каб ля штабной зямлянкі кожны дзень радысты вывешвалі ранішнюю і вячэрнюю зводкі франтавых падзей. З таго часу так і павялося і стала добрай традыцыяй...

Выйшаўшы ад радыстаў, капітан збіраўся ў дарогу нядоўга. Узяў двух сваіх памочнікаў і падаўся з вострава. Ён вырашыў сам праверыць шлях двойкі ад дарогі. Упэўніцца самому — дзе забілі трэцяга, дзе двое ссеклі бярозкі на насілкі, ці далёка ад дарогі? «Самому пайсці, самому праверыць!» — сціснуўшы зубы, цвёрда вырашыў Крайко.

Тоўсты слой моху-тарфяніку зялёным кажухом пакрываў балота.

Але варта было ступіць на той кажух, як сярод зелені пачыналі цямнець, налівацца чорнай вадой вялізныя сляды.

Вось цэлая дарога ўчарашняй групы. З самалёта гэтая дарога, безумоўна, можа быць відна. І капітан вырашыў параіць палкоўніку надалей пераходзіць балоты гуськом, у адзін след, а не калонамі.

Вось і месціна, дзе група сустрэлася з незнаёмымі партызанамі. Далей пайшлі сляды толькі дзвюх пар ног...

Ішлі ад бярозкі да бярозкі, прыглядаючыся, прыслухоўваючыся. Ужо добра чуваць, як гудуць машыны, выразна даносяцца галасы людзей. Значыць, дарога блізка. І — дзіўная рэч! — ніводнай ссечанай бярозкі каля пракладзеных слядоў. Двое неслі параненага, здавалася, ад самай дарогі.

«Параненага ці забітага?» — раптам падумалася капітану. Ён цяпер забыўся на ўсё: што побач вораг, што магчыма засада альбо «сакрэт», што можа трапіцца замініраваны ўчастак.

Капітан даў знак партызанам паўзці. Асцярожна, як вужы, падкрадваліся яны да дарогі, метр за метрам.

Ужо добра відна густая грыва соснаў з таго боку дарогі, а пянькоў ад бярозак няма. Усё тыя ж дзве пары слядоў...

Вось тут двое адпачывалі, бо сляды пераблытаны, ля купін вытаптана, трава на купінах змятая.

Крайко нахіліўся і ад здзіўлення аж ціха войкнуў: сярод моху ляжалі недакураныя папяросы. Так, яны тут курылі, побач з дарогай! І, магчыма, у той час, калі фашысты так дружна адкрылі агонь, калі рваліся нашы эфкі...

Капітану стала ясна — забітага неслі ад дарогі, бой — звычайная імітацыя, інсцэніроўка...

Паўзці назад было лягчэй.

Цяпер з кожным метрам небяспека змяншалася, да-

лёкі шлях станавіўся блізкім, лёгкім. І на душы лёгка: нездарма ён, капітан, арыштаваў прышэльцаў-чужакоў, нездарма ішоў на рызыку, падпаўзаючы да дарогі. Вось які ты нахабнік і хітрун, вораг, але Крайко цябе перахітрыў! Добра прыдуманая падробка пад партызан-дэсантнікаў выкрылася адной іх памылкай, адной недакладнасцю, на першы погляд зусім непрыкметнай. Але яе капітан заўважыў. Цяпер трэба прымусіць ворага адкрыцца, расказаць, адкуль у яго такая экіпіроўка...

На востраве, дзе размяшчаўся штаб, было надзвычай ажыўлена: партызаны рыхтаваліся да паходу. Капітан гэтага яшчэ не ведаў. Ён проста з дарогі зайшоў у цёмны будан палкоўніка. Там быў і Віктар. Яны курылі самакруткі, якія пры кожнай зацяжцы ўспыхвалі агнём: вельмі многа было ў махорцы сухога рабінавага лісця.

— Нарэшце! Мы цябе тут чакаем не дачакаемся, капітан,— устаўшы са скрынкі, што замяняла крэсла, абрадавана сказаў палкоўнік Кавальчук.

Крайко хмура адказаў:

— Чакалі і дачакаліся... Я, таварышы, тое-сёе ўдакладніў адносна гэтых двух затрыманых.

— Хопіць, капітан, пераліваць з пустога ў парожняе,— пыхнуўшы самакруткай, з усмешкай сказаў начштаба.— Арыштаваць сваіх людзей, якія падзяліліся з намі апошняй жменяй махоркі, апошнім сухаром, ды яшчэ ўдакладняць вядомае — гэта, па крайняй меры, смешна.

— Думаю, не да смеху...

Палкоўнік перабіў капітана:

— Мы тут атрымалі радыёграму і верым ёй. Спецгрупа ў складзе шасці чалавек была скінута ў нашым раёне па трое...

— Радыёграмам трэба верыць, але... Ці не трапілі нашы групы ворагу ў рукі, таварыш палкоўнік? Ці ўдала прызямліліся нашы спецгрупы? А што датычыць гэтых двух, то вось вам доказы! — і Крайко працягнуў палкоўніку два акуркі.

— Што гэта? — не зразумеў той.

— Звычайныя недакуркі... У той час, калі фашысты, як мы гэта чулі, абстрэльвалі іх ля самай дарогі, яны, гэтыя дэсантнікі, спакойна курылі папяросы там жа, ля дарогі. А насілкі, таварышы паважаныя, яны зрабілі на самай дарозе. Так што «параненым» быў запланаваны загадзя...

Палкоўнік і начштаба маўчалі.

— Капітан,— ціха пачаў Кавальчук,— я адмяніў

арышт... Сёння ідзём на прарыў блакады, дораг кожны баец... Здымаемся роўна ў гадзіну ночы.

— Тады, таварыш палкоўнік... л-лавіце дыверсантаў самі! — не стрымаўся ад абурэння капітан, ажно пачаў заікацца больш звычайнага.— Вы выпусцілі ваўкоў з клеткі. Ноччу ў час прарыву яны могуць перарэзаць увесь штаб разам з вамі, у іх аўтаматы зусім новыя, патронаў хопіць, а страляць ноччу можна і ў спіны, хто там разбярэ...

І давялося тады адкласці прарыў на цэлыя суткі, пакуль зноў не палавілі тых дыверсантаў, якіх фашысты паслалі замест сапраўды загінуўшай тройкі нашых дэсантнікаў...

...Узышло сонца. Крайко ўстаў з кучы лісця і ўзяўся за самакрутку. Ён прыгадаў уцёкі сёлетняга дыверсанта і непрыемна зморшчыўся: да чаго ж не шанцуе! А тут прыйшла Зіна і паведаміла, што Алесь некуды пайшоў як апантаны на ўскрай вострава. Ён быў вельмі ўзрушаны...

— А дзе другі радыст? — спытаў Крайко.

— Не ведаю.

Толькі капітан хацеў ісці да палкоўніка, як той сам з'явіўся. Прывітаўшыся, ціха паведаміў:

— Фронт зусім блізка! Сёння даў радыёграму, каб падкінулі «гаручае» на пары самалёцікаў, а заўтра ўдарым на выхад у новую зону — і па тылах! Час ужо...

— Ага, час,— згадзіўся Крайко.— Нездарма і ноч была цішэйшая, і цяпер вось...

Толькі Крайко так сказаў, як адразу вухнулі выбухі, быццам вораг падслухаў іхнюю размову.

— Карэкціроўшчык,— зірнуўшы ўгору, паведаміў Кавальчук.— Ды нешта ж ён далекавата кружыць, здаецца, над пустым востравам асеў...

А тут з'явіўся разведчык штаба:

— Дазвольце далажыць!

— У чым справа? — павярнуўшыся да партызана, насцярожана спытаў Кавальчук.

— На суседнім востраве хтосьці ёсць. Наш дазор наткнуўся на сляды. Яны вядуць з гэтага вострава...

— Што?! — палкоўнік ускінуў галаву, нахмурыўся.— Здрада? Не можа гэтага быць...

— Там, напэўна, радысты! — выгукнула Зіна.

— Хутка праверыць і прыняць меры! — загадаў капітану палкоўнік.

Праверылі. Радыстаў на месцы не было.

— Ясна,— паківаў галавою Кавальчук.— Дык вось як Кастусь надумаўся перадаць радыёграму... Я сам яго на гэта штурхнуў, іншага выйсця ў хлопца не было...

— Паслалі на суседні востраў аўтаматчыкаў,— ціха ўставіў капітан Крайко.

— Добра...

І неўзабаве над тым востравам з'явіліся бамбардзіроўшчыкі, скінулі свой смяротны груз.

У лагеры была аб'яўлена трывога.

## ТРАПНЫ СТРЭЛ

Партызаны знайшлі Кастуся непрытомнага, але яшчэ жывога. І там жа, на скрышаным востраве, доктар Свістуненка аказаў яму першую медыцынскую дапамогу. Агледзеў ён і труп дыверсанта Шпака.

Алеся нідзе не было. Замест яго быў знойдзен забіты дыверсант. Уразіла доктара і тое, што плячо ў Кастуся было перавязана...

Кастуся прынеслі ў недабудаваны штабны шпіталь. Тая збудова падобна на вялікую загародку з галля. Але затое ў гэтым шпіталі было светла і прасторна.

Бледны, як смерць, Кастусь, здавалася, за кароткі час так схуднеў, што немаведама як ён жыў і дыхаў.

Зіна стаяла ля збудовы і аб чымсьці раілася з начштаба Віктарам. Убачыўшы, што сюды нясуць Кастуся, яна змоўкла на паўслове і нейкую хвіліну стаяла як скамянелая.

Потым ціха ўскрыкнула, кінулася да радыста, але тут яе папярэдзіў доктар, які ішоў побач:

— Ціха, Зіна, ціха...— і памог партызанам пакласці хлопца на зямлю. Схіліўся над ім, у які ўжо раз сказаў: — Цікава, хто гэта яму так умела перавязаў рану? Нясіце на аперацыйны стол, асцярожна нясіце...

Ніякага стала там не было. Кастуся паклалі проста на шырокую купіну, прыкіданую папараццю, паверх якой была паслана плашч-палатка.

Свістуненка разбінтаваў рану.

— Што з ім? — трывожна спытала Зіна.

— Страціў прытомнасць. Тут не так вінаваты асколак, як голад, самы звычайны голад...

Яна ўздыхнула і хуценька пачала памагаць доктару. Падавала ўсё неабходнае, пакуль той не выцягнуў з Кастусёвага пляча невялікі, з бабіну, асколак ад бомбы.

А пасля, калі Кастусь ужо ляжаў на нарах, Зіна сядзела побач і не зводзіла вачэй з нерухомага васковага твару радыста. Як ён зблажэў і аслабеў! Проста не чалавек, а цень...

Зводдаль, раз-пораз пазіраючы сюды, Кавальчук гутарыў з Алесем.

— А ты дзе быў? — строга пытаў Кавальчук.

— Шукаў Кастуся, увесь востраў абышоў — нідзе не бачыў...

— Трэба ж было разам!

— Трэба... Ціха, здаецца, Кастусь варухнуўся!

Кастусь і сапраўды апрытомнеў. Убачыў Зіну і слаба ўсміхнуўся:

— Радыёграму я ўсё ж перадаў!

Зіна лагодна пагладзіла яго кучаравыя валасы.

— Маўчы, маўчы, Косця,— ціха прагаварыла яна.— Бачыш, ледзь не загінуў.

— Пакліч сюды Алеся і палкоўніка,— папрасіў Кастусь.— Я ім скажу нешта вельмі важнае.

Клікаць іх зусім не трэба было: і Кавальчук і Алесь ужо даўно чакалі яго першых слоў. Цяпер яны пачулі іх, і абодва зайшлі ў агароджу.

Кастусь убачыў іх, захваляваўся, слаба ўсміхнуўся і памкнуўся быў устаць.

— Вы... чулі, Павел Антонавіч?

— Чуў, Кастусь. Радыёграму ты перадаў...

— І я чуў! — уставіў Алесь.— Толькі... чаму пайшоў адзін? Я шукаў цябе ўсюды.

— Калі б загінуў я — астаўся б ты...

Гэта была праўда, і Кастусю ніхто не пярэчыў, апрача капітана. Як віхор уляцеў ён у будан і адразу накінуўся на беднага Кастуся:

— Ты ж бы, смяротнік, хоць мне сказаў! Ёсць у вас, нарэшце, я ці не? Не трэба было б уступаць у паядынак з тым бандытам! Жартачкі, хлопец быў пад куляй дыверсанта...

Кастусь глянуў на яго іскрыстымі вачамі, намагаючыся нешта ўспомніць.

— Паядынак? З бандытам? Ніякага паядынку і не было,— нарэшце адказаў Кастусь.

— Расказвай! — яшчэ больш нахмурыўся капітан.—

Пасля такога трапнага стрэлу не надта ўцячэш. Ты навылёт прабіў яму галаву. Мае хлопцы закапалі таго Шпака, як сабаку, у балоце...

— Я... ні ў каго не страляў,— зноў адказаў здзіўлены радыст.

— Як — не страляў?

— Першы, відаць, стрэліў дыверсант... Не верыце? Дзе мой пісталет? — спытаў Кастусь.

Пісталет падалі без абоймы. Крайко пералічыў патроны і пацiснуў плячамі:

— Нічога не разумею! Сапраўды, патроны ўсе.

— І тут нагару няма,— узяўшы ў капітана пісталет і панюхаўшы рулю, заўважыў палкоўнік.

— Дык хто ж забіў дыверсанта, хто? — нават зазлаваў капітан.— Не мог жа ён сам сябе застрэліць!

— Мог,— данеслася з-за будана.

Усе павярнуліся на гэты голас. Да шырокага праёму ўвахода ў загарадзь наблізіўся доктар. На яго плячах нязграбна вісеў бялюткі халат.

— Як гэта? — сустрэў доктара пытаннем капітан Крайко.

— Звычайна. У такім становішчы, як было на тым востраве, дыверсант усё мог... Нават пусціць сабе ў лоб кулю. Неверагодна, але факт. Няясна другое — хто перавязаў Кастусю плячо? Дапусціць, што гэта таксама зрабіў дыверсант, немагчыма, гэта звыш усякай логікі...

— На жаль, я нічога не памятаю... Мне здалося, што зямля абрушылася на мяне ўсім сваім цяжарам — і ўсё, крышка,— ціха прамовіў Кастусь.

— А радыёграму ты перадаў ці не? — раптам крута змяніў гаворку доктар.

— Радыёграма перададзена, доктар,— сказаў Кавальчук.— Сёння ноччу вы атрымаеце свае медыкаменты! Паўнюткі мяшок. Масква нас чуе добра!

Масква чуе!

Як дарагі гэтыя словы кожнаму партызану! Калі чуе Масква, значыць, прыляцяць самалёты. А калі прыляцяць самалёты, то будуць у партызан харчы, боепрыпасы, медыкаменты, батарэі да рацыі. А значыць — і перамога. Ніякая блакада цяпер не страшна партызанам...

Кастуся віншавалі. Давалі яму хто што мог. Прыходзілі камандзіры, ціснулі руку. Прыходзілі радавыя байцы, жадалі хутчэй станавіцца на ногі. Зазіралі сувязныя, штабнікі, гаспадарнікі. Усе яны казалі адзін аднаму:

— Масква чуе!

І з вуснаў у вусны, з атрада ў атрад паляцела гэтая радасная вестачка...

А пасля, калі ўсе пайшлі, калі радыста перанеслі ў асобны будан, паднесла Кастусю лусту чэрствага хлеба і Зіна. Які ён духмяны быў, той засушаны ў паходнай сумцы хлеб, папалам з асцём, мякінай!

— Еш, Косця! — пяшчотна гаварыла Зіна, не адыходзячы ад радыста і не саромеючыся Алеся.

— Дзякую, Зіна... Зорачка мая,— адказваў Кастусь і, узяўшы яе руку, прыклаў да свайго гарачага твару.

А побач з буданом, аглядаючы на шырокім пні рацыю, Алесь мармытаў: «Калі б я не ўбачыў таго Шпака ды не падкраўся ззаду, то наўрад ці было б каму есці твой хлеб, Зіна! І як гэта доктар не заўважыў, што галава ў дыверсанта прастрэлена ззаду наперад? Палкоўнік зусім не ведае аб тым, што і я быў на тым востраве. Добра! Інакш дасталося б зноў толькі мне...»

Глуха шумеў угары растрывожаны лес: над ім зноў ляцелі самалёты. Але яны не кідалі бомбы над лесам. Самалёты ляцелі далей, на захад.

Гул далёкай кананады набліжаўся.

Фронт быў недалёка.

Хутка вызваленне!

Хутка перамога!

1971

# ЖЫЦЬ, КАБ ЗМАГАЦЦА

Аповесць

1

Надзейцы ішоў чатырнаццаты год, але на выгляд наўрад ці можна было даць і дзесяць. Дробненькая, круглатварая, кірпаценькая, яна хвіліны не сядзела на месцы. Яе вялікія светла-сінія вочы, бы тыя раннія пралескі, глядзелі на свет адкрыта і з даверам, а малыя працавітыя рукі, здавалася, не ведалі зморы. За дзень яна рабіла ўсяго столькі, што маці, якая моцна любіла і шкадавала сваю адзіную дачку, часта гаварыла:

— Адпачні, Надзейка, ідзі пагуляй, наробішся яшчэ за жыццё, без цябе ўпраўлюся.

— Мне ж цікава самой,— лагодна адказвала тая і зноў бралася за якую-небудзь працу.

Асабліва любіла яна пасвіць казу Мілку, жывёліну, як Надзейцы здавалася, разумную і паслухмяную. А выпас у іх добры: побач з адзінай хаткай на пераездзе чыгункі раскінуўся даволі вялікі луг, парослы лазняком ды бярэзнікам. Мілка ласавалася маладымі лазовымі лісцікамі ды духмянай травою. Для Надзейкі ж там цэлы свет адкрыццяў!

На канюшынках, імху ды кветках, уперамешку з брусніцнікам, бывала, аж гудуць-гамоняць тоўстыя аксамітна-стракатыя чмялі. А колькі там розных матылёў! І блакітнаватыя, як валошкі, і размаляваныя, як вясёлка, і чырвоныя, у чорныя кропачкі, а то і проста бліскучыя, чорныя. У Надзейкі ўжо цэлая калекцыя іх. На той жа год пойдзе ў сёмы клас — вось і занясе свой падарунак...

У нядзелю маці не дазваляла Надзейцы брацца за якую-небудзь работу. Гэты дзень яна называла «божай нядзелькай», якая, маўляў, на тое людзям і дадзена, каб адпачылі, і ніхто ёй не пярэчыў.

Выключэннем з яе правіла быў бацька. Ён — чыгунач-

нік, яму трэба выйсці да кожнага цягніка, сустрэць і праводзіць яго, а потым яшчэ і агледзець няхітрую гаспадарку, абысці свой участак, праверыць, ці цэлыя рэйкі, ці добра трымаюць іх кастылі, ці спраўныя стрэлкі...

Тая памятная нядзеля выдалася вельмі ўжо цёплая, сонечная. Напярэдадні Надзейка знайшла на ўскраі бярэзніка, сярод невялікай купіны пад елачкай курапатчына гняздо. З яго выкульваліся маленькія шэрыя камячкі і знікалі з воч так хутка, нібы правальваліся скрозь зямлю. Але было там яшчэ некалькі белых, нібы курыных, толькі маленькіх, яек. Цікава Надзейцы даведацца — ці вылупяцца і з іх птушаняткі?

Яна ўстала, як і заўсёды, рана. Нават не паснедаўшы, адвязала Мілку ад плота, за якім быў малады сад і куды з зайздрасцю пазірала каза, і павяла яе праз чыгунку ў хмызняк. Накінула сабе на галаву толькі стракатую, у вялізныя чырвоныя ружы, хустку.

— Паснедала б! — кінула ёй маці.

— Не хочацца яшчэ,— адказала Надзейка.

— Дык жа хоць не баўся, хутка татка падыдзе, снедаць будзем.

— Ага, і я хутка... Толькі на сваіх курапатачак пагляджу, як яны там...

Але адна справа паабяцаць, а другая — выканаць абяцанае. Сваіх курапатачак, вядома, Надзейка не знайшла, бо яны, калі іх хто ўгледзіць, сыходзяць з гнязда, назад не вяртаюцца. Павядзе іх маці-курачка на новае месца, схавае так, што больш і не адшукаеш.

Надзейка зразумела гэта і ледзь не плакала, што засталіся ў гняздзе яечкі, да якіх ужо ніхто не вернецца. «Мусіць, трэба іх забраць ды падкласці пад курыцу»,— падумалася ёй, бо, ведала, адна курыца ў іх заквактала.

А тут здарылася новая бяда: нейкі руды сабака так пагнаў Мілку, што яна як апантаная кінулася ў кусты і ў момант знікла з воч.

— Пайшоў, пайшоў, каб на цябе воўк!..— закрычала Надзейка, але той і вухам не павёў. Праз нейкі час брэх яго ўжо чуўся далёка-далёка, недзе аж ля Вялікага балота, якое, ведала Надзейка, цягнецца на дзесяткі кіламетраў.

«Што ж гэта за насланнё такое сёння?» — думала Надзейка, кіруючыся на той брэх і раз-пораз гукаючы:

— Мiл-ка-а-а! Мі-і-ілка-а-а!..

Дзяўчынка не спынялася ні на хвіліну. Забягала ў гу-

сты бярэзнік, абшуквала купкі лазняку. Так і дайшла аж да Вялікага балота, аж да таго страшнага месца, якога заўсёды баялася... А потым, зморaная, самотная, з буйнымі слязінамі на вачах, павярнула назад.

Мілка так і не азвалася.

«Няўжо дзе загінула? — аж халадзела ў грудзях ад такой думкі.— Скажу татку, можа, ён знойдзе...»

І цёплы сонечны дзень, і бясконцае шчабятанне птушак, і матылі, што мяцеліцай віхурылі ў прасторы,— ужо ніштo і ніхто не быў ёй любы, не цікавіў. Нават курапатчыны яечкі пакінула ў гняздзе, не ўзяла...

Раптам увагу прыцягнуў нейкі незвычайны пагрозлівы гул у небе. Раней яна такога ніколі не чула. Узняла галаву і ўбачыла мноства чорных — ці ёй гэта здалося ад слёз? — самалётаў. Яны ляцелі, як чародкі вераб'ёў. Вось адна такая чародка пачала зніжацца, павялічвацца. На крылах чорныя крыжы! «Адкуль яны, такія, узяліся?» — падумала Надзейка і заўважыла, што некалькі самалётаў аддзяліліся ад астатніх і нібыта пачалі падаць на крыло...

А праз якую хвіліну, разам з завываннем матораў, пачуўся пранізлівы свіст, за якім гром выбухаў скалануў зямлю. І самалёты паляцелі далей...

«Што гэта? Чаму яны так грукочуць?» — занепакоілася Надзейка і прыбавіла хады. Яе сэрца моцна тахкала, здавалася, вось-вось вырвецца з грудзей.

Калі яна выбегла з хвойніку на лужок, то першае, што кінулася ў вочы, быў густы чорны дым над іх сядзібай. Толькі дым — і нічога больш... Ні хаты, ні хлеўчука, ні варыўні. Быццам тут іх і не было...

— Ма-а-амка-а-а! — не сваім голасам закрычала Надзейка і кінулася праз чыгунку. Гарачынёй і ўедлівым дымам сустрэў яе родны куточак. Надзейка бегала вакол, лямантавала, і ніхто не абзываўся ёй, ніхто не суцяшаў. Яна зразумела — ні таты, ні мамы ў яе ўжо няма і больш ніколі не будзе: на месцы сядзібы Антона Мытніка зеўралі чарнатой тры вялізныя ямiны ды параскіданы былі вакол абгарэлае бярвенне і цэгла...

Надзейцы на імгненне здалося, што гэта, мабыць, цяжкі і страшны сон, што яна вось-вось абудзіцца і ўсё стане на сваё месца, бо не можа ж быць такое наяве, у жыцці. Вось толькі ногі чамусьці не трымаюць. Яна апусцілася на зямлю, крыху пачакала, пачала больш уважліва прыглядацца да наваколля і заўважыла наводшыбе бацькаву шапку чыгуначніка, якую ён абавязкова надзяваў, калі

выходзіў сустракаць цягнікі. Вакол валяліся і некаторыя кухонныя рэчы, жалезны, да непазнавальнасці пагнуты, ложак і яе, Надзейчын, летні зялёны палітончык. Ён ранкам вісеў на плоце. Цяпер жа ляжаў далёка ў садзе...

«Не, гэта не сон...— зноў востры боль ажыў у сэрцы, калі яна пачула новы гул самалётаў, што наплываў з заходу.— Гэта вайна... Тата, мабыць, ведаў, што яна будзе, часта гаварыў пра фашыстаў...»

Надзейка цяжка паднялася з зямлі, узяла свой палітончык, пайшла да чыгункі. Там паслала яго і легла. «Хай і мяне заб'юць бомбы... Хай... Навошта жыць адной»,— прамільгнула думка. Надзейка заплюшчыла вочы і чакала набліжэння тых грозных самалётаў...

## 2

Ачуняла дзяўчынка толькі пад раніцу. Значыць, цэлы дзень і вечар, і ноч яна была ў забыцці, трызніла. Цяпер выразна пачула — зноў гулі самалёты. І было холадна. І страшна. Няўжо гэта праўда, што яна засталася адна ва ўсім белым свеце? Лепш бы не прачынацца зусім...

Яна накінула на плечы палітончык і агледзелася. Цяжкі боль, што пасяліўся ў грудзях з учарашняга, прытупіўся, сэрца нібы скамянела.

Нідзе нікога.

І раптам:

— М-м-э-э,— данеслася знаёмае.

Надзейка ўскочыла на ногі і ціха паклікала:

— Мі-і-ілка-а! Мі-ілка-а-а...

Ад таго месца, дзе быў хляўчук, да яе ішла каза. Вочы круглыя, шэрая, доўгая, ледзь не да зямлі, поўсць злямцаваная, вымя аж распірае.

Мілка знайшлася! Гэта была адзіная жывая істота — усё, што засталося Надзейцы ад шчаслівага бесклапотнага жыцця. Яна кінулася перад казой на калені і прытулілася тварам да цёплай, прапахлай травамі і лазою, мордачкі. Усярэдзіне нібы што зноў абарвалася, і Надзейка заплакала наўзрыд, заплакала так роспачна, што сэрца яе, здавалася, не вытрывае і вось-вось разарвецца на кавалкі.

Каза зноў ціха замэкала, падстаўляючы Надзейцы левы бок. Так, з левага боку, яе заўсёды даілі. Надзейка перастала плакаць і пайшла шукаць якой пасудзіны. Але што ні знаходзіла — усё пакарабачана і пасечана асколкамі. Успомніла — у склепе заўсёды стаялі розныя банкі

з варэннем, а склеп быў далекавата ад хаты. І дзіўна: ён зусім цалюткі. Толькі выбуховай хваляй сарвала дзверы і зваліла іх набок. Надзейка спусцілася ўніз па прыступках. Тут было прыцемна, пахла прэллю і бульбай. Яе і цяпер ляжала ў куце мяхі са два — парослай леташкі. Ад гэтых пахаў аж занудзіла. Толькі цяпер Надзейка ўспомніла, што ўжо больш сутак у роце не было ні расінкі. Яна згледзела на паліцы пляскаты, з дужкаю, салдацкі кацялок з гэткай жа выгнутай накрыўкай і зняла яго. «Падаю сюды Мілку»,— адразу падумала і выйшла на двор.

Мілка чакала яе. Малако з вымені аж пырскала, даіць было лёгка, і хутка той салдацкі кацялок амаль напоўніўся густым духмяным пітвом. Гэта было жыццё, збавенне ад голаду...

Калі сонца добра прыгрэла зямлю, Надзейка вырашыла ісці ў вёску, што віднелася на ўзмежку лесу, за жытнёвым полем. Яна некалі ніяк не магла зразумець — чаму яе, тую вёску, называюць Загор'ем? Ніякіх гор тут паблізу не было. Можа, калі ўзвышша за вёскай было вышэйшае, і людзі назвалі яго гарою? Аднак цяпер такое пытанне яе не хвалявала. Радні там у Надзейкі не было, але на паўстанак часта прыходзіў загорскі стары чыгуначнік дзед Максім. Вось да яго яна і пойдзе, параіцца, што рабіць далей. Адной дужа страшна. Мілка ж не чалавек, з ёй не пагаворыш.

Яшчэ там жыве Коля, даўні таварыш, з якім амаль кожнае лета ездзіла аж за трыццаць кіламетраў у піянерскі лагер «Лясное»... Вось толькі невядома, што рабіць з казою. Мусіць, трэба ўзяць з сабою, а то яшчэ, чаго добрага, і яна прападзе.

Ды нікуды ісці не давялося: дзед Максім ужо сам тупаў да чыгункі.

Ён ішоў, абапіраючыся на сукаваты кіёк, падслепаватымі вачыма глядзеў на папялішча, якое яшчэ там-сям дымілася, і не заўважыў Надзейкі.

Тады яна аклікнула:

— Дзед Максім!

Ён спыніўся, паднёс левую руку да воч брылём і з боку ў бок заківаў галавою:

— Дзякуй богу... Вы жывыя. А я думаў...

— Таты і мамы няма. Я засталася толькі з Мілкай...— усхліпнула Надзейка.

— А божачка, а што ж гэта робіцца на свеце! А каб на іх пранцы пасыпаліся, на фашыстаў гэтых, як яны на

людцаў бомбы тыя сыплюць,— хапіўшыся за галаву абедзвюма рукамі, разам з кійком, якім грукаў сабе ў лоб, залямантаваў дзед Максім.— А як жа ты ўцалела, Надзейка?..

— Я казу пасвіла...

— То пачакай крыху, мо людзей прывяду, трэба ж нешта рабіць, не кідаць жа ўсё так...

Людзей ён прывёў небагата — гэткага ж старога, як і сам, і дзвюх жанчын. Былі яны з рыдлёўкамі. А ў дзеда Максіма за шырокім, з меднаю спражкаю, рэменем — сякера.

— Пачнём, бабанькі,— падаў каманду дзед Максім.— Трэба ж пахаваць людзей па-людску...

Ды хаваць нікога не давялося: як ні шукалі яны, колькі ме пераварочвалі друз цэглы і ламачча, усё дарэмна. Нібы і не было ў хаце нікога.

— Спапяліла,— адно толькі і вымавіла старэйшая з жанчын. Яны хутка пайшлі, у іх таксама цяпер клопату хапала, а дзяды пачалі раіцца: што ж рабіць, як суцешыць забітую небывалым горам дзяўчынку?

— Ідзі пакуль жыць да мяне,— нарэшце сказаў стары.— Можа, хто з радні акажацца, тады тое і будзе...

— Цётка ў мяне ёсць, у Маскве, да яе паеду,— цвёрда вырашыла Надзейка.— Пайду на вакзал і паеду...

— А з гэтым рагатым быдлам што рабіць будзеш?

— З сабою вазьму...

— З казой — у Маскву?

Вядома, казу ў Маскву не павязеш, людзі засмяюць. Толькі Надзейка хлусіла крыху. Яе цётка, матчына сястра, жыла не ў самой Маскве, а непадалёк, у калгасе «Радзіма». Знатная свінарка, за сваю працу мела ордэн, яе партрэт змяшчалі ў цэнтральнай газеце. Ды каго цяпер цікавілі тыя падрабязнасці! Галоўнае — ёсць родная цётка.

— Ну, то як ведаеш... Можа, табе і трэба ехаць да цёткі...— дзед Максім пакорпаўся ў кішэні, дастаў шырокі і тоўсты кашалёк, выняў з яго грошы — некалькі роўненькіх трохрублёвак і працягнуў іх Надзейцы.— Вазьмі, у дарозе прыдадуцца. Можа, калі вернеш, як жывы буду...

— Я і так даеду-у. Скажу, што татка чыгуначнік... Што загінуў ён...

Яна ўсхліпнула, падышла да Мілкі і завязала ёй вакол шыі доўгую шаўковую стужку, што ляжала ў кішэні палітончыка. Маці ўплятала стужку раней ёй у косы. Цяпер уплятаць стужку не хацелася, ды, бадай, было б нават недарэчна. Не да стужкі цяпер Надзейцы. Добра будзе і

так, як ёсць: хвосцік касы замацаваны гумкай ад веласіпеднай камеры. Хустку, урэшце, можна надзець...

І хоць дзеда Максіма ўжо не было — згорбленая спіна яго віднелася сярод жыта на дарозе,— Надзейка яшчэ доўга стаяла каля саду, глядзела наўкола, нібы развітвалася з гэтай мясцінай назаўсёды.

А потым ішла побач з казою і дзівілася з сябе, са сваёй рашучасці. Раней у яе такой рашучасці не было. Яна з'явілася раптам, у адзін дзень, у адно імгненне. І надало ёй гэтую рашучасць гора, вялікае гора адзіноты, калі трэба думаць і прымаць захады самой, ні на каго не спадзеючыся.

## 3

Да бліжэйшай станцыі, дзе спыняліся цягнікі, было кіламетраў дзесяць. Гэта, калі ісці ўздоўж чыгункі па шашы.

Цяпер жа па той шашы бясконца рухаліся вайсковыя часці, раўлі цяжка нагружаныя, абтыканыя бярозкамі, машыны, цёк паток бежанцаў. І няўцям было Надзейцы, што робіцца на свеце: адны вайскоўцы ідуць на ўсход, другія — на захад. Калі ж наляталі самалёты, шаша імгненна пусцела, машыны заміралі на месцы. Выбухі скаланалі паветра, угору ўзляталі зямля, машыны, гарматы...

Усё гэта Надзейка назірала з невялікага хвойніка непадалёк ад дарогі і думала, што шашою ісці нельга, трэба прабівацца да станцыі сцяжынамі. Тым больш што казе неабходна нешта есці, каб жыць і карміць яе, Надзейку. Без малака яна зусім аслабее, калі не памрэ...

Так Надзейка і зрабіла.

Спярша спусцілася з хвойнічка да вузенькай глыбокай рэчкі, куды тата, бывала, хадзіў лавіць ментузоў і іншы раз браў яе з сабою. Вада ў рэчцы празрыстая, хоць дно і цёмнае, з карчэўем. Потым адпусціла Мілку.

Тая адразу папіла вады і падалася да шырокага лазовага куста з бліскучымі, прадаўгаватымі, як лязо нажа, лісцікамі. Як каза ўмела абіраць іх! Калі галінкі і дубцы былі высокія, да лісця не дацягнуцца, то чапляла тую галінку рогам, згінала, падбірала пад сябе і такім чынам агаляла, адпускаючы ўжо голыя дубцы. Потым зноў пачынала ўсё спачатку. А лісце на канцах маладое, сакавітае, у момант наядалася ім каза.

Ды раптам Мілка фыркнула, тупнула пярэдняй нагою, насцярожылася. Так яна рабіла, калі злавалася. Што ж яе

тут напалохала? Зірпула Надзейка ў куст і жахнулася — там ляжаў чалавек, у рудым касцюме, тварам угору. Вялікія сінія вочы яго нерухома і здзіўлена глядзелі на Надзейку, левая рука ляжала на грудзях. Русявыя валасы рассыпаліся па ўзмакрэлым ілбе.

«Мёртвы!» — мільганула думка. Надзейка ўжо хацела бегчы, але заўважыла, што вочы ў чалавека нібыта ажылі, вейкі здрыгануліся.

— Пі-і-іць,— ціха, з хрыпатою ў голасе, папрасіў ранены, не паварочваючыся.

Надзейка кінулася да рэчкі, набрала ў кацялок вады і, перамагаючы страх, пачала ліць яе тонкім струменьчыкам на сасмяглыя вусны. Яны ажылі, сталі лавіць гэты струменьчык, і сам чалавек увачавідкі ажываў, дыханне пачашчалася... І разам з гэтым штосьці ўсё мацней і мацней хрыпела ў яго ў грудзях.

— От і не схаваўся... у кусце...

Ледзь зразумела Надзейка яго словы.

— Ад каго? — крыху асмялеўшы, спытала яна.

Чалавек паказаў вачыма ўгору.

— Самалёт... З кулямёта... Ганяўся... Гэта ж трэба... за адным чалавекам... паляваў, як на звера якога...

Яна не ведала, што рабіць, чым памагчы раненаму, які сапраўды можа памерці, бо пінжак на грудзях быў аж мокры ад крыві. Але ж рабіць нешта трэба, рабіць неадкладна.

— Вы паляжыце, а я да дарогі збегаю...

Чалавек нібыта заснуў, і яна не чакала яго парады ці згоды. Цяпер усё-ўсё трэба вырашаць самой.

Прывязаўшы Мілку да тоўстай лазіны — а то яшчэ пабяжыць следам,— Надзейка хуценька пашыбавала да вірлівай шашы, хоць і дужа яе баялася.

Ды на гэты раз ёй моцна пашанцавала. Прабягаючы праз жыта палявой дарогаю, яна напаткала двух падлеткаў амаль аднолькавага з ёй узросту, за якімі гняды конік цягнуў нерапоўненыя драбінкі хатняга дабра. За лейцы трымаўся высокі чарнявы мужчына ў злінялым вайсковым адзенні, а за возам ішла мажная жанчына з дзіцем на руках.

— Дзядзечка, цётачка! — са слязамі на вачах загаварыла Надзейка да абаіх.— Памажыце чалавеку, памрэ ён... От пабачыце — памрэ. Дужа ж параненьі...

Чарнявы ў вайсковым спыніў каня, выцер рукавом лоб і спакойна спытаў:

— Які чалавек? Дзе ён?

— Там,— паказала яна,— ля рэчкі.

— То паедзем. І не трэба лямапту, спакойненька, пацішу... Цяпер, мілая, як ніколі, трэба спакойненька. І памагаць адно аднаму ў бядзе, як ніколі...

Людзей спаткала яна добрых, чуллівых. Усе, нават хлапчукі, гэткія ж чарнявыя, як і бацька, прыспешылі крок. А калі дайшлі да куста, дзе ляжаў ранены, жанчына, перадаўшы хлопчыка бацьку, доўга і карпатліва перавязвала чалавеку рану чыстым белым кужалем, абмыўшы папярэдне вадою з вялікай сіняй пляшкі, і ўсё божкалася, уздыхала:

— А божачка, Пятро Рыгоравіч, як жа вам собіла... Памажы вам, божачка, гэта ж трэба — столькі крыві выйшла...

Хлапчукі паздымалі з драбінак старыя ўжо крэслы, канапу і столік, вызваліўшы месца для параненага.

— Абыдземся і без гэтага ламачча,— махнуў рукою гаспадар,— у Матруны палаці на цэлае аддзяленне. Так што вы, таварыш сакратар, будзеце як дома. Зацішна там — лес, возера пад бокам. Мая Кацярына хутка пастаііць на ногі сваімі зёлкамі...

З усяго гэтага Надзейка зразумела, што дабіраюцца яны некуды ў вёску да сваякоў і што чалавека ведаюць, памогуць яму ачуняць.

Калі гняды конік напяўся і крануў з месца драбінкі, ёй зрабілася сумна, што зноў застанецца адна. Не адкрыеш жа людзям сваю бяду, калі пра гэта не пытаюць. Падумалі, відаць,— пасвіць дзяўчынка казу — няхай і пасвіць сабе...

Але сэрца яе было спакойнае — вось і яна спатрэбілася людзям, дапамагла ім, выратавала ад смерці чалавека...

Адвязаўшы ад лазіны казу, зноў павяла яе паўз рэчку, шукаючы броду, дзе можна было б перабрацца на другі бок: усё ж спадзявалася на нешта, кіравала на ўсход.

Было ўжо спякотна, палітончык, перакінуты праз плячо, і кацялок, што трымала ў руцэ, здаліся непамерна цяжкімі. Надзейка хацела прыладзіць усё на казе, але пашкадавала яе, і так, вунь, воўны на ёй пуд...

Брод натрапіўся хутка, шырокі, але вады — па калені, з цвёрдым пясчаным дном і трыснягом ля берагоў. Скінуўшы чаравікі і зацыраваныя на пятках панчохі, яна перанесла ўсё на другі бок і пазвала казу:

— Мілка, хадзі сюды... Хадзі, Мілачка...

Тая паглядзела на сваю цяпер адзіную гаспадыню круглымі цікаўнымі вачыма, мэкнула і, на вялікую радасць Надзейцы, скочыла ў ваду. Хоць было і неглыбока, стужка намокла, бо казіныя ногі, што тыя колікі, залазілі ў жвір глыбей, чым Надзейчыны...

Прайшлі яны за дзень даволі далёка, мінулі станцыю, якая гарэла і на якой пагрозліва грукатала: вялізныя языкі полымя ўзляталі высока ўгору, чорны, як ноч, дым засціў сонца. І ўсё ж Надзейка ўгледзела доўгі састаў з цыстэрнамі, ахопленымі полымем. Вырашыла ісці далей, да наступнай станцыі, хоць і не ведала, колькі да яе кіламетраў і што там робіцца.

Сонца паступова апускалася да небасхілу, і трэба было думаць пра вячэру і начлег. Вячэру, вядома, дасць Мілка — дзве-тры шклянкі духмянага, густога, як сліўкі, малака. Вось толькі здабыць бы дзе хоць кавалачак хлеба. Але калі ён і не знойдзецца, то і так пражыве. Куды горш з начлегам. Ноччу адной — каза не ў лік — страшна. Як спаць, калі наўкол гэткае робіцца...

Спачатку Надзейка ўбачыла на лузе копы сена, хацела скіравацца туды, але перадумала: самой-то яно прыдатна, схаваешся ў сене, а як быць з казой? Яе не схаваеш, яе заўважыць кожны і пацікавіцца — чаго гэта каза адна ходзіць? І яшчэ ўздумае злавіць...

За лугам пачынаўся бярэзнік, падобны да таго, што рос у іх за чыгункай, і Надзейка ўпэўнена збочыла туды. У бярэзніку, яна ведала, утульна і цёпла, за дзень зямля так нагрэецца, што спі, як на печы.

Мілка ўжо прывыкла, што трэба ісці каля гаспадыні, не дужа азіралася па лазу, тупала побач упарта, бы таксама кудысьці спяшалася.

Але адна справа — пагуляць у бярэзніку, а другая — знайсці там месцейка на цэлую ноч. Колькі куточкаў давялося агледзець, перш чым вырашыла, дзе канчаткова спыніцца. А тут трапіўся даволі ўдалы: між бярозак расла купка невялічкіх ялінак. Вось пасярэдзіне тых ялінак Надзейка і выбрала сабе месца на ноч.

Класціся яшчэ рана, яшчэ сонца, хоць і кранулася краем зямлі, свеціць добра. Спачатку прывязала і падаіла казу. Папіла, колькі хацела, малака, астатняе павесіла ў кацялку на зламаны сухі сучок. Пасля падумала: «Трэба зняць, відаць будзе здалёк...» І схавала кацялок пад ялінку.

Потым узялася за подсціл. У нізінцы па лузе знайшла чыйсьці свежы пракос. Трава была хоць і не зусім сухая, але, безумоўна, спаць на ёй лепш, чым на голай зямлі, няхай сабе і пакрытай шараватым машком.

Цямнела доўга і нудна. Стаяла такая цішыня, што, здавалася, усё навокал вымерла. Толькі недзе на ўсходзе час ад часу чуліся глухія працяглыя выбухі, быццам там хтосьці грукаў у вялізны гулкі барабан.

«Няўжо і другую станцыю бамбяць? — з жахам думала Надзейка, накрываючыся палітончыкам.— Што ж я тады буду рабіць? Куды пайду далей?»

Але тое «тады» адразу адышло на другі план, калі яна ўбачыла, як Мілка, што ляжала непадалёк, раптам узняла галаву і пачала прынюхвацца. Значыць, паблізу хтосьці быў. Можа, чалавек, а можа — які звер. Хто цяпер для яе, Надзейкі, страшней, яна і сама не ведала. Ёй наогул хацелася зашыцца куды-небудзь у якую яміну, каб нікога і нічога не бачыць, каб не чуць, як стогне развярэджаная вайною зямля...

Нехта праехаў з возам па лугавіне — чуваць было, як рыпяць нязмазаныя колы і тупае конь. «Мабыць, сена звозяць, удзень баяцца самалётаў»,— падумала яна і легла на спіну, пачала ўзірацца, як на небе запальваюцца першыя зоркі.

Разам са шматлікімі значнымі клопатамі ўзніклі і малыя: з прыцемкам з'явіліся аднекуль камары. Яны звінелі над галавою, джалілі, і не было ад іх ратунку. Тады Надзейка накрылася з галавою, але і гэта не дапамагло. Дыхаць было цяжка, а камары ўсё роўна залазілі пад палітончык, пранізліва звінелі над вухам.

І раптам дзяўчынка адчула, што пад ёю гудзе, аж уздрыгвае, зямля. Разам пачуўся і ляскат жалеза. Яна адкінула з галавы крысо палітончыка і прыслухалася. «Гэта ідуць танкі,— здагадалася і ў душы ўзрадавалася.— Калі нашы танкі пайшлі ў бой, то разаб'юць усіх фашыстаў...»

З такой абнадзейнай думкай, пад аднастайны гул цяжкіх машын, яна і заснула...

Не проста заснула, а непрыкметна перайшла ў другое жыццё. Ёй сніўся піянерскі лагер ля рэчкі ў дуброве, урачыстая лінейка, вясёлыя твары сяброў. І сярод іх адзін, самы прыгожы, самы харошы...

«Дзень добры, Мікола»,— сказала Надзейка і смела працягнула руку высокаму чарняваму хлопцу. «Бач, як ты пасмялела! — адказаў ён.— А ў школе і вочы баялася

на мяне ўзняць...» Яна адказала: «Гэта таму, што цяпер вайна. Цяпер усе смелыя сталі...» — «Якая вайна? Ніякай вайны няма. Ты яе проста выдумала».— «Не! А мамка, а татка мае — загінулі!» — яна хацела заплакаць, але раптам убачыла, што да яе і сапраўды ідзе тата, з кветкамі ў руках. Даў ёй кветкі і ўзняў на рукі, як маленькую. Прыхінуўся шурпатай шчакою да яе твару і шэпча: «Я жывы, дачушка... Я заўсёды буду з табой...»

Яна абхапіла яго за шыю і моцна-моцна прытулілася. «А мамка дзе? Яна таксама жывая?»

У каго яна пытае? Побач жа нікога няма. Ні Міколы, ні таты... І яна моцна пачала клікаць: «Та-а-атка-а-а! Тачка-а-а, дзе ты? Не ідзі ад мяне, мне дужа страшна, я баюся адна-а-а...» Так доўга і безнадзейна клікала, што аж сэрца зайшлося, і яна прачнулася...

Ужо было добра відна, бярозавы гай аж звінеў ад птушыных галасоў. Мілка стаяла побач і старалася дацягнуцца да бярозавай галінкі, што звісала над яе галавою. Перашкаджала стужка, яна была дужа кароткая.

Надзейка сядзела і не магла аднавіць у памяці ўсяго таго, што бачыла ў сне. Толькі выразна ўяўляўся родны бацькаў твар, адчуваўся дотык яго непаголенай шурпатай шчакі. І ад гэтага яшчэ больш балела ў грудзях, даўкі камяк падкаціўся пад горла...

— Што з намі будзе, Мілка? — ціха спытала Надзейка.

Пачуўшы сваё імя, каза замахала кароткім хвосцікам і ціха-ціха мэкнула, відаць, ад задавальнення, што з ёю размаўляюць.

— Не ведаеш? Я таксама не ведаю...

Як заўсёды бывае, за роспаччу прыходзіць абыякавасць, калі чалавек звыкаецца з горам, памяркоўна разважае і шукае якія захады, бо жыць жа трэба, а значыць — трэба нешта і рабіць. Надзейка падхапілася на ногі, уссунула і зашнуравала чаравікі — яна здымала іх нанач — і пачала даіць казу, падкінуўшы ёй пад нос свой подсціл. Каза ела траву не дужа ахвотна, перабірала, але малака дала ледзь не поўны літровы кацялок. Праўда, там было крыху вячэрняга.

Зноў падумалася пра хлеб — аж пад грудзьмі засмактала. Надзейка глынула колькі разоў і адсунула кацялок. Ёй падалося, што нехта набліжаецца да іх, імкліва, аж бярозкі хістаюцца.

— Хто тут?!

Адразу пачула яна чыйсьці ўзрушаны голас і адразу

ўбачыла маладога хлопца з вінтоўкай у руках і супрацьгазавай сумкай пры баку. Той заўважыў Надзейку, падабрэў тварам:

— Ты што тут робіш?

— Казу пасу...

— А чаму прывязала?

— Падаіла вось...

— Так, так, дайся ты рады... Хлопцы! — гукнуў ён у гай.— Дыверсанта злавіў!

Неўзабаве Надзейку і Мілку акружылі даволі цікавыя людзі з вінтоўкамі. У аднаго быў нават кулямёт з ножкамі і шырокім дыскам на прыкладзе. А той, першы, не даваў ачомацца, засыпаў пытаннямі:

— Мясцовая?

— Ага.

— Даўно тут?

— Ад цямна...

— Хіба ад відна?

— Не, ад цямна... З учарашняга.

— Так, так, дайся ты рады... Начавала, значыць? Дык, можа, каго бачыла?

— Нікога.

— І на парашутах ніхто не спускаўся?

Яна адмоўна пакруціла галавою.

— Дайся ты рады! Павінны ж недзе тут быць! Чуеце, хлопцы, наша разведчыца кажа, што нікога не бачыла.

— А можа, яна варожы лазутчык?

Хлопцы былі вясёлыя, жартаўлівыя. З далейшай размовы Надзейка даведалася, што іх камсамольскі знішчальны атрад ловіць дыверсантаў, якія ноччу спусціліся на парашутах непадалёк ад чыгуначнага моста.

— Як зваць цябе? — зноў звярнуўся да яе «Дайся ты рады», так ахрысціла яго Надзейка.

Яна адказала.

— Дык вось што, свет-Надзейка, вядзі ты сваю жывёліну дамоў, а то, чаго добрага, напорашся на дэсант — нездабраваць, ім сведкі не патрэбны...

— У мяне нікога няма... І хаты няма,— першы раз прызналася людзям.

— Дайся ты рады! — пачухаў галаву хлопец і на хвіліну задумаўся. Ён быў вельмі прыгожы, чарнявы, кучаравы, як цыган, толькі вочы здаваліся сінімі-сінімі.— Гэта ўжо горш...— Зноў падумаў трохі і дадаў: — Тады вось што... Пачакай нас тут гадзіны тры-чатыры. Куды-небудзь

прызначым. Толькі адсюль — ні кроку! Хлопцы, у каго ёсць што на зуб?

Хлопцы пачалі трэсці свае торбачкі і кішэні. Ёй назбіралі столькі хлеба, што не з'есці і за тры дні. Знайшліся ў кагосьці сала, у таго кавалак каўбасы і нават некалькі вараных яек, з патрушчаным шалупіннем.

«Ну і кемлівы ён, гэты «Дайся ты рады»! — задаволена думала Надзейка, гледзячы ўслед вясёлай камандзе. Ёй здавалася, што калі такія хлопцы ўзяліся за зброю, то перад імі ніякі дэсант не ўстоіць. Стала весялей, нават забылася на адзіноту. Адразу ўзяла ў рукі кавалак хлеба, прыцмокваючы і запіваючы малаком, пачала прагна адкусваць. Не забылася і на Мілку, дала ёй трохі самага чэрствага. Тая ела іківала галавою, нібы дзякавала.

Паспытала Надзейка і сала, паласавалася каўбасою. Потым усё звязала ў хусцінку, пакінуўшы адно яйка, якім вырашыла закусіць свой сняданак, такі багаты сёння.

Пакуль прыйдуць тыя хлопцы, ёй захацелася абысці з казою бярэзнічак, няхай Мілка паскубе трохі чаго. А можа, і яна што цікавае знойдзе для сябе.

Копаў на лузе і сапраўды не было, іх хтосьці вывез. А пасярэдзіне бярэзніка згледзела вялізны лоўж. Гэта, няйначай, нехта вязаў венікі, скідваючы непатрэбныя галіны ў адно месца. Ды не лоўж прыцягнуў яе ўвагу, а вялізная чорна-сіняя гадзюка, што скруцілася на ўгрэве. Яна ляжала, ледзь прыўзняўшы маленькую пляскатую галоўку, і з цікавасцю і насцярогай сачыла за Надзейкай. А тая таксама, як зачараваная, воч не зводзіла з гадзюкі. Такой яна ніколі не бачыла, сустракаліся ёй шэрыя, з пакручастымі палоскамі на спіне, светла-рудыя, тоненькія, а вось гэткай вялізнай ды тоўстай не бачыла.

— Як цябе завуць? — спытала і кранулася з месца, каб лепш разгледзець.

Ад гэтага руху гадзюка паволі распасцерлася і плаўна паплыла ў сярэдзіну лаўжа. «Там яе хатка. Можа, і дзеткі ёсць»,— падумала Надзейка і пайшла за казою.

Але не пахадзілі яны і паўгадзіны, як з боку чыгункі, з-за лугу, куды пайшлі знішчальнікі, данесліся выбухі і ружэйна-кулямётная траскатня. Там, па ўсяму было відаць, разгарэўся бой. Значыць, варожыя парашутысты ўсё-такі былі, іх знайшлі і, пэўна, знішчаюць.

Так думалася Надзейцы.

Ды толькі было зусім не так, бо яшчэ праз які час яна ўбачыла, як па лузе да бярэзнічка шыбуе некалькі чала-

век. Угледзелася і пазнала іх важака, высокага чарнявага «Дайся ты рады». Яго вялі пад рукі двое дужых хлопцаў, а яшчэ пяцёра ішлі ззаду і раз-пораз азіраліся, трымаючы зброю напагатове.

«Няўжо? Няўжо іх, гэтых адважных і смелых, разбілі тыя дэсантнікі?» — трывожна падумалася Надзейцы.

Вось яны падышлі да яе, паселі, зусім змораныя, учарнелыя.

— Давай бінты, Вася,— звярнуўся да таварыша адзін з тых, што вялі чарнявага. А потым удвух пачалі перавязваць свайму камандзіру левую нагу, перабітую навылёт куляй крыху вышэй калена. Хлопец узняў на Надзейку свае вялікія сінія вочы і ціха сказаў:

— Вось як яно выйшла, дайся ты рады... Бачыш, колькі нас засталося?

Няўжо астатнія загінулі? Няўжо той дэсант такі вялікі, што з ім не справіліся гэткія малайцы? У Надзейкі было яшчэ многа-многа і другіх пытанняў, але яна не задала ніводнага, бо пытаннямі цяпер не паможаш.

— Не дэсант гэта, а рэгулярныя часці... Фашысты прыйшлі на нашу зямлю, свет-Надзейка...— як бы адказаў на яе нямыя пытанні камандзір. Памаўчаў крыху і дадаў яшчэ цішэй: — Так што і не ведаю, як быць з табою... Куды цябе браць... Вельмі ж мы ў небяспечным становішчы, самі яшчэ не разабраліся, куды скіруем...

— Я да цёткі пайду! — каб хоць як-небудзь суцешыць, запэўніць, што яна ўжо і не такая адзінокая, сказала Надзейка.— Яна ў вёсцы жыве, непадалёк ад горада...

І не сказала — ля якога горада...

— Ну, то і добранька... З казою — дойдзеш, не прападзеш,— у глыбокім задуменні сказаў «Дайся ты рады».

Яны пайшлі неўзабаве. Пайшлі змагацца з ворагам. Надзейка гэта пэўна ведала.

Застаўшыся зноў толькі з Мілкай, яна вырашыла трымацца яшчэ далей ад чыгункі і шашы, ісці ад вёскі да вёскі, абы адысціся ад гэтага месца, куды прыйшлі фашысты...

## 4

Дні цяклі за днямі. Гарэлі гарады і вёскі, зямлю арашала чалавечая кроў...

А Надзейка ўсё ішла ды ішла на ўсход. Яна ўжо даўно зразумела, што ёй не прабіцца да сваіх войск, якія так

хутка адступілі, ведала, што наперадзе коціцца грозная навала фашыстаў, ды нешта ж вось падганяла яе, нешта незразумелае клікала наперад, бо верылася, хацелася верыць, што там, наперадзе, збавенне ад усіх пакут. Страшныя, поўныя адзіноты і жудасці ночы зусім знясілілі яе. Хацелася ўжо да людзей, хацелася звычайнага чалавечага цяпла. Без людзей яна нішто, без іх яна нічога не дасягне, а яшчэ загіне адна, нікому не вядомая, закінутая...

Так пачала думаць Надзейка. Трэба шукаць і знайсці надзейных людзей, з якімі і падзеліць яна сваё вялікае гора...

І хутка такі выпадак здарыўся.

Дзяўчынка яшчэ не спала. Толькі аблюбавала месца для начлега — зацішны куточак пад густой маладой елкай на ўскрайку хмызняку, які адным канцом упіраўся ў возера, а другім — выходзіў на жытнёвае поле, паўз якое бегла ледзь прыкметная сцяжынка. Надзейка наогул любіла начаваць каля жыта: ад яго патыхала цеплынёю, водарам хлеба. Ляжаш спаць, а яно шамаціць калоссем, нібы засыпляе. І сняцца тады лагодныя, добрыя сны, знаёмыя, дарагія сэрцу людзі...

Галіны елкі амаль слаліся па зямлі, добра ўкрывалі Надзейку, і яна паспакайнела. Побач Мілка мірна жавала сваю жвачку.

Але вось каза павярнула галаву ў бок поля і перастала жаваць. Гэта насцярожыла Надзейку. У Мілкі слых, як у добрага сабакі, яшчэ б ёй сабачыя моц ды зубы...

— Хто там? — ціхутка спытала Надзейка і таксама ўслухалася, прыпала вухам да зямлі, каб што-якое пачуць, але зямля маўчала.

І раптам данеслася чыясьці гаворка. Спярша невыразная, прыглушаная, потым усё чутней і чутней. І вось ужо можна разабраць словы...

...— Дык, ведаеш, аж дзве бомбы ў будынак уцэлілі. Камедыя! Адна дык проста, ведаеш, у дзяжурку. Турму нашу ўшчэнт, ведаеш, а мы — хто куды... Хто, ведаеш, жывы застаўся. Камедыя! — гаварыў танклявы сіпаты голас.— Дачасна, ведаеш, вызваліліся з турмы, а была ж дваццатка!

— За што сядзеў? — спытаў другі голас, грубы і прыглушаны.

— А-ат, за глупства, ведаеш...

— Канкрэтна, кораш...

— Прышыў адну...

Тут ён такое сказаў, ад чаго ў Надзейкі аж на сэрцы пахаладзела. Япа яшчэ глыбей залезла пад лапкі і нават прыкрыла імі казу. «Нішто сабе — глупства, жанчыну забіў. Бандыт ён — вось хто...»

— Туды ёй і дарога... А я сеў за неахайнасць...

— Як гэта зразумець?

— Пазычыў у аднаго начальніка партыйнага наган, а яму, бач, не спадабалася. Давялося паказытаць рабрыны і памацаць галаву. Вычухаўся, сабака. А пасля і вынюхаў. Каб от прыкончыў, як ты, то ўсё было б шытакрыта...

«І гэты — бандыт. Абодва з турмы ўцяклі. Цяпер іх няма каму палавіць». І яшчэ Надзейка падумала, што калі б яна была мужчынам ды мела зброю, то абавязкова арыштавала б іх, а можа, і забіла б адразу, куды іх цяпер павядзеш...

— Ну, нічога, кораш! — зноў пачуўся прыглушаны голас.— І я, кораш, яго вынюхаў...

— Дзе ж?

— Тут недалёка, вярсты дзве, па хутары каля возера... Ад лесу яны, падыход добры...

Цяпер двое бандытаў — Надзейка ўпэўнілася ў гэтым — былі амаль побач. Аж не стрывала, зірнула з-за ялінкі і ўбачыла толькі цёмныя постаці — адна высокая, а другая ніжэйшая і таўсцейшая. «Хто ж з іх той, што забіў жанчыну?» — падумалася ёй.

— Дык давай, ведаеш, прышыем — і ў паліцыю! — узмахваў рукамі вышэйшы.

«Гэта — ён!» — здагадалася і ўжо больш пільна пачала глядзець, але твару так і не ўбачыла. Пашкадавала, што ўжо сцямнела.

— Адразу так і ў паліцыю...

— З авансам, ведаеш... Каме-едыя!

— Цішэй ты, раскрычаўся. Тут, бачыў, нейкая малая з казой хадзіла...

— Яна ўжо недзе дома трэці сон дасынае...

Ад гэтых слоў у Надзейкі аж кальнула пад сэрцам, стала горача галаве. Бачылі! Яе бачылі, а яна — нікога. Гэта нядобра, надалей трэба больш уважліва, асцярожна хадзіць з Мілкаю, асабліва перад вечарам...

— Сакратар райкома...— Зноў чмялём загугнявіў грубы голас.— А што ты думаеш, за яго галаву не толькі давер ды возьмуць нас на службу, а яшчэ і добрыя грошы дадуць. Ён цяпер ім патрэбен — камуністаў ды камсамоль-

цаў, пэўна, усяго раёна ведае. Прыцiснуць — выкажа, як мiленькi.

— І грошы дадуць? Камедыя!

— От пабачыш, кораш... Толькi нам трэба яго жывенькага даставiць. Ну, падрапаць крыху можна...

— Дык, ведаеш, пайшлi цяпер! — аж узгарэўся сiпаты.— Куй жалеза, пакуль, ведаеш, гарачае...

— Цяпер нельга.

— А чаму ж?

— Трое iх, мужыкоў. Стрэльбы, пэўна, ёсць. Праўда, сакратар паранены, але ўжо ходзiць, выходжваюць там яго.

— А гэта што? Гэта, ведаеш, баявая абразанка, пяцiзарадка. Як бабахне, дык, ведаеш...

— Пад ранiцу трэба, калi самы сон... А цяпер сходзiм на пабярэжскую ферму ды якога баранчыка прышыем, на вугельчыкi яго... Каб моцы набрацца...

Што гаварылi бандыты далей, Надзейка ўжо не чула — адышлiся далёка. Але яна многае зразумела i так: людзям пагражае небяспека. Хоць i не ведала тых людзей, але адразу стала шкада iх, трэба папярэдзiць, дапамагчы...

Мiлка зноў зачмякала, а Надзейка хуценька думала: «Яны збiраюцца прадаць фашыстам савецкага чалавека, сакратара райкома, выслужыцца перад iмi i пайсцi ў палiцыю наймацца...» І як адзiнае выйсце — вырашыла: бегчы! Пакуль тыя вылюдкi будуць смажыць калгаснага барана — а яны абавязкова ўкрадуць яго,— трэба знайсцi хутар i ўсё расказаць жыхарам. А што рабiць з Мiлкай? І тут выйсце было знойдзена, хоць i не зусiм жаданае...

Надзейка хуценька прывязала казу да дрэва, паклала побач, каб не бянтэжылася i не сумавала адна, свой палiтончык, салдацкi кацялок i вузельчык з рэшткамi сухога хлеба, а сама крадком пайшла да возера. Яшчэ днём, калi пасвiла казу, добра бачыла будынкi на беразе, побач з вялiкiм лесам. «Гэта, мабыць, i ёсць хутар, другога жылля тут не вiдаць»,— падумала i прыбавiла хады.

Ісцi ў цемене вельмi дрэнна. Па-першае, не вiдаць дарогi, спатыкаешся аб рознае ламачча; а па-другое, вельмi цяжка трымацца аднаго напрамку, не збiцца, хоць сабе i з левага боку добра праглядаецца возера. Не будзеш жа iсцi паўз самую ваду. Там шмат балоцiстых нiзiнак, крынiц, якiя трэба абыходзiць. Яшчэ трапiш у багну...

Прайшоўшы ад хмызняку ўпiз па роснай ужо траве — над возерам слаўся туман,— яна выпадкова ўзбiлася

на грудок і адчула пад нагамі нешта накшталт дарогі. Трымалася той дарогі і бачыла, што далёкая светлая крапачка наперадзе спакваля большае. То свяцілася адзінае акно. А з правага боку паўставала высачэзная чорная сцяна — лес...

Надзейка, перамагаючы цемру і страх, як зацятая ішла наперад, і ў яе ў сэрцы зноў, у каторы ўжо раз, ажывала цёплая хваля радасці за сябе, за сваю рашучасць і смеласць. Яна не толькі бязвольная і пасіўная назіральніца, яна дзейсны ўдзельнік таго, што робіцца на свеце: яна бачыць, і былі б у яе яшчэ сіла і зброя, то ўсім ворагам нездабраваць бы, не пасмелі б яны здзекавацца з людзей...

Надзейка навучылася марыць. Мары заносілі яе ў іншы свет, часам далёкі ад сапраўднага. З марамі лягчэй пераадольваліся цяжкасці, адступаў страх...

А дзе ж дзелася светлае акенца? Яно згасла, і перад Надзейкай паўсталі невядомыя чорныя прывіды на фоне шэрага змроку. Гэта ўжо відаць самі будыніны. Адна, дзве, тры — хата, варыўня, хлеў...

Надзейка прыслухалася. Ні гуку ні груку. Толькі ў хляве, чулася, цяжка, працяжна ўздыхнула карова — «у-у-у-ф-ф-ф-ф»! «Відаць, добра наелася, не здыхаецца таняк»,— міжволі падумала Надзейка і ўсміхнулася ад такой думкі. А потым пасняшыла: трэба ж хутчэй каго-небудзь убачыць! Падышла да ганка і грукнула ў дзверы, грукнула ціхенечка, каб не адразу ўсіх пабудзіць. Ды цішыню не парушыла. Тады грукнула мацней.

— Хто там? — пачуўся жаночы голас. Ён чамусьці здаўся Надзейцы дужа знаёмы.

— Гэта я...

Яна не ведала, як назваць сябе, і таму памаўчала. Яе не сталі перапытваць, і за дзвярыма адразу ляснула засаўка. Шырокія, але не дужа высокія дзверы з сенцаў адчыніліся. На парозе з лямпай у руках узнікла мажная жанчына — гэта было відаць па тым, як яна сагнулася,— у доўгай, ледзь не да пят, начной кашулі.

Лямпа наблізілася да Надзейкі, і цяпер ужо здзіўлены голас спытаў:

— Ты-ы? Як жа ты нас знайшла?

Надзейка таксама пазнала жанчыну і ўзрадавалася. Гэта ж яна дзён колькі — хто іх лічыў? — таму назад перавязвала рану чалавеку ў кусце, сакратару райкома, таму самаму сакратару, якога цяпер бандыты хочуць прадаць фашыстам! Вось як яно ўсё склалася!

— Дык гэта... вы сюды эвакуіраваліся? — замест адказу спытала Надзейка.

— Сюды.

— А я вас і знайшла!

Яна хацела адразу сказаць усё, але не магла падабраць адпаведных слоў, і таму зноў змоўкла.

— Дык заходзь у хату. Толькі паціху, а то нашы ўсе даўно паснулі...

Неўзабаве яны апынуліся ў прасторнай сялянскай хаце без усялякіх перагародак і баковак. Проста ад дзвярэй злева была вялікая печ, за ёю ішлі шырокія палаці, тыя палаці, пра якія мужчына гаварыў, што іх хопіць на цэлае аддзяленне салдат. За палацямі стаялі ложкі, канапы, лавы. І з правага боку — таксама ўздоўж сцен лавы, а ў куце за імі — зусім голы, без абруса, стол.

— Сядай тут,— падвяла яе жанчына да стала і пасадзіла на край лавы.

На печы, на палацях, у шматлікіх ложках пачалі паварочвацца, прачынацца людзі.

— Кацярына, хто ў цябе там? — спытаў нехта.

— Дзяўчынка. Тая, што з казой была, што на Пятра Рыгоравіча нас навяла...

— Як яна сюды трапіла?

— Не ведаю...

Тут Надзейка не вытрымала і амаль выкрыкнула:

— На вас хочуць напасці бандыты!

Сказала, нібы кінула гранату. У хаце ўсе амаль адначасова паўсхопліваліся са сваіх месцаў, запалілі святло, абступілі яе.

— Што ты сказала? Хто хоча напасці? — дапытваліся. А потым, сцішаныя,— чуваць было, як недзе звініць у сетцы-павуцінні муха, слухалі, што расказвала ім Надзейка, што перажыла яна за апошні час.

— Гэта Выжлятнік, мянушка ў яго такая... Бандыт з вялікім стажам,— наперад высунуўся той, каго Надзейка ўбачыла параненым, чалавек у рудым касцюме, Пятро Рыгоравіч.— Выходзіць, дзяўчо, ты другі раз ратуеш мяне ад смерці! — Яго вялікія вочы цяпер глядзелі на Надзейку з такой пяшчотай, што ёй стала цёпла-цёпла.— А як жа ты тут з'явілася?

— Пачула і прыйшла... бо адна я, зусім-зусім адна, толькі з Мілкай, з казой...

З печы пачуўся хлапечы голас:

— Мама, хай застанецца ў нас...

7 Зак. 2734

— З намі хай будзе,— падаў голас і другі хлапчук.

— А я і сама так думаю,— сказала Кацярына, якая паспела ўжо нацягнуць сукенку.

Надзейка заспяшалася:

— Не магу я тут застацца, у мяне каза там, ля жыта, навязана, яшчэ хто звядзе...

— Ноччу ніхто не звядзе, пачакае твая каза,— махнула рукою жанчына.— Развіднее — прывядзём...

У хаце людзі апраналіся, збіралі торбы, рукзакі, зброю. Толькі самы маленькі, той, што быў тады ў Кацярыны на руках, моцна спаў у нейкіх драўляных ночвах.

Надзейка падумала, што ісці зноў праз лес у хмызняк за возерам будзе дужа страшна, яшчэ страшней, чым сюды. І яна згадзілася застацца.

Мужчыны — іх было не трое, як казаў той Выжлятнік, а пяцёра,— адразу выйшлі на двор: рыхтаваліся сустрэць няпрошаных гасцей у поўным узбраенні — яшчэ ў сенцах чуўся лязгат затвораў.

Гаспадыня дастала з печы вялізны чыгун і наліла ў паліваную міску цёплага духмянага баршчу са шчаўя і бурачковага лісця, падала Надзейцы:

— З'еш гатаванага...

Была яна гэткая ж мажная, як і Кацярына, толькі шмат старэйшая за яе, відаць, сястра.

— Дзякую,— сказала Надзейка і ўзяла ў рукі драўляную лыжку з вялікім цаўём. Сербанула раз, другі і аж прыцмокнула языком. Што гэта за смаката — боршч, запраўлены салам! Надзейка і праўда ўжо даўно не ела гатаванага і таму налегла на варыва з асаблівым стараннем. Яна ела і думала, што вось возьме і застанецца тут да пары да часу. Толькі не ведала, дзе яе пакладуць спаць. Гэта ж і так у хаце аж дзесяць чалавек жыве, дзе толькі і месцяцца. Што дзесяць, яна палічыла адразу, як яе абступілі пяцёра мужчын і дзве жанчыны. Двое хлопцаў было на печы, малое — у ночвах...

Неўзабаве жанчын і дзяцей папрасілі ўзяць што якое на подсціл і спусціцца па дварэ ў склеп, бо, магчыма, будзе страляніна, а куля, як казаў Пятро Рыгоравіч, дурніца, яна не разбіраецца, у каго трапіць. Грудзі ў яго ўжо амаль зажылі, бо рана была не скразная, а «касацельная», вось толькі парвала нейкі важны сасуд і выйшла шмат крыві. Гэтыя звесткі Надзейка пачула ўжо ў склепе.

Там, хоць і было прасторна, пахла, як і ў іхнім склепе, цвіллю і леташняй бульбай, згорнутай у правым куце і ад-

гароджанай шырокай дошкаю. Бліжэй да дзвярэй і злева ляжала шмат саломы. Яе заслалі старымі посцілкамі і леглі ўпокат. Але спаць, вядома, ніхто і не думаў: кожны быў усхваляваны напружаным чаканнем. Бандыты, яшчэ ўзброеныя, не спыняцца ні перад чым, літасці ў іх не прасі...

Час бег, а цішыня запала такая, што пачалі мружыцца вочы. «Як там мая Мілка? — думала Надзейка, ад душы шкадуючы жывёліну.— Спіць ці хвалюецца?» Яшчэ яна думала пра тое, што вельмі гэта добра, калі людзі папярэджаны, што бандытаў, пэўна, пастраляюць, і тады на свеце стане меней зла.

— А можа, не сёння? — падала ціхі голас Кацярына.

Гэтае пытанне было звернута да Надзейкі, і яна ўпэўнена адказала:

— Казалі — сёння. Пад раніцу...

— Ну, то давайце траха паспім...

Змораная бясконцым адчуваннем трывогі і страху, небяспечнымі пераходамі, Надзейка і сапраўды вельмі хутка заснула цяжкім сном.

5

У сне зноў бачыла бацьку, жывога і здаровага, але нейкага самотнага, маўклівага. Яна клікала яго, працягвала рукі, а бацька маўчаў, бы чужы, адступаў ад яе. Сціскалася болем сэрца, хацелася крычаць, ды толькі крык ніяк не мог вырвацца з грудзей.

Потым зноў бачылася бамбёжка. То было чамусьці ў лесе. Усё наўкол грымела і дымілася. І сярод гэтай калатнечы бегла Мілка. Яна жаласліва мэкала і кідалася ад аднаго агню да другога. Вочы яе гарэлі, поўсць аж дымілася. Тады Надзейка пачала клікаць яе, але і каза не чула, не звяртала на яе ніякай увагі.

Надзейка ўскрыкнула і прачнулася.

Дзверы ў склепе былі адчынены, і — нікога побач. Ласкавыя промні сонца коса ўрываліся ў сутарэнне, асвятляючы срэбную цвіль сцен з асінавага бярвення, расколатага напалам, золата саломы на падлозе. Дзе ж гэта ўсе? Куды пайшлі?

Надзейка хацела ўскочыць і пабегчы, але ёй здалося, што салома нібы варухнулася. Потым — зноў. І вось ужо выскачыла з-пад яе маленькая шэрая мыш. Гэта яшчэ болей надало імклівасці, і дзяўчынка падхапілася, кінулася

да дзвярэй. Потым узнялася па сходках. Які сорам! Бамбёжак не баялася, начаваць адна ў лесе не баялася, нават бандытаў не дужа напалохалася, а нейкага малога мышаняці спужалася. Ды так, што аж сэрца затухкала.

Агледзелася — нідзе нікога. Быццам сышлі ўсе куды. А што з бандытамі, ці прыходзілі яны паогул? А можа, пазабівалі ўсіх на хутары і пайшлі?

Ад такіх думак стала жудасна: зноў адна! І Надзейка хуценька падалася да хаты. Адчыніла дзверы, другія і зразумела ўсё: прадзяжурыўшы ноч, людзі спалі — хто дзе, нават на лавах. Толькі Кацярына ды яе старэйшая сястра завіхаліся каля печы, але так ціха, што іх зусім не чуваць было.

Надзейка глянула на Кацярыну запытальна, і тая, прыклаўшы да вуснаў палец, прыязна ўсміхнулася аднымі вачыма. Потым падышла, нахілілася да яе і шапнула:

— Аднаго злавілі...

— А другі?

— Збег, Выжлятнік... Хітры, як ліс, пусціў наперадзе свайго хаўрусніка, а сам нават не падышоў, за ялінаю хаваўся, назіраў за хутарам...

— Дык дзе цяпер той, каго злавілі?

— Там...— Кацярына махнула рукой на акно, якое выходзіла ў лес. І Надзейка не стала ўдакладняць, чаго яго туды павялі. Яна заспяшалася да сваёй Мілкі, нават не хацела снедаць, хоць было ўжо, бадай, пад паўдня. Спытала толькі тое, што мучыла ўвесь час:

— Як вы думаеце, бандыт... не стрэнецца болей?

— Думаю, што не. Аднаму яму тут няма чаго рабіць, сам баіцца ў пастку трапіць. Ледзьве ногі вынес... А ты паеш чаго спярша...

— Не-е, цётачка, пабягу. Без мяне Мілка прападзе...

Кацярына сіламоццем усунула ёй у рукі цёплы скручаны блін, у які папярэдне ўклала кавалачак белага духмянага здору, абсыпанага часнаком і перцам.

— Дзякую, цётка Кацярына.

— На здароўечка... Ды не баўся, а то, ведаеш, у Пабярэжжы неспакойна.

— А што там?

— Гэтыя бандзюкі вартаўніка забілі, як барана бралі. Усякае можа здарыцца... Ды Выжлятнік яшчэ... Нашы хлопцы, вунь, на вялікай дарозе пільнуюць. На конях...

— Я хуценька. Толькі падаю Мілку ды папасу трохі. Яна ж таксама галодная.

— Гані яе памалу паўз возера, то Мілка твая і пад'есць. Травы ды лазы там поўна.

Ідучы назад, да казы, толькі цяпер Надзейка ўбачыла, які цёмны, непралазны тут лес. Не дужа старыя елкі — а можа, гэта толькі здаецца? — перапляліся так, што ўтварылі суцэльную сцяну. Знізу рыжыя, сухія, яны пагрозліва тапырыліся: варта было паднесці да іх запалку і тады ўжо не пагасіў бы пажару ніяк.

Там-сям сустракаліся асіны і тоўстыя вольхі. Многія з іх былі зусім сухія, без галін, стаялі, як слупы. Чарналессе — так называў гэты лес, чула Надзейка, гаспадар хутара, чалавек вельмі прыгожы, з шырокай каштанавай барадою і разумнымі карымі вачыма. Ведала Надзейка і тое, што цягнецца гэты лес аж да ракі Бярозы. А за ракой пачыналіся балоты з маленькімі, бы карлікавымі, хвойкамі ды бярозкамі, ды высокім імхом-тарфянікам, напоеным да краёў дужа рудай вадою...

Калі павярнула ўправа, абышоўшы возера, адчула, як сцяжына пачала падымацца ўгору. Вось ужо відаць і хмызняк. Аж заспяшалася Надзейка. Гэта ж трэба — на такі час пакінула казу адну! Не людзі, дык воўк яе мог зарэзаць. Ці сабакі парваць. Ці хто мог звесці...

Чым бліжэй падыходзіла да запаветнага месца, тым неспакойней рабілася на сэрцы. Аж не стрывала, пабегла. І калі ўбачыла сваю Мілку, якая ляжала там жа, дзе і пакінула яе, так узрадавалася, быццам не бачыліся яны па крайняй меры год ці болей.

— М-м-мэ-э-э! — жаласна, нібы скардзячыся на сваю гаспадыню, сустрэла Надзейку каза. І адразу ўзнялася. Праўда, не зусім адразу. Козы наогул устаюць як бы па частках. Спачатку падымаюцца на заднія ногі, а потым ужо на пярэднія.

— Прабач, Мілачка, але ж мне дужа трэба было ісці, у мяне было вельмі важнае заданне, і я яго выканала,— аж абняла казу за шыю Надзейка.

І зноў у адказ жаласлівае «мм-м-э-э». Можа, ужо і не такое жаласлівае, хутчэй — патрабавальнае. І Надзейка ўзялася даіць Мілку. Нацуркала ў кацялок, папіла так, бо есці ўжо не хацелася: блін са здорам быў вельмі сытны. Ды і не было з чым піць тое малако: каза з'ела рэшткі сухога хлеба, з'ела так акуратна, што нават не пашкодзіла квяцістай хусткі, быццам яе хтосьці развязаў.

Калі ішлі зноў да хутара, заўважыла Надзейка, што, нягледзячы на позні час, каза не дужа дападала да травы і лазы, хоць на прыбярэжных кустах лісце было свежае і маладое. Затое яна папіла аж некалькі разоў. Значыць, хлеба таго ёй хапіла, каб пад'есці...

«Усё, вырашана — пажыву ў гэтых добрых людзей,— ужо з нейкім замілаваннем думала Надзейка,— там, напэўна, і вайна хутка скончыцца, не можа ж яна быць доўга-доўга...»

Над возерам кігікалі кнігаўкі, недзе ў тонях бясконца надрываліся жабы. Усё вакол было такое роднае, мірнае, што здавалася, і вайны ніякай няма. Але ж гэта толькі здавалася. Вось недзе наперадзе рэзка і магутна выбухнуў, нібы скалануў прастору, як падалося, снарад. За ім — другі, трэці. І адразу ўслед за тым выбухам нешта так затрашчала, загрымела, што Надзейка ажно спынілася. «Ці не на хутары гэта?» — адразу падумала, аж гарачыня кінулася ў грудзі. Углядзелася і ўбачыла, што ў тым баку, дзе быў хутар, угору падымаецца чорны дым. «Так і ёсць, гарыць хутар. І страляюць там... Мусіць, бандыт той, што ўцёк, навёў»,— зноў падумала Надзейка, не ведаючы, што рабіць далей. На ўсякі выпадак вырашыла падацца бліжэй да лесу. І добра зрабіла, бо адразу заўважыла, што за крайнімі ялінамі хаваецца на кані адзін з хлопцаў, сын Кацярыны. Гняды конь аж загнаны, увесь узмакрэлы, вялікія вочы яго гараць агнём.

Хлопец спрытна саскочыў на зямлю і падвёў да яе каня.

— Узлазь хутчэй, уцякаць будзем! — крыкнуў ён без усялякіх тлумачэнняў.

— Не пакіну Мілку! — адчуваючы нешта страшнае, адказала Надзейка.

— Сама загінеш!

— Ды я ніколі не ездзіла верхам, звалюся... А што там здарылася?

— Фашысты хутар паляць. Той бандыт навёў, не інакш...

— А дзе ўсе вашы? — у роспачы перапыніла яго Надзейка, баючыся пачуць самае страшнае.

— У лесе даўно, пайшлі на Макаўе. Па цябе вось паслалі. Чула выбухі?

— Ага.

— То ж дзверы ў хату былі замініраваны! І варыўня,

і хлеў. Шмат фашыстаў палягло там, уцякайма... А то цяпер, калі хто і пападзецца...

— Я ў лесе схаваюся...

— Давай!

— А сакратар райкома з вамі?

— Ага. Толькі ён — камсамольскі сакратар. Бывай... Кіруй паціху на Макаўе...

Усё гэта адбылося за якую хвіліну. Ужо і яздок схаваўся за елкамі, а яна стаяла як утрапёная, трымала казу і не магла крануцца з месца.

«Вось што значыць хвіліна ў ваенны час...— думала нявесела.— Усё адразу перавярнулася дагары. І яны пайшлі на тое Макаўе. А дзе яно? У якім баку? Невядома — і няма ў каго спытаць...»

Надзейка ўздыхнула і, замест таго каб хавацца ў лесе, падалася назад у хмызняк. Зловяць у гэтым чарналессі — зразумела, што хавалася. А там, у хмызняку, проста пасвіць казу...

## 6

Дзень выдаўся цёплы, малавоблачны. Надзейка сядзела пад кучаравай бярозкай, абхапіўшы калені рукамі, і глядзела, як Мілка ахвотна скубла сакавітую зялёную траву. Выпас тут дужа багаты, і каза хутка пад'ела, лягла ў цяні непадалёк.

Усё, што здарылася за гэтую ноч і палову дня, не месцілася ў галаве. А ці былі бандыты? Ці былі тыя добрыя, бясстрашныя людзі, якія самі замініравалі свой хутар, ахвяравалі ім, каб знішчыць хоць колькі ворагаў? Усё было: і бандыты, і добрыя людзі. Жылі да пары да часу мірна, ціха, ды вайна выгнала іх з уласнай хаты, пагнала. Куды ж пагнала? Вядома, змагацца з ворагам. Іншага шляху ў іх няма...

А яна вось зноў засталася адна, адна ў гэтай зменлівай калатнечы. Дзіва што! Чалавек не ведае, што з ім будзе заўтра, праз гадзіну. Не так, як да вайны. Кожны нешта меркаваў, строіў на пэўны час планы, кіраваўся імі. Цяпер жа ніхто не падуладны сабе, дзейнічае па абставінах, якія мяняюцца пастаянна. У большасці людзі, канечне, добрыя, яны — за сваю радзіму змагаюцца. Але ёсць і нягоднікі, вылюдкі, што і да вайны жылі па воўчых законах, а цяпер зусім азвярэлі. Ім мала аднае бяды — фашысцкае навалы, яны, бач, імкнуцца пасабляць ворагу,

прыслужваць. Іх, вядома, трэба знішчаць, як шалёных сабак.

Да такіх высноў Надзейка прыйшла сама. І таму наперад рашыла не дужа і не адразу давярацца людзям ва ўсім. Спачатку трэба прыгледзецца, а потым ужо раскрываць рот.

Час паступова хіліўся к вечару, а канкрэтна нічога не вырашана. Галоўнае — ісці нікуды не хацелася. Ды і боязна. Пэўна ж устрывожаныя фашысты, якія страцілі нямала сваіх ваяк, пачнуць шукаць вінаватых. Бяда, калі на іх натрапіш. Лепш прасядзець у гэтым хмызняку, далей ад дарог, ад сцяжын. А там, безумоўна, усё ўляжацца, забудзецца...

Яна дастала з кішэні нейкім цудам уцалелы сухар, размачыла яго ў малацэ і з'ела, запіваючы. Гэтага ёй хапіла. А ў дадатак, ходзячы за казою, прыкмеціла на прыгрэве буйныя чырвоныя суніцы, якраз такія, што раслі ў іх за чыгункаю. Да чаго ж яны смачныя! Салодкія, духмяныя — проста раставалі на языку.

«Улетку добра,— думалася ёй,— цёпла і можна тымсім пажывіцца. А як надыдуць халады? Дзе тады дзенешся? — І змяняла ход думак: — Да халадоў фашыстаў вытураць з нашай зямлі».

Думалася і марылася ў ахвоту.

І раптам:

— Драстуй, дзяўчо! Дзед Нупрэй цябе вітае...

Гэта прагучала так нечакана, што Надзейка аж уздрыгнула і войкнула.

— Хто тут? — яна яшчэ не бачыла за елачкай таго, хто напалохаў. Так захапілася суніцамі. А захапляцца цяпер, бач, небяспечна...

— Напужалася? Не бо-ойся, я стары і добры...

Яна і праўда ўбачыла дзядулю.

— Калі, знаеш-ведаеш, яшчэ ў першую імперыялістычну, пры цару-бацюшку Мікалаю, царсцвія яму нябеснага, супраць супастата ў бой ішоў, то цяперака ўжо слабаваты... Але, знаеш-ведаеш, яшчэ падужаемся... Як жа цябе, дзяўчо, завуць?

— Надзейка... Надзя,— паправілася.

— Харошае імя! Без надзеі, мілая, цяжка чалавеку на свеце жыць... І я вось усё жыццё надзею маю на лепшае, а яно вунь як на старасці абярнулася...

Здранцвенне прайшло, і Надзейка з цікавасцю пачала разглядаць нечаканага прышэльца. Гэта быў невысокі ху-

дарлявы дзядок, без шапкі, даўно не голены, з торбай за плячыма. Надзейцы здалося, што шчацінне на галаве і на твары аднолькавае — сівое, рэдкае. Лоб у дзеда маршчыністы, але такі загарэлы, што здаваўся брудным. Блакітныя вочы, маленькія і ясныя, глядзелі, бы ў маладога. Апрануты — як і большасць вясковых людзей у той час: кашуля вайсковая, новенькая, а штаны звычайныя, картовыя, запраўленыя зноў жа ў вайсковыя кірзавыя боты, якія пабывалі ўжо, відаць, не на адных нагах.

— Так вот што я табе скажу, Надзейка... Адкуль ты і што тут робіш — не пытаюся, але раю бегчы як мага дадому і сядзець там, бы мыш у падполлі...

— А чаму ж гэта? — Так спытаць прымусіла яе нейкая цікавасць — а што ж новае скажа ёй гэты Нупрэй.

— А таму, што ў свеце атрымаўся вялікі перапалох. У Пабярэжжа, бач, немец прыехаў. Аж трыццаць штыкоў...

— У аднаго немца — трыццаць штыкоў? — цяпер ужо жартаўліва спытала Надзейка.

— Немец — ён і ёсць немец,— у сваю чаргу адказаў стары.— Дык гэта... Заначаваў. Старасту назначыў, загадаў яму мяса для сябе нарыхтаваць. А ноччу нейкія зламыснікі былі, барана прырэзалі, а заадно — і вартаўніка...

— Я чула пра гэта...

— Бач ты-ы! — здзівіўся Нупрэй.— Ды не яно галоўнае. Адзін з іх учора да немца прыбег, на хутар ля возера навёў, нейкі вялікі начальнік там хаваўся...

— І гэта ведаю...

— Бач ты-ы-ы! — аж усклікнуў няўдачлівы апавядальнік.— То, можа, ведаеш, што з хутара яны не ўсе вярнуліся? Амаль палову там пакінулі...

— Вось гэтага ўжо не ведаю...

— Дужа разгневаўся немец... Капут, значыцца, палучыўся. Вось і лютуе. Маладыя дык тыя па лясах ды балотах пахаваліся, а старых, бач, не чапае пакуль, паганец, каб на яго здыхата напала... Вось таму, Надзейка, і раю я табе — бяжы дамоў...

— Няма ў мяне дома, дзядуля,— цяжка ўздыхнула Надзейка.— Адна я вось... з казою.

— Ай-я-яй,— пакруціў галавою стары.— А як жа ты тут апынулася?

— Ішла, ішла і апынулася...

— А куды хоць ішла — ведаеш?

— Ведаю. Спачатку, як нашу хату разбамбілі і я за-

сталася адна, думала, дзе на поезд сяду ды да цёткі паеду, а потым пеша, думала, дабяруся...

— Э-эх-х-хе-хе, дзялы-ы твае, дзялы-ы,— уздыхнуў дзед Нупрэй.— А дзе ж хоць цётка твая жыве, мая ты сіраціначка-быліначка? Далёка?

— Пад Масквою...

— У-у-у-у! — працягнуў дзед.— Тую Маскву, кажуць, ужо немец забраў.

— Няпраўда! — нахмурылася Надзейка.— Да Масквы фашысты ніколі не дойдуць.

— Каб ён ногі паламаў! Каб яму тры скулы і дзве трасцы ў бок ды яшчэ гэтулькі ў спіну! Каб яму...— Стары праклінаў фашыстаў на розныя лады, прыгадваючы ўсё новыя і новыя хваробы і балячкі. Але ж ад гэтага нікому — ні дзеду, ні ёй — не стала лягчэй.— Параіў бы я табе, дзяўчо, знаеш-ведаеш, у Макаўе прабірацца,— дзед Нупрэй пасур'ёзнеў.

— А што гэта такое — Макаўе?

— Вёска такая ёсць...

«Чым тое Макаўе знакамітае, што і дзед туды ісці раіць?» — падумала Надзейка, а сама спытала:

— А вы куды ідзяце?

Стары ўсміхнуўся, пакруціў галавою:

— То, Надзейка, знаеш-ведаеш, ваенная тайна...

— А ці далёка да Макаўя?

— Вёрст дваццаць...— падумаў, памыліў губамі і дадаў: — З добрым гакам...

— Не дайду я...— Надзейка так сказала таму, што ёй дужа не хацелася заставацца адной.

Дзед Нупрэй адразу зразумеў гэта, бо зноў задумаўся на момант, потым махнуў кароткай рукою, як адсек:

— Тады — пайшлі разам, зручней будзе. Вось толькі, знаеш-ведаеш, каза...

— Яна прывыкла, ходзіць вельмі хутка! — не дала дагаварыць яму Надзейка.— Вы, пэўна, таксама ў Макаўе ідзяце? А што там?

— Там, дзяўчо, Савецкая ўлада — от што! Усе добрыя людзі са зброяй у руках там збіраюцца, супраць супастата ентага ваяваць...

Ад гэтых слоў пацяплела на сэрцы ў Надзейкі. От жыў бы яе татка! Ён таксама пайшоў бы ў Макаўе...

— А можа, і каза службу саслужыць? — парушыў ход яе думак стары.— Поўсць на ёй — бачыш, якая доўгая? Ледзь не да зямлі, добрая схованка...

— Дзяду-уля, пойдзем разам,— узмалілася Надзейка.— У мяне там, у Макаўі, нават знаёмыя ёсць.

— Вось тут ты ўжо хлусіш... То казала, што не ведаеш нічога пра Макаўе, то — знаёмыя. Хлусіш...

— Чэснае піянерскае — не!

Як даўно яна не гаварыла гэтыя словы! Надзейцы здавалася — гады, хоць мінула ад пачатку вайны якіх два тыдні.

— А хто ж?— мабыць, яшчэ не зусім паверыўшы, зацікаўлена спытаў Нупрэй.

— Сакратар райкома камсамола Пятро Рыгоравіч...

Пасля гэтых слоў старога бы падмянілі, ён пасвятлеў у твары, вочы засвяціліся цёплай усмешкай.

— А і праўдачка, далібог, праўдачка! Туды ён скіраваў сёння. Чакай, чакай...— Дзед Нупрэй глянуў на Надзейку так, нібы ўбачыў толькі што, патупаў на месцы, абышоў яе вакол.— Ці не ты гэта папярэдзіла яго, што рыхтуецца напад бандытаў?

— Я...

— Ну, тады, знаеш-ведаеш, здаюся! Тады — пайшлі разам, бо якраз яму, Петраку, я і нясу загад...

— Вось гэта ўжо цікава! Я, ведаеце, была на хутары ўчора, Рыгоравіч ужо амаль здаровы.

— Ён — жывучы-ы! Бандыт душыў, куля забівала...

Стары ямчэй ускінуў сваю торбу з харчам на плячо і патупаў паперадзе, а Надзейка з казою, якая везла на сабе зялёны палітончык і кацялок,— следам. Ішоў дзед не дужа хутка, грукаў ботамі, угнуўшы старэчую спіну, так што спраўляцца за ім было вельмі лёгка. Надзейка заўважыла — дзядуля выбірае шляхі закрытыя, на палявую дарогу не выходзіць. Гэта, бадай, таму, што паблізу быў гарнізон: да Пабярэжжа не больш як тры кіламетры. А можа, праз той таямнічы загад, што нясе Пятру Рыгоравічу... Загад. «Цікава, ад каго ён?» — падумала Надзейка.

Надвор'е паступова мянялася. З захаду падзьмуў прахладны вецер, па небе папаўзлі, хоць яшчэ і не вялікія, чорныя хмары. З часам яны большалі, набіралі сілу. Недзе ўжо чуліся грымоты.

— Толькі гэтага і не хапала! — сам сабе буркнуў дзед Нупрэй. Ён спыніўся, задраў белую галаву ўгору, пакруціў ёю.— Нарве-ткі дажджу... Але мы да Леснічоўкі дойдзем, паспеем,— і зноў рушыў у дарогу.

У лесе Надзейка заўсёды адчувала сябе смялей, спа-

кайней. Дрэвы, як добрыя людзі, здавалася ёй, ахоўвалі ад ветру, ад сцюжы, ад нядобрага вока. Лес, яна чула, немцы стараюцца абмінуць, аб'ехаць. Вось чаму, калі лес раптам скончыўся і перад імі адкрылася далёкае бульбяное поле, сярод якога стужкай вілася дарога, яна з трывогай спытала:

— Цяпер полем пойдзем?

Спыніўшыся, дзед Нупрэй сказаў:

— Можна і не полем. Толькі гэта да Лесвічоўкі, знаеш-ведаеш, вярсты на дзве болей.

— Усяго?

— З гакам, бадай...

Дзедавы дзве вярсты ды яшчэ з гакам, яна здагадвалася, будуць не меней, як тры-чатыры кіламетры, але сказала «ўсяго» так, каб не ісці полем. Нібы прадчувала якую бяду, дужа ж ужо змрочным здалося ёй бульбяное поле.

— Пойдзем лесам...

— Ну, калі ўжо ты так хочаш, то пойдзем...

Яны звярнулі ўправа і доўга ішлі ўзлессем. Дарога вяла ўніз, да крутога яра, парослага кустоўем, рэдкімі дрэвамі. На дне гэтага яра пабліскваў невялікі ручай. Спусціліся да ручая і вырашылі трохі адпачыць.

— Я зараз казу пацуркаю,— дзелавіта сказала Надзейка, сказала так, як колісь гаварыла маці,— не падаю, а пацуркаю. І ўздыхнула:

— З гэтай скацінкаю нідзе не прападзеш, заўсягды хоць трохі ды накорміць...

Дзед Нупрэй прымасціўся каля шырокага дубовага пня, паклаў на яго сваю торбу і дастаў з яе ладны кавалак бялюткага сала з ружовымі праслойкамі, такі апетытны, што Надзейцы, калі яна зірнула на тое сала, ледзь млосна не стала. І хлеб у торбе быў адметны, сялянскі, на кляновым лісці, паўбохана — кіло тры! Зверху аж бліскучы...

Калі Надзейка падаіла казу і паднесла старому ў кацялку малако, той скрывіўся.

— От каровіна люблю, а ад гэтага чорта рагатага не каштаваў ні разу.

— Дужа смачнае...

— Няўжо? — з недаверам спытаў дзед Нупрэй, не ведаючы, браць яму кацялок ці не.

— Вы толькі пакаштуйце — спадабаецца,— угаворвала яго Надзейка, назіраючы, як стары на дзве роўныя скібкі

накладае тонка нарэзанае нейкім аскабалкам нажа сала.

— Хіба апасля зап'ю... На от лепш, трымай. Гэта, знаеш-ведаеш, трывалей у дарозе.

— Дзякуй...

— З'еш, бяжы ды падскакуй! — ухмыльнуўся стары свайму жарту.— А то, як кажуць, па малаку ног не павалаку...

А потым Надзейка, ледзь стрымліваючы смех, назірала, як дзед Нупрэй падбіраўся да казінага малака. Спачатку ён доўга ўглядаўся ў кацялок, нахіляў яго то ў адзін, то ў другі бок, глядзеў на сценкі і прыцмокваў языком.

— Тлустае, бач ты,— сказаў сам сабе, але ўголас.

Потым панюхаў, прыклаў кацялок да губ і асцярожна, быццам там была якая атрута, пачаў нахіляць. Узяў кроплю на губы, аблізаў іх, потым яшчэ раз. І раптам глынуў. І ўжо болей не адымаў кацялка, пакуль не напіўся.

— Праўда, смачнае...— працягнуў ён кацялок.— Ледзь не ўсё і выпіў...

— Піце, увечары яшчэ трохі будзе...

— Не, дос...

Паелі, спакваля сабраліся, толькі ўжо наважыліся ісці, як раптам над ярам жахнула маланка, і, здалося, ад грому раскалолася неба і здрыганулася зямля. Адна, другая кропля гучна ўпалі на ваду, зашамацелі па сухім леташнім лісці.

— Хутчэй унь туды! — скамандаваў дзед Нупрэй і, схапіўшы сваю торбу, першы пашыбаваў да адзінай елкі, што віднелася між рэдзенькіх кволых бярозак і ляшчэўніку. Яна быццам і вырасла тут спецыяльна для іх, густая, разлапістая, высокая. І хоць ужо лінуў споры дождж, яны стаялі бы пад дахам,— ніводная кропля не прабівалася праз гушчыню лапак, вада скатвалася на канцы іх, сцякала на траву.

Адна Мілка не хавалася. Яна стаяла пад ліўнем з абыякавым выглядам, зрэдку трэсла галавою, атрасаючы ваду, і здзіўлена глядзела на дзеда Нупрэя і Надзейку, нібы пыталася: «Ну, чаго вы пахаваліся там? Хіба не прыемна асвяжыцца пад цёплым дажджом?»

— От слухай — ды ўважліва,— што я табе скажу,— пачаў гаворку дзед Нупрэй.— У торбе ёсць ладны акраец засушанага хлеба. У ім і захаваны падарунак Пецю... Пятру Рыгоравічу,— паправіўся ён.— Сакрэтнае пасланне. Той акраец трэба берагчы, каб не размяк...

— А навошта вы мне гэта гаворыце?

— Цяпер, знаеш-ведаеш, да ўсяго, як той піянер, будзь гатоў. Мала што можа здарыцца ў дарозе... Заданне дужа адказнае, ад яго многае залежыць...

Надзейцы і самой хацелася дазнацца, што ж было ў тым сухім хлебе, але пытаць — вырашыла — не варта. Трэба будзе — стары сам скажа.

Дождж спакваля ціпэў, грымоты адступілі за яр, і неўзабаве дзед і яна крочылі ўздоўж ручая па мокрай траве. Перасеклі невялікі лужок і зноў апынуліся ў лесе. Ды ісці лесам цяпер было не цікава: з дрэў і кустоў капала, і неўзабаве яны добра-ткі намоклі.

Мілка так прызвычаілася да хады, што паспявала нават скубнуць дзе травы, дзе лісця, адставала і зноў нагапяла Надзейку з дзедам, якога ніколькі не баялася, адразу прыняла за свайго, ні разу не тупнуўшы, як бывала перад іншымі людзьмі, тонкімі ножкамі.

Дождж затрымаў іх у дарозе, і таму дабраліся да Лесічоўкі толькі прыцемкам. Як даведалася Надзейка, Лесічоўкай называлася невялікая вёска, на пяць хат, што стаяла літаральна сярод лесу. Абапал яе цягнуліся палеткі, дзе раслі жыта, грэчка, бульба,— усё, што можа расці на пяску.

У крайняй хаціне, куды адразу скіраваў дзед Нупрэй, ужо запальвалі на комінку смоль: газу эканомілі надалей, для незвычайных выпадкаў і свят.

— Нешта сёння ў вас не замкнёна,— адразу звярнуўся да гаспадыні без усякага прывітання дзед Нупрэй. Жанчына, што распальвала смоль, адказала:

— Заходзьце, заходзьце, тут і так поўна...

Не паспелі яны разглядзецца, як насустрач ім, на вялікае здзіўленне Надзейцы, выйшлі тры чырвонаармейцы пры поўнай форме і ўзбраенні. Нашы байцы! Асабліва ўразілі не нацэленыя вінтоўкі і аўтамат, як чырвоныя зорачкі на пілотках. Нават ад цьмянага святла на комінку яны быццам гарэлі.

— Адставіць! — пачулася з кута хаты каманда.

Гэта, як выявілася, была група чырвонаармейцаў, якая не паспела адступіць і апынулася ў варожым тыле.

Чырвонаармейцы адышлі на свае месцы, бліжэй да стала, а старога пачаў дапытваць маладзенькі лейтэнант. Між імі адбылася такая размова.

— Хто такі? — стараючыся надаць голасу строгасці, пытаўся вайсковец.

— Нупрэй Пратасеня... А што?

— Адкуль ідзеш?
— Іду з Пабярэжжа... А што?
— Куда?
— Туда! — у тон яму як бы перадражніў дзед Нупрэй, якому, відаць, надакучыла адказваць.
— А-а-адставіць! Што яшчэ за жарты?
— А я і не жартую. Усё яму раскажы — куда... Можа, гэта ваенная тайна. Вельмі многа на сябе бярэш, ваяка! — аж зазлаваў стары.— Яшчэ невядома, хто сам...
— Свае яны, свае...— гэта сказала гаспадыня хаты, даволі сталая, з сівізною на скронях, высокая і хударлявая жанчына. Апрача яе ля комінка з'явілася яшчэ адна, вельмі падобная да гаспадыні, але старэйшая, відаць, сястра.
— Адкуль, Насця, ведаеш, што свае? Дакументы ў іх хіба правярала?
Па гэтай размове Надзейка зразумела, што дзед Нупрэй знаёмы з гаспадыняй.
— Параненыя унь... І ў суседзяў поўна.
Стары палагаднеў і ўсё расказаў лейтэнанту, утаіўшы, аднак, тое, што ідзе ў Макаўе па заданні. Сказаў — унучку з казой да сына вядзе. Ад яго і адчапіліся.
А пасля, калі сталіся ў хляве на духмяным сене, ён бясконца бурчаў:
— Не падабаецца мне гэтая інфанцерыя, ні аховы, ні заслонаў. Напорацца супастаты — як сляпых курэй пераловяць. Ды яшчэ параненыя... Ішлі б у Макаўе на папаўненне. А то, чаго добрага, уліпнеш з імі ў гісторыю... Камандзір у іх — блазнюк, малако на губах не абсохла...
Пад гэтае дзедава бурчанне Надзейка і заснула.

## 7

Дзед Нупрэй як у ваду глядзеў, калі выказваў сваё нездавальненне «інфанцерыяй» — групай пехацінцаў, што адбіліся ад часці і засталіся ў варожым тыле.
Забраўшы ў вяскоўцаў двух коней з калёсамі для параненых, яны пакінулі вёску яшчэ досвіткам. Рушылі на ўсход па добра наезджанай дарозе, спадзеючыся, відаць, прабіцца да сваіх, бо, як сказаў лейтэнант, іх няйначай палічаць дэзерцірамі. Яны яшчэ спадзяваліся на сваю сілу — сорак штыкоў, два кулямёты і некалькі аўтаматаў з круглымі дыскамі...
Рушылі досвіткам...

А ўжо праз якую гадзіну да Леснічоўкі даляцела водгулле кароткага зацятага бою...

— Ішлі б яны ў Макаўе,— паківаў галавою стары, услухоўваючыся ў далёкую страляніну.— Загінуць усе, як мухі ў сыроватцы. І нам цяпер трэба далей адгэтуль, а то яшчэ, чаго добрага, наляцяць супастаты...

І гэта была чыстая праўда. Аднак пакуль памыліся, паснедалі — а дзед гэтую справу зацягнуў,— абапал невялічкай вёскі Леснічоўкі загулі-зараўлі маторы.

— А божачка, а што ж цяпер з намі будзе? — заляманталі жанчыны, не забываючы пры гэтым схаваць тое-сёе з дабра пад падлогу, дзе была яма для бульбы-насенкі.

Нагналі-ткі страху нават Надзейцы.

— Пайшлі-і, дзеду, пайшлі-і-і,— цягнула яна старога за рукаў, але той нібыта аглух. Сядзеў ля стала з місаю бурачнага варыва, якое не даеў, і маўчаў.

— Куды там, позна,— выціраючы аб руды фартух рукі, сказала цётка Насця і да Надзейкі: — Спытаюць хто — будзеш маёй пляменніцай. Старому баяцца няма чаго, ён і сапраўды мой дзевер, яго тут кожан ведае...

Калі машыны зараўлі зусім блізка, Надзейка ад страху залезла на печ і адтуль ваўчком пазірала на вокны.

Нейкі немец, які крыху гаварыў па-руску, забягаў на двары і крычаў:

— Всем домой сидеть!.. Всем домой сидеть...

Недзе, чуваць было, зазвінела, пасыпалася шкло. А вось ляпнулі і іхнія дзверы, загрукалі па падлозе каваныя жалезам боты.

— Русь зольдат ест? Русь зольдат...

Гэта гаварыў высокі, у акулярах, афіцэр. Трое радавых пачалі пераварочваць усё ў хаце, зазірнулі нават пад печ і ў вялізны куфэрак. Адзін з іх — Надзейка запомніла яго твар на ўсё жыццё! — заглянуў і на печ. Рудавалосы, рабы, з рэдкімі жоўтымі зубамі. Надзейка сустрэлася вачыма з яго позіркам і не спалохалася.

— Нікс русь зольдат,— чамусьці вясёлым тонам сказала немцу. Сэнс слова «нікс» яна ведала — вучыла нямецкую мову ў школе,— і немец нават усміхнуўся і сказаў «гут», пакінуўшы яе.

А ў гэты час іншыя абшуквалі хлеў, варыўню, склеп. Перапалоханая каза бегала па двары і трывожна мэкала: яе лавілі.

— Хворая яна, хворая... У поле, бач, не пайшла,— па-

чула Надзейка цётчын голас на дварэ.— Як жа будзе павашаму — хворая, трасца вашай матары...

— Кранк! — раўнуў з будыніны дзед Нупрэй, аж напалохаў фашыстаў.— Дас іст каза кранк! — выказваў ён да канца свае веды яшчэ з першай «імперылістычнай», і гэта, бадай, выратавала няшчасную Мілку: на яе махнулі рукой. Затое разам з фашыстамі з двара ў машыне паехаў ладны застрэлены падсвінак.

— Які з яго наедак, каб вас пранцы елі! — крычала ўслед цётка Насця, але чырванатварыя рабаўнікі толькі ўсміхаліся. Яны «гаспадарылі» на свой лад.

Дзед Нупрэй так і прасядзеў за сталом ля свайго незакончанага сняданка. Калі ўсё зноў аціхла, ён павярнуўся і сказаў Надзейцы:

— Злязай з печы, бяда мінавала. Але сёння, дзяўчо, нікуды не пойдзем. Сама бачыш, што робіцца...

Надзейка вельмі ўзрадавалася, бо, як думалася ёй, у дарозе больш небяспечна, чым у вёсцы, там могуць абшукаць, знайсці ў сухім хлебе тое, дзеля чаго дзед Нупрэй робіць такі вялікі пераход.

— Наогул заставайся ў мяне, пакуль калатнеча скончыцца,— сказала гаспадыня.— Да Спірыдона унь двух хлопцаў прыстроілі —і жывуць, добра ім там...

— Якіх хлопцаў, адкуль? — пацікавілася Надзейка.

— А хто ж цяпер скажа — адкуль ён ды чый. Значыцца, так трэба, калі пакінулі...

— Цяпер, Надзейка, людзі распаўзліся па зямлі — хто куды, да пары да часу,— уставіў дзед.

— Хто ведае, ці давядзецца зноў жыць так, як раней. І ці збяруцца тыя людзі зноў разам,— бедавала цётка Насця.

— Збяруцца, от пабачыце! — Нібы яна ведала больш, як іншыя, запэўніла кабету Надзейка.

— Дай жа бог... А то от наляцелі, бы саранча, людзей абрабавалі...

Падзея гэтая ўстрывожыла вёску, якая ўпершыню ўбачыла «заваёўнікаў». Людзі гаманілі прыцішана, баючыся нават адзін аднаго, але тое, што пачула Надзейка праз колькі часу на дварэ, пераканала яе ў галоўным: людзі не скарацца захопнікам. Жывёлу, хлеб адабраць можна, а волю — ні за што! Без волі жыць нельга, бо жыццё тое стане пякельным. Цяпер жа трэба жыць, каб змагацца. Так, бывала, гаварыў яе тата...

У Надзейкі ж цяпер быў толькі адзін клопат — на-

карміць Мілку. Выходзіць з вёскі ёй не дазволілі, сказалі, каб пасвіла каля платоў, ля гародаў. Ды Мілка прывыкла ўжо хадзіць на значныя адлегласці, цягнула Надзейку ў канец гародаў, шукаючы любімыя сакавітыя лісцікі лазы.

Дзяўчынка заўважыла, што на лужку за платамі, на якім між лазняку і бярозак стаяла старая, пахілая ад веку будыніна, можна даволі хутка накарміць казу. «Ат, недалёка, павяду туды»,— падумала яна і абкруціла стужку вакол казінай шыі,— пусціла. Адчуўшы волю, Мілка — вось якая разумніца! — адразу ледзь не подбегам кінулася на лужок, пачала хуценька абскубваць дубцы.

Надзейка прыхінулася плечуком да бярозкі і з цікаўнасцю пазірала навокал. У сваім зялёным палітончыку, з квяцістай хусткай на галаве, яна нібы злілася з прыродай, бы стала адным з кусцікаў, што раслі тут. Дзяўчынка аддалася марам. Спярша ёй хацелася стаць матылём, каб усюды лётаць, усё бачыць. Ды матыля, падумалася, можа з'есці нават верабей. От ім, вераб'ём, трэба і стаць... Ды дзе там! Ужо даўно заўважыла далёка над лесам малую кропачку. Тая кропачка паступова расла і вырасла ў макрутнага, з шырокімі крыламі, каршуна. Распасцершы крылы, ён нібы павіс у паветры, зрабіў круг, другі і раптам каменем рынуўся ўніз...

«Вось і канец табе, верабейка! — падумалася ёй.— Трэба зрабіцца...»

Яе мары перапынілі нейкія невыразныя посвіст і шоргат, што даносіліся з напалову разбуранай будыніны, відаць, закінутай лазні. Надзейка насцярожылася, аж прысела, каб з-за куста, які рос за бярозкай, яе не было відаць. Вось шыпенне скончылася, і яна, не верачы яшчэ вушам, пачула ціхі-ціхі, але выразны, такі знаёмы голас: «Говорит Москва... Передаем краткую сводку новостей...»

Гаворыць Масква! Ужо аднаго гэтага было дастаткова. Надзейка верыла, што Масква — наша, і не памылілася. «Трэба сказаць дзеду Нупрэю!» — падумала і забылася на асцярожнасць, міжволі падалася крыху бліжэй. Потым — яшчэ і яшчэ. Вось і будыніна. Прыпала вухам да тоўстага яловага бервяна, і ёй падалося, што гаворыць само бервяно: яно гучала ўсюды аднолькава: «вели тяжелые бои с противником. В ходе боев уничтожено...» Тут пайшоў пералік танкаў, самалётаў, гармат...

— Ага, папалася! Стой, казіная пастушка! — раптам хтосьці моцна схапіў за руку. Яна ўскрыкнула і ўбачыла дужага высокага хлопца з рыжымі, аж чырвонымі, вала-

самі.— Шпіёніш? Я даўно за табой сачу... Мікола,— паклікаў ён кагосьці,— давай сюды...

— Пусці-і-і, не шпіёню я,— пачала вырывацца Надзейка.— Гэта вы са сваім Міколам не вельмі што канспіратары...

— Трэба казаць — канспіратары,— націснуў рыжы на літару «і», усё ж не выпускаючы яе рукі.

І раптам:

— Пусці яе, Федзя...

Надзейка крутнулася на гэты голас і аж ускрыкнула:

— Ой, Коля! Коленька-а-а...

— Дзень добры, Надзейка.

Федзя выпусціў Надзейчыну руку і патузаў сябе за ўзбіты чырвоны чуб. Пры гэтым тоўсты кірпаты нос яго, здавалася, яшчэ больш задраўся ўгору, а малыя сінія вочы акругліліся.

— Вось дык гісторыя! — сказаў ён здзіўлена.— Гэта тая Надзейка, пра якую ты расказваў?

«Расказваў? Значыць, помніў...» — з радасцю падумала дзяўчынка, назіраючы, як паступова чырванее Колеў твар.

— Тая, тая...— перамогшы сарамлівасць, высокі чарнявы хлопец ступіў два крокі да Надзейкі і працягнуў руку.— Ну, вось і сустрэліся... Пасля таго як апошні раз у нашым піянерлагеры бачыліся... Памятаеш, мы яшчэ...

Надзейка, не вымаючы сваёй рукі з Колевай і не адрываючы вачэй ад смуглявага добрага твару, перапыніла:

— Памятаю... Я не так даўно нават сніла наш лагер. І цябе...

— Сон у руку! — умяшаўся Федзя.— Дык чаго мы тут стаім? Пайшлі ў наш арсенал...

У старой лазні больш нікога не было. Тоўстыя, пачарнелыя ад куродыму лавы, разбураная каменная печ, рассыпаны цэбар — усё гэта надавала будыніне змрочны, калі не жудасны, выгляд.

Яна зжахнулася.

— Не бойся, Надзейка, сюды нават фрыцы не заглянулі,— заўважыўшы збянтэжанасць на яе твары, падбадзёрыў Мікола.— Расказвай — як апынулася тут?

— А ты?

— О, гэта вельмі проста! Мой жа бацька — старшыня сельсавета, не сядзець жа ды чакаць, пакуль схопяць. Эвакуіраваліся... А фашысты нас апярэдзілі. Бацька, сама ведаеш, там, дзе трэба, маці тут.— Мікола дастаў з кішэні

пінжака хусцінку — ён заўсёды быў вельмі акуратны — і паслаў на лаву.— Садзіся...

Яна села.

— А дзе вы з Федзем былі, як немцы наехалі?

— Тут і былі...

— А калі б яны зазірнулі?

— То нічога не ўбачылі б! У нас тут сапраўднае падзямелле... Маскіровачка...

Надзейка зірнула на яго даволі прыстойны яшчэ касцюм і пакруціла галавою:

— Дрэнная маскіровачка... Трэба ў сялянскае адзявацца, а то адразу відаць — не тутэйшы.

— Я гэта разумею,— згадзіўся Коля,— але адкуль што возьмеш, калі нашых аднагодкаў тут нікога няма.

— А дзе ж ваш прыёмнік? — азірнулася, пераявяла размову на іншае.

Мікола развёў рукі ў бакі, сказаў загадкава:

— Усюды і нідзе... Вось знайдзі!

Невялікі самаробны прыёмнік быў уманціраваны ў тое тоўстае яловае бервяно, да якога Надзейка прыкладала вуха. І так лоўка замаскіраваны, што, не ведаючы — дзе ён, ніколі не знойдзеш.

— Чуваць, як у гітары,— сказаў Федзя і ўсміхнуўся ёй, паказаўшы два рады надзвычай шырокіх белых зубоў.

— Слухала вашу гітару...

— То вы тут пагаварыце, а я падзяжуру,— перахапіў даволі выразны Міколаў позірк, сказаў Федзя і выйшаў.

Яны засталіся адны і ніяк не маглі пачаць гаворку. Нешта нібы замінала ім.

— От толькі для ўзмацняльніка батарэі патрэбны, бо гэтыя ўжо зусім слабыя... А прыёмнік у нас дэтэктарны. Антэну бачыла? Не? І не ўбачыш, яна далекавата адгэтуль, аж на елцы.— Мікола ўздыхнуў і ціхэй дадаў: — А ўвогуле — нядоўга мы тут будзем.

— Чаму? — жадаючы пачуць нешта незвычайнае, спытала Надзейка.— Спірыдон прагоніць?

— Ты і гэта ведаеш, дзе мы з Федзем...

— Сарока на хвасце прынесла...— Надзейка раптам устала, абтрэсла хусцінку і падала яе Міколу.— От скажы, чаму мы сустрэліся? Вось тут, іменна — тут! Маглі б і разысціся...

— Не маглі б.

— Чаму?

— А таму, што ўсе дарогі цяпер сыходзяцца тут: Леснічоўка — Макаўе. Леснічоўка — гэта як бы пераваланчы пункт, цяпер разумееш?

— Здагадвалася. У Макаўі твой бацька? — узняла на Міколку свае сінія вочы Надзейка.— Кажы, не бойся.

— А ты, бачу, смелая стала...

— Раней, у школе, і вочы баялася на цябе ўзняць?.. Чаго глядзіш на мяне?

— Бо так падумаў...

— Акурат, як у сне...— Надзейка ўздыхнула і ціха дадала: — Цябе от убачыла... А татку свайго... я ўжо больш не ўбачу... Ад нашай хаты засталася толькі яміна. Вялізная яміна. А жывыя — толькі я ды каза... Яна і ўратавала мяне ад смерці... А навошта жыць? — узняла яна на Міколку поўныя слёз вочы.

— Жыць, каб змагацца! — не даў ёй зусім расплакацца Мікола.— Нас з Федзем тата хутка забярэ. Як толькі яны там згуртуюцца, створаць пастаянную базу, узброяцца...— Ён ступіў да яе, узяў за плечы рукамі, шчыра зазірнуў у вочы.— І цябе забяром з сабою, Надзейка, я не пакіну цябе...

— Мы з дзедам Нупрэем пойдзем у Макаўе раней за вас,— сказала яна ўзрушана: ад Міколавых слоў у душы запанавала цёплая лагода.— У нас — заданне.

— А без цябе ён не пойдзе, той Нупрэй? — пасуравеў Мікола.— А то зноў згубімся...

— Не-е! — адказала яна адразу на два пытанні.— Я цябе ўсюды знайду. Дарога ж у нас адна — сам казаў...

Знадворку пачулася:

— А цішэй вы не можаце?

— Для цябе і гаворым, рыжык...

— А Федзя адкуль? — кіўнула Надзейка на дзверы.

— Ён — сын камандзіра Лутохіна, чула пра такога?

— Не.

— Яго бацька добра даў фашыстам на пераправе праз Бярозу. І галоўнае — увесь свой полк вывеў. А вось Федзька застаўся, бо машыну, на якой ён ехаў, разбамбілі.

— І яго не параніла нават?

— Уяві сабе — хоць бы драпіна! Шчаслівчык!

— А маці яго дзе?

— Далёка, недзе аж за Масквою...

— Шчаслівчык,— уздыхнула Надзейка.— Ну, то я пайду, зірну, дзе там Мілка ходзіць...

Яны выйшлі ў час, бо Надзейку ўжо шукалі абедаць. Цётка Насця аж зазлавала, калі Надзейка падышла да яе.

— Я ж табе казала: з вёскі не адыходзіцца...

— А дзе казу пасвіць? Там лаза...

— Бач — лаза,— нядобра бліснула яна на хлапцоў.— Хутка ж ты пазнаёмілася.

— Мы з Міколам, унь тым, чарнявым,— паказала Надзейка,— вучыліся ў адной школе.

— Бач ты-ы! — памякчэў цётчын голас.— Ну, то пагаманіце сабе трошкі, я ж не ведала. Толькі не дужа баўся, а то абед астыне...

Калі цётка пайшла, Надзейка кінулася шукаць казу, а яе і след прастыў. Нідзе не было: ні ў лазе, ні на мураве. Аж захвалявалася Надзейка і пачала клікаць, бо ведала, што на голас каза адгукаецца:

— Мілка-а, Мілка-а-а, дзе ты-ы?

У адказ задаволенае:

— М-м-мэ-э-э...

— Кажа, што ў аўсе яна! — засмяяўся Федзя.— Яна ў цябе не дурная, разбіраецца, што лепей...

Клін аўса за лужком быў густы, высокі, і каза схавалася ў збажыне так, што не відаць.

— Не трэба, патопчаце чужы авёс! — супыніла хлапцоў Надзейка.— Яна і сама выйдзе...

Хлопцы спыніліся.

— Ну, кліч яшчэ,— сказаў Федзя.

Каза выйшла, неяк вінавата, бачком падабралася да Надзейкі і пачала церціся, нібы той кот, аб яе палітончык.

— Пабягу я, а то пападзе яшчэ,— заспяшалася Надзейка і, адбегшыся, памахала рукою. Угледзела самотны Міколаў твар, і сэрца яе сціснулася ад жалю, ад расстання, бо ведала, што цяпер, у вайну, наперад нічога не ўгадаеш, усё можа змяніцца раптоўна...

8

«Чаму яны жывуць толькі ўдзвюх, гэтыя Матруна і Насця, чаму ў іх больш нікога няма — ні мужоў, ні дзяцей?» — думала Надзейка, з апетытам налягаючы на бульбу з мачанкай, якую заўсёды любіла. Яшчэ ёй думалася, што гэтыя дзве старыя жанчыны хаваюць нейкую таямніцу, бо часта перашэптваюцца, уздыхаюць...

І яна не памылілася. Неяк сярод ночы ёй надта захацелася піць. «Сала дужа салёнае было»,— успомніла яна і

ўжо хацела спусціцца з печы, дзе спала, як пачула, што ў сенцы зайшло адразу некалькі чалавек. Старэйшая, цётка Матруна, запаліла газнічку, выйшла, не прыкрыўшы за сабою дзвярэй.

— Добрай ночы, мамка,— выразна пачула Надзейка, бо печ была ля самых дзвярэй.— Прымай гасцей...

— Колькі ж вас тут?

— Пяцёра...

— Ой, Пиліп, баюся я нешта...

— Усе свае тут, няма чаго баяцца,— пачуўся басавіты голас, і Надзейцы здалося, што недзе ўжо чула яго. Потым яна толькі здагадвалася — гаспадыня частавала начных гасцей хлебам, салам, малаком.

— Завяду гэту групу да бацькі — і ўсё, больш не буду сюды прыходзіць. Ты ўсім так і кажы — у арміі сын,— зноў загаварыў Піліп.

— А Насціны хлопцы дзе цяпер? — амаль на шэпт перайшла Матруна, бо Насця не ўставала з ложка, спала.

— Яны ў Пятра Рыгоравіча падрыўнікамі...

— Ой, божачка, божачка, самі яшчэ падарвуцца, маладыя дужа, гарачыя...

— Ну, канчай, кораш, вядзі нас да бацькі, а то скора і світаць пачне,— зноў загугнявіў бас, і Надзейка ледзь не ўскрыкнула ад гэтага голасу.

«Кораш... Так гаварыў бандыт Выжлятнік... Ён уцёк, навёў немцаў. Цяпер з нашымі... Яго тут, відаць, ніхто не ведае...»

Думкі наплывалі чарадою, адна за адну страшнейшая. З усяго пачутага Надзейка — хіба ж яна маленькая? — зразумела, што сыны гэтых дзвюх жанчын з бацькамі змагаюцца з ворагам тут, што двое з іх у сакратара райкома камсамола Пятра Рыгоравіча. Усім ім пагражае небяспека: Выжлятнік ніколі не стане чалавекам! Што ж рабіць? Як папярэдзіць Піліпа? Устаць ды паказацца на вочы — пазнае, бо бачыў яе з казою ў хмызняку, насцярожыцца.

— Дарогай толькі не вядзі, паўз каноплі трэба, а там — лесам,— павучала на развітанне свайго сына Матруна.

— Сцежкі мне знаёмыя, мамка, не бойся за нас,— супакоіў яе Піліп, і неўзабаве стала ціха.

Як толькі Матруна, трымаючы ў адной руцэ газнічку, а другой прыкрываючы кволы язычок полымя, зайшла ў хату, Надзейка імгненна саскочыла з печы, загаварыла ледзь не з плачам:

— Ой, цётачка, там жа з вашым сынам адзін не наш чалавек. Выжлятнік ён, бандыт, немцаў на хутар наводзіў, збіраўся ў паліцыю да іх паступіць... Ён жа і Пятра Рыгоравіча некалі душыў...— Як ні старалася гаварыць ціха, а ў канцы амаль крычала.

Прачнуліся Насця і дзед Нупрэй, прымусілі яе зноў расказаць, што ведала.

— А не памылілася, знаеш-ведаеш, часам? — выказаў недавер дзед Нупрэй.— Піліп — хлопец абачлівы, абы-каго не возьме з сабою, не павядзе...

— Я пазнала б той голас праз сто год! — груквула сабе ў грудзі Надзейка.— Яшчэ ён кажа слова адно — кораш. У нас яго ніхто-ніхто не гаворыць...

— Калі дзеўка мовіць праўду, то ўсім нам нездабраваць,— уставіла сваё слова і цётка Насця.— Трэба прымаць якія захады, падумай, Нупрэй...

— А што тут думаць! Паспрабуй, дагані іх цяперака, маладых ды дужых! Мне здаецца, калі той Выжлятнік падасланы, то ён захоча як мага больш выведаць, а на гэта час патрэбен. Мы яго яшчэ паспеем прашчупаць. Адным словам, знаеце-ведаеце, давайце класціся спаць, а то скора і світаць пачне...

— Ну, то як знаеш... Спадзяёмся на цябе.

Надзейка зноў палезла на печ і ўлеглася, але заснула не адразу. Яна чула, як божкала цётка Матруна, як уздыхала цётка Насця і часта варочаўся дзед Нупрэй. Ляжала і думала: «Вось жа не аддаў дзед Нупрэй той акраец сухога хлеба Піліпу, каб хутчэй занёс Пятру Рыгоравічу, не даверыў, хоць і ведае добра. Піліп жа, мусіць, у Макаўе сваё папаўненне павёў... А можа, апроч таго хлеба трэба яшчэ нешта сказаць? У рэшце рэшт і мы маглі б разам пайсці...»

А калі прачнулася, то даведалася, што дзед Нупрэй усё-такі не стрываў і пад самую раніцу рушыў у дарогу адзін, сказаўшы, каб Надзейка чакала лепшага часу. Яна і ўзрадавалася і адначасова засумавала. Узрадавалася, што хоць трохі пажыве па-людску, сустрэнецца, вядома, з Міколам. І разам з тым нейкая нястрымная сіла клікала яе ў дарогу. Ёй ужо не раз думалася, што толькі ў руху, у імкненні ісці наперад — збавенне. Жыць у чужых, хаця і добрых, людзей — не вялікае шчасце. Тут усё часцей і часцей нагадваецца свая хата, свае родныя, ад адных успамінаў пра якіх гарыць сэрца. У дарозе ж душэўны боль прытупляецца рознымі — добрымі і дрэннымі — здарэннямі, не-

бяспекай, нават страхам. Уласна кажучы, Надзейка перамагла страх, звыклася з ім, як з нейкай неабходнасцю, без якой цяпер не пражывеш. Вунь жа як баялася яна сустрэчы з фашыстамі, а давялося — і хоць бы што.

І яшчэ адзін клопат адпаў: Мілку, выявілася, пагналі ў поле разам з каровамі і авечкамі — было іх у вёсцы з дзесятак.

Пасля снядання жанчыны пайшлі палоць грады, а яе, Надзейку, не ўзялі з сабою, сказаўшы, што яна, маўляў, і так схуднела, як шкілет зрабілася, што ёй трэба паправіцца і што наогул сірацiну да працы не дапусцяць, хоць бы той працы было процьма.

— Лепш хай мне рукі адваляцца,— аж заракласа цётка Насця.— Ды і людзі што скажуць...

Надзейка выйшла на прасторны двор, села на лаўку ля плота і задумалася. «Так от нічога і не сказала дзеду Нупрэю, што Маскву чула»,— пашкадавала яна і тут, на вялікае здзіўленне, убачыла,— дзед Нупрэй, зусім не пазнавальны ў нейкай старой шэрай шапцы, адчыніў веснічкі і ступіў на зялёны мурог двара.

— От і не прайшоў, ліха на яго,— сказаў і, падышоўшы, змрочна апусціўся побач з Надзейкай.

Прыйшлі з гародчыка і кабеты, пасталі насупраць.

— Чаму так скора, Нупрэй, што здарылася? — занепакоена спытала цётка Насця.

— Гаенскі мост ужо ахоўваецца, супастатаў наехала — гайня, вартавыя шпацыруюць, ліха іх матары... Яшчэ пачнуць абшукваць. Рызыкоўна...

— Рызыкоўна,— згадзіліся жанчыны.

— І трэба было-ткі ноччу ісці. Цяпер от чакай, калі яны знікнуць.

— А можа, і не знікнуць зусім, масты заўсягды ахоўваюць,— сказала цётка Матруна.

— Дзеду, а што, калі я пайду? — зірнула яму ў вочы Надзейка.— Мы з Мілкай, дзе хочаш, пройдзем...

Нейкі час памаўчалі.

— Рака тут усюды глыбокая,— зноў пачаў дзед Нупрэй,— а я плаваю, як калун... Ісці на Замошша — гэта яшчэ добрых дзесяць вёрст. І не ўпэўнен, што дабуду лодку. Кажуць, нейкія тры немцы там бываюць...

— Аныгож, бываюць,— заківала галавою цётка Матруна.— Сусед унь ад сястры свінчо вёз — адабралі, каб ім мову адабрала.

— А калі б звязаць плот? — выказала і сваю думку

Надзейка, і стары ўхапіўся за гэтую думку, як за выратавальную саломінку тапелец.

— Во — ідэя! Ну і малайчына, Надзейка! Прайсці да ракі лесам, звязаць плот і пераехаць. Клопатна, але надзейна, бяспечна. Так і зробім...

— І мяне вазьміце, хачу ў Макаўе,— насуперак жаданню душы, падпарадкоўваючыся невядомаму інстынкту, папрасілася Надзейка. І ўжо як потым яе ні адгаворвалі кабеты, як ні пераконваў дзед Нупрэй, што дарога будзе небяспечная і цяжкая — ісці трэба і па балоце,— ніштто не магло прымусіць Надзейку застацца ў Леснічоўцы.

— Што ж, з табой і мне весялей,— пачаў здавацца дзед Нупрэй.— І галоўнае — бяспечней. Хто не ўбачыць, падумае — ідуць дзед з унучкай...

— І казу вядуць,— падказала Надзейка, якая дужа баялася, што казу пакінуць тут.

— Каза хай застаецца, куды яе цягнуць,— развёў рукі дзед Нупрэй.

— Бог дасць, вернешся, забярэш яе, калі будзе куды,— уставіла і цётка Насця.

— Не вернемся... Я не вярнуся,— паправілася Надзейка.— Буду жыць у Макаўі да канца вайны...

— Няўжо і ты, Нупрэй, застанешся там? — усоўваючы ў торбу пляшку з нейкай мутнаватай вадкасцю, гаварыла Матруна.— Нешта маўчыш во...

— А хто ж гэта, спаліўшы масты, вяртаецца? — здавалася, зазлаваў дзед.— У пятлю галаву, хоць і сівая, раната, я яшчэ дажыву да таго часу, калі гэтага супастата-фашыста назад пагоняць...

Цётка Насця спытала:

— А што ж ты там такое ўтварыў?

— Я ж і кажу — спаліўшы масты... Хату сваю з немцам праклятым у дым пусціў. Ніводзін не выскачыў, усё прадугледзеў дзед Нупрэй... Хай думаюць, што і сам у тым агні згарэў, да людзей каб не чапляліся...

— А божачка, а што ж гэта робіцца па свеце цяпер...

Цётка Матруна перахрысціла па старому звычаю на дарогу спярша Нупрэя, потым — Надзейку.

— Як будзеце ісці ля канавы праз каноплі, то трымайцеся правей, грэбля там. Ты ж хіба на хутар Старыну пойдзеш?

— А кудой жа... Другога шляху тут, бадай, ці знойдзеш. Хутар Старына, Выспа і далей, на церабы...

— Кладкі ж там...
— Хадзіў мо ці раз...
І вось ужо ўсе размовы скончаны, інструкцыі атрыманы, сякера за поясам, і Нупрэй з Надзейкай рушылі ў дарогу, рушылі так асцярожна, каб нікому ў вёсцы асабліва не кінуцца ў вочы — спярша прайшлі ля платоў, лужком паўз старую лазню і выйшлі да доўгай канавы, з аднаго боку якой ляжала голае тарфяное поле, а з другога — густы лес з крапіўнікам і папаратнікам. Канoплі відпеліся далей...
Каровы і авечкі хадзілі з правага боку канавы, ад лесу. Там расла густая, надзвычай зялёная, бы толькі ўзышла, трава, і жывёла зацята скубла яе.
Мілка згледзела Надзейку яшчэ здалёк і так прыпусціла насустрач, што аж спатыкалася на купінах. Падбегла, выставіла мордачку з выстаўленым кончыкам чырвонага языка і, як здалося Надзейцы, самотнымі вачыма зірнула на яе, мэкнула, бы пыталася — куды яна ідзе.
— Мілачка, любенькая,— прылашчыла казу Надзейка і дала ёй прыхаваны кавалачак хлеба.— Пабудзь трошкі тут, я хутка вярнуся...
З болем у сэрцы пакідала яе Надзейка, часта азіралася, уздыхала: то была адзіная істота, якая звязвала яе з родным домам.
Не паспелі яны зрабіць і сотні крокаў, як Мілка дагнала іх, забегла наперад і так упарта стала на дарозе, наставіўшы свае пакручастыя, рабрыстыя рогі, што дзед Нупрэй аж спыніўся ў нерашучасці.
— Бач, не пушчае! — рассмяяўся ён.
— Цяпер назад ні за што не пойдзе,— узрадавана сказала Надзейка.— Давайце возьмем, дзеду...
— От бачыш,— незадаволена буркнуў стары,— спярша, знаеш-ведаеш, цябе вазьмі, потым — казу... Як жа яе на плот браць? Цэлы паром рабіць трэба...
— А давайце праз Замошша, як вы казалі, пойдзем. З Мілкай нас ніхто не кране... І плота не трэба рабіць...
— Так ужо і не кране...— Дзед Нупрэй падумаў і дадаў: — Канечне, на лодцы пераехаць — не тое, што плот будаваць, зручней яно, а от што немцы, бывае, ездзяць... Хоць і не многа, ды адзін, кажуць, наш, паволжскі, але супастат ёсць супастат, ад яго чаго хочаш чакай...
— Про-о-йдзем...
— Можа, і пройдзем... Аружжа ў нас ніякага, а сякера — гэта мой рабочы струмент...

Так спакваля дзед Нупрэй сябе і ўгаварыў, і яны, на вялікую радасць Надзейцы, змянілі кірунак. Прайшлі па тарфяным полі каля высокіх, густых канапель і апынуліся на ўзлессі. Тут было цвёрда, раслі тоўстыя сосны ўперамежку з бярозамі, з якіх ледзь не долу звісала доўгае кучаравае вішшо.

Вось ужо і лес застаўся ззаду, далёка наперадзе, на ўзвышшы, пачала вырысоўвацца вялікая, у два рады, вёска, абсаджаная садамі.

— Можа, і добра, што твая Любка...

— Мі-ілка,— засмяялася Надзейка.

— Хай будзе і так... Хоць па людскай дарозе ідзеш, хоць ногі сухія... Не стаяць жа яны, супастаты, увесь час на дарозе, а вёску можна і абысці па беразе...

І толькі гэта ён так сказаў, як Надзейка, ціха ўскрыкнуўшы, схапіла дзеда за руку.

— Немцы,— шапнула ціха.— Унь, ля мастка...

Наперадзе праз ручай, што, відаць, упадаў у Гайну, быў невялікі драўляны мост. Ля яго, на гэтым баку, стаяў запрэжаны ў брычку вараны конь. Два немцы — адзін з аўтаматам на шыі, другі з карабінам за плячыма — порпаліся на мастку, відаць, там штосьці было не ў парадку.

Адступаць не мела сэнсу, бо іх ужо заўважылі, замахалі рукамі, каб падыходзілі.

— Бяры казу за павадок, кажы, калі спытаюць, што жабруем...— хуценька загаварыў дзед Нупрэй.

— Добра, дзеду...

На гэты раз чамусьці стала боязна. Не так за сябе, як за дзеда Нупрэя, які, вядома ж, прадчуваючы нешта нядобрае, не хацеў ісці праз Замошша. А яна змусіла яго на гэты рызыкоўны крок. Цяпер вось выкручвайся...

Ды дарэмна яна так хвалявалася. Немцы былі дабрадушныя, нават нібы ўзрадаваліся ім. Абодва, нібы браты, невысокія і чарнявыя, з масляністымі сытымі тварамі, у новенькай уніформе.

— Во, ёсць сякера! — паказаў на дзеда Нупрэя адзін з іх, і Надзейка здзівілася, пачуўшы, што ён гаворыць пабеларуску, без усялякага акцэнту. «Гэта, відаць, той, паволжскі»,— падумала яна, спыніўшыся на ўсякі выпадак як мага далей. Заўважыла — у мосце не хапала некалькіх дошак.

— Зацыруй, дзядуля, нам гэтае хліпкае збудаванне, а то конь ногі паламае,— звярнуўся да старога немец з ка-

рабінам і дадаў паблажліва: — Кліч мяне Іванам, хоць на самай справе я ёсць Еган. Зразумеў?

— Ды яно не вялікае мудрагельства — мост зацыраваць,— ахвотна згадзіўся дзед Нупрэй, не адказваючы на апошняе пытанне. Перадаў Надзейцы торбу і сказаў: — Папасві трохі тым часам казу, а то зусім малака не дасць...— Сам дастаў з-за пояса сякеру, пайшоў на мост і стаў аглядаць яго.— Тут вось трэба ўзарваць дошкі, а потым іх сюды,— разважаў ён услых.— Збоку яны не так пільна патрэбны...

Надзейка зразумела дзеда і хуценька пацягнула Мілку за стужку. Чула, як Нупрэй грукаў па мосце, як моцна гэхаў і раз-пораз пытаўся:

— Гут?

— Добра, добра,— адказваў «наш» немец.

Другі, што быў з аўтаматам, паводзіў сябе неяк дзіўна. Ён паходжваў вакол, нібы вартаўнік, задзіраў круглую, як гарбуз, галаву ўгору і нешта незразумелае насвістваў пад нос. Часам усміхаўся сам сабе і пагладжваў рукою жывот.

— Курт у нас рамантык,— пачула Надзейка,— ён амаль паэт...— І раптам «наш» немец спытаў крута: — А што там у вашай торбе? Не гранаты, часам, га?

— Што нажабраваў, знаеш-ведаеш, тое і е,— адказаў стары непрыязна і яшчэ мацней загрукаў сякерай.

А той «рамантык», бачыла Надзейка, раптам спыніўся ля дзеда Нупрэя ды як гаркне ні з таго ні з сяго:

— Русіш швайн!

— Кажа, што руская свіння,— засмяяўся другі.— А ты ж беларуская...

І нешта доўга гергетаў свайму напарніку, выкрыкваў і ўсё тыцкаў пальцам у бок Надзейкі. «Во прычапіўся... Яшчэ захоча зірнуць у торбу»,— захвалявалася дзяўчынка і стала адыходзіць усё далей і далей. Але гэты манеўр не выратаваў яе ад дапытлівага Егана.

— Малая, ідзі сюды! — паклікаў ён гучна.— Пан Курт хоча абшукаць вас... Ідзі, ідзі,— і, заўважыўшы яе нерашучасць, дадаў: — А то пан Курт раззлуецца і будзе пух-пух. Ён у нас не толькі рамантык, а і жартаўнік, страшэнна любіць нечаканыя павароты. Вытварыць — не прыдумаеш такое...

— Хадзі, Надзейка, а то пан паэт і праўда бубухне ў цябе, з імі жарты дрэнныя...— Стары скончыў работу, вы-

цер шапкай твар, надзеў яе на галаву і адышоўся, спыніўся зводдаць моста.

Надзейка наблізілася, перадала яму торбу.

Спярша абшукалі яе, потым — старога і ўзяліся за торбу. Курт усё насвістваў. Вось выцягнулі з торбы заручанае ў чысты кужаль сала, і паэт-свістун задаволена буркнуў «гут». Узважыў у руцэ і паклаў сабе ў брычку. Туды ж ён паклаў і хлеб. Калі справа дайшла да пляшкі з мутнаватай вадкасцю, то тут ужо абодва так загергеталі і загуталі, што Надзейка аж усміхнулася. Іван-Ёган панюхаў з пляшкі, паспытаў на язык.

— І гэта даюць жабракам? — хітра жмурачы чорныя вочы, спытаў ён.

— Вымяняў на сала... Прывычка, трасца на яе, п'ю-шчы я, от хай унучка скажа...

— П'е дзед,— адразу падхапіла Надзейка.

— Ну, то пара ўжо і адвыкаць яму, стары. Пад добрую закусь і нам спатрэбіцца...

І пляшка з самагонкай перабралася ў брычку. «Рабаўнік!» — хацелася крыкнуць Надзейцы, але ў яе дух заняло і сэрца захаладала, калі той пракляты Ёган выцягнуў з торбы сухі акраец. Падкінуў, як бы ўзважыў у руцэ, і сказаў:

— Ого! Нешта ж дужа ён цяжкі, гэты сухар. Выпадкова не золата там схавана, га? Чуў — у жабракоў часта знаходзілі золата...

— Якое там золата! — затросся ад злосці стары.— Хлеб сіроцкі! Пакіньце хоць яго ўнучцы, паны харошыя! Хрыстом-богам прашу — пакіньце!..

Не варта было старому так выпрошваць назад нейкі сухі акраец, калі і свежы хлеб, і сала з самагонкаю ён аддаў пакорліва. Трэба было абыякава паставіцца да сухара, нават не звярнуць увагі, а то от у немцаў з'явілася падазрэнне, цяпер яны нізавошта не адступяцца.

— О-о-о! Значыць, я не памыліўся... Калі ён табе такі дарагі, то, пэўна, там золата! — усклікнуў павесялелы Ёган і зноў нешта хутка-хутка загаварыў да Курта. Той вырачыў хціўыя вочы і амаль вырваў з Ёганавых рук акраец, выхапіў у дзеда Нупрэя сякеру і пасунуўся да моста. Ёган — следам. Дагнаў, нешта крыкнуў «паэту-рамантыку», які паклаў ужо акраец на парэнчы і ўзняў над галавой сякеру. Нават не азірнуўся, секануў што было сілы, і ў той жа момант магутны выбух і полымя, здава-

лася, асляпілі і аглушылі Надзейку. Яна інстынктыўна ўпала на зямлю і пачула дзедаў голас:

— Хутчэй! Хутчэй паехалі! Трэцяга ж няма, яшчэ наляціць, халера, тады і да бяды недалёка...

Яна ўсхапілася — нават баялася глянуць у бок моста,— кінулася па Мілку, прывяла яе, і дзед Нупрэй памог усцягнуць перапужаную казу ў брычку. Потым Надзейка села сама, узялася за стужку, бо каза імкнулася саскочыць на зямлю.

Дзед Нупрэй бы што ўспомніў, пашыбаваў да моста. Адтуль ішоў больш спакойна: у яго руках былі нямецкі аўтамат і шырокі пояс з трыма ражкамі.

— Вось і капут панам-захопнікам! — сказаў урачыста.— Рама-а-антыкі... Шалёныя сабакі яны, і смерць ім такая... От шкада: карабін пашчапала ды сякеру бы хто праглынуў.— Ён сеў побач з Надзейкай, узяў у рукі лейцы і скіраваў проста да лесу, адкуль яны і ішлі. Там, на ўзлессі, забраўшы сваё дабро і трафеі, распрог каня і пусціў на волю, сцебануўшы дубцом.— Хай ідзе да гаспадара,— сказаў дзелавіта.— Да сапраўднага, а не часовага...

І зноў яны ішлі тым жа шляхам, праз канаплянае поле, праз балота, якое называлася церабамі, лесам, пакуль не ўбачылі даволі шырокую і глыбокую раку. На яе беразе селі адпачыць і падсілкавацца.

— Дужа напалохалася? — нарэшце спытаў пра перажытае дзед Нупрэй.

— Трошкі... А што там было?

— Смерць іхняя была,— сказаў і дадаў: — Трасцу яны з'елі. Чужым дабром не нажывешся...

Зноў, як і раней, узяўся тоненька наразаць сала, класці яго на роўныя скібкі хлеба.

— Падсілкуемся і возьмемся за работу...

9

На плот ішлі толькі альховыя сухастоіны, а было іх тут даволі многа. Зусім без галін і лісця, роўныя, як тэлеграфныя слупы, яны стаялі мёртвыя ўжо мо ці па аднаму дзесятку гадоў. Варта было пастукова расхістаць такое дрэва, як яно ламалася, іншы раз у двух-трох месцах. Круглякі былі хоць тоўстыя, але лёгкія, як корак — высахлі дазвання. Нават Надзейка зносіла да ракі больш тонкія кавалкі без асаблівага напружання. Так што не прыйшло

і дзвюх гадзін, як на нізкім, амаль упоравень з вадою, беразе, вырас цэлы штабель бронзавых бярвенняў, і дзед Нупрэй пайшоў наразаць лазу, якой тут расло безліч.

Надзейка прысела на палена і заглядзелася ў празрыстую ваду, што круцілася, віравала непадалёк ад берага, а зусім неглыбока, у якім паўметры, плавалі доўжанькія, сіняватыя сіляўкі.

«Добра рыбе, яна зусім не ведае, што на свеце ідзе вайна, гінуць людзі... І хто яе толькі прыдумаў? Вядома ж — не тыя, хто любіць жыццё і гэты харошы свет, а злыя, сквапныя і бессардэчныя людзі... Вось бы сабраць іх ды разам і пакараць! Тады ўсе былі б шчаслівыя...»

Усё часцей і часцей успаміналася мірнае жыццё. І нават вялікія крыўды, ад якіх іншы раз псаваўся настрой, цяпер здаваліся мізэрнымі ў параўнанні з гэтай незабыўнай бядой, што звалілася так нечакана...

— Ну, от зараз, Надзейка, прымемся за свой карабель,— загаварыў побач дзед Нупрэй, і яна ачнулася ад горкіх думак.

— Дзеду, а чаму той сухар гэтак бабахнуў? — спыталася нарэшце, знайшоўшы адпаведны час і настрой.

Перавязваючы бярвенні лазовымі віткамі, адно да аднаго, дзед Нупрэй расказаў Надзейцы, што ў тым сухім хлебе была спецыяльная міна з гадзіннікавым механізмам, якая дазваляла падрыўнікам самім вызначыць час, калі яна ўзарвецца.

— А што павінен быў узарваць Пятро Рыгоравіч?

— Гаенскі мост...

І зноў яна даведалася, што для гэтай мэты ўжо ёсць група людзей, вялікая колькасць толу і прызначаны час — не больш тыдня на аперацыю. Адным словам, рыхтавалася вялікая работа — узарваць мост, перакапаць дарогу, зрабіць на ёй завалы.

— І вось цяпер праз мяне аперацыя сарвецца! Такая міна прапала! — Стары выпрастаўся, зняў шапку і пачухаў галаву. Усміхнуўся.— Праўда, не зусім прапала, на двух супастатаў паменшала, але ж мне, Надзейка, знаеш-ведаеш, уляціць парадкам,— закончыў так сваё апавяданне.

— Вы ж не вінаваты, я сведка,— суцешыла яна дзеда Нупрэя.— Так скла́ліся абставіны...

— Твая, знаеш-ведаеш, праўда... Магло быць і горш. Золата ім, бач, захацелася... Добра-ткі яно ім зыркнула, тое золата...

Стары засмяяўся, пасунуў даволі вялікі ўжо плот далей на ваду і паднёс новае бервяно. Вязаў ён віткамі ў трох месцах — з бакоў і пасярэдзіне — ды так лоўка, быццам займаўся гэтай справай усё жыццё. Улавіўшы такі цікаўны Надзейчын позірк, дзед Нупрэй, не пакідаючы працы, сказаў:

— Ох і паганяў жа я калісь плыты па рэках — аж да Чорнага мора, бывала, хадзіў па Бярозе ды Дняпры. Першым плытагонам лічыўся.

— У вас і цяпер спрытна выходзіць...

— Уга, не той ён ужо, спрыт. Гэткі плыток, а вяжу,— ён зірнуў на сонца, — больш гадзіны.

Затое змясціліся на ім усе. Мілку, праўда, ледзьве ўзвялі: не хацела ісці. І толькі потым, калі стары адпіхнуўся ад берага доўгім кіем, стаяла, як статуя, нават вухам не павяла, пакуль аж не перасеклі ўсю раку. Скочыла на бераг, задаволена замахала хвосцікам і адразу падалася да лазовага куста: у яе свая бясконцая турбота.

Плыт дзед Нупрэй крыху ўсцягнуў на бераг і замацаваў звычайным колікам, убіўшы яго ў зямлю між бярвенняў, сказаў коратка:

— Мо яшчэ спатрэбіцца...

Які смешны быў стары, з перакінутай цераз плячо торбай і аўтаматам на жываце! «Дзед Талаш ён, а не дзед Нупрэй»,— падумала Надзейка і заўважыла, што Мілка перастала есці і прыслухоўваецца. Вось раз, другі тупнула нагой. Значыць, паблізу хтосьці ёсць.

— Ну, Надзейка, пайшлі! — Стары падняў з зямлі апошняе — пояс з патроннымі ражкамі.

— Чакайце,—супыніла яна яго.— Тут нехта ёсць. Бачыце — каза хвалюецца...

— Можа, зверына якая...

І ў гэты момант наперадзе зашамацелі кусты і гучны голас скамандаваў:

— Стой! Рукі ўгору... Доўга ж мы за вамі назіралі! Угору, кажу, рукі!..

«Гэтая каманда мяне, мусіць, не датычыцца»,— падумала Надзейка, пазіраючы, як дзед Нупрэй павалі падымае рукі і ківае галавою...

— Скасіў бы я цябе, ваяка, але бачу, што дурны яшчэ...

— А-а-адставіць! Ба-а, знаёмыя ўсе твары! — Зноў пачулася з лесу, і яны ўбачылі таго самага маладзенькага лейтэнанта, якога сустракалі ў Леснічоўцы. Праўда, не такога чысценькага, мундзір на ім быў брудны, у многіх

месцах падраны, абы-як зашыты.— Куды ж гэта вы кіруеце, што плот звязалі?

— Адсюль не відаць,— наблізіўся да яго стары.

Лейтэнант выйшаў з-за шырокага лазовага куста, з-за якога, відаць, і цікаваў. Пазнаўшы дзеда, цяпер шырока ўсміхаўся і задаволена цёр рукі.

— Вось і праваднік ёсць, наш знаёмы стары Сусанін... А я ўжо быў забедаваў...

— Колькі ж вас, ваякаў, засталося пасля таго бою? — узяўшыся за аўтамат, спытаў дзед Нупрэй.

— Дваццаць дзевяць штыкоў, на чале з лейтэнантам Гаравым,— пасур'ёзнеў той.— І параненых, гады, пастралялі... Калі, у якую вайну такое было, каб параненых, безДапаможных людзей расстрэльвалі?

— Усіх? — аж скінуў шапку дзед Нупрэй.

— Не... Многія кідаліся на фашыстаў і самі ўзрываліся, гранат у нас хапала.

— І што цяпер думаеце рабіць? Зноў за фронтам бегчы?

Яны, гаворачы, наблізіліся да берага, селі на крайняе бервяно плыта.

— Яшчэ, баця, і сам не ведаю, куды цяпер ісці...

— А я ведаю.

— Ну!

— З намі...

— Куда?

— Туда,— сказаўшы, як і раней, у Леснічоўцы, у тон лейтэнанту, паказаў дзед на балота.— Ішоў я, браце, з заданнем да сваіх ды спатыкнуўся, двух немцаў сустрэў...

Надзейка чула, як дзед Нупрэй усё-ўсё расказаў вайскоўцу. Дужа ж яго турбавала тое, што міну страціў, важнае заданне не выканаў.

— Не ведаю, як цяпер туды і заявіцца,— закончыў ён свой невясёлы расказ.

Лейтэнант раптам ускочыў з месца і пачаў нервова хадзіць па беразе. Спыніўся насупраць старога і загаварыў хутка:

— Кажаце, не ведаеце, як заявіцца? А мне ж і заявіцца туды няма як... Дэзерцір! «Дзе твой полк, таварыш лейтэнант?» — спытаюць. А я што ў адказ? Пэк-мэк...

— Ціха, ціха, браце, давай разбярэмся... Сядай!

Той зноў сеў, паклаў руку старому на калена.

— Стойце, стойце,— пачаў ён больш спакойна.— Значыць, вы ідзеце да сваіх... Куда?

— У Макаўе...
— І там збіраюцца партызанскія сілы?
— Так...
— А як жа мы туды прыйдзем за здорава жывеш, без ніякага баявога падарунка? Толавыя шашкі і гранаты маем, ірванём той мост — і здрасце! Да сваіх, га?
— Ідэя заманлівая,— задумаўся дзед Нупрэй.— Толькі як вы ўзарвеце свой тол? Патрэбен жа час, каб адыйсці...
— А навошта ж тады бікфордаў шнур? Запаліў — і ідзі сабе паціху. У мяне ж з сапёрнага аддзялення два падрыўнікі. У іх усё гэта ёсць...
— Убачаць... Пагасяць твой шнур,— адмоўна пакруціў галавою дзед Нупрэй.
— Хто пагасіць?
— Ахова...
— Дык ахову трэба — усіх да аднаго! — таго... у рэчку, каб і знаку не засталося!
— Многа іх там, сам бачыў...
— Дванаццаць штыкоў, два кулямёты... У мяне, баця, цяпер разведгрупа працуе — будзь здароў! Арлы! — пахваліўся лейтэнант.— Вось і цяпер на заданні...
— Бачу, страляны верабей...
— Стра-а-аляны-ы! — сказаў той нявесела.— Добра, што лес тут наўкол, ледзь ногі вынеслі, а фрыцы ў лес не сунуцца.
— Не дужа яшчэ баяцца...
— Чуў, як адзін з іх крычаў, што мы хутка і самі здадзімся, нідзе не дзенемся... Ведаеш, баця, я ж іхнюю паганую мову аж тры гады вывучаў, трохі кумекаю.
— Веды за плячамі не носяць, а набытае, знаеш-ведаеш, заўсёды прыдасца...
— Ну, то пайшлі ў наш лагер, там аб усім і дамовімся, канкрэтна на мясцовасці, так сказаць...
Непадалёк ад рэчкі, у непралазным гушчары, дзе было даволі суха, стаялі вялізныя, як хлявы, два буданы, пакрытыя яловай карою, аплеценыя з бакоў лапкамі. Па ўсяму відаць — аселі вайскоўцы тут трывала. У баку пад высокай елкай тлела цяпельца, над якім у двух звычайных бляшаных вёдрах штосьці гатавалася.
— У вас тут сапраўдны лагер,— павёў малым кірпатым носам дзед Нупрэй.— Баранінай пахне...
— Нашы нідзе не губляюцца! — у другі раз пахваліўся лейтэнант Гаравы, і з яго маладога твару знік цень

смутку, ён ажыў, засвяціўся.— Бой боем, а справа справай. Мы ж наскочылі на абоз, гэтых бараноў гналі цэлы статак...

— Нашы, з Пабярэжжа,— зазначыў дзед Нупрэй.— Так што, Надзейка, і мы пакаштуем не чужое, сваё.

Пасля ўсяго, што перажыла, калі хадзіла адна, цяпер, сярод людзей, ёй было ўтульна. Такія дробязі, як камары, балота, ніколькі не турбавалі. «Жыць, каб змагацца»,— у які раз паўтарала яна і ўжо не дакарала сябе за тое, што праз яе дзед Нупрэй пайшоў на Замошша. Вось жа двух немцаў забіў, набыў аўтамат, сустрэўся з нашымі байцамі. А тыя, можа, і мост узарвуць. «Няма ліха без дабра,— падумала Надзейка.— Ці, хутчэй, наадварот — няма дабра без ліха?» Яна зараз не магла разабрацца ў гэтым лабірынце слоў і пачала думаць пра іншае...

Мілка ўжо абышла невялікі лагер, амаль зусім апусцелы — стаяў на свежавытаптанай сцяжынцы толькі адзін баец,— спынілася ля будана.

Сабраліся ўсе толькі пад вечар. І то ненадоўга. Павячэралі. Абмеркавалі адно пытанне — як лепей падабрацца да Гаенскага моста — і тут жа пачалі строіцца. Вайсковая дысцыпліна адчувалася ва ўсім, і гэта бадзёрыла, надавала ўпэўненасці.

Перад строем лейтэнант аб'явіў кароткі загад, скамандаваў «направа» і — сам наперадзе — павёў сваіх байцоў на баявое заданне.

Надзейка з дзедам Нупрэем асталіся. Дзяўчынка ўбачыла, што аўтамата ў старога ўжо не было. Замест яго ля дрэва стаяла вялізная — са штыком — вінтоўка. «Пэўна ж, з аўтаматам у баі лепш»,— падумала Надзейка і спытала:

— Тут будзем іх чакаць?

— А то дзе? Гэта ж, знаеш-ведаеш, сі-іла! Цяпер яны чорту рогі скруцяць, таму што як бы адчуваюць сваю віну, што вораг па нашай зямлі пайшоў і такія вось, як ты, мусяць скітацца, а такія, як я,— брацца за аружжа... А прысяга — яна штука сур'ёзная: прыняў яе — будзь добры, выконвай, калі ласка, усё як след, хоць да самай смерці...

Над лесам паступова асядаў змрок.

Спярша пацямнела неба, потым — верхавіны дрэў нібы патанулі ў шэрым тумане.

І вось ужо туман той апусціўся ніжэй, ахінуў буданы, кусты, дрэвы...

Дзед Нупрэй і Надзейка выбралі сабе месца ў будане і

спакваля ўлегліся на прывялай траве і папаратніку, засланымі плашч-палаткай, сцішыліся...

— Глядзі ж, выспіся добра, заўтра наш апошні пераход,— параіў на сон стары.

## 10

Бою яны не чулі і не ведалі — ці быў ён, бо да Гаенскага моста, нават і напрасткі, далекавата, кіламетраў пяць-шэсць. А сцежкамі-дарожкамі — і ўсе дзесяць. І толькі апоўначы да буданоў даляцеў глухі, бы з-пад зямлі, выбух.

— От гэта яно і ёсць,— буркнуў дзед Нупрэй і павярнуўся на другі бок. — Цяпер можна і паспаць крыху...

Надзейка таксама не спала, хвалявалася не менш за старога, і слых яе лавіў кожны лясны гук. А іх у лесе нямала. Спярша, як сцямнела, недзе бы моцна заплакала, закугакала дзіця. То азваўся заяц. І адразу за ім кугукнула сава... Потым грызліся, дзелячы здабычу, маладыя лісяняты ля свайго гнязда-нары. А недзе на балоце, каля ракі, няспынна надрываўся драч...

Спалі аж да світання, пакуль у лагер не прыйшлі гаспадары. Вясёлыя, задаволеныя незвычайнай удачай, хоць і змораныя, яны гаманілі, жартавалі, смяяліся. Адчувалася, што аперацыя прайшла ўдала.

— Васюкову ордэн трэба, таварыш камандзір... Гэта ж так абсадзіў кулямётчыка — не пікнуў! — чуўся чыйсьці голас.

— А-а-адставіць пра ордэн! — пачулася ў адказ, і Надзейка ўзрадавалася, што лейтэнант жывы і здаровы.

— Абурылі? — вылезшы з будана, коратка спытаў у яго дзед Нупрэй.

— Так точна, баця! Апроч таго, захоплены трафеі — адзін кулямёт, дзесяць аўтаматаў з патронамі і на тыдзень добрага харчу... Запаслівыя яны...

— Ну, то і слава богу...

— Слава нашым арлам, баця!

— І камандзіру, які добра такі гергетаў па-нямецку з канапатым на мосце. Той і прыняў за свайго... А то кашануў бы з другога кулямёта...

Байцы паснедалі і ўляглíся адпачываць. Амаль паўдня спалі, і толькі як сонца пачало хіліцца на захад — рушылі ў дарогу. Ішлі ледзь прыкметнымі, відаць, зімовымі

дарогамі. Апошнім часам дажджоў выпадала мала, і балота падсохла, пругка ўгіналася пад нагамі.

Надзейка з дзедам Нупрэем і Мілкай крочылі ззаду, па добра ўтаптанай сцяжыне: ішлі гужам, адзін за адным.

— Хутка шаша,— перадаў па ланцугу дзед Нупрэй,— трэба паслаць разведку, а то немец хопіцца, што моста няма ды ахове капут прыйшоў...

Іх пачакаў лейтэнант Гаравы.

— Ёсць паслаць разведку! — як свайму непасрэднаму камандзіру, казырнуў ён.— Думаеце — можам напароцца на засаду?

— Цяпер усё можа быць,— адказаў стары.— Не ў госці да цешчы ідзём, камандуй прывал...

— Прыва-а-ал! — панеслася па ланцугу не дужа гучная каманда.

Калі Надзейка прысела на высокую купіну адпачыць, то заўважыла, што Мілка ледзьве здыхваецца — змарылася дарэшты. Яе доўгая шэрая поўсць яшчэ больш пацямнела, злямцавалася, а дзе і проста тырчала шышкамі — набралася шмат дзядоўніку. Надзейка пачала выцягваць яго, вырываючы заадно і злямцаваную поўсць. Каза толькі яшчэ больш натапырыла свае вушы — слухала. Відаць, ёй было прыемна пазбавіцца лішняга цяжару.

Неўзабаве разведка вярнулася, але не ўся. Байцы далажылі, што на дарозе нашы людзі валяць дрэвы і перакопваюць шашу. Частка байцоў там і засталася...

А яшчэ праз колькі часу, калі група пад камандаваннем дзеда Нупрэя выйшла да дарогі, Надзейка з радасцю ўбачыла высокага, падобнага на цыгана хлопца, які працаваў з тымі, што рабілі завалы. Ён так быў захоплены працай, што не звяртаў увагі на такое незвычайнае папаўненне. І тады Надзейка, каб неяк азвацца, крыкнула:

— Мілка-а, пастой жа ты-ы...

— Дайся ты рады! — нарэшце ўбачыўшы яе ды яшчэ з казою, усклікнуў хлопец.— Жывая? Ну і малайчына... А мы тут усёй камандай...— Ён дастаў з кішэні пінжака невялічкі пачак і перадаў ёй.— Дачакаўся-ткі падарунак свайго гаспадара!

У пачку быў звычайны драбковы цукар, але цяпер Надзейка яму вельмі ўзрадавалася. Гэта ж так даўно яна не піла чай з цукрам! Яна і дзеда Нупрэя пачастуе...

Потым успомніла, што ў яе не ўсе турботы зваліліся з плеч, і крапула старога за рукаў.

— Дзеду-у,— сказала ціха, усунуўшы пачак у свой зялёны палітончык,— ці далёка да Макаўя?

— Ды тут яно, з вярсту адгэтуль...

— Трэба ж шукаць Выжлятніка...

— От я і прыглядаюся — хто тут больш надзейны,— адказаў стары, акідаючы позіркам людзей, што далёка віднеліся па ўсёй дарозе, аж да паваротні.— Нешта ж нікога з нашых...

Але вось з-за паваротні, з левага боку дарогі, паказаліся коннікі, іх было чацвёра. Яны паступова наблізіліся, і дзед Нупрэй аж тварам прасвятлеў.

— Ёсць адзін! Зірні, Надзейка...

Яна ўзрадавалася яшчэ больш: наперадзе на гнядым кані, у скуранцы, з маўзерам у драўлянай кабуры пры баку, ехаў Пятро Рыгоравіч! Ён таксама заўважыў дзеда Нупрэя і Надзейку, прыспешыў каня.

— Знайшлі нас! — саскокваючы на хаду, прамовіў Пятро Рыгоравіч.— Чуў, што ідзеце...

— Ад каго ж, пляменнічак? — спытаў дзед Нупрэй і паглядзеў на Надзейку.— Сваячок ён мне...

— Ад сувязнога з Леснічоўкі... Міну прынёс?

— Не прынёс... Заварушка на дарозе выйшла... Але, Пеця, то і добра, што так атрымалася! Глядзі, колькі табе прывёў, таварыш камісар! — І стары паказаў на чырвонаармейцаў, што паселі наўзбоч дарогі адпачыць.— Разам з вельмі патрэбным камандзірам! Ён, знаеш-ведаеш, па іхняму гергеча — от!

— Папаўненне проста з задання! — не стрывала і Надзейка.

— Ага... Проста з баявога хрышчэння,— загадкава сказаў і дзед Нупрэй.— Учора быў Гаенскі мост, а сёння яго няма, знік...

— Дык гэта ваша работа?

— А то чыя ж!

Дзед Нупрэй сказаў гэта з такім выглядам, быццам ён сам хадзіў падрываць Гаенскі мост.

— Ну, то вось табе мая рука, дзядзька Нупрэй!

Яны прывіталіся па-мужчынску, моцна паціснуўшы адзін аднаму рукі.

— І ў мяне там сёння баявая група на чале з Мытнікам прыйшла. Добрыя байцы, былыя кадравікі. Таксама проста з задання — вадакачку на вакзале ўзарвалі...

Ад гэтых слоў Надзейка аж уздрыганулася. Яна адчула, як моцна-моцна затахкала сэрца. «Мытнік... Гэта ж

яна таксама Мытнік!» І хоць пасля падумалася, што мо хто знайшоўся са сваякоў ці проста аднолькавае прозвішча, але ўзрушанасць не прападала, а наадварот, яшчэ больш узрастала.

— Пятро Рыгоравіч,— звярнулася, не стрывала.— А хто ён, той камандзір групы?

— Здаецца, былы чыгуначнік...

— І мы ўбачым яго?

— Вядома... Ну, што ты за руку цягнеш, дзядзька Нупрэй? Што там у цябе яшчэ?

— Ага, тут яшчэ адна неадкладная справа, Пеця...

І стары расказаў пра тое, што чуў ад Надзейкі. Яна ж, хоць у самой раптам з'явілася нямала пытанняў, больш не назаляла.

— Гэта праўда? — спытаў у яе Пятро Рыгоравіч.— Ты чула голас Выжлятніка?

— Праўдачка,— заспяшалася яна.— Бандыт Выжлятнік пайшоў з Піліпам.

Нібы віхура падхапіла Пятра Рыгоравіча. Ён крутнуўся на месцы, каб ісці, зноў павярнуўся да іх.

— Дык вы ідзіце ў Макаўе да старшыны Міляўскага. Ён вас размесціць... І гвардыю сваю вядзі,— сказаў хуценька і спрытна, бы зусім не быў паранены, ускочыў на каня.— Хлопцы,— звярнуўся да сваіх коннікаў,— за мной! Правакатара і бандыта будзем браць...

І яны памчаліся далей паўз дарогу, аб'язджаючы завалы і канавы...

## 11

Прыйшлі яны не ў вёску, як думала Надзейка, а ў густую зялёную дуброву, што адкрылася воку неяк раптоўна — пасля даволі тванкага, зарослага балотца. Тут было проста прыгожа, патыхала летняй свежасцю, духмяным водарам...

— База,— пачула яна і агледзелася.

У дуброве ўсюды снавалі людзі — у вайсковым і цывільным. У розных месцах цэлыя групы капалі квадратныя ямы для зямлянак, іншыя наразалі вялізныя круглякі, трэція шчапалі іх дубовымі клінамі на плашкі, чацвёртыя насілі мох у кучы — усе былі заняты справай.

Падбег невысокі кучаравы мужчына ў добрым карычневым касцюме, у бліскучых, аж гарэлі, хромавых ботах.

— Старшына Міляўскі,— адрэкамендаваўся той.— Хто, адкуль? Ад таварыша камісара? Гаварыў. Пайшлі, пакажу вашу хату,— і хуценька, дробнымі крокамі патупаў за лагер. Азірнуўся, дадаў: — Арміі аставацца на месцы, вам будзе работка — дай бог кожнаму!

За лагерам, пад шатамі клёнаў стаялі буданы. Гэта быў часовы лагер — летні.

— Вось той, маленькі,— паказаў Міляўскі,— будзе ваш. Хопіць дзеду і ўнучцы? — І сам адказаў: — Хопіць! А казу, любая, прыйдзецца абагуліць...

— Не руш! — агрызнуўся дзед Нупрэй, які ўвесь час, пакуль гаварыў старшына, хмурыўся.— Гэта, знаеш-ведаеш, не каза. Гэта жывая істота — святыня! Жыццё і смерць, знаеш-ведаеш...

— Калі так, то хай будзе так. Хіба ж я супраць? Міляўскі ніколі не бывае супраць, ён заўсёды робіць толькі добрае... Прыемненька адпачываць...

Ён казырнуў і пабег сваімі дробнымі крокамі, пакінуўшы іх удваіх.

— То агледзем, што ж за хату ён нам падсунуў, гэты жук,— прамовіў дзед Нупрэй і палез у будан. Ды вылез хутка, задаволена дадаў: — Усё ў парадку, жыць можна... Пайду і я па лагеры пахаджу, мо каго яшчэ са сваіх убачу...

І вось Надзейка засталася зусім адна. Ёй раптам стала так сумна, хоць ты плач.

«Няўжо гэта канец маім вандраванням?» — думала, лежачы на мяккім папаратніку, засланым новенькай плашч-палаткай. Нылі ад бясконцай хады ногі, якія ўжо не раз моклі ў дарозе, бо чаравікі даўно прапускалі ваду. І палітончык, якім накрылася, зусім зліняў, пабраўся ў цёмныя плямы, там-сям падраўся. Трэба было б усё гэта змяніць. А каму скажаш? І колькі ёй тут наогул быць? Тыдзень ці месяц? А можа, год? О, не-е! Быць тут год яна не стрывае. Надыдзе зіма, настануць халады, завірухі — як тады ў лесе жыць? А навошта ж будуюць цёплыя зямлянкі? Пэўна ж — рыхтуюцца да зімы, на доўгі час...

«База... Значыць, усе будуць жыць тут, адгэтуль будуць хадзіць на заданні. А што ж буду рабіць я? Проста жыць — і ўсё? А трэба жыць, каб змагацца...»

І ёй уявілася — а можа, прыснілася? — як скача яна на белым-бялюткім кані. У адной руцэ повад, а ў другой — аўтамат. Фашысты — іх многа-многа! — падымаюць угору дрыжачыя рукі, але Надзейка не ведае лі-

тасці, яна страляе,— і вораг падае, падкошаны градам куль...

А гэта хто скача побач? Ды гэта ж яе тата! Ён усміхаецца і крычыць: «Бі іх, дачушка, помсці за мамку!» Яна адказвае, нават не павярнуўшыся: «І за цябе, тата!» А ў адказ: «Я — жывы... І ты жывая... Жывая... Жывая...» Так бясконца паўтараючы, тата бярэ яе на рукі, туліць да сябе. І ні коней, ні фашыстаў. Толькі яны ўдваіх...

Надзейка зноў туліцца шчакою да яго твару і да болю ў грудзях крычыць: «Ты прысніўся мне, тата! Вось прачнуся, і цябе не стане зноў...»

...Надзейка адкрыла вочы, але тата не знік. Ён сядзеў у будане і трымаў яе на руках, тулячы, як у сне, да сябе. Толькі галава яго была зусім сівая. І з вачэй каціліся слёзы, буйныя, па гарошыне...

— Надзейка... Дачушка мая любенькая, жывая...

Яна яшчэ не зусім ачуняла ад сну, азірнулася на людзей, што стоўпіліся ля ўвахода, і раптам дзікі крык вырваўся з яе грудзей:

— Та-а-атач-ка-а-а! Родненькі мо-ой! Не пакідай больш мяне, я не хачу прачынацца, не ха-чу-уу!

Надзейка моцна-моцна абхапіла яго за шыю, плачучы наўзрыд. Вочы яе былі заплюшчаны.

— Ты не спіш, Надзейка,— падступіў да іх дзед Нупрэй.— Вось ушчыпні сябе, ушчыпні. Ну-у!

Яна раптам аціхла, зірнула на ўсіх, правяла рукою па няголеным бацькавым твары, ціха ўсклікнула і страціла прытомнасць...

Ачуняла не адразу. Спярша пачула, як хтосьці гаварыў сакавітым басам:

— Нервовы шок, так сказаць... Ён бывае не толькі ад нечаканага гора, бяды, але і ад радасці, ад раптоўнага шчасця... Разрадка, так сказаць...

Потым адчула цеплыню з бакоў, у нагах. То яе абклалі гумавымі грэлкамі з цёплай вадою. У галаве яшчэ моцна шумела, але думкі паступова праясніліся. «Што ж гэта са мною? — падумала.— Здаецца, сніўся тата... Вось ён стаіць... У сваёй адзежы чыгуначніка, толькі без шапкі, сівы... Жывы тата. Колькі ж гэта разоў я яго сніла? Два? Тры? Ці кожную ноч? І дзед Нупрэй стаіць... А вунь і Мілка...»

— Ты жывы, тата? — спытала ціха-ціха.

— Жывы, Надзейка, жывы...

— От я цябе ўжо каторы раз сню. А мамку — ні разу. Чаму гэта?

Бацька адказаў так, каб адвесці думку пра маці:
— Цяпер ты не спіш...
— Сплю... Цябе з мамкаю бомба забіла. Я ж ведаю... Дзед Нупрэй, ушчыпні мяне,— папрасіла яна старога.
Той падышоў, узяў яе за вуха, лёгенька пацягнуў і ўсміхнуўся:
— Баліць?
— Ага...
— Ну, то і добра...
Надзейка зажмурылася і зноў адкрыла вочы.
— А ты яшчэ разок ушчыпні...
— Не, лепш ты сама ўкусі сябе за палец.
— Паспрабую...— Яна ўклала палец у рот і паціху пачала сціскаць зубы.
— Ну, што, баліць? — скрозь слёзы ўсміхнуўся здаля дачцы бацька.
— Ой, моцна баліць! Татачка!.. Праўда, не сплю я, зусім не сплю...
Яна раптам падхапілася і падышла да бацькі. Убачыла на яго непаголеных шчаках слёзы і ціха прамовіла:
— Не плач, тата... От я цябе і знайшла. Бо сэрцам адчувала — трэба ісці і ісці...
— Ты ў мяне заўсёды малайчына, моцная... А я праходжу міма будана і бачу — стаіць нейкая каза, дужа ж падобная на нашу Мілку,— загаварыў ён як мага спакайна.— Зірнула і яна на мяне ды як замэкае, што ў мяне аж ногі памлелі. Я ў будан, а ты спіш...
— І ты пазнаў мяне — гэткую?
— Якую ж, дачушка?
— Брудную, у лахманах...
— Нічога, адмыем, апранём цябе, родная ты мая гаротніца, мая слаўная партызаначка...
Ужо ўсе адышліся ад іх, бо ў кожнага была свая неадкладная справа, а яны — бацька і дачка — сядзелі ў будане і яшчэ доўга-доўга размаўлялі, расказвалі адно аднаму пра свае невясёлыя прыгоды.
Тут і даведалася Надзейка, што яе тата ў тую памятную чорную нядзелю, вяртаючыся дамоў, быў кантужаны бомбай і праляжаў на адхоне два дні. Яго знайшлі, адвезлі ў раённую бальніцу. А на другі дзень прыйшлі немцы...
— Мамку мы з таварышамі потым знайшлі, пахавалі... Цябе доўга шукалі...
— А мяне Мілка выратавала... І той руды сабака, што загнаў яе пад балота...

Надзейка паклала галаву бацьку на калені, а ён гладзіў яе валасы, і ад гэтага было хораша-хораша. «Я раскажу яму, як ішла да цёткі, як начавала адна па лясах ды хмызняках, як двойчы выратавала ад смерці Пятра Рыгоравіча, як сустрэла Колю і Федзю... Ці прыйдуць яны сюды? Пэўна ж, прыйдуць, бо тут недзе і Колеў бацька...»

— Цяпер мы заўсёды-заўсёды будзем разам? — спытала яна.

— Заўсёды...

— Жыць, каб змагацца...— Яна ўзняла на бацьку вочы і дадала: — Ты адпомсціш фашыстам за мамку.

— Адпомшчу, дачушка...

А здалёк, дзе, відаць, прымалі партызанскую прысягу новыя лясныя салдаты, выразна даносіліся словы: «...Смерць за смерць! Кроў за кроў!..»

Ішоў першы год Вялікай Айчыннай вайны...

1976

# АПАВЯДАННІ

## ЖАНІХ

Хатка старога бакеншчыка Цімоха стаяла на высокім беразе ракі між пахіленых да вады бяроз.

Моцны вецер зрываў яшчэ зялёнае лісце, біў у шыбы сухім пяском. Рака то супакойвалася на момант, то зноў, узрушаная новым парывам ветру, уздрыгвала, маршчынілася нават у зацішку, нібы ёй было холадна.

У вячэрнім небе мігцелі маланкі. Дзесьці з-за лесу, нарастаючы і ўзмацняючыся, набліжаўся невыразны шум...

Цімох зірнуў праз акно на раку, потым — на гадзіннік, што вісеў на сцяне, паклеенай вясёлымі блакітнымі шпалерамі. Служба — не дружба, ехаць трэба...

Ён ускінуў на плечы старую ватоўку, сінюю, зліпялую ад дажджоў і сонца шапку і падышоў да дачкі, якая смажыла на комінку рыбу.

— Ты, Кацька, вячэраць мяне не чакай. Забаўлюся...

Каця глянула на бацьку сваімі вялікімі сумнымі вачамі, у якіх нібы адбілася гэтае трывожнае вячэрняе неба.

— Як жа ты паедзеш, татачка? Глянь, што робіцца на дварэ...

— Э-э, ці першы раз...

Цімох рашуча падышоў да дзвярэй, узяўся за клямку.

Каця паставіла талерку з рыбай на прыпек і выйшла следам за бацькам.

Моўчкі пазіраючы на раз'юшаную раку, яна доўга стаяла на беразе, ля шырокага лазовага куста, высокая, у зялёнай сукенцы, з раскіданымі на плячах бялявымі валасамі.

— Бяжы ў хату! — данёсся з ракі голас Цімоха, але яна не кранулася з месца.

Ёй шкада было бацьку. Стары ўжо ён. Высокі, згорб-

лены, з цвёрдымі ад вёсел далонямі, з пасівелымі валасамі, Цімох выглядаў куды старэй за свае шэсць дзесяткаў год, большую палову якіх ён з дня ў дзень запальваў тут, на Бярозе, ліхтары.

Неспакойная гэта работа. Трэба няспынна сачыць, каб усю ноч свяціліся бакены, бо па рацэ вельмі часта ходзяць буксіры. Сотні плытоў плывуць у нізоўе. Нялёгка яму працаваць, але дошка з надпісам «Пост выдатнай якасці» шмат год вісіць на яго хатцы, што прытулілася да стогадовай бярозы на самым беразе ракі. Адзін Цімох ведае, чаго каштуе яму гэтая дошка. З дня на дзень адчувае ён, што нямеюць ад вёсел рукі, цяжка ўжо гнаць лодку супраць цячэння. А яшчэ цяжэй залезці на слупок ды, абхапіўшы яго левай рукой, запаліць ліхтар...

Здагадваецца аб гэтым і Каця, ды не хоча пакрыўдзіць бацьку, напомніўшы яму пра новую хату ў вёсцы, куды яны перабяруцца толькі зімой.

Прыгожы тут куток.

З высокага берага далёка-далёка відны азёры. Яны цягнуцца побач з ракой на цэлыя кіламетры. У хмызняку, які ахінае азёры, кожны год знаходзяць прытулак дзікія качкі. А з правага боку ракі стаіць бор, чысты, як сад...

Любіць Каця гэтае ўрочышча. Любіць выйсці да ракі веснавым пагодлівым ранкам, калі прачынаецца вада і разам з крыгамі гоніць у нізоўе цэлыя дрэвы, дзесьці вырваўшы іх з падмытага берага; любіць выйсці летнім вечарам, калі, нібы спаборнічаючы між сабой, несціхана, да ўсходу сонца, пяюць у кустах салаўі, а з бору даносіцца задорнае, адрывістае «ку-ку»; любіць выйсці да ракі восенню, калі, нахіленыя над ракой, пажоўклыя бярозы задуменна глядзяць на свой адбітак у крышталёвай, як сляза, вадзе, а чароды чорных, нібы загарэлых за лета, шпакоў і імклівых, напалоханых першымі стрэламі качак хмарамі праносяцца над лугам, устаўленым стагамі...

Калі Цімох сеў у лодку, вецер на рацэ, здавалася, загуў яшчэ мацней. Буйныя рэдкія кроплі дажджу забулькалі на паверхні ўзрушанай ракі. Лодка не слухалася вясла, вецер гнаў яе на сярэдзіну, круціў, нібы трэску.

«Не даеду...» — трывожна падумаў Цімох і, сабраўшыся з сілай, звярнуў у заціша, за лазняк. У той міг раскалолася громам неба, адразу лінуў моцны дождж. Сярод гэтага грому і шуму дажджу да старога данёсся далёкі вокліч:

— Дзядзька Цімо-о-ох!..

Ускінуў ён галаву і заўважыў, што ўсе яго бакены паблісквалі агеньчыкамі. Працёр вочы шурпатай далоняй — не, не здаецца.

«Хведар... Ён запаліў»,— з задавальненнем падумаў Цімох, моцна трымаючыся за лазіну, каб не сагнала лодку. І добра, што ішоў дождж. Нават Каця, калі б яна цяпер зірнула на бацьку, не адрозніла б на яго твары драбнюткіх слязінак ад дажджавых кропель...

Хведар, сын удавы Аўдоцці, ужо даўно памагае Цімоху запальваць ліхтары. Ён надзейна робіць гэтую справу. «Вучуся пакуль. А там і вас падмяню, бакеншчыкам стану»,— не раз гаварыў Хведар. Спачатку Цімох не звяртаў на гэта асаблівай увагі, думаў, што хлопец завіхаецца для пацехі, але, калі аднойчы начальнік зоны намякнуў яму пра пенсію і сказаў, што пост можна было б даручыць Хведару,— стары вельмі моцна пакрыўдзіўся. Ён, пакуль жыве, ні за што не даручыць гэтую справу другому, асабліва — Хведару. Хлопец ён нішто сабе, дужы. І з выгляду дарма: бялявы, з вясёлымі блакітнымі вачамі і заўсёды смуглявым ад загару тварам, статны сабою. Усё ў яго хутка робіцца, нібы агнём гарыць. І старому здавалася, што ён нейкі легкадумны.

Дараваў бы Хведару Цімох недахопы маладосці, калі б ён на Кацю не заглядаўся. У Каці не такія жаніхі былі, ды яна адмовіла! Аднаго толькі Івана Качана, іх даўняга знаёмага, Каця як быццам паважае. Вялікая надзея ў Цімоха на гэтага чалавека! А то — Хведар... «Хлапчук нейкі... Ракаў на жабу з малымі ловіць, на каня сядзе і то праедзе не так, як людзі, а задам наперад. Я табе, брат, такую Кацю дам, што не ўведаеш, дзе і ракі зімуюць!» — усё больш і больш злаваў стары, гонячы, калі сціхла навальніца, лодку дамоў. Злаваў, нібы нават і ў яго старасці быў вінаваты Хведар...

У гэты вечар ён хутка вярнуўся дамоў. Грукнуўшы ў сенцах вяслом і скінуўшы там ватоўку, Цімох зайшоў у хату. Каця ўстала з-за стала яму насустрач. На яе твары было здзіўленне і спалох.

— Што, татачка? — насцярожана спытала Каця.

— Нічога! — непрыязна адказаў стары.— Быццам і не ведаеш...

— Што — не ведаю, тата?

— Не ты яго падгаворваеш дапамагаць мне? Га?

— Каго?

— Хведара — вось каго... Усе ліхтары пазапальваў,

трасца яго матары! — Цімох сеў на лаву і пачаў скідаць гумовыя боты.— Так і рымсціцца на маё месца...

— Федзя? — прасвятлелі Каціны вочы.— Вячэрай, тата, я мігам прыбяру ў хаце.

Яна заспяшалася, пачала мітусіцца па хаце, але пільнае вока старога ўлавіла, што дачка больш прыбіраецца сама, бо ў хаце і так усё ўпарадкавана.

«Няўжо ёй сапраўды падабаецца гэты лайдак?.. Хутчэй бы той Качан сватаўся, што ён сабе думае, не маладзенькі ўжо. Назваўся жаніхом ды знік на паўгода»,— думаў у злосці Цімох.

Лайдаком Хведар не быў, гэта стары добра ведаў. Ён заўсёды браў самую цяжкую працу. Нават цяпер косіць там, дзе вада па калені...

У гэты момант дзверы паціху адчыніліся і ў іх паказалася мокрая бялявая галава з вясёлымі вачамі.

— Можна ў вас абсушыцца падарожнаму? — жаласліва спытаў Хведар і, мокры да ніткі, ступіў у хату.

— Калі ласка, калі ласка, таварыш падарожны! — засмяялася Каця, але стары адразу сапсаваў гэты добры настрой.

— Яшчэ хоць адзін ліхтар запаліш — утаплю! — адразу накінуўся ён на хлопца.— Не дачакаешся, калі Цімох здасць свой пост другому. У мяне яшчэ больш сілы, чым у цябе, лайдака...

Збянтэжаны такой сустрэчай, хлопец не зрушыў з месца. Каця падышла да яго, павярнулася тварам да бацькі:

— Ну, тата! Ён жа ад шчырага сэрца. Ці так трэба сустракаць чалавека? А-ат...

— Не твая справа, Кацька! — буркнуў у адказ Цімох.

Хведар ступіў крок наперад, твар яго быў суровы.

— Добра, дзядзька Цімох,— ціха прамовіў ён.— Я хацеў як найлепей. Калі вам гэта непрыемна, не буду.

І, не надзеўшы шапкі, выйшаў. Каця аклікнула яго, потым пабегла ў сваю бакоўку і заперлася на кручок. Цімох сеў да стала, але вячэра ўжо астыла. Так і сядзеў ён, не датыкаючыся ні да чаго рукамі, а на сэрцы было цяжка. «Глядзі, Цімох, уладкуй Кацьку як след, не абы з рук»,— прыгадаліся яму словы нябожчыцы жонкі...

Стаялі цёплыя ціхія дні. На Цімохавым хутары кожны дзень з'яўляліся новыя рыбакі.

У адзін з такіх дзён, перад вечарам, каля дома старога

бакеншчыка раптам загрукатаў матацыкл. Цімох адчыніў акно і ўбачыў даўно жаданага госця, чалавека год пад трыццаць, сярэдняга росту, з чорнымі, крыху кучаравымі валасамі і мужным загарэлым тварам. Гэта быў Качан, Кацін жаніх...

— Іван Андрэевіч! — радасна ўсклікнуў Цімох.— Нарэшце трапілі да нас, ліха вашай матары! Ну, ідзіце ж у хату, ідзіце...

— Лячу, дзядзька Цімох! — Качан паставіў матацыкл на дварэ, узяў паходны клунак з сабой і зайшоў.— Дзень добры, бацька!..

Яны прывіталіся. У хаце было ўтульна, чыста, быццам даўно тут падрыхтаваліся да гэтай сустрэчы. На століку ў куце стаяў гладышык з кветкамі.

Іван Андрэевіч паклаў свой клунак на другі стол, каля парога, і ў захапленні акінуў позіркам хату.

— Што, падабаецца мой куток? — хітра прыжмурыўся стары.

— Вельмі! Я так сумаваў, так сумаваў... А хата ўсё тая ж,— зазначыў госць.— Толькі вы, дзядзька Цімох, крыху пастарэлі.

— Гады ўжо, Іван Андрэевіч, нічога не зробіш,— развёў рукамі Цімох.— Ну, а вы як маецеся? Усё там жа загадчыкам раённага Дома культуры?

— Пакуль там. Але хутка, відаць, у вобласць перабяруся.— Качан прайшоўся да століка, панюхаў кветкі, сеў на шырокую лаву. Ён хлусіў. Ён ужо даўно не працуе загадчыкам раённага Дома культуры. Пасля таго як яго звольнілі, Качан змяніў некалькі прафесій. Цяпер жа ён вырашыў пашукаць шчасця ў сямейным жыцці...

— Праўда, бацька, вы дужа пастарэлі. Вам бы цяпер адпачываць на беразе з вудамі,— зноў загаварыў госць.— Няма тут каму пра вас паклапаціцца.

«І гэты гусь пра тое ж... Паклапаціцца якраз ёсць каму»,— пакрыўджана падумаў стары, але змоўчаў. Гэты — не Хведар...

— А дзе ж Каця? — нібы між іншым, спытаў Качан.

— Зараз прыйдзе. На лузе сёння...

Качан, які ўжо не раз бываў у хаце бакеншчыка, адчуваў сябе як дома. Прайшоў да парога і дастаў са свайго мяшка паўлітэрку.

— Ну, што ж, Цімох Міхайлавіч, пакуль яна прыйдзе, вып'ем за шчасце вашай дарагой дачкі!

«Нарэшце!» — шырока ўсміхнуўшыся, падумаў Цімох.

Узяў з паліцы ля печы міску і пачаў адкрываць памасніцу ў падлозе.

— Там, пад памостам, гурочкі ў нас, каб не перасаліліся... І грыбкі ёсць. Леташнія, думаеш? Паспытаеш — скажаш, што за смак!

Стары сам не прыкмеціў, як перайшоў з госцем на «ты». Ён з усяе сілы падымаў новую важкую дошку. Яму было нязручна і цяжка, а Качан нават не крануўся з месца. «Федзька той бы ў момант падхапіў, а гэтаму, відаць, нязручна»,— падумаў Цімох, з-пад густых навіслых броваў пазіраючы на свайго зяця. Той быў апрануты ў новенькі, не для рыбы, гарнітур, сядзеў на лаве і спакойна курыў.

— Я вам вось што скажу... Грошай зарабляю шмат, работа, самі ведаеце, чыстая, а радасці ў жыцці няма. Сумна,— праз зубы гаварыў Качан, абыякава пазіраючы на Цімоха, які з вялікім намаганнем нарэшце падняў памасніцу.— Няма добрай гаспадыні на гэтыя грошы. А калі б, скажам, ваша дачка...

Цімох даўно чакаў гэтых слоў, але цяпер яны, надзіва, не кранулі яго душу. Не так яны павінны быць сказаны! З глыбіні душы, шчыра, а не тонам гандляра...

І тут раптам дзверы адчыніліся. На парозе стаяла сама Каця. Яна была ў зялёнай старой сукенцы, з залапленым рукавом, чырвоная ад хуткай хады, бадзёрая. Зірнуўшы на Качана, яна адразу здагадалася, што гутарка ішла пра яе. Дзяўчына паволі скінула з плячэй касынку і падышла да стала.

— Добры дзень, Іван Андрэевіч. Зноў рыбу лавіць? — сарамліва хаваючы залаплены рукаў, прамовіла яна.— А я вось якая... Сена грэблі сёння, дык і не пераадзелася...

Качан устаў і прывітаўся за руку. Не выпускаючы маленькай яе далоні, прамовіў у захапленні:

— Вы ў любым адзенні прыгожая, Каця! Сядзьце з намі вось тут, пагутарым...

Кінуўшы позірк на паўлітэрку, Каця паволі, але настойліва вызваліла сваю далонь з моцнай рукі Качана.

— Пачакайце, я хоць памыюся крыху.

Яна ўзяла ручнік і пайшла да ракі. Там яе чакаў Хведар...

А калі яна вярнулася ў хату, Качан з бацькам ужо даўно дапілі тую паўлітэрку. На стале стаялі талерка з агуркамі ды кансервы, да якіх ніхто не дакрануўся.

Качан зірнуў на Кацю мутнымі вачамі і спытаў:

— Нешта вы надта доўга мыліся, Каця? Мы тут чакалі, чакалі... Ды еще вы кансервы! — нібы між іншым заўважыў ён Цімоху.— Шпроты...

Апошняе слова ён вымавіў з такім націскам, што Каця ўсміхнулася і незнарок глянула на бацьку. Качан не заўважыў гэтай усмешкі і погляду. Працягваючы хваліцца сваім жыццём, ён з задавальненнем пасмейваўся.

— У вёсцы ў вас усё без уліку. А горад грошыкі любіць. На відэлец менш рубля і не возьмеш. Дык гэта... Вы не адказалі мне, Каця.

— А чаму вас так цікавіць, дзе я была?

Качан глыбока ўздыхнуў і звярнуўся да Цімоха:

— Бацька, скажыце вы...

Каця адчувала, што бацька ведае, дзе была яго дачка. Цяпер ён моўчкі паглядзеў на яе шчокі, поўныя чырвані, на шчаслівыя вочы і думаў аб чымсьці сваім. Яму цяпер цяжка было пачаць гаворку пра Качанова каханне. Не толькі цяжка, але проста немагчыма: спазніўся жаніх...

А Каці і смешна і весела было глядзець на гэтую непатрэбную гульню ў «заручыны». І крыўда не пакідала яе. Няўжо не заўважае ён, стары чалавек, што Каці зусім не падабаецца гэты Качан, што яна кпіць з яго, насміхаецца з яго вучонасці, што ў яе ёсць Хведар?..

— Бачыш, Кацька,— пачаў Цімох,— ты не маладая, ды і я стары, нядоўга пражыву на свеце. Не магу ж я пакінуць цябе так, адну... Нябожчыца маці ў апошнюю сваю часіну прасіла, каб цябе, Кацька, я пакінуў шчаслівай. Вось Іван Андрэевіч... Э-э, ды што там казаць! Хіба ты не бачыш, не разумееш?

Яна абняла бацьку за шыю.

— Бачу і разумею, татачка. Закусіце вось лепш гурочкам. Абодва...

Качан адчуў сябе няёмка пасля гэтых слоў. Яны звінелі ў яго вушах, калолі ў сэрца. Ён толькі забарабаніў па стале пальцамі. Цімох жа сапраўды схапіў з талеркі гурок і пачаў гучна хрумстаць і прычмокваць. Гутарка ўжо не клеілася.

— Я вам, дзядзька Цімох, падарунак прывёз,— неяк сурова пачаў госць.— І Каці... хоць яна і таго...

Качан вылез з-за стала хістаючыся, прынёс рэчавы мяшок, паклаў яго на лаву і дастаў адтуль сярэбраную табакерку.

— Вось! Аж гарыць...— заблішчалі яго вочы.— А гэта Каці, так сказаць, для пачатку...

З гэтымі словамі Качан працягнуў дзяўчыне падарунак — з маленькіх шкляных драбінак пацеркі, якія купіў у раймагу. Але ці то ў дарозе парвалася нітка, ці так яму прадалі ў магазіне, толькі пацеркі тыя гарохам забарабанілі па падлозе. У руках Качана засталася адна голая нітачка. Ён аж збялеў ад жаху, хвіліну стаяў, нібы скамянелы, а потым кінуўся на калені і, поўзаючы па падлозе, пачаў шпарка збіраць драбінкі. Нават прыўзняў памасніцу і сунуў туды руку. І раптам дзікі крык вырваўся з яго грудзей. Качан усхапіўся на ногі і, калоцячыся, падбег да старога.

— Гадзюка! — застагнаў ён.— Мяне ўкусіла гадзюка!.. Я ўзяўся за яе рукой...

Каця не сцярпела і гучна засмяялася. Рагатаў і стары.

— Вы-ы смеяцеся?! — Качан здзіўлена паглядзеў на бацьку і дачку.

— А што ж нам — плакаць? — насмешліва спытаў Цімох.— У нас пад падлогай жывуць вужы, а не гадзюкі, Яны мірныя, лагодныя. Не кусаюцца...

Каця моўчкі выйшла з хаты. Яна ўжо не магла смяяцца з Качана адкрыта: усё ж старэйшы ён, няёмка...

У небе збіраліся хмары. Яны паволі насоўваліся з усіх бакоў, чорныя, з барвовымі краямі. «Зноў будзе навальніца»,— падумала Каця, пазіраючы на дрыготкую паверхню ракі.

— Ён збіраецца...— пачула Каця за плячамі голас бацькі. Павярнулася і моцна абняла яго за шыю.

— Няхай, татка... Не нашага ён статка гусь. Няўжо ты не бачыш?

— Чаму ж не! Я і табакерку яму аддаў. Нязручна з ёю, кісет куды лепш! — адказаў Цімох і, каб змяніць гутарку, дадаў: — Дзе ж гэта Хведар сёння? Мне нешта нямоджацца... Мусіць, ад той гарэлкі, хай яе пярун, млявасць нейкая напала. А запальваць ужо час...

Каця падвяла бацьку да абрыву і, паказаўшы рукой наперад, прамовіла:

— Глядзі ву-унь на той бакен.

Стары глянуў і схіліў галаву: бакен ледзь прыкметна свяціўся чырвоным агеньчыкам...

У гэты момант ля хаты пачулася гучная траскатня матацыкла. А праз хвіліну яна пачала паступова заціхаць.

Дзесьці над лесам ударыў першы гром...

1961

## СУСЕДЗІ

На дварэ было цёмна-цёмна. Дробны дождж суха барабаніў у закураныя шыбы, недзе ў падстрэшшы тонка завываў вецер, зрываючы счарнелую салому. Буль... буль... буль...— наперабой спадаюць у падстаўленыя гладышы буйныя звонкія кроплі. Рыгору здавалася, што кроплі падаюць яму проста на галаву. Як усё гэта абрыдла! Няўжо бацька не адважыцца пайсці ў лес ды зваліць на дранку якую хвою? Сам жа навучаў Рыгора — хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар. А можа, ён дужа баіцца суседа Аднавочкі? Так празвалі панскага лесніка за страчанае вока.

І чуе Рыгор, як бацька паціху злез з печы, запаліў газоўку, не спяшаючыся абуў новыя лапці, ускінуў на плечы старую, дзіравую, як тая страха, світку, засунуў за пояс сякеру і выйшаў на ганак. Так і ёсць! Пайшоў у лес...

А ці лёгка было Паўлу ісці ў такую непагадзь у лес, азірацца на кожным кроку?

І здарылася тое, аб чым мог толькі адзін Рыгор пасля здагадвацца...

Вёска ўжо даўно спала, ціха было і ў суседа. Чорны бор глуха шумеў за гумнамі. Здавалася, што ў такую ноч ужо няма каго баяцца. Ды толькі схаваўся Павел за першай сасной, як хтосьці моцна схапіў яго за каўнер.

— Што гэта сусед робіць ноччу ў лесе? Ці не мае сусед дзе на прыкмеце хвою? — пачуў Павел непрыемны пісклявы голас панскага лесніка Аднавочкі, але чамусьці зусім не спалохаўся. Злосць апанавала, а не страх...

— Вось што, Аднавочка!.. Будзеш брахаць на суседа — другое вока страціш,— спакойна, як мог, адказаў Павел.— Не патрэбны мне твае хвоі...

— Не патрэбны, кажаш...— прашыпеў той.— А я — хе, хе,— сем жывых пнёў бачыў... Жывенькія!

— Прадаў, напэўна, за раку, а на мне выехаць хочаш? Не выйдзе, паганец ты гэтакі... Міхал аднавокі!

Міхал адпусціў Паўлаў каўнер і ўскінуў дубальтоўку.

— Не твая справа, сусед! Ідзём у маёнтак, там разбярэмся,— загадаў ён Паўлу.

Ісці да пана — значыць, апынуцца за кратамі, пакінуць

сям'ю пад дзіравай страхой назаўсёды. Летась вось гэтак трапіў Павел у лапы да Аднавочкі. Гадавалае цяля аддаў, выкупіўся, так і не дачакаўшыся, калі ў хаце будзе сваё малако. Цяпер зноў...

Не, не хацеў ён гэтага. Гэта здарылася неяк само. Выхапіў сякеру з-за пояса і нават не размахнуўся, а так, злёгку, стукнуў Аднавочку на ўзроўні адзінага левага вока. Асунуўся той. І ні крыку, ні енку. Толькі бор, здавалася, сцішыўся на імгненне, а потым зноў зашумеў яшчэ страшней і трывожней...

— Міхал,— ціха паклікаў Павел.— Міхал... Я не хацеў. Бог сведка — не хацеў!.. Я табе і мяжу ўступлю на цэлы метр... Мне б з дзесятак круглячкоў на дранку. А ты — сем пнёў. Навошта мне сем? Уставай, Міхал...

Здаравенны мужчына, кулакі, як дзве доўбні, грудзі, што падушка, а вось зваліўся і ні гуку. Паслухаў Міхалавы грудзі Павел, перавярнуў яго спіною ўгору і заўважыў на скроні чорную пляму. Дакрануўся да яе пальцам і нібы апёкся...

Так і бег з лесу, трымаючы перад сабою руку з акрываўленым пальцам...

* * *

Гніе ў магіле Паўлаў сусед, гніе хата ў Паўла. Салома спаўзае са стрэх усё ніжэй і ніжэй, а гаспадару і справы мала. Ходзіць ён па двары цень-ценем. Схуднеў, пастарэў, аб працы не дбае ані, быццам усё ў яго пароблена, усё дагледжана.

Думае Павел цяжкую думу: чаму людзі на свеце ворагі адзін аднаму? Вось і яны з Аднавочкам. Усё жыццё пражылі ворагамі. Спачатку мяжу не падзялілі, потым — хвою, што стаяла на мяжы. Беднякамі былі, беднякамі і засталіся. Праўда, Аднавочка дужа хацеў разбагацець. А хіба ён, Павел, не хацеў гэтага?..

— Тата, ідзі вячэраць,— пачуў Павел сынаў голас і схамянуўся. «Вячэраць... А навошта вячэраць? Я ж зусім не зарабляю».

Але па звычцы ён зайшоў у хату, з'еў некалькі бульбін з гурочным расолам. І бульба і расол былі горкія як палын. Мабыць, ад таго, што цэлы дзень не выпускаў з зубоў люльку.

Паўлава жонка, ціхая, прыгнечаная горам жанчына, глядзела на мужа і ўпотай выцірала слязу.

— Што з табой, Павел, ці не ўрок часам хто? — не першы раз пыталася яна. У яе балела сэрца ад жалю, але дапамагчы Паўлу не маглі ўжо ні слёзы, ні ласка, ні словы. Ён да ўсяго быў глухі і нямы...

Неўзабаве Павел злёг. Толькі бесперапынны кашаль на палацях за печчу напамінаў сыну і жонцы аб яго існаванні.

...Памятае Рыгор — бацька паклікаў яго да сябе. Лепш бы ён не клікаў! Жоўтая скура, нібы васковая, вочы недзе далёка схаваліся ў чэрапе, пасінелы твар — вось што запомнілася ў той страшны час Рыгору.

— Грыша...— цяжка дыхаючы, прамовіў Павел.— Ты чуеш мяне, Грыша?..

— Чую, тата...

— Дык вось... Запомні на ўсё жыццё: будзеш багаты — будзеш шчаслівы. І яшчэ... Ніколі не бяры замуж... суседавых дачок... ні Вольку, ні Зосю... Грэх! Кроў між намі...— Павел падняўся на руках і, гледзячы на столь, проста перад сабою, як вар'ят, усклікнуў: — Сякера!.. Яна пад ганкам... глыбока... Кроў на ёй, нярушце!..— і зваліўся на падушку.

Рыгор здзіўлена глядзеў на бацьку і нічога яшчэ тады не разумеў. Тут ён заўважыў, як твар бацькі зморшчыўся і застыў у нерухомасці.

— Тата! — крыкнуў ад страху, але Павел нават не зварухнуўся: ён быў мёртвы...

Наста, Аднавочкава жонка, плакала на магіле Паўла, як некалі Марыля плакала на магіле яе мужа. Смерць можа часова прымірыць нават самых заўзятых ворагаў...

Мінуў час...

Неяк аднойчы, калі Рыгор ужо, як кажуць, перайшоў ад пугі да плуга і працаваў на сваім полі, бо пана даўно прагналі, ён спаткаў ля ракі Зосю, малодшую суседаву дачку. Яна стаяла на пясчаным пагорку, а побач ляжала ўвязаная ў дзіравую зрэбную пасцілку трава. Рыгор падышоў да дзяўчыны. Высокі, чарнявы, увесь у бацьку.

— Здарова была, Зося! — прывітаўся хлопец.

Зося, не глянуўшы на яго, адказала:

— І ты б здароў быў, каб так працаваў.

— Нашай кароўцы сена цягаеш? Падарвешся...

Зося ўзняла на яго вочы, поўныя слёз.

— Лепш бы яно здохла, ваша цяля, калі бацька купіў яго...

— А тата і не прадаваў!.. За сасну выкупіўся.

— А от і прадаваў! Паддай лепш, чым крычаць, чуеш, дзіравая страха!..

Зося ўзялася за лясёнку, і з-пад доўгіх светлых веек глянулі на Рыгора добрыя пакутлівыя вочы. Ён міжволі падхапіў ношку і ўскінуў Зосі на плечы. Яна пахіснулася, крыху шырэй расставіла дужыя загарэлыя ногі і ступіла крок наперад. Сэрца сціснулася ў Рыгора. Ад чаго? Што не па сіле дзяўчына нясе ношку? Але ж яна нясе яе сваёй карове, а ў Рыгора нават каровы няма... А ці толькі шчасце ў той карове? Відаць, не соладка жыць на свеце Зосі, калі плача... У чым жа тады шчасце? Бацька казаў — у багацці...

«З-за аднавочкаў бацька загінуў! З-за іх! — раптам падумаў Рыгор.— Карову адабралі, лесу не далі... Не, я адпомшчу ім... За бацьку, за яго пакуты. Не будуць яны папракаць мяне дзіравай страхой...»

Не схавацца ад гэтай думкі! Яна з'явілася нечакана і заглушыла ўсе іншыя думкі і пачуцці. Ён нават узрадаваўся. На душы зрабілася лёгка, нібы хтосьці вызваліў яго з пасткі...

Рыгор сам не памятаў, як апынуўся ля Рудачак. Рудачкі — гэта цёмны дрыгвяністы лес, у якім ні прайсці ні праехаць з-за вываратняў, гэта воўчая яма, поўная гадзюк.

Схаваўшыся за шырокім альховым кустом, Рыгор назіраў, як нівецкія каровы сваімі шурпатымі языкамі вылізвалі апошнія лапіны счарнелай травы. Там жа, ля возера, ён прыкмеціў шэрую світку пастуха. Той, як заўсёды, вудзіў ля аеру акунёў, час ад часу азіраючыся на статак...

— Рабіна...— ціха паклікаў Рыгор карову з карычневымі плямамі на худых баках.

Тая падняла галаву, тупым позіркам уставілася на Рыгора, нібы імкнучыся нешта ўспомніць, даўно забытае. Затым цяжка ўздыхнула і зноў пачала есці. На нейкі момант Рыгор завагаўся. Магчыма, ён пайшоў бы, але ў той апошні момант унутранай барацьбы сэрца з розумам ён заўважыў, як Рабіна, адлучыўшыся ад статка, паволі набліжалася да багны.

...Адагнаўшы карову даволі далёка, Рыгор супакоіўся. Тут цяпер не ўбачыш ніводнай жывой душы. Птушкі і тыя не затрымліваюцца ў гэтым чэзлым драбналессі. Вось апошняя купіна. За ёй — трава, заманлівы зялёны луг, па якім нельга ступіць і двух крокаў. І Рабіна прабегла неда-

лёка. Спачатку пярэднія, а потым і заднія ногі прарэзалі тонкі слой муражыны: чорная гразь выбілася на паверхню і пачала бязлітасна паглынаць сваю маўклівую ахвяру...

Рыгору адразу стала страшна, і ён пабег праз Рудачкі, хмызняком прабраўся да ракі, а адтуль ужо вярнуўся ў вёску на віду ва ўсіх, хто працаваў на полі. «Няма ў нас, няхай не будзе і ў вас»,— супакойваў ён у думках сябе...

На суседнім двары Зося зграбала сена. На небе ўжо збіраліся хмары, і яна спяшалася. Яе калісьці стракатая, а цяпер проста злінялая суkенка і тугія каштанавыя косы, у якіх былі ўплецены сінія, таксама злінялыя, істужкі, і нават шырокія густыя бровы — усё было аблеплена дробным сухім сіўцом. Рыгор спыніўся ля плота, што раздзяляў іх сялібы, і залюбаваўся дзяўчынай.

«Ніколі не бяры замуж суседавых дачок...» — чамусьці зноў прыгадаліся словы бацькі. Рыгор не раз, успамінаючы гэтыя словы, імкнуўся ўцяміць, дзеля чаго яны сказаны, які ў іх закладзены быў сэнс.

І ён шукаў адказу, прыглядаўся да Аднавочкавых дачок, успамінаў мінулае. Але яно было зацягнена туманам часу. А дочкі былі прыгожыя... Узяць хоць бы Зосю. Дзе ёй ні даводзілася за лета касіць і жаць! Яе кусалі камары і машкара, асака рэзала рукі, паліла сонца, да касцей прабіралі вятры і дажджы, а яна, нібы той наліўны яблык, і ружовая, і прыгожая...

Цяпер, гледзячы, як яна, абліваючыся потам, спяшаецца сабраць са двара сівец, Рыгору да болю ў душы стала шкада яе, шкада не таму, што яе праца — цэлае лета ў пошуках жмені травы — прапала марна, што няма ўжо каму есці гэтую траву. Рыгор у думках паставіў сябе на месца гэтай сціплай, запрацаванай дзяўчыны. І яму стала зноў страшна за сваё злачынства.

Ён хацеў ужо ісці, але Зося заўважыла яго і падбегла да плота.

— Рыгор, кажуць, панскіх кароў будуць раздаваць. Пацікавіўся б. Ды і пра сена варта падумаць,— адкінуўшы аголенай рукой за вуха валасы, сказала яна.

— Гэта праўда, Зося?! — ні то спытаў, ні то ўсклікнуў Рыгор. Яна ўсміхнулася.

— Праўда.

— І вам... дадуць?

Зося паглядзела на яго недаўменна.

— А нам не трэба. Я дужа рада, што і табе цяпер прыйдзецца пакасіць па дзялянках!..

— Не... Не трэба мне карова!

Рыгор сціснуў кулакі, адбегся ад плота і, азірнуўшыся на збянтэжаную дзяўчыну, пусціўся полем у бок Рудачак...

На месцы, дзе была ўгразла Рабіна, цяпер чарнела вялікая лужына. Рыгор апусціўся на купіну і падпёр галаву рукамі.

«Не бяры суседавых дочак... Грэх... Сякера!.. Яна пад ганкам... глыбока...» Дзе ён чуў гэтыя словы? Ён так часта ўспамінае іх, што ўжо забыўся, ад каго ён чуў гэта. Забыўся ці мо хацеў забыцца? І што значыць тая сякера, што пад ганкам? Бацька трызніў ці там сапраўды ёсць сякера?..

Позна ўвечары, калі з боку возера да вёскі даносіўся гук пастуховай берасцянкі, Рыгор адкапаў пад ганкам старую ржавую сякеру. Гледзячы на яе, ён упершыню зразумеў сэнс прадсмяротных бацькавых слоў. Гэтую сякеру Павел браў у тую далёкую восеньскую ноч з сабой у лес. А назаўтра ж прывезлі з лесу забітага Аднавочку...

* * *

— ...Едуць! Вяселле едзе! — раптам закрычалі адусюль, і Рыгор Каляда схамянуўся. Гучныя пералівы гармоніка і песні поўнілі вёску. «Камсамольскае вяселле... Дзіўна»,— падумаў Рыгор, адчыняючы шырэй свае вароты.

А па вёсцы, разганяючы курэй і гусей, імчаліся фурманкі, перапоўненыя моладдзю. Коні сытыя, збруя новая, на дугах — кветкі!

Зося, суседка, поўная жанчына з чырвонымі шчокамі, са шчаслівай усмешкай на твары, падбегла да Рыгора.

— Ці не рады ты, сваток, шчасцю нашых дзетак? Што за выгляд! — тупнула яна нагою і засмяялася.

Рыгор паглядзеў на яе, пасівелую, як і ён сам, але поўную шчасця, і радасць вярнулася да яго.

— Ды я, свацейка, дужа рады, што мой Іван і твая Надзя...— ён акінуў позіркам сваю прасторную хату на восем вокан і дадаў: — Вось тут знойдуць сваё шчасце... Сапраўднае... Не так, як мы, Зося...

Яна зразумела Рыгора, скрывіла вусны і прыпала тварам да яго грудзей...

Ніхто не звярнуў на іх асаблівай увагі: на вяселлі заўсёды плачуць ад шчасця.

1961

# ДА ЗАЎТРАГА...

Яшчэ з раніцы Пятру не сядзелася дома.

Прадчуванне нечага незвычайнага хвалявала ўвесь дзень. Яго цягнула да людзей, на шумлівыя вуліцы горада. І не таму, што было свята. Дзень Перамогі, вядома, хвалюючы дзень, але сёння ён быў нейкім асаблівым, надзвычай радасным. Неяк вастрэй адчувалася радасць паспяховай абароны дысертацыі, віншаванні сяброў. Да таго як стаць доктарам філалогіі, Пятро многія гады аддаў сваёй любімай справе. Іменна — аддаў, нягледзячы ні на што. Было цяжка, было да болю крыўдна, калі нават жонка, здаралася, уцякала да маці, пакінуўшы яго аднаго са сваімі кнігамі і канспектамі. Цяпер яна ўжо не пакіне ніколі, цяпер яна ганарыцца ім, быццам ён не той жа, што быў дагэтуль. Пятру часта здавалася, што цяпер для жонкі ён проста дарагая рэч, якую яна нечакана набыла па таннай цане. І гэта часта засмучала. Потым, з часам, абвыкся са сваёй думкай, хоць усё часцей і часцей жонка, здаралася, папракала:

— Які ты вучоны... у двух пакойчыках жывеш... А якая ў нас мэбля? Як у самых звычайных...

Калі аднойчы жонка паўтарыла свой папрок, ён дабрадушна прамовіў:

— Зінок, пойдзем пагуляем у парк.

Яна нібы працяла яго сваім калючым позіркам:

— Нешта ты сёння вельмі ўрачысты. Партрэцік — хоць у рамку ўстаўляй.

— А таму, Зінка, што сёння хораша мне.

— Не задзірай носа.

— Чаму? Я ж не абы-хто, а доктар навук,— умысля падкрэсліў Пятро.

— Твая вечная вучоба мне вельмі многага каштавала. Можа, самага дарагога...

Пятро змоўк.

Ён ведаў, на што намякае Зіна. Раней яна не хацела мець дзіця, каб не «звязваць рук», а цяпер ужо, каб і надумалася, позна: яна асталася бяздзетнаю.

Пятро часта лавіў сябе на думцы, што Зіна не любіць яго, у свае дваццаць восем яна выйшла замуж, каб часам не застацца векавухай. А ён? Ці кахаў Зіну, як некалі, даўным-даўно, кахаў другую?

«Тое ніколі не паўторыцца, ніколі...»

Пятро міжволі крануў рукою свае парадзелыя валасы. Гэта ж такі густы чуб быў, а што засталося!

Як ні рваўся Пятро на вуліцу — усё не мог сабрацца. Калі яны нарэшце выйшлі,— звечарэла, там-сям пачалі запальваць агні. А на душы ў яго было ўсё гэтак жа хораша, хвалююча.

— Не ляці так. Мне за табою не ўгнацца.

Жонка гаварыла гэта ўжо недзе ззаду. Ён нібы забыўся, што яны ідуць разам, і прыбавіў кроку. Яго сёння чамусьці вельмі цягне наперад, яму проста хочацца бегчы, а Зіна ледзь цягнецца.

Вось і парк.

Старыя дрэвы нашэптваюць былое, не забытае з гадамі. Тут дыхаецца лягчэй: рака, шматлікія раўчукі і фантаны аддаюць паветру вільгаць і збіраюць цяпло.

— Пойдзем у зялёны тэатр,— сказала жонка і цяпер ужо сама пайшла наперад.

Яна малая ў параўнанні з Пятром, кругленькая, нават высокія шпількі служаць нібыта адваротнаму: яны яшчэ больш падкрэсліваюць яе нізкі рост.

Ля самай брамкі, дзе збілася даволі многа народу, Пятро на нейкі момант згубіў жонку.

І адразу яму на плячо лягла чыясьці рука. Ён азірнуўся і спачатку нічога не ўцяміў. Што з ім здарылася? Ногі раптам аслаблі, у вушах пачуўся звон, нібы хто нечакана стрэліў яму проста ў твар. Пятро ўважліва зірнуў наперад. Перад ім стаяла высокая чарнявая жанчына ў светлым лёгкім касцюме, які так пасаваў да яе строгай прыгожай паставы. На акуратна зачэсаных на стары манер валасах, з «куксай» ззаду, сям-там роўнымі пасмамі свяцілася сівізна.

— Добры вечар, Петрык,— як некалі, назвала яго жанчына.— Я ўсё ішла за табою і думала: ты ці не ты?

— Галя?! Бог мой, адкуль ты ўзялася! — нарэшце хрыпла прамовіў Пятро.— Я сёння ўспамінаў цябе...

— Толькі сёння? — ледзь прыжмурыла яна вочы.

— І сёння,— паправіўся ён.— Ты адна ці з мужам?

— Я была далёка адгэтуль і вельмі доўга хварэла,— ухілілася ад прамога адказу Галя.— Ты помніш мае апошнія словы?

Ён помніў. Ён проста не верыў у цуда, запозненае цуда, якога чакаў доўгія гады.

— Пе-ця! Чаго ты там стаіш? — паклікала з-за варот жонка.— З кім гэта ты там?

— Іду! — механічна вымавіў Пятро і ўзяў Галю за руку.— Я хачу з табою сустрэцца... без яе,— кіўнуў галавою за вароты.— Скажы толькі дзе...

— Тут. Заўтра. У гэты ж час...

— Ясна. Бог мой, столькі шчасця ў адзін дзень. Так і звар'яцець нядоўга. Да заўтрага.

— Да заўтрага!

— Пе-ця-я-а-а!

— Іду-у!

Яны сядзелі недзе на восьмым ці дзевятым радзе, а за імі, праз два рады, сядзела Галя, і Пятро ўсёй сваёй істотай адчуваў, што яна глядзіць на іх, глядзіць уважліва, не зводзячы вачэй. Ён не чуў музыкі, якая далятала з эстрады, не бачыў артыстаў. «Што б са мною ні здарылася, ведай, што я кахаю цябе. Чакай і помні...» Так гаварыла некалі Галя. Ён зноў — у які ўжо раз! — да драбніцы ўспомніў пражытае...

...Пеця ішоў дарогай вайны. Адзін, забыты людзьмі і богам, чатырнаццацігадовы светлавалосы хлопец. Дзіцячы дом, у якім Пеця прабыў доўгія пяць год пасля таго, як трагічна загінулі ў пажары яго бацькі, цяпер не існаваў. Яго разбамбілі фашысты, разбамбілі дашчэнту, нібы гэта была армейская казарма ці якая крэпасць. Меншых справіліся вывезці некуды, а большыя, такія, як ён, разышліся па трывожных дарогах у пошуках сваякоў або проста добрых людзей, у якіх з дапамогаю сякога-такога ўмельства можна было б перачакаць ліхалецце.

Дарога, па якой ішлі на ўсход людзі і бясконца рухаліся перапоўненыя грузавікі, прывяла Пятра да адзінокай хаткі дарожнага майстра. Пеця зайшоў проста так, адпачыць, напіцца вады. А калі гаспадар будзе мець ласку, ён, вядома, не пашкадуе кавалачка хлеба.

Гаспадаром аказаўся высокі белабароды стары з пасівелымі скронямі, дабрадушным хударлявым тварам і жывымі сінімі вачамі. Ён стаяў сярод невялічкага свайго двара, між дашчаным хлевам і хатай, склаўшы на грудзях рукі, і сумна ўзіраўся на дарогу.

Заўважыўшы Пецю, стары схамянуўся, ступіў некалькі крокаў яму насустрач.

— Што, малец, скажаш? — яго сумныя вочы падабрэлі.

— Ды вось...— разгубіўся Пеця.— Падбіўся крыху.

— А дзе ж тваe астатнія?

— Адзін я... Быў у дзіцячым доме,— адразу, каб пазбегнуць лішніх роспытаў, растлумачыў Пеця.

— І куды цяпер думаеш падацца?

— Не ведаю... У мяне ёсць цётка, але яна аж за Масквою, недзе на Урале.

Стары ўважліва паглядзеў на яго, паклаў руку на плячо.

— Мо аставайся ў мяне...— сказаў добразычліва.— Памочнікам будзеш, а дачцэ — малодшым братам. Удваіх мы жывём, без гаспадыні. Так што падумай...

Ды што там думаць! Гэтага Пеця і чакаў, але цяпер чамусьці разгубіўся, сэрца сціснулася ад жалю да самога сябе, да свайго адзіноцтва. Ён адвярнуўся, каб схаваць няпрошаныя слёзы. І ўсё ад таго, што некаму будзе братам, што людзі яго не кідаюць.

Потым, калі ўжо добра пазнаёміўся з гаспадаром, Пеця сядзеў за дубовым сталом і апетытна ўмінаў хлеб з гарачай духмянай капустай. І яна нагадала яму гэткую ж нізкастолую хату з вялізнай печчу, стол з белым абрусам, маці, што завіхалася ля печы, і бацьку, які заўсёды вялікімі лустамі кроіў свой, сялянскі хлеб. Ад раптоўных успамінаў на душы стала цёпла і хораша, было такое адчуванне, быццам ён на хвіліну забег дамоў...

Памагаць дзядзьку Хведару, гаспадару-дарожніку, не было асабліва чаго. Цяпер ён і сам не ведаў, за што ўзяцца, і таму адразу пасля полудня яны ўдвух сядзелі на тоўстых бярвеннях, складзеных каля хлява, і ўсё глядзелі на дарогу.

І ў мірны час дарога была бойкая, а цяпер на ёй — як на мурашынай сцежцы.

Часам наляталі самалёты з чорнымі крыжамі, і тады дарога ўраз пусцела, людзі і машыны туліліся да хмызу, да кучаравых бяроз, якія роўнымі радамі стаялі абапал. Ад жытла Хведара да дарогі было метраў якіх сто, і таму хваляваша асабліва не варта было, але яны ўсё ж забягалі ў склеп, які знаходзіўся тут жа, пад хатай.

З-за хлява, з боку хвойніку, які амаль падступаў да хутара, выйшла цыбатая дзяўчына з цяжкай ношкай калошніка. Пеця адразу пазнаў своеасаблівую балотную траву, за якой некалі не раз хадзіла і яго маці, хадзіла ў такія дні, калі зусім не было чаго кінуць парсюкам у карыта.

— Цяпер я буду памагаць ёй насіць траву! — адразу

загарэўся Пеця, шкадуючы дзявочыя плечы сваёй нарачонай сястры. І падаўся насустрач.

— Ды ўжо ж... Сала будзем есці разам,— згадзіўся стары і патупаў у хлеў, дзе даволі настойліва рохкаў парсюк.

Вось дзяўчына ўзышла на двор і перад хлевам кінулася на спіну, проста на ношку. Нейкі час яна ляжала нерухома — аддыхвалася. Пеця адразу хацеў памагчы развязаць на грудзях вузел, але зірнуў на яе змакрэлы твар і, зачараваны яго прыгажосцю, ужо не мог крануцца з месца.

— Ну, чаго стаіш? Памагай, калі кінуўся,— сказала яна ціхім голасам, і Пеця дрыжачымі рукамі пачаў тузаць непадатлівы вузел. Потым нахіліўся, ірвануў рог лясёнкі зубамі, пры гэтым нечакана дакрануўся падбародкам да дзявочых грудзей.

— Дзяўчо ты, а не хлопец! — засмяялася яна, лоўка выбіваючыся ад лясёнкі. Стаяла і ўсміхалася, чарнявая, крышку вышэйшая за яго, сінявокая прыгажуня. А ён не ведаў, куды схаваць свае такія нязграбныя рукі, свае вочы.

— Як жа цябе завуць?

— Пятро... Захаравіч.

— Петрык, значыць... А мяне — Галіна Хведараўна.

— Ён пакуль будзе жыць у нас,— кінуў з хлява стары.— Так што не крыўдзі, Галька, свайго брацíка.

— А я і не крыўджу. Ён не хоча памагчы мне занесці лясёнку ў хлеў...

— Я? Не хачу-у? — Пеця паддзеў пад вузлы ношкі правую руку і мігам аднёс траву ў хлеў.

— Бач ты! — шчыра здзівілася Галя, ідучы ўслед.— Цяпер і праўда мне будзе лягчэй...

Пеця ляжаў на духмяным сене, якога сам панасіў на вышкі хлява з хмызнякоў, і не мог звесці вачэй. Не таму, што ў начным небе натужна гулі чужыя самалёты. Да іх трывожнага гулу ён ужо крыху прывык. Вайна неяк непрыкметна для яго пракацілася побач. Па дарозе ўжо ходзяць плямістыя нямецкія машыны і танкі з крыжамі. Яны прыйшлі знянацку, у адну ноч... Пеця ж не мог заснуць зусім па іншай прычыне. Тут, у гэтай цемры, яму выразна бачыўся Галін твар з вялікімі прыгожымі вачамі, з ружовымі, быццам падфарбаванымі, вуснамі.

Пасля першых дзён страшнай вайны, пасля ўсяго, што ён перажыў, Пецю здалося, што ён нарэшце трапіў у надзейнае месца, якое стала для яго даражэй за ўсё на свеце. Цяпер ужо ён ведаў, што зноў закахаўся і што нялёгка будзе зноў расстацца з гэтым другім, яшчэ мацнейшым каханнем.

Дзіўна ўсё неяк у яго.

Першы раз гэта была выхавацелька, на цэлых адзінаццаць гадоў старэйшая за яго, тады яшчэ дзевяцігадовага хлопчыка. Яму проста падабалася глядзець на ружовы дзявочы твар, на вясёлыя, крыху гарэзныя вочы. І калі на тых вачах аднойчы ён убачыў слёзы, то, сам нават не ведаючы чаму, расплакаўся. Так ніхто і не даведаўся пра сапраўдную прычыну дзіцячага плачу.

Цяпер, праз столькі год, яе замяніла Галя. Яна таксама старэйшая за Пецю. Праўда, не на столькі, як тая выхавацелька, і ён цяпер не такі. Галі ўжо стукнула васемнаццаць, яна, вядома, глядзіць на Пецю як на хлапчука, хоць ростам яны амаль роўныя, хоць у яго голасе ўжо чуюцца басавітыя ноткі. Няхай бы лёс звёў іх крыху пазней, калі б, скажам, Пятру стукнула дваццаць. Нейкія лішнія чатыры гады тады б не браліся ў разлік, але цяпер...

Вядома, пра такія яго пачуцці ніхто не павінен ведаць, інакш усё страціць сваё хараство. І Галя таксама не павінна здагадвацца. Ён будзе любавацца ёю толькі ўпотай.

Наіўнае хлапчанё! Ён нават і не падазраваў, што бяда сцеражэ яго на кожным кроку, кожны дзень.

Аднойчы пад вечар з-за хлява выйшаў высокі белавалосы вайсковец. Яго левая рука была забінтавана і трымалася на павязцы. Убачыўшы ля ганка Пятра, ён спытаў:

— Немцы да вас часта наведваюцца?

— Яшчэ не было,— адказаў Пеця, уважліва прыглядаючыся да чалавека.

— Цябе як завуць?

— Пятро.

— Значыць, цёзкі мы... А хто ў хаце?

— Дзядзька Хведар.

Вайсковец адразу пакіраваў у хату.

Як выявілася, яму быў патрэбен ёд і кавалак чыстага паркалю, каб перавязаць рану. Усё гэта знайшлося. А спрытныя Галіны рукі ў момант забінтавалі рану.

І тут здарылася тое, аб чым ніколі ў жыцці не пада-

зраваў Пеця. Спярша яму не спадабалася, што яго цёзка вельмі ўважліва пазірае на Галю.

— Казаў, што ў хаце дзядзька,— падміргнуў ён Пецю,— а тут — цётка! Ды яшчэ якая! Казачная царэўна. Быць такой прыгожай цяпер, я вам скажу, вельмі небяспечна.

— А што, хіба мяне з'ядуць?

— З'есці не з'ядуць, але... Фашысты — яны, як звяры. Прыйдзецца ўзяць вас пад сваю ахову!

Паранены нахіліўся над Галяй і пацалаваў яе ў смуглявую шыю.

— Ой, што вы! — засмяялася і пачырванела яна.

Пеця куляй выскачыў з хаты. Ён ледзь не заплакаў ад крыўды, ад сваёй бездапаможнасці.

Чаму яна не адхілілася, няўжо ёй прыемна было, што ён пацалаваў? І чаму яна пачырванела?..

Грукнулі дзверы. З хаты выйшлі вайсковец і Галя. У яго быў вельмі шчаслівы твар, а Галя глядзела долу, сарамліва захінуўшыся хусткай.

Яны моўчкі прайшлі за хлеў і спыніліся. Вось ён кашлянуў, і адтуль пачулася нейкая валтузня.

— Пусціце, не трэба так,— вырывалася і прыглушана прасілася Галя.

— Я буду прыходзіць да вас... У лесе збіраецца партызанскі атрад. Хачу, каб вы былі толькі маёю...

— Што вы робіце... Пусціце!..

«Ён цалуе яе!» — здагадаўся і аж пахаладзеў Пеця. Ледзь стрымаўся, каб не крыкнуць, ледзь устаяў на нагах. Хапіўся за вілы, прыстаўленыя да сцяны, і яны гучна дзынкнулі аб каменны круг.

— Пусціце, нас бачаць...

Галя прабегла па двары і спынілася ля ганка. Хустка яе з'ехала на шыю, адкрыўшы ружовыя шчокі. Рот быў раскрыты, вусны ільсніліся...

Пеця рашуча выйшаў са свайго схованшча, стаў сярод двара, нахмураны, зніклы.

— Я... не пушчу яго больш сюды!

Галя зірнула на яго насмешліва, дабрадушна.

— Ці не думаеш сам стаць маім кавалерам?

— Кавалерам?! — У яго аж перахапіла дыханне.— Гэта груба... У мяне сэрца па табе баліць, а ты...

Ён хацеў пабегчы, але Галя спыніла яго. Строга глянула ў вочы і ціха прагаварыла:

— Прабач, Пеця, я не ведала, што ты так... Толькі не

трэба злавацца. Я ж цябе таксама люблю як брата...— і, памаўчаўшы, дадала: — Пакуль вайна, ніхто мне не патрэбен. А калі нейкі хлопец і пацалаваў — не бяда. Бачыў, які ён мужны? Такая рана, а ўсміхаецца, жартуе...

— У вайну можа быць шмат параненых. Калі кожны будзе прыходзіць і...

— Не будзе, не будзе!

Галя замахала на Пецю рукамі, схапіла яго пад пахі і закружыла па двары. І толькі тады, калі яна пабегла ў хату, Пеця ўцяміў, што Галя пацалавала яго ў шчаку...

Пасля той размовы Галя пацішэла, пачала больш уважліва адносіцца да Пеці, прыглядацца да яго, быць заўсёды разам.

Неяк нават сказала:

— Бач, як ты вылюднеў пасля таго як прыйшоў да нас! Проста кавалер...

— Я ненавіджу гэтае слова...

— Прабач, забылася.

Пеця і праўда неяк хутка перамяніўся. З твару знікла хлапечая легкадумнасць, ён памажнеў, абветрыўся. Кожны дзень яны з Хведарам ходзяць то ў лес па дровы, то на дарогу. «Трэба, сынку, заўсёды спраўнай дарогу трымаць,— казаў ён.— Менш басурманы чапляцца будуць». У Пеці ж быў і свой клопат. Калі немцы будуць менш чапляцца, то менш будуць і прыходзіць да іх. Ён усё ж запамятаў словы вайскоўца: «Быць прыгожай цяпер вельмі небяспечна... Фашысты — яны, як звяры». Так, трэба хаваць Галю ад фашыстаў.

І ён даўмеўся, як гэта найлепшым чынам зрабіць. У адным месцы ў хляве падгнілі дошкі. І калі яны з гаспадаром мянялі іх, то Пеця сказаў:

— Давайце, дзядзька Хведар, так зробім, каб вось гэтая шырокая дошка адсоўвалася, калі трэба, убок... З двара ў хвойнік ход будзе.

Стары падумаў, усміхнуўся ў вусы і сказаў:

— Бач, як хітра прыдумаў! Так і зробім...

Трэба сказаць, што Пятроў «сакрэт» саслужыў немалую службу. Як толькі з дарогі да хутара зварочвалі фашысты, Галя забягала ў хлеў, адсоўвала дошку, зноў стаўляла яе на месца і бегла ў хвойнік...

Аднойчы — было гэта ўжо на другім годзе вайны — такім чынам уратавалася трое партызан, калі знянацку

наляцелі фашысты. Калі б не пільнае вока Пятра, то быць бы бядзе. Хацеў тады і ён бегчы з усімі, але дужа хварэў дзядзька Хведар. І гэта, можна сказаць, уратавала яго ад няметчыны, куды гвалтам вывозілі моладзь. Праўда, партызаны сказалі яму, каб спярша дабыў сабе хоць якую вінтоўку, каб не з голымі рукамі прыйшоў. Асабліва здзекаваўся той, першы Пятроў знаёмы.

— Ты, цёзка, дастань вінтоўку з крывой руляй, з яе вельмі зручна з-за вугла страляць.

Запалі тыя крыўдныя словы ў душу, не на жарты задумаўся хлапчына, як здабыць сабе зброю. Ён бачыў яе ў юначых снах. То сніўся новенькі аўтамат з круглым дыскам, то ручны кулямёт на расстаўленых ножках, то новенькі пісталет. І мроіліся-сніліся баі з фашыстамі, якіх ён, Пятро, заўсёды лёгка перамагаў. Галя гладзіла па галаве і казала: «Ты — мой герой, Петрык...»

Але не раз ён заўважаў, што не ў сне, а на самай справе Галя часта выходзіла на двор і падоўгу глядзела ў бок хвойніку, адкуль, бывала, прыходзіў Пятро-партызан. І сумнымі-сумнымі былі тады яе вочы.

— Ты ўсё яго чакаеш? — спытаў аднойчы Пеця.

— Ды так... Гляджу, ці будзе сёння дождж,— відавочна схлусіла Галя.

— Не трэба так гаварыць! — строга глянуў на яе Пеця.— Я ўсё разумею... Але чакай, вось хутка дастану аўтамат, і ўбачыш тады, якія бываюць партызаны...

— А ён — хіба не сапраўдны?

Пеця яшчэ больш нахмурыўся.

— Даруй мне, Галя... Толькі мне здаецца, што ён нейкі баязлівы. Пачуе на дарозе гул машыны — адразу ў лес уцякае. А трэба да дарогі бегчы, страляць...

— Каб нашу хату спалілі?

На гэтым размова спынялася. Сапраўды, падбі машыну, дык потым без хаты застанешся. А з чым у лес ісці? Дзе што ўзяць? Без зброі не абароніш свайго шчасця, не ўберажэш.

Яго каханне да яе мацнела, разгаралася з кожным днём.

І ўсё ж ён не ўбярог сваю Галю.

Здарылася гэта на трэцім годзе вайны, калі і Пятро і Галя былі ўжо не толькі назіральнікамі, але і ўдзельнікамі грозных падзей. У меру сваіх сіл яны памагалі партызанам, выконвалі розныя даручэнні. У апошні час па дарозе ішло больш машын на захад, чымся на ўсход. Трэ-

ба было нeяк выведаць, у чым справа. Галя днямі назірала за дарогай, запісвала нумары і колькасць машын. І хутка ўсё стала ясна: немцы рыхтуюць блакаду. Дзеля гэтага яны знялі з фронту цэлую вайсковую часць.

Неяк пад вечар прыйшоў з лесу партызан Пятро. Быў ён чамусьці ўзрушаны, нават разгублены.

— Мне трэба пагаварыць з табою, Галя. Справа вельмі сакрэтная,— сказаў ён і шматзначна паглядзеў на Пятра.

— Гавары пры ім, не бойся! — Галя падышла і стала побач з Пецем.— Бачыш, які ўжо ён? Большы за мяне.

Пеця адзначыў, што яны ўжо адзін аднаму гавораць «ты». Нават не заўважыў, калі ў іх гэта стала.

— І ўсё ж няхай цёзка пагуляе ў хвойніку,— запярэчыў тады партызан.

Галя сказала:

— Выйдзі на хвіліну, Петрык... Няхай ён скажа мне свой сакрэт сам-насам.

Пеця пайшоў у хвойнік. Пасля ён ніяк не мог уцяміць — чаму іменна ў хвойнік, а не проста на двор?

Прайшло не дужа шмат часу, як ён спярша пачуў, а потым убачыў партызана. Той бег, як апантаны, не зважаючы на галіны, што перашкаджалі бегчы.

— Немцы! — крыкнуў на хаду Пятро і знік за іглістымі хвойкамі.

Гэта адбылося так нечакана, што на нейкі момант Пятро нібы абамлеў, абяссілеў.

А дзе Галя? Чаму ён кінуў яе?

Яму адразу ўявіўся жудасны малюнак: фашысты страляюць самых дарагіх людзей. І адразу захацелася заплакаць. Але ж гэтым бядзе не дапаможаш. Патрэбны дзеянні. Сілы зноў вярнуліся да яго. Ён хутка пайшоў назад, зусім не ўяўляючы, што будзе рабіць, чым дапаможа Галі і дзядзьку Хведару.

Калі падышоў да вугла, спыніўся, прыслухаўся.

На двары ціха гурчала машына, былі чутны няясныя галасы, смех.

Асцярожна прабраўся Пятро ў хляўчук. Адтуль ён убачыў, як адзін рослы фашыст трымаў дзядзьку Хведара за бараду і грозна пытаўся:

— Дэ ест партызан?!

Другі, маладзейшы, цягнуў Галю да плямістай легкавушкі, Галя ўпіралася і нема крычала. І ў гэтым крыку чулася:

— Петры-ык, дзе ты, Пе-етры-ык?!

А ў Пятра кроў застыла ў жылах, ён стаяў і не ведаў, што рабіць. Выскачыць з віламі на дваіх — дарэмныя намаганні. У іх аўтаматы ў руках, секануць — ляжаш, нічым не дапаможаш...

Прыгледзеўся Пятро лепш і ўбачыў, што аўтамат толькі ў старэйшага, у афіцэра. Ён трымае Хведара за бараду і ўсё нешта дапытвае.

Дзе ж другі аўтамат?

— Пе-етры-ык! — безнадзейна вырывалася з моцных рук Галя. Яе старэнькая, вынашаная сукенка рвалася, як павуціна. А фашыст рагатаў і ўсё цягнуў яе да машыны. Яго пілотка звалілася на зямлю, і рудаватыя валасы саломай звіслі на лоб, на вадзяністыя вочы. Ён трос галавою і задаволена рагатаў...

І тут Пятро ўбачыў другі аўтамат.

Ён ляжаў на капоце машыны.

Астатняе адбылося ў адно імгненне. Пятро кінуўся да машыны, схапіў аўтамат і ўзвёў затвор.

— Хальт!!! — на ўсю сілу крыкнуў ён.— Ні з месца. Буду страляць!..

Ад нечаканасці фашысты аслупянелі. Выпусцілі Хведара, Галю і ўскінулі рукі ўгору...

Хведар адразу асеў на зямлю, а Галя кінулася да хлеўчука.

Пятро зразумеў, што гэты кароткі момант дае яму перавагу над ворагам. Спярша кароткай чаргою ён скасіў, таго, з аўтаматам. У другога выпусціў усе астатнія патроны. Калі б там, у ражку, было яшчэ столькі, то, напэўна, Пятро і іх расстраляў бы.

І вось на двары настала цішыня.

Нават не чутно, як ціха працуе матор машыны. Пятро стаяў з нямецкім аўтаматам сярод двара, і твар яго быў суровы, нібы каменны.

Устаў Хведар. Бы нічога і не здарылася, абтрос штаны, падышоў да Пятра. Ні слова не гаворачы, моцна, па-мужчынску трасянуў руку. А вусны дрыжаць ад узрушанасці, ад удзячнасці за ўсё...

— Чаго ты стаіш? — звярнуўся ён да дачкі.— Цалуй яго, Галя! Рукі яму цалуй, а не таму баязліўцу, што са сваім аўтаматам уцёк...

Толькі ўжо хлопец сам падбег да дзяўчыны і пачаў цалаваць яе рукі.

— Даруй, Галя, што не было мяне тут... Білі цябе фашысты? Моцна білі?

Яна глядзела на яго поўнымі слёз вачамі і скрозь шчаслівую ўсмешку круціла галавой.

— Не білі, Петрык! Звезці хацелі, дужа страшна было. Любы ты мой, дарагі ты мой партызан... Цяпер я веру — ты сапраўдны баец, адважны...

Аставацца на хутары было небяспечна. Кожную хвіліну маглі наехаць фашысты.

— Давай, сынку, звязём нечысць са двара. Я ж калісьці шафёрам быў...— падыходзячы да машыны, сказаў стары.

Потым удвух яны знеслі забітых у машыну, паклалі на задняе сядзенне, і Хведар сеў за руль.

— Павязу ў яр і спалю там разам з іхнім тарантасам, а вы бяжыце за хвойнік, на ўзлессе да старога дуба. Там і вырашым, што рабіць далей.

Калі Пятро і Галя ішлі хвойнікам, ён спішана гаварыў:

— Не магу жыць без цябе, Галя, кахаю...

— Памаўчы, Петрык,— адказвала яна і блізка-блізка тулілася да Пеці. Яна адчувала ў ім сілу, волю, рашучасць.

— Усё роўна кахаю цябе, Галька. На ўсё жыццё...

— Веру, Петрык...

Яны спыніліся, сталі адзін насупраць аднаго. І ўжо нічога не існавала для іх: ні прыгожых асветленых сонцам галін хвоек, ні прыцішанага шчэбету птушак, ні п'янючага водару разагрэтай за дзень жывіцы.

Яны былі нібы п'яныя ад свайго шчасця.

Галя абвіла яго загарэлую шыю рукамі, нейкі час глядзела ў вочы, а потым парывіста прыпала да вуснаў...

І зноў адчуў Пятро дзявочыя грудзі, зноў адчуў прыемную млявасць свайго сэрца...

Дарэмна думаў стары Хведар, што яго дзеці так хутка прыбягуць на ўзлессе.

Ужо ў яры дагарэла машына і перастала дыміцца, а дзяцей усё яшчэ не было.

І вось нарэшце ён заўважыў іх. Наперадзе ішоў Пятро, Галя — следам. Падышлі, спыніліся, нібы вінаватыя.

Стары наблізіўся, спытаў строга:

— Значыць... вырашылі абое?

— Вырашылі, тата! — хутка адказала Галя.— Вырашылі.

— Добра... Ідзіце, ваюйце. А мне ад свайго седала, відаць, ужо не адарвацца. Так я вырашыў, так і будзе. Пай-

ду замяту сляды — і канцы ў ваду. Партызаны тых немцаў пабілі ды спалілі. Стары ўжо я. Ідзіце...

Яны стаялі пад высокім галіністым дубам, блізка прыхінуўшыся адно да аднаго, і засмучана глядзелі, як паволі аддаляўся стары Хведар...

Партызанская брыгада, куды яны трапілі, вяла цяжкія абарончыя баі разам з іншымі атрадамі і брыгадамі. Так пачалася цяжкая блакада сорак трэцяга года, на якую фашысты кінулі дванаццаць дывізій рэгулярных войск, не лічачы шматлікіх гарнізонаў.

І вось аднойчы Галю паслалі да бацькі на хутар. Трэба было разведаць, які рух на дарозе, як яна ахоўваецца, і ўдарыць потым там, дзе фашысты менш за ўсё чакаюць нападу, ударыць і выйсці ў Домжарыцкія балоты, дзе потым ніякая блакада не страшная.

Перад тым як пайсці, Галя сказала Пятру:

— Што б са мною ні здарылася, ведай, што я кахаю цябе. Чакай і помні...

Яна пайшла і не вярнулася больш.

І ніхто не ведаў, дзе прапала дзяўчына.

Пасля ўжо, калі мінула блакада, Пятро выкраіў час сустрэцца з Хведарам.

На ўзлессі ён пастаяў пад знаёмым да болю ў душы любым дубам, прайшоў знаёмымі сцяжынкамі па хвойніку і спыніўся зводдаль ад хлеўчука.

Усё стаяла на месцы, быццам тут не праходзіла чорная навала, быццам грымоты пракаціліся далёка адгэтуль.

Стары сядзеў на ганку і курыў.

Пятро рашуча падышоў да яго і аклікнуў:

— Дзень добры, бацька!

Той узняў на яго прыжмураныя вочы і нібыта не пазнаў. За гэты кароткі час Хведар пастарэў, здавалася, на шмат гадоў. Падслепаватыя вочы слязіліся, левая рука вісела як нежывая.

— Гэта ты, сынок?! — нарэшце пазнаў і ўзрадаваўся ён і паківаў галавою.— Дзякуй богу, жывы...

— А Галя? Дзе яна? — нецярпліва спытаў Пятро, прысаджваючыся да яго.— Вы бачылі яе?

Стары пыхнуў цыгаркай, уздыхнуў і ціха сказаў:

— Лепш бы я таго не бачыў, сынок... Загубілі яны дачку, супастаты. І павезлі ў цёмнай машыне. Шмат там

было такіх, як яна, пакутніц... Мяне таксама, во, інвалідам зрабілі,— і схіліў галаву на плячо.

Гэта было пакутліва для абодвух...

— Я адпомшчу ім за ўсё, бацька... За ўсё!

Пятро помніў і помсціў. Любімец атрада, ён не ведаў страху, ён імкнуўся быць там, дзе была магчымасць знішчыць хоць аднаго фашыста. Так ён стаў спачатку снайперам, потым — падрыўніком...

Скончылася вайна.

Толькі праз два гады Пятро дэмабілізаваўся з арміі і зноў з'явіўся на сядзібе дарожніка.

Але звестак пра Галю — ніякіх.

Вечарамі ля хаты спыняліся адпачыць шафёры, і Пятро са здзіўленнем назіраў, як Хведар частаваў іх, уладкоўваў на начлег, а потым, адвёўшы ўбок вочы, гаварыў:

— Прызнавайся, што ў цябе лішняе ёсць. Бензін, масла, камера ці што іншае... Усё бяру.

Стары хляўчук быў застаўлены каністрамі, вёдрамі, завалены рознай непатрэбшчынай.

Неяк Пятро спытаў:

— Навошта ўсё гэта вам, бацька?

Той нездаволена адказаў:

— Зашмат будзеш ведаць — палысееш. Мая справа, што хачу, тое і бяру. Інакш ніхто не заедзе...

Шафёры ехалі на агеньчык. Яны, далёкія і блізкія, ведалі Хведараў прытулак. І калі з якім у дарозе здаралася бяда, яму раілі:

— А ты дацягні як-небудзь да Хведаравага двара, што на сто сёмым кіламетры. У яго ўсё знойдзецца...

Пятро зразумеў, чаму Хведар бярэ «лішкі». У аднаго яно быццам і праўда лішняе, а ў другога можа не быць. Двор старога стаў як бы рамонтным пунктам, праз які Хведара і ведалі на сотні кіламетраў вакол. І ў кожнага, хто першы раз заязджаў, ён нязменна пытаўся:

— Мо сустракалі ці чулі што пра дачку маю, Галю? Фашысты яе звезлі... У нямеччыну...

Дзень ішоў за днём, год за годам, а пра Галю ніхто нічога не чуў і не ведаў.

Калі гады праз тры Пятро зноў наведаўся сюды, то ўбачыў, што хаты ўжо няма, тое месца зарасло быльнягом і кустамі, будыніна развалілася, згніла. У пастушка, які непадалёк пасвіў карову, ён даведаўся, што яшчэ летась старога забрала маладая жанчына. Яна прыехала на

грузавіку з нейкім мужчынам і ў той жа дзень выехала. А куды — невядома.

Дачакаўся-такі Хведар дачкі!

А Пятру яшчэ больш не стала спакою. Ён пісаў у розныя гарады, ездзіў сам, распытваў па розных даведачных бюро. І нарэшце даўмеўся пагаварыць з шафёрамі. Старога ведалі ўсе, а Галю — ніхто.

Якраз знайшоўся адзін малады хлопец, не старэйшы за самога Пятра.

— Ведаеш што, таварыш...— сказаў ён, яўна незадаволены, што па такой дробязнай справе яго спынілі.— Бачыў я тую Галю. Яе мужа, здаецца, Пятром завуць.

— Мужа?!

— А чаму ж не? Ён так ласкава да яе: «Галечка, Галечка». І ўсё стараўся дагадзіць.

— А яна?

— Што — яна? Нічога... Села ў кузаў да бацькі ды паехала. Усё ўздыхала нешта. Сумная была.

Машына рэзка гыркнула і паволі пакацілася далей, а Пятро застаўся на дарозе. Горыч і крыўда даўкім камяком падкаціліся да горла. Яму хацелася кінуцца на зямлю і ўжо больш не падняцца.

Але час гоіць любыя раны.

Пятро з галавой акунуўся ў вучобу. Скончыў універсітэт, абараніў дзве дысертацыі, ажаніўся...

...Нечакана рэзка грымнула музыка на эстрадзе, і Пятро нібы ачнуўся.

— Ты што — спіш? — упікнула яго жонка.— І не азірайся назад! Вось я табе прыпомню дома. Усё прыпомню. Вечна ты ўбок глядзіш...

Пятро нібы не чуў яе слоў.

Ён яшчэ не ведаў, што будзе заўтра, але радасць сустрэчы запоўніла ўсю яго істоту. «Да заўтрага... любая Галя,— міжволі шапталі яго вусны.— Да заўтрага...»

1970

## ЗАЛАТЫ ПЯРСЦЁНАК

Апоўдні, калі па вуліцы Зарэчча, уздымаючы буры пыл, адзін за адным прашмыгнулі два зеленаватыя «газікі», па вёсцы панеслася ўстрывожаня навіна.

— Слухайце, людцы-ы, гэта ж толькі што на сваім гарышчы Андрэй Руды павесіўся! — кожнаму стрэчнаму гаварыла старая Агапіха, суседка Рудых, хатка якой стаіць на самым канцы, амаль на ўзлессі.

— Як павесіўся?

— З чаго б гэта? — вытыркаліся з брамак белыя хусткі жанчын: была нядзеля.

— А хто ж яго ведае... Мусіць, лішняе перабраў, не ведаў, што і робіць. А грэх які! На святую нядзельку-у! — закатвала ўгору вочы і хуценька хрысцілася Агапіха.— Нездарма гэта, от папомніце маё слова — нездарма...

— Андрэй Руды павесіўся! — крычалі і хлапчукі, уподскач прабягаючы па траве ля платоў.

Адным словам, здарэнне гэтае, з'ява сама па сабе надзвычай рэдкая, устрывожыла людзей ціхай зарачанскай вёсачкі ў сорак двароў, якая прыляпілася адным канцом да лесу, а другім выйшла да рачулкі, што ўпадала за лесам у Бярозу. Людзі збіраліся купкамі, меркавалі, бедавалі, строілі розныя здагадкі.

І толькі адзін чалавек ведаў ісцінную прычыну такога незвычайнага здарэння. Ён сядзеў на лаўцы ля сваёй брамы, папыхваў чорнай люлькай з галавою Мефістофеля і нібыта ўсміхаўся ў чорныя, роўна падрэзаныя вусы. Яго бледны, ніколечкі не загарэлы твар нібы свіціўся, а прыжмураныя сінія вочы глядзелі кудысьці за вёску, за лес, міма жанок і хлапчукоў. І думкі чалавека былі заняты чымсьці сваім...

— Глухі ты, Сцяпан, ці што? — нарэшце пачуў ён і нібыта ачнуўся ад думак. Ля яго стаяў калгасны конюх Мікола, чалавек адзінокі і дабрадушны, Сцяпанаў аднагодак.

— Га, што ты сказаў, Мікола?

— Няма ўжо нашага Андрэя, кажу.

— Ага, ага, чуў...

— Шкада чалавека... Усё ж наш ён, зарачанскі. У партызанах разам былі, з аднаго кацялка сёрбалі. Дужы быў, як вол, а вось надарылася нейкае ліха.

— Ага, ліха з ім,— зноў вяртаючыся да сваіх думак, неўпапад адказаў Сцяпан.

Мікола Кравец замахаў рукамі, адышоўся і азірнуўся — ці ёсць хто паблізу? Потым хуценька пашыбаваў у канец вёскі, да Рудых, дзе ўжо збіраліся зарачанцы.

Што ж Сцяпан мог адказаць Міколу? Хіба можна вось так, ні з таго ні з сяго, адным, двума словамі паведаміць

людзям пра вялікую зарачанскую трагедыю, якая толькі цяпер, сёння, раскрылася перад ім ва ўсёй сваёй страшнай лютасці? Не, усё яно так і застанецца тайнай для людзей, і, можа, толькі праз дзесяцігоддзі сёе-тое праб'ецца на свет. Але каго яно тады кране, каго ўсхвалюе? Яму ж, Сцяпану Войціку, яшчэ жывому сведку, вельмі цяжка і балюча перажыць, перанесці ў сваім сэрцы пачутае сёння.

Сцяпан пыхнуў люлькай і глыбока задумаўся.

З чаго ж гэта ўсё пачалося?

...Было яму тады роўна дваццаць. А ў такія гады, вядома, чаго толькі не ўзбрыдзе ў галаву. Сцяпану здавалася, што калі б ён захацеў, то прымусіў бы неўгамонную раку Бярозу павярнуць свае воды ў адваротным кірунку. Сілішча была ў Сцяпана вялізная. І думак было дужа багата. А сярод мноства думак — адна неадчэпная, самая запаветная. Забрала ў палон Сцяпанава сэрца сціплая яснавокая прыгажуня Зося. З'явілася яна ў вёсцы, у сваёй цёткі, не так даўно, гады са тры назад, як памерла яе маці, але ўсе зарачанскія хлопцы нібы толькі яе і чакалі, быццам сваіх дзяўчат не было. Асабліва ўлягаў за ёю вясковы гарманіст і весялун Андрэй Руды. Адкуль у іх, у Рудых, такое прозвішча, сказаць цяжка. Усе яны бялявыя, вастраносыя, даволі статныя і дужа ж быстрыя. Усюды Рудыя наперадзе, ніколі за імі ахапка сена не ўхопіш на поплаве, між кустоў, дзе дазвалялася адкошваць. Было ў Андрэя яшчэ два браты, старэйшыя, дык яны недзе з'ехалі адразу, як толькі скончылі школу, а гэты затрымаўся.

І вось ужо ходзіць чутка па вёсцы, што былі заручыны і што хутка Зося перабярэцца ў прасторную хату да Рудых. Ды толькі не верыў гэтым чуткам Сцяпан. Сэрцам адчуваў, што нялюб дзяўчыне той нахабны Андрэй.

Аднойчы, калі яны ішлі ад рэчкі, Зося з нейкім жалем сказала:

— Табе б, Сцяпан, ды Андрэеву хватку! Нясмелы ты нейкі...— і папраставала праз бульбоўнік да сваёй хаты, толькі загарэлыя лыткі замільгалі.

Глыбока, на самае дно сэрца запалі Зосіны справядлівыя словы. А дзе ж узяць тае смеласці, калі ён пры Зосі і рот раскрыць баіцца, нібы зусім чалавек гаварыць развучыўся.

Ды жыццё часам робіць такія нечаканыя павароты, што

ніякім розумам не дабярэш. Так здарылася і са Сцяпанам Войцікам...

Той чэрвеньскі дзень выдаўся дужа гарачы. З паўдня пачало смаліць і прыпарваць так, што нават у цяні было млосна. І не дзіва, што рака вабіла да сябе і малога і старога. Ад Зарэчча да яе не больш паўкіламетра. Варта толькі прайсці неішырокі бор, як зроку адразу адкрываецца агромністая панарама лугоў і азёр. А паўз сівы бор, дзе з-пад абрывістых берагоў, прасвідраваных ластаўкамі-беражанкамі, зімою і летам бягуць-звіняць дзесяткі ледзь бачных крынічак, цячэ яна, імклівая і вірлівая Бярозарака. Сям-там у нізінах падступаюць да яе густой шчэццю невысокія хвойнікі.

І вось трэба ж было здарыцца, што ў адным з іх і сустрэліся Сцяпан з Зосяй. Спярша яна сумелася, хацела ўцячы, а потым нібыта ўзрадавалася.

— Ты чаго сюды прыйшоў, Сцяпан? — спытала яна.— Ай іншага месца не ўпадабаў?

— А ты? — наблізіўся Сцяпан і як зачараваны глядзеў на ружовы Зосін твар з простым малым носікам і таўставатымі вішнёвымі вуснамі, на яе высокія дзявочыя грудзі, што так часта ўздымаліся цяпер, відаць, ад хвалявання.

Зося апусціла вочы долу і ціха сказала:

— Я заўсёды тут купаюся, далей ад тых нахабнікаў,— кіўнула галавою ўбок, адкуль далятала шматгалосая гамана.

Яны селі на разагрэты дол, звесіўшы над вадою босыя ногі, і нейкі час моўчкі пазіралі на раку, дзе іскрыстай дугою агінала поплаў акаймаванае лазняком старарэчча.

— Як у вас прыгожа, Сцёпа...

— Цяпер жа яно і тваё. Ай не нашынская ты цяпер, Зося? — перадражніў ён яе за тое прынесенае ў Зарэчча «ай».

Яна гарэзна паківала пальцам, а вочы ззялі радасцю, з твару не сыходзіла ўсмешка. Яны сядзелі побач, злёгку дакранаючыся плечукамі, і гаварылі, гаварылі. Першы раз у жыцці. І першы раз у жыцці ім было так хораша. Іх не вабіла больш рака, не захаплялі лугі. Час для іх нібыта спыніўся...

Спахапіліся яны толькі тады, калі над іх галовамі моцна грукнула і некалькі буйных кропель дажджу ўпала на ваду.

На рацэ ўжо даўно нікога не было...

— Што ж гэта мы так заседзеліся? Бяжым у вёску!— паднялася Зося. І тады зноў, яшчэ мацней, стрэліла. Яна прыпала да Сцяпана, схавала на яго шырокіх грудзях твар.— Вой, Сцяпанка, баюся перуноў!..

Дождж лінуў раптоўна.

Ён наляцеў з-за лесу, як дзікая конніца, і пачаў сячы па галінах, па хвоях, па аголеных Зосіных плечуках, па яе танюткай паркалёвай сукенцы ў вялікія чырвоныя макі...

Яны дабеглі да маленькага хлеўчука, што стаяў на беразе, побач з хвойнікам. У той хляўчук стары бакеншчык Антось складаў сена. Яго і цяпер было капы са тры, не болей. Але як добра легчы на пахучы насціл і слухаць, слухаць, як шуміць за сцяною вецер, як сячэ па страсе праліўны дождж. Цёпла ў хлеўчуку і ўтульна...

— Скінь сукенку ды выкруці, тут жа зусім цёмна,— сказаў Сцяпан.— Накінь пакуль мой пінжак, ён зусім сухі...

— Нічога, на мне высахне...

І ўсё ж праз хвіліну Зося скінула сукенку, выкруціла і павесіла на граблі, што стаялі пры сцяне. Потым на сподняе надзела яго пінжак, села побач. А калі зноў пачало смаліць з неба, калі праз шчыліны ў дзвярах нібы ўварваліся ў хляўчук агністыя маланкі, яна ўскрыкнула і зноў прытулілася да Сцяпанавых грудзей. Ён адчуваў — яе калаціла, як у ліхаманцы.

— Баюся, Сцяпанка...

Сцяпан быў як п'яны. Паклаў правую руку Зосі на плячо, пад пінжак, і моцна прыціснуў да сябе. І недзе ў гэтым грукаце і гуле, у гэтым бясконцым ліўні згубіўся пацалунак. Яны і самі яго нават не адчулі: такі ён быў нечаканы ды кароткі, як у небе бліскавіца. Іх целы зліліся, яны сталі як адно цэлае. Толькі два трапяткія сэрцы грукалі кожнае па-свойму.

— Баюся, Сцяпанка...

— Не бойся... Зоська... любая...

І яшчэ раз моцна бліснула праз шчыліны. А дзяўчыне здалося — успыхнуў, загарэўся хляўчук.

— А-ай! — нечакана ўскрыкнула яна і зноў, ужо да болю ў вуснах, адчула гарачы пацалунак свайго каханага...

А пасля ўжо не страшнымі сталі грымоты, бліскавіцы. Што цяпер яны ў параўнанні з яшчэ больш магутнай сілай прыроды, якая адкрылася перад імі так нечакана-негадана.

Зося ўжо не гаварыла «баюся», а толькі ціха шаптала:
— Сцёпка-а... Сцяпанка-а...

Потым яны сцішыліся і паснулі, двое пад адным пінжаком, паснулі, як гарэзлівыя дзеці, якія набегаліся за дзень да знямогі, падбіліся. І пэўна, ім сніліся дзівосныя, лагодныя сны...

Прачнуліся яны не дужа рана, прачнуліся ад невыразнага тлуму, што даносіўся знадворку.

І тады паўстала перад імі суровая і бязлітасная рэчаіснасць: да іх сховішча падыходзіла вялікая грамада зараччанцаў.

— Там яны, там! — чуўся пісклявы голас нейкага малога, які, відаць, і падцікаваў бедакоў.

Зося ўсхапілася, хуценька нацягнула сукенку.

І вось — рыпучыя дзверы шырока расчыніліся. Дзесяткі цікаўных і разгневаных воч скіраваліся на Сцяпана і Зосю. Наперадзе, з вялізным абсівелым калом, адарваным ад плота, стаяў Сцяпанаў сапернік Андрэй Руды.

— А-а-а, кур-рва! Гэтак ты заручылася са мно-ою! — азвярэла зароў ён і ўзняў над галавою кол.— Заб'ю-у, гадзіну-у!

Сцяпан адным скачком апынуўся побач і схапіўся за той кол.

Пакуль яны пад гігіканне і свіст качаліся па зямлі, Зося выкаўзнула з хлеўчука, але не пабегла, не спалохалася. Яна стаяла зводдаль, глядзела на Сцяпана і Андрэя і нібыта чакала — хто ж нарэшце пераможа? На яе твары блукала сарамлівая ўсмешка. Раптам вочы яе зрабіліся калючыя, твар пабялеў.

— Ну, чаго вылупіліся?! — крыкнула яна людзям, і ўсе адразу сцішыліся. Нават Сцяпан і Андрэй узняліся з зямлі, трымаючы кожны па кавалку таго разламанага кала.

— Дзіцятка маё...— выціраючы ражком хусткі трахомістыя чырвоныя вочы, усклікнула цётка.— Як жа ты... вось так, га?

— Кахаю я Сцяпана, цётачка, моцна кахаю! — Зося гнеўна зірнула на Андрэя.— Ай ты не ведаў гэтага? Ай думаў, што я тваіх пагроз пабаюся, дзюбаносік?

Статная, стройная, яна паволі пайшла на Андрэя, і той адразу абмяк, ступіў два крокі назад і выпусціў з рукі паляняку. Ён быў перад ёю як вінаваты хлапчук.

— Я ненавіджу цябе, брыдота! Сквапнае стварэнне ты, а не чалавек!

Тут сілы, стрыманасць пакінулі Зосю, і яна заплакала наўзрыд, закрыўшы твар рукамі. І тады Андрэй паволі павярнуўся і пайшоў у кірунку лесу.

— І праўдачка... Чаго прычапіліся да іх? Гэткая навіна! — звярнуўся да вяскоўцаў стары Руды.— Позна ўжо тое назад варочаць... Звяршылася, як кажуць, і справе канец.

— Хай бог беражэ...— прагугнявіла яго суседка Агапіха, жанчына ўдовая, да ўсяго цікаўная.— Не па-божаскі гэта, ой, не-е, людцы-ы!

— Затое па-чалавечаму! Эх, рыхтуй, Войцік, сталы-ы, тупнем! — гукнуў Мікола Кравец.— Малайчына, Сцяпан, усім нам насы ўцёр, ай ды Сцяпан! Ціхоня!..

Адразу змяніўся настрой. Людзям нібыта стала сорамна за свае неабдуманыя дзеянні, і яны пачалі разыходзіцца.

Пазней за ўсіх ішлі ў вёску Сцяпан і Зося. Яны маўчалі. Ды і ці варта было аб чым гаварыць пасля ўсяго, што ўжо абгаворана? Адно суцяшала — людзі ўсё ведаюць, лягчэй будзе на вочы ім паказвацца. Суд адбыўся...

Вяселле згулялі ў суботу, а ў нядзелю... Так, гэта была тая векапомная чэрвеньская нядзеля сорак першага года. І хоць напачатку не верылася, што вайна нейкім чынам зможа адбіцца на мірным жыцці зарачанцаў, але ўжо на трэці дзень неяк зусім нечакана па вёсцы прайшло дзесяткі два нашых байцоў на чале з малодшым лейтэнантам, які і абвясціў, што немцы ўжо ў райцэнтры, адступаць дарогамі больш не выпадае, трэба кіравацца бліжэй да лесу. Да таго ж усе мясцовыя хлопцы, якія па позвах пайшлі ў райваенкамат, на другі ж дзень вярнуліся маўклівыя і панурыя.

Адзін Андрэй Руды не паддаваўся сумнаму настрою. Ён кожны вечар на ўсю вёску сыпаў полькі і вальсы, седзячы ля свайго дому, а ўдзень гойсаў па хатах у пошуках гарэлкі.

Неяк раз спыніўся ля зарачанскіх хлопцаў і сказаў:

— А між іншым я чуў, што нашу зямлю падзеляць на едака! У нас іх лічыцца аж шэсць, гектары, мусіць, з тры адрэжуць...

— Аршыны з тры табе б даць! — не стрываў Сцяпан.

— А ты не дужа разыходзься цяпер... камсамолец! Глядзі, як немцы ўведаюць.

Мікола Кравец каршуном уссеў на Андрэя, зваліў яго з ног і тоўк, пакуль яго не адцягнулі.

— Забіць яго мала, гада! — аж калаціўся той ад злосці.

— Папомніце вы яшчэ мяне! Знайду і я сабе абаронцу-у! — адбегшыся, прыгразіў Андрэй.

— Вырадак,— толькі і сказаў тады Сцяпан.

Яны з Міколам не сядзелі склаўшы рукі. Ужо на другі дзень, пасля таго як вярнуліся з раёна, схадзілі ў Парэчча. Там, каля пераправы, быў вялікі бой. У рацэ і па берагах было шмат усялякай зброі. Хлопцам адразу пашанцавала, яны прынеслі з дзесятак гранат і чатыры вінтоўкі з патронамі.

Усё гэта схавалі ад цікаўных вачэй у зямлянцы, якую выкапалі ноччу непадалёк ад вёскі, у густым ельніку. І спакваля ўцягвалі ў сваю групу іншых камсамольцаў наваколля, з якімі разам хадзілі ў школу, а пасля разам працавалі.

Андрэя Рудага дома не было тры дні. Ён прыйшоў на чацвёрты дзень пад вечар, прыйшоў з нейкім аброслым хлопцам гадоў дваццаці пяці, высокім, але такім худым, што, здавалася, ён хістаўся ад ветру.

У хлопца не ставала левага вуха, і таму было такое ўражанне, што галава яго як бы скасабочана. Адзінае вуха, задужа вялікае, вытыркалася з касматых валасоў скручанай марской ракавінай.

— Няйначай, бандзюга які,— сказала Зося Сцяпану, калі паўз іх прайшла гэтая незвычайная пара.

— Што і гаварыць, выбраў таварыша па сабе...

Яны сядзелі тады на сваёй лаўцы пад акном, адпачывалі пасля абеду, а Зося, каб не бавіць дарэмна часу, цыравала яму кашулю. І калі тая парачка вярталася, Андрэй Руды пахадзя кінуў:

— На крадзеным кані далёка на ўедзеш! Праўду я кажу ці не, Арсен?

— Каб жа на кані, а то — на кабыле! — у тон свайму сябру адказаў той Арсен, або проста Аднавушка, як адразу празвалі чужога хлопца зарачанцы. Яны дружна зарагаталі, і Андрэй пры гэтым брыдка вылаяўся.

Моўчкі знёс крыўду Сцяпан. Ведаў, што не час цяпер зводзіць уласныя рахункі. Хутка яны з таварышамі скончаць падрыхтоўку і пададуцца ў бярэзінскія лясы. Зося ж застанецца з хворай маці адна, без ніякай абароны...

Ды абставіны паскорылі ход падзей.

У той жа дзень за вёскай, дзе яшчэ хаваліся нашы

чырвонаармейцы, разгарэўся зацяты, але кароткі бой. Што там адбылося, ніхто не ведаў, але неўзабаве ў Зарэчча нахлынулі фашысты. Яны перапаролі ўсе хаты ў пошуках чырвонаармейцаў. І паколькі нікога не знайшлі, то выцягнулі з хлявоў дзесяткі два парсюкоў, безліч курэй і качак. Людзі не кідаліся адбіраць сваё дабро, яны рады былі, што на гэтым нашэсце і скончылася, ворагі пакінулі іх у спакоі. Праўда, спакой быў адносны, бо тады ж было абвешчана, што ў бліжэйшыя дні трэба выбраць і накіраваць на станцыю ўсіх хлопцаў, а то і дзяўчат на працу ў Германію. Гэта абавязак. Вядома, такая перспектыва не надала зарачанцам энтузіязму.

— Заўтра ж трэба ісці ў лес,— цвёрда сказаў Сцяпан, калі карнікі паехалі.— Могуць быць аблавы, уся наша падрыхтоўка можа аказацца непатрэбнай...

— А як гэта зробіш? — запярэчыў Мікола.— Фашысты дазнаюцца, усіх нашых расстраляюць. Ды і вёску спаляць. Трэба нешта прыдумаць...

— Фашысты падказалі, што рабіць... Мы паедзем у Германію, нас арыштуюць паліцэйскія. А з імі будуць два немцы, самыя сапраўдныя...

Сцяпанаў план быў вельмі просты.

На другі дзень увечары, калі добра сцямнела, трое незнаёмых паліцэйскіх і двое немцаў наляцелі на хату, дзе моладзь сабралася на вечарынку.

— Хлопцы налева, дзяўчаты направа,— скамандаваў адзін паліцэйскі.— Па аднаму вы-ходзь!

— Шнель, шнель! — крычаў «немец», які, відаць, больш ніводнага слова так і не ведаў.

Хлопцаў «арыштавалі» і павялі за вёску. І вось у час гэтага пераходу Андрэй з Аднавушкам уцяклі. Ім проста далі такую магчымасць, каб план урэшце не раскрыўся.

У вопратку паліцэйскіх і нямецкія мундзіры пераапрануліся нашы байцы, што ўцалелі ад раптоўнага нападу фашыстаў.

Яны і расказалі, што нехта з зарачанцаў навёў карнікаў. Падазрэнне адразу пала на Андрэя з Аднавушкам.

— Эх, дарэмна выпусцілі! — пашкадаваў Сцяпан, калі хлопцы нарэшце ўзброіліся і выйшлі на дарогу, каб пайсці ў бярэзінскія лясы...

Перад гэтым Сцяпан развітаўся са сваімі. Дастаў з куфэрка заручальны пярсцёнак з чыстага золата і надзеў Зосі на палец.

— Насі, любая, і помні. Мы вернемся. Бачыш, на пяр-

сцёнку тваё імя — «Зосі». Так звалі маю бабку. Акурат падышло...

— Ой, страшна мне, Сцёпа, без цябе заставацца! Ой, страшна, даражэнькі!..

Яна, як тады, упершыню, прыпала тварам да яго грудзей і плакала, як дзіця, не маючы сіл стрымаць нахлынуўшых слёз. Нядоўга цягнулася яе шчасце...

— Не на век ідзём. Ды і наведаю цябе часцяком, сувязь мы будзем трымаць, Зося!

— Хто ж яго ведае, як яно будзе? Руды мне не даруе...

— Мы яму спуску не дадзім. Хай толькі зачэпіць цябе ці каго з вясковых — адразу да сасны паставім!

А потым, калі Сцяпан ішоў пад «канвоем», яна зноў, разам з кабетамі, галасіла на ўсю вуліцу:

— А чаму ж цябе звозяць у тую Герма-анію! А як жа ж я тут без цябе пражыву-у, Сцяпанка!

Гэтае галашэнне напачатку сыграла сваю пэўную ролю: на другі дзень Андрэй і Аднавушка разгульвалі па вуліцы, як тыя паны, адны на ўсю вёску.

— Цяпер усе дзеўкі нашы! Цяпер больш нікога не забяруць, калі аблава прайшла! — радаваліся яны.

Дні праз два прыязджалі паліцаі і немцы, распытвалі многіх жыхароў, дапытвалі Андрэя, Аднавушку. І, здаецца, паверылі, што хлопцаў арыштавалі нейкія «іншыя», не мясцовыя ўлады. Дзіўным было тое, што гэтых двух лайдакоў не кранулі, і зарачанцы ўзненавідзелі іх. А калі аднойчы Аднавушка прыехаў аднекуль на вялізным рыжым кані, многія здагадаліся, што хлопцы маюць нейкую справу з паліцыяй, і пачалі іх баяцца...

У вёсцы наспявала новая бяда.

У той дзень Агапіха наняла за гарэлку Андрэя і Аднавушку, які ўжо крыху ад'еўся і пакруглеў, накрыць саломай ёй хляўчук. Усе іх бачылі на дзіравай страсе, а яны, вядома, яшчэ больш бачылі, што робіцца навокал.

І вось апоўдні, калі работа падыходзіла к канцу, а хлопцы ўжо добра захмялелі, Аднавушка паказаў Андрэю на поле за вёскай і сказаў:

— Зірні ты, чалавеча, ву-унь туды, ці не Зоська гэта панесла на раку бялізну перыць?

Андрэй зірнуў і засмяяўся.

— Яна...

— Дык чаго ж ты сядзіш? Збегаў бы, пашчыкатаў, га? — І Арсен зласліва засмяяўся, жмурачы, як кот, свае вадзяністыя вочы.

Андрэй злосна зірнуў на яго.

— Спакуса! Дай глынуць!

Ён прыпаў да пляшкі з мутнаватай вадкасцю, потым літаральна скаціўся з хлява і знік у кустах, якія падступалі да самай Агапішынай хаты. Ён бег, як воўк, угнуўшы аброслую доўгімі бялявымі валасамі галаву, спяшаўся напярэймы. І там, дзе бор збягае ў нешырокі яр, парослы тоўстымі елкамі, ён выйшаў насустрач перапалоханай жанчыне.

Зося адразу спынілася, скінула з плячэй цяжкую ношку ў посцілцы на траву.

— Ну, чаго дарогу займаеш? — стараючыся надаць голасу абыякавасць, спытала яна.

— На цябе паглядзець хачу...

— Не наглядзеўся?

— Калі ж было? — І раптам дадаў: — Думаеш, твой вышкрабецца з той нямеччыны? Дудкі! Здохне ў гнілых шахтах, як сабака! Вось захачу — і адразу маёй станеш...

— Паспрабуй толькі!

Андрэй скочыў да Зосі і схапіў яе пад пахі, намагаючыся зваліць на зямлю. Яна нахілілася і, выцягнуўшы з бялізны дубовы пранік, штосілы выцяла ім па Андрэевай галаве. Той адразу выпусціў яе і зароў як апантаны.

— А-а-а, брыдота! Дык ты гэтак? Вось жа табе, атрымай!

Адбылося непапраўнае: Андрэй выцягнуў з халявы бота нож і ўдарыў ім Зосю проста пад сэрца. Потым у вочы кінуўся пярсцёнак. «Золата!» — мільганула ў галаве. Нахіліўся і ледзь не адарваў з пальцам...

Зося звалілася ціха, без енку. І адразу твар яе пачаў бялець, яшчэ адкрытыя вейкі дробна задрыжалі і спыніліся. Вочы нема глядзелі на Андрэя, і ад іх халоднага позірку ён зноў закрычаў. Потым бег назад, а ў моцна сціснутай руцэ пёк далоню залаты пярсцёнак. Толькі не кінуў яго Андрэй. О, не-е! У яго да золата была вялікая цяга. Яму часта сніліся цэлыя скарбы, безліч пярсцёнкаў і залатых манет...

На ўзлессі суцішыў крок, падышоў да хлява і крыкнуў:

— Злазь, паскуда!

— Чаму такі злосны — хіба ўкусіла?

— Маўчы лепш, падбухторшчык!.. Усё праз цябе...

Пасля яны сядзелі за столікам на двары, пілі гарэлку і бясконца клікалі Агапіху.

— Цётка, дай яшчэ — каня прывя́дзем, з канём будзеш! — патрабаваў Андрэй. Ён напіўся так, што потым зваліўся з услона на зямлю, адразу захроп...

Забойства Зосі моцна падарвала здароўе і без таго хворай Сцяпанавай маці. Яна памерла ціха, як і жыла. І толькі на пяты дзень пасля яе смерці Сцяпан прыйшоў у Зарэчча. Прыйшоў з таварышамі па барацьбе, трыма разведчыкамі.

Седзячы ў апусцелай сваёй хаце, ён цяпер сам плакаў, як малое дзіця. Вядома, перажыць адразу дзве смерці самых дарагіх людзей — рэч не простая. Хлопец, здавалася, пастарэў увачавідкі. Першай думкай яго было — паставіць да сцяны Андрэя, але Агапіха і бліжэйшыя суседзі падцвердзілі, што Андрэй з Аднавушкам цэлы дзень былі на страсе, а пасля зваліліся ад самагонкі, з вёскі нідзе не адлучаліся. Праўда, пасля таго яны недзе зніклі. Хадзілі чуткі, што, як і трэба было чакаць, сябрукі падаліся ў паліцыю.

— Усё роўна наша куля яго не міне!

Сцяпан звярнуўся да зарачанцаў з кароткай прамовай, расказаў, што народ усюды бярэцца за зброю. Большасць маладзейшых зарачанскіх мужчын, як выявілася, даўно чакала выпадку, каб падацца ў лес. Цяпер жа такая магчымасць настала. У кожнага было нешта прыпасена: у каго вінтоўка з патронамі, у каго граната з запаламі. Быў нават адзін ручны кулямёт з двума дыскамі. Адным словам, вяртаўся Сцяпан у атрад з цэлым аддзяленнем землякоў.

А праз некалькі дзён вёску зноў запаланілі карнікі і паліцаі. І сярод іх былі Андрэй Руды і Аднавушка.

Адразу запалалі хаты Сцяпана Войціка і Міколы Краўца. Стары Міколаў бацька ледзьве выбраўся з сянец, як услед за ім шуганула полымя.

— Ратуйцеся, лю-юдцы-ы! — галасіла Агапіха.— Усе згарым, як бог святы!..

Яна гаварыла ісціную праўду: сухавей так разгуляўся, што галавешкі ляцелі ад страхі да страхі, як пярынкі. Жывёлы кідаліся ў агонь, і ніякай сілай яе нельга было спыніць.

У паветры насіўся чорны смуродны дым, чуліся стрэлы і енкі.

— Пракляцце табе, вырадак! Пракляцце! — стоячы на каленях перад палаючым домам, сціскаў кулакі стары Руды. Яго жонка сядзела ў гародзе на небагатых пажытках і бясконца малілася. А іх сын, іх вырадак, стаяў звод-даль, абапёршыся на дула вінтоўкі, і абыякава, тупа асалавелымі вачамі глядзеў на ўвесь гэты хаос. Да яго свядомасці яшчэ не даходзіў сэнс усяго, што тварылася навокал...

Так прыйшла вайна ў невялікую вёску Зарэчча. Прыйшла і знішчыла яе, і згарэла ў тым агні каля дзесятка мірных жыхароў. У большасці гэта былі хворыя старыя і малыя дзеці...

Тыя, што засталіся жыць, пакінулі сваё селішча і падаліся ў бор, пачалі будаваць зямлянкі, ставіць невялікія зрубы. Жыць жа неяк трэба, а восень ужо не за гарамі.

Андрэй Руды хацеў забраць сваіх старых у мястэчка, але тыя адхрысціліся:

— Ідзі ты ад нас, згінь! Досыць і так гора ад цябе нацярпеліся...

І тады хітры сын пакаяўся:

— Я дакажу, што не мая віна. Вайна вінавата...

І вось праз нейкі час данеслася чутка, што Андрэй Руды апынуўся ў партызанах. Гэтую чутку прынёс сам Сцяпан Война.

— Ліха яго ведае, як яно там здарылася,— гаварыў ён, паціскаючы плячамі,— толькі і праўда забіў Андрэй важнага нямецкага афіцэра, прынёс каштоўныя дакументы, зброю... Ну і яго памілавалі, сказалі — ваюй, дакажы ў баях сваю адданасць.

Усё так і было на самой справе: Андрэй і Аднавушка, як самыя давераныя паліцэйскія, суправаджалі афіцэра сувязі і салдата пры ім на станцыю. У пяці кіламетрах ад горада, дзе пачыналася грэбля, яны і напалі на немцаў, забралі пісталет, два аўтаматы, сумку з дакументамі, з якіх стала вядома, што рыхтуецца блакада партызанскай зоны...

Ваяваў Андрэй Руды, як і ўсе. Выконваў любыя заданні, ад баёў не ўхіляўся. Праўда, пасля аднаго бою іх дарожкі з Аднавушкам разышліся...

Той прыкмеціў, што Андрэй крыху адстаў і нацэліўся на Аднавушку.

— Кінь! — узвёў свой карабін Аднавушка.— Я даўно сачу за табой... Сведкі пазбавіцца хочаш ці маю долю захапіць? Не выйдзе! Бяжы наперад...

А пасля бою Аднавушку ўжо нідзе не знайшлі... Шукалі і не знайшлі.

Стары Руды навіне быў дужа рад. Ён часцей пачаў паказвацца на людзях, пры выпадку не прамінаў уставіць слова-другое:

— Бач, сукін сын, хоць аднаго фашыста ды кокнуў...

Ці, бывала, скажа каму па сакрэту:

— Дакументы, кажуць, былі вельмі каштоўныя, моцна памаглі партызанам...

Прабягалі месяцы, міналі гады, вайна набліжалася да свайго лагічнага завяршэння. Пакрысе забывалася старое. А калі зусім нечакана, у адну ноч, адгрукацеў, адкаціўся на захад нашымі танкамі фронт, партызаны выйшлі з лясоў, каб памагчы аднавіць разбуранае вайной жыццё...

Як роўны сярод роўных, з партызанскім медалём на злінялай гімнасцёрцы, прыйшоў дадому і Андрэй Руды. Спаткаўся неяк са Сцяпанам Война, ды той нават не павітаўся.

— Не гневайся, Сцяпан, на мяне за старое... Чаго ў жыцці ні было, а вось адной дарогай пайшлі...— пачаў Андрэй.

Сцяпан рэзка перабіў яго:

— Шкуру сваю ты ратаваў, бандзюга! А Зося... Сэрцам чую — без цябе там не абышлося!

— Што ты, што ты! Апамятайся, як гэта ў цябе язык паварочваецца...

Сцяпан да болю сціснуў пасівелыя скроні кулакамі і са стогнам падаўся прэч. Ён не мог зміырыцца з тым, што Андрэй, яго закляты вораг, яшчэ ходзіць па гэтай спакутаванай зямлі.

Паволі аднаўлялася Зарэчча, забудоўвалася. Паступова наладжвалася прывычнае жыццё, сціраліся ў памяці былыя нягоды, забываліся крыўды.

Толькі дзіўным было для зарачанцаў надзвычай хуткае аднаўленне сялібы Рудых. Хата ўзнялася яшчэ большая, з прыбудовамі, з вялізнымі вокнамі, на якіх адразу з'явіліся карункавыя фіранкі. А калі Андрэй жаніўся на мястачковай, як гаварылі — «гарадской» дзяўчыне, то аж тры дні грымела музыка, тры дні ракой лілася «куплёная» гарэлка.

Людзі спярша дзівіліся, пасля пачалі перашэптвацца. І папаўзлі па вёсцы чуткі, што недзе ёсць у Андрэя прыхаванае дабро. «Усё ж паліцаем быў»,— гаварылі. Гэты аргумент, бясспрэчна, меў пад сабой аснову. Толькі ніко-

му так і не давялося даказаць, якім цудам багацее гэты шчаслівы чалавек. Праўда, былі моманты, калі Андрэй знікаў з вёскі на два-тры дні.

І ўсё ж тайна адкрылася! Праз дваццаць пяць год пасля вайны...

Колькі перадумаў за гэты час Андрэй Руды, колькі перахварэў сэрцам. Толькі не за свае мінулыя ўчынкі перажываў ён — баяўся таго адзінага сведкі, які, магчыма, аднойчы з'явіцца ў вёсцы, і ўсё таемнае стане яўным. У яго ж цяпер сям'я, трое дзяцей, яны нічога не павінны ведаць. Ды і самому ўжо не перанесці суровага ўдару. Як-ніяк, чалавек уладкаваўся ў жыцці, працуе ў калгасе.

Не, Аднавушка не з'явіўся ў вёсцы. Сюды завітаў толькі яго злавесны дух...

Неяк адной раніцай на Сцяпанава імя прыйшло незвычайнае пісьмо, якое яму прынёс мясцовы паштар, вусаты стары.

— Замежная птушачка! — сказаў ён і неяк падазрона зірнуў на Сцяпана.

Той сумеўся:

— Ніякіх сваякоў у мяне за мяжой няма.

— Гэта мяне не датычыць. Распішыцеся вось тут. І жывіце багата...

Калі стары пайшоў, Сцяпан нецярпліва ўскрыў пісьмо. І адразу ўсё зразумеў: першае, што кінулася яму ў вочы, гэта быў ліст таўставатай паперы, спісаны дробным, няроўным почыркам. Крывыя літары сведчылі аб тым, што чалавек, які пісаў гэты ліст, быў або стары, або вельмі хворы...

Сцяпан пачаў разбіраць тыя каракулі, слова за словам, схаваўшыся ад дзяцей і жонкі ў сваім пакоі.

Гэта была споведзь чалавека, які паміраў на чужыне. І з той споведзі стала вядома, хто навёў карнікаў на групу чырвонаармейцаў, хто ўвесь час імкнуўся разбагацець на вайне...

«Нямецкага афіцэра і салдата мы забілі, каб забраць скарбонку, якая была пры іх. Золата мы падзялілі, і мне дастаўся твой пярсцёнак, на якім вялікі грэх і кроў. І таму я не ўзяў яго з сабою, а схаваў у дупле старога дуба, што стаіць за Андрэевым гародам. Дупельца тое не дужа высока, пашукай добра, дык знойдзеш... Андрэй і мяне хацеў забіць, той страшны чалавек, забойца тваёй жонкі... З паклонам з далёкага краю. Жыццё маё скончана... Арсен».

Сцяпан, ледзь стрымліваючы дыханне, дачытаў ліст, хуценька выйшаў на вуліцу і скіраваў у канец вёскі. Пярсцёнак ён знайшоў адразу. Ён быў у чорнай сатлелай анучыне. Як апантаны прыбег на Андрэеў двор.

Той якраз быў на дрывотніку.

— Загані ў будку свайго ваўкадава! — загадаў Сцяпан.

— А што?

— Будзе гаворка... За што ты забіў Зосю? Скажы, за што?

Андрэй як набраў дроў, так і стаяў з імі. Толькі піхнуў у будку нагою сабаку і засунуў дошку.

— Я табе казаў ужо, што ў той дзень...

Андрэй спыніўся на паўслове, дровы пасыпаліся з анямелых рук.

— Ты пазнаў, што гэта за пярсцёнак? Ён быў на руцэ Зосі... Пра яго мне напісаў Аднавушка, дзе ён быў схаваны. З-за мяжы... А золата са скарбонкі ты ўжо ўсё збыў? А колькі атрымаў за нашых чырвонаармейцаў?..

— Сцяпа-а-ан! — дзікі крык вырваўся з Андрэевых грудзей.— Пашкадуй маіх дзетак! На мне грэх, яны ж невінаватыя...

— Ніхто нічога не ўведае,— рашуча сказаў Сцяпан.— Аб гэтым я паклапачуся. Кару прыдумай ты сабе сам...

— А жонка, а бацькі?

— І яны нічога не дазнаюцца. Ці ж мала напакутаваліся за тваё здрадніцтва! Бывай, Андрэй...

У той дзень Андрэй Руды і пакончыў з сабой, павесіўшыся на гарышчы...

...Сцяпан зірнуў у канец вёскі, дзе сабралася ўжо многа народу, і паволі пайшоў дадому. Праходзячы па двары, падумаў: можа, гэта і лепш, што вось так забойца і здраднік Андрэй Руды вырашыў самую цяжкую і самую складаную для сябе задачу.

1970

## ЧУЖЫ

Валя зайшла ў хату, кінула позірк на стол, на прымятую канапу, пацягнула носам паветра. Твар яе адразу спахмурнеў. Злосна зірнуўшы на маці, якая прыбірала са стала, непрыязна заўважыла:

— Гэты, барадаты... зноў быў у нас?

Кацярына вінавата апраўдвалася:

— Забягаў сказаць, што сёння ў клубе генеральная рэпетыцыя... Каб ты не спазнялася.

— Больш я туды не пайду!

— Дарэмна. Ён сказаў, што ў цябе добры голас... Талент у цябе...

— Вось і хадзі туды сама.

Валя паклала свой вучнёўскі партфель на падаконнік і пайшла распранацца, а Кацярына, так і не сабраўшы посуд са стала, ашаломленая нязвыклым тонам дачкі, зморана апусцілася на крэсла. «Чаму яна не любіць яго? Чаму так зняважліва размаўляе са мною? Што гэта — рэўнасць ці агіда?» — не ў першы раз падумала Кацярына.

Роўна пяць год назад, гэтакай жа восеньскай парою, яна аўдавела. І пяць год жыла, як у сне, ні на аднаго мужчыну не глянула, хоць ведала, што пры жаданні даўно ўжо магла стаць жонкаю дырэктара школы, мужчыны адзінокага і ціхага. Яна адмовіла яму. Гадавала дачку, займалася небагатай гаспадаркай і хадзіла на працу ў сваю школу, якую скончыла і ў якой вось ужо шаснаццаць год працуе настаўніцай. А ёй жа самой яшчэ толькі трыццаць восьмы...

— Валя, ідзі палуднаваць...

— Яшчэ не хочацца, мама.

Па голасе, які даносіўся з другога пакоя, Кацярына зразумела, што дачка не ідзе есці толькі таму, што тут, у хаце, за сталом сядзеў чужы чалавек.

Яна хуценька прыбрала са стала і заслала яго свежым абрусам, каб нішто не нагадвала, што ён тут быў. «Я скажу Андрэю, каб пагаліўся, каб стаў, як людзі, без гэтай недарэчнай, задужа моднай барады і бакенбардаў. Не хлапчук жа, а сталы чалавек...»

Андрэй Грынкевіч — высокі дужы мужчына сярэдняга веку, крыху рудаваты, з мужным, даволі яшчэ прывабным тварам,— з'явіўся ў Заполлі нядаўна. Яго з нейкай нарады прывёз старшыня калгаса. Пераманіў, казаў, з раённага Дома культуры. Клуб у Заполлі быў вялікі і пустэльны. Апроч кіно ды рэдкіх сходаў, там ніколі іншага нічога не адбывалася. А цяпер, з дапамогай Грынкевіча, працуюць розныя гурткі, бібліятэка, часта бываюць цікавыя лекцыі, іншы раз наязджаюць артысты з вобласці. Адным словам, чалавек аказаўся на месцы, і за апошнія чатыры-пяць месяцаў клуб ажывіў даволі вялікую, у дзве сотні хат, вёску

Заполле. І душою клуба стаў гэты немалады чалавек, заўзяты баяніст і весялун...

Кацярына ўспомніла, як яна ўпершыню пазнаёмілася з Андрэем.

Было гэта ранняй вясною, у нядзелю. Яна выйшла за вёску, у густы хвойнік, каб палюбавацца шырокім разлівам ракі, якая працякае адразу за лесам. На цэлыя кіламетры схавала яна пад халоднымі іскрыстымі струменямі паплавы левабярэжжа, і там, на высокім абрывістым беразе, ёй трапіўся новы загадчык клуба Андрэй Грынкевіч.

Той нібыта ўзрадаваўся Кацярыне, нібыта і чакаў яе.

— Дзень добры, Кацярына Іванаўна! — прывітаўся Андрэй і стаў насупраць, злёгку ўзяўшы Кацярыну пад руку.

— Дзень добры,— абыякава адказала яна, здзіўлена пазіраючы на мала знаёмага чалавека, які трымаў сябе так, быццам яны даўно ўжо самыя блізкія сябры.

— Прыгажосць якая, га? — у яго голасе адчувалася шчырасць захаплення.— З гэтага абрыву вельмі далёка відаць, кіламетраў гэтак на сем.

— Я люблю гэтае месца,— прызналася Кацярына.— Тут некалі стаяла хатка бакеншчыка.

— Дзе? — крута павярнуўся Грынкевіч.— На якім месцы?

— Вам гэта цікава?

— Я даўно марыў жыць на старасці вось у такім куточку. Каб і хвойнік, і рэчка пад бокам...

Яна паказала, дзе была хатка бакеншчыка, і ён выразаў нажом палку з алешыны, абчысціў сучкі і ўторкнуў яе ў зямлю.

— Вось тут і пабудую! — засмяяўся Андрэй і жартам дадаў: — А ў які бок былі дзверы хаціны?

Кацярына дакладна памятала, дзе былі ў бакеншчыка дзверы, і таму з ахвотай паказала.

— Цудоўна! — неяк радасна падхапіў Грынкевіч.— Так і быць. У мяне таксама будуць тут дзверы!

Кацярына зірнула на яго мужны загарэлы твар, на два рады белых шчыльных зубоў, і ўпершыню за пяць доўгіх год у яе душы нешта як бы зварухнулася, ажыло. Яна сумелася ад гэтага даўно забытага пачуцця і адвяла вочы.

— Вы тут, Кацярына Іванаўна, адзіны чалавек, які так разумее хараство... Чаму вы адна? — раптам проста спытаў ён.— У такім узросце...

— А вы? — перапыніла яго Кацярына і ўважліва паглядзела на яго такую смешную рыжаватую бараду.

— Я аўдавеў зусім нядаўна. І не мог там жыць, з'ехаў...

— Вы любілі сваю жонку?

— Перш у мяне была думка пайсці ўслед за ёю,— адказаў Грынкевіч.— Ды вось, як бачыце, жыве чалавек...

Памаўчалі, углядаючыся, як далёка-далёка над самай вадой шпарка прамчаліся адна за адной дзікія качкі.

— І я рады, што не зрабіў таго глупства,— дасказаў сваю думку Грынкевіч, з усмешкай пазіраючы на Кацярыну круглымі вачамі.— За маю цярплівасць прыйшла шчаслівая ўзнагарода...

— Якая, калі не сакрэт?

— Я сустрэў вас, дарагая.— Ён неяк асабліва мякка вымавіў слова «дарагая».— Вы мяне ашчасліўце...

— Ого, як смела!

Кацярына ўскінула галаву і зноў, яшчэ больш уважліва, паглядзела на аброслы твар Грынкевіча. І на момант ёй здалося, што яна ўжо недзе бачыла вось такія калючыя, з халодным бляскам, блакітныя вочы. Нешта знаёмае падалося і ў голасе. І ёй падумалася: «А можа, гэта таму, што мне ўжо крыху падабаецца гэты чалавек...»

Яна ўсміхнулася і зноў прагаварыла:

— Мусіць-такі вы памыляецеся, што я той чалавек, які павінен вас ашчасліўць. Той, хто сам не мае шчасця...

— Я не памыляюся! — цвёрда прагаварыў Грынкевіч.— Праўда, я старэйшы на добры дзесятак гадоў, але ж я — мужчына.

— Вы заўсёды маеце большыя правы на выбар. Але ж і мы, як гаворыце вы, мужчыны, слабы пол, таксама не пазбаўлены гэтага права...

І значна пазней, калі Кацярына ўспаміняла Грынкевіча, яна лавіла сябе на думцы, што тая першая сустрэча зблізіла іх, іменна тады яна адчула, што нездарма іх дарогі скрыжаваліся, што, відаць, сам лёс звёў яе з Грынкевічам.

Андрэй пачаў прыходзіць да Кацярыны, падоўгу праседжваў у яе, а пасля ўжо стаў і частым застольным госцем на правах халасцяка, які больш сядзіць на сухамяці...

Ды зусім нечакана-нягадана тым частым візітам быў пакладзены канец. Аднойчы, калі пасля чарговага наведвання Грынкевіч пайшоў, Кацярыніна дачка Валя, якую

яна любіла ўсёй душою, стала насупраць маці і ўзрушаная, ледзь стрымліваючы дыханне, выпаліла:

— Я не хачу бачыць гэтага чалавека ў нашай хаце! Не хачу! Чуеш? Калі ты не скажаш яму, каб не прыходзіў, то...

Кацярына моцна пакрыўдзілася на дачку за такі катэгарычны тон, але лагодна, як магла, перапыніла яе:

— Чаму, дачушка? Хіба ён чым пакрыўдзіў цябе?

— Ён чужы... Зусім-зусім, мамачка, чужы! Я адчуваю гэта і не магу яго бачыць...— І яна кінулася на матчыны грудзі, заплакала наўзрыд.— Я ведаю,— гаварыла ўпроплач,— ты хочаш, каб ён стаў мне бацькам. Але гэтага ніколі не будзе. Ён чужы. І вочы чужыя, і твар... проста страшны. Я не магу на яго глядзець, я баюся яго!..

У свае трынаццаць гадоў Валя была даволі рослая дзяўчынка. Як і маці, чарнявая, з прыгожым белым тварам і вяснушкамі пад вачамі. Яна рана пазнала простыя жыццёвыя ісціны і глядзела на ўсё разважліва, стала.

Кацярына нічога не адказала дачцэ. Яна і сама не раз думала, што ніхто ёй не заменіць Міхася, які так заўчасна памёр. Але ж і не хацелася вось так, у маладыя гады, прападаць у адзіноце. Жаль да сябе, да свайго няскладнага жыцця пякучым болем калоў сэрца, якое прагла мужчынскае ласкі, якое зноў, мо ў апошні раз, пазнала радасць новага кахання, і таму Кацярына, хоць і крадком ад дачкі, яшчэ дазваляла Андрэю прыходзіць да яе.

Сёння дачка прыйшла са школы раней, і ўсё тайнае стала яўным. Гэта ўжо было непрыемна. Кацярына ніколі не хавалася ад дачкі, не хлусіла ёй. А цяпер вось даводзіцца хавацца і хлусіць.

Іншы раз нават разбірала злосць. Яна, Валя, маладая, у яе ўсё яшчэ ўперадзе. А што чакае яе, Кацярыну? Хмарная восень, а затым і старасць...

Андрэй ёй падабаўся. Ён не быў нахабны, добра абыходзіўся з ёю. Ды і суседзі не раз намякалі, што, маўляў, не кепская была б пара. А вось дачка адно і адно — чужы...

Іншы раз і Кацярыне здаецца, што калі б Андрэй быў такі, як усе, то значна бліжэй бы стаў і да яе, і да дачкі. «Не, я скажу яму, абавязкова скажу...»

І дні праз тры, калі Андрэй крадком забег да яе, Кацярына адклала свае сшыткі і доўгім дапытлівым позіркам паглядзела яму ў твар.

— Ты што гэта разглядаеш мяне, як куплёнага? — насцярожана спытаў Андрэй.

— Ды так... Не падабаецца мне твая гарадская мода. Там (і то больш маладыя) ходзяць такія аброслыя. А Валя проста цярпець не можа. Пагаліўся б ты...

Андрэй згроб левай рукою рыжаватую бараду і весела адказаў:

— Хочаш, я сёння ж пагалюся? Хочаш?

— Хачу,— смеючыся, адказала яна.

Андрэй прыгарнуў Кацярыну да сябе і пацягнуўся вуснамі да твару. Яна адхіснулася і закрыла яму рот рукою.

— Паголішся, тады і падумаю, ці дазволіць...

Ён нецярпліва крутнуў галавой і, спахмурнелы, адышоў ад Кацярыны.

— Твая ўпартасць проста здзіўляе! — упершыню сказаў раздражнёна.— Быццам ты ніколі не бачыла мужчыны. Мы ж ужо, дзякуй богу...

— Не падабаецца — можаш адправіцца! — строга перапыніла яго Кацярына.— І запомні: пакуль не зробім усё па-людску, я для цябе — проста знаёмая...

Грынкевічу было невыгодна гнявіць Кацярыну і таму ён адразу памякчэў:

— Прабач, я не хацеў цябе крыўдзіць. Проста не магу ўтаймаваць свайго сэрца.

— Хутка прыйдзе Валя, яна ўтаймуе.

— Тады я знікаю! — Грынкевіч узняў правую руку, крута павярнуўся і пайшоў да дзвярэй.

* * *

Восень мае сваю непаўторную прыгажосць, яна навявае ціхую, журботную радасць, лёгкую тугу, быццам у прыродзе адбылося штосьці таемнае, хвалюючае. Кацярына любіла гэтую чароўную пару, любіла пахадзіць па ўзлессі, дзе ўжо напалову асыпаліся бярозы і клёны, дагараючы барвовай лістотай, дзе сустракаюцца абсыпаныя вогненнымі каралямі калінавыя кусты.

Праходзячы па ўзлессі, яна і не прыкмеціла, як апынулася ў тым запаветным хвойніку, непадалёк ад ракі.

«Дзе ж гэта мы з ім сустрэліся?» — падумала Кацярына і зірнула перад сабою. Зірнула і спынілася ўражаная: непадалёк ад абрыву ўбачыла Грынкевіча.

— Што ты тут робіш? — зусім натуральна спытала яна.

Андрэй ад нечаканасці ўздрыгнуў, нібыта яго злавілі за якім злачынствам.

— Тфу, напалохала! — пачаў налівацца чырванню яго раптоўна збялелы, чыста паголены твар.— Адкуль ты ўзялася?

— Прагулялася пасля заняткаў... У мяне сёння былі толькі тры гадзіны... Хутка наш дырэктар і гэтыя гадзіны не дасць! — усміхнулася Кацярына.— Да цябе раўнуе. О, ты пагаліўся! Віншую! Адразу на дзесяць гадоў памаладзеў...

— Стараюся падабацца, а то возьмеш ды перабяжыш да дырэктара.

— Я пажартавала, ён добры чалавек... Проста сёння старшакласнікі на бульбе.

— А я вось...— ён паказаў наперад.— Гляджу — не нагляджуся. Восенню тут яшчэ прыгажэй. Трэба брацца за работу.

— Усё-такі думаеш будавацца?

— Абавязкова!

— Чаму бакенбарды пакінуў?

— Пахаджу так трохі, не ўсё ж адразу.

Яны яшчэ крыху пагаварылі, і Кацярына паспяшалася дамоў, каб паспець зрабіць што на абед, пакуль прыйдзе дачка, і дагледзець сваю небагатую жыўнасць. «Пагаліўся... Паслухаўся...» Гэта радавала яе, хоць, па праўдзе кажучы, з барадою ён быў прыгажэйшы — не так востра вытыркаўся падбародак.

Мінула нямала часу, пакуль Валя, нарэшце, абыякава паставілася да візітаў Грынкевіча, хоць сустрэч з ім пазбягала.

— Ён чужы... Але калі ўжо ты так хочаш, я не стану вам на дарозе,— заявіла яна аднойчы.

— Як ты са мною размаўляеш! — паспрабавала абурыцца Кацярына, але Валя вінавата замаўчала, хуценька апранулася і выйшла.

То быў выхадны дзень, які супаў з Кацярыніным днём нараджэння. Увечары сабраліся суседзі, знаёмыя. Прыйшоў і Андрэй з баянам. Упершыню пасля смерці мужа ў Кацярынінай хаце было так тлумна і весела.

— Вось цяпер вы сапраўды жаніх! — гаварылі Грынкевічу суседкі-маладзіцы. Гаварылі з пэўным намёкам, і Кацярына адчувала сябе ніякавата і чырванела, не ве-

даючы, чым заняць свае рукі. І яна падкладвала гасцям то грыбкоў, то гурочкаў, то вяндліны і ўсё запрашала сілкавацца, каб не хмялець.

— На тое яна і гарэлка! — гаварыў Андрэй і наліваў усім чаркі, нібы ўжо быў тут за гаспадара. На самай жа справе, апроч таго, што былі імяніны, суседкі зразумелі Кацярыну па-свойму, па-вясковаму: яна запрасіла іх на агледзіны ці ўжо на заручыны. І таму так настойліва ўсе расхвальвалі гаспадыню і Андрэя Грынкевіча.

Гулянка скончылася далёка за поўнач.

Адправіўшы гасцей, Кацярына апранула асенняе паліто, накінула на галаву цёплую хустку і выйшла правесці Андрэя, праветрыцца самой.

Жыў Грынкевіч пры клубе ў невялікай бакоўцы. Была там грубка, стол, два крэслы, ложак — усё, што неабходна для непатрабавальнага халасцяка.

— Зойдзем на хвілінку,— прапанаваў Грынкевіч, калі Кацярына спынілася непадалёк ад клуба. І настойліва ўзяў яе пад руку.

— Няёмка... Яшчэ хто ўбачыць,— паспрабавала вызваліцца Кацярына.— Языкі ў людзей злосныя, наплятуць немаведама чаго.

— Толькі на хвілінку. Бачыш, нідзе нікога...

Яна азірнулася і, падпарадкоўваючыся нейкай невядомай сіле, быццам у сне, пайшла наперад, яшчэ не ўсведамляючы ўсёй значнасці гэтага кроку. «Ён п'яны, ледзь трымаецца на нагах»,— падумала сабе ў апраўданне, зачыняючы за ім дзверы.

А потым, паддаючыся гэтаму настрою, распранулася, падышла да ложка, засланага пушыстай коўдрай, і села. Адразу нібы апамяталася, агледзела пакой і ўбачыла, што Андрэй намагаецца зняць чаравікі. «Што ж гэта я? Чаго я тут?» — падумала Кацярына, і ёй нібыта пачуўся дачын голас: «Чужы... Зусім чужы...» Ад гэтых думак халадок пабег па спіне, захацелася падняцца, збегчы, каб ужо больш ніколі не бачыць гэтага п'янага твару, асалавелых вачэй, якія так хціва глядзяць на яе.

І раптам зноў прыйшла рашучасць: «Ён альбо — ніхто!»

Андрэй ужо быў у лёгкай паласатай піжаме, ад якой патыхала духамі. Сеўшы побач, ён прыпаў шчакою да яе твару і, абдымаючы, лагодна прамурлыкаў на вуха:

— Нарэшце мы адны...

Кацярына крута павярнулася і зірнула на Андрэеў

профіль. Зірнула і пахаладзела: ля левага вуха, у шчэцці рыжаватых валасоў яна ўбачыла цёмна-бурую радзімую пляму, падобную на серп-маладзік. «Божа мой, што ж гэта?.. Няўжо?.. Гэтая пляма... Серп... Маладзік. Серп, маладзік...»

Кацярына спалохана адсунулася і ціха папрасіла:

— Раскажы што-небудзь пра сябе...

І ён нешта замармытаў сабе пад нос. А мо так ёй здалося, бо яна не слухала яго. Памылкі не было: рудая пляма разанула па яе сэрцы, на момант пацямнела ўваччу, ад хвалявання стала цяжка дыхаць.

Андрэй зразумеў яе ўзрушанасць па-свойму.

— Любая! — прашаптаў ён.— Выключы святло...

— Не... Я не магу вось так, адразу...

— Ну, як знаеш...— Грынкевіч, здавалася, задрамаў.

А Кацярына пачала ўспамінаць усё па парадку...

...Ішоў трэці год вайны. Кацярыне тады было яшчэ толькі трынаццаць, і жыла яна з маткай у свайго дзеда Піліпа ў невялічкай вёсачцы Выспа, што схавалася ў гушчары сівога бору. Бацька яе і старэйшы брат пайшлі ў партызаны, а дзед ужо быў дужа стары і хваравіты. Там, у Выспе, жылося zацішней, немцы рэдка заглядалі.

Ды неяк надарылася бяда: на дасвецці ў вёску ўварваліся карнікі, а за імі ўвайшла буйная вайсковая часць, з артылерыяй і танкамі. То пачыналася апошняя блакада партызанскай зоны. У самым канцы мая...

Кацярыніна маці, партызанская сувязная, удала выбралася з Выспы. Яна пачула гул машын і адразу выбегла за вёску ў алешнік. А пасля падалася да першага паста, каб перадаць трывожную вестку сваім.

А Кацярына з дзедам паспрабавалі пайсці на хітрасць. Яны выгналі сваю кароўку і паволі пачалі аддаляцца ад вёскі. Кацярына трымала карову за вяроўку, ішла збоку, а дзед тэпаў ззаду. Вось яны падышлі ўжо да кустоў на выгане, як раптам адтуль проста на іх з аўтаматам напагатове высунуўся рудаваты немец. Ён смяяўся і некаму гучна гергетаў на сваёй мове.

— Во, каб на цябе трасца, вылюдак! — вылаяўся дзед.

— А каб цябе пярун спаліў! — нечакана вышчарыўся той.— А ну, марш назад, старая драбіна...

— Жывёліну папасвіць трэба,— разгубіўся стары, уражаны тым, што чужак добра ведае нашу мову і гаворыць чыста, дакладна.

— Жывёліну тваю мы тут папасвім...

З затоеным жахам глядзела Кацярына на фашыста і, здавалася, нічога, апрача рудой плямы ля правага вуха, не бачыла. Яна была вельмі прыкметная, тая пляма, нагадвала серп-маладзік. І тады яна ўбачыла хцівыя савіныя вочы, якія вельмі страшна глядзелі на яе.

— Папасвім, дарагая! — фашыст адарваў яе ад вяроўкі і моцна, да болю, сціснуў руку вышэй локця.— Прэч, псіна паганая! — крыкнуў ён на дзеда Піліпа.— Застрэлю, як сабаку!..

— Яна яшчэ зусім дзіцё,— пачула Кацярына і азірнулася на той голас. Да іх падыходзіў салдат у форме нашага чырвонаармейца.

— Дзядзечка! Міленькі, родненькі, праганіце яго! — вырываючыся, прасіла Кацярына.— Ён жа фашыст... Дзядзечка-а!

Ёй няўцям было, што яны абодва — фашыст і «наш салдат» — рагаталі з яе мальбы. Толькі значна пазней Кацярына даведалася, што гэта былі варожыя дэсантнікі-дыверсанты, завербаваныя з розных адшчапенцаў.

— Не грашы перад адпраўкай туды,— кіўнуў галавою на ўсход салдат у савецкай форме.— Гэта дрэнная адзнака...

Гэтыя словы нібыта падштурхнулі старога. Ён кінуўся да дыверсанта і павіс на яго руках, учэпістымі пальцамі схапіў ворага за горла і крыкнуў:

— Бяжы, унучка-а!..

Той адразу выпусціў Кацярыну, і яна, не трацячы ні хвіліны, з усяе сілы кінулася ў кусты...

Чула за спіною стрэлы, крык, але не спынялася. Мясціны былі ёй добра знаёмыя і сцежкі вядомыя. Узбегшы на кладкі, што вялі праз балота на востраў, яна птушкай перамахнула іх і там сустрэлася са сваёй маці.

— Мамачка, фашыст дзеда застрэліў! — загаласіла Кацярына, закрываючы рукамі твар. Яна кінулася на зямлю і ўздрыгвала ўсім целам...

...Гэта было дваццаць сем гадоў назад, а Кацярыне здалося, што толькі ўчора.

«Цікава будзе дазнацца, ці сапраўды яго гэта прозвішча... Па якіх мясцінах ён хаваўся да гэтага часу»,— падумалася Кацярыне. І яна ўспомніла недзе чутае, што кожнага злачынцу цягне месца яго злачынства. Вядома, Грынкевіч ніяк не ўяўляў, што запольская дзяўчынка магла быць у той час у далёкай вёсачцы Выспе...

«Вось ты і папаўся!» — задаволеная, нібы скінуўшы з сябе цяжкі груз, што ўвесь час прыгнятаў яе, падумала Кацярына. Ад гэтай думкі праяснела ў галаве. Яна зноў зірнула на яго бакенбарды, услухалася ў ціхае пасопванне Грынкевіча. «А можа, усё гэта мне здалося? Можа, ён зусім другі чалавек, толькі падобны да таго?»

Яна асцярожна паднялася, апранулася і выйшла. І сумненне, якое закралася ў яе душу, пачало ўзмацняцца, расці. «Не, не! У таго фашыста была большая пляма... А мо так здавалася малой? Хутка, хутка ўсё высветліцца...»

Зоры на небе дрыжэлі, нібы ад марозу, які так пацiснуў к начы. Пад нагамі рыпеў нязляжалы, сыпучы снег. Кацярына спяшалася, яна ішла ў школу, дзе быў тэлефон. Ішла пазваніць у раён, як гэта робяць заўсёды, калі нападаюць на след хцівага злачынцы...

1971

## ЦІ ВІНАВАТЫ?..

Высокі і шыракаплечы, Андрэй Завацкі ішоў па вуліцы Пабярэжжа як гаспадар. Да ўсяго прыглядаўся, прыслухоўваўся. А вёска ў гэты гарачы поўдзень нібы вымерла. Дзеці і тыя збеглі на раку. У цень пазашылася ўсё жывое: у вішнячку, дакапаўшыся аж да самага карэння, ляніва палопвалі крыллямі разамлелыя куры; чорны, як галавешка, сабака ляжаў у засені ліпы, высалапіўшы чырвоны язык, ледзь здыхваўся; гняды спутаны конь, якога даняў гнюс, прыскакаў аж з лугу пад галінастую вярбу і, звесіўшы галаву да самай зямлі, махаў ёю так заўзята, што аж разляталася грыва. Збавення ад спёкі не было нідзе.

Хоць Андрэй і расшпіліў ужо каўнер белай вышыванай кашулі — не памагала. Пот так і абварваў усё цела. «Мог бы спусціцца з вуліцы-пагулянкі на рэчку і добра пакупацца,— думаў ён,— дык дзе там, усё няма калі. Брыгадзіру сапраўды трэба мець сабачыя ногі, каб за дзень паспець пабываць дзе трэба. А ў мяне, хадака, адна нага, як на пратэзе,— не гнецца. Гадоў ужо, мабыць, з дзесяць прайшло, як зваліўся быў з прычэпа і трапіў пад

трактарныя плугі. На тым тады і скончылася твая механіка, Андрэй. Прыстроіўся да брыгадзірства. А час, ліха на яго, ляціць! Ляціць як утрапянелы».

Час рабіў сваё.

Андрэя Завацкага не дужа цягнула да навукі. Сяк-так адолеўшы сямігодку, пайшоў сам сабой прабіваць дарогу. Спярша — падпаскам у «палкоўніка», старога пастуха Рыгора. Але там, на радасць статка, больш тыдня не пратрымаўся. От ужо дасталося тады каровам ад Андрэя! Прачнулася ў ім нейкая хваравітая прага ўзяць хоць над чым-небудзь зверхнасць. Хацелася кіраваць. Хоць кім ці чым — абы кіраваць.

І якое ж гэта было свята, калі аднойчы назначылі яго, тады яшчэ зусім маладога, чырванашчокага дзецюка, старшым па вывазцы ўгнаенняў. Хоць і сам тады ўманежыўся да сёмага поту, але дасталося і падначаленым і коням. Гаманы ды каманд было на ўсё поле. Брыгадзір тады якраз і прыкмеціў яго стаpанне, пахваліў. Пасля таго за старанне ўсюды прызначаў старшым. Да смеху даходзіла. Аднаго разу выклікае Андрэя.

— Пойдзеш,— кажа,— хлопец, выган ад ракі адгароджваць. Жэрдкі там ужо ляжаць. Прызначаю старшым.

А ён, пакуль і не скончыў тую агароджу, не прысеў, не закурыў. Дня не хапіла, шарай гадзінай надтачыў.

Потым ужо, калі старшынёю стаў яго колішні школьны таварыш, акрыяў Андрэй. Умалёгаў таго спачатку прызначыць яго старшым свінаром на ферме. Аж два гады ўсё пяўся там у перадавыя, пакуль не ўмасціўся на пасаду загадчыка фермы ў трэцяй брыгадзе. Людзі з гэтай яго прагнасці да кар'еры кпілі, і калі толькі заводзілася гаворка пра Андрэя, таго і чакай, што хто-небудзь секане напрамкі: «А-а, Завацкага хлебам не кармі — толькі дай лейцы ў рукі». Гаварылі пра яго паганы характар, пра самаўпраўства, але на гэтыя нараканні начальства не звяртала ўвагі.

Толькі аднойчы, калі Міколіха, жонка загінуўшага франтавіка, прыгразіла была «вывесці князька на чыстую ваду», старшыня перасцярог свайго школьнага сябрука:

— Глядзі, Андрэй, стопчуць цябе калі-небудзь людзі за твой паганы характар!

Андрэй адбрыкаўся тады жартачкамі:

— Не качаня — не стопчуць. Быць не можа, каб Завацкага стапталі!

I яшчэ больш пакруцеў з калгаснікамі.

Скаргі не спыняліся, і старшыня неўзабаве выклікаў да сябе Завацкага другі раз на больш сур'ёзную размову.

— Ведаеш, Андрэй, пашлю я цябе на курсы ў горад. Акадэміка ты там з пасады не сапхнеш, а ў нас на полі будзеш добрым аратым. Хопіць табе каровам хвасты круціць.

Добрая характарыстыка, напорыстасць і час зрабілі сваю справу: у калгас вярнуўся спецыяліст з адукацыяй. Старшыня адразу:

— Прымай, Андрэй, трэцюю брыгаду! Парадкі там, як той казаў,— свінні мех калашмацяць, а брыгадзір усё ў чарку глядзіць, так што ты там падыдзеш у самы раз.

З тае пары і брыгадзірнічае ў трэцяй...

«Вунь яны, прысады! — збаўляючы крок, падумаў Андрэй.— Кожны дзень іх бачу, а Зінку ўсё ніяк не сустрэну...»

Над самай ракой тоўпіліся купкамі высокія ліпы і клёны. Сярод прысад ледзь віднелася старая хата пад дранкаю. А над хатай — старая груша.

Андрэй зусім быў спыніўся і паглядаў на знаёмую хату, да якой не раз прыходзіў і раней, каб і цяпер, нібы выпадкова, сустрэцца там з Зінай. Зіна Кляткоўская не была якой-небудзь Міхалкавай Зосяй ці Марфачкай. З даяркамі Андрэй па-свойму, крыху грубавата, мог і жартаваць, і смяяцца, і ляпнуць, што ўзбяжыць на язык. Зіна ў калгасе лічылася адзінкай сельскай інтэлігенцыі. У невялічкай прыбудове да клуба яна была сама сабе гаспадыня. І часта, праходзячы ля дзвярэй з шыльдай «Медпункт», Андрэй чытаў напаўголаса: «Мёдпункт!» Калі здаралася гэта чуць Зіне, яна ў адказ з'едліва пыталася: «Ну, а як кароўе здароўе?» Андрэй, як змылак з'еўшы, адразу хмурнеў і падаваўся крыху далей, да абрыву, з якога амаль усёй постаццю навісла над вірам старая чачотабяроза.

Андрэй зірнуў у невялічкую вулку, што вяла праз гародчык на двор Квяткоўскіх. Там, на прызбе, сядзеў сам гаспадар — стары Рыгор і пыхкаў люлькай.

— Дзень добры, бацька,— павітаўся ён з напускной весялосцю. Прайшоў на двор і сеў побач.

— Дзіва што добры,— ажывіўся той, абрадаваны субяседніку.— Такі ўжо добры, што й не прыгадаеш, у якую пагоду такі выдаваўся. Хоць сена грабі, хоць жыта жні. А ўсё ж наспела, аж крышыцца.

— Усё,— згадзіўся Андрэй, пстрыкаючы дзеля забаўкі запальнічкай.— А вы, Рыгор Мікалаевіч, не думаеце ў брыгаду на колькі дзён? Цяпер кожны чалавек даражэй за золата...

— Куды там мне,— паківаў ссівелай галавою стары.— І цяпер, чалавеча, не кожны золата. Я вось ужо не золата і не серабро, а спарахнелы пень, ледзьве дыхаю.

Сказаў і хутка-хутка запыхкаў. Яго худыя шчокі западалі і надуваліся. Гледзячы на іх, Андрэй думаў: «Няўжо і я калі стану гэткім? Чалавек-порхаўка...»

Каб разагнаць сумоту, лагодна спытаў:

— А куды ж гэта ваша золата ўсё знікае?

Нібыта цень прабег па твары старога.

— А-а-а, ты пра Зінку... Гэта — хто як цэніць. Яно-то праўда — спраўная дзяўчына вырасла, уся ў матку.— Падумаўшы, дадаў: — Як жа ёй, чалавеча, дома быць, калі ў нас аж чатыры брыгады! А людзі ўсе на полі. Дык яна дзень ездзіць, а вечар у сваім тым пункце сядзіць, дзяжурыць.

— Пара, дзед, і мне на поле! Заседжвацца няма калі. Можа, дзе і з Зінай сыдземся...

Устаў і з ухмылкай зірнуў на старога, як бы прыкідваючы, што адкажа стары на яго намёкі.

Усміхнуўся і стары. Акінуў брыгадзіра калючым позіркам сініх вачэй.

— А што табе з таго прыбудзе, што сыдзешся з ёй?

— Чаму — што?

— Таму. Ці ты не ведаеш, што кавалер, каторы цяпер на былым тваім месцы, кожны вечарок сюды наведваецца. Выправяцца пад вербы да ракі і аж да дня ўсё прыродай любуюцца! Чуў ты гэта? Прырода-то яно і так, але ці тая прырода! Кхе-кхе-кхе...

Стары закашляўся, зачырванеўся, і на маршчыністым ілбе натужыліся вузлаватыя сінія жылы.

— Пятро Войцік?! — Вузенькія, як нафарбаваныя, брыгадзіравы бровы ўзняліся ад здзіўлення. І як быццам чалавеку адразу пагарачэла ўдвая. Ён да апошняга гузіка расшпіліў кашулю, рукой наводлег збіў са штаноў пыл і закульгаў напрасткі праз бульбянішча ў напрамку да абрыву.

— Гэй ты, чалавеча, ты ж там толькі з гарачкі не боўтні ў вір галавой! — схамянуўся, адкашляўшыся, стары Квяткоўскі. Андрэй не азірнуўся, але дзедавы словы, як дакор, надоўга заселі ўвушшу.

Старая бяроза [redacted] ніцым вішшом аж млела над ракой.

Андрэй абапёрся на сухі і цвёрды, як костка, бярозавы сук і зірнуў уніз. Па цёмным віры, на самай яме, хадзілі варонкі. Ён упершыню адчуў, што ў грудзях уздымаецца бура пратэсту. Як жа гэта магло здарыцца, што яго, ужо не пастуха, а брыгадзіра, тут не толькі не паважаюць, а і не любяць, насміхаюцца з яго? А можа, гэта адны Квяткоўскія з-за тых сваіх гусянят, якіх ён летась пазабіваў паскаллем на калгасным аўсе? «Эх, людзі-людзі! Дык я ж сам хварэю за калгаснае дабро, за кожны сноп — няўжо такое нельга даравацьі Але ж і другія касавурацца, як ваўкі — усім я, выходзіць, іхнюю мяжу пераараў. Таму соткі абрэзаў да самага двара, таму адмовіў у транспарце лес на новую будыніну прывезці...»

Пазіраў далей, на плёс ракі, паступова супакойваўся. Строма ракі бліпічэла, як друз шкла. На бераг павявала прыемным халадком. Не хацелася думаць ні пра што. Нават пра таго кірпатага Войціка. І ўсё ж думалася. І думалася з болем. «Дзеля каго ж я стараўся, калі не для яе? Дзеля каго ў брыгадзіры выбіўся? А ён, гэты адстаўны сержанцік, якое мае права прыходзіць сюды? Падумаеш — загадчык фермы!»

Думалася. І з'яўляліся нейкія новыя планы супраць тых, хто стаяў яму ўпоперак дарогі.

Ён устаў і берагам пайшоў у канец вёскі, дзе на пагорку стаяла некалькі новых будынін брыгаднай фермы. Андрэй прайшоў на прыёмны пункт і спытаў у даярак, якія толькі што скончылі дзённае даенне і варам мылі бітоны:

— Падкормку падвозілі?

— Сёння не будуць,— абыякава адказала яму прыёмшчыца Каця, высокая, русавалосая дзяўчына, з надзвычай чыстым белым тварам — малодшая Зініна сястра. Андрэю чамусьці заўсёды здавалася, што яна, няйначай, мыецца адным малаком.

— Чаму ж не будуць? Цяпер толькі і даваць,— Андрэй пайшоў між стойлаў.— Бач, як каровы перапалі за гэтыя гарачыя дні. А куды ж вашага сержанта змяло? — спытаў ён са злосцю.

— Дзе ж беднаму сержанту цяпер быць, як не на рацэ? — пытаннем на пытанне адказала Каця і ўсміхнулася.— Купацца пайшоў. Там недзе і Зінка каля касцоў.

«Параспускаліся тут на дармовых вяршках, шэльмы!» — прашаптаў сам сабе, і аж закіпела ўсё ўсярэдзіне, аж пачырванеў ад злосці. Ён зразумеў і смелы позірк дзяў-

чыны і яе здзеклівыя словы. «Помсціць, белабрысая,— падумаў.— Гэта яна не дагледзела тады сваіх гусянят...»

Толькі выйшаў з фермы, як насустрач, нябачны здалёку ад пылу, вынырнуў калгасны «газік», і з яго гарбузом выкаціўся чырвоны, як з лазні, старшыня. Прыхворваючы на сэрца, ён за апошнія часы так растаўсцеў, што шэрая кашуля на ім, здавалася, вось-вось распаўзецца па швах.

«Буду-ткі я ездзіць на гэтай машыне!» — спадылба пазіраючы на старшыню, які штосьці гаварыў шафёру, прыкідваў у думках Андрэй. Яны павіталіся стрымана, афіцыйна. Старшыня загаварыў адразу:

— Што ж гэта людзі табой незадаволены? Пераціскаеш супонь, брыгадзір.

— Як гэта разумець? — заклаўшы рукі за спіну, брыгадзір зірнуў у бок ракі.

— А так... Многа крычыш, многа камандуеш. Насядаеш на народ. Пугу часта пускаеш у ход, як з тымі каровамі колісь, помніш?

Яшчэ больш нахмурыўся Андрэй, але, скрывіўшыся, змоўчаў.

— Не злуйся за праўду. Давай лепш пойдзем да ракі, пакупаемся...

— Я плаваю, як сякера. Нага...

Памаўчалі. Калі першая злосць прайшла ў абодвух, старшыня прымірэнча сказаў:

— З людзьмі, дурань ты гэткі, трэба па-людску. А ты як? Ты ж нікому не даеш нават і рот раскрыць. Усё сам і за ўсіх сам.

— І сам! — зноў павысіў голас брыгадзір.— Толькі што быў на ферме. Каровы лежма ляжаць, на выган амаль не выганяліся, пад мордамі ў іх фіга, а Войцік сабе купаецца! Вось я і думаю, а ці патрэбен нам загадчык фермы? Ці не лепш брыгадзіру часцей туды заглядваць? Які ён спец, той Войцік, калі нават у арміі праслужыў добры дзесятак год і толькі да сержанта дайшоў...

— А ты ведаеш, на якой службе ён быў?

— Не.

— Дык і не загінай! Там, дзе быў Войцік, сержант — тое самае, што ў іншай часці капітан! А на ферме, яно і праўда, яму няма чаго рабіць, калі тваё вока і туды дапінае.— Старшыня падумаў, дадаў: — Што ж, перакінем хлопца на тэхніку! Увесь наш аўтапарк і майстэрні яму больш да душы прыйдуцца.

— Сам ты загінаеш, Мікалай! — узяўшыся ў бокі, за-

смяяўся Андрэй.— Мае хлопцы яго і ў прычэпшчыкі не возьмуць!

Таройкаючыся, яны і не прыкмецілі, як падышлі да ракі. Унізе, за пясчаным адгор'ем віднеліся загарэлыя спіны хлопцаў, стракатыя купальнікі дзяўчат. Зводдаль, ля кустоў, як вінтоўкі, у «козлы» былі састаўлены граблі і косы.

«От гэта сенакос! — ледзь не вырвалася ў брыгадзіра.— Сонца смаліць, сена ляжыць у пракосах, а яны сабе купаюцца». Па звычцы ён ужо хацеў быў падаць сваю ўлюбёную каманду, як адчуў на плячах старшынёву руку.

— Не скачы, Андрэй! Няхай касцы асвяжацца. Людзі змыюць пот, аддыхаюцца і зноў возьмуцца за работу. Пабачыш, пасля аддухі і праца пойдзе спарней.

— Сэрца ж баліць, на луг гледзячы...

— Мне, думаеш, не баліць? А я вось таксама з імі...

Старшыня подбегам павалюхаў да ракі.

Андрэй пільна глядзеў на другі бераг, на лугі, дзе між кустоў праходзілі двое. Сэрца трывожна білася. «Яны ці не? Мусіць, яны, бо на кусце вунь вісіць нешта накшталт сержантавай гімнасцёркі...»

Андрэй рашуча ўстаў, зашпіліў кашулю на ўсе гузікі і паціху пайшоў ад ракі.

«Лагодненька абыходзіцца з людзьмі...— падумаў ён са скептычнай усмешкай.— Добра, мае любыя дарадчыкі, я буду абыходзіцца лагодненька. Але ж якая трасца на працадзень перападзе?.. Не, прыйдзе каза да воза!»

І сапраўды, з таго часу сталі заўважаць, што брыгадзіра нібы падмянілі. Перастаў гыркаць на людзей, калі гаварыў з кім, то лагодна, «на поўным сур'ёзе», як сказаў бы і сам старшыня. Не забываўся Андрэй і на ферму. Кожную раніцу забяжыць, параіцца па справах, дасць усім на дзень заданне і далей у свой абход. Проста душа-чалавек, аж не верылася. І наўрад ці крыўдавалі на яго пабярэжцы, калі ён гаварыў каму з іх:

— Коніка табе разараць бульбачку трэба? Яно-то і трэ было б даць, але ж, як на гора, сёння ў нас усе коні заняты! Кажаш, а як назаўтра? Не ведаю, даражэнькі... Калектыўная, так сказаць, дзяржаўная справа. Яна, канечне, перш за ўсё. Уласная паспееца, не ў першую ж чаргу...

Аднойчы, ужо глыбокай восенню, калі над Бярозай ага-

ліліся кусты і лугі заліло вадою, Андрэй Завацкі спыніў на дарозе калгасную машыну і спытаў у вадзіцеля:

— Куды ж гэта ты, скараход мой, ляціш? Дарога ж, сам ведаеш, не асфальт, а машына ў нас не на адзін год...

— Ведаю. Але ў Квяткоўскіх няшчасце,— тлумачыў вадзіцель.— Стары зусім аслаб. Іхняя Зіна паслала мяне адвезці старога ў горад, у бальніцу. Яна чакае!

Андрэй недаверліва паглядзеў на вадзіцеля, падумаў і лагодна спытаў:

— Кажаш, Зіна паслала? А можа, той сяржант?

— Не, Зіна.

— А як ты думаеш, мае яна права распараджацца калгаснай маёмасцю ці не?

— А калі ў чалавека бяда?

— Бяда. Дык ці ж гэткага асілка даваць на святыя мошчы? Хопіць яму і каня,— холадна адказаў Андрэй.— А пяцітонку ўжо даўненька чакаюць нашы лесарубы на дзялянцы. Грамада. Ім трэба падвезці сякі-такі правіянт... Вось табе паперка, не камандуй тут мною.

Андрэй дастаў з кішэні пінжака блакнот, паклаў яго на крыло машыны і штосьці напісаў. Вырваў лісцік і падаў вадзіцелю.

— Да кладаўшчыцы газуй! Усё, што трэба, пагрузі і кіруй на Стары Брод.

— Я ж сёння не спраўлюся вярнуцца,— быў запярэчыў вадзіцель, але Андрэй толькі плячамі паціснуў.

— Не справішся сёння, вернешся заўтра...

І пайшоў дадому.

Ужо вечарэла, калі ў сенцах грукнулі дзверы і на парозе — Андрэй гэтага і чакаў, на гэта і разлічваў! — са збітай набок хусткай, у адной кофтачцы, спынілася ўзрушаная Зіна.

«Прыбегла коза да воза!» — радасна падумалася брыгадзіру.

— Андрэй! — проста з парога пачала яна, паволі ідучы да яго.— Тату патрэбна неадкладная аперацыя. Як урач я ведаю, што ў такіх выпадках значыць кожная гадзіна спазнення. Дзе машына? Чаму ты яе паслаў у лес?

Завацкі стаяў ля акна, склаўшы рукі на грудзях. Ён думаў сваё: «А ты не спяшайся, козачка, скакаць, хоць і прыгожая, хоць і гордая, але не скачы. Сэрцу, як ты казала, не загадаеш. Вось табе, любая, і маё прызнанне...»

Адказаў афіцыйна:

— У лесе брыгада, грамада. Як брыгадзір я адказваю

за своечасовы падвоз правіянту! У вашым жа распараджэнні цэлы парк машын.

— Можа, тату на трактары загадаеш везці? — прыжмурыўшы вільготныя ад слёз вочы, падалася да яго Зіна, але спынілася, не дайшоўшы да Андрэя на які крок.— Ці на камбайне?

— Вазьмі каня.

— Не здзекуйся! Пяць гадзін — гэта для таты канец!

— Збегай да старшыні, ён дасць «газік», дальбог, не адмовіць...

— Старшыня паехаў у вобласць.

— Вазьмі «Ластаўку», тая дамчыць, як на крыллях...

Твар каменны, аж шэры.

Зіна адхіснулася ад гэтага твару, выбегла на двор, знікла ў цемры.

Яна прастаяла на шашы з гадзіну, а здалося, што ўсю ноч.

Нарэшце такі яшчэ далёка-далёка за павароткам з узгорка мільганулі жоўтыя фары.

Яшчэ хвіліна чакання, і засвяціла ўжо ў вочы трохтонка.

Зіна стала пасярэдзіне дарогі, узняла ўгору абедзве рукі і заплюшчылася.

Праз слёзы яна не бачыла, як незнаёмы шафёр, рэзка затармазіўшы, спыніў машыну перад самымі яе грудзьмі...

...Калі назаўтра раніцою Андрэй праходзіў вуліцай, яму кінулася ў вочы, што ля хаты Квяткоўскіх стаялі купкамі калгаснікі. Найбольш старыя і жанчыны з дзецьмі.

«Чаго ж гэта яны тут сабраліся?» — трывожна падумалася Андрэю.

Ля калодзежа бралі ваду дзве бабы. Спыніўся зводдаль, слухаючы іх гучную гаворку.

— Вось і адышоў Рыгор...— уздыхнуўшы, сказала старая маладзейшай.— Позна цябе прывезлі ў горад, мой Рыгорка,— і выцерла слязу.

— Кажуць, каб хоць на гадзінку раней, то ўратавалі б! — адказвае другая.— А ўсё ён, злыдзень.— І кіўнула ў бок Андрэя.— Кажуць, судзіць будуць гада...

— Якое там, галубка, судзіць! Старшыня ўжо званіў пракурору, дык той кажа, пры чым жа тут брыгадзір. Лічыць, бачыш, невінаватым...

— Вунь як! Невінаваты! Выкруціўся, значыць, хітры, як чорт...

— Слізкі выкруціцца, галубка мая. Але старшыня кажа — усім народам яго будзем судзіць. Бачыць яго, кажа, недавярка, не хачу ў сваім калгасе...

Андрэй быў ужо амаль побач з кабетамі, і старэйшая штурхнула злёгку локцем у бок маладзейшай. А калі параўняўся, яны апусцілі галовы, пабралі вёдры і разышліся. Нават не даўшы «дзень добры», як заўсёды.

І там, ля Квяткоўскіх, заварушыліся людзі. Даганялі ззаду, ішлі міма брыгадзіра, таксама апусціўшы галовы, быццам не ён, а яны ва ўсім былі вінаваты. І ніхто з ім не вітаўся.

Андрэй сунуўся па вуліцы, як у сне. Які ж ён чужы тут, нялюбы, адвергнуты! Цешылі ці здзекаваліся падслуханыя словы: «Лічыць невінаватым... Лічыць невінаватым... Ага! Невінаваты!»

За вёскай яшчэ хадзілі каровы. Андрэю здалося, што нават і яны адвярнуліся ад яго.

Ён змяніў напрамак і азірнуўся на сваю вёску. Убачыў голую прысаду, голую грушу над дахам, пакрочыў далей.

Спыніўся над абрывам, зірнуў уніз. На нейкі момант пацямнела ў вачах, закружылася галава. Андрэй апусціўся на счарнелую траву.

І раптам зазвінела ў вушах перасцярога самога Квяткоўскага: «Ты ж там толькі з гарачкі не боўтні ў вір галавой!..»

1969

## ГАЛАСЫ НА ВАДЗЕ

Сёлета я зноў быў на родных берагах.

Схаваўшыся ў густым лазняку, сядзеў з вудамі і слухаў галасы, што даносіла здалёк імклівая плынь ракі.

— Добры дзень, гусіная маці! — чуўся грубы мужчынскі голас.— Што ж ордэн не носіш? Няхай глядзяць гусі, якая ты ў іх заслужаная.

— І заслужаная! Папрацавала як след на адным месцы, дык і з ордэнам. А ты за лёгкім хлебам ганяўся, дык без кашулі і застаўся!..

— Хопіць табе ўжо, Ліда... Перадай старшыні, што я згодзен адрамантаваць тую машыну, якая сапсавалася...

— Дык жа яе ўжо рамантуе наш Васіль!
— А як цяпер я?
— Як сабе хочаш... І не стой тут, Стась, калі ласка, я табе не дарадчыца.
— Баішся мужа?
— Цябе... не хачу бачыць.
— Нешта хутка забылася.
— Добрыя людзі памаглі...
Усміхаюся ў сівыя вусы і ўспамінаю былое, далёкае і нядаўняе. Вось яно...
Толькі той, хто гадзінамі не сядзеў з вудамі каля сапраўднай ракі, не ведае, як далёка чуваць галасы на вадзе. Я ж даведаўся пра гэта яшчэ ў дзяцінстве.
Добра памятаю той ціхі летні адвячорак. Тады мы з Пятром, сынам нашага суседа Альшэўскага, вудзілі каля Сомавай завадзі акунёў і праз нейкую дробязь пасправаліся. Хлопец ён быў, як і ўсе Альшэўскія, ганарлівы, але бязвольны. Адразу надзьмуўся, хуценька сабраў свае вуды і пасігаў прэч. Я-то ведаў, што пасля ён будзе шкадаваць аб гэтым, але не вярнуў таварыша — няхай пазлуецца.
Рака ў тым месцы працякала борам, што навіс над высокім абрывістым берагам. Сіняя смуга плыла над вадой, хоць сонца трымалася яшчэ даволі высока.
Праз гадзіну, калі злосць крыху ўлеглася, мы зноў загаварылі.
— Пятро-о! — прымірэнча гукнуў я сябра.
— Чаго табе? — выразна і гучна, нібы Пятро быў побач, за кустом, данеслася ў адказ.
— Ну, як у цябе там? Клюе?..
— Трох язёў злавіў... А ў цябе?
— Яршы падышлі, цэлай плоймай.
— Ану іх...
— Можна, я да цябе?
— Хадзі.
І я падаўся. Метраў трыста адмераў па высокім беразе — няма Пятра. Дайшоў да павароткі ракі, дзе пачыналіся лугі і азёры, а сябра ўсё не відаць. «Ці не перабраўся ён дзе на другі бок ракі?» — падумаў я і гукнуў:
— Дзе ж ты, Пятро?
— На Чарнеўскім лузе...— пачулася ў адказ.
Вось дык гісторыя! Да Чарнеўскага лугу было яшчэ з паўкіламетра. Я падумаў, што Пятро жартуе, але не. Калі праз паўгадзіны блуканняў апынуўся каля сябра, ён з за-

давальненнем паказаў мне тоўстых, кранутых пазалотай язёў...

З таго часу мы не раз перагаворваліся між сабой па гэтым незвычайным тэлефоне. А пасля, нізка схіліўшыся над вадою, навучыліся слухаць і разумець нашу цудоўную, імклівую Бярозу-раку. Яна нам спявала далёкімі галасамі дзяўчат, што ўбіралі на лугах сена, грымела нябачнай навальніцай, шумела схаваным за даляглядам дажджом...

Адышло ўсё ў доўгімі гадамі, забылася. Ніколі не вернецца больш тое маленства, але не раз я сам вяртаўся ў думках да яго. І як прыемна было прыехаць у родныя мясціны, дзе па-ранейшаму схіляліся над вадою дрымоткія вольхі ды бронзай адлівалі на сонцы пясчана-гліністыя абрывы берагоў, прасвідраваныя вёрткімі ластаўкамі-беражанкамі.

І вось аднойчы я зноў слухаў галасы на вадзе.

Было гэта тры гады назад. Як і некалі, я сядзеў ля былой Сомавай завадзі і не спускаў вачэй з паплаўка. Азярына, дзе калісьці рыбакі лавілі самоў, цяпер ужо зарасла дрыгвяністым балотам, па якім велічна, па-гаспадарску аглядаючы дол, хадзілі ў высокай траве чырванадзюбыя буслы, ды недзе, на колішнім глыбокім дне, няспынна, нібы яго рэзалі, крычаў вадзяны бык.

І раптам да мяне данеслася песня, якая ўскалыхнула, абудзіла душу:

Ой вы, гусі, мае гусі,
Што паснулі на вадзе,
Вы не ведаеце, мусіць,
Што каханы сюды йдзе.

Спяваў прыгожа задорны дзявочы голас. Я адразу пазнаў Ліду, самую малодшую з сям'і Альшэўскіх, якую ўсе называлі Лёдзяй.

Памятаю яе, малую, хударлявую, ціхую дзяўчынку з вялікімі светлымі вачамі і чырвонымі, як вішні, прыпухлымі вуснамі.

Цяпер Ліда высокая, стройная, нібы тая лань, і надзвычай прыгожая. Яна падобна на маці і абліччам і характарам — ганарлівая, але спагадлівая. Цяжка было здагадацца, як ужываліся гэтыя супрацьлеглыя рысы ў характары Альшэўскіх. Але кожнаму ў нашым сяле было вядома — многа пакут прыносілі яны гэтай сям'і, многа непрыемнасцей...

Чамусьці радасна і лагодна стала на душы ад гэтага голасу. Такое было адчуванне, быццам сядзіць яна, мая маладосць, побач і шчыра размаўляе са мной. Успомнілася і тое, як заляцаўся я да Стэфы, Лідзінай маткі, як прагнала мяне, мужыка, ганарлівая шляхта, калі я адважыўся пайсці да бацькоў прасіць благаслаўлення жаніцца са Стэфай...

— Добрай раніцы, Лёдзя...— раптам пачулася здалёк.

— Ой, напалохаў! Ледзь у раку не звалілася...

— А ты не садзіся на самым краі.

— Калі ж тут так прыгожа! Глядзі — і лес, і луг — усё відаць...

— Не благі камандны пункт выбрала, але ведаеш што...

— Ну, што?

— У лагчыне вунь там было б лепш. Кусты, зацішак... Цалуйся колькі хочаш, ніхто не ўбачыць!

— Зноў налізаўся і вярзеш абы-што... Ты абяцаў не піць.

— Я ж адну слязінку!

Чый гэта голас? Я ведаў усіх хлопцаў з нашага сяла, кожнага мог пазнаць па голасу, а гэты быў зусім незнаёмы.

На левай вудзе кратаўся паплавок. Раз, другі, трэці... Потым паплавок нырнуў на дно, а я, стары рыбак, нават не зварухнуўся. Грэх прызнацца, але ў маёй душы ажыло нешта падобнае на рэўнасць. Так некалі, гадоў дваццаць пяць назад, я раўнаваў Стэфу да другога. Цяпер жа, сустрэўшы Ліду, я жыў светлымі ўспамінамі мінулага і быў шчаслівы. Яна, так падобная да маткі, нагадала мне лепшыя дні нашага кахання. Я любаваўся жвавасцю, захапляўся прыгажосцю гэтай дзяўчыны і не жадаў, каб нехта трэці станавіўся між намі, як і тады, калі быў сапраўды малады.

Хто ён, шчаслівец, якога пакахала такая дзяўчына? Мне хацелася кінуць вуды і, падкраўшыся, зірнуць на яго хоць з-за куста.

— Досыць табе, смоўж! — данесла вада прыглушаны голас Ліды.— Сядзь пагавары як чалавек...

— Баішся, каб не злінялі вусны?

— Людзі ўбачаць...

— Не дзяўчынка ж ты... Дваццаць пяты стукнула! Чуеш, гусятніца... Дваццаць тры — замуж пры! А табе дваццаць пяты...

— Я не гусятніца.

— А хто ж?
— Твая маці кароў даглядае. Дык яна, па-твойму, кароўніца? Ды адчапіся ты, стыднік!..

Два дні я хадзіў злосны, на прывітанні Ліды адказваў ледзь прыкметным кіўком галавы. А раз нават зусім не адказаў. І мне здалося, што дзяўчына зразумела прычыну маёй раптоўнай непрыязні, бо ўжо на трэці дзень да Сомавай завадзі даляцела яе гучнае слова «адчапіся». Але цішэй Ліда сказала:
— Дай табе волю, дык...
— Баішся?
— Баішся... Нічога я не баюся, але... Хіба ў гэтым каханне? Эх, Стась, п'яная ты галава! За што я цябе люблю?..
Дык вось каго пакахала Ліда! Стась... Станіслаў Ліс, «хлопец з апошняга хутара...»
Памятаю яго бацьку. Гэта быў высокі рудабароды дзяцюк з прыплюснутым носам, высокім аголеным ілбом і чапаніклівымі, хцівымі вачамі. Непрыгожы і ваўкаваты чалавек, ён праз два месяцы пасля смерці жонкі ўзяў сабе ў хату даглядаць дзяцей маладзенькую, ціхую сірацíну Гэльку, дачку лесніка Ігната. Той да таго спіўся, што аднойчы знайшлі яго ў лесе мёртвым...
Беднае дзяўчо! Двое чужых дзяцей яна гадавала сабе на гора. Колькі здзекаў сцярпела яна ад іх пасля — ні адна душа б не вытрымала.
А праз год Гэлька нарадзіла першую дачку і, такім чынам, стала прызнанай жонкай Ліса.
Не быў той чалавек у калгасе ні дня. Жыў выключна з лесу. А ў вайну пабудаваў сабе на лесніковай сялібе новую хату і перабраўся туды, на хутар, далей ад людскога вока. Ноччу краў на полі, днём — у лесе. Але жыў усё роўна бедна...
Памятаю, зарослы, як мядзведзь, Ліс плаксівым галасам гаварыў нам:
— А браточкі вы мае! Ды куды мне ў партызаны? Сямёра дзетак ды вунь восьмае, бог дасць...
Гэлька — худая, замучаная працай жанчына з вялізным жыватом — упраўлялася каля печы, а вакол яе, басаногія і брудныя, нібы тыя птушаняты, наперабой піскнявілі малыя:
— Мне-е персы блін!

— А вот — мне...

— Мне-е...

Не жыў Ліс, як людзі, і памёр па-воўчаму...

У нябожчыка лесніка было ў лесе многа пчаліных калод на дрэвах. Аднойчы восенню задумаў Ліс паласавацца мёдам, але не так, як гэта робяць людзі, а па-звярынаму. Скіне калоду на зямлю, загубіць пчол і абрабуе вулей да апошняга. Ды на трэцім дрэве завяз так, што ледзь знялі яго. Гэта было страшнае відовішча...

Метраў за пяць ад зямлі хвоя раздвайвалася. Гонкія два ствалы былі нацэлены ў самае неба, і там, між верхавін, чарнела аж дзве калоды. Як здарылася, што здаравенны дзяцюк трапіў галавой між ствалоў, ніхто не бачыў і не ведае.

Ліс вісеў, абхапіўшы рукамі і нагамі шурпаты камель сасны, а галава яго звісала з другога боку. Здавалася, ён задушыўся ў той момант, калі рабіў апошняе намаганне, каб вызваліць галаву з пасткі, якую ўгатавала яму сама прырода. Ды так і не вызваліў. Трое мужчын ледзь здолелі разняць яго здубянелыя рукі і ногі...

А мо былі суддзямі над тым жорсткім чалавекам самі пчолы, як гаварылі пасля ў сяле? Твар Ліса распух, але цяжка было сказаць, што прычынай гэтага было маленькае чорнае джала, якое паказвалі тады адзін аднаму людзі...

Я не любіў Станіслава. Ён нагадваў бацьку і выклікаў у мяне непрыемную асацыяцыю. Ад адной думкі, што гэты хлопец сядзіць на беразе побач з прыгажуняй Лідай, бура пратэсту паднялася ў маіх грудзях. Я ўспомніў Стэфу. Яе дачка такая ж бязвольная, як яна. Дык няўжо і яе напаткае лёс маці?..

— Паедзем адгэтуль, Лёдзя,— сказаў ёй неяк Станіслаў.— Навошта табе, маладой, гінуць тут, ля гусей?

— Адчапіся, нікуды я не паеду. І цябе не пушчу, Стасік. Браў бы вунь машыну ды, як людзі... Учора яшчэ адну новенькую прыгналі. Глядзі — і на гэтую шафёр знойдзецца.

— Ха! У наш век спадарожнікаў і касмічных караблёў ды працаваць у калгасе? Смяешся ты... Я — шафёр першага класа! Мне легкавушку падавай, вось як!..

— Хочаш пакінуць мяне?

— Прыедзеш услед...

— Не паеду я, Стась.

— А я зраблю так, што паедзеш!..

— Стыднік... Стась! Пусці, Стась... Што ты робіш, здурнеў?.. Пус...

Напружана ўслухоўваюся ў цішыню — больш ні гуку. Што за ліха? Чаму яны не гавораць? Было такое ўражанне, быццам усё, што чуў дагэтуль, здалося. «Ну, гаварыце, гаварыце ж вы там!» — хацелася крыкнуць мне. І не ў сілах больш стрымаць свайго трывожнага нецярпення, хуценька сабраў вуды і падаўся да паварота, дзе, як я ведаў, была тады Ліда...

Дзяўчына сядзела, звесіўшы з абрыву босыя загарэлыя ногі, і, адзін за адным, кідала ў ваду каменьчыкі, якіх багата валялася на пясчаным беразе. Твар сумны, задумлівы. Станіслава побач не было. Ці прыходзіў ён наогул? Гледзячы на дзяўчыну, на яе старанне пацэліць каменьчыкам у жука, якога закруціў вір, цяжка было сказаць што-небудзь пэўнае.

— Дзень добры, Ліда! — памятаючы, як далёка чуваць галасы на вадзе, ціха прывітаўся я.

Яна ўзняла галаву і ажыўлена адказала:

— А-а, дзядзька Мікола! Дзень добры... Я вас бачыла. Ву-у-нь там, каля Сомавай затокі вудзілі. Усяго тры акуні? Чаму так мала?

— Не бярэцца сёння...

Я не ведаў, як трымаць сябе, аб чым гаварыць. І ўжо шкадаваў, што паспяшыў з вынікамі.

У гэты момант пачуўся плёск, нібы хто кінуў у раку камень.

— Знайшоў! — радасна ўсклікнула Ліда і, развёўшы рукі, паказала: — Вось такая галава! Яна схапіла жука...

— А вось мы зараз зловім такую галаву! — рады выпадку пабыць з Лідай, сказаў я і, з небывалай жвавасцю для маіх год, пачаў вудзільнам збіваць з ніжніх галін бярозы майскіх жукоў. Яны падалі на зямлю, як нежывыя,— санлівыя і лянівыя.

Зняў з вуды тонь, пачапіў на кручок, за жывоцік, жука, закінуў на сярэдзіну і сеў побач з Лідай.

Яна зірнула туды, гарэзліва кінула каменьчыкам у жука.

— Э-э, так мы нічагусенькі не зловім,— усміхнуўся я, бясконца рады добраму настрою Ліды.

— Зловім... Я тут заўсёды што-небудзь кідаю ў ваду ад свайго полудня. Рыба прывыкла: як кінеш — адразу ляціць навыперадкі...

Ліда зноў кінула каменьчык. І дзіва! Амаль у тую ж

хвіліну з ціхім плескам жук схаваўся пад вадою. Папускаў, пакуль вуда не нацягнулася, як струна. Рыбацкі азарт вярнуўся да мяне...

— Падай падсак, Стэфа!

І вось ужо тоўсты прыгажун язь трапечацца на гарачым пяску.

— Вы назвалі мяне Стэфай... Чаму? — раптам спытала Ліда, уважліва паглядзеўшы на мяне глыбокімі, цікаўнымі вачамі, нібы імкнучыся разгадаць маю думку.

— Ты проста вельмі падобная на маці...

Вось дык ліха! Як гэта я загаварыўся? Нават давялося крыху пачырванець.

— Мама, кажуць, была вельмі прыгожай. Ці праўда?

— Ого!

— А цяпер... Няўжо і я такая калі-небудзь стану?

У глыбокім задуменні Ліда падняла рыбіну з зямлі і дзьмухнула ў адкрыты рот. Язь нібы ачнуўся ад сну, пачаў кідацца і вырваўся з рук дзяўчыны.

— Дык ты вазьмі язя на вячэру. Недарма ж адкарміла такога!

— Дзякую... Ён, мусіць, кілаграмы два будзе.

— Дзіва што...

Чаму назваў яе Стэфай...

...У той незабыўны ліпеньскі вечар, калі «пан» Альшэўскі спусціў на мяне з ланцуга сабаку і, такім чынам, назаўсёды адрэзаў шлях у іх дом, я зразумеў, што Стэфа ніколі не будзе маёй...

У прызначаны час, калі стары ўжо спаў, яго дачка сядзела са мною ў лодцы. Калі б я тады сказаў Стэфе прыйсці на могілкі, ад аднаго ўпаміну аб якіх дзяўчыну ахоплівала жудасць, то яна, не задумаўшыся б, прыйшла...

Мы плылі па азёрах у млечным тумане цёплай ночы і абое маўчалі. Прыгожая была тая ноч! Дзіўны светла-блакітны месяц ныраў між белых хмурынак; лёгкі вецер шапацеў лісцем ракіт на берагах, пахла сенам, насцеленым у лодцы; як ніколі, энергічна і гучна квакалі жабы; дзесьці цяжка прапыхкаў буксір, цягнучы ўверхоўе нагружаныя баржы...

— Усё роўна не пайду за Пятра! — раптам парушыла маўчанне Стэфа.— Лепш — у вір галавою...

Дык вось што! Стэфу, значыць, сабраліся выдаць замуж па старому звычаю — за каго хочуць бацькі...

— Чаму маўчала дагэтуль? — са злосцю спытаў я.
— Баялася...
— Цяпер пасмялела...
Шкада мне было дзяўчыны. Я-то ведаў, што кахала яна шчыра, аддана, і варта было мне адважыцца, як Стэфа адразу стала б маёй...
Доўгая была тая ноч і вельмі кароткая. Колькі думак, колькі хваляванняў дала яна мне — і ні кроплі смеласці!
— Аддадуць цябе за таго... Пятра,— уздыхнуў я перад самым світаннем.— Дзікія законы ў вашай праклятай шляхты!
Стэфа прыпала тварам да маіх грудзей і шапнула:
— А мы абыдзем тыя законы...
Гарачая, трапяткая, бязвольная, яна закінула галаву і заплюшчыла вочы — чакала...
— Стэфа, Стэфачка... любая!
Яе бледны ад месячнага святла твар на ўсё жыццё застаўся ў маёй памяці...
Больш я Стэфу не бачыў.
Яна не кінулася ў раку, а жыла сабе з невядомым мне Пятром недзе ў другім месцы. Ды жыла нядоўга: ужо на трэці год, як я пасля даведаўся, Стэфа вярнулася ў наша сяло ўдавою, з дзяўчынкай на руках, Лідай...
...Ліда пайшла адганяць ад пожні гусей. Колькі іх тут? Пэўна, некалькі тысяч. Яны вунь і на азёрах, як вялізныя белыя лілii, яны і на лузе бялеюць, нібы купіны, пакрытыя снегам, яны аж пад лесам, у хмызняку — усюды!
Гляджу на яе хаду, постаць і радуюся, жыву яе маладосцю.
Да чаго ж здорава, да чаго шчодра надзяліла прырода гэты куток! Моцна, аж галава кружыцца, пахне лугавымі краскамі. І адзіная хатка бакеншчыка на беразе, дзе я спыніўся на адпачынак, і стромкі бор, за якім схавалася наша сяло, і рака з яе незлічонымі азёрамі між бясконцых лугоў, і сіняе неба над галавою — усё тут адметнае, асаблівае, бо хвалюе яно мацней, чым любыя іншыя мясціны, якіх нямала ў жыцці мне давялося пабачыць.
Ліда вярнулася з вялікім букетам.
— Буду плесці вянок,— сказала яна, усеўшыся побач.
Сорамна старому чалавеку глядзець на прыгожы твар, на ружовыя вусны і светлыя, іскрыстыя, нібы тыя азёры, вочы маладой дзяўчыны, але побач з Лідай я забываўся на свае гады, на сівізну скроняў, на глыбокія барозны, што

пакінуў на лбе няўмольны гаспадар і ўладар нашага жыцця — час...

— Не надакучыла табе, Ліда, адной з гэтымі гусьмі? — асцярожна спытаў я.

Дзяўчына задумалася.

— Як сказаць, дзядзька Мікола... Яно-то хочацца да людзей, з людзьмі...— і раптам: — Прывыкла я. Вось выганю гусей да ракі і забудуся, што адна. Вы не смейцеся, але я з імі нават размаўляю іншы раз... І з сонейкам размаўляю, і з ракою...

— А я не смяюся. Сам люблю з прыродай пагаварыць.

— Праўда? — загарэліся вочы дзяўчыны.— Гэта невялікі грэх, можна?

— Размаўляць можна. Размаўляйце! Толькі волю яму не давай, а то і да граху надалёка...

Я не мог гэтага не сказаць! Няхай ведае, што я ўсё чуў. Папярэдзіць, адгарадзіць гэтую крыштальную чысціню ад усяго бруднага раптам стала для мяне неадхільным клопатам.

Ліда адразу збянтэжылася, потым апусціла галаву, абмякла. У сваёй бездапаможнасці яна апярэдзіла матку. «Пойдзе за Станіславам, за тым рудым чортам, на ўсё адважыцца, бо кахае яго. На пагібель сваю кахае!» — у злосці думаў я, чакаючы адказу.

Ліда раптам узняла галаву.

— А вы людзям не верце. Станіслаў прыходзіць сюды, праўда, але так, пагутарыць...

Добра, што Ліда падумала так, а не інакш. Тады б яна не стала гучна размаўляць [illegible] каханым, і я не меў бы больш магчымасці слухаць галасы на вадзе.

Я знарок паглядзеў дзяўчыне ў твар і ледзь стрымаўся, каб не папракнуць яе.

Ліда зразумела мой позірк і зноў апусціла галаву.

— Кахаю я яго...— нібы ў апраўданне, ціха сказала яна. У гэтым голасе было ўсё: пакорлівасць, роспач і боль спакутаванай душы. Трэба было што-небудзь адказаць, суцешыць, дапамагчы добрым словам, парадай...

— Калі ён не пойдзе ў калгас, не стане, як усе людзі, дык і блізка не падпускай да сябе, а то...— Я падняў з зямлі змяты сіні званочак і, паказаўшы на кветку, дадаў: — Глядзі! Была кветка прыгожай, вабіла — ты сарвала яе. Цяпер вось кінула. А таму, што неасцярожна абыходзілася з ёю, не шанавала прыгажосці...

Дзяўчына збялела. Вялікія светлыя вочы глянулі на

мяне з мальбой і страхам, нібы прасілі літасці. Адмоўна пакруціўшы галавою, Ліда раптам закрыла рукамі твар і глуха прагаварыла:

— Ніколі... Цяпер-то ўжо хай лепш едзе...

Я разумеў, як цяжка ёй было сказаць тыя словы! І маўчаў, бо ведаў, што ўсякая гаворка будзе лішняя. А калі душэўны боль у дзяўчыны сціх, бура ўляглася, мы, як добрыя сябры, цэлы адвячорак гаварылі пра гусей і рыбу. Я нават памог Лідзе загнаць яе незлічонае «белае войска» на птушнік. А на развітанне аддаў да язя яшчэ і акунёў.

— Хай маці дома юшкі наварыць... Без акунёў яна, як чай без цукру, нікуды не вартая!

Некалькі дзён пасля гэтага я з прыемнасцю слухаў песні, якія спявала на сваім «камандным пункце» Ліда. Яны былі нейкія задумлівыя і сумныя. Мо таму, што Станіслаў больш да яе не прыходзіў.

...Больш маім каханнем
Ён не даражыць.
Як жа да світання,
Людзі, мне дажыць?
Пасмяюцца людзі
Над чужой бядой...
Ой, баляць мне грудзі,
Баляць маладой!..

І чым больш мінала дзён, тым сумнейшыя былі песні. «Нічога,— супакойваў я сябе.— Пройдзе час — забудзецца, пакахае другога, дастойнага...»

Ды аднойчы пад вечар...

— Гвардзейскае прывітанне камандзіру войска белага! — данёсся па вадзе п'яны голас Станіслава.

— Ой, Стасік!.. Прыйшоў... Думала, што паехаў, не развітаўшыся. Я тады была надта жорсткая, праўда?

— Кусалася, як сем д'яблаў!

Ці варта гаварыць, як хваляваўся я, седзячы за паўкіламетра да Лідзінага «КП». Хітры Стась дзейнічаў разумна, разлічана. Ён прыйшоў у самы крытычны момант, калі дзяўчына, можа, больш за ўсё яго чакала...

— Ты сёння, бачу, вясёлая. Ці не закахалася ў каго?

— Учора мне аванс налічылі. Падумаць толькі — шэсць тысяч рублёў! Сама бачыла ў ведамасці...

— Здорава!

— Гэта мне гусі на сваіх крыллях прынеслі... На лета яшчэ большую чараду вазьму! — і заспявала: «Чаму ж

мне не пець, чаму ж не гудзець...» Не лезь! Прымі рукі... Хоць раз бы пасядзеў як чалавек.

— Ты пачакай заўчасна радавацца! — перапыніў яе грубы голас.— Хоць я і не веру, але... ходзяць чуткі, што твае войска без баёў радзее. Чакай рэвізію...

— А я не баюся. Хоць дзесяць рэвізій! Ад няма чаго рабіць ходзіш па сяле ды плёткі збіраеш. Новую машыну бачыў?

— Бачыў... Гной на поле вазіць — не мая спецыяльнасць. Ты кахала б мяне, бруднага?

— Кахала б...

— Сядзь бліжэй, Лёдзя... Мая дзікуначка. Я цябе ў горад павязу, пасмялееш...

— Ой, пусці руку-у! Стыд...

Голас Ліды абарваўся. І разам з ім абарвалася штосьці ў маіх грудзях, у сэрцы, якое зведала на сваім вяку многа трывог і хваляванняў, ды не балела так, як у той вечар. Першай думкай было — бегчы. Бегчы туды і штурхануць паганага Ліса ў халодныя струмені ракі, але...

«Хай гэта будзе ёй выпрабаваннем! Няўжо мае слова не запала дзяўчыне ў душу, не ўзрасло новым коласам?» — з халоднай разважлівасцю раптам падумалася мне. Прыпаў да вады і слухаў. Маўчала рака. Толькі недалёка ціха булькала крынічка і да хрыпаты надрываўся недзе драч...

Колькі прайшло таго напружанага, поўнага чакання часу, я не ведаў. Можа, хвіліна, а можа, і дзесяць. Раптоўна, як пераможны кліч, нарэшце данёсся па вадзе спакойны голас Ліды:

— Не, даражэнькі... Не рваць табе кветак на калгасным лузе!

Мне лёгка ўздыхнулася.

З усмешкай выкінуў на бераг вуды і, зняўшы з кручкоў двух паласатых акунёў, пусціў іх назад у раку. Стаяў на беразе і ўсміхаўся цудоўнаму вечару, што прынёс у сэрца радасць...

— Я паеду заўтра... Адрас ты ведаеш,— данёсся грубы Стасеў голас.— Бывай...

І ні слова ў адказ.

Толькі не маўчала Бяроза-рака. Ці то проста здавалася, ці то дзе біліся ў тугі бераг шумлівыя хвалі, але нешта вельмі падобнае на стрыманы плач доўга чулася мне...

— Гыля!.. Гыля, каб вас каршун пабраў...

Толькі пасля гэтых Лідзіных слоў я здагадаўся, што

яна плакала, ды радасць мая ад таго не зменшылася: жанчынам абавязкова трэба выплакаць сваё гора ці крыўду. Тады яны становяцца больш моцныя душою...

Ліда пагнала гусей дамоў раней, чым заўсёды.

А назаўтра ўжо чуўся ля ракі другі голас. Вясёлыя, задорныя прыпеўкі рэхам адгукаліся ў бары. Толькі яны не бадзёрылі мяне. «Што здарылася з Лідай? Няўжо яна сапраўды паехала за Станіславам?» — непакоілі цяжкія думкі. І я вырашыў аб усім дазнацца.

Закінуў на дзень свае вуды і раніцаю наступнага дня пайшоў у кантору калгаса. Старшыня, мой аднагодак і сябар дзяцінства Лявон Грыб, паведаміў няўцешную навіну: рэвізія ўстанавіла недахоп цэлай сотні гусей... З Ліды ўтрымалі грошы і не дапусцілі да працы.

Адразу прыгадаліся словы Станіслава, якім раней я не надаў асаблівай увагі: «Ты пачакай заўчасна радавацца... Ходзяць чуткі, што тваё войска без баёў радзее». Чаму ён гэтак гаварыў? Мусіць, ведаў, што радзее...

— Слухай, Лявон,— строга зірнуў я на старшыню.— Тут штосьці не так. З вывадамі пачакай: Ліда не вінавата.

— Нехта ж ды вінават, што прапалі гусі!

— Вось іменна — нехта! Яго трэба знайсці і пакараць!

— А калі іх ліс пахапаў?

— Трэба пакараць ліса...

Старшыня засмяяўся:

— Злавіць і з жывога садраць шкуру — гэтак?

— Аддаць пад суд,— зусім сур'ёзна адказаў я.— Маю на ўвазе Ліса Станіслава...

Тут жа расказаў Лявону аб сваіх меркаваннях: Станіслаў, «хлопец з апошняга хутара», пацягаў гусей. Разлік быў просты: і сабе прыбытак, і Лідзе — бяда.

— Незразумела... Чаму гэта ён, кахаючы дзяўчыну, хацеў ёй бяды? — паціснуў плячамі старшыня.

— Каб яна кінула гусей, калгас і паехала з ім... Стась жа прыходзіў на бераг кожны раз п'яны. Значыць, меў і хаўрусніка, каму збываў калгаснае дабро!..

Падахвочаны маімі доказамі, Грыб згадзіўся пайсці на хутар.

— Колькі разоў збіраўся перавезці тое гняздо ў сяло, ды ўсё ніяк не выпадала... Дабяруся-ткі, хоць позна! — гаварыў ён, шпарка шыбуючы па пыльнай дарозе і ўздымаючы з сівога падарожніка цэлыя хмары конікаў і дробных казюлек.

Поле клінам уразалася ў лес. Мы ішлі між высокага

жыта, над якім няспынна, як гімн шчодрай зямлі, ліўся спеў жаўранкаў. Белыя хмурынкі, нібы намаляваныя на блакітным палатне неба, нерухома віселі над зямлёй. Хутар сустрэў нас свежым подыхам лісця і цішынёю.

— Прыгожы куток! — у захапленні ўсклікнуў я, адчыняючы рыпучую фортку на двор, абгароджаны свежым жардзём.

Намнога маладзейшая за нас, сівенькая і згорбленая Гэлька, адразу здагадалася, чаго мы прыйшлі. Ні слова не прамовіўшы, яна паказала рукою на невялічкі стары хляўчук, што стаяў наводшыбе, у самым бярэзніку.

Замест дзвярэй уваход быў застаўлен некалькімі бярозавымі колікамі. Мы раскідалі іх і, пад цікаўным позіркам гаспадыні, увайшлі ў хляўчук...

— Бачыш? — спытаў я ў Лявона, паказаўшы на вялікага рудога сабаку. Ён спакойна стаяў пасярод хляўчука, дол якога быў услани гусінымі галовамі, і ветліва, нібы старым сябрам, ляпаў па баках тоўстым, злінялым хвастом.

Пасля Гэлька расказала, што Станіслаў амаль штодня прыносіў цэлыя мяхі забітых гусей і вечарамі цягаў іх за могілкі, дзе ў кляновым гаі стаяў асабняк «святога айца» Нікадзіма, мясцовага папа. Грошай яна не бачыла, але сын амаль ніколі не быў дома і прыходзіў заўсёды п'яны...

— Дык чаму ж вы маўчалі? — спытаў я.

— Ён гаварыў, што купляе на папоўскія грошы ў сяле... І пагражаў, калі скажу каму, звярнуць шыю,— ціхэй дадала жанчына.

— У лесе жыў — воўкам вырас,— панурыўшыся, сказаў старшыня.— Збірайся, Гэлька, у сяло! Перавязём твой хутар за дзень.

— Хоць сёння, старшынька! — загарэліся вочы гаспадыні.— Абрыдла мне тут адной...

Услед за Станіславам у горад паляцела паперка з раённага аддзела міліцыі...

А на рацэ зноў чуўся голас Ліды, і мне часам здавалася, што ўсё перажытае за гэтыя дні было кароткім, непрыемным сном.

Я па-ранейшаму вудзіў каля Сомавай завадзі акунёў і слухаў галасы на вадзе. Яны былі знаёмыя, жаданыя.

Радасцю поўніліся грудзі ад думак, што цяпер ужо мой адпачынак будзе сапраўдны, ніщто не парушыць яго. Ды жыццё наша ўсё і складаецца з трывог і хваляванняў. Інакш і жыць было б нецікава!

Аднойчы вечарам, як заўсёды бадзёры і радасны, малады душою, вяртаючыся ў хатку бакеншчыка, я заўважыў у ценю вішні Стэфу.

Прызнацца, я вельмі баяўся спаткання са Стэфай і, як толькі мог, асцерагаўся выпадковай сустрэчы з ёю, хоць ніякай віны перад гэтай жанчынай не адчуваў. Прыход яе мяне ўсхваляваў і насцярожыў...

Хударлявая, з бледна-шэрым тварам і рэдзенькімі сівымі валасамі, яна неяк сарамліва ступіла некалькі крокаў насустрач і ўсміхнулася. На нейкае імгненне вочы яе загарэліся жывым агеньчыкам і тут жа згаслі.

— Ну, здароў быў, Мікола!..

— Вечар добры, Стэфа,— як мог, лагодна прамовіў я і паціснуў халодную, жылістую руку.— Як жывеш, хваліся. Табе сёлета, здаецца, пяцьдзесят стукнула?

— Зайшоў бы калі, пацікавіўся. Ці дарогу забыўся? — не адказваючы на пытанне, загаварыла яна.

— Баюся, што зноў сабаку спусціце, шляхта недаткнентая! — жартаўліва адказаў я, ведаючы, што ў нашым узросце ніякіх сардэчных ран ужо не кранеш.

Стэфа засмяялася і махнула рукою:

— Ах, няма ўжо ні шляхты, ні тых сабак...— і раптам спахмурнеўшы: — Цяпер во, чалавеча, людзі, як сабакі сталі... Жартачкі — сто гусей перадушыў, ідал!

Яна з усёй шчырасцю і мацярынскай любоўю гаварыла пра Ліду, якую я выратаваў ад «ідала».

— Ты вярнуў мне дачку, Мікола... Я ж была згубіла яе.

— Як гэта?

— Паспрачаліся мы з-за таго лайдака Станіслава. Пойдзеш, кажу, за яго — не называй маткай... Дык яна, бач, пакрыўдзілася і збегла з хаты да Івана. Плакала, казаў той... А цяпер памірыліся. Усё цябе ўспамінае дзень пры дні... Зайшоў бы, га?

— Не кінулі сваіх шляхецкіх прывычак аддаваць замуж не за таго, каго выбірае сэрца? Успомні, Стэфа, сябе,— асцярожна намякнуў я.

— Ты ж сам засцярог яе, Мікола... Мне Ліда ўсё расказала. Усё — разумееш?

Я разумеў. Глядзеў на Стэфу і думаў: «Засцерагчы дзяцей хіба не наш святы абавязак?»

— Сёння зайду, суседачка,— сказаў я на развітанне. Потым доўга глядзеў ёй услед. Калі тое было, што яна

ішла ад мяне, а я вось гэтак глядзеў ёй услед і слёзы засцілалі вочы?

І здалося, што згубіў я сваю маладосць і сваё першае каханне толькі сёння...

1961

## ЛЯ СТАРАРЭЧЫШЧА

Вось яно, Пабярэжжа!..

У гэтай вёсцы я нарадзіўся, тут прайшло маё маленства. Як нядаўна і як даўно гэта было!.. Бывала, набегаўшыся за дзень, я спаў як забіты, а раніцаю заглядаў у пустыя гаршкі... Маці тады скардзілася суседзям, што хоць я і малы, а ем, як Пілінаў вол. Пілін — наш сусед, і ў яго сапраўды быў вол, шэры, худы, з раздутым, пераплеценым жыламі жыватом.

Але мяне гэта не бянтэжыла. Я ганарыўся сваім апетытам, тым больш што Пілінава дачка Надзя, з вялікімі сінімі вачамі, ад якіх, здавалася, пасінеў увесь яе дробны тварык, цэлымі днямі, як гаварыла Піліпіха, не брала ў рот і расінкі.

Я не разумеў, як гэта можна не пад'есці, калі добра набегаешся за цэлы дзень...

Было — сплыло. Маці мая даўно памерла, і мяне, шасцігадовага малога, забрала ў горад нейкая далёкая радня, ад якой я праз месяц збег. У тое ж лета пачалася вайна. Але ў Пабярэжжа мне трапіць не давялося. Пазнаёміўся я ў дарозе з адным маёрам, і забраў ён мяне з сабою ў лес. Сын, казаў, быў у яго такі, як я...

Потым загінуў маёр. Зноў я застаўся адзін, але не прапаў, выкачаўся сярод людзей. А пасля вайны тэхнікум скончыў, хоць і цяжка было. Працую ў Мінску. Зусім гарадскі жыхар. Новенькі гарнітур на мне і ўсё іншае. Вось адно легкавушкі няма...

Перад вёскай я спыніўся, паставіў чамадан, усхваляваны азіраюся. А Пабярэжжа вось яно — рукой падаць. Як быццам нічога асаблівага: дзесяткі тры двароў уздоўж ракі, а за імі бор, дзе не раз я сустракаў світанне разам з гаміласістымі птушкамі. Так расчуліўся, што слёзы набеглі на вочы. Нават не пачуў, як хтосьці падышоў ззаду.

— Вы ў Пабярэжжа, малады чалавек?

Азіраюся і пазнаю — той дзядзька Піліп, наш сусед. Толькі не чарнявы, як некалі, а сівы і зусім стары.

— Дзень добры, дзядзька Піліп! — захваляваўся я.— Не пазнаяце? Я — Аўдоццін Кастусь. Памятаеце?

Стары недаверліва агледзеў мяне з галавы да ног.

— Бач ты... Жывы! — пазнаў нарэшце.— А які быў гаротнік, што божа сцеражы...

Ён заміргаў вачамі, схапіў маю руку, трасе шчыра, быццам даўно чакаў.

— Ну, што чуваць тут?

— А нічагусенькі. Вось хадзіў сустракаць раённага інструктара, нешта не прыехаў... У хаце вашай Кірыла так і жыве, бабылёк наш. Хе-хе... Надоўга?

— Тыдні на тры. Засумаваў я па гэтых мясцінах... Рыбку хачу павудзіць. Водзіцца?

— Боўтаецца крыху... Дык гэта... хадзі ты, хлопча, да мяне, госцем будзеш...

Я і думаў спыніцца ў Піліпа. Іду побач, углядаюся ўздоўж вуліцы — хоць бы хто. Толькі на рацэ дзе-нідзе прасунецца лодка ля аеру ды данясецца з гарода галасістае жаночае «а-а-кыш-кыш-кыш». Так ціха, што чуваць часам, як недзе ля хлява заблыталася ў павуцінне муха і звініць у роспачы, ратуючы сваё жыццё...

Увайшлі ў хату. Толькі паставіў чамадан у кут і сеў на лаву ля стала, як дзверы адчыніліся і на парозе з'явілася стройная чарнабровая дзяўчына ў светлай сукенцы з кароткімі рукавамі. Кінуўшы на мяне калючы позірк, сыпанула, як гарохам:

— А вам, шаноўны, не месца тут. На полі, здаецца, прастарней. І наогул... Не з бацькам жа прыехалі гаварыць, а з людзьмі!..

Я збянтэжыўся. Сяджу, чырванею і не ведаю, што адказаць.

— Што ты, Надзя! Гэта ж не райкомаўскі інструктар, а Кастусь. Аўдоцці нябожчыцы сын!..

Чырвань з майго твару нібы перабіраецца на твар дзяўчыны.

— Кастусь? — вочы яе, здавалася, пабольшалі, сінія-сінія.— Ой, прабачце, не пазнала вас... Дзень добры...

— Дзень добры, Надзя.

Я ўстаў з лавы. Яна стаіць, і я стаю, а што далей рабіць — не ведаю.

— І адбіўся ты, хлопча, ад рук. Быццам не жыў тут.

Не краў маіх гарбузоў. Не лазіў у слівы. Э-эт, блазнота! — жартуе стары.

Пачынаю жартаваць, падрабляючыся пад яго тон. Рагачу, вачэй не зводзячы з суседавай дачкі.

— Аднак казкамі сыты не будзеш,— кажа Піліп.— Надзя, прыбяры нам на абрус.

Надзя «прыбірае на абрус», і я не ведаю, куды дзець рукі. То ў кішэні ўсуну, то гузікі на гарнітуры кручу, то чупрыну разгладжваю. Потым успомніў. Падбягаю да чамадана і дастаю бутэльку «Сталічнай». Піліп вусы разгладзіў. Глядзіць на паўлітэрку і гаворыць:

— Неяк на кірмашы вы з Грышкам Цімохавым у мяне ў сене пляшку гарэлкі сцягнулі. Ох і адлупцаваў жа я яго тады! А ты схаваўся. Памятаеш?

— Ага... А гэтую, дзядзька, я купіў.

Смяецца стары.

— Цяпер жартачкі! Цяпер ты, лайдак, у людзі выбіўся. І скажу па сакрэту — за вялікае шчасце палічыла б любая кабеціна, каб ты, блазнота, да яе дачкі пасватаўся!..

— Ну, тут вы перабольшваеце,— кажу, а сам — зірк на Надзю.

Быццам гаворка ішла пра коней, такая абыякавасць на яе твары! Чорт пацягнуў старога за язык, аж няёмка. Росту я малога, з твару непрыгожы, сам адчуваю. Такая дзяўчына, як Надзя, плюнуць на мяне не захоча. Вунь яна, падзівіся: стан высокі, косы чорныя, тугія, і ўсё іншае такое, браце мой, што і слоў не знойдзеш...

Пасля першай шклянкі я адмовіўся ад усяго, што было на стале, і, расчулены, заваліўся ў пуню на духмянае сена...

* * *

Цёплай сонечнай раніцай я схадзіў у лес, выразаў два арэхавыя вудзільны, абскроб іх. Пакуль прыйшоў у вёску, яны падсохлі. Так што адвячоркам ужо вудзіў на сваім калісьці любімым месцы ля старарэчышча, якое ўжо зусім зарасло травою.

Папляваў на чарвяка (на шчасце!) ды закінуў адну вуду ля травы, другую — крыху воддаль, на чысціню. Сяджу, не хвалююся. Закурыў.

Паплаўкі стаяць нерухома, быццам там, на дне, усё вымерла. Ды раптам — бу-бух нешта ў віры. Угледаюся і нічога не разумею. «Бабёр, напэўна»,— думаю сабе і зноў

гляджу на паплаўкі. Праз якой паўгадзіны клюнула на правай. Ды так моцна, што я разгубіўся. Гляджу — і другі паплавок пайшоў на дно. Схапіў я абедзве вуды, рукі калоцяцца, сэрца, нібы тыя паплаўкі, нырнула ў пяткі. І зблытаў я свае вуды. Выцягваю, а там, грэх казаць, два яршы ў палец. Надзьмуліся, калючкі наставілі, быццам палохаюць мяне.

— Эх, гора-рыбак. І рыбу лавіць развучыўся,— чую за плячыма голас Піліпа і нечы смяшок. Азіраюся — Надзя!

— Ён, тата, цяпер толькі відэльцам можа вудзіць...

Пакрыўдзіла ж, а мне радасна. На «ты» перайшла са мною Надзя, а гэта для мяне дапамога: прасцей буду з ёй абыходзіцца.

— Ды ў вас тут, мабыць, рыба павыдыхала! — смеючыся, кідаю вуды на зямлю.

— Э-э, не, хлопча! У гэтым віры ёсць такая рыбіна, што за два тыдні не з'ясі.

— Сом? — здагадваюся я.— Ён толькі што кульнуўся тут. Ну, пачакай жа, даражэнькі, я з табою расквітаюся! Будзеш ведаць, як рыбу палохаць!..

Надзя залілася смехам.

— Не верыш? — узняў я на яе вочы.— От пабачыце, не я буду, калі не пачастую вас сомам...

— У тамаце,— кажа дзяўчына.— Веру...

А з горада я сапраўды прывёз кансервы — сом у тамаце. Маўчу. Добра абсекла.

— Сома не абяцаю,— раптам зноў кажа Надзя,— а язямі я цябе ўволю накармлю.

Так і сказала — накармлю, а не пачастую, як я. Аж злосць мяне ўзяла...

Перад заходам сонца ўсё ж зладіў двух ладных акунёў ля бабровай хаткі. З тым і прыйшоў дадому. Не вячэраючы, каб не сцямнела, накапаў ля хлява чарвякоў і наладзіў спінінг. Піліп толькі ахнуў, калі ўбачыў усе мае рыбацкія прычындалы.

Але раніца не прынесла мне славы. Некалькі плотак і шчупачка, якога падчапіў на спінінг, я саромеўся несці ў сяло, і аддаў усё гэта хлапчуку, што пасвіў на лузе гусей.

Яшчэ ў сенцах я адчуў пах смажанай рыбы. «Няўжо Надзя налавіла?» — мільганула думка. Зайшоў у хату і прысеў ад здзіўлення: у маленькіх начоўках ляжалі два ладныя язі і залацісты, тоўсты лінь. Чацвёртая рыбіна, парэзаная на кавалкі, патрэсквала на патэльні ў печы. Піліпіха грымела качарэжнікам, а Надзя збірала на стол.

— Мый рукі, хутка снедаць,— сказала яна з ухмылкай.
— Ты налавіла?
— Я...
— Чым?
— Фартухом...
— М-мм...

Рыба была смачная, але я з'еў толькі адзін кавалачак. Цвёрда вырашыў адплаціць дзяўчыне.

Ледзь перайшло за поўдня, паклаў я ў невялічкую торбу кавалак хлеба, цыбуліну ды солі — думаю, навару там юшкі з рыбы! — сабраў свае вуды і — на раку. Не вярнуся без рыбы!..

Толькі сеў у лодку і ўзяўся за вясло, як заўважыў Надзю. Яна стаяла на беразе, склаўшы на грудзях рукі, задумлівая, далёкая. Аб чым яна думае? Відаць, аб тым, што я стаў нікуды не варты чалавек, нічога не ўмею, ні на што не здатны. Трэба было бачыць, які позірк падарыла яна мне сёння на лузе, калі я ўзяўся за граблі! У ім было ўсё: і смех, і жаль, і расчараванне...

Цёплая зорная ноч.

Я ўслухоўваюся ў наваколле. Віктар, хлапчук гадоў дванаццаці, падкідае ў агонь сухое галлё і нешта напявае.

Як тут хораша! Ля ракі наперабой заліваюцца ў лазняку салаўі. Далёка ў азёрах дрымціць казадой. Непадалёк, смачна жуючы сакавітую траву, фыркаюць коні.

— Зараз рыбу смажыць будзем,— раптам кажа Віктар і бяжыць да ракі. Яго няма доўга, але вяртаецца хлапчук са здабычай.

— Гэты акунь на п'яўку ўзяўся, а на чарвякоў — язь. Вось,— і кідае на траву дзве рыбіны, ледзь не па кіло кожная. На твары абыякавасць, быццам яму надакучыла лавіць гэтую рыбу.

— А я нешта развучыўся лавіць... І наогул нічога не ўмею.

Віктар усміхаецца:

— Вы ўсё на раку любуецеся і на лес...

— Прыгожа тут, Віктар, каб ты ведаў, як прыгожа!

Віктар не адказаў, і таму я спытаў у яго:

— Ну, а ты адчуваеш гэтае хараство? Ноч, лес, рака...

— Чаму ж не,— утыркнуўшы язю ў рот кій, Віктар паднёс яшчэ жывую рыбіну да агню.— Усё адчуваю...

Я глянуў на зорнае неба.

— Ну, вось, з чым параўнаў бы ты гэтую прыгажосць— зоры, месяц?..

— У мяне даўно ёсць параўнанне і зорам і месяцу.

— Якое ж?

— Зоры, як авечкі на лузе, а месяц — пастух.

Я засмяяўся. Мне захацелася пабегаць басанож па лузе, залезці ў цёплыя струмені рачной вады, выспацца ля вогнішча. Я стаў вясковым хлопцам, быццам учора толькі развітаўся з дзяцінствам. Нават прадэкламаваў радкі з верша Пятра Глебкі:

Травы пахнуць кветкамі,
Кветкі пахнуць зорамі,
Зоры над палеткамі —
Лесам і азёрамі...

Потым сабраў свае шнуры на сома і падаўся да лодкі. Падплыў да старарэчышча і апусціў на дно цяжкі кавалак рэйкі, што служыў мне якарам. Вось і прынада — дастаю з торбы смажанага грака, чапляю на кручок. Але што гэта? Побач з птушкай ляжыць ладны кавалак сала. Хто ж гэта паклаў? Надзя? Няўжо яна падумала, што птушку я засмажыў сабе? І навошта я браў Піліпаву стрэльбу? Маладога грака і так бы злавіў...

І смешна, і сорамна...

Ціхі ўсплёск вады, і шнур з насадкаю апускаецца на дно віра. На другі шнур я начапіў сала.

У кішэні пачак папярос, і таму не сумна. Ляжу на дне лодкі, на сене, пыхкаю сабе паціху. А паміж зацяжкамі з асалодай удыхаю свежае надрэчнае паветра.

На душы так хораша, хоць спявай.

Прайшло каля дзвюх гадзін, і мне надакучыла глядзець на рагулькі. Я ведаў — самы бяруцца на досвітку. Глянуўшы на неба, заўважыў, як з непраглядная далечыні паляцела маленькая зорачка. Потым адарвалася, другая, трэцяя.

І шуганулі ўсе зоры з неба, блізка-блізка праплыў круглы месяц...

«Я — пастух! — сказаў хтосьці ў мяне над галавой. Гляджу, а гэта месяц ператварыўся ў барадатага дзеда. Курыць чырванатвары дзед люльку і, усміхаючыся, кажа: — Зоры — мае авечкі... Глядзі!»

Азірнуўся і здзівіўся: авечкі былі на лузе, на рацэ, нада мною — усюды! А потым зноў з'явіўся звычайны месяц. Вось ён пачаў чырванець, чырванець і раптам, нібы бомба, узарваўся...

Адчуванне такое, што прачнуўся сапраўды ад выбуху. Сеў, азірнуўся навокал — якая прыгажосць!

Сонца падымала ўжо сваю ружовую заслону, паказваючы свету велізарную сцэну. А на ёй — лугі ды азёры, лясы ды палі. Глядзіш — не нагледзішся. Ціха так, што чуваць, як спадаюць з лазы кроплі-расінкі, як цёпкаюць на залітым вадою лузе два буслы, шукаючы сабе на снеданне спажыву...

Навошта ж мне тыя самы, калі і рака, і гэтая раніца, і нейкае невядомае пачуццё недалёкага шчасця разбудзілі душу, напоўнілі яе радасцю і цяплом, напоўнілі жыццём...

Але што гэта? Вільнуўшы некалькі разоў бліскучым хвастом, ля маёй лодкі вынырнуў шырокі, як дошка, лешч і лёг на бок. Я падчапіў яго падсакам і плюхнуў на дно лодкі.

«Аглушаны!» — адразу здагадаўся я. Дык вось што за выбух перарваў сон!

Цяпер па рацэ плылі плоткі і малыя акуні, вусцёркі і яшчэ нейкая дробязь. Аж бялела рака. І сярод гэтай дробязі ярка вызначалася шэра-жоўтая пляма.

Я хуценька падняў «якар» і пусціўся наўздагон. «Сом! Сом пузам угору...»

Я ведаў, што самы выплываюць далёка ад месца выбуху.

Вось ён блізка баўтануў хвастом і перавярнуўся. Толькі б не пайшоў! Ужо добра відаць вялізная вусатая галава, плаўнікі. Сом ледзь хаўкае жабрамі і неяк зморана варушыць хвастом. Акрамя падсака, на дне лодкі ляжаць восці. Хапаю іх і — р-раз! — трапіў проста ў мяккую шырокую галаву. Вялізная рыбіна ўздрыгнула, напружылася і пацягнула за сабою лодку, выкідваючы перад маім носам пеністыя пырскі празрыста-сіняй, як неба, вады...

Цяжка ўтрымаць гэтае страшыдла, але я намагаюся з усіх сіл.

Сом раптоўна абмяк, знясілеў, плаўнікі яго і вусы бездапаможна павіслі ў вадзе...

Рыбіна больш пуда.

Вось яна ляжыць на траве, а я стаю побач і ніяк не нацешуся. «Эх і пачастую ж Надзю! Дзякуй, дапамог нехта. Не мне ж грэх на душу...»

Так разважаючы, гляджу на раку і вачам не веру: у сваёй вастраносай зялёнай лодцы сядзіць Піліп. Ён усміхаецца, а сам вачамі паказвае на рыбу, якой поўна на дне лодкі.

— Ці сніўся табе, блазнота, такі ўлоў? — пытае і кіруе ў аер да вярбы.

Збіраюся з духам, маўчу. «Ах ты, лайдак стары, працяком прыкідваешся, добрым? Каб жыхар Пабярэжжа ды гэтак глуміў рыбу? Не, ніколі сапраўдны рыбак не зробіць гэткага злачынства! Ніколі!..»

І сом, і вясёлая раніца, і рака, і нават маё надалёкае шчасце — усё паблекла, страціла сваё ранейшае хараство.

Толькі гэта я хацеў аблаяць Піліпа, як па мурожыне да мяне падбегла Надзя. Яна бачыла ў траве сома і, здавалася, не заўважала мяне. Пляснула ад радасці далонямі.

— Уй-ю-юй, які прыгажун! Вусішчы...— А сама ласкава зірк на мяне: — На грака ці на сала? На што злавіў?

— На тол,— кажу ў злосці.— Ідзі вунь памагай бацьку рыбу з лодкі выграбаць. Ён глушыў тут непадалёку, за Чортавым кустом...

Ніколі я не бачыў такой раптоўнай перамены на твары дзяўчыны. Лагодны, поўны шчасця твар збялеў, грудзі хутка і цяжка ўздымаліся.

— Як ты можаш... гэтак на тату!.. Ды ты... Ведаеш, хто ты?..

Яна не знаходзіла слоў, каб абразіць мяне, але я і так ужо надзьмуўся як індык.

— Браканьер твой бацька, вось хто! І ты з ім. Відаць, не першы раз ён глушыць рыбу... Язямі частавалі...

— Ну, ведаеш!.. Можаш шукаць сабе другую кватэру!

Надзя крута павярнулася і пабегла да вярбы, дзе стары Піліп замыкаў на ланцуг сваю лодку. А я сабраў снасці і, пакінуўшы ў лодцы ляшча ды сома на беразе, шпарка падаўся ў вёску.

«Паеду,— вырашыў з болем на душы.— Калі яны такія — няхай!»

Разы са два гукнуў мяне Піліп, але я нават не азірнуўся.

Забегшы ў хату, хутка сабраў свае пажыткі і — за дзверы, каб назаўсёды пакінуць гэты куток... Але на ганку сустрэў Піліпа. Ён паглядзеў на мяне з ухмылкай і спытаў:

— Угнявілі?.. Пакідаеш нас? Пакідай, пакідай!..

Не падымаючы галавы, адказаў:

— Я, дзядзька Піліп, толькі чуў, што ёсць такія людзі, якія знішчаюць рыбу выбухамі, а цяпер давялося і ўбачыць. Вельмі прыкра...

— Лжэш ты, Кастусь! — раптам сурова адрэзаў Піліп.— Не бачыў ты нічога! Рыбу глушыў Ігнат Цімохаў, а я, як інспектар аховы, злавіў яго, адабраў рыбу і яшчэ на суд падам!..

— Дык гэта не вы?! — ускінуў я галаву.

— Выходзіць, не я,— развёў рукі Піліп.— Аднак добра ж ты пра мяне надумаў, нічога не скажаш... І Надзю вунь аж да слёз давёў. Цяпер, брат, не паказвайся ёй на вочы...

Я выпусціў з рук чамадан і стаяў, нібы той слуп. Нават язык прысох да паднябення. Няхай бы ён крыху раней гэтак... Вось дык гісторыя! Колькі разоў гаварыў сабе: не спяшайся, не асуджай людзей, не пазнаўшы іх. Што зробіш — натура такая, зноў пагарачыўся, наламаў дроў...

— Што ж цяпер рабіць? — спытаў я ў Піліпа, адчуваючы, што ён дараваў мне гэтае дробязнае абвінавачванне.

— Не ведаю,— пацiснуў той плячамі і павалі прайшоў міма мяне ў хату.

І я не ведаў.

Але цвёрда вырашыў — не паеду з Пабярэжжа да таго часу, пакуль не даруе мне Надзя. Хоць бы на гэта спатрэбілася два ці нават тры мае такія адпачынкі.

1960

## ЖУРАВЫ

Вясна ўвабралася ў сілу. Хоць і ранняя, ды дружная, з буйнай квеценню, з цёплымі начамі.

Над лясамі вісіць сіняя смуга, зямля дыхае свежай вільгаццю. І здаецца — не жаваранкі пяюць у густым марыве раніцы, а звіняць тонкія струны душы.

Іду праз густую азіміну, радуючыся, што прыехаў сюды, у яшчэ нязведаны мною куточак роднай зямлі, і думаю — адкрые ён мне свае таямніцы ці застанецца такім жа невядомым, як і дагэтуль?..

За лесам, што віднеецца здалёку, жыве Ліда Жураўская, гераіня яшчэ ненапісанага мною нарыса. Што я пра яе ведаю? Маладая, працавітая, з вельмі шырокай славай,

проста загадкавай. Надзвычайнай душы чалавек, але душу тую нехта хоча загубіць...

А якія яны, Журавы, наогул?

Чым больш думаю пра гэтую невялічкую вёсачку, тым яскравей узнікае даўняя карціна: хата ля самай ракі, луг, заліты сонцам, поўны красак. З-за высокай травы бачны насцярожаныя галовы жураvoў. Я не вяслую. Лодка сама плыве па цячэнні, а здаецца, што гэта журавы плывуць па лузе. Ціха, плаўна, гатовыя ў любую хвіліну ўзняцца ў неба...

То было даўно, у дзяцінстве.

Дарога павярнула ў лес. Ён цёмны і густы, у самай лагчыне. Рудыя лапкі ялін спляліся ў суцэльныя шаты, зелянеюць толькі верхавіны.

Міжволі прыбавіў хады і неўзабаве выйшаў з гэтага непрывабнага лесу. Уздоўж узлесся, на тарфяністым лузе, збітым капытамі жывёлы, ходзяць цяляты. Яны тыцкаюцца пысамі ў маладыя зялёныя чубкі травы і спрытна згрызаюць іх пад корань.

І раптам данесліся ціхія словы песні:

Не ўсцілаюць болей
хмары сінявы,
па-над родным полем
ляцяць журавы.

Хто гэта спявае? Нідзе — ні душы. А песня мацнее, набірае сілу. Узышоў на мост і... спыніўся ў нерашучасці.

Дзяўчына стаіць проста ў вадзе, у гумавых ботах, побач з пярэстым цялём. Палівае яго вадою, скрабе і спявае. Для яе нібыта нішто не існавала. У белай хусцінцы, завязанай ражкамі ззаду, з-пад якой выбіліся светлыя пасмы валасоў, загарэлая, кірпатая. Дзяўчына як дзяўчына. А я не магу крануцца з месца. І няёмка неяк, што бачу яе падаткнуты падол сукенкі, круглыя белыя калені і поўныя, як налітыя, рукі.

Ні з таго ні з сяго вітаюся:

— Дзень добры вам!

Дзяўчына не збянтэжылася, не спалохалася. Перш узняла галаву, адкінула з вачэй валасы.

— Але ж, добры!

Потым ужо апусціла падол. Мяне ўразілі яе вочы. Вялікія, блакітныя, яны зірнулі, здавалася, у маю душу.

— Ці далёка да Журавоў?

Яна ўсміхнулася, і на тугіх маладых шчоках з'явіліся дзве прывабныя ямінкі.

— Журавы ж — во! — паказала на хаціну пад ліпаю, якую я спачатку не заўважыў. Ад хаты на ўзгорак шнурочкам цягнулася ў садах вёска.

— Дык вы з Журавоў? — ажывіўся я нарэшце, сыходзячы з моста.

— Ага.

— А не падкажаце, у каго б мне спыніцца на некалькі дзён? Я — рыбак... Кажуць, у вашай Балачанцы нават самы ёсць.— А сам думаю: «Вось табе і Журавы! Ні людскай рэчкі, ні лугу, ні лесу. Вёска ля балота...»

Дзяўчына параіла зайсці ў хату пад ліпаю.

Хата ў канцы вёскі была новая, пад свежым дахам, кранутым сонечнай пазалотай. За хатай віднеўся хляўчук, а побач з ім — павець. Я піхнуў рыпучыя вароты і ўзышоў на двор, зарослы густым падарожнікам. Смела адчыніў дзверы і спыніўся на парозе ўражаны: ля печы завіхалася гаспадыня, як дзве кроплі падобная на маю першую знаёмую з Журавоў. Такі ж кірпаты нос, такая ж ясная ўсмешка блакітных вачэй. Толькі на выгляд крыху старэйшая.

— Праходзьце, не ў сваты ж! — весела прамовіла гаспадыня і, змахнуўшы фартухом зэдлік, паставіла яго да акна. Я сеў, адразу растлумачыў, што прывяло мяне сюды, хто параіў кватэру.

— Во, гарэза! Што ж, пабудзьце. Нас двое, пакояў — тры...

Па гэтым «во» і па добразычлівай усмешцы здагадаўся, што жанчына — маці маёй знаёмай.

— Прабачце, як завуць вашу дачку?

Пульхны ружовы блін лёг на свежы абрус, засланы на ўслоне ля печы.

— Што ж вы ў яе самой не спыталіся?

— Ды так...

Чорт пацягнуў за язык! Аж няёмка. Сапраўды, чаму не спытаў у дачкі?

— Ваш пакой будзе ву-унь той, вокнамі ў сад...

— Дзякую. Заплачу, колькі скажаце.

— А дзе ж ты дзенешся!

Занёс чамадан у адведзены пакой і пачаў збірацца ў рыбу, складаць свае вуды. Рыбак з мяне быў, як з лазы супоня, але ж гэтага патрабавала канспірацыя.

Рэчка за сялом была запруджана гусямі і качкамі. Крыху менш за тых птушак было на лузе і пастухоў — хлопчыкаў і дзяўчынак.

Яны адразу акружылі мяне і наперабой пачалі раіць, дзе што бярэцца.

— А ву-унь на тым павароце, за кустамі, плоткі,— слухаў я параду чорнагаловага хлапчука.

— Чый жа ты будзеш? — спытаў абыякава.

— Жураўскі! — і пабег, падскакваючы.

«Ці не маёй гераіні, Ліды Жураўскай, брат?» — падумаў я, аддаючыся прыемнай ляноце, што раптам ахапіла ўсяго. Сонца грэла, як летам. Я нават скінуў кашулю і лёг у цяньку пад алешыну. Ні мух цяпер, ні камароў — любата! Белыя паплаўкі нібы застылі на вадзе, ні скрануцца. Зрэдку падплывае да іх якая-небудзь мальга і, убачыўшы, што гэта не матылі, гарэзліва пырсне хвастом і знікне.

Мусіць, я задрамаў, бо раптам непадалёку пачуўся дружны смех і гоман хлапчукоў.

Раней я іх тут не бачыў. Сеў і зірнуў на вуды. Адной не было. Агледзеўшыся, бачу — яе трымае чарнявая дзяўчына ў сінім жакеце, з блакітнай касынкай на галаве. Глядзіць на мяне з-за куста і ўсміхаецца. Вочы сінія, глыбокія. Вусны ружовыя, аж свецяцца. Бровы нібы нафарбаваныя.

— Добрай раніцы! — мяккі лагодны голас зусім абудзіў мяне ад сну. «Ды гэта ж Ліда!» — нібы падказаў мне хтосьці. І твар яе здаўся мне знаёмым. Дзе я мог сустракацца з гэтай дзяўчынай?

— Дзень добры... Цэлую ноч не спаў, ехаў,— апраўдваюся, нібы вінаваты, а сам вачэй не магу адвесці ад прыгожага твару, стройнай постаці.

Дзяўчына падышла і кінула на траву пяток ладных плотак, паклала вуду і села побач на купіну.

— Прабачце, што без дазволу ўзяла вашы рыбацкія снасці!

— Але ж вам і пашанцавала! — пазайздросціў я, паказваючы на рыбу. Потым зноў зірнуў на дзяўчыну. А ў яе твар быў строгі, вочы аж пацямнелі. Яна глянула на мяне калюча, мне падалося, нават з нянавісцю. Але на адно імгненне. І вось ужо зноў спакойна глядзіць, нібы ўсміхаецца. Аж страшна. Я адвёў позірк, але супакоіцца не змог.

— Вы не з газеты, выпадкова?

І пытанне знянацку, я ледзь не адказаў «ага».

— Адкуль вы ўзялі?

— Падумалася. Пішуць тут розныя... Між іншым, мяне завуць Ліда. Жураўская.

— Кастусь...— Я ледзь перавёў дух: «Знайшоў! Яна! Угадаў!»

Яна падхапілася і пайшла да ракі. Нахілілася, дастала з вады кавалак чорнай зямлі.

— Зараз дабуду нажыўку! — разламала глышку і дастала маленькага чырвонага чарвячка.— Вось на гэта плоткі і клююць.— Падышла, начапіла чарвяка на кручок, закінула вуду.

«Напішу! Распішу! Намалюю!» — спявала душа.

Плотка злавілася адразу. Ліда нават не зняла яе з кручка. Шпурнула разам в вудай на зямлю і пайшла. І ні слова на маё захапленне. Не бяда. Амаль услед за ёю і я крочыў так бадзёра, быццам сам злавіў тых плотак, што нёс на дубчыку з лазіны.

Мая першая знаёмая сустрэла мяне на дварэ.

— Во — колькі! — усклікнула яна і ўжо ціха запытала: — Як вас мама сустрэла?

— Сказала, каб перш за ўсё пазнаёміўся з вамі. Мяне завуць Кастусь...

— Ліда. Жураўская...

Я ледзь не перапытаў ад здзіўлення. Здзекуюцца яны з мяне, ці што? Дзяўчына заўважыла маю збянтэжанасць і растлумачыла:

— У нашай вёсцы тры Ліды, і ўсе Жураўскія! — Хітра бліснула вачамі, дадала:— Тая, што з вамі ля ракі была, Змітракова Лідка. Усё нейкага карэспандэнта чакае...— І ўжо, як прысуд: — Баламутка!.. Давайце рыбу пачышчу.

Яна чысціла рыбу з такім спрытам, быццам усё жыццё толькі тым і займалася. А я, вядома, думаў пра тую Ліду, дзеля якой сюды прыгнала мяне нялёгкая. Я ведаў толькі, што ў «маёй» Ліды добрая душа, якую губяць чэрствыя людзі. Гэтага было вельмі мала, каб адразу распазнаць яе, маю Ліду. Задача, як я зразумеў, значна ўскладнялася. А сябе выкрываць не хацелася...

Надышоў вечар, і мяне пацягнула на вуліцу. Шарая гадзіна, калі ўжо і не відна, але яшчэ і не цёмна, а электраліхтары на вуліцы ўжо гараць. З нізін дыхала прыемным халадком — усё ж вясна! Паветра, як духмяны чай. Бэз пад вокнамі нібы ў пене. Аж кружыцца галава. Недзе ў канцы вёскі галасіста заліўся гармонік і раптам сціх. А басавіты голас на ўсю вёску:

...Ой, ды не ка-ха-а-ай яго,
Ма-ру-ся-я!
Пакахай ты лепш мяне-е!

З-за прыцемненых акон хат дзе-нідзе прарываліся блакітныя сполахі тэлеэкранаў. Нідзе нікога. «Вось і знайдзі ты сабе занятак, чужы чалавек! Сядзеў бы дома і не рыпаўся...»

Толькі так падумаў, як пачуў з-за веснічак, супраць якіх прыпыніўся:

— Добры вечар, Кастусь!

Гляджу на двор і нікога не бачу, але адчуваю, што гэта яна, Ліда! І радасна, і крыху страшна.

— Між іншым, я вас чакала...

— Ліда! — перапытваю я нібы не сваім голасам.

Дзяўчына выйшла за вароты. Уся ў цёмным, цяпер яна здавалася высокай. Мы паволі крануліся па вуліцы, і я ўвесь час імкнуўся трымацца далей ад яе. Яна гэта заўважыла, усміхнулася.

— Баіцёся жонкі? Яна далёка...

Мы праходзілі паўз слуп, на якім вісела лямпачка. Пры гэтым святле Ліда здавалася яшчэ прыгажэйшай. Твар яе паблядне́ў, а вусны былі ружова-чырвоныя. Яна зірнула на наручны гадзіннік і спынілася.

— Між іншым, у мяне тут спатканне з адным чалавекам, але вы не ўцякайце. Вы павінны быць з намі.

У яе голасе чуліся хутчэй ноткі загаду, чым просьбы. І я, даволі стрэляны верабей, здзіўляўся і не разумеў, куды знікла мая смеласць і рашучасць. Стаяў, як тое цяля на прывязі, нават не мэкнуў. Толькі ўсміхнуўся.

Але, відаць, і ўсмешка мая была недарэчнай.

Чалавек, якога чакала Ліда, прыйшоў хутка. Гэта быў даволі высокі, дужы хлопец у цёмным касцюме, белай кашулі. Доўгія светлыя валасы двума зачосамі кладліся на вушы. Твар загарэлы, крыху грубаваты.

— Вечар добры! — і голас яго мне здаўся грубым. Мы прывіталіся, пазнаёміліся.

— Ну, вось і добра! — не ведаю чаму ўзрадавалася Ліда.— Пагаварыце тут крыху, пакуль я вярнуся.

І яна шпарка пайшла па вуліцы ў канец вёскі.

А я стаяў з нейкім Пятром і не ведаў, што рабіць, што гаварыць, як трымаць сябе.

— Давай закурым! — раптам прапанаваў мой новы знаёмы.

— Каб жа я курыў!

Гэта было першы раз у маім жыцці, калі пашкадаваў, што не куру.

Пятро высмаліў аж дзве цыгарэты, адну за адной. І ўсё гаварыў. А я слухаў. Ён загадчык фермы і кладаўшчык. Усё там у ягоных руках. І ён стараецца, каб раслі надоі, каб людзі добра зараблялі. Але людзі ёсць розныя. Адны разумеюць яго стараннне, другія толькі перашкаджаюць, ставяць палкі ў колы. «У нас жа не ўсяго ўволю,— казаў ён.— Цяжка з кармамі, а выпас яшчэ зусім слабы. Даіць кароў таксама не проста. Гэта справа цяжкая, а ўсялякія «елачкі» — мура. Той, хто не лянуецца, то можа стаць вялікім чалавекам, вядомым на ўвесь раён».

— А з Лідкай мы ўжо нюхаемся два гады! — раптам паведаміў Пятро. І слова ж падабраў! І ўсмешка загадкавая. Разумей, што хочаш.

— Ну і як? — падагрэў я хлопца.— Знюхаліся?

— Лады-ы! А брыкалася доўга... Ад мяне не выкруцішся, галубка, хватка моцная! — Ён зарагатаў неяк дзікавата і непрыемна.

Прачакалі мы Ліду з гадзіну, але яна так і не прыйшла. І тут мяне кальнула: «Наўмысна пакінула! А для чаго, з якой мэтай?»

— У вас, кажуць, аж тры Жураўскія Ліды,— пачаў я здалёк.

Пятро нібы спахапіўся:

— Трэцяя малая яшчэ... А вы, уласна хто будзеце?

— Ды так... Шукальнік прыгод у адпачынку. У вас тут ціха. І рака яшчэ не перакапана на канаву. А я хоць і заядлы рыбак, але люблю малыя рэкі...

— Лады-ы! — зноў дастаў цыгарэту Пятро.— Цяпер і праўда рыба шукае, дзе мялей. Дык гэта... Пайду да сваёй, а то яшчэ хто перахопіць. Нашы хлопцы добра чуюць, дзе пахне смажаным! Ого! Ліда ў гераіні выбіваецца...

І не пайшоў — пабег, падахвочаны сваім клопатам, страхам.

— ...Ой, ды не ка-ха-ай яго, Ма-ру-ся-а! — зноў пачуўся ў канцы вёскі знаёмы басавіты голас. І мне стала сумна. Я ішоў назад і ніяк не мог ахапіць, асэнсаваць усяго, што адбылося за дзень. Загадкавая Ліда, якая выбіваецца ў гераіні, ужо цалкам авалодала маімі думкамі. Ясныя і такія прыгожыя вочы запамінаюцца адразу. Забыць іх цяжка, як і знайсці. І вось чаму так пакутліва думаецца: дзе, калі я ўжо сустракаў дзяўчыну з такімі вачамі? А можа, толькі марыў сустрэць, і той, некалі ў думках народжаны

вобраз у нейкіх дэталях супаў з жывым увасабленнем? Усё можа быць...

Ля крайняй хаты пад ліпаю, на лаўцы, сядзела дачка маёй гаспадыні. «Якія яны розныя! — паволі набліжаючыся, падумаў я.— Гэта — простая, ёмкая, моцная, так і карціць з ёю пажартаваць. А тая — нейкая сама святасць. З той хочацца марыць...»

— Во— ужо і нагуляліся! — пачулася задаволенае.— А на мяне дык нейкая сумата напала. На вечарынку неахвота, а ў клуб далёка. Ён у нас ведаеце дзе? У Загацці, аж тры кіламетры. Сядзьце, пагаворым...

— Для маладых ног тры вярсты не дарога! — весела адказаў я і сеў.

— Ага! — адразу згадзілася яна.— Некаторыя дык кожны вечар дапінаюць.— Хіхікнула.— І не так ім падабаецца бегаць у клуб, як з клуба.

— Чаму?

— Не скажу, няёмка...

— Дык я ж свой! Скажыце, Ліда,— і лёгка паклаў руку на яе круглае, пругкае плячо. Яна зноў засмяялася, ускінула галаву і выпаліла:

— Хлопцы іх там пераймаюць у кустах ды ціскаюць. Дужа ім гэта падабаецца...

— А хіба ў вас няма такога хлопца, які б... ну, падабаўся?

— Быў ды сплыў...— Ліда сцішана ўздыхнула.— Якія тут хлопцы! Недаросткі цыбатыя, смаркачы. Ніводнага людскага.

— А вось Пятро,— успомніў я.— Хлопец што трэба!

— Што трэ-эба,— паўтарыла яна ціха і, як мне здалося, грэбліва.— Дык ён жа, вунь, сабе гераіню гадуе. Амаль жонка ўжо. Мама кажа, што ў Змітраковай Ліды каровы сытыя, як ласі. А чаму сытыя? Бо Пятро другім кармоў недадае, а ўсё тым, Лідзіным, прэ. І хоць бы хто бачыў — калі. А тая і нос дзярэ, не верыць. Баламутка...

Вось яно што! Здаецца, я натрапіў на след. Трэба толькі асцярожна, не спалохаць птушачак, не выкрыць сябе загадзя.

— А вы сам гарадскі? — Ліда прыхінулася гарачай шчакою да рукі, і я не зняў яе з пляча.

— Вясковы. Але цяпер жыву ў горадзе.

— З кім?

— Адзін.

— Зусім адзін?

— Ага. Старая не хоча ехаць, хоць кватэра і не цесная.

— Дык жаніліся б... Не смелы, га? Бачыла, як ішлі з Лідкай, ззаду на вярсту. Праўда нясмелы? А я вось напалохаю...

Прагаварылі мы давідна. І шкадавалі, што так рана ў маі днее...

Калі асцярожна, каб не патрывожыць маці, прабіраліся кожны да свайго ложка, пачулі:

— Гэта ты, Лідка? Глядзі-і, дзеўка-а!..

— Гляджу, мама...

У голасе Ліды задаволены смяшок. І недарэмна: усё ўжо даўно прагледжана, даўно забыта. «Быў ды сплыў мой Віктар, у горад сплыў, з другой...» Я ведаў нават яго імя...

Збіраўся пажыць у Журавах тыдзень, а ўжо на другі дзень давялося дыбаць на станцыю. Усё раскрылася проста і нечакана.

Раніцою схадзіў на раку і сам налавіў плотак. Ліда прыбегла ад цялят, пачысціла рыбу і пасмажыла ў печы перад полымем. Гаспадыня паставіла на стол міску белай сопкай бульбы і міску тварагу са смятанай.

— Еш, можа, зяцем будзеш!

— Можа...— Я адчуваў, што паступова чырванею. Толькі селі за стол, як забегла Змітракова Ліда. Акуратна выкладзеныя косы, твар бледнаваты, але такі светлы, адкрыты, што, зірнуўшы ў гэты твар, я проста разгубіўся.

— Косця,— нават не вітаючыся з намі, сказала з парога,— я хачу з табою пагаварыць.

Так і сказала: з табою. Я ўстаў.

— Чакайце,— уступілася за мяне гаспадыня.— Няхай чалавек паесць.

— Што там у цябе, Ліда? Не блыху ж лавіць,— занепакоена сказала і дачка.

— Блыха не блыха, а паесці трэба,— ухілілася ад прамога адказу чарняўка. Прайшла і села на край ложка.

Які там быў сняданак! Сяк-так пракаўтнуў бульбіну, чарпануў лыжку, ледзь не падавіўся косткай ад рыбы. Вылез з-за стала галодны.

Змітракова Ліда выйшла першай. Ужо на вуліцы спытала:

— Ну, як там пагаварылі з Пятром?

— Ды проста...

— І што ён гаварыў? Скажы чэсна! Пра мяне гаварыў?

— Было. Вы ж амаль жонка і муж...

— Вось як! Значыць, гэта праўда... Брахун. А я не верыла людзям, дурніца...

Ліда спахмурнела, толькі вочы ўспыхнулі гневам.

— Не хацела гаварыць табе, Косця, але, калі ў чалавека бяда, яго крышку шкадуеш. Учора ноччу Пятра злавілі з бульбай, вёз са склада. Хочуць судзіць. Але ж ён вёз тую бульбу не сабе, на ферму вёз, каровам...

— Тваім каровам,— і я перайшоў на «ты».

— І гэта ведаеш. Вока і вуха вострыя...— Яна нібыта змякла, ссутулілася, як старая.— Ты можаш яму памагчы, хоць і не варты ён таго...

— Як жа гэта?

— Напісаць праўду. Толькі праўду! — І, памаўчаўшы, дадала: — Я цябе адразу пазнала. І чакала аж два гады. Усе вы, журналісты, аднолькавыя. Наабяцаеце, а потым... Танцоры!

Недзе глыбока-глыбока ў маёй свядомасці ажыла даўняя, сапраўды забытая дэталь. «Танцор! Калі гэта і дзе я танцаваў?» Зірнуў на Лідзін профіль і раптам, як стрэл: «Успомніў! Ліна!»

— Ліна?! — я схапіў яе за плечы, павярнуў тварам да сябе.

— Ліна... Так мяне звалі дома. І цяпер завуць. А ў пашпарце пісар зрабіў Лідай, пераблытаў літару. Так і засталося...— Яна паглядзела на мяне спагадліва, без злосці.— Чаго цяпер ужо чырванець, Косця? Памажы вось чалавеку. Між іншым, я не ведала, што з яго дапамогай стала лепшай даяркай у раёне. Нарабіў сораму. Няхай цяпер і на вочы не трапляецца...

— Добра, памагу.

Я гаварыў і не чуў сваіх слоў. Закрыў твар рукамі. А калі іх адняў, Ліны ўжо не было. Яна пайшла. Стаяў на дарозе, побач з якой расла адзінокая бярозка. А пад бярозкай купка свежай травы. Міжволі адышоўся і сеў. І ўсё-ўсё ўспомніў.

...Было гэта гадоў пяць-шэсць назад. Тады я толькі скончыў універсітэт і атрымаў першую пуцёўку ў раён на сустрэчу перадавікоў жывёлагадоўлі.

На сустрэчы было шмат прамоў, абяцанняў, віншаванняў. Потым моладзь танцавала, а старэйшыя частаваліся.

Там, у раённым Доме культуры, я пазнаёміўся з Лінай. Яна вельмі змянілася з таго часу. Працей кажучы, пасталела, папрыгажэла, хоць і тады ўжо прыкметна вызначалася сярод іншых дзяўчат. Мы танцавалі, не заўважаючы зморы. І я хваліўся ёй, што я журналіст. Я частаваў Ліну, не шкадуючы сваіх лічаных рублёў, быццам іх было ў мяне безліч.

Гэта паўтарылася і на другі дзень, у нядзелю. Мы не разлучаліся ні на хвіліну. І ўжо недзе за поўнач у цёмным калідоры раённай гасцініцы пацалаваліся.

— Я не забуду цябе ніколі,— нібы нехта чужы варочаў маім здубянелым языком.

— Калі гэта праўда, то і я буду чакаць...

Літаральна за апошнія капейкі я купіў Ліне білет на аўтобус, запісаў яе адрас і памахаў рукой услед адыходзячай машыне.

Паперка з адрасам згубілася, сустрэча забылася. Забылася, праўда, не адразу. Яшчэ нейкі час я ўспамінаў дзяўчыну з лёгкай журбою, нават імкнуўся ўспомніць яе вёску, але ўсё дарэмна. Ды і ў жыцці маім спачатку не ўсё ішло гладка. Турботы, няўдачы, зрывы, чужая кватэра.

А там, сказаць па праўдзе, былі і новыя знаёмствы, хоць і не з такімі палкімі прызнаннямі. Вобраз Ліны паступова згладзіўся ў маёй памяці. Я не зрабіў таго кроку, аб якім буду шкадаваць, мусіць, усё жыццё. Шкадаваць і сумаваць...

...Узняў вочы і аж адхіснуўся: на дарозе стаяла мая маладая гаспадынька.

— Дык вы той журналіст, якога чакала Ліда? Гэта праўда? — у вачах цікавасць і здзіўленне.

— Той.

— Божачка! Яна ж так сохла, так сохла. Баламутка! Каб вы раней прыехалі, то Пятро быў бы мой...

— Будзе! Ліна прагнала яго, баламута...

— Праўдачка? — вочы яе загарэліся — А вы тут застаняцеся? Я ёй нічога не скажу, што мы даўдна...

Я прамаўчаў. Падняўся і пайшоў у вёску. Адразу сабраў свае рэчы і развітаўся, пакінуўшы на стале пяцёрку. Цяпер я быў багацейшы.

Ліда сарамліва наблізілася:

— Многа ж... А можа, вам трэба яшчэ застацца?..

— Не, Ліда, мне трэба ехаць. Трэба пісаць, ратаваць вашага Пятра. Ты ж не хочаш, каб яго судзілі, як злодзея?

— Не.

— Вось бачыш...

Я рашуча адчыніў дзверы і выйшаў. Яна праводзіла мяне да весніц.

Ужо за мостам азірнуўся на Журавы. Яны зноў недзе зніклі ў садах з першай квеценню. Толькі ля адзінай грушы сярод голага поля віднелася сіняя касынка. Яна ўзляцела ўгору раз, другі. Я махнуў рукою ў адказ. І пайшоў. Але нешта балючае варухнулася ў грудзях.

Тады я яшчэ не ведаў, пэўна, але адчуваў душою, што не магу вось так, назаўсёды, развітацца з Журавамі, што сюды я яшчэ вярнуся. І не раз...

1968

# ГУМАР

## ВЕЧНАЯ ПРАБЛЕМА

Ужо колькі год перад святам Восьмага сакавіка на мяне нападае бессань і знікае апетыт. «Што рабіць? Што прыдумаць такое незвычайнае, каб хоць раз у жыцці жонка пахваліла?» Больш ляныя і легкадумныя мужчыны бяруць з агульнай сямейнай касы грошы і купляюць духі, торты, панчохі. Калі мы толькі пажаніліся, так зрабіў і я. Мая Ліна зусім слушна заўважыла:

— Гэта, Жоржык, не падарунак! Бярэш мае грошы і купляеш мне... Шчыра дзякую!

Калі жонка называе мяне Жоржыкам, мне здаецца, што ў нутро маё залез вожык. Але я стрымліваю злосць і лагодна кажу:

— Але ж, любая мая Лінолія, грошы я ўзяў са сваёй зарплаты!

— З нашай, Жоржык! — паправіла мяне Ліна.— А гэта значыць, і з маёй...

Падумаўшы, я пагадзіўся, што жонка мае рацыю.

На другі год я вырашыў паднесці падарунак сваёй вытворчасці! Набыў тоўстую кнігу карысных парад і на сотай старонцы прачытаў: «Цукровы пясок змяшаць з сырым яйкам, расцерці, дадаць соды, масла, усыпаць муку, замясіць...»

Калі я ў цукар убіў яйка, атрымаўся цвёрды, бурштынавы камяк. Ніякія масла і мука не ратавалі. Тады я пачаў выдумляць рэцэпт сам. Перш-наперш лінуў вады. Так, на вока. Мука размясілася, а бурштынавы камяк яшчэ больш зацвярдзеў. Тады я ўзяў таўкач і пачаў зацята біць непадатлівае цукровае яйка. Пырскі ляцелі ва ўсе бакі — я аж зажмурыўся. А калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў, што сцяна, стол і акно залеплены цестам. Але не бяда, калі справа пайшла на лад! Я дадаў яшчэ мукі і малака. Па-

думаў і разбіў два яйкі. Зноў насыпаў цукру і ўзяўся за таўкач...

Праз тры гадзіны я зразумеў, што замест пясочнага торта атрымалася цагліна. З вялікім жалем я рассек яе на чатыры часткі і выкінуў праз адчыненую фортку на балкон. Тымі кавалкамі падавіўся, пэўна, не адзін верабей...

І ўсё ж Ліна здагадалася аб маёй падпольнай дзейнасці па слядах на сценах і акне.

— Вось бачыш, Жоржык,— зноў са шкадаваннем сказала яна.— Ты сапсаваў муку, яйкі, малако і масла. Адны страты... Няўжо ты ніколі не чытаў пра тое, што атрымлівалася, калі мужчыны браліся за жаночую працу?

Пра гэта я, вядома, чытаў. Але думаў, што ў мяне атрымаецца як след! Я ж набраўся з кніг такіх ведаў!

На другі год заняўся разьбой па дрэву. Вырашыў змайстраваць голуба з галубкай...

Калі жонка прыйшла з цырульні, я сядзеў на канапе з забінтаванымі рукамі і заклееным носам.

— Божа! — усклікнула Ліна, ледзь пераступіўшы парог.— Ты з кватэры зрабіў дрывотнік...

Пра мае фізічныя і душэўныя раны яна не сказала ні слова. Быццам іх зусім не было.

І так было кожны год. То гэта не так, то тое не гэтак. Нарэшце Ліна мяне проста папрасіла:

— Жоржык, не трэба ніякіх падарункаў. А то ты яшчэ ўздумаеш перамыць посуд. Не будзе ў чым есці...

— Што ж мне рабіць?

— Нічога. Проста ў гэты дзень будзем разам. Пойдзем у кіно, у тэатр, да знаёмых...

Ды бунтарская душа мая не змірылася з паражэннямі.

Перад сёлетнім святам я прачытаў каля сотні святочных апавяданняў. Але мне здалося, што ўсе яны безнадзейна ўстарэлі. У іх гаварылася, як няўдалыя мужчыны гатавалі, пяклі, смажылі, як куплялі не тое, што трэба, як разбівалі сабе лбы, бегаючы ў пошуках падарункаў... І нічога новага, вартага пераймання.

І я зноў пачаў прыдумляць падарункі сам. Спачатку вырашыў прысвяціць жонцы верш і надрукаваць яго хоць у раённай газеце. Першыя радкі даліся лёгка:

Была на гэта важная прычына,
Яе прынёс нам добры сакавік.
П'ю за цябе, шаноўная жанчына,
Мой мужны друг, мой слаўны працаўнік!..

Больш я не ведаў, як уславіць Ліну. «Можа, зноў падняць чарку за прыгажосць, за пяшчоту, за каханне?» — падумалася мне. Але ў такім разе выходзіла, што свята жаночае, а п'ю адзін я. Атрымлівалася не тое. Паэзія не давалася...

А дні беглі. Да свята заставаўся тыдзень.

І тут...

Неяк, ідучы з работы, я спыніўся ля вітрыны магазіна падарункаў. «Прыгожая сумачка — лепшы падарунак!» — прачытаў я і ўспомніў, што ў апошні час мая Ліна некалькі разоў намякала, што ў яе ўжо зусім старая сумачка. Ніяк не выпадае купіць новую. То часу няма, то грошай. Яшчэ жартавала, што час і грошы ніяк не збяруцца разам.

Нагледзеў самую танную — пяць рублёў сорак капеек. Яе я і павінен купіць, не ўзяўшы з дому ні капейкі! У гэтым быў увесь сакрэт. З дому — ні капейкі...

Я падлічыў, як пішуць газетчыкі, свае магчымасці. Калі тыдзень не пакурыць, то на адным «Беламоры» зберагу рубель пяцьдзесят чатыры капейкі. Ды яшчэ на абедах рублі чатыры. Вось табе і падарунак! Тыдзень можна абысціся без абеду, а з курывам сяк-так пераб'юся каля сяброў...

На другі дзень я ўзяў у Ліны звычайны дзённы ліміт на абед і пайшоў на працу. Тут яно і пачалося...

— Вось табе і на-а! — праз нейкі час сказаў я супрацоўніку, які сядзеў за суседнім сталом.— Забыўся дома папяросы. Гэта ж трэба! — і для пацверджання сказанага супаляпаў рукамі па кішэнях. Гэта быў удалы прыём! Сусед даў закурыць. Потым другі раз, трэці. А ў час абедзеннага перапынку я хадзіў па вуліцы і насвістваў песню вадавоза.

На другі дзень выдумляць было цяжэй. Не мог жа я два дні запар забываць папяросы! Але і тут памог выпадак. Я заўважыў, як наш малодшы бухгалтар дастаў з кішэні пачак балгарскіх цыгарэт, падышоў да яго і працягнуў руку:

— Кажуць, што балгарскія лепшыя за нашы. Дай паспрабую пусціць дым...

У дванаццаць гадзін сказаў, што зусім не хочацца есці. Чытаў стары раман, у якім героі толькі тое і рабілі, што пілі бургундскае і елі шашлыкі. Аж занудзіла. Кінуў кнігу і выйшаў у калідор. Там, каля плеценага кошыка для папер, было з паўсотні недакуркаў ад цыгарэт. Траплялiся

амаль цэлыя! Я сказаў, што гэта свінства — кідаць недакуркі на падлогу, сабраў іх у паперыну і, азірнуўшыся, уціснуў яе ў кішэню. Дома я цыгарэткі растрыбушыў і, калі хацелася курыць, круціў з газеты самакруткі.

У такіх пакутах прайшоў цэлы тыдзень. І вось яна, сумачка, у маіх руках!..

Раніцою Восьмага сакавіка я ўрачыста, са слязою на вачах, паднёс падарунак Ліне і ціха сказаў:

— Вось... Насі на здароўе...

Ліна схапіла падарунак, прыціснула да грудзей і шчыра адказала:

— Дзякуй! Гэта якраз тое, што трэба...

Потым пабегла ў другі пакой, адчыніла шафу, пералічыла грошы. Вярнулася яна з пахмурным, як ноч, тварам.

— Дзе ты ўзяў грошы?! — спытала яна.— Ты пачынаеш хаваць ад мяне заробак?

— Не, Лінолеум! — засмяяўся я.— Цэлы тыдзень эканоміў. Разумееш, не абедаў, не курыў...

— Дык ты яшчэ лжэш! — сумачка паляцела мне ў твар.— Увесь гэты тыдзень ад цябе несла гарам, як з тытунёвай фабрыкі! Ты пачаў хаваць ад мяне грошы?

Што гаварыла жонка далей, я не чуў — куляй выляцеў на вуліцу. Хаджу і разважаю: «Што можна прыдумаць яшчэ? На якую ахвяру пайсці?»

Вечная праблема!

1966

## ТРАПНЫ СТРЭЛ

Старшы манцёр Іван Брага, вясёлы і ўзрушаны, забег да свайго сябра кладаўшчыка Івана Балабановіча ў яго маленькую, цемнаватую каморачку пры складзе.

— Усё! Ёсць! Злавіў! — аж прысядаў ад радасці Іван.

— Каго злавіў? — нічога не разумеў Іван Балабановіч.— Хто цвікі ўкраў?

— Ды не... Цвікі ж мы з табою...

— Цс-с! А каго?

— Начальніка! У панядзелак яго дзень нараджэння. Мы яму падарунак — тыц! Глядзіш, і размова лепей пойдзе, спішам тыя дзве скрынкі цвікоў! А то, брат, плаціць прыйдзецца...

Балабановіч махнуў рукою:

— Калі ж ён нічога не бярэ. Ніякіх падарункаў. Мы ўжо летась да яго і так і гэтак падыходзілі, а ён хоць бы табе што...

— Ад мяне возьме! Зайчык, аказваецца, яму патрэбен вось так,— шмаргануў шырокай далоняй па худой шыі Іван Брага.

— Які зайчык?

— Ды звычайны! Свежанькі. Жонцы званіў, што ні на адным базары зайцоў і ў паміне няма. А яна ў трубку: «Хоць з-пад зямлі дастань, а прынясі мне заўтра дзічыну! Што за стол без зайца!» Гэта ж я лінію правяраў і выпадкова падслухаў...

Іван Балабановіч усё зразумеў.

— Калі гэтак, то возьме. А возьме — справа будзе. Спішам цвічкі — і не заікнецца...

— Дык я пабег на лінію! Скончым работу — дамовімся.

Пра што яны гаварылі пасля, стала вядома толькі пад раніцу наступнага дня, калі сябры, з рэчавымі мяшкамі і стрэльбамі за плячамі, сустрэліся на вакзале. Было яшчэ цёмна. Гадзіннік толькі-толькі адгрукаў чатыры разы.

— Нешта, Іван, твой Віхор ушыркі падаўся,— паказваючы на тоўстага і лянівага, як і сам гаспадар, ганчака, прамовіў Брага.

— А дзе ж яму ў горадзе бегаць? Вось і таўсцее..

— Яно-то праўда...

— Нічога. Абы дзічына была. Паглядзіш тады, які ён лоўкі ды спрытны!

— Зайцоў пад Жураўамі хапае. І лісы ёсць...

— Лісы сёлета, чуў, брыдкія, аблезлыя. Нам бы парачку зайцоў! Вось бы ўладзілі...

— Чаго добрага, зайцы будуць.

— Яны, кажуць, сёлета тлустыя.

— Як ласі...

Так размаўляючы, сябры-паляўнічыя купілі білеты, зайшлі ў халодны вагон прыгараднага цягніка і ўселіся, дзе хацелі: у вагоне, апроч іх, нікога не было, хоць і нядзельны дзень.

Неўзабаве цягнік рушыў, парыпваючы змерзлымі амартызатарамі і пагрукваючы коламі на стыках. А яшчэ праз нейкі час паляўнічыя выйшлі на змрочным паўстанку проста ў глыбокі снег. Было не цёмна і не відна. Месяц

ужо не свяціў. Белай празрыстай плямай ён вісеў на краі неба, і па ім прабягалі гэткія ж светлыя воблачкі.

— У такі час заяц трымаецца бліжэй да вёскі, ля садоў,— сказаў Іван Брага і патупаў паперадзе, пракладваючы сваімі валёнкамі цэлую сцежку.

Балабановіч рушыў следам, трымаючы на павадку свайго незадаволенага і бурклівага Віхора. Так яны ўзышлі на ўзгорак, знялі з плячэй стрэльбы і асцярожна прабраліся паўз вёску, па самыя дахі засыпаную снегам. Мінулі сады і ўвайшлі ў рэдкі стромкі хвойнік. Зайцамі тут і не пахла...

— Давай, Іван, закурым,— прапанаваў Брага.— Усё роўна яшчэ рана паляваць...

— Давай...

Яны павесілі стрэльбы на сукі, абаперліся тоўстымі кажухамі на дрэўцы і задымілі, а Віхор глядзеў на іх, нібыта пытаючы: «У вас хоць занятак ёсць, а мне што рабіць?» Ці то ад нуды, ці то ад холаду ён раптам ускінуў галаву ўгору і гаўкнуў. Яму хорам адказалі з вёскі ўсе сабакі. Гэта спадабалася Віхору, і ён зноў забрахаў.

— А-а, каб ты выпрастаўся! — штурхнуў сабаку нагою Іван Балабановіч.— Трэба, мусіць, пускаць...

Ён адчапіў аборыну ад ашыйніка і ўсунуў яе ў кішэню. Сабака адбегся крыху далей і пакачаўся ў снезе.

— Ну, цяпер акурат самы раз! — кінуўшы недакурак, ажывіўся Брага.— Пайшлі ў Мокры Лог. Там іх у яры, як вераб'ёў на мякіне. Па двое, а то і па трое бегаюць...

— Праўда?!

— Як піць даць!

— Дам, але пазней! — засмяяўся Іван Балабановіч і паляпаў рукою па тугім рэчавым мяшку.

Гэта іх абодвух развесяліла. Умінаючы нагамі снег, яны выйшлі за хвойнік і спыніліся ля вялізнага яра, парослага рэдкім хмызам.

— Цяпер трымай вуха востра! — шапнуў Іван Брага.— Пайшлі ў абход...

— А ў мяне, вунь, ёсць каму трымаць вуха востра,— паказаў на сабаку Балабановіч.— Бач, адразу ўзяў след!

Віхор і праўда збягаў уніз, апусціўшы галаву да самай зямлі. Неўзабаве ён знік у хмызняку зусім. Балабановіч паплёўся за сабакам, а Брага ўзяў лявей, пайшоў верхам.

Тым часам развіднела. Ужо добра былі прыкметны на снезе ўсялякія сляды, зайчыныя петлі, аднак саміх зайцоў нешта не траплялася.

«Я не вазьму, дык ён грукне,— разважаў Іван Брага, паволі прасоўваючыся між арэшніку.— Добра было б і сабіім па зайчыку дамоў прынесці. Іван, той з сабакам, яму лягчэй...»

І толькі Брага так падумаў, як унізе, на самым дне яра, залівіста забрахаў Віхор. А за брэхам — стрэл! Ды такі гулкі, што з дубцоў пасыпаўся сняжок.

«Ёсць адзін!» — узрадаваўся Брага і пачаў спускацца ніжэй, прыглядаючыся да кожнай плямкі на снезе. Усё яму здавалася зайцамі: і старыя пні, і чорныя купіны, і густыя адзінокія кусцікі. І раптам аж дух заняло: проста на яго, ныраючы ў снег, ішоў вялізны русак. Іван ускінуў стрэльбу і... добра, што не стрэліў. То быў Віхор. Увесь у снезе, з заледзянелымі сасулькамі на поўсці, з маленькай мёрзлай сінічкай у зубах, ён падляцеў да Брагі, пакруціўся, як бы пахваляючыся сваёй здабычай, і гэтак жа імкліва паляцеў назад.

Брага спусціўся па следзе і хутка знайшоў Балабановіча. Той сядзеў на шырокім, ачышчаным ад снегу пні і курыў.

— Па кім? — каротка спытаў Брага, прысаджваючыся побач.

— Па ім,— паказаў на сабаку Балабановіч.— Добра, што прамазаў! А то снег глыбокі, а ён скача, як заяц. Птушак ганяе, бо нешта зайцоў не чуваць...

— Не чуваць,— згадзіўся Брага.— Давай чаго перахопім?

— Давай...

Дасталі хлеб, каўбасу, сала, бляшанку рыбных кансерваў. Балабановіч крэкнуў і выцягнуў з мяшка паўлітэрку. Выпілі. Закусілі. І справа пайшла весялей.

— Я іх тут залетась, ведаеш, па колькі глушыў?

— Паўлітраў?

— Ды не, зайцоў... Па чатыры за раніцу! — хваліўся Іван Брага, паказваючы рукою на хмызняк.

— Бач ты! — дзівіўся Іван Балабановіч.— А я, ведаеш, усё ў Зарэчча ездзіў. Таксама па чатыры глушыў. Аднаго разу дык ажно пяць. Больш пуда. Іду гэта на дарогу, ледзь валакуся, а насустрач, з-за куста, шосты! Што будзеш рабіць? Не губіць жа дарэмна звяругу. Памахаў я касавокаму рукою, і аж на сэрцы палегчала. Дык ён, ведаеш, зноў! Абабег і напярэймы сігуе. Не вытрымала тут маё сэрца...

— Ціха! — Брага схапіў Балабановіча за руку,— Віхор некага гоніць, чуеш?

— Чую...

Сабака паяўкаў крыху ды заціх.

— На чым жа я спыніўся? — зноў наліваючы ў капронавую чарку, спытаў Балабановіч.

— А вось тое... Гэта...— стараўся ўспомніць Брага, працягваючы руку за чаркай.— Во — не вытрымала твае сэрца...

— Ага...— Балабановіч выпіў і дадаў: — Не вытрымала маё сэрца, і я кажу жонцы: «Паеду я ў Зарэчча». Не пусціла! Кажа: «За тыя твае грошы, што патраціш, я двух зайцоў на базары куплю!» Дудкі! От жа наш Андрэй Пятровіч не купі-іў! — ікнуў ён і выцадзіў з чаркі рэшту.

— Не купіў! — пацвердзіў Брага.— А мы яму двух прынясём. Смаж! Рэж! Частуйся сам і частуй гасцей!..

— А калі трапіцца тры, то і трох аддамо...

— Аддамо! Не, пачакай... Аддамо двух, а трэцяга забяром сабе,— разважыў Брага.— Трэба ж і нам нешта прывезці. Дарога, там, розная закусь. Усё грошы...

— Не будзь прагным, Іван! — запярэчыў Балабановіч.— Аддадзім і трэцяга...

— Дудкі!

— Аддадзім...

Яны ледзь не пасварыліся. Добра, што прыбег Віхор і крыху развесяліў тым, што лоўка лавіў на хаду кавалачкі хлеба, каўбасы і рыбы.

Потым крыху паспявалі, выпілі Брагаву чакушку, адзелі схуднелыя рэчавыя мяшкі і пайшлі на поле, куды, як гаварыў Іван Брага, зайцы кладуцца на дзень.

У полі было халадней. Дзьмуў вецер, заносячы сляды ўвачавідкі, і ўпаляваць нічога так і не трапілася. Калі паляўнічыя, знямоЖаныя і ўчарнелыя, выйшлі на дарогу, то яны ўжо не ведалі, як знайсці паўстанак.

— Трэба брацца ўлева,— гаварыў Брага.

— А мне здаецца — управа,— пярэчыў Балабановіч.

Невядома, да якога часу яны так бы спрачаліся, каб выпадкова не напаткаўся ўвесь белы, з чырвоным носам стары. У высокіх мяккіх валёнках, з мехам за плячамі ён нагадваў сапраўднага Дзеда Мароза.

Стары сказаў, што ідзе з боку паўстанка. І тут мех за плячамі тузануўся. У ім было нешта жывое...

— Ціха, ціха, ціха,— паляпаў па ім вялізнай аўчыннай рукавіцай дзед.— Злавіўся, дык сядзі!

— Хто гэта ў вас там злавіўся? — пацікавіўся Іван Брага.

— Заяц. У сілок трапіў...

Два Іваны сталі дыханне і пераглянуліся. Такі шчаслівы выпадак у жыцці здараецца толькі раз! Міма яго праходзіць нельга...

— Заяц! От здорава! — першы загаварыў Іван Балабановіч.— А мы нешта не напаткалі... Так патрэбен, што хоць плач!

— А нашто ж ён так пільна патрэбен? — пацікавіўся стары.

— Ды на лякарства...— пачаў выкручвацца Балабановіч.

— На лякарства? Як гэта?

— А так... З пячонкі яго робяць. Ад радыкуліту памагае. І каштуе дорага...

— Колькі ж?

— Тры рублі адна пячонка... Прадай, дзядуля. Выручы з бяды...

— Калі ж і самому трэба. От шапку новую пашыць,— паказаў дзед на сваю старую зайчыную шапку. А ў вачах — непрыступнасць.

— Мы добра заплоцім,— умяшаўся Іван Брага.

— Колькі ж? — вочы ў дзеда падабрэлі.

— Пяць...

— За зайца? — пацікавіўся дзед.

— Ага...

— Пяць за зайца, тры — за пячонку, два рублі — за шкурку. Дзесяць! — усклікнуў зусім павесялелы дзед.

— Восем,— прастагнаў Балабановіч.

— Дзесяць!

— Давай!..

Калі адлічылі грошы і стары пайшоў, Брага папракнуў:

— Пячонка, якую трэба выкінуць, нам абышлася тры рублі! Лепшага ты нічога не мог прыдумаць...

— Нічога, вытрымаем,— апраўдваўся Іван Балабановіч.— Ты паглядзі, які заяц! Леў! Кіло чатыры...

Брага ўзяў рэчавы мяшок з зайцам і павагаў.

— Пацягне і шэсць! — упэўнена зазначыў ён.

А Віхор дык аж скакаў ад радасці і ўсё цэліўся схапіць за мяшок зубамі.

Ішлі сябры-паляўнічыя бадзёрыя, усё перадаючы адзін

аднаму пранесці зайца, які вырас нарэшце да паўпуда! Калі наперадзе паказаўся паўстанак, Брага сказаў:

— Што ж мы яго так жывога і аддадзім. Адразу ўведае, што купілі...

— Праўда,— згадзіўся Іван Балабановіч.— Трэба грукнуць. Скідай мяшок і адыдзіся, а я...

— Не, не! Мяшка шкада. Моцны яшчэ, амаль новы...

— А што ж рабіць?

— Прывяжам вунь да той бярозкі. Аборынай...

— Давай! Толькі патрымай сабаку...

Зайца моцна прывязалі да бярозкі, што расла побач з дарогай. Іван Брага трымаў сабаку, а Балабановіч зняў з плячэй стрэльбу і адышоўся.

— Як бы там ні было, але ўсё ж бог ёсць! — закладваючы ў ствол патрон, прамовіў Балабановіч.— Добры стол будзе ў нашага начальніка...

— Дзі-іва! Заяц, як лось... Толькі ты цаляй у галаву, каб мяса было чыстае, без шроту...

Іван Балабановіч прыцэліўся і стрэліў. Гэта быў трапны стрэл.

Заяц падскочыў угору і на хвіліну прапаў з вачэй.

Спачатку яны абодва стаялі, як здранцвелыя. А потым кінуліся да бярозкі. Здарылася цуда: ніякага зайца там не было. Адно — аборына матлялася ля дрэўца, лоўка перасечаная зарадам...

— Ву-унь ён! Ву-унь! — паказаў на тоўсты Віхораў задок Балабановіч.— Трымай, Віх-хор! Трыма-ай!!!

Пачуўшы сваё імя, сабака спыніўся, азірнуўся і паволі завіляў назад. А далёка на ўзгорку мільгаў жывы шэры камячок...

1966

## КЕРАГАЗ

Сярод мноства ўсялякіх запаведзей, на маю пераканаўчую думку, не хапае яшчэ адной: «Ніколі не пярэч жонцы сваёй!» Запаведзь істотная. Не пярэч, бо пакаешся — будзе позна. І прападзе сон. У крайніх выпадках могуць назірацца больш цяжкія захворванні — нервовы цік і заўчаснае пасівенне скроняў...

Для нармальнага чалавека павінна быць ясна, што жонка заўсёды і ва ўсім мае рацыю. Я ж хацеў пайсці супраць гэтага правіла і стаў ахвярай уласнага невуцтва...

Была цёплая чэрвеньская раніца, адна з тых, калі, прачнуўшыся, не ведаеш пэўна, што рабіць. Жонка ведала добра, што трэба рабіць. Яна ўзняла галаву над падушкай і лагодна сказала:

— Міхасёк... Мы сёння паедзем за горад. Адпачываць. Так што хопіць табе ўжо дрыхнуць...

Апошняе слова здалося мне крыху няўдалым для такой раніцы. Яно ніколечкі не ўзняло настрою.

— Я не сплю ўжо цэлую гадзіну,— паспрабаваў я ўнесці яснасць і адначасова апраўдацца,— устанем і паедзем...

Жонка паглядзела на мяне так, быццам я толькі што зваліўся з іншай планеты ці вылупіўся з яйка.

— Як гэта — устанем і паедзем? — у яе голасе я ўлавіў жалезабетонныя ноткі.— А збірацца хто будзе?

— Ты, я, Сяргейка...

Сяргейка — гэта сын. Ён таксама прачнуўся, але, як і мы, не ўстае, з цікавасцю пазіраючы на нас са свайго дзіцячага кутка, дзе стаіць яго ложак, абцягнуты паабапал валейбольнай сеткай.

— Божа! — усклікнула жонка. — З самай раніцы ты пачынаеш сварыцца. Што за паганы характар! Каб я гэта ведала раней...

Я ўжо шкадаваў, што ўвязаўся ў гутарку, і таму моўчкі пачаў апранацца.

— Прынясі мне халат...

Прынёс.

— Засцялі свой ложак і пастаў чай.

Зрабіў.

— Адзень Сяргея!

Адзеў.

— Цяпер збірайся... Чуеш? Чаго маўчыш, як ідыёт, ды лупіш вочы?! Не прыкідвайся дурнем: я ведаю, што табе хочацца сарваць нам паездку, сапсаваць настрой. Адзіны выхадны дзень і той ляціць прахам...

Жонка гаварыла доўга. А я адчуваў, як у мяне ўсярэдзіне вырастае нейкая дзікая жывёліна, што яна вось-вось вырвецца на волю і тады ўжо будзе позна яе ўтаймаваць. Перамогшы тую жывёліну, я, як мага спакойна, пытаю:

— Што мне браць, любая, падкажы?

— Тэрмас, коўдру, гамак, чамадан, раскладушку, тры

талерачкі і лыжкі, тры шклянкі, нож і стары керагаз,— чамусьці пералічыла ўсе нашы дамашнія рэчы жонка. Гэта мяне развесяліла і я прастадушна засмяяўся:

— Ну і жартаўніца! Раскладушку... Керагаз... Здорава!

— І раскладушку і керагаз! І хопіць табе пераймаць клоуна,— абсекла мяне жонка, прыхарошваючыся перад люстэркам. Я пахаладзеў.

— Няўжо і керагаз?! — зноў перапытаў у жонкі.

— А што ж... Рэч патрэбная...

— Мы будзем катацца на каруселі! Абедаць у кафэ! Адпачываць у грамадскіх гамаках...

— Хто ж гэта едзе ў дарогу, спадзеючыся на ўсё гатовенькае, не маючы пад рукою ўсё неабходнае? — далікатна перабіла мяне жонка.

— Керагаз?! — не стрываў, павысіў голас.

— Керагаз... А на чым, па-твойму, я буду гатаваць сасіскі? На сонцы?

— На сонечных плямах!

— Што?.. Божа, як мне надакучылі вечныя скандалы! Ні адна жанчына на свеце не вынесла б гэткага жыцця і трох дзён...

— Татка... Не клыўдзі маму, бялы кілагас,— пачуў я спакойны, самаўпэўнены Сяргейкаў галасочак і рынуўся з чацвёртага паверха ўніз, у цёмнае скляпенне, вышукваць сярод рознай непатрэбшчыны стары, запылены керагаз...

— У ім поўна газы,— вярнуўшыся, лагодна прамовіў я.

Цяпер маўчала жонка.

— Выліць яе ці не?

Позірк, які ўсё сказаў.

Я абгарнуў керагаз новай газецінай і ўціснуў яго ў рэчавы мяшок, трэці па ліку...

Калі мы выбраліся з дому, сонца смаліла нясцерпна. Я ішоў па тратуары і не глядзеў на людзей. Затое яны пазіралі на мяне з усмешкай, яны, здавалася, чакалі, калі я крыкну на ўсю вуліцу: «Вайстру, паяю, луджу, латаю!»

Селі мы толькі ў трэцюю электрычку, і ва ўсім быў вінаваты я! То вельмі далікатны ды ветлівы — усіх жанчын прапусціў наперад. То непаваротлівы, як слон — не пралез са сваёй ношай у дзверы...

Вось чаму, калі падышла трэцяя электрычка, я, не зважаючы на енкі і крыкі, як вар'ят, распіхаў пасажыраў у бакі, пакідаў у тамбур свае рэчы і ад шчасця аж зарагатаў, за што атрымаў вуснае папярэджанне.

— З табой жыць толькі сярод дзікуноў. Ніякай культуры...

Яна ўвесь час глядзела ў акно, выбіраючы для высадкі «дзікае» месца, дзе б паменей было людзей.

Нарэшце мы выгрузіліся. Мясціна і сапраўды выглядала дзікай: унізе, за адхонам палатна, сярод алешніку, працякаў нейкі брудны ручай, а за ім, на ўзвышшы, цямнеў непрывабны ельнік. Туды мы і накіраваліся...

Толькі расклалі ўсё на жухлай траве, як прыбег аднекуль Сяргейка з марожаным у руцэ.

Мы ў адзін голас ускліккнулі:

— Дзе ты ўзяў?!

— Унь там,— паказаў ён на белы слупок з указальнай фанернай стрэлкай. На ёй чорнымі літарамі было напісана: «Буфет».

Я сеў на траву і дастаў папяросы. Жонка паглядзела на мяне вельмі ўважліва.

— Ты будзеш курыць, а я што? — спытала яна.

— А ты... адпачывай!

— На гэтай пякельнай палянцы?

— Павесь у цень гамак.

— А ты будзеш курыць?

— Не буду! У мяне няма запалак! Праз твой керагаз я забыўся запалкі, ясна? Я павінен збегаць у буфет і купіць запалкі...

— А марожанае? А сітро? А сасіскі? А дастаць вады? Для чаго мы, па-твойму, бралі керагаз? І калі ты перастанеш...

Што жонка гаварыла далей, я не чуў, бо быў ужо аж за белым слупом з указальнай стрэлкай. Вярнуўся, як і сын, толькі з марожаным.

— У буфеце няма запалак. А сасіскі толькі гарачыя, з капустай,— вінавата адказаў я.

— З капустай? Тушонаю? — аж загарэліся жончыны вочы.— Сярожка, пайшлі!!!

Калі я застаўся адзін, мне здалося, што сёння сапраўды выхадны дзень, што наўкола так хораша, а ў гэтым лесе нават спяваюць птушкі. Падумаць толькі! Я павесіў гамак, паставіў у цень раскладушку, дастаў свежыя газеты і...

— Прывезлі сітро! Бяжы, а то там вялізная чарга...— жонка гаварыла здалёк, аднекуль з ельніку.

— У нас ёсць поўны тэрмас халоднага квасу! — кінуў перакананальнае ў ельнік.

— А Сяргейка хоча сітра! — настойліва чулася ў адказ.— Праўда?

— Я-а-а хачу-у сітл-а-а...

Чакаць іх з ельніку не мела ніякага сэнсу. Я прахадзіў міма слупка са стрэлкай і адчуваў, што магу выпадкова зачапіцца за фанерыну і зламаць!

Два разы прыбягаў Сяргейка і глядзеў — у чарзе я ці не? Адзін раз мне здалося, што з кустоў пазірае жонка. І я пачаў прапускаць перад сабою людзей — усіх, хто пажадае! Цэлую гадзіну я таптаўся на адным месцы і толькі тады, калі аб'явілі, што сітро скончылася, пайшоў у наступ:

— Я буду скардзіцца,— крычаў я, назіраючы, як непадалёк, за кустом, хаваецца жонка.— Гэта не адпачынак, а чорт ведае што... Пакуты!

«Вось табе! Пі, мая даражэнькая! — спявала душа.— Сітра захацелася... А паўнюткі тэрмас квасу я дарэмна цягнуў сюды? А керагаз?..»

Прыкурыўшы ў незнаёмага чалавека папяросу, паволі падаўся назад. Чуў, як наперадзе, ламаючы сучча, бегла жонка...

Калі я прыйшоў на сваю «базу», яна ўжо гушкалася ў гамаку.

— Ну, дзе ж тваё сітро? — сустрэў мяне лагоднейшы ў свеце голас.

Я выцер лоб, твар і шыю хусцінкай і выкруціў тую хусцінку перад жонкай:

— Вось...

— Гм-м... Куды ж гэта ты зноў ляціш?

— Дзе-небудзь прыкурыць!

— Пазыч адну запалку і запалі керагаз. Можаш тады прыкурваць хоць кожную хвіліну.

Гэта была ідэя! Я пазычыў у аднаго зусім-зусім незнаёмага чалавека запалку і кавалачак карабка, прыпаліў кнот, дачакаўся сіняга полымя і... прыкурыў!

Кожны раз, калі я пасля падыходзіў да керагаза, жонка ўмільна глядзела на мяне, нібыта гаворачы: «Вось бачыш, дурненькі, я ж казала, што керагаз у дарозе — рэч патрэбная...»

А калі сонца пачало хіліцца за лес, мы ўтраіх сядзелі вакол керагаза, як ля кастра, падпальвалі яловыя лапкі і разганялі імі камароў. Асабліва падабалася гэтая работа Сяргейку.

— Калі б не керагаз — яны нас загрызлі б,— сур'ёзна гаварыла жонка.

Вось чаму, калі мы ехалі назад, у горад, я, паказваючы на вялізны свой багаж, пахваліўся суседу па купэ:

— Керагаз бралі... Ад камароў — лепшы паратунак. Патрэбная рэч! Ці не жадаеце вы, паважаны, выпіць шкляначку халоднага квасу?

1966

## ПРЫНЦЫПОВЫ АРАТАР

— Дык, таварышы, хто мае слова? — можа, у дзесяты раз пытаўся старшыня сходу, калгасны бухгалтар Іван Скачок, чалавек сціплы і дабрадушны. Яму было ніякавата, што людзі не хочуць выступаць. «Ды і каму гэта ахвота крытыкаваць іншых, калі, гаворачы шчыра, у кожнага свае грашкі ёсць!» — падумалася Івану.

І раптам хтосьці даволі гучна крыкнуў:

— Еўсцігнея на трыбуну! Гэта ён унёс у парадак дня тую крытыку і самакрытыку!

— Ідзі, брыгадзір, пакажы сваю прынцыповасць! — загулі галасы з залы.

І не апамятаўся Еўсцігней, як некалькі дужых рук выпхнулі яго наперад, проста да трыбуны.

Адступаць было позна, і брыгадзір калгаса «Чырвоны бераг» Еўсцігней Лягун пачаў падымацца на трыбуну па новых яшчэ прыступках. У зале адразу зрабілася так ціха, што было чуваць, як рыпелі брыгадзіравы боты: левы — адрывіста, пісклява, нібы прасіў літасці, а правы — сціпла, працягла, як самаўпэўнены і надакучлівы драч.

Яшчэ задоўга да гэтага сходу Еўсцігней у злосці прагаварыўся, што мае намер ушчэнт разнесці падхалімаў і розных ашуканцаў, наладзіць ім, як ён казаў, страшны суд. Вось цікаўныя і выпхнулі яго на трыбуну...

«Дзякуй богу, выратаваны!» — задаволена падумаў старшыня сходу.

Лягун паклаў вялізныя кулакі перад сабою, абвёў прысутных сумным позіркам, набраў у грудзі паветра і пачаў:

— Таварышы! Мы і вы, гэта вось... жывём у адной

сям'і. І таму будзем самакрытычнымі, прынцыповымі і праўдзівымі!

— Правільна!

— Рэж праўду-матку, брыгадзір! — пачуліся з залы бадзёрыя галасы.

— А чаму нам трэба быць шчырымі? — падахвочаны тымі галасамі, зноў працягваў Еўсцігней.— А таму, што перажыткі мінулага яшчэ блытаюцца ў нас пад нагамі, перашкаджаючы паступоваму руху наперад! Іх трэба растаптаць, змесці з дарогі. Возьмем, да прыкладу, падхалімства. Каму яно патрэбна? Нікому! Дык чаму ж у нашым асяроддзі бывае сустракаюцца падхалімы? Вялікая эпоха...

— Гавары канкрэтна, а не наогул,— шапнуў аратару старшыня калгаса, які сядзеў у прэзідыуме на самым краі, непадалёк ад трыбуны.

Брыгадзір на хвіліну задумаўся, узняў вочы да столі.

— Ці возьмем іншы бок — ашуканства.

— Яшчэ не ўсё з падхалімствам! — крыкнулі з залы.— Раскажы вось сходу, хто гэта на тым тыдні табе плот абнаўляў...

«Усё! Ведаюць! Праваліўся! — падумаў брыгадзір.— Цяпер трэба сячы з пляча ўсіх!..»

І ён сакануў:

— Праўда! Было гэта, ліха яго матары! Гэта ўсё ты, Іван Гаўрылкін! — звярнуўся брыгадзір да маладога чубатага калгасніка, што сядзеў на першым радзе.— Што ты мне тады плёў, ашуканец такі? Ты гаварыў, што з задавальненнем паправіш мне плот, які ў многіх мясцінах згніў і абваліўся... Конь табе спатрэбіўся, а не плот мой, вось што, Гаўрылкін. І не крыўляйся цяпер! Чатыры бліскучыя колікі ўваткнуў ад вуліцы, каб людзі бачылі, каб пасля дакаралі мяне — і гэта ўсё! Чатыры колікі! Курам на смех... А тое, што за садам, ад выгану, каровы ў агарод заходзяць, ён, бачыце, не заўважыў! Тут, таварышы, апрача падхалімства, мы маем яшчэ і ашуканства. Каго ты ашукаць хацеў, голуб? Ну, Гаўрылкін! Папомню я табе тыя колікі ад вуліцы!..

Еўсцігней глынуў вады, пацягнуў тоўстым носам паветра і зняў з трыбуны адзін кулак.

— А вы, таварыш Хапунок,— тыцнуў ён у залу пальцам.— Дзеля якой мэты, скажыце, ваша жонка выпытвала ў старшынёвых дзяцей, калі ў нашага паважанага Андрэя Іванавіча дзень нараджэння? Вам гэта спатрэбілася, каб у той знамянальны для нашага калгаса дзень паднесці да-

рагому Андрэевічу... Ах, халера, Івану... Андрэю Іванавічу — вось! Паднесці ў парадку падхалімства нейкіх фарфуровых сабак...

Брыгадзір палез у бакавую кішэню і дастаў адтуль складзеную паперку. Разгарнуў яе, уткнуўся ў паперку носам і прадоўжыў:

— Далей... Гэткія ж абразлівыя падарункі прынеслі ў той дзень Сцяпан Войцік, Банадысь Хадыка, Піліп Вяртун і Нічыпар Дзілендзік... Што вы сабе думаеце, таварышы! Навошта нашаму дарагому, усімі любімаму старшыні гэтая фарфуровая гайня? Я-то вас разуме-е-ею,— паківаў у залу пальцам брыгадзір.— Такое, ведаеце, падхалімнае машэнства. І дзешава купіў і дарага прадаў! Не будзем дробязнымі, таварышы! Нікому не патрэбны тыя сабачкі. Калі ўжо вы вырашылі без падхалімства паднесці імянны падарунак, што ўсюды, вядома, дазваляецца... У нашай краме цяпер нават тэлевізары ёсць! Цяжка аднаму набыць — складіся двое-трое і паднясіце рэч, дастойную эпохі, а не мяшчанства! Коцікі, сабачкі і ім падобныя...

У зале ўсё часцей і часцей чуліся галасы і смех, але брыгадзір прыпісваў гэта сваёй аратарскай здольнасці.

— Далей! — ужо крычаў ён, размахваючы кулакамі.— Мала таго, што вы самі дазваляеце ганебныя ўчынкі, дык яшчэ хваробу гэту якімсьці чынам перадаеце і нашчадкам! Бачыў я аднойчы, як нашы дзеці гулялі ў будаўнікоў. Усё было прыстойна, як і належыць, як на сапраўднай будоўлі. Войцікаў Алесь гліну мясіў і сушыў цэглу. Хадыкаў даўганогі блазнюк цягаў з рэчкі ваду. Дзілендзікаў таўсцюк маляром быў, ну а мой — брыгадзірам адпаведна! Старшынёў Святаслаў — інжынерам быў! Дык гэта Войцікаў, каб не мясіць гліну, Свеціку свістульку — салаўя падсунуў. Чулі? Свістульку! Ну, думаю, няўжо возьме, няўжо спакусіцца? Аж не! Не такі Святаслаў Андрэевіч, каб яго дробяззю нейкай купілі. Упэўніўшыся, што свістулька зламаная і не свішча, ён кінуў яе на зямлю і мудра сказаў: «Мясі гліну і не падлізвайся!» Вось гэта кіраўнік. Такой прынцыповасці, таварышы, нам, дарослым, падчас не стае. Улічыце гэта, падхалімы! Давайце будзем шчырымі, раз і назаўсёды расквітаемся з дробязным, нікому не патрэбным падхалімствам, не кажучы пра машэнства, якое пры гэтым назіраецца. Я скончыў, таварышы...

Ідучы на месца, Еўсцігней Лягун задаволена зірнуў на прэзідыум. Ён заўважыў, што калгасны бухгалтар сядзеў, нізка апусціўшы галаву, і тросся ад смеху. Няўцям было брыгадзіру і тое, што старшыня быў злосны і надзьмуты. Ён паказаў брыгадзіру з-пад стала кулак і адвярнуўся.

«І апладысментаў не было. Вось і цяпер... адны хіханькі ды хаханькі! — недаўменна думаў Лягун, азіраючыся па баках.— І старшыня зазлаваў. Ніхто не любіць самапакрытыкі! Ой, ніхто-о-о! І... і... які гэта д'ябал мяне на трыбуну выпхнуў?!»

— Дык, таварышы, хто яшчэ мае слова? — зноў спытаўся старшыня сходу Іван Скачок у шумлівай залы.

Сход працягваўся...

1966

## АДВУЧЫЎ

І вось ён на двары! Новенькі, бліскучы, такі прыгожы «Масквіч». Калі глядзіш на яго, то згадваеш, што бульба з капустай, як асноўны сродак эканоміі, вельмі выгадная і даволі каларыйная ежа.

Але ўсё гэта цяпер пражыта. Цяпер мы набылі рэч, вартую эпохі ў якой жывём. Уласнікі сродкаў руху! І вядома, перш-наперш усёй сям'ёю рушылі за горад, на ўлонне прыроды.

— Ваня, кожны выхадны дзень мы будзем выбіраць новы маршрут,— чмелем гула над вухам схуднелая за апошнія гады жонка. Я ў душы з ёю згаджаўся, але адказаць нічога не мог, бо, як толькі спрабаваў адкрыць рот, машына чамусьці адразу пачынала віхляць у бакі.

«Як жа інакш! — думалася мне.— Машына свая, куды захачу — туды палячу!» Але як я пасля пераканаўся, хацець — адно, а ляцець — другое.

У наступную суботу яшчэ з самай раніцы да нас зайшоў мой дваюрадны брат Рыгор і адразу з парога пакрыўджана загаварыў:

— Я, як той дурань, таўкуся на аўтобусным вакзале, а ён, пан, раз'язджае на сваёй машыне! Нічога сабе —

браток! Вось што, даражэнькі, газуем сёння да нашых у Плёхаўку!..

Жонка, каб не перапікаджаць мне адбрахацца, пабегла на кухню. Я хацеў адразу запярэчыць, але сваяк папярэдзіў:

— Ніякіх адгаворак! Раз у месяц ты можаш уважыць брата ці не? Разочак у месяц...

— Разочак можна...— працадзіў я, не разумеючы яшчэ значэння гэтых звычайных слоў.

— Тады я пабег збірацца! Заедзеш роўна ў тры...

— Але ж табе зручней самому...

— У мяне там чатыры мяхі напакаваны,— адрэзаў брат.— Розныя банкі-шклянкі, два вядры, вотруб'е... У вёсцы маці ўсё спатрэбіцца. Чакаю!

І пабег за дзверы.

«Сто дзесяць туды і сто дзесяць назад — дзвесце дваццаць кіламетраў! — аж пахаладзела ў грудзях.— Бывай, выхадны! Даруй, родная жонка, прабачце, дзетачкі...»

Я чуў, як жонка грымела на кухні патэльнямі і каструлямі, як нешта са звонам разбілася...

Так я пачаў карыстацца ўласным транспартам. Мяне раптам усе палюбілі. Мяне пачалі наведваць, успамінаць маіх бацькоў, майго дзеда. Адкульсці стала вядома, што мая прабабка лячыла ад розных хвароб «цэлую губерню», не беручы за гэта ніводнай капеечкі. А мой нейкі прапрадзед быў удзельнікам паўстання яшчэ пры Кастусю Каліноўскім...

Дванаццаць сваякоў, пяць задушэўных сяброў і сем супрацоўнікаў — кожны хваліў мяне, як мог. І пры гэтым лічыў, што мае права хоць раз у месяц праехаць са мною туды, куды яму патрэбна. Многія загадзя крыўдзіліся, што я не запрашаю іх «падскочыць» куды-небудзь. І мне даводзілася ездзіць, газаваць і падскокваць, каб не лічыцца «кулаком», які толькі і дбае аб сабе...

На другі месяц мы пачалі хітраваць.

Аднойчы, памятаю, толькі гэта я выкаціў машыну з гаража, як на двор з'явіўся жончын далёкі сваяк Піліп.

— Пад машыну! — шапнула мне жонка, і я мігам, як акрабат, слізгануў пад заднія колы. Лёг на спіну і грукаю пацішу ключом па восі.

— Далёка сабраліся? — чую лагодненькі голас і ляпаю яшчэ мацней.

— Ды нікуды! Нешта сапсавалася яна ў нас,— кажа жонка.

— То я пачакаю, не гарыць,— адказвае Пiлiп, сядае на лаўку, закурвае папяросу ды яшчэ кпiць з мяне: — Май машыну i не май свабоднага часу. Хе-хе-хе-хе!

— Эге,— адказваю я i пачынаю адкручваць гайку, якая выпадкова трапiла мне на вочы.

— А ты што хацеў? — асцярожненька, не сваiм голасам пытае ў яго жонка.

— Ды тут недалёчка. На дачу да аднаго трэба падскочыць, кiламетраў сорак...

Сто разоў я адкручваў i закручваў тую праклятую гайку, а сваяк хоць бы хны — курыць i сядзiць. Сядзiць i курыць. Не стрываў я, вылез з-пад машыны i кажу:

— Дрэнь справа. Трэба шукаць вопытнага механiка. Сёння нiкуды не давядзецца ехаць.

— Шкада,— устаў нарэшце Пiлiп.— Мне ж так пiльна трэба... Але бог з iм! Раз так — пойдзем у хату, па чарцы зробiм. Заўтра зайду...

Пасля трэцяй чаркi я цвёрда паабяцаў Пiлiпу, што заўтра падкiну яго на дачу...

Потым мы мянялi тактыку. То выязджалi з гаража давiдна, то пакiдалi машыну далёка ад дому, то выязджалi з гаража на буксiры, быццам на рамонт.

На трэцi месяц мы ўсё часцей i часцей пагаворвалi, што машыну можна i прадаць. I магчыма яе ўжо не было б у мяне, калi б не адзiн цiкавы выпадак...

Неяк у мяне дома сабралася аж пяць ахвотнiкаў ехаць на рыбалку. Двое самых блiзкiх сваякоў, найлепшы сябар i два супрацоўнiкi, якiм я непасрэдна падпарадкоўваюся.

Чатырох яшчэ ўзяць можна. А куды ж дзецца пятаму? Думалi мы, думалi i вырашылi выкiнуць з багажнiка запасное кола. Туды пасадзiлi самага малога — майго лепшага сябра.

Жонцы я шапнуў, што гэта паездка апошняя, заўтра паганю машыну на камiсiю. Яна глядзела, як мы выязджалi з двара, i слёзы кацiлiся з яе затуманеных вачэй...

Машына гула незвычайна. Яна была яўна перагружана. I я зусiм не здзiвiўся, калi недзе на дзесятым кiламетры ў баку ад асфальтавай дарогi матор колькi разоў стрэлiў i заглух.

Усе высыпалi пагуляць па лесе i пакурыць. Мой лепшы сябра, якога сваякi выцягнулi з багажнiка, доўга нiяк не мог выпрастацца. Нарэшце яго пацягнулi за рукi i за ногi. Ён стаў чалавекам. I пацягнуўся за iншымi ў лес...

Я адчынiў капот машыны i ад злосцi гыркнуў на ма-

тор. Шчыра кажучы, той матор я ведаў прыкладна так, як вучань першага класа арабскія літары. І таму, тыцнуўшы туды-сюды пальцам, я зноў залез на сядзенне і ўключыў старцёр. Хоць бы што! Цішыня такая, што здавалася дзіўным, як гэта мы наогул здолелі прыехаць у такую глухмень. Пры самай дарозе стаялі хвоі. Яны здэкліва ківалі верхавінамі і, здавалася, ціха нашэптвалі: «Не завядзеш-ш-ш... Не завядзеш-ш-ш...»

І раптам мне прыйшла шчаслівая думка!

Я узяў некалькі ключоў, малаток і залез пад машыну. Крыху паляпаў там, склаў усё ў адно месца і ўлёгся ямчэй.

Мусіць, я заснуў адразу, бо калі прачнуўся, то доўга не мог зразумець, дзе я. Правая рука аж здранцвела. Хтосьці цягнуў мяне за ногі.

— Жывы! Жывы! — закрычаў хтосьці.— Хутчэй знайдзіце халоднай вады!..

Мне лінулі ў твар вадою.

— Ну як? — спытаў мой лепшы сябра.

Я ўзяў у яго з рук тэрмас з вадою і лінуў яму ў твар.

— Яму к-крыху л-лепш... Учадзеў, бядак...— выціраючы рукавом кашулі твар, прамовіў сябар.— Пройдзе...

Тым часам сонца ўзнялося высока, і мае рыбакі павесілі насы. Ехаць далей ужо ніхто не спадзяваўся. Мы думалі над тым, як нам вярнуцца ў горад.

— Адзіны выхад — піхаць,— сказаў я.— Трэба завідна дабрацца да асфальту. Там ходзяць машыны, возьмуць на буксір...

Як на тое ліха, цэлых два кіламетры дарога паступова ўздымалася ўгору, і мой рухавік у пяць чалавечых сіл ледзьве адужаў гэтую адлегласць. Супрацоўнікі, якім я непасрэдна падпарадкоўваўся, раздзеліся да трусоў, сваякі бясконца выціралі твары хусцінкамі, а самы лепшы сябра паліваў галаву вадою з тэрмаса. Вельмі яму гэта спадабалася...

Калі наперадзе нарэшце паказалася шырокая дарога, усе хорам закрычалі «ўра» і разагналі машыну так, што мне давялося затармазіць.

І раптам у кожнага з'явілася неадкладная справа дома.

Не паспеў я зноў зазірнуць у матор, як мае пасажыры пакінулі мяне аднаго, нагаварыўшы на развітанне безліч суцяшальна-спачувальных слоў. Без машыны я ім, аказваецца, не дужа быў патрэбен.

Пасля гэтага здарэння гасцей у нас было ўсё меней і меней. Паступова мяне перасталі хваліць. Ніхто больш не ўспамінаў пра маіх продкаў. Ні сябры, ні сваякі, ні супрацоўнікі.

— З табою мы больш не паедзем! Не-е-е! — гаварылі яны, калі бачылі мяне за рулём.

Затое з жонкай і дзецьмі мы цяпер ездзім усюды. Куды ўздумаем і калі ўздумаем.

1966

## ПРАФЕСІЙНАЕ ПРЫЗНАННЕ

Піліп Драмлюга ніколі ў жыцці не пісаў лістоў. І таму ён не ведаў, з чаго пачынаць.

Высокі, не па гадах згорблены, з раскудлачанымі белымі валасамі на галаве, ён тупаў па сваім халасцяцкім пакоі мятровымі крокамі і бясконца паўтараў адно і тое ж на розныя лады:

— Добры дзень, паважаная Кацярына... Паважаная Кацярына. А можа — добры дзень, дарагая, паважа... Ці дарагая, ці паважаная — адно з двух...

Пад столлю цьмяна гарэла лямпачка. Папера на стале здавалася шэрай, чарніла ад аўтаручкі — чорным.

На падлозе ўжо валялася некалькі недапісаных старонак. На падаконніку ляжаў раскрыты томік Чэхава. Пісьмы.

Ужо даўно пераваліла за поўнач, а ліст да каханай не быў напісаны.

«А-ат! — Піліп махнуў рукою.— Напішу, як думаецца. І справе канец!»

Ён сеў за стол, уздыхнуў і пачаў пісаць:

«Паважаная Кацярына! Гэта пачалося ўжо даўно, каля пяці гадоў таму назад, калі ты ўпершыню адчыніла дзверы нашай канторы. Успамінаеш, якая ты тады была? Худая, доўжанькая, як чаплянё. Толькі чорныя вочы блішчэлі. Але я адразу адчуў сэрцам — усё, скончана маё спакойнае жыццё. І сэрца не ашукала. Мне сапраўды не стала жыцця. Памятаеш, як я ўжо на другі дзень, калі да нас у кантору зайшоў дырэктар трэста, кінуў яму папрок:

— Вы вось тут ходзіце, Іван Гаўрылавіч, а ў вокны дзьме, жанчыны могуць прастудзіцца... Ніякай увагі да простых служачых. Ніякіх прэмій за перавыкананне плана!

І так я з ім тады заеўся, што атрымаў вымову, а пасля і паніжэнне па службе за дапушчаную памылку ў разліковай ведамасці...

Я нічога не забыўся, усё помню!

А кветкі, якія ты штогод атрымлівала на Восьмае сакавіка, пасылаў табе я праз магазін нумар трыццаць. Усяго за чатыры гады на суму дванаццаць рублёў сорак восем капеек. І віншавальныя тэлеграмы ў дні твайго нараджэння, у розныя святы — тры рублі адзінаццаць капеек. Подпіс быў сціплы — Амур. Чаму я хаваўся? Ды проста саромеўся адкрыцца адразу. Старамодны, скажаш? А што гэта за прызнанне з першага позірку? Сёння — шлюб, заўтра — развод. Бярэш жа сабе сяброўку не на адзін дзень, а на ўсё жыццё, дык і прыгледзься да яе як след — вось мая жыццёвая філасофія! І што ты думаеш? Спярша я знаходзіў шмат недахопаў у тваім характары і паводзінах. Мне, напрыклад, не падабалася, што ўжо на другі год пачала фарбаваць вусны і пазногці. Далей — болей. У часы вытворчай гімнастыкі ты гарэзліва вытанцоўвала нейкія бугі-вугі. Вельмі часта смяялася і прытым даволі гучна.

З цягам часу ўсё гэта прайшло, але ж колькі мне каштавала крыві!

У той дзень, калі ты прыйшла ў кантору ненафарбаваная, я, помню, упершыню выпіў за тваё здароўе на адзін рубель і сорак дзевяць капеек, схадзіў у цырульню і падстрыгся на сорак сем. Заўсёды плаціў дваццаць тры. Перарасход — дваццаць чатыры...

Гэта быў пераломны момант у маім жыцці. «Усё, кропка! — сказаў я сам сабе.— Заўтра ж прызнаюся ў каханні». Але назаўтра здарылася бяда: ты захварэла і не прыйшла ў кантору...

Я схадзіў у магазін, купіў каробку цукерак аж за два рублі, лімон, дзве пляшкі сітра і адзін бублік — восемдзесят восем капеек. На двары бегалі дзеці, я ім даў на марожанае адзінаццаць капеек, і яны ўсё гэта перадалі табе.

Праз тыдзень ты прыйшла. Бледная, схуднелая. І зноў нафарбаваная. Як я шкадаваў, што дарэмна траціўся! Тры дні сядзеў на кефіры і чорным хлебе. А ты пыталася ў сяброўкі Валі:

— І хто гэта ўвесь час так метадычна клапоціцца пра мяне ва ўсе святы, дні нараджэння і хваробы?

Ты гаварыла, што ён, той чалавек, чулы, уважлівы і

добры, што вельмі хацелася б аддзякаваць яму за ўсё. Вось, любая Кацярына, той час настаў. Аддзякуй, калі ласка! Я прашу не многае — будзь маёй жонкай! Аддай сваю руку і сэрца, хоць вусны твае і сёння аздабляла памада. Чакаць, калі ты зноў возьмешся за розум, няма ні сіл, ні часу...

З таго дня, як у нашай канторы з'явіўся гэты хлыст Лёнька Бліскавец, я адчуў, што ён можа спакусіць цябе сваім вясёлым характарам і легкадумнымі паводзінамі.

Памятаеш той дзень?

Каб ты не паддалася на Лёньчыны ўгаворы схадзіць з ім ў тэатр на эстрадны канцэрт, я спецыяльна купіў аж два білеты і паказаў табе, сказаўшы, што яны ўсё роўна прападаюць, бо самому няма часу схадзіць. І аддаў. Табе і Валянціне. Вы сказалі мне дзякуй за тры рублі і шэсцьдзесят капеек...

А сам я глядзеў канцэрт па тэлевізары ў суседзяў. Каб была прычына зайсці, купіў малому Ігарку дудачку за трыццаць капеек.

Павер, Кацярына, мне не лёгка было сесці за гэты ліст. Як сціплы чалавек, я не здолеў бы табе расказаць гэта вусна, збіўся б і не прыпомніў усяго, што было. Як ты аднойчы, ідучы дадому, сказала мне:

— Піліп! Пачастуйце нас з Валянцінай газіровачкай. Хоць чысценькай!

Дык я вам — аж з сіропам! На ўсе, як ёсць, восем новенькіх капеечак...

І яшчэ памятаю, як ехалі з табою на тралейбусе, як я ўзяў два білеты, а ты мне дала пятак. Я хаваю тую святую рэліквію і па сёння...

Пісаць прызнанне мяне падштурхнуў учарашні выпадак: у канцы рабочага дня Лёнька прынёс вам, усім жанчынам, шампанскае. Ты хваліла тую кісляціну і пры ўсіх зыркала вачамі на Лёньку.

«Усё, кропка! — падумаў тады я.— Заўтра напішу ёй. А то, чаго добрага, трапіць пад уплыў выпадковасці і легкадумства».

І нічога не купіў, хоць і падышло свята. Бо ты была не адна, а да таго часу ўвесь мой баланс ужо складаў дваццаць чатыры рублі і дваццаць дзевяць капеек мінус пятак.

Вось, мая дарагая і ўсё. Чакаю адказу.

Малодшы бухгалтар Піліп Драмлюга».

1966

## ВЕТЭРЫНАР

Здарылася гэта ў суботу. Яшчэ ўдзень Панасаў пярэсты бычок нешта занядужаў. Ходзіць па двары, як п'яны, у бакі хістаецца, а мычыць так жалобна, што ў Панасавай жонкі Яўгінні слёзы на вачах. Яна ходзіць услед за бычком і бядуе:

— Ну, што ж табе зрабілася? Ці ты, можа, з'еў што нялюдскае? Ці якая трасца прыстала?

Панас, які за ўсім назірае ад ганка, разважае таксама, як і жонка:

— Мусіць-ткі, ён на калгасную канюшыну раніцою забег. Бач, як бакі ўзняліся!

— Чым языком малоць, збегаў бы ты лепш да Рудога Саўкі. Усё-такі нейкі ж ды віцінар ён,— гаворыць Яўгіння і садзіцца на лаўку пад рабінаю. Бычок ужо стаіць і не хоча ісці. Толькі цяжка сапе.

— Гэткі твой Саўка віцінар! — махнуў рукою стары.— Вось, калі б на херму пад'ехаць, да калгаснага...

— На чым жа ты пад'едзеш за блізкі свет? Бяжы да Саўкі. Кажуць, гэта ж ён Вінцэсеву карову на ногі паставіў, а не калгасны віцінар. Той што? Прыехаў, два разы іголачкай укалоў і ўсё. А Руды колькі ля яе папахадзіў.

Угаварыла-такі дзеда. Рыпнуў ён весніцамі і патэпаў у канец вёскі да Рудога Саўкі.

Той і праўда быў нейкі руды, неахайны. Валасы на галаве збіты ў лямец, шчаціння на твары тырчком, нос бульбінаю. Дабрадушныя вочы заўсёды ўсміхаюцца. Ці бяда ў чалавека, ці радасць. Кашуля на ім вісіць, як на коліку, штаны ўнізе ўвабраны ў шкарпэткі.

— Дык чаго гэта яго так расперла? — цікавіцца Саўка, ціскаючы вузлаватымі пальцамі бакі асалавеламу бычку.

— А хто ж яго ведае? — адказвае Яўгіння.— Яшчэ ранічкаю быў такі вясёленькі, такі вясёленькі...

— Вясёленькі, кажаш? — Саўка зірнуў бычку ў рот, тузануў за хвост і ўрэшце сунуў кулаком пад пахвіну.— «Мышкі» яго гэта схапілі... «Мышкі»...

— Бач ты-ы! — здзівіўся Панас.— Хто б мог падумаць? І адкуль яны ўзяліся, тыя «мышкі»?

— Ад благога вока гэта. Нехта дужа зайздросна зірнуў на вашага бычка. А вочы нядобрыя.

— Бач ты-ы!

— Каб яны яму павылазілі! — пракляла зайздросныя вочы Яўгіння.— Каб на свет божы не глядзелі...

— Ціха, ціха,— супакоіў яе Панас.— Чалавек, можа, і сам не ведае, што такія вочы мае.

Нейкі час усе моўчкі назіралі, як Саўка лоўка зваліў з ног бычка, уліў яму ў рот разбаўлены шкіпінар і пачаў што было сілы церці тыя «мышкі» кулакамі. Бычок паклаў галаву на зямлю і сцішыўся.

— Бач, адпускае пакрысе, адпускае! — весялей сказала Яўгіння і пабегла ў хату гатаваць вячэру. Трэба ж і на госця зрабіць, ды не абы-чаго. Такая ўжо завядзёнка ў вёсцы. А Саўка сам не памятае, калі стаў прызнаным ветэрынарам. Мабыць, з таго выпадку, калі, закасаўшы рукаў, дастаў з глоткі суседскай каровы бульбіну.

— І хто цябе, Саўка, так навучыў лячыць жывёлу? — спытаў Панас.

Саўка пакінуў бычка на хвіліну ў спакоі, узняўся і пачаў набіваць махоркаю сваю прысмаленую люльку.

— Хто навучыў, кажаш? — хітра прыжмурыўся ён.— Само яно да мяне прыйшло. Нутром я гэтую хваробу чую. Не кожны і вучоны так хутка пазнае, што з якой жывёлінай, як я...

Саўка хваліў сябе на ўсе лады і папыхкваў люлькаю.

— А я ж чуў, што трэба калоць іх шылам, «мышкі»,— асцярожна заўважыў Панас, бо не дужа давяраў гэтаму ветэрынару.

— Гледзячы якія. Калі яны дужа сярдзітыя, цвёрдыя, то можна і шылам. Гэтыя трэба проста расцерці — і як рукой здыме.

Саўка гаварыў так упэўнена, што любы паверыў бы, не толькі Панас. У гэты час бычок высунуў кончык языка і трэпнуў задняй нагою.

— Бач, брыкаецца ўжо, будзе жыць! — весела сказаў Панас і пабег у хату з гэтай добрай навіною.

А яшчэ праз гадзіну Саўку паклікалі вячэраць. Ён памыў рукі, панюхаў іх — ці пахнуць шкіпінарам — і палез на кут. Гэта было яго самае любімае месца.

На стале ўжо скварчэла ў глыбокай і вялізнай, быццам рэшата, патэльні сала ды пыхкала жаўтавокая яечня. Тым часам Яўгіння паклала перад Саўкам тры рублі.

— Ну, як там бык? — спытала яна.

— Адышоў бык...

— То бяры грошы. За турботы...

— Ат, якія там турботы,— скасіў той вочы на тры рублі.— У людзей бяда, гора, а яны, гэта, грошы. Не вазьму!

Панас схапіў траяк і сілаю ўсунуў Саўку ў кішэню.

— Ніякіх размоў! — сказаў ён.— Мы ж не эксплуататары, каб задарма чалавека ад працы адрываць дзеля бычка.

— Колькі ж яму было, вашаму бычку? — чамусьці пацікавіўся Саўка.

— Ды ўжо сёмы месяц пайшоў,— адказала Яўгіння, наліваючы ў міску тварагу са смятанаю. Саўка зачэрпнуў тры лыжкі запар і з'еў адну бульбіну. Узяў у рукі відэлец.

— Гады праз два быў бы вялікі бык,— у роздуме сказаў ён.

— Дзіва што! — расплясківаючы кулаком на стале бульбіну, сказаў Панас.— Уга, які бык.

— Калі б хоць да каляд патрымаць і то пацягнуў бы пудоў на дзесяць? — зноў Саўка ўзяўся за тварог.

— Мы і патрымаем,— зірнуў на жонку Панас.— Потым здадзім на херму. Праўда, жонка?

— Сабе з'есці таксама не блага было б,— адказала тая.— Кавалак сыну ў горад, кавалак дачцы ў Залессе. Дзякуй богу, ёсць каму вазіць.

— Смачная была б цяляціна! — Саўка каўтануў яйка цалкам, як узялося на відэлец. Аж слёзы на вочы набеглі.— Ну, а шкуру вы здадзіце ці, можа, сабе пакінеце?

— Сабе! — адрэзаў Панас.— Ведаеш, якія боты шые наш Цыганок? Век зносу ім не будзе. То ж бычыная шкура, ведаеш якая. Ого!

— То трэба здымаць адразу. А то як пераначуе, ужо не тая будзе.

— Хто ж яе пакідае нанач, калі рэжа быка! — засмяяўся Панас, налягаючы на стравы.

— Вось і я так думаю...— Саўка паклаў лыжку на стол і дадаў:

— То табе памагчы ці сам справішся?

— Што памагчы? — не зразумеў Панас.

— Шкуру здымаць.

— З каго?

— З бычка.

— А навошта яе здымаць?

— Каб не псавалася.

— Дык жа мы не збіраемся яго рэзаць! — аж пакрыўдзіўся Панас.— Навошта ж яго рэзаць?

— А рэзаць і не трэба. Адышоў бычок. Быў і не стала, гэта, яго. Адышоў.

— Як?! — у адзін голас усклікнулі Яўгіння і Панас, да якіх нарэшце дайшоў сэнс гэтага слова.

— Ды ўжо так. Адолелі яго «мышкі»...

Гаспадароў у хаце ўжо не было. Яны стаялі над сваім пярэстым бычком і спрачаліся.

— Вось занядужыш, дык я табе Саўку паклічу! — крычаў на ўвесь двор Панас.— Вылечыць ён цябе-е!

— Сам занядужыш! Табе паклічу! — агрызалася жонка. Але не дужа, бо адчувала сваю віну.

Іх спрэчку перапыніў голас з вуліцы:

— Панас, Панас! Ці не ў цябе, часам, Саўка? Парсюк у мяне есці не ўзяў. Ліха яго ведае, што з ім...

— А ён вось ужо ідзе! — паказаў на Саўку Панас.— Вылечыць табе парсюка, як мае быць! Віцінар. Свой віцінар...

Саўка спыніўся ля Панаса і, нібыта нічога не здарылася, заклапочана спытаў:

— Дык шкуру памагчы здымаць?

— Ідзі ўжо, ідзі душыць парсюка, жываглот!

Саўка не пакрыўдзіўся, пайшоў. Праз нейкі час, калі ўжо задок бычка быў аблуплены, недзе ў вёсцы дзіка зароў парсюк. Зароў і паступова сцішыўся.

— Ладны падсвінак быў у Тэклі,— уздыхнула Яўгіння і пасунулася ў хату...

1966

## СТАРЫ ПЯТАК

У тралейбусе без кандуктара народу нямнога. Усе сядзяць. Стаіць адзін. Высокі, сутулаваты мужчына сярэдняга веку. Не голены, у цёплай аблавушцы, у добротным паліто з каракулевым каўняром, чалавек на кожным прыпынку насцярожана ўзіраецца на папярэднія дзверы і дастае з кішэні пятак. Але ў скрынку не кідае, шкадуе.

— Апусціце, што вы трымаеце! — раіць адна жанчына, што сядзіць непадалёк.— А капейку возьмеце ў таго, хто будзе кідаць дробязь...

— А калі ніякага таго не будзе? У мяне ж пятак...

— Дык я ўжо ахвярую капейку! — жартуе жанчына.

— Бач, добрая цётка знайшлася...

І тут праз пярэднія дзверы ў тралейбус зайшла адна жанчына. Можа, чалавек з пятаком падумаў, што гэта кантралёр, бо адразу зыркнуў адным вокам на «добрую цётку», другім — на пасажырку і загугнявіў на ўвесь вагон:

— Ці не мае хто, таварышы, пятак разманяць? Адзін пятак...

— Вой, і надакучыў жа ён са сваім пятаком! — усклікнуў якісьці нецярплівы пасажыр. Жанчына, што зайшла праз пярэднія дзверы, апусціла ў скрынку пятак, усміхнулася і адарвала сабе білет. Потым села, бо месцы яшчэ былі.

Да чалавека ў аблавушцы наблізілася дзяўчына з падручнікамі ў руцэ.

— Вам, здаецца, трэба пятак размяніць? — нясмела запытала яна.

Але чалавек, здавалася, не чуў і не бачыў нікога навокал. Ён уважліва глядзеў у акно.

Дзяўчына ад няёмкасці пачырванела, азірнулася на пасажыраў, нібы чакаючы падтрымкі.

— Эй, грамадзянін, ці чуеце? Да вас звяртаюцца! — гукнула «добрая цётка».

— А што? — прыдзірліва ўсміхнуўся той.

— Пятак вось прапануюць размяніць.

— Які пятак? І чаго вы да мяне прычапіліся?

— У яго, мусіць, стары пятак! — са смехам заўважыў хтосьці з пасажыраў.

— Вой! Ці хутка ўжо скончыцца гэта гісторыя з праклятым пятаком?! — не вытрымаў нецярплівы пасажыр.— Дайце яму чатыры капейкі і няхай ён...

— А я не жабрак! Ясна? І не трэба, каб мне давалі! І ніхто вам не дазволіў абражаць чалавека! Што значыць — няхай ён?..— накінуўся чалавек з пятаком на нецярплівага пасажыра.— У мяне ёсць сведкі, што вы, малады чалавек, жывёліна! Ясна? Быдла некультурнае — вось хто! Факт!

— Ну, гэта ўжо занадта! — заступіўся за маладога чалавека пасажыр у акулярах і капелюшы, які ўвесь час чытаў газету.— Трэба высадзіць гэтага Пятака!

— Мяне? Высадзіць?! — засмяяўся Пятак.— Гаворыць абы-што, а яшчэ ў капелюшы! Ідзе ён табе, як свінні сядло! Ха-ха-ха-ха!

— Высадзіць яго!
— Паклікаць міліцыянера...
— А вы што — зломачкі...— пачуліся абураныя галасы.
— Зломачкі! Факт! Ха-ха-ха! — аж заліваўся Пятак.— Ось паспрабуйце высадзіць. Ну, хоць і ў капелюшы! Паспрабуй...
З кабіны вадзіцеля выйшаў немалады мужчына і гучна кашлянуў. Пятак зірнуў на яго і перастаў смяяцца. Ледзь ён толькі глянуў на чорнае паліто з сінім жэтонам кантралёра, як белыя бровы палезлі ўгару, светлыя вочкі акругліліся.
— А-а, гэта зноў вы, грамадзянін Жлобіч? Рад вас бачыць! — весела сказаў кантралёр.— Прашу!
Пятак хутка дастаў з кішэні жменю дробязі, адлічыў пяцьдзесят капеек і працягнуў кантралёру.
— Не-е, браток, на гэты раз штрафам не адбудзеш! — паківаў той галавою.— Прыйдзецца крыху прайсці пешшу. Адчыні нам, вадзіцель!..
— Гэта, відаць, ста-ары пятак,— зазначыў чалавек у акулярах і капелюшы, выходзячы следам.
У тралейбусе ўсе дружна засмяяліся...

1966

## ТОЎСТЫ І ТОНКІ

Янук і Адась сябравалі з першага курса і да апошняга. Жылі яны заўсёды ў адным пакоі. Зусім розныя па характарах, яны ўсё ж ніколі не сварыліся. Бывала, Янук, што танейшы, скажа:
— А ці не пайсці нам, Адась, у парк? Сёння там будзе дужа весела. Атракцыёны, гульні...
Адась падумае, узняўшы маленькія хітрыя вочкі ўгору, і разважліва адкажа:
— А я думаю, Янук, на дадзеным адрэзку часу мы павінны пайсці або ў сталоўку, або ў кафэ. Нешта вось тут, пад лыжачкай, смокча...
Што ні кажы, а любіў паесці Адась. І еў ён не так, як усе. Возьме ладны кавалак хлеба ў левую руку, лыжку ці відэлец — у правую, зажмурыцца, як кот, і пайшоў пра-

цаваць. Аж вушы ўпрысядкі! Адкрываў ён вочы толькі тады, калі ў лыжку ці на відэлец ужо нічога не трапляла...

Янук жа як пачне есці, дык хоць не глядзі на яго. Проста пакутуе, бядак. Паглядзіць на Адася і пракаўтне іншы раз што-небудзь больш смачнае. Тым і жыў чалавек...

Увечары перад сном Янук, бывала, скажа:

— Давай, Адась, пройдземся па вуліцы, гэта вельмі карысна табе...

— Правільна! — падхопіць Адась.— Карысна... Мы зойдзем па дарозе ў бульбяную, каб яшчэ раз упэўніцца, што з нашай беларускай бульбы можна прыгатаваць...

Калі справа датычылася розных там страў, Адась ажыўляўся. Ён мог без перадыху выпаліць сто слоў у хвіліну. Затое ў яго не выцягнеш слова, калі размова ішла, скажам, пра мастацтва. Тады ён з усімі згаджаўся і ў заключэнне гаварыў:

— Што, хлопцы, не кажы, а нацюрморт у сваім натуральным выглядзе вабіць куды больш, чым, самі ведаеце, любы шэдэўр мастацтва...

Янук іншы раз крыўдаваў на свайго сябра, але ненадоўга.

Усё гэта, скажам шчыра, не выклікала асаблівай трывогі. Але неўзабаве мы пачалі заўважаць адну вельмі істотную з'яву: чым больш таўсцеў Адась, тым больш худнеў Янук. Ён ужо таму-сяму гаварыў, што калі б яны былі не на апошнім курсе, а, скажам, на трэцім, то два гады ён, Янук, не працягнуў бы. Ён ужо не мог глядзець, як Адась, напрыклад, есць бліны з мачанкай, як ён аблізвае тлустыя пальцы. А яшчэ ж нядаўна Янук мог нават макнуць разы два ў тую мачанку кавалкам бліна.

І тады быў склікаsuccessfully савет усяго курса. Адны раілі сябрам разлучыцца на час, другія прыпісвалі розныя апетытныя і антыапетытныя лекі, трэція проста не ведалі, што рабіць.

І вось нехта жартам сказаў:

— Трэба іх ажаніць!

Што з гэтага магло атрымацца, тады ніхто пэўна не ведаў, але за думку ўхапіліся:

— Правільна, ажаніць!

Усё гэта я ўспамінаю цяпер, праз дзесяць год, не таму, каб расказаць вам пра двух студэнтаў — тоўстага Адася і тонкага Янука. Мне ўспомніўся той выпадковы жарт, і

ўспомніўся не выпадкова. Справа ў тым, што мы, былыя студэнты, зноў сустрэліся. Гэта было пад Новы год. Адась і Янук прыйшлі з жонкамі...

Яны і цяпер былі адзін тоўсты, а другі тонкі. Толькі, як ні дзіўна, тонкім быў Адась! Яны сядзелі за багатым сталом побач, а паабапал былі жонкі.

— Адасік, табе шкодзіць парасяціна... І вяндліна,— гаварыла жонка свайму схуднеламу, лысаватаму, хваравітаму на выгляд мужу.— Вось, вінегрэцік, калі ласка... А гэта давай сюды...

— Ага, шкодна...— пачырванеўшы, пакорліва паўтарыў Адась і пераклаў са свайго сподачка ў жончын і вяндліну, і парасяціну.

— А майму, дзякаваць богу, усё на здароўе! — сказала Янукова жонка і паклала яму на сподачак вялізны кавалак смажанай гусяціны. Потым падумала і дадала яшчэ кавалак сялянскай каўбасы, колца чырвонай паляндвічкі і ружовенькае сцягенца парасяці.

Адась зірнуў, як Янук, пасля чарговай чаркі, пачаў апаражняць посуд, і аж праслязіўся ад смеху:

— Ну, бр-рат, і апетыт жа ў цябе! Як сто гадоў не еў!

— Ага! — згадзіўся той.— На дадзеным адрэзку часу я сапраўды, відаць, прагаладаўся. А тут мы маем такую закусь, што грэх не паспытаць усяго патроху. Тым больш што сёння свята, а ў свята, браце мой, калі чалавек не вып'е ды не пад'есць...

Янук гаварыў яшчэ хвіліны тры. Усе гэтыя тры хвіліны Адась дзёўбаў відэльцам свой вінегрэт. У яго зусім не было апетыту, бо відэлец, урэшце, вываліўся з яго рукі...

— Усё! Кропка! — заўважыўшы гэта, сказала яго жонка.— Ты зусім п'яны. Не падкладвайце яму больш нічога...

Калі сябры выйшлі ў калідор пакурыць, Янук шапнуў Адасю:

— Давай, дружа, па старой звычцы, скочым у бульбяную! Каб яшчэ раз упэўніцца, што з нашай беларускай бульбы можна прыгатаваць...

Адасю стала дрэнна. Ён збялеў, як навагодні снег, пахіснуўся і зваліўся на падстаўленыя рукі таварыша...

1966

## НЕ РАДУЙСЯ ЧУЖОЙ БЯДЗЕ

Нупрэй Чалы і Гаўрыла Брахун былі суседзямі. Жылі яны на канцы вёскі, ля самага лесу.

Як толькі пачынаўся дзень, пачыналіся і спрэчкі ў суседзяў, спрэчкі з-за розных глупстваў.

— А ваш парсюк наш плот падрыў! — крычала са свайго двара Гаўрылава Зося.

— А вашы куры ўсе нашы грады спляжылі! — аж заходзілася Нупрэева Тэкля.

— Каб ён выпрастаўся, ваш парсюк!

— Каб яны паздыхалі, вашы куры!

Адным словам, між суседзяў ішла даўняя і безнадзейная вайна, канца якой не было відаць.

Аднойчы, выйшаўшы досвіткам на двор, Нупрэева Тэкля пачула спалоханы крык курэй і заўважыла, як за плотам, на грады, апусціўся вялізны шэры каршун. Яна забегла ў хату і адразу да мужа:

— Ой, ліханька, каршун курэй дзярэ! Бяры хутчэй стрэльбу, Нупрэй, пабеглі...

Нупрэй моўчкі схапіў стрэльбу, выйшаў за жонкай на двор і... спыніўся. Усміхнуўся.

— Дык гэта ж не наша курыца? Бачыш? Рудая спінка. Гэта Брахуновых...

Зірнула Тэкля, і твар яе прасвятлеў.

— Праўдачка, не наша... Ціха! Няхай дзярэ! Так яе! Так...

Яны стаялі, глядзелі, як каршун узняў угору цяжкую ношу, і смяяліся. Так смяяліся, што аж самыя далёкія суседзі выбеглі пацікавіцца тым смехам.

— Каршун Брахунову курыцу панёс! — задаволена тлумачыў цікаўны Нупрэй Чалы.— Няхай ведае, як у чужы агарод хадзіць... Так ёй, поскудзі! Дзяўбі яе там, тузай, рві-і!!!

Суседка Зося бегла за каршуном аж да самага лесу і ўсё крычала:

— Аддай, жываглот! А-ату-у, пракляты басурман! Каб ты здох, гад!

Але каршун, мусіць, не разумеў тых абразлівых слоў і таму не крыўдзіўся.

А Нупрэй і Тэкля ўсё смяяліся. Аж заходзіліся. Аж ікота іх узяла.

Мінула два дні, і каршун-ласун зноў прыляцеў.

І зноў — на Нупрэеў агарод. Як і ў першы раз, схапіў Нупрэй стрэльбу і выбег з Тэкляй на двор.

— Ты ж добра глядзі, ці нашу курыцу гэта ён душыць! — раіла жонка мужу.

— Нашу! — усклікнуў Нупрэй і ўскінуў стрэльбу.

— Плі! — скамандавала жонка.

Моцны стрэл аглушыў абаіх. Усё патанула ў сінім едкім дыме. А калі ён разышоўся, Нупрэй і Тэкля ўбачылі, як вялізны шэры каршун нёс у напрамку лесу чарговую ахвяру...

— Не трапіў! Прамахнуўся! — заенчыла кабеціна, грукаючы малымі кулачкамі ў магутныя плечы разгубленага мужа, які стаяў з апушчанай стрэльбай і толькі лыпаў вачамі.

А на суседнім двары цяпер смяяліся Брахуны.

— Не прамахнуўся! Трапіў! — аж заходзіўся Гаўрыла.— У самы лыч трапіў! Зірніце, суседзі добрыя, пад наш плот...

Суседзі глянулі пад плот і анямелі: там у апошні раз дрыгануў нагамі і назаўсёды сцішыўся іхні валацугапарсюк.

1966

## СТАРАЯ КРЫЎДА

Дзед Андрэй і дзед Халімон — суседзі. Не толькі суседзі. Старасвецкія дружбакі — так іх называюць у вёсцы. Пражылі яны, можна сказаць, сцяна ў сцяну ўсё сваё жыццё. А кожнаму з іх цяпер па восем дзесяткаў адгрукала. Не жартачкі. Абодва сівенькія, сухенькія. Як браты, яны часта днямі праседжваюць на лаўцы ў Халімонавым ці Андрэевым садзе і ўспамінаюць былое.

— А памятаеш, як мы з табою, калі яшчэ малыя былі, павываpачвалі кажухі, ускінулі іх на галовы ды спудзілі Нупрэевага жарабка, на якім яго сын, Марка, ехаў? — гаворыць дзед Халімон, і яго вочкі святлеюць.

Дзед Андрэй моршчыцца, трэ кулаком тоўсты чырвоны нос і нарэшце хрыпіць:

— А-а-а! Тады ён зваліўся і нагу зламаў?

— Ага...

— Так яму і трэба.

— Так яму і трэба...— падтаквае Халімон і дадае: — Задавака і прахвост! Панскі прыслужнік... Хе-хе-хе-хе-хе! — Халімон ні то смяецца, ні то заходзіцца ад кашлю.

— Благі быў чалавек, дык і не пражыў свой век...

Але Халімон зноў успамінае ўжо новае.

— Ці помніш ты, Андрэй, як мы з табою зблудзілі ў нашынскай пушчы, як тры дні на дрэвах спалі ды птушачак смажылі, каб з голаду не памерці? А ўсё ты прыдумваў...

— Усяго было,— згаджаецца Андрэй, набіваючы тытунём люльку.— Неяк раз я вашу качку замест дзікай падстрэліў і яшчэ цябе частаваў. А ты хваліў, што смачная, як свая. Хі-хі-хі-хі! — ужо кашляе-смяецца другі.

— А я, ужо хлопцам будучы, вашага парсючка цыганам прадаў! — усклікае Халімон, і зноў абодва весела смяюцца, па чарзе папыхваючы з адной люлькі.

— Добра мы пражылі свой век, дружа,— задумліва лівае галавою Андрэй.— Ніхто нам, дзякуй богу, на старасці нічога благога не скажа. І самі ніколі не сварыліся...

— Сварыцца часам сварыліся,— махае рукой Халімон.— Памятаеш, як я цябе ў вір пхнуў, каб плаваць навучыўся, дык ты ледзь не ўтапіўся тады? Плюхаўся, фыркаў, як конь, але ўсё ж дашкрабаўся да берага.

— А я цябе за гэта завёў на воўчую яму! От жа і павыў ты ў ёй дзянёк...

— Павыў! — хітра ўсміхаецца Халімон.— Але ж пасля і ты паплакаў...

— Як гэта паплакаў? — цямнее Андрэй і больш не дае Халімону люльку.— Ды я за ўсё сваё жыццё ні разочку не плакаў! У германскую ў палоне не плакаў, у айчынную фашысты да сцяны ставілі — слязы не паказаў...

— Дык гэта было яшчэ да германскай,— гаворыць Халімон і смяецца.— Тады ты яшчэ Хведараву Ганульку абхажваў. Пайшоў неяк раз з ёю на вечарынку ў маіх штанах, бо твае на адных латах былі...

— Нешта не памятаю...— насцярожыўся Андрэй.— Дальбог, не памятаю...

— А я прыйшоў апасля ды і кажу пры ўсіх, хто там быў: «Аддай мае штаны, Андрэй, а то мне самому трэба да Кацькі ісці!» Вось дзе рогату было! Ганулька ад цябе, а ты ў дзверы. Збег у гумно і ночку на сене прарумзаў...

Андрэй устае, выбівае аб дрэва люльку і злосна, з натугаю, гаворыць:

— Хоць я таго і не памятаю, але такой подласці ніколі табе не дарую! Не па-сяброўску гэта, Халімон, не па-сяброўску! Чыстае, што ні ёсць, свінства...

І ён паволі тэпае да свайго саду.

— Дык то ж калі было-о-о! — ідзе следам Халімон.— Яшчэ да германскай, шэсцьдзесят гадкоў таму-у...

— Не чакаў я ад цябе такога... Не чакаў...— бурчыць сам сабе Андрэй і знікае за весніцамі.

Халімон уздыхае, круціць з газеціны цыгарку і вяртаецца назад, на сваю лаўку.

— Чорт жа вось пацягнуў за язык,— сам сябе лае Халімон.— Столькі часу маўчаў, не памінаў. Х-х-хі-хі-хі! — аж заходзіцца ён ад смеху.— Штаны ж тыя не мае былі! Я іх у Вольчынага Ахрэма пазычыў... Скажу заўтра Андрэю. Хоць пасмяемся разам...

1966

## САМ СЯБЕ ПАДВЁЎ

Захар Язэпавіч Выкрутка, галоўбух аднаго паважанага прадпрыемства,— заядлы грыбнік. Ён упраўляецца выехаць на свае ўлюбёныя мясціны сярод тыдня, проста з работы. Балазе, заўсёды пад рукой зеленаваты шустры «Масквіч», на якім Выкрутка, як сам не раз казаў, аж чатыры разы апаясаў зямны шар па экватары.

Не магу пацвердзіць пэўна, але людзі казалі, што заўзяты грыбнік, бывала, наведваў лагойскія лясы так рана, што гадзіны дзве збіраў крамяныя баравікі з дапамогай асабіста ім сканструяванага акумулятарнага ліхтарыка...

Адным словам, у гэтай справе ён быў вялікі вынаходца і мастак. Зімою вы заўсёды знойдзеце ў Захара Язэпавіча грыбкоў рознага гатунку: марынаваных, салёных, смажаных і сушаных. «Прыходзьце на грыбы!» — любіў запрашаць знаёмых і суседзяў Выкрутка. І частаваў ад душы, не шкадуючы.

У наш час знайсці грыбную мясціну не так ужо і лёгка, бо тыя, хто мае свой транспарт, на легкавушках і матацыклах дапінаюць аж за сотню кіламетраў ад горада, выкоўзваюць нагамі любыя закуткі лясоў і пералескаў. Спазніся,

грыбнік, хоць на гадзіну, і ты будзеш лічыць чужыя карэньчыкі! Што ні кажы, а цяжка стала сапраўднаму грыбніку...

А тут неяк надарылася шчасце.

Едучы ўжо з грыбоў, надумаўся Захар Язэпавіч збочыць у невялічкі лясок, што віднеўся непадалёк ад шашы, проста сярод поля, ды змяніць у машыне адпрацаванае масла. Якраз дарожка з шашы была мяккая, травяністая.

Толькі гэта ён збочыў, выруліў між бярозак на палянку, як адразу ўбачыў паабапал безліч падасінавікаў рознага ўзросту і баравікоў, усё больш маладзенькіх, крамяненькіх...

«Ці не трызніцца мне ўсё гэта, ці не сніцца?» — падумаў ён і прышчаміў у дзверках машыны палец. Стала балюча. А грыбы не зніклі...

— Ура-а! — весела ўсклікнуў Захар Язэпавіч і кулем выкаціўся з машыны. Ён хапаў тыя грыбы як апантаны. А калі паглыбіўся ў лясок, то спярша нават аж разгубіўся: пад кожным дрэвам сядзелі баравікі і падасінавікі. Старыя і зусім-зусім маладзенькія, дробныя, самыя для марынавання. З чырвонымі і чорнымі капялюшыкамі, яны дваіліся і траіліся ў зайздрослівых вачах Выкруткі. Было ясна, што сюды не ступала яшчэ нага грыбніка. Ды і адкуль ёй тут узяцца, калі вёсак паблізу няма, а ўсе ахвотнікі гоняць свае машыны навыперадкі далей. Кожны стараецца як мага раней трапіць у самы далёкі і вялікі бор, схапіць неруш...

«Ды я ж іх за раз не забяру! — раптам мільганула думка.— А што, калі хто па маёй каляіне сюды... Трэба нешта прыдумаць, не дапусціць...»

Не дужа прыдумаеш, калі не ўласнае тваё гэта ўсё: і дарога, і лясок, і грыбы. Нікому не забароніш зайсці. «Зайсці! Зайсці-то не забароніш, а вось заехаць... можна забараніць! — наліваючыся ад радасці чырванню, падумаў Захар Язэпавіч.— Дзе гэта я бачыў тую фанерыну? Здаецца, недалёка...»

Праз колькі часу Выкрутка прынёс аднекуль стары дарожны знак, намаляваны на круглай фанерыне. То была жоўтая цагліна на чырвоным фоне...

Захар Язэпавіч пакорпаўся ў багажніку, нацягнуў між сасёнак драціну, павесіў знак якраз пасярод дарожкі і, задаволены сваёй выдумкай, адышоўся, каб пацешыцца.

Усё было як належыць: шлях забаронены! Гэтай цагліны шафёры баяцца, як самога д'ябла.

«Вось гэта змудрагеліў! Усіх абхітрыў!» — радаваўся Захар Язэпавіч. Набраў паўнюткі багажнік адменных грыбоў і рушыў дадому...

Назаўтра раніцою ён зноў наведаў грыбны лясок. Знак вісеў на месцы, грыбоў было поўна, за ноч нараслі новыя, на здзіўленне ладныя.

Такім чынам Захар Язэпавіч кожную раніцу, патраціўшы небагата часу, прывозіў дамоў поўныя кашы баравікоў і падасінавікаў з гэтай плантацыі і яшчэ спраўляўся своечасова заехаць на работу.

Ды ўсяму бывае канец.

Аднойчы, непрыкметна збочыўшы ў лясок, Захар Язэпавіч заўважыў на роснай траве дзве выразныя ярка-зялёныя паласы: нехта праехаў! Праехаў, не зважаючы на забаронны знак!..

Газануўшы ад злосці як мае быць, ён ледзь не наляцеў на чорны, з чырвонымі палоскамі па баках матацыкл. Аж рыпнулі тармазы, калі ён нарэшце спыніўся. Выскачыў з машыны і... асеў: перад ім стаяў сержант міліцыі...

— З прыездам! — узяў той пад казырок.

— Дзякую,— зморшчыўся Захар Язэпавіч, ліхаманкава ацэньваючы абстаноўку.

— Грыбы, значыць, збіраем?

— Ага, здараецца...

— А гэта вы бачылі? — міліцыянер паказаў на знак.— Сюды ўезд забаронены.

Захар Язэпавіч нявесела засмяяўся:

— Дазвольце растлумачыць...

— Вашы дакументы!

Па выразу твару і па голасу Захар Язэпавіч зразумеў, што міліцыянер не жартуе.

— Калі ласка...— Захар Язэпавіч дастаў з бакавой кішэні пінжака замусоленую кніжачку.— Толькі не думайце, што я парушыў...

— А хто ж?

— Ды гэты знак так сабе, дзеля жарту, не сапраўдны,— замахаў рукамі разгублены грыбнік.

— Калі вісіць, значыць — сапраўдны,— абыякава разглядаючы дакументы, прагаварыў сержант.— Вось, таварыш Выкрутка, і нявыкрутка атрымалась... У вашым талоне дзве дзіркі.

— Ага, дзве...

— Значыць, два парушэнні.

— Было.

— Было і ёсць.— Сержант рашуча падышоў да «Масквіча» і крутнуў руль.— Вось бачыце, у вашай машыне недазволены люфт рулявога ўпраўлення.

— Было ж, здаецца, усё ў парадку...

— Няхай не здаецца...

У яго руках толькі бліснуў невялічкі кампосцер і — жых! — у талоне з'явілася трэцяя дзірка.

— За што-о?! — хапіўся за галаву Захар Язэпавіч.

— За непаладкі ў транспарце,— быў кароткі адказ.— А за недазволены праезд пад знак прыйдзецца забраць правы. Прыедзеце ў любы час, возьмеце...

— То ж я сам павесіў тую цагліну, каб яна прахам пайшла! — у роспачы зароў Захар Язэпавіч.

— Грамадзянін, не абражайце дзяржаўны знак! — папярэдзіў міліцыянер, кладучы Захаравы правы ў тоўстую палявую сумку.

— Далібог — сам прыдумаў! — усё яшчэ на нешта спадзеючыся, маліў Выкрутка.

Але колькі ён ні маліў, колькі ні даказваў, што схітрыў, зняўшы са старога слупка знак і прыцёгшы сюды, сержант быў няўмольны.

Толькі і сказаў на развітанне:

— Разбяромся!

Матацыкл гыркнуў і, паволі аб'ехаўшы зеленаваты «Масквіч», ірвануў на дарогу.

Вось як яно здарылася!

1973

## СУСТРЭЧА

Іван Сініца, невысокі хударлявы мужчына гадоў пад пяцьдзесят, спяшаўся дадому. Ён прабягаў міма застыглай калоны тралейбусаў і ад душы лаяў у думках кіраўнікоў гарадскога транспарту, аварыйную службу і ўсіх вадзіцеляў, якія рвуць на паваротах электралінію. Вось жа, калі хочаш, чалавек і сёння запозніцца! І зноў будуць непрыемныя размовы з жонкай, чаму затрымаўся на рабоце, чым займаўся і гэтак далей. Учора, праўда, быў сход. А заўчора адзначалі дзень нараджэння аднаго вясёлага супрацоўніка. А трэцяга дня яшчэ нейкая трасца за-

трымала Сініцу пасля работы гадзін да дзесяці вечара.

Сёння Іван наважыў прыйсці своечасова. Усё ж такі Новы год трэба сустрэць з сям'ёй. Цяпер вось тэпай добрыя тры кіламетры па прыцемненых тратуарах, а там дома жонка, напэўна, ужо спакваля наліваецца злосцю...

І раптам, зусім ужо недарэчы, нос у нос сутыкнуўся з высокім сіваватым чалавекам, буйныя рысы твару якога і чырвоная, як журавіна, барадаўка ля носа былі больш чым знаёмыя.

Чамусьці, зняўшы шапку, Сініца пачціва заўсміхаўся:

— Добрага здароўечка, паважаны...

— Добрага,— ледзь нахіліў той сваю буйную галаву.

— З надыходзячым вас...

— З надыходзячым. Прабачце, а хто вы?

— Здаецца, знаёмыя,— усё яшчэ ўсміхаючыся, няпэўна адказаў Іван Сініца.

— А-а...— зморшчыў лоб мужчына, нешта ўспамінаючы.— Стары знаёмы! Як здароўе, паважаны?

Сініца паціснуў плячамі і надзеў шапку.

— Нішто сабе... Нічагусенькі.

«Як жа яго завуць, гэтага таўсцюка? — між тым думалася Івану.— І дзе мы з ім бачыліся? Мо разам служылі ў арміі? Такая ж знаёмая фізія...»

— Хударлявыя — яны цягучыя,— вёў сваё няйначай як сяміпудовы дзядзька з ружовымі шчокамі.— А нам, ладненькім, цяжкавата. Проста бяда! — ідучы паволі ў адваротным ад Іванавага дома кірунку, цягнуў таўсцяк.— Я вось не памятаю — ці ты заўсёды гэткі нямоглы быў?

— Заўсёды...

— А са страўнікам як?

— Пар-р-радак! — ляпнуў сябе па падцягнутым, як у ганчака, жываце Іван Сініца.— Здараецца, яшчэ і чарку бяру, і хоць бы што... Васіль, здаецца? — зазірнуў у вузкаватыя шчыліны вачэй Іван.

— Я? Веніямін...— і спахапіўся.— Дык, кажаш, яшчэ бярэш чарку?

— Бяру... бывае.

— Гэта ж ідэя! Тут недалёка ёсць рэстаранчык — шык-мадэрн! Пасядзім, пагаворым...

— Пасядзім! — бялеючы ад адной думкі аб рэстаранчыку, міжволі згадзіўся Іван. «Ці не ён гэта быў у сорак пятым камандзірам нашага ўзвода? Гэта ж мы тады, здаецца, пад Варшавай стаялі»,— дробненька грукаючы па тратуары чаравікамі, падбітымі жалезкамі, сіліўся нешта

прыгадаць Сініца. У левай руцэ, якую ён трымаў у кішэні шэрага паліто, аж замакрэла сціснутая ў кулаку пяцёрка, зусім новенькая, дадзеная раніцою жонкай дзеля таго, каб ён, Іван, у абедзенны перапынак збегаў на пошту ды заплаціў за тэлефон і асвятленне. «Не пушчу! Не вyслізнеш, галубка, прынясу дадому жывенькую, дарма што забыўся занесці на пошту...» — як малітву, паўтараў у думках Сініца, адчуваючы ўжо млявасць у нагах.

У рэстаране было пуста, хоць на многіх століках красаваліся батарэі розных бутэлек.

Не паспелі яны сесці, як падляцела спрытнае стварэнне ў палатнянай кароне і лагодненька спытала:

— Што закажам?

Сініца зірнуў на таўсцюка, шмыгануў носам і недаўменна пацiснуў плячыма.

— Нам для старой і моцнай дружбы — адпаведнае, каб моцнае! — пацёр руку аб руку Веніямін.

— Пяць зорачак — старое і моцнае! — здагадалася афіцыянтка і задаволена засмяялася. І тады засмяяліся ўсе разам. Сініца дробненька, ціхенька, як вінаваты, а таўсцюк басавіта, гучна, бы ў трубу.

Пасля трэцяй чаркі языкі развязаліся, і, як гэта заўсёды ў такіх выпадках бывае, кожны пачаў хваліцца сваім.

— А жонка мая, Кацька, яшчэ таўсцейшая! — грыз парасяціну з хрэнам Веніямін.— Мажная... Тваю, здаецца, Верай зваць, Верачкай, га?

— Нінай... Нінончык,— скуб курыную ножку Сініца.— І двое дзетак у мяне, дачушкі...

— А... а ў мяне сыны. Арлы — во! — паказаў вялікі, бліскучы ад тлушчу палец Веніямін.— Пажэнім на тваіх дочках —і справе канец, га? Хочаш? Я гэта магу — пажаніць, разжаніць... Я... я ўсё магу...

— Пажэ-э-нім! — Сініца расчуліўся, тыцнуўся носам у талерку з шашлыком і ўсклікнуў: — Афіца-анка! Яшчэ пастой... Па сто, я хацеў сказаць. Плачу-у!

А пачулася, быццам ён сказаў: «Пла́чу!» Скамечаная пяцёрка паляцела на стол...

Калі іх папярэдзілі, што трэба сядзець крыху цішэй, Веніямін растлумачыў:

— Браточкі! Мы ж, можа, дваццаць гадоў не бачыліся. А можа, і болей, хто яго ведае...

— Франтавыя сябры! — на вельмі высокай ноце дадаў Сініца і заспяваў: — Рэ-эдка, ся-а-абры, нам су-у-устрэ-эцца даво-о-одзіцца...

Іх пакінулі ў спакоі. Пасля ўжо, калі ішлі па вуліцы ў абдымку, Веніямін, ікаючы, сказаў:

— А, ведаеш, дружа, што я табе скажу...

— Не ведаю,— матнуў галавою Іван.— А што?

— Я на фронце ніколі і не быў — от!

— Не быў?

— Не быў...

— Дык дзе ж мы бачыліся? — узняў на таварыша асалавелыя вочы Сініца.

— Як дзе? У Хабараўску... Там і бачыліся... Дзе яшчэ... Я там, дружа, усё жыццё...

— А я, колькі жыву, ніколі ў Хабараўску не быў! — аж спыніўся ад нечаканасці Іван.— Я ўсю вайну прайшоў пехацінцам, а пасля вось тут, у сваім горадзе, і жыву. Дом наш недалёка ўжо. Ву-унь, дзе вялізная гарадская цырульня. Дык над ёю...

— Як ты сказаў? — схапіў яго за каўнер таўсцяк і падцягнуў блізка да сябе.— Над цырульняй жывеш?

— Ага...

— А сёння раніцой у сваёй цырульні галіўся?

— Галіўся.

— Дык мы... мы там і бачыліся, сядзелі насупраць адзін аднаго, у люстэркі глядзеліся. Сябры, называецца...

Гадзіннік на гарадской вежы ўжо адлічваў апошнія хвіліны старога года...

1973

## «КЛУБ ЧАТЫРОХ»

Іх можна было бачыць заўсёды, штодня, з сямі гадзін вечара і да позняй ночы ў альтанцы, што пад вішшом старой бярозы. Імёны ў іх, як і характары, як і знешні выгляд, розныя.

Гардзей — тоўсты мужчына гадоў пад сорак, жартаўнік і весялун — іх галоўны завадатар. У двары яго завуць «Маргуновым». Іван, хударлявы і даўгалыгі, крыху старэйшы за Гардзея,— гэта «Філіпаў». Яшчэ завуць Муха-Цвік. Андрэй, бурклівы і вечна незадаволены, досыць яшчэ малады чарнявы мужчына лічыцца «панам дырэктарам», бо вельмі ж падобны да артыста Мішуліна. І чац-

вёрты — «Віцын», гэткі ж наіўны, дабрадушны і нездагадлівы, мае гэткую ж, як і ў артыста Віцына, гогалеўскую грыву. Толькі вось імя і прозвішча ў яго неадпаведныя, проста несумяшчальныя,— Апалон Качарга.

Калі ў Гардзея, скажам, ёсць свой «Масквіч», то Апалон вечна трасецца на сваім старэнькім матацыкле з даволі пагнутай каляскай.

Жонка яго неяк паскардзілася суседкам:

— Які аболтус выдумаў такое прозвішча і такое імя?! Стаю я, людцы добрыя, на аўтобусным прыпынку, народу безліч, а аўтобусаў — ніводнага. Аж бачу — мужык на сваім дрындулеце газуе. Ужо і рот разявіла, каб крыкнуць, спыніць, але дзе там! Як яго назавеш? Апалонам клікнуць — людзей сорамна. Качаргой — зноў жа няёмка... Так і праехаў гэты Апалон Качарга з вецярком, а я на гарачыні ды ў духаце пяклася, каб яму такая доля...

— А мой Іван, думаеце, лепшы? — азвалася кабеціна «Філіпава».— Ён жа амаль сляпы! А як піва нажлукціцца, то і зусім нічога не бачыць... Неяк былі мы ў гасцях. Дык яму гаспадыня сказала, каб павесіў паліто ў калідоры на цвік, бо вешалка аж трашчала ўжо. Чакаем хвіліну, другую, трэцюю — няма чалавека. Глянулі, а ён стаіць ля бялюткай сцяны і цікуе, як бы павесіць свой паліто... на муху! Тая, вядома, не сядзіць на месцы, пералятае... У вас тут, кажа, цвік па сцяне бегае... Ці ж гэта, людцы мае, не сорам?

— Казлы няшчасныя! Ніякай помачы ад іх дома...— папікнула трэцяя.

Адным словам, жонкі скардзіліся на сваіх мужыкоў. А тыя, гуляючы ў альтанцы ў даміно, часам казалі:

— Харошыя ў нас кабеціны, дружныя, усё, бач, разам збіраюцца, як і мы...

Гаварылі і пацягвалі піва з воблай, якую заўсёды недзе даставаў усемагучы дырэктар магазіна «Маргуноў».

— Наш клуб чатырох, відаць, хутка стане клубам васьмі! — дабрадушна зазначыў «Віцын».

Але ён глыбока памыліўся: кабеціны нарэшце згаварыліся і дружнай калонай рушылі да альтанкі. Іх вочы жыхалі маланкамі, а з языкоў, як з гаўбіц, што б'юць прамой наводкай, ляцелі цяжкія снарады:

— Досыць! Нацярпеліся! Самі пасля работы ў магазіны хадзіце, у чарзе пастойце...

Вэрхалу нарабілі, і сябрукам ганьба была на ўвесь двор. Пасля гэткага артналёту «клуб чатырох» закрыўся.

Удзень у альтанцы гулялі дзеці, а ўвечары збіраліся даўгагрывыя бэйбусы з гітарамі і да паўночы галёкалі на адной ноце нешта накшталт «...бэй-бэй, гай-ду-дзі-ду-у».

Ды вось неяк Гардзей, сустрэўшы сяброў у магазіне з авоськамі, сказаў:

— Айда ў гараж да мяне. Пагуляем! Халодненькага піва пап'ём...

— Я не магу. Так нельга,— гугнявіў сабе пад нос Андрэй.

— А... а што ж дадому прынясём? — сумеўся і Апалон.

— Мой клопат! — рассек шырокай далоняй паветра Гардзей.— Гэта вам кажу я, «Маргуноў»...

У гаражы было ўтульна, гарэла электрычная лямпа, паціху гуў у куце невялікі халадзільнік, уступіўшы ў кватэры месца новаму. Пад самай лямпай стаялі складны паходны столік і чатыры крэселцы са спінкамі.

— Прашу, падпольшчыкі, пару гадзінак пасядзім! — «Маргуноў» дастаў з халадзільніка чатыры пляшкі піва, залацістую рыбіну.— Ганіце па рублю, каб было на што і заўтра пасядзець... Падпольны «клуб чатырох» аб'яўляю адкрытым!

І яны, гэтыя заядлыя «казлы», зноў павесялелі, ажылі. Грукалі костачкамі, булькалі півам і грызлі воблу. А пасля Гардзей даў усім па пакунку, дзе былі свежанькія кураняты і па кавалку адменнай бараніны. На паліцы, што вісела на сцяне, быў невялічкі «сейф» — бляшанка з-пад селядцоў, куды Гардзей склаў атрыманыя за прадукты грошы.

— Заўтра пасля работы зайду да цябе, Іван, што скажу — адмаўляйся. Уразумеў?

— А чаму адмаўляцца?

— Не твая справа. І вы — таксама... Уразумелі?

— Так точна! — адказалі разам Іван і Андрэй.

Назаўтра а шостай гадзіне, як і дамовіліся, Гардзей зайшоў да Івана. Прычыніўшы за сабою дзверы, спытаў з парога:

— Вам свежамарожаныя судакі не трэба?

— На ліха яны нам! — гучна, каб пачула жонка, адказаў Іван.

І тут з кухні, нібы за ёю хто гнаўся, выскачыла Іванава кабеціна.

— Табе вечна нічога не трэба! Ён, бачыце, святым духам жыве, фаршыраванага судака і на зуб не возьме! Вось грошы, вось сумка...— забегала, заспяшалася яна.

— Дык там жа... чарга,— запярэчыў Іван, надзеючы на доўгі нос акуляры і разглядваючы рублі і траячкі, што дала жонка.

— Нічога, пастаіш, ногі не адваляцца...

Такая сцэна адбылася і ў двух другіх кватэрах. Жанчыны былі рады, што іх мужыкі нарэшце пры справе, што яны пачалі даставаць такія прадукты, якіх у магазінах не кожны дзень знойдзеш. Разы два «падпольшчыкі» прыносілі вэнджаных вугроў і асятровы балык, прагуляўшы ў Гардзеевым гаражы чатыры гадзіны і выпіўшы пры гэтым па тры пляшкі піва.

Вось гэта, мабыць, іх і падвяло.

Як раней жанкі залішне сварыліся на сваіх мужыкоў, так цяпер пачалі залішне хваліць іх і выхваляцца перад суседкамі, маўляў, якія яны ў іх паслухмяныя ды лоўкія.

— Добра вам, калі гэны дырэктар магазіна «Маргуноў» кожны дзень на сваім «Масквічы» па чатыры клункі возіць у гараж,— як стрэліла рудая Кацька, жанчына адзінокая, дапытлівая і вострая на язык.

І пайшло... І дайшло да адпаведнай установы. Рэвізія выявіла вялікую нястачу ў «Маргунова» і шмат розных злоўжыванняў на рабоце. Такім сумным быў канец «клуба чатырох».

1973

## СВАЯКІ

Мікола застаўся адзін...

«Як хораша на душы, як светла ў галаве!» — падумаў ён і нават заспяваў, што здаралася з ім вельмі рэдка. Надвор'е было цудоўнае, сонейка весела ззяла на вуліцы, уперадзе быў адпачынак, і ён зусім адзін. Вольны, як вецер! Ніхто не будзе дапякаць. Дзеці ў лагеры, цешча паехала да сваёй сястры, жонка — да мора!

Ох, і далося ж Міколу тое мора! Пяць год яго благаверная дакарала. Іншыя мужы, казала яна, кожны год сваіх пасылаюць, а ты толькі абяцаеш. Вось памру — тады пашкадуеш! На такія пагрозы Мікола звычайна адказваў: «Памры спярша, а пасля і паглядзіш, як я шкадаваць буду! З'ездзі, падлячыся...»

Стоячы перад адчыненым акном, Мікола прыгадваў даўнія спрэчкі, зборы і ад'езд. І грошы, што павезла жонка да таго мора, пакінуўшы яму на цэлы месяц усяго толькі трыццаць рублёў. Па праўдзе кажучы, у тым, што толькі трыццаць, ён сам быў вінаваты. Атрымаўшы «адпускныя», ён неўзабаве апынуўся разам з сябрамі ў рэстаране, дзе і пакінуў больш як дзевяноста рублёў. Жонка і сказала: «Сам свае прапіў». Цяпер трэба было падумаць, якое знайсці выйсце. У горадзе, безумоўна, тры дзесяткі — не грошы, месяца не працягнеш. А ў вёсцы, у сваякоў, можна сяк-так абысціся. Малачко там, яйкі. Ну, рыбы насцёбае — спец. Спінінг мае што трэба, дванаццаць рублёў упёк, кожная вуда па траяку — ого! Вуды — гэта на ўсякі выпадак, калі шчупакі не будуць брацца. Як зубы мяняюць, дык яны, кажуць, нават не нюхаюць бляшны...

Хуценька сабраўшыся, Мікола прыехаў на вакзал задоўга да адпраўкі цягніка. Хадзіў па перону і ўсё стрымліваўся, каб не забегчы ў закусачную. Урэшце падалі цягнік...

І вось ужо мільгаюць перад ім знаёмыя з дзяцінства мясціны. Успомніў, як раней ездзіў дадому на выхадныя дні і ўсе ў вёсцы клікалі яго студэнтам. Вельмі даўно гэта было, хаця яму здалося, што і цяпер ён едзе на выхадны. Нічога не зробіш — час. Ён няўмольны...

Каб разагнаць сумныя думкі, Мікола пачаў углядацца ў акно вагона. А там на поўную сілу бушавала лета. Палі расфарбаваныя ў розныя колеры, лес так і вабіць пышнымі кронамі бяроз, разагрэтай жывіцай сосен. Сінія азёры слепяць вочы срэбрам хваляў, іх тут вельмі багата.

Першы дзень, калі Мікола з'явіўся ў вёсцы, быў сапраўдным святам. Прыйшлі сваякі. На стале і чарка, і скварка, было сказана шмат цёплых слоў. Абдымкі і ўсё іншае. А на другі дзень ён сабраўся на рыбу.

— Бяры вось вараныя яйкі, малако,— кінула сяструха Волька, у якой ён спыніўся.— Сам бяры, не чужы...

— А ты куды спяшаешся?

— На працу. Мы ж не так, як вы, гарадскія, абы лета — дык адпачываць...

— А вы ўзімку на печы тра-ля-ля! — адказаў Мікола смехам.

— Снедай, тра-ля-ля!

— А ты?

— Я паснедала... Ведаеш, сыр твой дужа смачны,— раптам сказала яна шчыра, завязваючы перад люстэркам

хустку.— Каця, дачка, не есць, а я, нічога сабе, упадабала. Нават вось з сабой узяла, кабет пачастую. І Пеця мой любіць, і Насціны дзеці...

Пеця — гэта Вольчын муж, здаравенны дзяцюк, кавалём у калгасе працуе.

Калі яна выйшла, Мікола ўсё ж рашыў узяць з сабою сыру, не сесці ж адразу на ўсё іхняе. Адчыніўшы скрынку, дзе ляжала правізія, госць быў уражаны: ад важкай галавы сыру засталіся толькі ружовыя скарыначкі. «Папрацавалі ўчора сваячкі, дзякуй ім! Ды чаго там шкадаваць! — супакоіў сябе Мікола.— Не чужыя ж з'елі...»

Паклаў у кішэню кавалак хлеба, пару яек і выйшаў на двор. Там ужо чакалі пляменнікі.

— Дзядзя, а жылку вы прывезлі? У нас акуні — во-о-ось такія,— сказаў старэйшы белагаловы хлапчук. «Гэта Ганнін Косцік,— адразу пазнаў Мікола.— У яе шасцёра і ўсе белагаловыя».

— Вуды прывёз! А што гэта цябе цікавіць!

— Дайце мне адну.

— І мне-е... Я паказу, дзе язі бялуцца,— пісклявіў меншы, выціраючы рукавом шэрай кашулі нос.

— А чый ты будзеш, рыбак, Насцін?

— Ага...

Што зробіш — свае, трэба даць. Раздаўшы малым вуды, Мікола вырашыў сёння лавіць спінінгам. Толькі выйшаў за вёску, як насустрач — Піліп, дваюрадны брат з Пабярэжжа. Гэта кіламетры два адгэтуль.

— Э-э-э, брацік, нядобра так.

— Што — нядобра? — занепакоіўся Мікола, цісучы моцную руку.

— Забываеш сваіх... Нават больш! Я ў госці, а ты — з вёскі. Капронавы спінінг?! Вось гэта ш-штука! — загарэліся яго вочы.— Вось гэта...

— Буду ад'язджаць — абявязкова табе пакіну! Падарую! — адразу перабіў Мікола Пілiпа, баючыся, што і спінінгам лавіць яму сёння не давядзецца.

— Не-е, не цяпер. Ды і некалі мне.

— На працу спяшаеш? — узрадаваўся бядак.

— Якую працу? — здзівіўся Пілiп, паварочваючы яго тварам да вёскі.— Кажу — іду да цябе ў госці.

— А-а-а! Калі ласка! — ускліркнуў Мікола, хоць яго пачынала кідаць у пот.— Люблю гасцей...

Паколькі госць да Міколы — гарэлка яго. Тым больш

што пасылаць ёсць каго. Даў Ганнінаму Косціку пяцёрку і шапнуў на вуха:

— Паўлітэрку і банку кансерваў! Каб на аднойназе...

Той злётаў мігам. Што купіў, аддаў, а пра рэшту і не заікаецца. Цягае з кішэні нейкія цукеркі і смокча. Ды яшчэ і другіх жэўжыкаў частуе. Хіцёр!

Налілі шклянкі, у адзін голас адрэзалі «будзь здароў» і выпілі.

— А-а-эх! Здорава...— крэкнуў Піліп і выцер вусны.— Я, ведаеш, люблю цябе, Мікола. Ты, брат, здорава жывеш, выбіўся ў людзі. Зайздрошчу. А дзе ж твая гаспадыня?

— На курорт паехала, да мора,— першы раз перад сваякамі пахваліўся Мікола.

— Ух ты-ы! Та-ак, брат. Вып'ем яшчэ. За тваю жонку...

Другія шклянкі поўныя не былі. Госць прыжмурыўся на іх, паморшчыўся і не ўзяў.

— А ці не дабавіць, брат? За жонку трэба поўныя, каб здаровенькая была...— І, адчыніўшы акно, гукнуў: — Косцік! Ідзі сюды-ы!

— Ды я сам схаджу, не трэба...

— Што-о? Ніякай гамонкі! Свае, збегаюць...

Зноў давялося даць Косціку. Потым яны расцалаваліся з Піліпам, і той пакінуў свайго брата, яшчэ раз напомніўшы пра цудоўны спінінг...

«Два дні,— думаў пасля Мікола, лежачы на сене.— Два дні, а дзесятку, як карова языком злізала».

З рыбай у яго было не лепш.

Двух шчупакоў, за якімі ганяўся ўвесь трэці дзень, спягнулі вясковыя каты, нават паспытаць не давялося. Затое ўжо раніцою сястра спякла такую яечню, што пальчыкі абліжаш. На саланіне. Толькі гэта Мікола ўзяў на відэлец разы тры, як забягае Волька і з парога крычыць:

— Мікола, дай, браце, дзесятку, калі маеш! Тут во за дошкі трэба заплаціць, будуемся ўсё ж, не стачае... А там, апаросіцца свіння, разлічымся, грошы будуць...

«Бачыў я тую свінню! Дошка-дошкаю. Дыхляціна. Хутчэй сучка яйка знясе, чым тая свіння апаросіцца!» — хацелася крыкнуць Міколу, але ён лагодна адказаў:

— Добра, Волька... Калі ласка, я зараз дам. Дробязь!

— Табе гэта, безумоўна, дробязь, а нам будавацца...

Мікола вылез з-за стала і падаў сястры грошы з такім выглядам, быццам яны ў яго лішнія.

— А есці не саромейся,— кажа Пятро, даядаючы

апошняе яйка з патэльні.— У нас, дзякуй богу, усё сваё, не купляем. Волька! Прынясі бульбы да сыраквашы, адной яечняй сытыя не будзем.

Так і сказаў — не будзем. А ці з'еў Мікола хоць адно яйка? І, безумоўна, сыты тым не будзе. Таму на бульбу з сыраквашай ён налёг, што называецца, на ўсе лапаткі. Ужо тут нічога не скажаш, накармілі!

У суботу раніцою Мікола з задавальненнем адзначыў, што жыццё наладзілася. З апетытам еў бліны, піў салодкае малако і грыз засушаную ў печы на патэльні галаву ад шчупака — усё, што засталося яму пасля сваякоў. Раптам вяртаецца з двара Пятро і гэтак далікатна кажа:

— Ведаеш, Мікалай Іванавіч, маю сястру Любку?

— Ледзьве памятаю. Маленькая такая...

— Маленькая? Ды яна Вольку перарасла, заўтра вяселле. Не адмоў, нашы будуць вельмі рады...

Мікола задумаўся. І было чаго! Вяселле, яно не такое ўжо і благое мерапрыемства. Там табе і спяваюць, і плачуць, і крычаць «горка», і самі ж лезуць з пацалункамі да маладухі. А потым — каравай. Вось-вось, каравай. Каб не ён — можна б і схадзіць Міколу. А то будзь добры, выкладзі на гэты самы каравай апошні чырвонец, і падарунначак, і ўсё іншае такое. Паразважаўшы, Мікола сказаў:

— Не, Пятро, прабач. Нешта нездаровіцца. Вось тут, пад дыхавіцай, так цісне, так цісне, што...

— Дык тады адпачывай. Я тады, ведаеш... касцюм твой адзену. І туфлі. Нейкае ямчэйшае яно ў цябе...

Міколу здалося, што Пятро і хацеў, каб ён адмовіўся ад вяселля. Ён быў рады касцюму, хаця ў самога вісеў не горшы. Касцюма Мікола не шкадаваў. Няхай бярэ, калі падыдзе.

Спярша Пятро надзеў пінжак. Палоскі на плячах сталі шырэй.

— Сядзіць, як уліты! — пахваліла Волька. На тым і пагадзіліся. З туфлямі было горш, але ўсе вырашалі, што яны проста ссохліся, разносяцца.

Застаўшыся адзін, госць два дні адпачываў як трэба! Гарэлкі не піў, добра спаў, рабіў, што хацеў. Рыбы налавіў, як ніколі. Чатырох шчупакоў. Аднаго аддаў сястры Ганне, другога — Насці, трэцяга — цётцы Яўгінні, а з чацвёртага сам нагатаваў юшкі! Ды такой смачнай, што здавалася — ніколі такой не еў.

У панядзелак адвячоркам прыйшлі п'яныя гаспадары дадому. Мікола зірнуў на Пятра, і яго сэрца сціснулася

ад болю, у вачах пацямнела. Бедны гарнітур! Ён не пазнаў яго. Левы рукаў ледзьве трымаўся, правы быў прапалены цыгаркай на самым відным месцы. А чаравікі! Яны да канца зведалі тутэйшую гразь, размяклі і, як дзве невядомыя галодныя істоты, ашчэрылі свае вострыя зубы...

Пятро падышоў да Міколы і, дыхаючы перагарам, прамовіў:

— І-і-і-іка-лай І-і-іа-іа-іч... Па ш-шарцы зробім? С-судоўна!

І тут жа зацягнуў:

«...Эх, ча-ауж мне не пе-ець,

Эх, ча-ауж не гу-уэць...»

У госця на вачах выступілі слёзы. Ён прыціснуў рукі да грудзей і з мальбою ў голасе сказаў:

— Пятро... Выслухай мяне.

Той убачыў слёзы, насцярожыўся.

— Што? Няшчасце якое?

— Няшчасце... От, цешчы паверыў...

— Цешча памерла? — не дачуўшы, па-свойму зразумеў яго Пятро.

— М-мм...

— Дык што ж ты стаіш? О-олька! Збяры ў дарогу паважанаму госцю. Хутчэ-эй! Спінінг пакінь. Піліп тут вось дваццаць пяць рублёў за яго прыслаў. І мне доўг аддаў. Так што паўсотні дай Міколе, а я палезу на гару, кумпячок здыму на дарогу...

Вось, аказваецца, якія яны, сваякі. Ні з чым не лічацца, нічога для яго не шкадуюць! Мікола ўгледзеўся на Пятра, а на ім — не яго гарнітур! Гэта ён у дарогу нейчы адзеў, бо дождж пайшоў. І чаравікі не яго...

«Зусім я ад сваіх адбіўся... Эгаіст! Аднаасобнік! На вяселле не пайшоў — сорам!» — абураўся на сябе Мікола. Яму стала сорамна, і ён засмяяўся залівіста, як вар'ят.

— Я жартую, Пятро, жывая мая цешча! Усе жывыя, дарагія вы мае сваякі-і!

І яны пацалаваліся.

...Раніцою Мікола аддаў Вольцы апошнюю дзесятку, каб не муляла, не спакушала. З задавальненнем вудзіць рыбу і шкадуе, што адпачынак падыходзіць к канцу...

1973

## ЗРАБІЎ ЛАСКУ

Сход падыходзіў да свайго лагічнага завяршэння. Ад бясконцых прамоў людзі крышку засумавалі, некаторыя нават пачалі пазяхаць. Засталося апошняе пытанне: трэба было выбраць чалавека на рэспубліканскую нараду перадавікоў вытворчасці. Вось тут і пачалося ўсеагульнае ажыўленне. Каго? Гэтае пытанне хвалявала кожнага, бо ўдарнікаў было нямала.

Загадчыца лабараторыі, вастраносенькая Людачка, чырванеючы і заікаючыся, сказала:

— Прапаную кандыдатуру Івана Апанасавіча Рудага, старшага майстра эксперыментальнага цэха... Гэта добры аматар сваёй справы, чулы і сумленны таварыш... Яшчэ ён прыкладны і сціплы...

Людачка запнулася, няёмка хіхікнула і села.

— Хто яшчэ хоча сказаць слова ў падтрымку кандыдатуры... э-э-э, Івана Апанасавіча? — папраўляючы акуляры на тоўстым мясістым носе, звярнуўся да прысутных старшыня сходу.

— Дазвольце мне! — як школьнік, узняў руку пастаянны член мясцкома бухгалтар Аўдзееў. Шустры, малы, ён сыпаў бясконцымі лічбамі і працэнтамі, якія вызначалі годнасць Рудага як работніка.

Хвалілі Івана Апанасавіча за яго ўмельства, стрыманасць і цвярозы розум.

«Ці тое яшчэ будзе, як пачне Вася! — радасна думаў Руды.— Ён красамоўны, пачне — не спыніш...»

І выпадак надарыўся.

— Хацелася б ведаць, як паводзіць сябе паважаны Іван Апанасавіч дома,— заўважыў хтосьці.

«Ну, Вася, зрабі ласку!» — падбадзёрыў позіркам свайго суседа па кватэры Іван Апанасавіч.

Той адразу ўсхапіўся, як падсмалены.

— Гэта ўжо, відаць, па маёй часці...

Сказаў і хуткім крокам наблізіўся да трыбуны, стаў побач, злёгку абапёршыся на край.

— Дык вось, дарагія таварышыкі! Нашы дзверы, як зусім справядліва пяецца ў адной старыннай лірычнай песні, «друг на друга смотрят вечером и днем». Правільна я кажу?

— Правільна! Бліжэй да справы,— намякнуў старшыня сходу.

— А я ўсё па справе! Я — сусед...
— Ведаем...
— Іван Апанасавіч у нас знакаміты сусед. Ого-о!
Гаворачы гэта, слесар Вася падняў шклянку з вадою і панюхаў. Прозвішча яго мала хто ведаў. Яго ўсе звалі Васем. «Вася зробіць тое, Вася зробіць гэта»,— толькі і чулася ўвесь дзень у розных цэхах. Даволі высокі, мажны, з вясёлымі светлымі вачыма, Вася правёў па ўсіх даверлівым позіркам і гэтак жа тэмпераментна казаў далей:
— Хар-рошы чалавек Іван Апанасавіч, што і казаць. І выбіраем мы яго нездарма... Апроч таго, што ён добры працаўнік, дык ён, таварышы, і дома гаспадар. А як жа інакш! Узяць, напрыклад, мяне. Калі не дай бог дзе іншы раз давядзецца абнашчыцца чаркай, то ўжо дамоў хоць не ідзі. Слабы я, таварышы, грэх прызнацца, але... дужа жонкі баюся. Стараюся тады падлагодзіцца, у магазін збегаць, падлогу працерці...
— Ты нам не пра сябе, а пра Івана Апанасавіча гавары, калі ўзяўся! — кінуў хтосьці рэпліку.
— А што — Іван Апанасавіч? Той, таварышы, ого-го! Ён часцяком прыходзіць пад добрай мухай, а жонка яго і не пікне! Яна тады — хе-хе-хе-е! — сама стараецца збегчы з дому...
У зале крыху ажывіліся, у прэзідыуме зашушукаліся, нядобра паглядзелі на прамоўцу.
Вася ціхенька хіхікнуў і адпіў са шклянкі вады.
— І з дзецьмі ён строгі, дысцыпліну трымае. Узяць малодшую, Ірынку... Ёй толькі шосты годзік пайшоў, а ўжо з лета за папяросамі бегае. І не адмовіцца, не скажа, як мой Толік, «не хацу, мне не дадуць...». А яго большы дык заўсёды пляшкі носіць здаваць. Ціхі такі хлопец... У мінулую суботу, казаў, аж на чатыры рублі здаў. Памочнік у хаце! Выхаванне!.. Чыя заслуга, калі не Івана Апанасавіча? А то, было, дамком загадаў падвалы пачысціць, невялічкі суботнік зрабіць. Трэба — дык трэба! Я, як той дурань, апрануў што горшае і пайшоў сабе венікам махаць. Дык пасля ад жонкі зноў папала... Дурань ты, кажа, гэтакі... Вунь, кажа, Іван Апанасавіч дамкома за дзверы выставіў. Ён чалавек з розумам, ён за кватэру грошы плаціць і нічога не хоча ведаць, а ты?..
Тут зала дружна зарагатала. Хтосьці аж затупаў нагамі. Многія ў прэзідыуме апусцілі галовы — кіслі ад смеху. Іван Апанасавіч сядзеў чырвоны, як спелы памідор.

А Вася так і не зразумеў, чаму старшыня сходу гучна, на ўсю залу выгукнуў:

— Хто прапануе другую кандыдатуру, таварышы?..

1973

## НЕ МАЯ ВІНА

У жыцці кожнага нармальнага чалавека бываюць хвіліны, калі ён раскайваецца ў сваіх учынках, шкадуе, што зрабіў так, а не інакш. Учынкі ж, як вядома, бываюць розныя — добрыя і благія. Людзі больш за ўсё раскайваюцца ў благіх учынках. Ды, часам, яшчэ бывае...

А што бывае — паслухайце...

Чалавек я, можна сказаць, немалады, здароўем слабы. Раматус пракляты пад дрэннае надвор'е да таго грызе, хоць ты воўкам вый. Але ўсяго гэтага, апроч жонкі, ніхто не ведае. Не будзеш кожнаму сустрэчнаму скардзіцца на свае хваробы. Ды і каго тое цікавіць, каму баліць чужая болька? Яшчэ, чаго добрага, пасмяюцца. Ды так яно, урэшце, і здарылася...

Ехаў я з работы дадому. Змарыўся, ледзь на нагах трымаюся. У тралейбусе цесна — не павярнуцца. А тут адзін хлапчук, гадоў дзесяці, дзякуй яму, устаў і да мяне:

— Сядайце, калі ласка, я пастаю.

Гляджу я на гэтага віхрастага малайца ў лыжным гарнітурчыку і нарадавацца не магу. Вось яна, наша цудоўная змена, нашы нашчадкі. А яшчэ кажуць, што цяпер моладзь пайшла не тая, нядобрая, значыць, няўважлівая, эгаістычная.

Сяджу, разважаю, радуюся...

Неўзабаве праціснуліся да мяне дзве кабеты, аж застагнаў нехта на іх дарозе. Маладзіцы — кроў з малаком. У адной, праўда, гаспадарчая сумка ў руках, напакаваная як завязаць. Вядома, з такім грузам у цеснаце нязручна. І я, зусім не падумаўшы, дабрадушна прапанаваў:

— Давайце вашу сумку, даражэнькая, патрымаю на каленях, вам ямчэй будзе...

Няхай бы я лепей у гэтую хвіліну прыкусіў свой язык, чым казаць такое! Жанчына блiснула на мяне нядобрым вокам:

— Можа, вам яшчэ і ключ ад кватэры аддаць?

Яе сяброўка зарагатала на ўвесь вагон:

— Кавалер знайшоўся! А каб самому ўстаць, даць жанчыне месца — розуму не дабраў. Бачылі ўжо мы такіх, што чужыя сумкі на сваіх каленях трымалі...

— Шукае дурняў.

— Ну і людзі пайшлі...

Быццам хто сыпаў на маю галаву гарачае вуголле, быццам пасадзілі мяне на калючага вожыка! Стала так сорамна, хоць ты скрозь зямлю праваліся.

Сяк-так дацярпеў да свайго прыпынку і выпхнуўся, як той злодзей, з тралейбуса. Дома сказаў, што абед перасолены і, што са мною ніколі не бывала, грымнуў лыжкаю па стале. Жонка надзьмулася, дзеці прыціхлі.

Адным словам, як кажуць фізікі, пайшла ланцуговая рэакцыя...

«Дурань! — дакараў я сябе потым.— Чаму не растлумачыў тым маладзіцам, што напрацаваўся за дзень, што пракляты раматус у нагах... што зусім хворы чалавек і не які-небудзь там прайдзісвет, а наадварот — культурны, выхаваны, як належыць, немалады чалавек...»

Адным словам, навука мне была добрая. Я гэта запомніў і надалей вырашыў быць больш асцярожным. Іншы раз трэба тлумачыць людзям — хто ты і што ты. Ніхто ж табе ў нутро не залезе, не праверыць, як тыя кішэні...

І вось неўзабаве здарыўся такі выпадак.

Еxаў я на работу. Прыпынак у нас канцавы, і сесці, калі маеш крыху спрыту, можна.

Я сядзеў сабе, еxаў і ні аб чым сур'ёзным не думаў. У галаву прыходзілі розныя думкі: мець бы сваю легкавушку, жыць на загародняй дачы ці, у крайнім выпадку, атрымаць бы дачасна, як некаторыя, пенсію...

Раптам адчуў, што нехта ўпёрся локцем у маё плячо. Я ўзняў галаву і ўбачыў даволі смела намаляваны твар: барвовыя вусны сэрцэйкам, шчочкі — ружовыя яблычкі, гладкі, як адпаліраваны, лоб і даволі кірпаты нос, белы ад пудры, а вейкі чорныя, з кропелькамі той фарбы, якой, бадай, хапіла б на траіх. Шэрыя, з зялёным адценкам вочы, пра якія даволі выразна кажуць «каціныя», глядзелі на мяне, як на маладое і дурное мышанё.

Я падхапіўся, як падстрэлены — не дай бог, каб паўтарыўся той недарэчны выпадак!

— Сядайце, калі ласка...

Яна крута павярнулася назад, паклікала:

— Сярожа! Вось дзядзя табе месца ўступіў. Даўмеўся, нарэшце, што дзіцё стаіць...

І на тое месца, дзе сядзеў я, усеўся не па гадах тоўсты хлапец. Было яму таксама гадоў з дзесяць, толькі ў плячах тое дзіця нагадвала калі не Жабацінскага, не Мядзведзя, то ўжо Аляксеева — напэўна.

І я запратэставаў:

— У такім выпадку, цётачка, дазвольце мне сесці на сваё месца. Ваш сынок, думаю, пастаіць...

— Я вам не цётачка, а вы мне не суддзя!

Вось табе, бабка, і юр'еў дзень! Зрабіў, называецца, чалавеку ласку.

А тут густы бас з задняй лаўкі:

— Дзіцё пастаіць, а ён, бугай, пасядзіць. От пайшоў нар-р-ро-од!

— А што тут такога? — яшчэ больш абурыўся я, адчуваючы сваю правату, абавязак барацьбіта за праўду.— Хлапец малады, дужы. Ды такому, прабачце, не толькі стаяць, але і за тралейбусам прабегчы не пашкодзіла б. Карысна. Цяпер, вунь, шмат якія бегаюць, каб пахудзець...

— Дык і прабяжы, разумнік,— ашчэрыла востранькія зубы намаляванае стварэнне.

— Дазвольце нам ведаць, што нашаму сыну карысна, а што не карысна,— падтрымаў жанчыну басавіты татка.

Я таксама перайшоў у наступ:

— Вось вы б, татуля, і ўсталі, далі месца свайму кволаму дзіцяці!

— Не твая справа, нахабны тып! — гучны бас адразу ж за жонкай перайшоў на «ты».

— Яшчэ які тып! — падтрымала яго жонка.— Прычапіўся, як смала. Стаіш і стой каменем!

— У мяне раматус у нагах! — хапіўся я за апошнюю надзею, каб пазбавіцца непрыемнай размовы. І, як высвілася, зрабіў вялікую памылку. Непрыемная размова, аказваецца, толькі пачыналася...

— У яго яшчэ і падагра, і радыкуліт,— сказала маці таўсцюка, які ад смеху аж трэсся.

— І жоўтая ліхаманка з язвай страўніка! — пырскаючы слінай, дадаў татка.— Трасца...

— Жаўтуха...

Што яны гаварылі далей, я не чуў, бо быў на вуліцы.

Ідучы дадому, думаў, што вось ужо колькі разоў аказаўся без віны вінаваты.

З таго часу на працу і дадому хаджу больш пешшу. А калі і еду, то стоячы. Так зручней. Па праўдзе кажучы — хай яны згараць, тыя сядзячыя месцы!

1973

## ГОСЦІ, НАЗЫВАЕЦЦА...

Гасцей сабралася многа.

Змітро Андрэевіч Шклоўскі, чалавек па натуры сціплы і ціхі, толькі дзіву даваўся, як гэта яны так дружна прыйшлі павітаць яго з добрым здароўем, заслужаным адпачынкам і пенсіяй.

— Любяць цябе, Дзіма! — радавался жонка, умільна пазіраючы на Змітрака, як не глядзела ўжо, можа, добры дзесятак год.— Чуеш, як гамоняць? Усё пра цябе, пэўна...

— Толькі б не хвалілі, калі будуць падымаць тосты,— ціха сказаў ён сваёй палавіне.— Цярпець не магу фіміяму і рознай там лішняй гаманы...

— Нічога, вытрымаеш,— адказала жонка, паклаўшы на блюда смажанае парася з пятрушкай у зубах.— От, скажы, ці мала ты ім за жыццё дабра зрабіў?

— Усяго было...— згадзіўся Змітро Андрэевіч, прыгладзіўшы парадзелыя валасы.— Колькі ім кніг адрэдагаваў — уга-а-а! Бывала, такога наплятуць, што цэлыя старонкі даводзілася перапісваць нанава... А чаму? Бо ў іх — талент, а ў мяне што? Толькі і ведаю, як трэба правільна сказ пабудаваць...

І ён паволі, накульгаваючы на левую нагу, паплёўся ў залу, дзе ўжо ад цыгарэтнага дыму пагойдвалася пад столлю сіняватая хмарына, а шматгалосая гамана, як грукат грому, не сціхала ні на хвіліну...

Нейкі час Змітро Андрэевіч пазіраў на ўсё гэта і ад радасці не мог даць веры, што такія вядомыя людзі, майстры слова і кісці, пакінулі ўсе свае справы і ўважылі, аддалі дарагі ўсім час дзеля такога непрыкметнага чалавека, як ён, Змітро Шклоўскі...

— Сябры мае, таварышы! — стараючыся перакрычаць сіплаватым голасам дружную грамаду, узняў угору абедзве рукі юбіляр.— Як кажуць, салаўя байкамі не кормяць...

— А-а-абсалю-ютна верна! — пачулася ў кампаніі, і

ўсе зарагаталі, бо гэта сказаў вядомы крытык і перакладчык з любой мовы на любую Варабейчык. Ён заўсёды пачынаў гаворку са слова «абсалютна».

— Дык вось і прашу ўсіх за стол! — гаспадар паказаў на доўгую эстакаду, застаўленую бутэлькамі і закускамі.

Госці не дужа марудзілі. Праўда, менш знатныя прапусцілі наперад больш салідных, а потым закаркавалі сабой усе хады і выхады застолля. А тут увайшла гаспадыня з ружовенькім парасём на блюдзе, і ўсеагульнае ажыўленне ледзь не перайшло ў авацыю.

І раптам стала ціха. Пачуўся мудры голас таго, хто, нягледзячы на сваю знатнасць і высокую пасаду, знайшоў час прыйсці да Шклоўскага ў такую ўрачыстую хвіліну.

— Таварышы! — падняў ён да краёў напоўненую чарку.— Я вельмі рады, што сёння бачу за сталом людзей розных як па ўзросце, так і па таленце, як па творчай манеры, так і па стылю... Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што мы, таварышы, не замыкаемся ў рамках нейкай абмежаванасці, не хаваемся ў вежах са слановай косці, выходзім на вялікі прастор неабсяжнай нівы і сеем разам вялікае, добрае, вечнае... Я нядаўна закончыў свой новы раман, які называецца «Жураўліная песня». Хто яе чуў калі? Хто яе бачыў? Цяпер пачуюць і пабачаць... Дык вось, галоўны герой у маім новым рамане амаль аднагодак нашага юбіляра. Думаю, што створаны мною вобраз паслужыць добрым прыкладам для моладзі, для ўсіх, хто шукае ў жыцці сваю дарогу. Дык жа вып'ем, таварышы, за тое, што ёсць яшчэ, як кажуць, порах у парахаўніцы!

Госць выпіў, папярхнуўся, і слёзы навярнуліся на вачах. Загрукаталі чаркі, відэльцы ды талеркі.

І раптам:

— Дазвольце мне, таварышы, малодшаму, так сказаць, пакаленню...— Гэта падняўся пачынаючы паэт, Карпенка, часты і даўні госць выдавецтва. Яго масляныя вочы ззялі задавальненнем, танклявы голас узрушана дрыжэў.— Першы раз я сустрэўся з юбілярам гадоў гэтак з дзесяць назад. І трэба сказаць, ужо тады Змітро Андрэевіч заўважыў і падтрымаў мяне добрым ціхім словам. «Ты, Карпенка,— сказаў ён мне,— ідзеш у паэзію з багатым запасам назіранняў і цікавым жыццёвым вопытам». І гэта, даражэнькія таварышы, святая праўда. Я шмат працаваў, і ад працы маёй быў плён... Мая шматпланавая лірычная паэма «Матчыны гурочкі» — споведзь пакалення, якое, маючы вышэйшую адукацыю, не забывае на сваю вёску

і... помніць яшчэ пах маласольных агурочкоў, што вырасціла на сваім агародзе родная матуля...

> Вёска, вёска, як ты люба-міла...
> Паплавы, рака і засень ліп,
> І гуркі, што маці засаліла,
> І кароў мычанне з-за сяліб...
> Эх, прыехаць бы туды калі б!..

Ён так разжаліў, гэты Карпенка, што ў многіх бывалых людзей завільгатнелі вочы.

Але бывалыя людзі не плакалі! Яны толькі яшчэ шпарчэй запрацавалі чаркамі і больш заўзята задымілі. І калі падняўся выступаць чарговы аратар, то твару яго ўжо не было відаць. Толькі чутно было, як хваліць ён свае карціны, якія хутка на рэспубліканскай выстаўцы прынясуць яму калі не неўміручую славу, то ўжо напэўна — сусветную вядомасць.

Потым падымалі тосты яшчэ нейкія людзі, дзесьці ў канцы стала, побач з юбілярам, басавіты голас зацягнуў «Усю Еўропу за тры перакуры...», а гаспадар так і не пачуў аб сабе ніводнага слова.

— П'ю за в-вас, паважаны калега,— чокаліся за сталом крытык і паэт.

— А я... А я...— пнуўся нешта ўспомніць кучаравы бландзін і ўсё цёр далоняй масляністы рот.— Во — успомніў! Я ўчора дастаў на дачу шыферу...

— Шыфер ерунда! — махнуў на яго парасячым кумпячком сусед, барадаты мастак.— Лепш за ўсё — парасяціна з хрэнам. Не верыш, не? На, паспытай...

І тыцкаў кумпячком у нос бландзіну.

Малады празаік, які да гэтага часу ўсё нешта ўздыхаў і маўчаў, нарэшце загаварыў:

— Я люблю Кацярыну! Якая гэта жанчына, бог мой, якая цудоўная жанчына!..

Адным словам, у кожнага было нешта сваё. Гаварылі аб кнігах, аб карцінах, аб дачах, аб цешчах, аб суседзях, але толькі не аб Шклоўскім. Яго нібы не існавала...

А потым, у перапынку, той, хто выступаў першы, раптам наткнуўся на віноўніка гэтай урачыстасці і, некалькі разоў ікнуўшы, сказаў:

— Ба-а-а, Змітро Андрэевіч! Як гэта ты да нас трапіў, стары, якім чынам?

Шклоўскі, таксама лішняе перахапіўшы, крыва ўсміхнуўся і махнуў рукою:

— Сам здзіўляюся...

# БЛЫТАНІНА

Ішоў дробны, нудны дождж. Захінуўшыся ў злубянелы плашч, змрочны, як тое восеньскае неба, Тодар Заліхвацкі паволі плёўся дамоў. Ён ішоў пехатою, як некалі хадзіў Чэхаў. А хіба Тодар менш вядомы празаік? Пра яго, вунь, сам Дубцоў, вядомы крытык, пісаў хвалебныя рэцэнзіі, а крытычныя заўвагі выказваў добразычліва, па-сяброўску.

«Што ж здарылася? — думаў і ніяк не мог успомніць Заліхвацкі.— А-а, пра мяне напісалі, што я перастаў пісаць... Гэта якоесьці непаразуменне! Я ім дакажу!»

Ён прыйшоў дадому злосны і ўзрушаны. Загадаў жонцы захоўваць цішыню, а сам замкнуўся ў сваім кабінеце. Штосьці балючае, цяжкае ляжала ў яго немаладых грудзях, у галаве непрыемна цінькала.

І не дзіва! Ён ніяк не мог зразумець, як гэта адважыліся дакараць яго, вядомага і таленавітага, гаварыць аб нейкім творчым застоі, калі за рознымі справамі Тодару проста не было калі пісаць мастацкія творы! І хто дакараў! Тыя ж сябры, што некалі ўзносілі, як ім не сорамна! А чаго варта заметка ў газеце... Як жа гэта там напісана? А-а, вось як: «Зусім перастаў пісаць Тодар Заліхвацкі, яго часта можна бачыць у месцах, далёкіх ад творчых кабінетаў, але блізкіх да бога Бахуса...» «Што гэта такое? Намёк? А ці добра, калегі, рабіць такія недарэчныя намёкі? Перастаў пісаць... А ён, гэты самы Тодар, яшчэ можа чорт ведае што стварыць! Ды і хто пакрытыкаваў? Дубцоў? Не, нейкі невядомы блазнюк, казяўка, якая толькі-толькі вылупілася. Можа, трэба было і з ім «замачыць» аповесць... Ну, напісаў той блазнюк пасквіль, а што сабе думала салідная рэдакцыя? Навошта было змяшчаць гэткае, падрываць заслужаны аўтарытэт? Вось я вам пакажу! Закідаю апавяданнямі. Напішу-у-у!»

Тодар зірнуў на стол, а там цэлы стос чыстай паперы, быццам хто знарок падклаў. Ён адсунуў на край пісьмовы прыбор, які меў выгляд ракеты, і задумаўся над першым сказам свайго новага твора, невядомага яшчэ не толькі свету, але і самому аўтару.

Вось ён схапіў ручку і пачаў пісаць, але пяро было сухое, на паперы засталіся толькі ледзь бачныя драпіны.

— Насця! — гукнуў ён жонку.— Чаму ў ручцы няма чарніла? Калі ты набірала?

З-за дзвярэй пачулася ціхае:

— У маі, калі ты пісаў прамову...

«Гэта ж я ўвесь час пісаў алоўкам!» — успомніў Заліхвацкі. Дастаў з кішэні аловак і вывеў першы сказ: «На двары ішоў дождж». Ён яшчэ не ведаў, што будзе далей, галоўнае — пачаць.

Пачатак заўсёды даецца цяжка. А тут — адразу, ды яшчэ так здорава!

Напісаўшы першы сказ, Тодар усміхнуўся і падумаў, што гэтае апавяданне ён занясе ў тую газету, што змясціла на яго пасквіль. Няхай друкуюць і ходзяць пасаромленыя!

Але што гэта? Мінула колькі часу, а ён, апроч таго, што «На двары ішоў дождж», яшчэ нічога не прыдумаў. Тодар аж зазлаваў: галава трашчыць ад розных думак, а патрэбных чамусьці няма.

Прыгадалася нядаўняя рыбалка, сутрэча [redacted] маладымі пісьменнікамі, цудоўны вечар у Доме творчасці...

Але што з гэтага возьмеш?

«Паспрабаваць, хіба, пісаць, як малады, але таленавіты Зюйдзік? — сам сабе ўсміхнуўся Заліхвацкі.— Той піша так: «З коміна ішоў дым — відаць, гаспадыня запаліла ў печы... Забрахалі сабакі — відаць, непадалёк вёска...» Не, гэткае не падыдзе, дужа прымітыўна». Заліхвацкі адкінуў тыя думкі прэч і вырашыў сказ ускладніць. Адразу дапісаў новае: «...падаючы зверху буйнымі кроплямі». Ён задаволена крэкнуў і пачаў думаць далей у гэтым жа напрамку. «На двары ішоў дождж, падаючы зверху буйнымі кроплямі»,— мармытаў пакутнік, падняўшы вочы да столі, быццам адтуль, як дождж на галаву, пасыплюцца прыгожыя словы. Але словы не сыпаліся.

— Насця! — зноў паклікаў ён.— Чаму на стале не відаць вады? Тут працуеш, працуеш, дыхнуць некалі...

Устаўшы, адамкнуў дзверы. Неўзабаве яны паціху адчыніліся, і з другога пакоя прасунулася жаночая рука з графінам. Заліхвацкі схапіў яго і пачаў піць. Толькі вось дзіва! Выпіў ледзь не цэлы графін, а смага не прайшла... Зноў усеўся за працу, паўтараючы, як малітву: «На двары ішоў дождж...» Потым ён рашыў пакінуць гэта. На ўсякі выпадак зноў паклікаў Насцю. Дзверы адчыніліся, і ў пакой зайшла жонка. Яе хітраватая ўсмешка не спадабалася Тодару.

Ён насупіў бровы і грозна, з веданнем справы, патрабавальна спытаў:

— Што бывае на дварэ, калі ідзе дождж?

— Бялізна мокне... Дзіравыя дахі цякуць...

— Хопіць! Бялізна мокне... дахі цякуць,— перадражніў ён жонку.— Ніякага палёту думкі!

Жонка пакрыўдзілася. Яна падперла кулакамі даволі крутыя бакі і злосна адказала:

— Што, дагуляўся?! Фантазія? Палёт думкі? Застой, вось што, даражэнькі! Творчы застой! Застой! — Насця паказала яму язык і выйшла з кабінета.

Заліхвацкі ўстаў, нервова прайшоўся па пакоі. «Застой? — кіпела ў яго на сэрцы.— Няўжо і праўда — застой?»

— Насця, не нервуй мяне! Чуеш, Насця?..

Тодару здалося, што ён ляціць у нейкую бездань і закрычаў яшчэ мацней: «Нас-ця-я-я-я-а-а-а!..»

— Ну, чаго ты крычыш! — пачала тузаць за бакі жонка.— Усё Насця ды Насця. Ніякага дажджу на дварэ няма. Што табе прыснілася?

— Ды так, глупства ўсякае,— адказаў Тодар і павярнуўся на другі бок. Ён успомніў, што нядаўна выйшла з друку новая аповесць, і сам сабе ўсміхнуўся: раман жа здаў у друк толькі ўчора! Новы пачаў пісаць... «Гм-м, творчы застой... Прысніцца ж такое. Гэта, відаць, ад перагрузкі»,— падумалася яму. Але тут жа настрой зноў сапсаваўся: успомніў, што аповесць яго на самой справе раскрытыкавалі ў газеце.

Ён устаў, пайшоў у свой кабінет і сеў за стол. На стале ляжаў стос паперы, а на першым лістку было напісана: «На дварэ ішоў дробны, нудны дождж...»

— Насця-я-я-а! — закрычаў ён спалохана.— Насця!

— Што такое? Што?

— Адкуль гэта ўзялося? — паказаў ён дрыжачай рукой на запіс.

— От дурны! — з палёгкай уздыхнула жонка.— Гэта ж ты ў сне мармытаў гэты сказ, дык я, каб ён не страціўся, і запісала. Навошта ж дабру прападаць...

1973

## ЛЕВЫЯ НОГІ

Пра тое, што «барон Мухаўзя», як празвалі ў вёсцы Івана Бібіка, удачлівы паляўнічы, ведалі ва ўсім раёне. Казалі, што ён, калі ўжо ўскіне стрэльбу, то абавязкова трапіць у цэль. А то і ў дзве. Ці нават у тры. Так, так, шаноўныя, не здзіўляйцеся. Уявіце самі: аднойчы падбіў не толькі каршуна з жывым куранём у лапах, у якога цэліў, але нейкай шраціною зваліў яшчэ і дзікую качку, якая мела неасцярожнасць якраз пралятаць з балота.

— Акурат барон Мухаўзя,— зазначыў тады калгасны кнігалюб конюх Нупрэй. І прыляпіў Івану гэтую мянушку на векі вечныя. А ў вёсцы яно так: калі бацьку, то і дзецям, і дзецям дзяцей, і аж да скону часу...

Ды трэба казаць праўду: паляўнічы запал нярэдка і падводзіў Івана. Неяк не ў пару ён застрэліў зайца, дык яго толькі папярэдзілі. А сёлета...

Вось уліп Бібік, дык уліп! Маючы на руках ліцэнзію на адстрэл аднаго дзіка, ён аблажыў дуплетам аж двух. Спужаўся спачатку Іван, азірнуўся па баках — ці не бачыў хто? Ці не чуў ягоных стрэлаў? Доўга пасля прыслухоўваўся...

Ды каго ў такое ранне пагоніць у балота, хіба што самога нячысціка...

Падбег потым да прыхаванага ў ельніку запрэжанага коніка, ускочыў на сані-развальні, сцебануў ляйчынай сівога: «Но-о-о!» Падруляваў да яшчэ цёпленькіх вепрукоў і сумеўся: бялюткі снег наўкола заліты чырванню, а яны, дзікі, ляжаць, што тыя тарпеды, кожны пудоў на дзесяць, няйначай, дзе ж ты іх адзін ускінеш на сані? А каго паклічаш? Кожны сведкай будзе, гавэнду развядзе, да раёна дойдзе, і тады развітайся, Іване, са сваёй стрэльбай...

«Хіба што Ямельку Падкалодкіна паклікаць? Той змоўчыць, не выдасць»,— раптам прыйшла шчаслівая думка.

Быў такі ў вёсцы здаравенны чырванашчокі гультайабібок, які любіў пажывіцца на дармавінку, хоць за якую работу возьмецца...

Давялося прыкрыць вепрукоў яловымі лапкамі, носячы дзеля прыліку сухастоін, і ехаць дадому.

А пад вечар, калі пачало шарэць, Іван з Ямелькам паехалі на сівым па стараму следу ў лес, нібыта зноў па

дровы. Пад'ехалі, зірнулі на снег, на сляды — усё ў парадку, нікога не было, нічога не кратана.

— Ай ды Мухаўзя! — аж прытанцоўваў ля вепрукоў Ямелька, калі Іван адкінуў яловыя лапкі ўбок.— Ай ды стралок! Такой свежыны нарабіў! Табе адзін і мне адзін!

— Не тлумі, Ямелька! Аднаго здамо, па ліцэнзіі застрэліў, па закону, значыцца...

— Па закону яшчэ аднаго кокнеш...

— Не! Дзяржаву я не стану ашукваць!..

— Чорт з табой, здавай аднаго,— нарэшце пагадзіўся Ямеля.— Толькі другога — напал!

Іван аж угнуўся ад тых слоў: во дзярэ, гад!

— Не, табе сцягно, вуха і... дзве нагі,— лыпаючы падслепаватымі вачыма, цішэй пачаў Іван.

— І лапатку-у,— вёў сваю «захопніцкую» лінію Ямеля і пры гэтым нават яшчэ адышоўся ад тых вепрукоў, быццам зусім не збіраўся дапамагаць Івану.

Спрачаліся яны доўга, аж сцямнела ўжо. Нарэшце пагадзіліся на тым, што разбяруцца дома, прывезлі здабычу ў пустую Іванаву адрыну, пасмалілі аднаго вепрука на кавалку нейкай бляхі, асвежавалі. Толькі ногі паадразалі не смаленыя.

Калі ўсё ўладкавалі, пачалі дзяліць.

— Эй, эй, ты сабе таўсцейшыя ногі кладзеш! — абураўся Ямеля, які быў сквапны больш за Івана.— Табе ж, калі будзеш здаваць, і ад другога вепрука лыч ды ногі аддадуць, ведаю я іхні парадак...

Ізноў схапіліся яны, вырываюць адзін у аднаго то нагу, то вуха, то кумпяк. Аж да рання разбіраліся...

Ачмурэлы за ноч Іван ледзь не заснуў у саломе, калі ехаў у раён здаваць вепрука. Лезла ў галаву ўсякае. Трывожыўся. І не дарэмна...

Прыёмшчык, нізенькі, шчупленькі, з хітрымі быстрымі вочкамі, спачатку дужа хваліў стралка:

— Бач, у самы лоб пацэліў, а не пад лапатку, як іншыя. Таму і мяса чысценькае, без крывападцёкаў, першым сортам яно пойдзе...

Зважылі, падлічылі, колькі заплаціць Івану, а потым і пытаюць у яго:

— А дзе ж ногі? Навошта паадразаў?

— Бо мінулы раз адзін тут так паадразаў, што толькі я іх і бачыў... Калі ласка, вось ножкі...

Іван выклаў з каша чатыры чорныя валасатыя нагі вепрука. Зірнуў на іх прыёмшчык, пакруціў галавою з са-

мым сур'ёзным выглядам і, прыжмурыўшы вочы, кажа свайму кладаўшчыку:

— Паглядзі, Рыгор, які дзіўны вяпрук трапіў: заднія ногі нармальныя, а пярэднія — абедзве левыя!

— Штосьці новае? — спытаў з'едліва той Рыгор.

— Ага, навуковае адкрыццё. Трэба ў такую-сякую ўстанову пазваніць, каб засведчылі такое адкрыццё...

І не вытрымаў, зарагатаў, аж за жывот схапіўся.

А ў Івана пацямнела ўваччу ад такога жарту. «Прапаў! Гэта ж трэба — паблытаў ногі двух вепрукоў. А ўсё з-за таго сквапнага Ямельку!»

— Сапраўды, ліха на яго, вырадак нейкі,— паспрабаваў хітрыць Іван, круцячы-верцячы перад сабою дзве пярэднія нагі, быццам ён бачыў іх упершыню.— Дзі-іва! Я-то гляджу, што ён як бег, дык усё неяк бачком, бачком, ліха яго матары!

— Бачком?

— Ага... Усё ўлева, улева верне...

— Налева — гэта ўжо зразумела,— неяк дужа падазрона заўважыў кладаўшчык.

— Ну, брат, цяпер ужо і я скажу, што ты сапраўдны Мюнхаўзен! — яшчэ мацней рагоча прыёмшчык.— Ану, вязі і другога дзіка, якога пакінуў дома з дзвюма пярэднімі правымі... Ды хуценька, пакуль мы не пазванілі ў адну ўстанову...

«Мусіць, канец тваймy паляванню, Мухаўзя дурны»,— лаяў сябе за сквапнасць Іван, едучы па другога вепрука. Ён-то ведаў, што Ямеля не аддасць сваю долю. А гэта ўжо сапраўды канец...

1978

## ЗМЕСТ

**Ваданосаў М.**

В 12 Выбраныя творы. У 2-х т. Т. 2. Аповесці; Апавяданні; Гумар.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 398.

У пер.: 1 р. 80 к.

Другі том склалі аповесці «Адзінай маці сыны», «Пад чужым паролем», «Жыць, каб змагацца», апавяданні і гумар.

У сваіх творах пісьменнік стварыў незабыўныя малюнкі самаадданай барацьбы беларускіх падпольшчыкаў і партызан з фашысцкімі захопнікамі ў часы Вялікай Айчыннай вайны.

В $\frac{4702120200-057}{М302(05)-83}$ 117—83

ББК 84Бел7
Бел2

**НИКОЛАЙ МИХАЙЛОВИЧ ВОДОНОСОВ**

*Избранные произведения в двух томах*

*Том 2*

Повести
Рассказы
Юмор

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Г. В. Роліч. Мастак А. А. Бетанава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктары К. А. Крукоўская, Т. В. Трубач.

ІБ № 1638
Здадзена ў набор 01.07.82. Падп. да друку 14.03.83. АТ 12018. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,00. Ум. фарб.-адб. 21,00. Ул.-выд. арк. 23,22. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2734. Цана 1 р. 80 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.